# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## ТОМ ПЕРШЫ

# СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСЬ

*Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст.*

МІНСК
"СОВРЕМЕННАЯ ШКОЛА"
"ЭКОПЕРСПЕКТИВА"
2007

УДК 947.6
ББК 63.4 (4Беи)
Г51



Рэдактары тома:
М.Чарняўскі, Г.Штыхаў

Аўтары:
В.Вяргей, І.Ганецкая, М.Гурын, Э. Зайкоўскі, Я.Звяруга, А.Іоў, А.Калечыц,
Л.Калядзінскі, Т.Каробушкіна, М.Касцюк, М.Клімаў, М.Крывальцэвіч,
У.Ксяндзоў, М.Лашанкоў, В.Ляўко, А.Мяцельскі, А.Мядведзеў, С.Тарасаў,
М.Чарняўскі, В.Шадыра, Г.Штыхаў

**Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст./Рэдкал.: М.Касцюк (гал. рэд.) і інш.—Мінск: Экаперспектыва, 2007.—351 с.; іл.**

ISBN 978-985-513-101-5 (Т 1) "Современная школа"
ISBN 978-985-513-105-3

ISBN 978-985-469-202-9 (Т 1) "Экоперспектива"
ISBN 978-985-469-204-3

У першым томе разглядаецца мінулае нашай Бацькаўшчыны ў першабытнаабшчыннны і раннесярэдневечны перыяды (каля 100 тыс. гадоў назад – першая палова XIII ст.) – ад першапачатковага засялення да фарміравання і развіцця першых дзяржаўных утварэнняў. Асаблівасцю кнігі з'яўляецца тое, што яна напісана ў асноўным на падставе асэнсавання шматлікіх археалагічных матэрыялаў, здабытых на раскопках.

Разлічана на навукоўцаў, аспірантаў, студэнтаў, настаўнікаў, вучняў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

УДК 947.6
ББК 63.4 (4Беи)

ISBN 978-985-513-101-5 (Т 1) "Современная школа"
ISBN 978-985-513-105-3

ISBN 978-985-469-202-9 (Т 1) "Экоперспектива"
ISBN 978-985-469-204-3

# УСТУП

Кожны народ імкнецца ведаць сваю гісторыю, свае гістарычныя карані, той шлях, якім прайшлі папярэднія пакаленні, што было вызначальным на розных этапах іх развіцця — стваральная праца, матэрыяльныя і духоўныя набыткі ці войны і разбурэнні. Гэта неабходна, каб адчуваць не толькі сувязь часоў, сваё дачыненне да нядаўніх і больш далёкіх падзей, да спраў сваіх прашчураў, але і каб выкарыстоўваць гістарычны вопыт: не паўтараць памылак, а браць з мінулага ўрокі, неабходныя для вырашэння сённяшніх задач.

Ва ўсім свеце наглядаецца ўстойлівая цікавасць не толькі да мінулага насельнікаў той ці іншай мясцовасці, але і імкненне максімальна захаваць, зберагчы сведчанні розных эпох — археалагічныя матэрыялы, пісьмовыя і іншыя крыніцы, каб мець дакументальную аснову для аднаўлення ў памяці гістарычных падзей. Беражлівыя адносіны да сваёй спадчыны характэрны фактычна для ўсіх нацый і народаў. Гэта з'яўляецца аксіёмай, паказчыкам цывілізаванасці, абсалютна неабходнай умовай паспяховага развіцця. У наш час фактычна ўсюды гістарычнае бяспамяцтва лічыцца вялікай заганай, хібай, непаўнацэннасцю. Таму і прымаюцца захады на дзяржаўным, грамадскім, іншых узроўнях, каб пераадолець яго і выкарыстоўваць гістарычны вопыт у сённяшнім жыцці.

Асабліва актуальнай з'яўляецца гэта задача для нацый і народаў, якія маюць багатую гістарычную спадчыну, але па тых ці іншых прычынах дрэнна ведаюць яе. Такая неадпаведнасць не толькі зніжае іх аўтарытэт сярод суседзяў ці наогул у свеце, але моцна збядняе іх духоўна. Гэтыя народы страчваюць самабытнасць, багацце свайго мінулага, каларыт традыцый і звычаяў.

У такім жа становішчы апынуўся і беларускі народ. Яго гістарычная спадчына надзвычай багатая і разнастайная. Аднак у апошнія стагоддзі з яе зместу вельмі шмат страчана. Спробы аднаўлення, вяртання ў гістарычную скарбонку сваіх бясцэнных рэліквій змяняліся новымі перыядамі гістарычнага забыцця і свядома, на дзяржаўным узроўні насаджаемага бяспамяцтва.

Таму стварэнне на мяжы XX і XXI стст., а тым больш 2-га і 3-га тысячагоддзяў адпаведных гістарычных прац, у якіх шматвяковы вопыт беларускага народа атрымае неабходнае адлюстраванне, — задача надзвычай актуальная і адказная. Максімальна поўнае, аб'ектыўнае, непалітызаванае даследаванне мінулага беларускага народа з яго павучальным стваральным вопытам, а таксама цяжкімі выпрабаваннямі, вялікімі людскімі стратамі, знішчэннем матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, а затым іх аднаўленнем і далейшым развіццём — усё гэта дапаможа ўзнаўленню гістарычнай памяці сучаснага і будучых пакаленняў, паспрыяе павышэнню аўтарытэту беларускага народа сярод сваіх суседзяў, а таксама ў Еўропе і свеце.

Агульнавядома, што гісторыя кожнага народа пераважна выкладаецца як у форме артыкулаў, манаграфій, так і калектыўных абагульняючых прац. Пры гэтым калі артыкулы і манаграфіі прысвячаюцца асобным тэмам ці праблемам, то сістэматызаванае і паслядоўнае адлюстраванне гістарычнага працэсу ў абагульняючых работах з'яўляецца лагічным працягам і неабходнай формай яго асэнсавання. Характэрна, што абагульняючыя працы, якія грунтуюцца на матэрыялах і вывадах, што ўтрымліваюцца ў артыкулах, манаграфіях і іншых формах гістарычнага даследавання, разам з тым уключаюць самастойны творчы пошук сваіх стваральнікаў. Пры гэтым суадносіны раней вядомага і новага матэрыялу вызна-

чаюцца як ступенню распрацаванасці тых ці іншых сюжэтаў, так і творчымі магчымасцямі даследчыкаў.

Падрыхтоўка абагульняючых прац па гісторыі Беларусі вялася практычна на працягу ўсяго XX ст. Найбольш раннія з іх грунтаваліся на тых напрацоўках, што былі зроблены папярэднікамі. У першую чаргу гэта тое, што напісалі гісторыкі — выкладчыкі Віленскага універсітэта, а таксама іншыя даследчыкі мінулага беларускага народа, у тым ліку расійскія і польскія.

Работа па стварэнні непасрэдна абагульняючых прац у пачатку XX ст. была распачата В. Ластоўскім. У 1910 г. ён выдаў "Кароткую гісторыю Беларусі" — першую папулярную кнігу, у якой адлюстраваў погляд беларуса на мінулае сваёй Бацькаўшчыны. Дадзеную працу прадоўжыў У. Ігнатоўскі, які на працягу 1919 — 1926 гг. зрабіў чатыры выданні "Кароткага нарыса гісторыі Беларусі" (пятае выданне гэтай кнігі выйшла ў 1992 г.). У іх мінулае беларускага народа пададзена больш шырока. У аснове выкладання ляжыць прынцып дзяржаўнай прыналежнасці Беларусі. Яшчэ больш падрабязным даследаваннем, выкананым на аснове нацыянальна-дзяржаўных падыходу, з'явілася "Гісторыя Беларусі" М. Доўнар-Запольскага, напісаная ў сярэдзіне 20-х гадоў. Аднак яна магла пабачыць свет толькі ў 1994 г. і то ў няпоўным выглядзе.

Дадзеныя абагульняючыя працы з'явіліся па ініцыятыве іх аўтараў, якія разумелі неабходнасць такіх даследаванняў і стараліся стварыць іх, абапіраючыся на працы сваіх папярэднікаў і актыўна праводзячы пры гэтым свой уласны творчы пошук.

У сярэдзіне 30-х гадоў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР былі эроблены некаторыя захады да пачатку падрыхтоўкі новай абагульняючай працы па гісторыі Беларусі. Аднак у надзвычай складаных грамадска-палітычных абставінах, у якіх даводзілася працаваць у той час гісторыкам, справа рухалася вельмі марудна. Яна зацягнулася і на пасляваеннае дзесяцігоддзе. Толькі ў 1954 г. пабачыў свет першы том "Истории Белорусской ССР". У 1955 г. ён выйшаў з друку на беларускай мове. У 1958 г. быў надрукаваны другі том выдання. Аднак праца працягвалася і ў 1961 г. было ажыццёўлена другое, дапоўненае выданне "Истории Белорусской ССР" у двух тамах. У ім на значным для таго часу фактычным матэрыяле зроблена сістэматызаванае выкладанне гісторыі Беларусі са старажытных часоў. Зразумела, што вывады і ацэнкі ў гэтым выданні поўнасцю адпавядалі афіцыйным партыйна-дзяржаўным падыходам.

Характэрна, што ўжо ў сярэдзіне 60-х гадоў была пастаўлена задача стварэння больш шырокай абагульняючай працы па гісторыі Беларусі. Яна была выдадзена ў 5 тамах на працягу 1972—1975 гг. пад назвай "Гісторыя Беларускай ССР". Першыя два тамы прысвечаны шматвяковай дасавецкай гісторыі Беларусі, а тры апошнія надзвычай шырока раскрывалі жыццё беларускага народа на працягу крыху больш чым 50 гадоў савецкай улады. У выданні на вялікім фактычным матэрыяле з улікам напрацовак беларускай гістарыяграфіі раскрыты гістарычны шлях беларускага народа ад старажытнасці да пачатку 70-х гадоў XX ст. Ацэнкі гэтага шляху ў розныя гістарычныя перыяды сугучныя афіцыйным устаноўкам. Па дасавецкай гісторыі гэта адмаўленне самабытнасці ў развіцці беларускага народа, па савецкім перыядзе яго мінулага — надзвычай шырокае адлюстраванне станоўчага вопыту і вельмі скупа пададзены ці зусім адсутнічаюць метады ўсталявання новага жыцця, цяжкасці і выпрабаванні народа на гэтым шляху.

У дадзеных абагульняючых працах па гісторыі Беларусі — у двухтомніку і пяцітомніку — поўнасцю праігнаравана тое, што было зроблена ў гэтых адносінах адзначанымі вышэй папярэднікамі — стваральнікамі першых абагульняючых даследаванняў. Як вядома, гэтыя працы былі забаронены, а прозвішчы іх аўтараў выкрэслены з навуковага і грамадскага ўжытку.

Толькі з канца 80 — пачатку 90-х гадоў у сувязі з вялікімі грамадска- палітычнымі зменамі, што адбыліся на Еўрапейскім і Азіяцкім кантынентах, — распадам сацы-

ялістычнага лагера, спыненнем існавання КПСС і Саюза ССР, узнікненнем разам з іншымі самастойнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь — стварыліся пэўныя магчымасці для доступу даследчыкаў да новых дакументальных матэрыялаў, напісання з іх улікам абагульняючай працы па гісторыі беларускага народа, у якой не пераважалі б ідэалагічныя падыходы, дзе можна было б выкарыстоўваць без абмежавання ранейшыя работы, не ігнаруючы пры гэтым той матэрыял, што ўтрымліваецца ў двухтомнай і пяцітомнай гісторыі Беларусі, а таксама ў шматлікіх індывідуальных манаграфіях савецкага часу. Такім чынам, узніклі пэўныя ўмовы для напісання новай абагульняючай працы па гісторыі беларускага народа з самых старажытных часоў да сярэдзіны 90-х гадоў XX ст.

Такім даследаваннем з'явіліся "Нарысы гісторыі Беларусі" ў дзвюх частках, якія пабачылі свет у 1994—1995 гг. У іх адлюстравана гісторыя Беларусі з нацыянальна-дзяржаўнага пункту гледжання. Пры гэтым аўтары зыходзілі з факта шматвяковага існавання беларускага этнасу як суб'екта гісторыі. Па шэрагу напрамкаў пераасэнсаваны гістарычны шлях беларускага народа. Гэта ў першую чаргу датычыцца праблем этнагенезу беларусаў, станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, рэлігійнага жыцця, вызваленчай барацьбы, узаемадачыненняў беларускага народа са сваімі суседзямі. Адлюстраваны некаторыя маладаследаваныя старонкі з гісторыі беларускага нацыянальнага руху, грамадска-палітычных абставін, беларускай дыяспары. Раскрыты шлях беларускага грамадства ва ўмовах складвання, развіцця і крызісу савецкай сістэмы арганізацыі жыцця, паказаны супярэчлівы характар развіцця грамадства. У выданні разам з вядомымі раней дзеячамі адноўлена гістарычная праўда пра многіх іншых выдатных прадстаўнікоў беларускай зямлі і падзеі, у якіх яны прымалі ўдзел.

У пэўным сэнсе абагульняючымі працамі па сістэматызаваным выкладанні гісторыі беларускага народа або тых ці іншых яе перыядах з'яўляюцца падручнікі для вышэйшых ці сярэдніх навучальных устаноў. На працягу 90-х гадоў іх з'явілася ў Рэспубліцы Беларусь значная колькасць. У большасці іх аўтары імкнуцца адлюстраваць мінулае Беларусі з улікам новых дакументальных матэрыялаў і навуковых распрацовак апошняга часу.

У дадзенай новай абагульняючай працы па гісторыі Беларусі зроблена спроба сістэматызаванага і паслядоўнага яе выкладання са старажытных часоў да канца XX ст. Пры гэтым аўтары і рэдактары, абапіраючыся на вышэй адзначаныя абагульняючыя даследаванні, а таксама шматлікую літаратуру манаграфічнага і іншага характару розных часоў, вялі свой самастойны творчы пошук з выкарыстаннем новых дакументальных матэрыялаў.

Выданне ўключае шэсць тамоў, першыя чатыры з якіх адлюстроўваюць гісторыю беларускага народа на працягу вялікага адрэзку часу — ад старажытнасці да падзей кастрычніка 1917 г. Толькі два апошнія тамы ўключаюць гісторыю Беларусі з 1917 г. і да пачатку 3-га тысячагоддзя. Уяўляецца, што такія суадносіны ў размеркаванні гістарычнага матэрыялу ў асноўным адпавядаюць гістарычнаму працэсу на нашых землях.

Першы том прысвечаны найстаражытнейшаму перыяду ў гісторыі нашага краю і ахоплівае надзвычай вялікі адрэзак часу — ад першапачатковага засялення да фарміравання і развіцця першых дзяржаўных утварэнняў. Асаблівасцю кнігі з'яўляецца тое, што яна напісана ў асноўным на падставе асэнсавання шматлікіх археалагічных матэрыялаў, здабытых пры раскопках. Аўтары раскрываюць працэс асваення тэрыторыі Беларусі ў ледавіковую эпоху і эвалюцыю яе насельнікаў у наступныя эпохі — сярэдні і новы каменны, а затым у бронзавы і жалезны вякі. Значная ўвага нададзена ўзаемадзеянню чалавека і прыроды, развіццю матэрыяльнай і духоўнай культуры тагачасных супольнасцей, гаспадарчых заняткаў — ад прысвойваючых да вытвараючых, прадстаўленых найперш земляробствам, жывёлагадоўляй, шахтавай крэмнездабычай, а таксама сацыяльным узаемадачы-

неннем, спробам этнічных вызначэнняў носьбітаў асноўных археалагічных культур.

Гісторыя першабытнага грамадства паўстае як шматгранны і складаны працэс, абумоўлены ў значнай ступені размяшчэннем Беларусі ў цэнтры Еўрапейскага кантынента. Сюды пранікалі культурныя ўплывы, а нярэдка і само насельніцтва: з захаду і поўдня — з прастораў лесастэпу, а ў жалезным веку наглядалася жыватворнае ўздзеянне антычнага Прычарнамор'я.

Пры напісанні гісторыі плямён жалезнага веку паказаны тыя сацыяльна-эканамічныя зрухі, якія вялі да фарміравання ўмоў для ўзнікнення першых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі Беларусі. Гэта падзеі, што адбываліся ў раннім сярэднявеччы, — з VI да сярэдзіны XIII ст. У кнізе паказана, як у выніку асваення славянамі тэрыторыі, дзе раней жылі балцкія плямёны, склаліся этнічна родныя паміж сабой супольнасці ўсходнеславянскага насельніцтва — крывічы, дрыгавічы, радзімічы. Гэтыя супольнасці ці саюзы плямён далі з другой паловы X ст. пачатак дзяржаўнасці на беларускіх землях. Племянное княжанне крывічоў-палачан з'явілася гістарычным ядром Полацкага княства. На аснове княжання дрыгавічоў у паўднёвай частцы Беларусі ўтварылася Тураўскае княства, якое мела больш цесныя сувязі з Кіевам.

Істотным элементам сярэднявечнага грамадства з'яўлялася сельская абшчына. Пры гэтым грамадства ранняга сярэднявечча характарызуецца як шматукладнае, дзе суіснавалі тры эканамічныя ўклады — першабытнаабшчынны, рабаўладальніцкі (на ўзроўні хатняга рабства) і феадальны. Значнае месца адведзена ў кнізе гісторыі гарадоў, якіх на беларускіх землях у X — XIII стст. налічвалася 35. Асвятляецца развіццё культуры — архітэктуры, пісьменства, фальклору.

Яркаму этапу ў развіцці Беларусі феадальнай эпохі прысвечаны другі том, які ахоплівае XIII — XVI стст. — перыяд фарміравання і развіцця буйнейшай і ўплывовай дзяржавы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы — Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), што ўяўляла сабой супольнасць літоўскіх і пераважна ўсходнеславянскіх (беларускіх, украінскіх і часткова рускіх) зямель. З выкарыстаннем новых гістарычных крыніц даследуюцца галоўныя сферы жыцця. Гісторыя Беларусі ўпершыню разглядаецца ў значнай ступені праз прызму гісторыі ВКЛ. Гэта дазволіла абгрунтавана паказаць першарадную ролю беларускіх зямель у працэсах эканамічнага, грамадска-палітычнага, сацыяльнага, духоўнага, этнаканфесіянальнага, дэмаграфічнага развіцця ВКЛ, у фарміраванні і абароне яго тэрыторыі, утварэнні новага культурна-гаспадарчага ландшафту.

Упершыню на шырокім гістарычным фоне асвятляюцца асноўныя этапы гісторыі Беларусі і Літвы, паказваецца сувязь знешняй палітыкі ВКЛ са зменамі ў яго геапалітычным становішчы, унутраным развіцці, эвалюцыя і суадносіны цэнтралізатарскіх і цэнтрабежных тэндэнцый; складванне саслоўна-прадстаўнічай манархіі ў канцы XV — XVI ст.; кансалідацыя пануючых станаў Беларусі, Літвы, Украіны на аснове агульнасці саслоўных і дзяржаўна-палітычных інтарэсаў; прычыны і значэнне фарміравання Рэчы Паспалітай "двух народаў".

Даследуюцца працэсы сацыяльнага, этнакультурнага развіцця Беларусі, фарміраванне канфесіянальнай структуры, этнічнай свядомасці, роля хрысціянскай царквы ў духоўным і грамадска-палітычным жыцці. Значна шырэй прадстаўлены слаба асветленыя ў гістарыяграфіі праблемы Рэнесансу ў Беларусі, развіццё нетрадыцыйных напрамкаў культуры, сувязяў з суседнімі краінамі. Асаблівая ўвага нададзена фарміраванню пэўных форм агульнадзяржаўнай культуры ВКЛ, дзе выразна прасочваюцца ўплывы гістарычных традыцый, уласна беларускай культуры і новых рэнесансава- гуманістычных павеваў ( у мове, заканадаўстве, праве, кнігадрукаванні, справаводстве і інш.).

Трэці том прысвечаны гісторыі беларускіх зямель у часы Рэчы Паспалітай з канца XVI па XVIII ст. уключна. У адпаведнасці з найбольш важнымі этапамі эвалюцыі грамадства ў кнізе прадстаўлены аспекты ўнутры- і знешнепалітычнага, у

першую чаргу сацыяльна-эканамічнага, развіцця зямель Беларусі, рэлігійнага і культурнага жыцця.

Адзначаюцца эканамічны ўздым на беларускіх землях у першай палове XVII ст. і разам з тым паступовае аслабленне каралеўскай улады, а таксама ўмацаванне магнацкіх уплываў. Разглядаецца пераход ад адноснай рэлігійнай талерантнасці да наступлення каталіцтва і ператварэння яго ў пануючую канфесію.

Асвятляецца ўнутрыпалітычная нестабільнасць у Рэчы Паспалітай, звязаная з барацьбой магнацкіх груповак і анархіяй. Палітычны хаос дапаўняўся спусташальнымі войнамі сярэдзіны XVII — пачатку XVIII ст., у выніку якіх беларускія землі былі ўцягнуты ў зацяжны дэмаграфічны і эканамічны крызіс, пераадолены толькі к сярэдзіне XVIII ст. Раскрываецца палітыка паланізацыі, якая прывяла да страты афіцыйнага статуса беларускай мовы і расколу грамадства па рэлігійнай прыкмеце. Гэта дало магчымасць суседнім краінам выкарыстоўваць рэлігійнае пытанне для ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай.

Аўтары таксама паказваюць стабілізацыю эканомікі і яе ўздым у другой палове XVIII ст., пераход ад сарматызму да асветніцтва, спробы рэформ, зробленыя з мэтай нармалізацыі палітычнага жыцця. Адзначаецца, што іх рэалізацыі перашкодзіла ўмяшальніцтва больш магутных суседніх дзяржаў, у залежнасць ад якіх трапіла Рэч Паспалітая і якія былі зацікаўлены ў захаванні тут палітычнай анархіі. Вынікам захопніцкіх памкненняў Расіі, Аўстрыі і Прусіі, а таксама недальнабачнай палітыкі кансерватыўных колаў Рэчы Паспалітай сталі падзелы гэтай дзяржавы і далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі.

Чацвёрты том ахоплівае перыяд з канца XVIII ст. да кастрычніка 1917 г., г. зн. час знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Зыходзячы з сучаснага ўзроўню развіцця гістарычнай навукі, аўтары ў многім па-новаму асвятляюць саслоўную, нацыянальную палітыку царызму ў заходніх губернях, аграрна-сялянскія рэформы, зараджэнне і развіццё розных плыняў грамадскага руху, нацыянальна-вызваленчай і класавай барацьбы, утварэнне і дзейнасць палітычных партый і арганізацый. Значная ўвага нададзена працэсу фарміравання беларускай нацыі, гісторыі беларускага нацыянальнага руху, барацьбе за аднаўленне дзяржаўнасці Беларусі.

Паказаны зрухі ў развіцці прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі на аснове распаўсюджання буржуазных адносін. Раскрыты працэс дыферэнцыяцыі грамадства і фарміравання грамадзянскай супольнасці. Адлюстравана развіццё адукацыі і культуры, дэмаграфічныя працэсы. Вызначаны іх асаблівасці ў Беларусі ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі.

Разгледжаны пытанні канфесіянальнай палітыкі царызму і становішча асобных канфесій. Зроблены высновы, што менавіта ў гэты перыяд праваслаўная царква заняла ў Беларусі, як і ў Расійскай імперыі ў цэлым, пануючае становішча. Паказаны пачатак фарміравання беларускай дыяспары.

Пяты том прысвечаны гісторыі беларускага народа ў час намаганняў па стварэнні новага грамадства і ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. У ёй раскрываюцца асаблівасці Кастрычніцкай рэвалюцыі, замежнай ваеннай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны на Беларусі. Адлюстравана нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва, звязанае ў першую чаргу з Усебеларускім з' ездам, абвяшчэннем БНР і ўтварэннем БССР.

Адпаведная ўвага нададзена мірнаму будаўніцтву, аднаўленню і развіццю эканомікі на аснове НЭПа. Паказана роля Беларускай ССР у стварэнні Саюза ССР. Адлюстраваны працэс вяртання рэспублікі ўсходнебеларускіх тэрыторый. Раскрыты сутнасць палітыкі беларусізацыі і асаблівасці яе ажыццяўлення. Гісторыя беларускага народа на працягу 20-х гадоў раскрываецца з улікам асноўнай супярэчнасці гэтага часу — развіцця эканомікі і іншых сфер жыцця на аснове адносна дэмакратычнай новай эканамічнай палітыкі і нарастання адміністрацыйна-камандных, аўтарытарных тэндэнцый у кіраванні грамадствам.

У кнізе адлюстраваны ажыццяўленне палітыкі індустрыялізацыі, адміністрацыйна-камандны шлях правядзення калектывізацыі сельскай гаспадаркі, поспехі ў развіцці культуры. Адпаведная ўвага нададзена раскрыццю праяў адміністрацыйна-каманднага кіравання ў грамадскім жыцці, масавым неабгрунтаваным палітычным рэпрэсіям.

Раскрыта становішча насельніцтва Заходняй Беларусі пад уладай Польшчы на працягу 1921—1939 гг. Паказаны барацьба за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, супрацьдзеянне беларускага насельніцтва, палітычных партый і арганізацый сацыяльнаму ўціску, за захаванне нацыянальнай культуры.

Адлюстравана гісторыя беларускага народа ў перыяд другой сусветнай вайны. Уз'яднанне беларускага народа ў адзінай сям'і паказана як пераадоленне гістарычнай несправядлівасці. Значная ўвага засяроджана на раскрыцці гераічнай гісторыі беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Раскрыты не толькі размах партызанскага і падпольнага руху, удзел жыхароў Беларусі ў барацьбе з ворагамі на шматлікіх франтах вайны, але і жыццё ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі. Значна шырэй, чым у папярэдніх выданнях, паказана трагедыя народа ў час ваеннага ліхалецця.

Апошні, шосты том выдання прысвечаны пасляваеннай гісторыі Беларусі. Раскрыты пераход беларускага народа да мірнага жыцця, цяжкасці і зрухі ў аднаўленні і развіцці прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі, сацыяльным становішчы народа. Паказана правядзенне калектывізацыі ў заходніх абласцях. Адлюстравана высокая ступень заарганізаванасці грамадска-палітычнага жыцця, ідэалагізацыя духоўнай сферы. Нададзена ўвага выхаду Беларускай ССР на міжнародную арэну.

Раскрыты працэсы, што адбываліся ў рэспубліцы ў перыяд рэформ другой паловы 50—60-х гадоў, адзначаны іх пазітыўны ўплыў на розныя бакі жыцця грамадства, супярэчлівасць і незавершанасць. Паказаны дасягненні ў развіцці эканомікі, матэрыяльным і духоўным становішчы народа, а таксама ўзрастаючы рост міграцыі сельскіх жыхароў у гарады. Адлюстравана развіццё навукі і культуры.

Значная ўвага нададзена аналізу працэсаў, што адбываліся ў жыцці беларускага народа на працягу 70-х — першай паловы 80-х гадоў. Паказана развіццё прамысловай вытворчасці, будаўніцтва, транспарту, сельскай гаспадаркі, поспехі і праблемы на гэтым шляху. Вызначана месца Беларускай ССР у гаспадарчым комплексе Саюза ССР. Адлюстравана паступовае запавольванне тэмпаў навукова-тэхнічнага прагрэсу, абвастрэнне ў рэспубліцы экалагічнай сітуацыі. Раскрыты грамадска-палітычнае жыццё, поспехі ў развіцці навукі і культуры.

Адпаведная ўвага нададзена гісторыі беларускага народа ва ўмовах перамен другой паловы 80-х — 90-х гадоў. Асветлены змены ў палітычным жыцці, звязаныя з дэмакратызацыяй грамадскага развіцця, пераходам да шматпартыйнасці, утварэннем незалежнай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь. Адлюстравана нарастанне крызісных з'яў у эканоміцы, паніжэнне жыццёвага ўзроўню народа, рэзкае абвастрэнне экалагічнага становішча ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Раскрыты складанасці грамадска-палітычнага, навуковага, культурнага жыцця. Пэўная ўвага нададзена адлюстраванню знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь. Паказаны стан беларускай дыяспары.

Дадзенае выданне выканана на аснове нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Гэта значыць, што аўтары і рэдактары разглядаюць беларускі этнас як самабытны суб'ект гістарычнага развіцця і самастойны аб'ект гістарычнага даследавання. Зразумела, што пры гэтым беларускі этнас выступае як асноўная, кансалідуючая частка ўсяго беларускага народа.

Заканамерна, што нацыянальны пункт гледжання на мінулае Беларусі арганічна спалучаецца з асвятленнем тысячагадовай гісторыі яе дзяржаўнасці. (Пры гэтым заўважым, што факт існавання шматвяковай дзяржаўнасці на беларускіх землях адзначаны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.)Такое спалучэнне нацыянальнага і

дзяржаўнага зусім натуральнае, таму што кожная нацыя і кожны народ могуць атрымаць неабходныя магчымасці для свайго развіцця і самасцвярджэння толькі ў суверэннай краіне, якая стварае для гэтага адпаведныя ўмовы, развівае ўзаемавыгадныя дачыненні з суседнімі і іншымі дзяржавамі. Для Рэспублікі Беларусь гэта супрацоўніцтва ў першую чаргу з Расійскай Федэрацыяй, а таксама Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй, іншымі краінамі.

Сучасны этап беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння пры ўсіх цяжкасцях і складанасцях на гэтым шляху ўяўляецца сур'ёзным і працяглым працэсам. Істотнае месца ў ім займае вяртанне беларускаму народу яго гістарычнай свядомасці. Аўтары і рэдактары дадзенага выдання спадзяюцца, што яно адыграе сваю пазітыўную ролю ў гэтай высакароднай справе і народ Беларусі ўвойдзе ў XXI ст. і 3-е тысячагоддзе са значна больш глыбокім веданнем сваіх гістарычных каранёў, сваёй мінуўшчыны, што дапаможа яму ў стваральнай працы, дасягненні адметных вынікаў, каб заняць пачэснае месца сярод іншых народаў.

# УВОДЗІНЫ

У першым томе "Гісторыі Беларусі" разглядаецца мінулае нашай Бацькаўшчыны ў першабытны і раннесярэднявечны перыяды (каля 100 тыс. гадоў назад — першая палова XIII ст.). Гэты вялізны прамежак часу забяспечаны пісьмовымі крыніцамі, ды і то ўрыўкавымі, толькі для апошніх чатырох стагоддзяў. Папярэднія ж тысячагоддзі вядомыя выключна дзякуючы археалагічным даследаванням.

**Гістарыяграфія гісторыі Беларусі першабытнага перыяду.** Раскопкі старажытнейшых помнікаў — стаянак, селішчаў і гарадзішчаў, могільнікаў, гаспадарчых аб'ектаў — дазваляюць даволі поўна паказаць матэрыяльную і духоўную культуру старажытнага насельніцтва Беларусі, рэканструяваць характар тагачаснай гаспадаркі і сацыяльных адносін, выявіць дынаміку этнакультурных працэсаў.

Цікаўнасць да старажытнага мінулага ў Беларусі існавала здаўна. У эпоху Адраджэння (XVI — першая палова XVII ст.) яна пачала праяўляцца найперш у форме гістарычнага краязнаўства, калі ў зборах беларускіх магнатаў, асвечанай часткі шляхты і гараджан пачалі захоўвацца не толькі старыя рукапісы, зброя, рэчы побыту, але і некаторыя археалагічныя знаходкі, найперш шліфаваныя каменныя вырабы і косці выкапнёвых жывёлін, якія трапляліся выпадкова ў час земляных работ. Больш мэтанакіраваныя, хоць яшчэ і спарадычныя, пошукі, а часам і раскопкі археалагічных помнікаў, пераважна курганных могільнікаў, у нашай краіне пачаліся з канца XVIII — пачатку XIX ст. (З. Даленга-Хадакоўскі і інш.). У сярэдзіне XIX ст. у беларускай навуковай думцы ўжо ўсталявалася перакананне (Я.Тышкевіч, К.Тышкевіч), што першабытнае грамадства ў басейнах Прыпяці, верхніх цячэннях Дняпра, Нёмана і Дзвіны прайшло тры этапы — каменны, бронзавы і жалезны вякі.

У Беларусі асабліва ўзмацнілася цікавасць да мінуўшчыны ў сувязі з праведзенымі археалагічнымі з'ездамі, найперш IX з'ездам, які адбыўся ў Вільні ў 1893 г. У гэты час праводзіліся абследаванні некаторых тэрыторый, складаліся археалагічныя карты. Увагі заслугоўваюць даследаванні В.Шукевіча (з пачатку 80-х гадоў XIX ст. і да пачатку першай сусветнай вайны) паўночнага захаду Беларусі і Е. Раманава (тых жа гадоў) на ўсходзе[1].

Ужо ў дарэвалюцыйны час стала агульнапрызнаным, найбольш на падставе вывучэння тапанімікі, што тэрыторыя Беларусі, асабліва яе цэнтральная і паўднёвая часткі, была здаўна заселена старажытнымі славянскімі плямёнамі. Несумненным лічылася і тое, што славяне суседзілі з балцкім насельніцтвам, якое найбольш дамінавала на Панямонні. З балтамі ж некаторыя даследчыкі (А.Спіцын) звязвалі і гарадзішчы жалезнага веку. Аднак з-за недаследаванасці помнікаў гэты перыяд першабытнага грамадства быў, бадай, найменш вядомы навукоўцам, у іх пераважна адсутнічалі даныя пра матэрыяльную і духоўную культуру тагачаснага насельніцтва, яго этнічную гісторыю.

---

[1]*Каханоўскі Г.А.* Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984.

Некалькі больш мелася звестак пра жыццё людзей папярэдніх часоў — бронзавага і каменнага вякоў. Паселішчы эпох каменю і бронзы таксама амаль не даследаваліся шляхам раскопак, аднак было вядома даволі шмат добра захаваных каменных вырабаў, найбольш сякер-кліноў і сякер з прасвідраванымі адтулінамі, а таксама пэўная колькасць медных і бронзавых вырабаў.

Археалогія ў дарэвалюцыйны час рабіла пачатковыя крокі, таму інфармацыя, якую яна магла даць даследчыку, была фрагментарная. Па гэтай прычыне першабытная гісторыя (або дагісторыя) у першых абагульняючых працах па мінуламу Беларускага краю пададзена скупа або адсутнічае зусім (Т. Нарбут, 1835; А. Кіркор, 1882; В. Ластоўскі, 1910).

Два дзесяцігоддзі развіцця археалагічнай навукі на Беларусі паміж дзвюма сусветнымі войнамі дазволілі з улікам папярэдніх набыткаў зрабіць спробы больш грунтоўных гістарычных абагульненняў. Найперш на падставе даследаванняў стаянак Юравічы і Бердыж на паўднёвым усходзе краіны (К. Палікарповіч) была навукова пацверджана думка Е. Раманава аб першапачатковым засяленні Беларусі яшчэ ў палеаліце. У гэты ж міжваенны час выяўлена некалькі соцень паселішчаў — стаянак каменнага і бронзавага вякоў, сабрана багатая калекцыя пераважна пад'ёмнага матэрыялу — крамянёвых і каменных вырабаў, фрагментаў керамікі. Знаходкі праходзілі пэўны тыпалагічны аналіз, што дазволіла аб'ядноўваць іх у канкрэтныя археалагічныя культуры і ў некаторых выпадках вызначаць дынаміку развіцця апошніх.

Прыкметных поспехаў дасягнула і вывучэнне старажытнасцей жалезнага веку. Да 1941 г. у тагачасных межах БССР былі выяўлены і часткова даследаваны 864 гарадзішчы, больш за 100 неўмацаваных пасяленняў — селішчаў, каля двух дзесяткаў могільнікаў[1]. На падставе аналізу археалагічных фактаў некаторыя археолагі (найперш А. Ляўданскі) пачалі пераходзіць і да гістарычных абагульненняў, спрабуючы разглядаць не толькі матэрыяльную культуру, але і гаспадарку, сацыяльнае ўладкаванне плямён жалезнага веку, іх этнічную прыналежнасць. А. Ляўданскі вылучыў тры зоны гарадзішчаў з рознымі тыпамі керамікі, якія адпавядалі тром археалагічным культурам, што затым было абгрунтавана навукоўцамі пасляваеннага часу. Ён справядліва сцвярджаў, што гаспадарчае і сацыяльнае развіццё тагачаснага насельніцтва выклікала неабходнасць ствараць умацаваныя паселішчы-гарадзішчы як цэнтры родавых супольнасцей. Шмат увагі ім надавалася і гаспадарцы, асабліва жалезаапрацоўчай вытворчасці. Знаходкі пры раскопках помнікаў (пераважна гарадзішчаў) рэшткаў жыллёвых і іншых збудаванняў, зерня і костак жывёлін дазволілі даследчыкам упэўнена гаварыць пра аседлы характар жыцця насельніцтва эпохі жалеза і пераважна вытвараючыя формы яго гаспадаркі — ляднае (падсечнае) земляробства і жывёлагадоўлю, з захаваннем пэўнага значэння палявання і рыбалоўства. Да этнічнай інтэрпрэтацыі археалагічных матэрыялаў тагачасныя даследчыкі адносіліся даволі асцярожна, справядліва спасылаючыся на недастатковасць фактаў. І ўсё ж жыхароў гарадзішчаў Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі яны лічылі старажытнымі літоўцамі, а прыход у наш край славян адносілі толькі да канца 1-га тысячагоддзя.

Аднак з-за дамінавання ў тагачасных савецкіх грамадазнаўчых навуках дагматычнай тэорыі стадыяльнага развіцця фарміраванне і пераемнасць археалагічных культур тлумачыліся амаль выключна сацыяльна-гаспадарчымі фактарамі. І ўвогуле, калі першабытнаму мінуламу Беларусі ў міжваенныя гады археолагі надавалі значную ўвагу, то ў абагульняючых працах гісторыкаў яно займала сціплае месца і пачыналася, як правіла, не далей эпохі першых славянскіх плямён (У. Ігнатоўскі, М. Доўнар-Запольскі).

У Заходняй Беларусі, якая да 1939 г. (каля двух дзесяцігоддзяў) знаходзілася ў складзе Польскай дзяржавы, археалагічныя даследаванні мелі значна меншы размах. Аднак пэўныя навуковыя абагульненні, якія можна было зрабіць па даволі сціплых матэрыялах, прадстаўлялі гістарычныя працэсы як дынамічную змену культур

[1] *Вяргей В.С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР. 1919—1941 гг. Мн., 1992.

і плямёй, дзе з'яўленне ў неаліце матэрыялаў з грабеньчатай керамікай звязвалася са старажытным фіна-угорскім этнасам, што пазней не знайшло свайго пацвярджэння. У этнакультурных схемах даследчыкаў Заходняй Беларусі (В. Антаневіч, Г. Цэгак-Галубовіч) знайшлося месца і першым індаеўрапейцам, старажытным балтам і славянам.

У пасляваенны час, асабліва з сярэдзіны 50-х гадоў, пачынаецца інтэнсіўнае развіццё беларускай археалогіі, заснаванае найперш на раскопках і аналізе шматлікіх калекцый рэчавых знаходак. Шырока публікуюцца і аналізуюцца матэрыялы ў асобных артыкулах і амаль трох дзесятках манаграфій, большасць якіх напісана айчыннымі навукоўцамі (Ю. Кухарэнка, 1962, 1964; І. Арцёменка, 1967; В. Мельнікоўская, 1967, У. Ісаенка, 1968; К. Палікарповіч, 1968; Г.Штыхаў, 1971; Л. Побаль, 1971, 1973; І. Русанава, 1973; Л. Побаль, 1974; У. Ісаенка, 1975, 1976, Н.Гурына, 1976; А.Мітрафанаў, 1978; М. Чарняўскі, 1979; М. Гурын, 1982; Л. Побаль, 1983; А.Калечыц, 1984; В.Шадыра, 1985; А.Калечыц, 1987; У.Ксяндзоў, 1988; В.Капыцін, 1992; А.Егарэйчанка, 1996; А.Мядзведзеў, 1996; М.Чарняўскі, В. Кудрашоў, В. Ліпніцкая,1996; А.Мядзведзеў, 1998; М.Крывальцэвіч, 1999). Важнае значэнне для асэнсавання зробленага ў археалагічным вывучэнні краіны мелі манаграфіі гістарыяграфічнага характару Г. Каханоўскага (1984), В. Вяргей (1992), Л. Аляксеева (1996), а таксама калектыўныя працы.

Манаграфічныя даследаванні археолагаў маюць сваю спецыфіку — яны прысвечаны пераважна аналізу матэрыяльнай культуры. Аднак у большасці іх аўтары закранаюць з рознай ступенню грунтоўнасці і пытанні першабытнай гісторыі — найбольш гаспадарчага развіцця, светапогляду, праблем этнагенезу. Пры гэтым у манаграфіях, якія пабачылі свет апошнім часам, улічваючы багатую фактаалагічную аснову, гістарычным працэсам, як правіла, удзяляецца значна больш месца. У некаторых даследаваннях гісторыі першабытнага грамадства цалкам прысвечаны асобныя раздзелы (А. Егарэйчанка, 1996). Прыкметнай з'явай стала апублікаванне ў 1977 г. Э. Загарульскім нарысаў па гісторыі першабытнага грамадства Беларусі (Э.Загарульскі, 1977). Даследчык сканцэнтраваў сваю працу на ранняй этнічнай гісторыі нашага краю, станаўленні і развіцці гаспадаркі і першабытнай тэхнікі, эвалюцыі жытла і паселішчаў. Пры гэтым ён надае шмат увагі гістарыяграфіі, асабліва пры асвятленні этнагенетычных пытанняў. З навейшых падобных публікацый асаблівай увагі варты артыкул А.Мядзведзева, прысвечаны дынамікі этнакультурных працэсаў на тэрыторыі Беларусі на працягу ўсяго жалезнага веку (Мядзведзеў, 1996).

Таксама было апублікавана некалькіх брашур папулярнага характару, якія разлічаны на шырокае кола чытачоў і набліжаюцца да гістарычных нарысаў пэўных эпох або рэгіёнаў Беларусі (Э.Загарульскі, Э. Зайкоўскі, У. Ісаенка, А. Калечыц, М. Чарняўскі, Г. Штыхаў, В.Капыцін). Пры гэтым калі ў спецыяльных манаграфіях археолагі стараліся рабіць гістарычныя абагульненні на строгай фактаалагічнай аснове, то ў папулярных публікацыях яны шырока выкарыстоўвалі і этнаграфічныя паралелі.

Даволі разгорнуты агляд першабытнага грамадства, напісаны фактычна толькі на аснове даваенных археалагічных даследаванняў, дадзены ў першым томе "Гісторыі Беларускай ССР" (1954 ). У 1972 г. быў апублікаваны першы том пяцітомнай гісторыі Беларусі. Дапісьмоваму часу ў ім прысвечаны два даволі грунтоўныя раздзелы, напісаныя найбольш актыўнымі на той час даследчыкамі мінулага Беларусі (У.Будзько, У.Ісаенка, І.Арцёменка, А.Мітрафанаў, Л.Побаль)[1]. Аўтары выкарысталі набыткі амаль 15 гадоў пасляваеннага развіцця беларускай археалогіі. У раздзелах разглядаецца першапачатковае засяленне краю першабытным чалавекам, яго існаванне ў познапалеалітычны час, матэрыяльная і часткова духоўная культура, заняткі і побыт плямён новакаменнага, бронзавага і жалезнага вякоў. Гістарычны працэс паказваецца на фоне развіцця прыроды, з якой першабытны чалавек быў звяза-

[1]Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т 1. С. 15—64.

ны самым непасрэдным чынам. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што аўтары яшчэ амаль не вылучаюць мезалітычную эпоху як важны прамежак часу паміж паляўнічымі ледавіковай эпохі і земляробамі пазнейшай эпохі. У той жа час гісторыя плямён жалезнага веку, іх гаспадарка і сацыяльнае ўладкаванне пададзены дастаткова шматгранна і поўна. Гэта было абумоўлена ступенню даследаванасці розных тэрыторый і храналагічных перыядаў.

Значна абноўленым, з улікам апошніх дасягненняў выглядае раздзел "Старажытнае грамадства" (У. Ісаенка, Г. Штыхаў) у першай частцы "Нарысаў гісторыі Беларусі" (1994), дзе першабытная эпоха паўстае перад чытачом як працэс эвалюцыі канкрэтных этнакультурных супольнасцей.

Эпоха першабытнага грамадства знаходзіла і знаходзіць неабходнае месца і ў падручніках, і ў навучальных дапаможніках па гісторыі Беларусі, асабліва апошніх гадоў, для вучняў, абітурыентаў і студэнтаў. Пры гэтым у шэрагу новых выданняў яна паўстае ўсё больш разгорнутай і насычанай канкрэтным зместам.

Набытак больш як стогадовага развіцця археалагічнай навукі Беларусі, велізарныя калекцыі рэчавых матэрыялаў, якія дазваляюць разглядаць самыя розныя бакі жыццядзейнасці першабытнага чалавека, асэнсаванне іх у аналітычных публікацыях, асабліва ў такіх, як "Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі" (1997) і "Археалогія Беларусі. Т. 2. Жалезны век" (1999), дазволілі ўрэшце падысці і да гэтай абагульняючай працы па старажытнай гісторыі Беларусі.

**Гістарыяграфія гісторыі Беларусі ранняга сярэднявечча.** У дарэвалюцыйныя часы гістарычнае развіццё Беларусі не было самастойным прадметам даследавання. Пытанні гісторыі беларускіх зямель закраналіся ў абагульняючых працах і курсах гісторыі В.Тацішчава, М. Карамзіна, С. Салаўёва, В. Ключэўскага і іншых гісторыкаў. Беларусь яны разглядалі выключна як частку Расійскай імперыі.

"Нараджэнне беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі было цяжкім, штучна стрымлівалася імперскай палітычнай сістэмай. Але ж у канцы XIX ст. яна ўсё ж нарадзілася. Пачынаецца пара напружанага роздуму аб месцы беларусаў сярод іншых народаў, аб пройдзеным гістарычным шляху і яго перспектывах", — піша знаўца гістарыяграфіі Беларусі прафесар Дз. Караў[1]. Паступова вылучыліся такія аддзелы гістарычнай навукі, як крыніцазнаўства, гістарычная геаграфія, археаграфія, архівазнаўства і іншыя спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны.

У канцы XIX ст. з'явіліся першыя абагульняючыя работы аб старажытных княствах на тэрыторыі Беларусі выхаванцаў навуковай школы кіеўскага прафесара У. Антановіча (1830—1908). Гэта працы М. Доўнар-Запольскага (1867—1934) "Очерк истории кривичской и дреговичской земель до конца XII столетия" (Кіеў, 1891), У. Данілевіча (1872—1936) "Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия" (Кіеў, 1896 ), у якой сабрана шмат крыніц, што дазволіла аўтару стварыць сур'ёзнае даследаванне. П. Галубоўскі (1857—1907) выдаў грунтоўную працу "История Смоленской земли до начала XV столетия" (Кіеў, 1895), якая ахоплівала і сучасную Усходнюю Беларусь.

Украінскі гісторык А. Грушэўскі (1877—1943), аўтар спецыяльнай работы "Пинское Полесье", у якую ўваходзіць "Очерк истории Турово-Пинского княжества XI—XIII вв." (1901), вызначыў граніцы гэтага княства, выклаў гісторыю ўзаемадачыненняў мясцовых князёў з Кіевам. Вядомы ўкраінскі гісторык М. Грушэўскі ў сваіх творах (буйнейшы з іх "Історія Украіни—Русі") увёў тэрмін "украінска-руская народнасць", якую лічыў стваральніцай Кіеўскай Русі, прапанаваў вывучаць асобна гісторыю кожнай з усходнеславянскай народнасцей, у тым ліку беларускай. У сваіх працах ён закранаў гісторыю беларусаў у параўнальным аспекце, неправамерна лічыў украінскімі Берасцейскую зямлю і Турава-Пінскае Палессе.

Важнай вяхой у станаўленні нацыянальнай гістарыяграфіі стала "Кароткая гісторыя Беларусі" В. Ластоўскага (1883— 1938), якая была надрукавана ў Вільні ў

[1] *Караў Дз.* Беларуская гістарыяграфія XX ст. — адна з крыніц фарміравання менталітэту нацыі // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. №3. С. 99 — 107.

1910 г, Кніга заснавана ў значнай ступені на апублікаваных выданнях расійскіх, польскіх і ўкраінскіх гісторыкаў. Разам з тым В. Ластоўскі першым паказаў, што беларускі народ — гэта не толькі аб'ект гісторыі, залежны ад волі суседніх народаў, але і творца сваёй гісторыі, гаспадар свайго лёсу.

Значнай падзеяй у гістарыяграфіі Беларусі стала праца У. Ігнатоўскага (1881—1931) "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" (1919), якая напісана з нацыянальных пазіцый. У ёй даволі падрабязна характарызуецца гісторыя Беларусі ў "полацкі перыяд" IX—XIII стст. З пачатку 30-х гадоў кніга У. Ігнатоўскага была забаронена савецкімі ўладамі і надоўга трапіла ў спецсховішча. Зноў яна была перавыдадзена толькі ў 1990 г.

У пачатку 20-х гадоў напісаў сінтэтычную працу па гісторыі Беларусі М. Доўнар-Запольскі (яна не была дапушчана да друку тагачасным камуністычным рэжымам і пабачыла свет толькі ў 1994 г.)[1]. Аўтар разгледзеў палітычную гісторыю Полацкай зямлі, Смаленскага і Турава-Пінскага княстваў. Адной з асаблівасцей палітычнага ладу ўсходнеславянскіх земель і княстваў вучоны лічыў так званую валасную сістэму кіравання, калі горад быў арганічнай часткай сваёй воласці (акругі) і ў адміністрацыйных адносінах не аддзяляўся ад яе. Органам кіравання ўсёй воласцю было веча.

Асноўныя моманты сярэднявечнай гісторыі Беларусі коратка абагуліў У. Пічэта ў раздзелах "Полацка-Мінскае княства" і "Турава-Пінскае княства", змешчаных у калектыўнай працы "Очерки истории СССР. Период феодализма IX—XV стст." (Ч.1, 1953). Двайныя назвы княстваў ён лічыў апраўданымі таму, што Мінск і Пінск адыгрывалі важную ролю ў старажытнай гісторыі Беларусі. У.Пічэта выкарыстаў навукова абгрунтаваныя, правераныя даты падзей, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі, што ўлічвалі, аднак, не ўсе беларускія гісторыкі.

Гісторыя Полацкага княства з выкарыстаннем пісьмовых крыніц і даных археалогіі выкладзена Л. Аляксеевым у грунтоўнай манаграфіі "Полоцкая земля в IX—XIII вв.: Очерки истории Северной Белоруссии" (1966), а гісторыя зямель Смаленскага княства — у кнізе "Смоленская земля в IX—XIII вв.: Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии" (1980). Аўтар зрабіў выснову, што Полацкае княства ў раннім сярэднявеччы было самастойнай палітычнай адзінкай з арыгінальнай культурай. Дадзены вывад маскоўскага даследчыка атрымаў падтрымку і далейшае развіццё ў новых працах беларускіх вучоных.

Вялікую цікавасць выклікала канцэпцыя маскоўскага даследчыка В. Сядова аб субстратным паходжанні беларусаў у выніку змешвання славян з балтамі, выкладзеная ў манаграфіі "Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья" (1970). Шырокае даследаванне курганоў на тэрыторыі Полацкай зямлі пацвердзіла правільнасць гэтай гіпотэзы[2].

Этнічныя працэсы на тэрыторыі Беларусі ў IX—XIII стст., якія адстойваюць ідэю існавання адзінай старажытнарускай народнасці, разглядае Э. Загарульскі, аб чым сярод даследчыкаў існуюць альтэрнатыўныя погляды. Г. Штыхаў лічыць, што старажытнаруская народнасць канчаткова не сфарміравалася і сам тэрмін спрэчны[3].

У поглядах на статус Тураўскай зямлі ў складзе Кіеўскай Русі назіраецца істотнае разыходжанне паміж поглядамі П. Лысенкі і ўкраінскіх гісторыкаў. П. Лысенка адстойвае правамернасць тэрміна "Тураўская зямля", выказвае думку, што яна склалася ў канцы X ст. і захоўвала сваё значэнне ў XI ст. П. Талочка і іншыя ўкраінскія гісторыкі пішуць пра "адносную" самастойнасць Тураўскага княства толькі з 1160-х гадоў[4].

---

[1]*Доўнар-Запольскі М.В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.
[2]*Штыхаў Г.В.* Крывічы. Мн., 1992. С. 106, 107.
[3]Там жа. С. 101—104.
[4]*Толочко П.П.* Киев и Киевская земля в эпоху феодальной раздробленности XII — XIII веков. Киев, 1980. С.121.

У працах беларускіх гісторыкаў, прысвечаных сацыяльна-эканамічным адносінам ва ўсходніх славян, выказаны думкі, адрозныя ад стэрэатыпаў, якія панавалі ў савецкай гістарыяграфіі. В. Гарамыкіна сцвярджала, што ў Старажытнай Русі, як і ў іншых краінах, спачатку існавала ў IX—XI стст. рабаўладальніцкая фармацыя і толькі ў XII—XIII стст. яе пачаў замяняць феадалізм[1].

А. П'янкоў з улікам матэрыялаў археалагічных даследаванняў на Беларусі разгледзеў пераход ад родавых саюзаў да сельскай абшчыны ў першыя стагоддзі н.э. Вучоны лічыць, што ў VI—VIII стст. у славян панаваў рабаўладальніцкі лад, а ў IX—XII стст. ужо ўсталяваліся феадальныя адносіны, у чым ён не пагаджаецца з В. Гарамыкінай, але думкі абодвух аўтараў аб рабаўладальніцтве блізкія паміж сабою[2].

У абагульняючых працах, прысвечаных усходняму славянству, выдадзеных за межамі Беларусі, не звярталася належнай увагі на гісторыю Полацка, Турава і іншых гарадоў беларускага арэала. Выключэннем з'яўляецца кніга М. Ціхамірава, прысвечаная паўстанням на Русі, у якой апісаны падзеі ў Полацкай зямлі, зроблены абгрунтаваны вывад, што "ў XII ст. у Полацку складваўся той палітычны лад, які знаёмы нам паводле Ноўгарада Вялікага"[3]. Гэта ж самае можна сказаць пра кнігу І. Фраянава і А. Дварнічэнкі аб гарадах-дзяржавах, дзе ёсць раздзел пра ўзнікненне і развіццё горада-дзяржавы ў Полацкай зямлі. Аўтары ўслед за М.Ціхаміравым сцвярджаюць, што гісторыя Полацка ў многім падобная да гісторыі Ноўгарада: тут даволі рана, як і ў "волхаўскай сталіцы", выявілася імкненне пазбавіцца ад панавання Кіева[4]. Але І. Фраянаў крытычна ставіцца да ацэнкі М. Ціхаміравым ролі класаў і класавай барацьбы ў гісторыі Полацкай і іншых зямель. На думку І. Фраянава, класаў у тыя часы не існавала, бо працэс класаўтварэння быў незавершаны, мелі месца народныя рухі і хваляванні, а не класавая барацьба[5].

М. Ермаловіч, выкарыстоўваючы даныя летапісаў, тацішчаўскіх звестак, тапанімікі, археалогіі, выклаў гісторыю беларускіх зямель пачынаючы са старажытных часоў і канчаючы ўтварэннем Вялікага княства Літоўскага[6]. М.Ермаловіч выказаў шэраг слушных меркаванняў, згадак і заўваг, поўнасцю адхіліў тэзіс шэрагу гісторыкаў пра заваяванне літоўцамі беларускіх зямель у другой палове XIII ст. Аднак яго сцвярджэнне аб летапіснай Літве на прасторы паміж Мінскам, Маладзечнам, Слонімам нельга лічыць дастаткова абгрунтаваным.

Г. Штыхаў выказаў думку аб тым, што ва ўсходніх славян у IX—XI стст. гаспадарка была шматукладнай і ў ёй суіснавалі тры гаспадарчыя ўклады: першабытнаабшчынны, які сыходзіў з гістарычнай арэны; рабаўладальніцкі, які не атрымаў значнага развіцця, і новы феадальны, які нараджаўся і пракладваў свой шлях у будучыню[7]. Ён распрацаваў пытанні гарадскога кіравання, дзейнасці полацкага веча, яго складаных адносін да княжацкай улады. Новыя падыходы і набыткі ўвасоблены ў “Нарысах гісторыі Беларусі. Ч. 1” (1994).

Беларускімі навукоўцамі распрацавана некалькі варыянтаў перыядызацыі гісторыі Беларусі. Вылучаюцца чатыры падыходы да перыядызацыі: 1) дзяржаўніцкі (замацаваны У. Ігнатоўскім); 2) фармацыйны, які панаваў у савецкі перыяд; 3) еўрацэнтрысцкі ці заходнееўрапейскі (уведзены ў школьныя праграмы ў 1991—1995 гг.); 4) храналагічна-тэрытарыяльны (разгляд па стагоддзях). Усе яны раўнапраўныя, бо адзінай агульнапрызнанай перыядызацыі як сусветнай, так і гісторыі Беларусі пакуль не існуе.

---

[1] *Горемыкина В.И.* К проблеме истории докапиталистических обществ (на материале Древней Руси). Мн., 1970. С. 22, 31,74.

[2] *Пьянков А.П.* Происхождение общественного и государственного строя Древней Руси. Мн., 1980.

[3] *Тихомиров М.Н.* Древняя Русь. М., 1975. С. 184—192.

[4] *Фроянов И.Я., Дворниченко А.Ю.* Города-государства Древней Руси. Л., 1988. С. 196.

[5] *Фроянов И.Я.* Древняя Русь. Опыт исследования истории социальной и политической борьбы. М.; СПб., 1995. С. 513—530.

[6] *Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і навагародскі перыяды.Мн.,1990.

[7] *Штыхов Г.В.* Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі. Мн., 1999. С. 43—50.

**Пісьмовыя крыніцы.** Шэраг важнейшых звестак па гісторыі беларускіх зямель X — пачатку XII ст. змяшчае "Аповесць аб мінулых часах" ("Повесть временных лет"). Найбольш старажытны летапісны звод быў складзены ў Кіеве пры князю Яраславе Мудрым (1019—1054).

Пачатковы звод усходнеславянскага летапісу быў дапоўнены каля 1113 г. манахам Кіева-Пячэрскага манастыра Нестарам. "Аповесць аб мінулых часах" пачынаецца словамі: "Се повести времяньных лет..." Гэты помнік захаваўся ў пазнейшых летапісных зборніках: Лаўрэнцьеўскім (1377), Іпацьеўскім (пачатак XV ст.) і з'яўляецца выключнай важнасці гістарычна-мастацкім творам усходняга славянства.

Апавядаючы пра паходы на Візантыю князёў Алега, Ігара, Святаслава, летапісцы карысталіся паданнямі. Фальклорнае паходжанне маюць легенды пра смерць Алега ад свайго каня, пра помсту княгіні Вольгі драўлянам за забойства Ігара, які збіраў даніну (945). Народнапаэтычныя матэрыялы пра князя Уладзіміра Святаславіча ўключаны ў летапіс. Язычнік Уладзімір характарызуецца летапісцамі адмоўна. Ён забівае полацкага князя Рагвалода і двух яго сыноў, гвалтоўна бярэ сабе ў жонкі яго дачку Рагнеду (у "Аповесці..." — 980 г.). Уладзімір пасля прыняцця новай веры ў летапісе ідэалізуецца як хрысціянін, а таксама як воін, цесна звязаны з дружынай.

У "Аповесці аб мінулых часах" многа гаворыцца аб сутыкненнях кіеўскіх князёў з полацкімі. Летапісец расказвае аб барацьбе полацкага князя Усяслава (1044—1101) з трыма князямі — сынамі Яраслава Мудрага, апісвае крывавую бітву на Нямізе (1067), гаворыць пра здрадніцкі захоп Усяслава ў палон і яго вяртанне з Кіева ў родны Полацк. У летапісе знайшлі адлюстраванне падзеі, звязаныя з гісторыяй гарадоў Менска, Турава, Друцка, Берасця (Бярэсця), Смаленска.

Працягам "Аповесці..." з'явіліся пазнейшыя мясцовыя летапісы: Кіеўскі, Галіцка-Валынскі, Наўгародскі, Суздальскі (Лаўрэнцьеўскі спіс, складзены мачахам Лаўрэнціем для суздальскага князя). Кожны з гэтых летапісаў пачынаецца з перапіскі тэкстаў "Аповесці аб мінулых часах", а потым змяшчаецца запіс мясцовых падзей у храналагічным парадку[1]. Кіеўскі летапіс адлюстроўвае жыццё Кіеўскай зямлі-княства і зрэдку паведамляе пра іншыя землі. У летапісе расказваецца аб арганізаваным кіеўскім князем Мсціславам паходзе на Полацкую зямлю ў 1127 г. Выключна важныя звесткі аб узаемаадносінах паміж полацкімі князямі, аб дзейнасці ў Полацку веча падае летапісец пад 1159 і 1167 гг. Кіеўскі летапіс даводзіць апісанне падзей да 1200 г.

Галіцка-Валынскі летапіс — самабытны твор, які мае таксама шэраг звестак, звязаных з гісторыяй Беларусі XIII ст. Ідэйны змест летапісу — праслаўленне Галіцка-Валынскага княства, супрацьпастаўленне яго іншым княствам. У гэтым летапісе вялікае месца занялі падзеі, звязаныя з заходняй часткай Беларусі. У цэнтры ўвагі летапісца гарады Гародня, Пінск, Навагрудак, Берасце, Слонім, Ваўкавыск. Тут расказваецца пра Міндоўга, яго сына Войшалка і іншых князёў. У Галіцка-Валынскім летапісе змешчаны звесткі, на аснове якіх можна меркаваць аб пачатку стварэння беларуска-літоўскай дзяржавы.

"Аповесць аб мінулых часах", Кіеўскі і Галіцка-Валынскі летапісы складаюць тры часткі летапіснага зводу, які называецца Іпацьеўскім летапісам (спісам). Ён быў знойдзены ў XVIII ст. у Іпацьеўскім манастыры каля Кастрамы. Іпацьеўскі летапіс — найважнейшая крыніца па гісторыі Кіеўскай, Галіцка-Валынскай, Полацкай зямель і пачатку ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Менавіта ў ім змешчана найбольшая колькасць паведамленняў па гісторыі беларускіх зямель XII—XIII стст.

Узнікаюць пытанні ў вызначэнні храналогіі падзей, пра якія паведамляюць усходнеславянскія летапісы, у тым ліку Іпацьеўскі. Найбольш ранняя дата, названая ў Іпацьеўскім летапісе, — 6360 г. Паводле сучаснага летазлічэння ад нараджэння Хрыста, гэта 852 г. (6360 — 5508 = 852). Асабліва важным з'яўляецца перавод дат на

[1] *Чамярыцкі В.А.* Летапісы// Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1986. Т. 3. С. 244—245.

сучасную сістэму летазлічэння. Справа ў тым, што ў часы складання летапісаў выкарыстоўваліся два стылі летазлічэння: верасьнёўскі, калі пачаткам года лічылі 1 верасня, і сакавіцкі — 1 сакавіка. Быў яшчэ адзін спосаб вылічэння візантыйскіх гадоў, які вучоныя назвалі ультрасакавіцкім ("ультрамартовским")[1]. Пачынаўся ультрасакавіцкі год таксама 1 сакавіка, але нумарацыя гадоў звычайна перавышала нумарацыю гадоў паводле сакавіцкага стылю на адзінку. Пры вызначэнні пытанняў храналогіі неабходна кожны раз улічваць, па якой сістэме зроблены запіс.

Ёсць звесткі аб існаванні Полацкага летапісу, які страчаны ў XVIII ст. Гэтым летапісам карыстаўся вядомы расійскі гісторык В. Тацішчаў. Не дайшоў да нас і Смаленскі летапіс. Летапісныя запісы, магчыма, вяліся ў Тураве і Навагрудку.

Незвычайным творам усходнеславянскага летапісання з'яўляецца Радзівілаўскі летапіс. Летапісны звод складаецца з "Аповесці аб мінулых часах" і летапісу за XIII ст. Вядомы адзіны яго спіс канца XV ст. У Радзівілаўскім летапісе змешчаны 617 рознакаляровых мініяцюр, якія тэматычна звязаны з тэкстам. Шэраг іх прысвечаны гістарычнаму мінуламу беларускіх зямель. Сярод мініяцюр "Замах Рагнеды на Уладзіміра", "Узяцце Ноўгарада князем Усяславам Полацкім" (1066), "Бітва на Нямізе", "Бітва Святаполка (Акаяннага) і Яраслава (Мудрага) на р. Альце" (1019). Стыль мініяцюр блізкі да традыцый беларускага мастацтва. Мяркуюць, што летапіс зроблены ў Полацку ці Смаленску[2].

У складзе Лаўрэнцьеўскага спіса пад 1096 г. захавалася "Павучанне" князя Уладзіміра Манамаха (1053—1125). Манамах здзейсніў пачынаючы з 1072 да 1117 г. 74 паходы. Сярод іх названы чатыры паходы ў Полацкую зямлю з кароткім апісаннем іх вынікаў.

Устаўная грамата смаленскага князя Расціслава каля 1136 г. —важны помнік гісторыі Смаленскай зямлі. Да гэтага княства адносілася ў XII—XIII стст. паўночная частка Пасожжа з Мсціславам, Крычавам, Слаўгарадам і ў ёй змешчаны звесткі аб гэтых гарадах.

Надзвычай важным дакументам па гісторыі беларускіх зямель з'яўляецца Смаленская праўда (дагавор) 1229 г., які дае ўяўленне аб арганізацыі гандлю Смаленска, Полацка, Віцебска з Рыгай, Гоцкім берагам і нормах права, якое тады існавала. Тэкст граматы мае прыкметы беларускай мовы.

Адным з вынікаў шматлікіх войнаў, падчас якіх разбураліся, спальваліся гарады, была гібель каштоўнейшых заканадаўчых і актавых помнікаў сярэднявечных зямель Беларусі. Толькі нямногія дакументы і матэрыялы дайшлі да нашых дзён[3].

Раннімі крыніцамі па гісторыі славян з'яўляюцца паведамленні візантыйскіх гісторыкаў VI ст. Пракопа Кесарыйскага, Маўрыкія. Гэтыя крыніцы з'яўляюцца унікальнымі і даўно сталі хрэстаматыйнымі, набылі класічную каштоўнасць[4].

Звесткі па сярэднявечнай гісторыі Беларусі захаваліся ў нямецкіх і польскіх хроніках, скандынаўскіх сагах (гістарычных аповесцях). Сярод іх — "Эймундава сага", якая апавядае аб падзеях, што адбываліся ў XI ст., "Вялікапольская хроніка", "Хроніка Лівоніі" Г. Латвійскага, "Хроніка" Я.Длугаша.

**Археалагічныя крыніцы.** Недахоп пісьмовых крыніц, кароткі характар іх паведамленняў робяць археалагічныя матэрыялы незаменнай крыніцай па гісторыі Беларусі, асабліва раннесярэднявечнага перыяду. У першую чаргу гэта датычыць матэрыяльнай культуры і этнічнай прыналежнасці насельніцтва. На тэрыторыі Беларусі захаваліся гарадзішчы і селішчы, якія маюць сярэднявечныя напластаванні, а таксама курганныя і бескурганныя могільнікі. На аснове археалагічных крыніц вырашаюцца пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця, характару заняткаў насельніцтва, эканамічных і культурных сувязяў.

---

[1] *Каменцева Е.И.* Хронология. М., 1967. С. 53, 149.

[2] *Чернецов А.В.* Радзивилловская летопись// Свіцязь. Альманах бібліяфілаў Беларусі. Мн., 1989.

[3] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. /Сост. А.Л.Хорошкевич. Вып. I. М., 1977.

[4] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.). Мн., 1998.

Археолагамі дакладна ўстаноўлена існаванне помнікаў славянскай пражскай культуры на поўдні Беларусі ў V—VIII стст. Складанай з'яўляецца праблема этнічнай прыналежнасці іншых культур гэтага часу (банцараўскай, калочынскай), вывучэнне ўзаемасувязі ўсходнеславянскіх і лета-літоўскіх плямён, перадумоў фарміравання беларускага этнасу. Гэта ключавыя пытанні рассялення славян у раннім сярэднявеччы. Вывучэнне гарадзішчаў, іх тапаграфіі, абарончых умацаванняў пацвярджае, што тады беларускія землі знаходзіліся на этапе ваеннай дэмакратыі[1].

Курганныя могільнікі X—XII стст. і неўмацаваныя паселішчы даюць матэрыялы для вывучэння гісторыі ўсходнеславянскай вёскі, аб чым да нас дайшло таксама вельмі мала пісьмовых крыніц.

Існуе спрэчнае навуковае пытанне пра яцвягаў на тэрыторыі Брэсцкай і Гродзенскай абласцей і этнічнай прыналежнасці так званых каменных курганоў і каменных магіл.

Найбольшыя поспехі дасягнуты ў справе археалагічнага даследавання старажытных гарадоў Беларусі, якіх налічвалася прыкладна 35. Шматлікія знаходкі з раскопак даюць магчымасць узнавіць эканамічнае жыццё гарадоў, вывучыць рамесную вытворчасць, блізкі і далёкі гандаль, рэлігійныя вераванні. Знойдзены выдатныя рэчы дробнай пластыкі (абразкі і крыжы, шахматныя фігуры), рэшткі манументальнага дойлідства, помнікі эпіграфікі, сфрагістыкі, нумізматыкі і інш.

Пры даследаванні беларускіх гарадоў і іншых сярэднявечных помнікаў рабіўся комплексны аналіз археалагічных матэрыялаў і іншых крыніц, уключаючы паведамленні летапісаў, картаграфічныя даныя (В. Тарасенка, Л. Аляксееў, Г. Штыхаў, Э. Загарульскі, П. Лысенка, Я. Звяруга, В. Ляўко, Ю. Заяц, С. Тарасаў, І. Хозераў, М. Гурын, А. Трусаў, Т. Каробушкіна, Л. Дучыц, І. Ганецкая, Я. Рыер, І. Русанава, Ф. Гурэвіч, М. Варонін і інш.).

Беларускія даследчыкі штогод пашыраюць кола рэчавых крыніц, імкнуцца высветліць сутнасць гістарычных з'яў, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі, і атрымаць магчымасць мадэліраваць гістарычны працэс каля яго вытокаў. Тым самым здзяйсняецца прынцып гістарызму ў археалагічнай навуцы.

[1]Археалогія Беларусі: У 4 т. Т 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Мн., 1999.

РАЗДЗЕЛ 1

# ПЕРШАБЫТНАЯ ЭПОХА

## Асаблівасці першабытнай эпохі гісторыі Беларусі

Першабытны перыяд нашай гісторыі не толькі самы працяглы, але і надзвычай важны, бо ў ім закладваліся асновы будучага развіцця краю, размешчанага на памежжы Заходняй і Усходняй Еўропы, на водападзелах рэк Балтыйскага і Чарнаморскага басейнаў.

У гэты час адбылося засяленне тэрыторыі Беларусі чалавекам — ад першага пранікнення на яе паўднёва-ўсходні край у палеаліце і да асваення ім узбярэжжаў вадаёмаў і нават водападзелаў у жалезным веку. У першабытную эпоху чалавек дасягнуў вызначальнейшых поспехаў у сваім развіцці, заклаўшы асновы для большасці адкрыццяў пазнейшых часоў:

ад кароткачасовых стаянак да паселішчаў і ўмацаваных гарадзішчаў, на якіх жылі многія сотні гадоў;

ад будаўніцтва лёгкіх прытулкаў з жэрдак, кары і скур да ўзвядзення складаных жыллёва-гаспадарчых, культавых і фартыфікацыйных збудаванняў;

ад прыкрыцця скурамі цела ад холаду да шыцця рознага тыпу вопраткі і абутку, не толькі са скур, але і з тканага палатна;

ад выкарыстання расшчэпленых камянёў, прымітыўна апрацаваных костак і палак да бронзаліцейнай вытворчасці, здабычы жалеза з балотнай руды, кавальства, зачаткаў шклаaробства і ювелірнай справы;

ад начынняў з кары і пруткоў да высакаякаснага рознатыповага посуду з абпаленай гліны;

ад палявання, рыбацтва і збіральніцтва да вытвараючай гаспадаркі з жывёлагадоўляй і земляробствам, з наборам культурных раслін і свойскіх жывёл, характэрных і для пазнейшых часоў;

ад збірання паверхневага крэменю да распрацоўкі залежаў гэтай сыравіны шахтавым спосабам;

ад перамяшчэння пяшком ляснымі сцежкамі да вынаходніцтва чаўноў, лыжаў, саней і калясніц;

ад першабытнай стаднасці першапасяленцаў да родаплемяннай арганізацыі і зараджэння элементаў дзяржаўнасці;

ад калектывізму і ўраўняльнасці ў сацыяльным уладкаванні да маёмаснай дыферэнцыяцыі і родаплемяннай арыстакратыі;

ад першых прымітыўных узораў на камянях і костках да складанай і распрацаванай арнаментацыі, гравіровак, высокамастацкіх узораў аб'ёмнай пластыкі; ад падвесак з зубоў да біжутэрыі са шкла і металаў;

ад напаўжывёльнага ўспрымання асяроддзя і сябе да спроб іх асэнсавання праз мастацтва і рэлігію, да зачаткаў навуковых ведаў — батанікі, заалогіі, астраноміі, медыцыны, кліматалогіі і інш.

У першабытную эпоху на нашай тэрыторыі адбываліся складаныя этнічныя працэсы, яе неаднаразова кранаді вялікія міграцыі плямён, пастаянна дзейнічалі фактары змешвання і асіміляцыі, ажно да фарміравання гістарычных супольнасцей балтаў і славян, якое адбывалася пры ўдзеле пэўных груп фіна-аграў, індаіранцаў, кельтаў, германцаў.

Размяшчэнне тэрыторыі Беларусі ў цэнтры Еўропы, на мяжы хваёвых і ліс-цёвых зон, а таксама зон атлантычнага і кантынентальнага клімату, на сумежжы ў познім каменным веку рэгіёнаў з прысвойваючай і вытвараючай гаспадаркай ства-ралі надзвычай своеасаблівую і плённую сістэму ўзаемаўплываў, спрыялі ўста-наўленню этнакультурных сувязяў паміж Усходняй і Заходняй Еўропай. З часу ж бронзавага веку пачынае праяўляцца фактар размяшчэння паміж Балтыйскім і Чар-наморскім басейнамі, дзе пераважавалі ўплывы з антычнага свету.

Пры адсутнасці пісьмовых крыніц цяжка рэканструяваць сацыяльныя адносіны ў першабытных супольнасцях. Па гэтых прычынах больш распаўсюджанай з'яўляецца археалагічная (тэхналагічная) перыядызацыя, якая падзяляе мінулае па характары сыравіны, што ішла на выраб прылад працы, — на каменны (каля 100 000 — 4 000 гадоў назад), бронзавы (каля 4 000 — 2 800/2 700 гадоў назад) і жалезны (каля 2 800/2 700 — 1 500 гадоў назад) вякі. У сваю чаргу ў гэтых перыядах існуе і драбнейшы падзел, які паказвае асаблівасці і этапы іх развіцця. Археалагічная перыядызацыя не такая фар-мальная, як можа падацца на першы погляд, бо ўдасканаленне прылад працы адлюс-троўвае эвалюцыю вытворчасці, а з апошняй можна звязваць з рознай ступенню вера-годнасці сацыяльную, культурную і нават пэўным чынам этнічную гісторыю.

Пры археалагічных даследаваннях заўважана, што на пэўных тэрыторыях, най-часцей у басейнах буйных рэк, рэшткі жыццядзейнасці першабытных людзей — жыт-ло, прылады працы і зброя, рэчы побыту, упрыгожанні, сляды рэлігійных культаў — утвараюць характэрныя комплексы, якія адрозніваюцца ад археалагічных матэрыя-лаў з суседніх тэрыторый. Такія комплексы, якія існавалі на акрэсленых тэрыторыях і ў пэўны прамежак часу, навукоўцы аб'ядноўваюць у археалагічныя культуры. Ім на-даюцца розныя, як правіла, умоўныя назвы — па тэрыторыі распаўсюджання (нёман-ская, паўночнабеларуская), характэрных рэчах (шарападобных амфар, баявых ся-кер), асаблівасцях арнаментацыі глінянага посуду (грабеньчата-накольчатай кера-мікі), пахавальным абрадзе (культура адзінкавых пахаванняў), назве мясцовасці, дзе ўпершыню выяўлены характэрныя паселішчы або могільнікі (нарвенская, сосніц-кая), назве народа, які пакінуў пасля сябе гэтыя помнікі (гота-гепідская), і інш.

Лічыцца, што носьбітамі пэўнай археалагічнай культуры былі роднасныя між сабой плямёны, якія размаўлялі на адной мове або на блізкіх дыялектах. Але гэта на-зіралася далёка не заўсёды. Аднак комплексны і параўнаўчы разгляд матэрыялаў ар-хеалагічнай культуры з улікам старажытных назваў вадаёмаў і даных пісьмовых крыніц, калі яны ўжо маюцца, — пакуль што адзіная магчымасць выяўлення этніч-ных супольнасцей эпохі першабытнага грамадства.

## ГЛАВА 1

# НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ Ў КАМЕННЫМ ВЕКУ

**Асаблівасці каменнага веку на Беларусі.** Найбольш працяглы, складаны, а нярэдка і драматычны перыяд мінулага чалавецтва — каменны век. На яго прыпадаюць і максімальнае пахаладанне апошняй сотні тысяч гадоў, калі 20—18 тысячагоддзяў назад наш край цалкам стаў непрыдатным для існаван-ня тут чалавека, і найбольшае пацяпленне 6 тысячагоддзяў назад з асабліва спрыяльнымі ўмовамі для ўсяго жывога. У ім былі і адчайная барацьба за вы-жыванне ў ледавіковую эпоху і, мабыць, гармонія з прыродай у цёплыя часы.

Са зменай умоў жыцця ў працэсе працоўнай дзейнасці мяняўся і чалавек — эвалюцыяніраваў яго інтэлект, удасканальваліся прылады працы і зброя, ус-кладняліся заняткі і побыт. З улікам гэтага навукоўцы падзяляюць каменны век на тры перыяды — старажытны каменны век — палеаліт (з гр. мовы палеа — старажытны, літас — камень), сярэдні каменны век — мезаліт (з гр. меза — ся-

рэдні) і новы каменны век — неаліт (з гр. неа — новы). Праз увесь каменны век пераважаюць вырабы з каменю (крэменю), аднак у кожным перыядзе маюцца свае адметнасці, а таксама з'яўляюцца новыя вызначальныя асаблівасці ў іншых праявах матэрыяльнай і духоўнай культуры і занятках.



Касцяная статуэтка маманта. Цэнтральная Еўропа

Галоўнай асаблівасцю палеаліту (каля 100 — 11/10 тысячагоддзяў назад) было існаванне першабытнага чалавека ва ўмовах ледавіковай эпохі, засяленне ім тэрыторыі краю, удасканаленне вырабаў — ад ручнога рубіла да наканечнікаў стрэл і касцяных гарпуноў, пераважна паляўнічы характар гаспадарання. У сваю чаргу і палеаліт з улікам дынамікі тагачаснага грамадства падзяляюць на ранні (так званая эпоха мусцье), які заканчваецца каля 40—35 тысячагоддзяў назад і адпавядае сярэдняму палеаліту ў агульнаеўрапейскай перыядызацыі, і позні. Апошнія тысячагоддзі старажытнакаменнага веку лічаць палеалітам фінальным, калі знікаюць маманты, чалавек вынаходзіць лук са стрэламі, цалкам і канчаткова засяляе амаль усю тэрыторыю сучаснай Беларусі.

На змену палеаліту прыходзіць мезаліт (9 — 5-е тысячагоддзі да н.э.), час істотнага пацяплення клімату, развіцця флоры і фауны сучаснага выгляду, шырокага распаўсюджання састаўных укладышавых прылад, выпрацоўкі пераважнай большасці тыпаў крамянёвых і касцяных вырабаў, максімальнай прадукцыйнасці прысвойваючай гаспадаркі — палявання, рыбалоўства і збіральніцтва.

Заключны перыяд каменнага веку — неаліт (5—3-е тысячагоддзі да н.э.). Ён характарызуецца паступовым набліжэннем клімату да сучасных параметраў, значным павелічэннем колькасці рубячых прылад, у тым ліку і з зашліфоўкай пад канец неаліту, паўсюдным з'яўленнем глінянага посуду — керамікі. Зараджаюцца і распаўсюджваюцца цалкам новыя і надзвычай важныя для чалавека вытвараючыя формы гаспадаркі — земляробства і жывёлагадоўля, якія істотна дапаўнялі традыцыйныя заняткі жыхароў лесу. Прыкметнае павелічэнне аб'ёмаў харчавання, яго большая разнастайнасць прывялі да значнага росту колькасці насельніцтва, якое пачало асвойваць новыя землі на берагах рэк і азёр. У неаліце жыхарства тэрыторыі Беларусі адчувала і ўспрымала моцныя ўплывы сярэднееўрапейскіх супольнасцей з даўнімі традыцыямі гадоўлі свойскай жывёлы і вырошчвання акультураных раслін.

## 1. Старажытны каменны век (палеаліт). Першапачатковае засяленне тэрыторыі

**Прыродныя ўмовы ледавіковай эпохі.** Фарміраванне чалавека як біялагічнага віду адбывалася ва ўмовах прыкметнага пахаладання клімату, а яго распаўсюджанне ў Еўропе прыпала і ўвогуле на ледавіковую эпоху. Зацяжныя халады, што доўжыліся многія дзесяткі тысяч гадоў, змяняліся пацяпленнямі, калі наступаў больш спрыяльны клімат. Гэтыя кліматычныя ваганні аб'ектыўна спрыялі эвалюцыі чалавека, вучылі яго прыстасоўвацца да розных экалагічных умоў, развівалі інтэлект, прымушалі вынаходзіць спосабы захаваць сваё жыццё.

Калі прыкладна 100 тысячагоддзяў назад з'явіліся першыя прыкметы наступлення апошняга паазерскага зледзянення, на тэрыторыі Беларусі паступова пачалі знікаць шыракалістыя лясы. Іх замянілі хваёва-бярозавыя пушчы, а з наступленнем больших халадоў, калі са Скандынавіі пасунуўся ледавік, пераважалі бярозавыя рэдкалессі. Часам халады на некалькі тысячагоддзяў адступалі і ўсталёўвалася часовае пацяпленне, калі распаўсюджваліся больш цеплалюбівыя расліны, але затым ледавік зноў рухаўся на поўдзень. Нарэшце 18 тысячагоддзяў назад ён дасягнуў максімальнай мяжы, якая пралягала ад раёна Гродна, на поўнач ад Вілейкі, на ўсход у раён Оршы.

Зямлю Беларусі ў гэты час скоўвала вечная мерзлата, а сярэднегадавая тэмпература была на некалькі градусаў ніжэйшая за сучасную. Перад ледавіком існаваў шырокі пас прыледавіковай пустэльні. На поўдзень прасціраліся тундра і халодны стэп з адпаведнай чэзлай расліннасцю. Толькі ў далінах рэк захоўваліся рэднія пералескі з карлікавай бярозы, вербаў, кустоўя. Адпаведным клімату і раслiннасці ў час паазерскага зледзянення быў і жывёльны свет, які складаўся з тыповых прадстаўнікоў тундры і лесатундры (паўночныя алені, пясцы, лемінгі, белыя курапаткі), лесу (высакародныя алені, бурыя мядзведзі, казулі, расамахі), стэпу (зубры, коні, зайцы-русакі, лісы, суслікі), а таксама жывёлін, што маглі існаваць у розных зонах. Асабліва характэрнымі для прыледавіковай фауны былі маманты і валасатыя насарогі — асноўны аб'ект палявання палеалітычных жыхароў.

У выніку прыкметнага пацяплення 15 тысячагоддзяў назад ледавік пачаў адступаць на поўнач, а да 14-га тысячагоддзя ён цалкам пакінуў тэрыторыю Беларусі. Наступіў позналедавіковы перыяд, калі, хоць і здараліся зацяжныя пахаладанні, усё мацнейшыя хвалі цяпла мянялі клімат, а адпаведна яму — раслінны і жывёльны свет. У цёплыя тысячагоддзі на тэрыторыю нашага краю наступаюць лясы, з пахаладаннямі часова вяртаюцца тундра і лесатундра.

Каля 12 тысячагоддзяў назад выміраюць або адступаюць на поўнач халадалюбівыя жывёлы, асабліва такія, як мамант. Валасаты насарог знік яшчэ раней. Позналедавіковы перыяд — час панавання на Беларусі паўночных аленяў, што становяцца асноўным паляўнічым аб'ектам людзей, якія зноў пачалі засяляць нашу тэрыторыю.

10 тысячагоддзяў назад з канчатковым таяннем ледавіковага покрыва нават на гарах Скандынавіі заканчваецца і ледавіковая эпоха.

**Спробы засялення краю неандэртальскім чалавекам.** Прарадзімай старажытнейшага чалавека з'яўляецца Усходняя Афрыка, магчыма, Паўднёвая Азія. Адсюль ён паступова распаўсюдзіўся па ўсім зямным шары, а каля 1 млн гадоў і на поўдзень Усходняй Еўропы. Каля 250—100 тысячагоддзяў назад чалавечыя супольнасці асвойваюць тэрыторыі на поўнач ад Каўказа. І толькі каля 100 тысяч гадоў назад яны пранікаюць да 55-й паралелі паўночнай шыраты, а значыць, поўдзень Беларусі мог трапляць у зону іх распаўсюджання. Гэтыя апошнія падзеі звязваюцца з панаваннем у Еўропе палеаантрапаў (неандэртальцаў).

Палеаантрапы (неандэртальцы) з'явіліся на зямлі больш за 100 тысячагоддзяў назад і праіснавалі ў Еўропе каля 70 тысяч гадоў. Іх рэшткі ўпершыню былі выяўлены ў 1856 г. у мясцовасці Неандэрталь паблізу Дзюсельдорфа ў Германіі.

Ва Усходняй Еўропе да гэтага часу выяўлена каля 600 стаянак і месцазнаходжанняў прылад працы неандэртальцаў. Найбліжэй да тэрыторыі Беларусі знаходзілася стаянка каля в.Хатылёва на Браншчыне.

На паўднёвым усходзе Беларусі знойдзена некалькі крамянёвых вырабаў архаічнага выгляду (каля вёсак Бердыж Чачэрскага, Абідавічы Быхаўскага, пас. Свяцілавічы Веткаўскага раёнаў), якія можна адносіць да ран-




Першапачатковае засяленне Беларусі:
А — край ледавіка; 1, 2, 3 — месцазнаходжанні раннепалеалітычных крамянёвых вырабаў; познапалеалітычныя стаянкі: а — Юравіцкая; б — Бердыжская (стрэлкі паказваюць шляхі засялення ў канцы ледавіковай эпохі)

непалеалітычнага (у адносінах да тэрыторыі Беларусі) часу. Калі гэта сапраўды так, то першымі жыхарамі Беларусі можна лічыць неандэртальцаў.

Вельмі верагодна, што некаторыя групы неандэртальцаў у адно з пацяпленняў маглі пранікнуць на паўднёвыя абшары Беларусі. Але да часу выяўлення рэштқаў саміх паселішчаў рана гаварыць аб іх доўгачасовым знаходжанні тут.

Па прапорцыях цела неандэртальцы былі блізкія да сучаснага чалавека, але іх чарапы яшчэ захавалі шмат прымітыўных рыс. Яны мелі невялікі рост (155—165 см), галовы з пакатым ілбом, выступаючымі надвочнымі валікамі



Бердыжская палеалітычная стаянка. Сучасны выгляд

і скошанай ніжняй сківіцай. Аб'ём іх мозга дасягаў у сярэднім 1500 см$^3$, што адпавядае паказчыкам сучаснага чалавека.

Неандэртальцы, якія наследавалі культуру папярэдняй эпохі, развівалі яе адпаведна патрабаванням часу. Найбольш распаўсюджанымі ў іх крамянёвымі прыладамі працы былі скрэблы, востраканечнікі і ручныя рубілы.

Галоўным заняткам тагачаснага чалавека былі паляванне і, магчыма, збіральніцтва. Здабывалі мамантаў, валасатых насарогаў, аўцабыкоў, паўночных аленяў, бізонаў, пясцоў і іншых жывёл, якія прызвычаіліся існаваць у суровых умовах прыледавіковай зоны. У той час ужо ўмелі будаваць жытло, абаграваць яго агнішчамі, шыць вопратку са скур пушных звяроў. Нават пачалі свядома хаваць памерлых суродзічаў з адпаведнымі магічнымі рытуаламі. Існуюць і доказы зараджэння мастацкай творчасці, найперш арнаментальнай.

**Культурна-гістарычныя працэсы ў познім палеаліце. Першыя паселішчы краманьёнцаў.** 40 — 35 тысячагоддзяў назад неандэртальцы знікаюць з гістарычнай сцэны. Іх выцеснілі людзі сучаснага антрапалагічнага тыпу — краманьёнцы.

У параўнанні з папярэднікамі краманьёнцы выраблялі значна больш разнастайныя і дасканалыя прылады працы, нарыхтоўкамі для якіх служылі пераважна крамянёвыя пласціны. Гэта былі наканечнікі коп'яў, нажы, скрабкі і скоблі, разцы, праколкі і свердлы, сякеры і цёслы і некаторыя іншыя вырабы. Часам асобныя прылады выраблядіся з костак або рагоў.

Маюцца несумненныя сведчанні, што краманьёнцы працяглы час засялялі паўднёвы ўсход Беларусі, гэта — рэшткі іх паселішчаў-стаянак.

Самае старажытнае паселішча выяўлена ў 1928 г. Ю.Попелем на тэрыторыі сучаснай в. Юравічы Калінкавіцкага раёна. Каля 26 тысяч гадоў назад невялікі калектыў першабытных паляўнічых пасяліўся тут на высокім левым беразе Прыпяці. Стаянка размясцілася ў нязначным, але зацішным ад халодных паўночных вятроў паніжэнні на мысе, утвораным схілам рачной даліны і ярам.

Мясцовыя жыхары выраблялі свае прылады працы з высакаякаснага крэменю. Ад крамянёвых канкрэцый яны ўмелі адшчапляць пласціны і адшчэпы, а з іх майстравалі скрабкі, якімі апрацоўвалі скуры ўпаляваных звяроў, пакрытыя плоскай рэтушшу нажы для мяса і расчлянення скур. Разцамі апрацоўвалі рогі і косткі і выраблялі з іх прылады. Некаторыя крамянёвыя вырабы былі дробных памераў. Гэта прымушае думаць, што яны маглі быць укладышамі ў састаўныя прылады з касцяной або драўлянай асновай, а некаторыя замацоўваліся ў рукаяткі.



Магчымыя спосабы ўжывання востраканечнікаў з Бердыжскай стаянкі

Калі меркаваць па адкапаных археолагамі на стаянцы касцяных рэштках, то вынікае, што яе жыхары палявалі на мамантаў, дзікіх коней, першабытных быкоў, пясцоў. Пры гэтым асноўным аб'ектам здабычы былі маманты. У даследаваных археолагамі раскопах (а гэта толькі невялікая частка паселішча) знойдзены рэшткі ад 20 такіх асобін. Буйныя косткі — біўні, тазавыя, лапаткі, рэбры выкарыстоўваліся пры будаўніцтве жытла, у якасці паліва, з іх выраблялі некаторыя прылады працы — сякеры, цёслы, долатападобныя інструменты, глянцавальнікі, іголкі і нават тлушчавыя свечкі.

Мяркуючы па характары крамянёвых вырабаў, першыя жыхары юравіцкай стаянкі перасяліліся на бераг Прыпяці з суседніх раёнаў Украіны.

З больш позніх часоў знаходжання краманьёнца на Беларусі паходзіць іншая стаянка, знойдзеная ў 1926 г. К.Палікарповічам на Пасожжы каля в. Падлужжа Чачэрскага раёна. У навуцы яна атрымала назву Бердыжскай. Яе жыхары выбралі для пасялення сухі ўчастак высокага берага ракі.

Дакладнае датаванне вугалю са стаянкі, зробленае з дапамогай радыевугляроднага аналізу, паказала, што людзі тут жылі каля 23 — 24 тысяч гадоў назад у самым канцы пацяплення, якое адбылося напярэдадні новага максімальнага наступу ледавіка.

Бердыжцы мелі даволі разнастайны набор крамянёвых прылад працы і паляўнічай зброі — нажы розных тыпаў, кінжалы, разцы, скрабкі, пласцінкі з рэтушаваным краем, сякерападобныя інструменты. Яны, калі меркаваць па знойдзеных падчас раскопак стаянкі костках, палявалі на мамантаў, валасатых насарогаў, паўночных аленяў, мядзведзяў, зуброў, коней, ваўкоў, а таксама на драбнейшых жывёл.


Спосабы апрацоўкі крэменю

Прылады працы мясцовага насельніцтва, і асабліва масіўныя востраканечнікі з бакавой выемкай, падобныя на вырабы, якімі карысталіся чалавечыя супольнасці на значных прасторах Усходняй і Сярэдняй Еўропы. Яны былі распаўсюджаны ад басейна Дона на ўсходзе і да Цэнтральнай Польшчы, Чэхіі і Аўстрыі на захадзе. Вучоныя аб'ядноўваюць гэтыя супольнасці ў касцёнкаўска-вілендорфскую археалагічную культуру.

Дакладна вызначыць, як былі спланаваны стаянкі каля Бердыжа і ў Юравічах, а таксама рэканструяваць выгляд жытла, якое там знаходзілася, не ўяўляецца магчымым. Справа ў тым, што летнімі часамі адтайвалі верхнія пласты зямлі і пачыналі павольна спаўзаць па вечнай мерзлаце на ніжэйшыя ўчасткі. Разам з імі перамяшчаліся і рэшткі жытла, у выніку чаго касцяныя канструкцыі і агнішчы поўнасцю разбурыліся. З улікам даследаванняў адначасовых палеалітычных стаянак Чарнігаўшчыны і Браншчыны можна меркаваць, што жытло будавалася пераважна з буйных костак маманта. У аснову акруглых або авальных канструкцый клалі масіўныя чарапы, тазавыя косткі, скіўіцы. Каркас даху ладзіўся з біўняў, жэрдак і злучаных між сабой рэбраў. Зверху ён, верагодна, накрываўся звярынымі скурамі. У жытле знаходзіліся доўгачасовыя адкрытыя агнішчы, на якіх палілі як дровы, так і свежыя косткі. Па-за жытлом размяшчаліся гаспадарчыя ямы-лядоўні, у якіх трымаліся запасы мяса.

Плошчы жыллёвых збудаванняў былі розныя — ад 15 да 50 м². Некаторыя падзяляліся на асобныя камеры. Такім чынам у іх магла памяшчацца адна вялікая або некалькі малых сем'яў. Некаторыя збудаванні, мяркуючы па знаходках, маглі служыць для выканання рэлігійных абрадаў.

**З'яўленне плямён паляўнічых на паўночных аленяў.** Каля 15 тысячагоддзяў назад пачалося адступанне апошняга ледавіка з тэрыторыі Беларусі, аднак клімат яшчэ заставаўся суровым і сярэднегадавыя тэмпературы былі на 2—4° С ніжэйшыя за сучасныя. Адпаведна і расліннасць мела элементы лясной, стэпавай і тундравай зон. Змены клімату і расліннасці вялі да змен у жывёльным свеце. Знікаюць такія буйныя жывёлы ледавіковай эпохі, як мамант і валасаты насарог, аднак паўночныя алені не толькі застаюцца, але робяцца дамінуючым відам у фауне канца ледавікоўя.

Перыяд валдайскага (паазерскага) позналедавікоўя ў гісторыі чалавецтва навукоўцы-археолагі адносяць да фінальнага палеаліту. Паселішчы (стаянкі) гэтага часу адлюстроўваюць пачатак новага этапу засялення нашага краю ў старажытнасці. Іх культурныя пласты, як правіла, залягаюць у пясчаных адкладах рачных і азёрных тэрас, на пясчаных дзюнах, што стала прычынай дрэннай захаванасці рэшткаў жыццядзейнасці тагачаснага чалавека. Таму пры раскопках археолагі знаходзяць на іх толькі каменныя прылады працы.

Існаванне тагачаснага насельніцтва адбывалася ў непарыўнай сувязі з навакольным асяроддзем. Асабліва вялікі ўплыў на чалавека аказваў клімат, пры гэтым як праз непасрэднае ўздзеянне цяплом, холадам, ападкамі, так і праз расліннасць і жывёльны свет, якія былі асноўнымі крыніцамі здабывання ежы.

Насельніцтва фінальнапалеалітычнага часу на тэрыторыі Беларусі адносілася да розных культурных супольнасцей (археалагічных культур). Першымі пасля адступання з тэрыторыі Беларусі ледавіка Падняпроўе засялілі найстаражытнейшыя плямёны грэнскай культуры, названай так па стаянцы каля в. Грэнск Чачэрскага раёна на Гомельшчыне. Найбольш значныя паселішчы, пакінутыя імі, знойдзены на правабярэжжы Дняпра каля Берасценава Аршанскага, Кісцянёў Рагачоўскага, Лудчыц Быхаўскага раёнаў, а таксама на суседняй Смаленшчыне. Пакуль што няма пэўнай думкі пра тое, адкуль жа на Падняпроўе прыйшло грэнскае насельніцтва. Адны




Рассяленне фінальнапалеалітычных і мезалітычных плямён:
1 — стаянкі насельніцтва лінгбійскай культуры; 2 — плямёны свідэрскай культуры; 3 — плямёны грэнскай культуры; 4 — плямёны кундскай культуры; 5 — плямёны днепра-дзяснінскай культуры; 6 — плямёны яніславіцкай культуры; 7 — плямёны нёманскай мезалітычнай культуры; 8 — стаянкі насельніцтва кудлаеўскай культуры

даследчыкі лічаць, што яго прарадзімай была Паўднёвая Прыбалтыка, іншыя — Паўночная Украіна (Сярэдняе Падняпроўе). Сярод паляўнічай зброі грэнцаў асабліва вылучаліся выраблены з адшчэпаў асіметрычныя наканечнікі стрэл. Шырока яны карысталіся разнастайнымі разцамі, якімі апрацоўвалі пераважна рогі і косці, невялікімі канцавымі і акруглымі скрабкамі. Сярод іх крамянёвага інвентару былі таксама праколкі, скоблі, авальныя сякеры і некаторыя іншыя тыпы прылад. Усё гэта выраблялася з мясцовага крэменю, які збіралі на рачных узбярэжжах і крэйдавых адкладах. Некаторыя прылады былі кварцытавымі. Несумненна, што ва ўжытку грэнцаў былі і касцяныя прылады, але яны не захаваліся да нашых дзён.

Паўднёвы захад і захад Беларусі ў фінальнапалеалітычны час засялілі плямёны свідэрскай культуры (названа па даследаванай стаянцы каля в. Свідры Вельке на Сярэднім Павісленні ў Польшчы). Рэшткі іх паселішчаў знойдзены на берагах Верхняй Прыпяці, на Сярэднім і Ніжнім Панямонні, у Паўднёвай і Паўднёва-Заходняй Літве, у Цэнтральнай і Усходняй Польшчы, на паўночным захадзе Украіны. Найбольш значныя помнікі даследаваліся каля сучасных вёсак Бабровічы Івацэвіцкага, Валеўка Навагрудскага, Заазер'е Пінскага, Опаль Іванаўскага раёнаў у Беларусі, Нобель Зарэчненскага раёна на Украіне. Асобныя групы свідэрцаў даходзілі ажно да Дняпра. Пра гэта сведчыць выяўленая іх стаянка каля в. Янава Быхаўскага раёна.

Калі грэнцы звычайна свае прылады працы выраблялі пераважна з крамянёвых адшчэпаў, то свідэрцы для гэтых мэт выкарыстоўвалі пласцінкі. У выніку прылады працы ў іх часам атрымліваліся значных памераў. Сярод паляўнічай зброі свідэрцаў звяртаюць на сябе ўвагу доўгія лазалістай формы наканечнікі стрэл, нярэдка з выяўленымі чаранкамі, з дапамогай якіх яны замацоўваліся ў драўляных стрэлах. У іх інвентары было таксама шмат разнастайных пласцінчатых нажоў, разцоў, скрабкоў, праколак. Для апрацоўкі дрэва і разбірання туш дзічыны служылі крамянёвыя авальныя і са звужэннем на корпусе сякеры.

У фінальнапалеалітычны час на захад Беларусі пранікалі групы насельніцтва і іншых археалагічных культур. Так, на сярэднім цячэнні Росі ў наваколлі сучаснага пасёлка Краснасельскі Ваўкавыскага раёна пэўны час жылі носьбіты лінгбійскай і арэнсбургскай культур. Лінгбійцы сюды трапілі з Паўднёвай Прыбалтыкі. Іх асноўным паляўнічым узбраеннем былі лукі са стрэламі, наканечнікамі для якіх служылі масіўныя лістападобныя вастрыі з тоўстымі чаранкамі, падпраўленымі рэтушшу толькі са спінкі. Для іх крамянёвых прылад працы былі характэрны таксама сярэдзінныя разцы на масіўных адшчэпах, акруглыя скрабкі. Лінгбійскае паселішча выяўлена і на Верхняй Прыпяці каля в. Опаль Іванаўскага раёна.

Групы арэнсбургскага насельніцтва трапілі на захад Беларусі пазней за лінгбійскае. Для яго старажытнасцей характэрны больш разнастайны і некалькі драбнейшы крамянёвы інвентар. Больш дасканалымі сталі і наканечнікі стрэл.

Для сваіх стаянак людзі фінальнапалеалітычнага часу выбіралі сухія месцы на карэнным беразе або на ўчастках надпоймавых тэрас буйнейшых рэк — Дняпра, Нёмана, Прыпяці. На гэты час археолагі знайшлі крыху больш за 20 такіх паселішчаў. Такая невялікая іх колькасць тлумачыцца надзвычай слабым засяленнем тэрыторыі краіны. Гэта быў час, калі пасля доўгага перапынку чалавек толькі пачаў зноў засяляць нашы землі, дзе існавалі яшчэ даволі суровыя прыродныя ўмовы. Адсутнасць на стаянках тоўстых культурных напластаванняў, рэшткаў вялікіх доўгачасовых збудаванняў і невялікая колькасць знаходак сведчаць, што чалавечыя калектывы былі не толькі маларлікімі, але і часта перамяшчаліся з месца на месца. Таму стаянкі былі пераважна месцамі іх кароткачасовага знаходжання.

Плошчы паселішчаў былі невялікія. Жытло будавалася з жэрдак, накрывалася, відавочна, карой або скурамі і было ў плане авальным або акруглым. У прыватнасці на стаянцы Берасценава Аршанскага раёна выяўлены рэшткі двух авальных збудаванняў плошчай 3 х 2,5 і 2,5 х 2,15 м, побач знаходзілася даўжэйшае жытло (5,25 х 2,5 м). На стаянцы каля в. Лудчыцы Быхаўскага раёна знойдзены рэшткі жытла, блізкага да акруглай формы. Усе даследаваныя археолагамі збудаванні на 20—30 см заглыбляліся ў зямлю. Навокал размяшчаліся агнішчы і гаспадарчыя ямы, у якіх, верагодна, захоўваліся харчовыя запасы.

На добра захаваных стаянках пры раскопках выяўляюцца скапленні крамянёвых прылад працы і адыходаў іх вытворчасці. Пры гэтым у кожным скапленні сустракаецца поўны набор прылад, а гэта сведчыць, што такія скапленні ўтварыліся на месцы пражывання асобнай сям'і. Кожная такая ячэйка магла налічваць у сярэднім 5—7 чалавек. Некалькі такіх сем'яў (каля 5—7) складалі першабытную абшчыну з колькасцю членаў у 25—30 асоб.

У фінальнапалеалітычны час чалавек асвоіў узбярэжжы буйнейшых вадаёмаў. У вярхоўі рэк і на водападзелы ён яшчэ не трапляў. Не было заселена пакуль што і Падзвінне.

## 2. Сярэдні каменны век (мезаліт). Засяленне краю плямёнамі паляўнічых, рыбакоў і збіральнікаў

**Пацяпленне клімату. Асаблівасці эпохі.** Мезаліт (сярэднекаменны век) у лясной зоне Усходняй Еўропы датуецца 9 — 5-м тысячагоддзямі да н.э. і ў археалагічнай перыядызацыі займае месца паміж палеалітам і неалітам.

Гэта быў час далейшых змен прыроднага асяроддзя, калі адбыўся паступовы пераход ад позналедавікоўя да максімальна спрыяльных кліматычных умоў, якія наступілі 7—6 тысячагоддзяў назад у так званы кліматычны оптымум. На змену халоднаму тундраваму стэпу прыйшлі лясныя масівы. У іх спачатку пераважалі бярэзнікі і хвойнікі, потым з'явіліся шыракалістыя лясы. Змяніўся і жывёльны свет. Паўночныя алені адышлі на поўнач услед за адступаючай тундрай. Іх месца занялі ласі, мядзведзі, дзікі і іншыя лясныя жывёлы. Шырока вядомыя ў гэты час высакародныя алені і туры. Значна павялічваецца колькасць птушак, асабліва вадаплаўных. У Паўднёвай і Цэнтральнай Беларусі ў цэлым гідраграфічная сетка была падобная на сучасную, на поўначы ўзнікаюць шматлікія азёры, рэкі выпрацоўваюць свае рэчышчы.





Спосабы выкарастання крамянёвага скрабка і разца

Змены клімату, расліннага і жывёльнага свету моцна паўплывалі на ўсе бакі жыццядзейнасці мезалітычнага чалавека. Мяняюцца спосабы палявання, з'яўляюцца новыя формы і тыпы паляўнічай зброі і прылад працы, удасканальваецца тэхніка іх апрацоўкі. Большае месца ў жыцці чалавека займае рыбалоўства. Ва ўмовах максімальна спрыяльнага клімату, які ўсталяваўся к канцу эпохі, значнага росту аб'ёмаў біямасы асабліва эфектыўнай робіцца прысвойваючая, у тым ліку і збіральніцкая гаспадарка.

На сённяшні час на тэрыторыі Беларусі знойдзена больш за 120 мезалітычных паселішчаў. А гэта значыць, што засяленне краю значна павялічылася ў параўнанні з фінальнапалеалітычнай эпохай. Большасць такіх помнікаў выяўлена на ўзбярэжжах Дняпра, Прыпяці, Нёмана і на іх буйнейшых прытоках. Менш стаянак вядома ў Цэнтральнай Беларусі і на Падзвінні.

Мезалітычны чалавек свае паселішчы-стаянкі ладзіў на краях надпоймавых рачных тэрас або карэннага берага, а таксама на паплаўных пясчаных узвышэннях непадалёку ад рачных старыц і затак. Прыцягвалі яго ўвагу і ўзбярэжжы некаторых буйнейшых азёр. Адным з галоўных патрабаванняў пры выбары месца жыхарства была блізкасць багатага рыбай вадаёма і радовішчаў крэменю, на якіх атрымлівалі сыравіну для вырабу прылад працы.

Стаянкі адрозніваліся паміж сабой па памерах і характары выкарыстання першабытным чалавекам. Пэўная родавая абшчына будавала асноўнае базавае паселішча з доўгатэрміновым жытлом, дзе магло знайсці прытулак некалькі дзесяткаў чалавек. Такія пастаянныя паселішчы знойдзены каля сучасных вёсак Бароўка Быхаўскага, Ворнаўка Кармянскага, Берагавая Слабада Рэчыцкага, Горкі Чэрыкаўскага раёнаў і ў іншых мясцінах. Сезонныя стаянкі былі невялікія па плошчы і іх выкарыстоўвалі кароткі час нешматлікія групы паляўнічых або асобныя сем'і. У месцах, багатых крамянёвай сыравінай, ствараліся спецыяльныя майстэрні, на якіх вялася крэмнеапрацоўка. Тут сустракаецца мноства крамянёвых адыходаў — розных абломкаў, адшчэпаў, нявыкарыстаных пласцінак, а таксама крамянёвыя ядрышчы-нуклеусы, з якіх атрымлівалі нарыхтоўкі для вырабу прылад працы.

Жытлом мезалітычных людзей на Беларусі былі даволі лёгкія збудаванні, аснову якіх складалі канструкцыі з жэрдак. Яны былі акруглыя ў плане дыяметрам каля 5 м (стаянка Стасеўка Бабруйскага раёна) або падпрамавугольныя. Такое жытло выяўлена на паселішчы каля Берагавой Слабады. Яно мела памеры 4,3х3,8 м і было апушчана ў зямлю на глыбіню 0,3 м. Каля жытла знаходзіліся агнішча і некалькі, мабыць, гаспадарчых ям.

**Мезалітычныя плямёны на тэрыторыі Беларусі.** У мезалітычны час на тэрыторыі Беларусі адбываліся этнакультурныя працэсы значна больш складаныя, чым у папярэднюю эпоху.

У пачатку мезаліту Падняпроўе працягвала засяляць насельніцтва грэнскай культуры. На сёння знойдзена больш за 10 паселішчаў, пакінутых ім, пры гэтым адно ва Усходнім Падзвінні, што гаворыць аб пранікненні часткі грэнцаў у басейн суседняй ракі.

Матэрыяльная культура грэнскага мезалітычнага насельніцтва на раннім этапе свайго развіцця шмат у чым наследавала традыцыі фінальнапалеалітычнага часу. Сярод паляўнічай зброі па-ранейшаму найбольш характэрнымі былі асіметрычныя (з аднабаковай выемкай на чаранку) наканечнікі



Мезалітычная касцяная зброя з пазамі для крамянёвых уставак: кінжал, гарпун і наканечнікі стрэл. Возера Вячэра Любанскага раёна

стрэл. Адначасова пачалі выкарыстоўваць і наканечнікі іншых тыпаў. Адыход паўночных аленяў прывёў і да знікнення касцяных гарпуноў і наканечнікаў коп'яў з пазамі для крамянёвых укладышаў. У сувязі з гэтым меншая ўвага пачала надавацца апрацоўцы костак і рагоў, адпаведна зменшылася і колькасць крамянёвых разцоў. Адначасова ў крамянёвым інвентары павялічваецца значэнне скрабкоў, скобляў, сякер. Іх, асабліва скоблі і сякеры, выкарыстоўвалі пры апрацоўцы дрэва.

Грэнскія паселішчы раннемезалітычнага часу знойдзены на Дняпры каля вёсак Бароўка і Дальняе Ляда Быхаўскага раёна, пад Оршай, на Бярэзіне каля Гуты Бярэзінскага раёна, на Сожы каля Ворнаўкі (Грэнск) Кармянскага раёна.

У познамезалітычны час (6—5-е тысячагоддзі да н.э.) пры захаванні большасці з традыцыйнага набору крамянёвага інвентару грэнцы пачынаюць шырока выкарыстоўваць дробныя крамянёвыя ўкладышы, якім з дапамогай рэтушы нярэдка надаваліся геаметрычныя формы. Укладышы выкарыстоўваліся для вырабу састаўных прылад з касцяной асновай.

Рэшткі жыццядзейнасці познамезалітычнага грэнскага насельніцтва захаваліся на дняпроўскіх стаянках — каля г. Рэчыца, в. Рэкорд Лоеўскага раёна, а таксама ў некаторых іншых месцах.

Гістарычны лёс грэнскага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі пакуль што не высветлены. Вядома толькі, што частка яго яшчэ каля 10 тысячагоддзяў назад прасунулася па Верхнім Дняпры ў Волга-Окскае міжрэчча, дзе сфарміравала некалькі адметную супольнасць, названую археолагамі іенеўскай культурай. Пазней іншыя групы грэнцаў праніклі на паўднёвы ўсход і пасяліліся ў басейне Дзясны, дзе культура іх таксама пэўным чынам змянілася.

Праз увесь мезалітычны час на Беларускім Падняпроўі і ва Усходнім Палессі жылі плямёны днепра-дзяснінскай культуры (культуру часткі гэтага насельніцтва некаторыя даследчыкі называюць сожскай). Гэтыя плямёны пачалі складвацца ў супольнасць яшчэ каля 10,5 тысячагоддзяў назад у выніку змешвання нашчадкаў лінгбійскага насельніцтва і носьбітаў свідэрскай культуры.

На тэрыторыі Беларусі знойдзена больш за 30 стаянак, на якіх калісьці жыло насельніцтва днепра-дзяснінскай культуры. Найбольш багатыя знаходкамі паселішчы на Сожы — Аўрамаў Бугор Веткаўскага, Кліны-2 Слаўгарадскага, Горкі Чэрыкаўскага раёнаў, на Дняпры — Баркалабава Быхаўскага, Берагавая Слабада Рэчыцкага раёнаў і інш. Асабліва характэрнымі знаходкамі пры раскопках гэтых стаянак былі наканечнікі стрэл з пераджытачнымі свідэрскімі і лінгбійскімі рысамі, рознатыповыя разцы і скрабкі, авальныя і з перахопам на корпусе сякеры. Большасць прылад выраблялася з пласцінак.

На позняй стадыі свайго развіцця днепра-дзяснінскае насельніцтва пры вырабе прылад працы і зброі пачынае ўсё часцей выкарыстоўваць прылады дробных памераў, асабліва трапецыі і прамавугольнікі .

У пэўных рэгіёнах Падняпроўя днепра-дзяснінцы суседзілі з грэнскім насельніцтвам, аднак характар іх узаемадачыненняў пакуль што не высветлены. А вось гістарычны лёс познамезалітычных жыхароў стаянак паміж Дняпром і Дзясной больш вядомы — яны засталіся тут і ў наступную неалітычную эпоху, а іх культура ў значнай ступені стала асновай для фарміравання верхнедняпроўскай неалітычнай супольнасці.

Поўнач Беларусі ў мезаліце засялялі плямёны кундскай культуры (названа так па характэрнай стаянцы каля г.Кунда ў Эстоніі). На Беларускім Паазер'і знойдзены пакуль што толькі тры кундскія стаянкі — на ўзбярэжжах Дзвіны каля вёсак Замошша Верхнядзвінскага і Крумплева Полацкага раёнаў, а таксама на возеры Суя каля в. Плусы Полацкага раёна. Большасць даследчыкаў лічыць, што кундская культурная супольнасць у значнай ступені сфарміравалася ў выніку міграцыі свідэрскіх плямён у Паўднёва-Усходнюю Прыбалты-

ку. Аб гэтым сведчыць ужыванне кундскімі паляўнічымі пласцінавых наканечнікаў стрэл з перажытачнымі свідэрскімі рысамі. Выкарыстоўвалі яны і некаторыя іншыя наканечнікі, разцы на спецыяльна зламаных пласцінках, пакароченыя скрабкі. На ўвогуле бедных на крамянёвыя запасы тэрыторыях кундскае насельніцтва шырока выкарыстоўвала для вырабу прылад працы і зброі рогі і косткі. У прыватнасці майстраваліся рагавыя кінжалы, наканечнікі коп'яў і стрэл з пазамі, у якія ўстаўляліся апрацаваныя па краях дробныя пласцінкі.


Рагавая матыка і сякера. Смаргонскі кар'ер

Пакуль што невядома, якія пахавальныя абрады існавалі сярод большасці мезалітычных плямён Беларусі. А вось кундскія магілы ў Прыбалтыцы знойдзены. Мясцовае насельніцтва сваіх нябожчыкаў хавала ў ямах у выпрастаным становішчы з рознай арыентацыяй. У яму клаўся адзін памерлы або нават некалькі. Калі ж магіла выкарыстоўвалася шматразова, то пахаванні маглі размяшчацца нават ярусамі. Нябожчыкаў часта пасыпалі вохрай. Клалі ў магілы і прылады працы.

Кундскае насельніцтва як у Прыбалтыцы, так і на Беларусі датрывала ажно да канца мезаліту і стала асновай — субстратам — для мясцовай неалітычнай супольнасці.

На працягу ўсяго мезаліту захад Беларусі, а таксама пэўныя рэгіёны поўдня і поўначы засялялі плямёны нёманскай культуры, якія месцамі суіснавалі з іншакультурнымі групамі. Яны сфарміраваліся з нашчадкаў аўтахтоннага познасвідэрскага насельніцтва і груп перасяленцаў з больш заходніх тэрыторый.

Нёманцы карысталіся лістападобнымі і чаранковымі наканечнікамі стрэл, блізкімі да свідэрскіх, ланцэтападобнымі вастрыямі, а таксама прыладамі, тыповымі для іншых мезалітычных плямён Беларусі. У пазнейшыя перыяды развіцця насельніцтва нёманскай культуры пачало шырока карыстацца living рознымі мікралітамі, у тым ліку і ўкладышамі-трапецыямі. Мяркуючы па знаходках са стаянак, дзе захавалася арганіка, яно ўжывала і вырабы з косці і рога — выцягнутыя наканечнікі стрэл, гарпуны з зубцамі па краях, розныя вастрыі, кінжалы. На Панямонні стаянкі носьбітаў нёманскай культуры выяўлены каля Беліцы і Зблян Лідскага, Нясілавіч Дзятлаўскага раёнаў, на Дзвіне каля Сямёнавага Хутара Полацкага раёна. Трапляла гэта насельніцтва і на Верхнюю Прыпяць. Усяго на сёння археолагамі даследавана больш за 10 іх паселішчаў.

Носьбіты нёманскай культуры на захадзе Беларусі жылі да самага канца мезаліту і прымалі затым удзел у фарміраванні супольнасці нёманскай неалітычнай культуры.

У познім мезаліце на паўднёвы ўсход Беларусі з тэрыторыі суседняй Украіны пранікла даволі нешматлікія групы носьбітаў кудлаеўскай культуры (названа па стаянцы Кудлаеўка на Сярэднім Падняпроўі). Яны ў цэлым карысталіся інвентаром, характэрным і для іншых познамезалітычных плямён, аднак у іх ужытку былі і асаблівыя тыпы прылад — скошаныя крутой рэтушшу па краі адшчэпы (вастрыі кудлаеўскага тыпу), пласцінкі з затупленым рэтушшу краем. Найбольш ранняй на Беларусі кудлаеўскай стаянкай лічыцца Азярное ў Любанскім раёне. Матэрыял жа з паселішча Рэчыца-2 на

Дняпры характарызуе завяршальную стадыю знаходжання гэтага насельніцтва на нашай тэрыторыі.

Лічыцца, што кудлаеўская супольнасць сфарміравалася на аснове нашчадкаў носьбітаў камарніцкай культуры, якія ў раннім мезаліце знаходзіліся на тэрыторыі Польшчы і Заходняй Беларусі, а пазней часткова перасяліліся ў паўднёва-ўсходнім кірунку.

На значнай тэрыторыі Беларусі, асабліва ў яе паўднёвай частцы, жыло насельніцтва яніславіцкай культуры (названа па пахаванні каля Яніславіцы ў Цэнтральнай Польшчы). Яніславіцкія стаянкі вядомыя на Дняпры (Старая Лутава Лоеўскага раёна), Бярэзіне (Красноўка Светлагорскага раёна), Прыпяці (Ляскавічы Петрыкаўскага раёна), у басейне Нёмана (Дабрынёва Івацэвіцкага, Нясілавічы Дзятлаўскага, Беліца Лідскага раёнаў). Усяго на Беларусі вядома больш за 10 паселішчаў яніславіцкага насельніцтва.

Найбольш характэрнымі для яніславіцкіх крамянёвых вырабаў з'яўляліся ланцэтападобныя вастрыі, якія найчасцей ужываліся як наканечнікі стрэл, доўгія трохвугольныя ўкладышы са стромкай краявой рэтушшу.

Яніславіцкае насельніцтва ў некаторых рэгіёнах і асабліва на перыферыі свайго рассялення жыло ўпярэмешку з супольнасцямі іншых культур, уступаючы з імі ў розныя формы ўзаемаадносін. Яго паходжанне звязваецца з маглемозскім мезалітычным насельніцтвам Паўднёвай Прыбалтыкі, а гістарычным лёсам стаў удзел у фарміраванні некаторых неалітычных культур Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Месцамі, як, напрыклад, на Нарачанскіх азёрах, жылі групы насельніцтва са сваімі асаблівасцямі культуры, якія ўзніклі ў выніку складаных працэсаў змешвання і ўзаемаасіміляцыі.

## 3. Плямёны на тэрыторыі Беларусі ў новым каменным веку (неаліце)

**Асаблівасці эпохі.** Каля 6 тысячагоддзяў назад у развіцці грамадства каменнага веку на Беларусі пачынаецца заключны этап — неаліт, новы каменны век, характэрны радыкальнымі зменамі ў гаспадарцы, матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Лічыцца, што тыповае неалітычнае грамадства Еўропы вызначаецца чатырма галоўнымі асаблівасцямі — з'яўленнем земляробства, жывёлагадоўлі, глінянага посуду і шліфаваных каменных вырабаў. Але, як паказваюць даследаванні археолагаў, гэтыя складальнікі неалітычнай культуры далёка не заўсёды выступаюць адначасова. Вядома, што на ўсходзе і поўначы Прыбалтыкі мясцовае насельніцтва ўмела шліфаваць свае каменныя сякеры, долаты і цёслы яшчэ з пачатку сярэдняга каменнага веку (мезаліту), а з вытвараючымі формамі гаспадаркі пазнаёмілася толькі ў эпоху бронзы. І наадварот, некаторыя супольнасці Міжземнамор'я, якія рана перайшлі да жывёлагадоўлі і земляробства, доўгі час не выраблялі керамічны посуд.

Свае асаблівасці былі і на Беларусі. Тут вытвараючыя формы гаспадаркі на поўдні краіны сталі шырока вядомыя ў сярэдні перыяд неаліту, а можа, і раней, а на Падзвінні — у позні. Шліфаванне крэменю таксама распаўсюдзілася ў канцы эпохі, найперш са з'яўленнем тут цэнтральнаеўрапейскіх находнікаў. А вось гліняным посудам (керамікай) на нашай тэрыторыі пачалі карыстацца з першай паловы 4-га тысячагоддзя да н.э., а на Палессі і раней — з канца папярэдняга тысячагоддзя.

Менавіта з факту з'яўлення керамікі, як лічаць даследчыкі, і пачынаецца новы каменны век на Беларусі. Такой жа думкі прытрымліваецца пры выз-




Рассяленне неалітычных плямён:

1 — плямёны ранняга этапу нёманскай культуры; 2 — плямёны позняга этапу нёманскай культуры; 3 — плямёны днепра-данецкай культуры; 4 — плямёны верхнедняпроўскай культуры; 5— плямёны нарвенскай культуры; 6 — могільнікі і паселішчы насельніцтва культуры шарападобных амфар; 7 — плямёны культуры грабеньчата-ямкавай керамікі

начэнні пачатку неалітычнай эпохі і большасць даследчыкаў-археолагаў суседніх усходнееўрапейскіх краін[1].

З'яўленне глінянага посуду стала паказчыкам важных гаспадарчых змен у грамадстве паляўнічых і рыбаловаў. Справа ў тым, што 7—6 тысячагоддзяў назад, калі клімат на Беларусі дасягнуў найбольш спрыяльных для жывёльнага і раслиннага свету параметраў, у распараджэнні чалавека з'явілася вялікая колькасць дзікарослай расліннай ежы — лясных і вадзяных арэхаў, жалудоў, прыдатных да яды каранёў і іншых частак раслін, грыбоў, ягад і г.д., большасць якой найлепш спажываецца ў прыгатаваным у посудзе выглядзе. Акрамя таго, большыя пасудзіны сталі зручным начыннем для захоўвання сыпучых раслінных прадуктаў, такіх, як арэхі і ягады.

Доўгая традыцыя вядзення збіральніцкай гаспадаркі прывяла да выпрацоўкі яе рацыянальных форм, калі ў прыватнасці пачалі аберагаць багатыя пладамі ягаднікі і арэшнікі, участкі рэк і азёр з зараснікамі водных ядомых раслін.

Вельмі багатая і разнастайная флора канца мезаліту — пачатку неаліту дадатна паўплывала на развіццё жывёльнага свету — адзінай крыніцы мясной ежы чалавека. К гэтаму часу ў паляванні і рыбалоўстве таксама выпрацаваліся рацыянальныя формы іх вядзення, напрыклад захаванне маладняку, незабіванне цельных самак жывёл і г.д.

[1]Неолит северной Евразии. М., 1996. С. 6.

Багацце раслiннага i жывёльнага свету, удасканаленне паляўнiчай зброi i рыбацкiх прыстасаванняў, развiццё спосабаў здабычы спажывы ў суме давалi такую колькасць ежы, што не было патрэбы ўводзiць земляробства i жывёлагадоўлю, тым больш што для заняткаў iмi ў лясной зоне патрабавалася значна больш намаганняў, чым для прысвойваючых форм гаспадарання.

Такiм чынам, найпершай адзнакай неалiтызацыi старажытнага грамадства на Беларусi стала з'яўленне керамiчнага посуду. Што ж датычыць земляробства i жывёлагадоўлi, то на поўднi Беларусi iх прымiтыўнейшыя формы маглi распаўсюджвацца ўжо з пачатку неалiту, на Падзвiннi ж i, мабыць, на Верхнiм Дняпры гэтыя заняткi сталi вядомыя толькi ў позні перыяд эпохi.

Пакуль не зусiм зразумела, якiм менавiта чынам сярод раннененеалiтычнага насельнiцтва Беларусi з'явiлася керамiка. Першыя гаршкi з розных рэгiёнаў нашага краю мiж сабой даволi падобныя. Яны ўсе вастрадонныя, маюць у сценках валакнiстыя раслiнныя дамешкi, пад краем венцаў аздоблены поясам глыбокiх круглых ямак, а па сценках — сцiплымi ўзорамi з гарызантальных паясоў грабеньчатых адбiткаў, насечак, пракрэсленых рысак i розных наколаў. Пэўнае адасабленне адчуваецца на поўначы Беларусi, дзе нарвенскае насельнiцтва карысталася посудам з дамешкай тоўчаных ракавiн.

Калi меркаваць па глiняным посудзе, вынiкае, што ў заходняй частцы Усходняй Еўропы ў ранненеалiтычны час iснавала зона распаўсюджання ў рознай ступенi родасных мiж сабою плямён з блiзкiмi рысамi матэрыяльнай культуры, што найбольш праяўлялася ў керамiцы, рэшткi жыццядзейнасцi якiх утваралi вобласць культур з грабеньчата-накольчатай керамiкай[1]. Паўночны ўсход гэтай зоны займалi плямёны верхняволжскай культуры, усход — верхнедняпроўскай, захад — нёманскай, поўдзень — днепра-данецкай, поўнач — нарвенскай. Апошнiя, як адзначалася, былi некалькi культурна адасоблены ад сваiх больш паўднёвых i паўднёва-ўсходнiх суседзяў. У цэлым уся гэта вобласць 6 — 5 тысячагоддзяў назад займала тэрыторыi ад Фiнскай затокi на поўначы да дняпроўскiх парогаў i правабярэжных прытокаў Прыпяцi на поўднi i ад Прыпяцка-Бугскага мiжрэчча на захадзе да левабярэжных прытокаў Верхняга Дняпра i да Верхняй Волгi на ўсходзе.

Калi параўноўваць керамiку плямён адзначанай зоны i суседнiх падобных зон, у прыватнасцi Паўночнага Прычарнамор'я, дзе найбольш рана адбылася неалiтызацыя, то нябачна прамых запазычанняў, асаблiва ў тэхналогii вырабу посуду, у iх арнаментыцы. А гэта сведчыць, што ранненеалiтычныя жыхары Беларусi i суседнiх зямель найперш самастойна падышлi да керамiчнай вытворчасцi.

У неалiце дасягнула росквiту апрацоўка крэменю. З яго выраблялi высакаякасныя прылады працы i зброю: нажы i кiнжалы, скрабкi, скоблi i скрэблы, праколкi i свердлы, разцы, наканечнiкi стрэл i коп'яў, долаты, сякеры. Крамянёвымi ж былi i некаторыя прыстасаваннi для яго апрацоўкi — рэтушоры, адцiскальнiкi i нават адбойнiкi. Большасць форм прылад i зброi была распрацавана яшчэ ў мезалiце i нават раней, але новы час прынёс пэўнае пашырэнне асартыменту i ўдасканаленне тэхналогii. Найперш звяртае ўвагу распаўсюджанне трохвугольных наканечнiкаў стрэл, што стала вынiкам паўднёвых i паўднёва-заходнiх уплываў i сведчыла пра пашырэнне ўзброеных сутыкненняў. У той жа час кансерватыўныя неалiтычныя супольнасцi Падзвiння i Верхняга Падняпроўя па-ранейшаму карысталiся найбольш прыдатнымi для палявання лiстападобнымi наканечнiкамi стрэл, хоць i пачалi iх апрацоўваць—рэтушаваць па ўсёй паверхнi. У неалiце, асаблiва ў яго пазнейшыя перыяды, вельмi распаўсюджанымi сталi рубячыя прылады, без якiх было не абысцiся пры занятках земляробствам у зоне суцэльных лясоў i хмызнякоў. Форма сякер становiцца функцыянальна выверанай. Яны набываюць выпук-

---

[1] *Телегiн Д.Я* Днiпро-донецька культура. Київ, 1968. С. 223.

лае пашыранае лязо, ахайна апрацаванае падчэсваннем, і патончаны абушок, якім прылада замацоўвалася ў драўляным або касцяным дзяржанні. Павялічваецца колькасць і розных цёслаў і долатаў, якія служылі чалавеку пры вырабе чоўнаў-аднадрэвак і драўлянага начыння. Некаторыя сякеры і цёслы, асабліва іх лёзы, у познім неаліце пачалі прышліфоўвацца.

І ў неаліце некаторыя прылады, а таксама частка паляўнічай зброі майстраваліся з рога і косці. Гэты матэрыял асабліва выкарыстоўваўся для вырабу розных побытавых рэчаў.

У познім неаліце некаторыя супольнасці, што жылі на захадзе Беларусі, упершыню перайшлі да здабычы крэменю з зямных глыбінь. Крэмнездабыўныя шахты гэтага часу — выдатнейшая з'ява вытворчай культуры тагачасных насельнікаў Беларусі.

Спрыяльны клімат, максімальна паспяховае развіццё паляўніча-рыбацка-збіральніцкай гаспадаркі самым дадатным чынам паўплывалі на прырост насельніцтва, што заўважылася ўжо ў раннім неаліце. Распаўсюджанне ў пазнейшыя часы вытвараючых форм гаспадаркі паскорыла гэту з'яву. Дэмаграфічныя працэсы наглядна праявіліся ў рэзкім павелічэнні колькасці неалітычных паселішчаў, якіх на сёння беларускімі археолагамі выяўлена да паўтары тысячы. У асабліва багатых зверам і рыбай месцах яны ўтваралі цэлыя скапленнні.

Пры даследаванні старажытнейшых стаянак пакуль што не выўлена, каб на мяжы мезалітычнай і неалітычнай эпох на тэрыторыю Беларусі пранікла нейкае новае насельніцтва. Матэрыяльная культура, а найперш крамянёвыя вырабы, якімі карысталіся ранненеалітычныя жыхары на Падняпроўі, Прыпяці, Нёмане і Дзвіне, шмат у чым падобная да той, якая была характэрнай для мясцовага насельніцтва і ў папярэдні познамезалітычны час. Таму вынікае, што грамадства канца сярэднекаменнага веку натуральным шляхам, пад уздзеяннем не ў апошнюю чаргу кліматычных змен і магчымых уплываў з больш развітых у гаспадарчых і культурных адносінах рэгіёнаў Сярэдняй і Паўднёвай Еўропы, трансфармавалася ў грамадства ранненеалітычнае.

Такім чынам, познамезалітычныя плямёны Паўднёва-Усходняй Беларусі дняпроўска-дзяснінскай (сожскай) культуры былі прамымі продкамі насельніцтва верхнедняпроўскай неалітычнай культуры, плямёны Усходняга Палесся — мясцовага варыянта днепра-данецкай культуры. На захадзе Беларусі познамезалітычная культура трансфармавалася ў нёманскую неалітычную. А на поўначы краю, як і ва ўсёй Паўднёва-Усходняй Прыбалтыцы, на аснове плямён кундскай культуры сфарміравалася ранненеалітычная супольнасць нарвенскай культуры.

На позніх этапах неаліту назіраецца пранікненне на тэрыторыю Беларусі моцных іншакультурных уплываў і нават інвазія пэўных груп новага насельніцтва. У цэлым гэта садзейнічала неалітызацыі краю, уключала яго грамадства ў агульнаеўрапейскі гістарычны працэс.

**Прыроднае асяроддзе.** Ранненеалітычнае насельніцтва на тэрыторыі Беларусі жыло ва ўмовах вельмі спрыяльнага клімату, які існаваў у так званы кліматычны оптымум. Тымі часамі сярэднегадавая тэмпература была на 1,5 — 2 °С вышэй за сучасную, ды і ападкаў выпадала прыкметна больш. Цяпло і вільгаць спрыялі бурнаму развіццю расліннасці.

Марэнныя ўзвышшы Паазер'я ў тыя часы пакрывалі яловыя і ялова-шыракалістыя лясы з багатымі дамешкамі вязаў і ліп. На міжмарэнных нізінах дамінавала хвоя. Хваёва-шыракалістыя лясы былі характэрныя для Цэнтральнай і Заходняй Беларусі. На раўнінах і нізінах Палесся і Панямоння было шмат хваёвых і шыракалістых лясоў. У Падняпроўі значныя плошчы займаў дуб, а на захадзе — граб. Цяплей за ўсё было на Палессі. Тут амаль паўсюдна пераважалі грабавыя лясы і дубровы.

У познанеалітычны час клімат стаў больш халодным. Па гэтай прычыне зона яловых лясоў з Паазер'я прасунулася ажно да Ашмянскага, Мінскага і Аршанскага ўзвышшаў. Больш на поўдзень па-ранейшаму значнае месца ў лесаскладзе займалі шыракалістыя пароды.

На працягу ўсяго неалітычнага перыяду былі шырока распаўсюджаны зараснікі ляшчыны, якія давалі чалавеку шмат лясных арэхаў. У цёплых рачных затоках і ў азёрах паўсюдна рос чылім — вадзяны арэх, які таксама спажываўся ў вялікай колькасці.

У лясах знаходзіла прытулак разнастайная фауна — высакародныя алені, туры і зубры, ласі, дзікі, казулі, мядзведзі і іншыя жывёлы, большасць якіх станавілася паляўнічай здабычай чалавека. Шматлікія балоты былі багатыя птушкай, вадаёмы — рыбай.

Першабытны чалавек, які браў усё неабходнае для свайго жыцця з навакольнай прыроды, тым самым і ўздзейнічаў на яе. Асабліва гэта стала назірацца ў познанеалітычны час з развіццём земляробства і жывёлагадоўлі, калі пачалося наўмыснае вынішчэнне лясоў, вытаптванне расліннага покрыва паблізу паселішчаў, празмерная эксплуатацыя фауны і флоры навокал іх. З гэтага пачыналіся эрозія ландшафтаў, збядненне расліннага і жывёльнага свету.

**Неалітычныя плямёны Усходняга Палесся.** Больш за два тысячагоддзі (з канца 5-га да пачатку 2-га тысячагоддзя да н.э.) тэрыторыю Усходняга Палесся засялялі неалітычныя плямёны, культура якіх атрымала назву днепра-данецкай.

Першапачаткова днепра-данецкая супольнасць пачала фарміравацца на ўзбярэжжах Дняпра на Кіеўшчыне, Чаркашчыне і Палтаўшчыне, на Ніжняй Прыпяці, а таксама на верхнім цячэнні Северскага Данца (з другой паловы 5-га тысячагоддзя да н.э.).

Мясцовае ранненеалітычнае насельніцтва яшчэ не было шматлікім. Яго невялікія паселішчы знаходзіліся звычайна на значнай адлегласці адна ад другой. Аднак, нягледзячы на гэта, матэрыяльная культура жыхароў утварала дастаткова цэльны комплекс, аб'яднаны шэрагам агульных рыс. Тутэйшы ранненеалітычны посуд складаўся з даволі прымітыўных слаба абпаленых вастрадонных гаршкоў, якія ляпіліся з гліны з дамешкамі валакністых раслінных рэшткаў. Гаршкі першапачаткова мелі сціплы арнамент з паясоў грабеньчатых адбіткаў і з пракрэсленых рысак. Крамянёвыя вырабы яшчэ мелі шмат рыс папярэдняй мезалітычнай эпохі. Сярод іх былі тыповымі розныя мікраліты — трапецы, дробныя скошаныя вастракі, маленькія пласцінкі з прытупленым краем, а таксама архаічныя сякеры з асіметрычным лязом.

У другі перыяд развіцця (першая палова 4-га тысячагоддзя да н.э.) днепра-данецкая культура дасягнула свайго росквіту. Яе шматлікае насельніцтва шляхам выцяснення або асіміляцыі тубыльцаў заняло Надпарожжа, а месцамі нават дасягнула ўзбярэжжа Азоўскага мора, закладаючы на асвоеных тэрыторыях свае паселішчы. Частка яго рабіла спробы прасунуцца нават на паўночны захад Украіны, на Верхняе Дняпро і ў Пасожжа.



Гліняны посуд неалітычнага насельніцтва днепра-данецкай культуры з Ніжняй Прыпяці

На нашай тэрыторыі днепра-данецкія плямёны

рассяліліся па ўсім басейне Ніжняй Прыпяці, за выключэннем верхняга цячэння Пцічы, дзе іх паселішчы пакуль не знойдзены, і па правабярэжжы Дняпра да Бярэзіны. Усяго ў Беларусі вядома каля 150 днепра-данецкіх стаянак, размешчаных невялікімі групамі ў далінах рэк. Найбольш археалагічна даследаваныя знаходзяцца каля Юравіч Калінкавіцкага, Слабодкі і Пхова Мазырскага, Юркавіч і Азярнога Любанскага, Ломыша і Краснаселля Хойніцкага раёнаў.

Жыхары днепра-данецкіх паселішчаў Беларусі будавалі пераважна наземнае жытло падпрамавугольнай формы памерамі каля 4,5 х 8 м з агнішчамі, часам выкладзенымі камянямі. На стаянцы каля Юравіч знойдзена і авальная паўзямлянка, аднак яна, верагодна, адносіцца да самага позняга часу, бо падобныя збудаванні былі мала характэрныя для лясной зоны.



Выгляд чалавека днепра-данецкай культуры. Рэканструкцыя па чэрапе

На Беларусі могільнікаў днепра-данецкай культуры пакуль не знойдзена. Паводле даследаванняў на Украіне, яе носьбіты сваіх памерлых хавалі на спіне ў выцягнутым становішчы. Нябожчыкаў пасыпалі вохрай, клалі ім сціплыя дарункі. Пахаванні былі пераважна калектыўныя.

Вывучэнне касцявых рэштак антраполагамі паказала, што жыхары падняпроўскіх неалітычных паселішчаў вылучаліся высокім ростам, шырокім тварам і моцным целаскладам і з'яўляліся тыповымі паўночнымі еўрапеоідамі.

Сярод насельніцтва днепра-данецкай культуры высокага ўзроўню дасягнула крэмнеапрацоўка. Ужываліся двухбаковая абіўка і рэтушоўка, значна ўзрасла колькасць тыпаў прылад рознага прызначэння. Была характэрнай наяўнасць значнай колькасці мікралітаў. Разнастайны крамянёвы інвентар уключаў пласцінчатыя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, шматлікія скрабкі, шырокія і вузкія нажы, а таксама разцы, скоблі, праколкі, сякеры, цёслы, розныя вострыканечнікі. Для вырабу некаторых прылад працы выкарыстоўваліся рогі і косткі. З рога або дрэва былі зроблены асновы сярпоў, у пазы якіх укладаліся крамянёвыя лёзы. З крышталічных парод каменю майстраваліся шліфаваныя сякеры-цёслы. На тэрыторыі Украіны былі вядомыя і каменныя булавы, якія маглі выкарыстоўвацца як ударная зброя і быць адзнакамі родаплемяннай улады.

Днепра-данецкае насельніцтва Беларусі карысталася пераважна вастрадоннымі гаршкамі. На Прыпяці ў самым канцы неаліту пачынаюць з'яўляцца пласкадонныя формы, на больш паўднёвых тэрыторыях яны з'явіліся значна раней. У цесце сценак шмат раслінных дамешак, знешнія паверхні ў большасці гладкія, унутраныя часта маюць сляды грабеньчатага расчэсвання. Пад краем венца практычна заўсёды наносіўся пояс глыбокіх круглых ямак, рэшта паверхні аздаблялася пераважна грабеньчата-накольчатымі ўзорамі. Яны часам дапаўняліся насечкамі, лапчастымі адбіткамі. У самым канцы існавання культуры на посудзе дадаткова з'яўляюцца адбіткі шнура і лінейнага штампа. Узоры на посудзе складаліся ў гарызантальныя зоны, у якіх паскі арнаментальных элементаў былі гарызантальнымі, вертыкальнымі або нахільнымі, чым утвараліся трохвугольнікі, прамавугольнікі і ромбы. На адным з гаршкоў з Юравіч была наколамі выгравіравана кампазіцыя з фігур чалавека і качкі, якая, верагодна, з'яўляецца ілюстрацыяй да нейкага міфалагічнага сюжэта.

Сярод днепра-данецкага насельніцтва Украіны, асабліва Надпарожжа, рана распаўсюдзіліся вытвараючыя формы гаспадаркі, на Беларусі ж пераважалі традыцыйныя — паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. І мусіць, толькі ў познім неаліце прыкметнае месца тут пачалі займаць жывёлагадоўля і земляробства. Мяркуючы па знаходках з Кіеўшчыны і іншых мясцін Украіны, у статках былі каровы і свінні, а на невялікіх палях ужо вырошчвалі ячмень.

Экспансія на шырокія прасторы лесу, лесастэпу і нават у стэпах прывяла ў выніку да аслаблення днепра-данецкай супольнасці. Яе асобныя часткі, адарваўшыся ад асноўнага этнакультурнага асяродка, змешваліся з тубыльцамі і набывалі новыя асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры. Гэта прывяло да таго, што на трэцім этапе развіцця (другая палова 4 — першая палова 3-га тысячагоддзя да н.э.) супольнасць пачынае распадацца на асобныя культуры і лакальныя групы. Да таго ж узмацніліся суседнія плямёны і пачалі наступ на днепра-данецкае насельніцтва. Носьбіты земляробчай трыпольскай культуры занялі ўрадлівае правабярэжжа Дняпра амаль да сучаснага Кіева, у левабярэжжы пачалі націск стэпавікі-жывёлаводы, якія прасунуліся сюды з паўднёвага ўсходу. І таму пасля сярэдзіны 3-га тысячагоддзя да н.э. рэшткі днепра-данецкай супольнасці трымаліся толькі ў ляснойзоне на поўнач ад Кіева і на ўсходзе Беларускага Палесся. Тут яны працягвалі існаваць ажно да пачатку 2-га тысячагоддзя да н.э., развіваючы сваю культуру, якую навукоўцы вызначылі як усходнепалескі варыянт днепра-данецкай культуры.

**Неалітычнае насельніцтва Падняпроўя.** На працягу ўсёй неалітычнай эпохі ўсход Беларусі засялялі плямёны верхнедняпроўскай культуры, якая сфарміравалася ў асноўным у выніку развіцця мясцовай познамезалітычнай культуры. Сваю неалітычную адметнасць тутэйшае насельніцтва пачало набываць яшчэ ў канцы 5-га тысячагоддзя да н.э., найперш на Ніжнім і Сярэднім Пасожжы. Пазней, у 4—3-м тысячагоддзях да н.э., яно распаўсюдзілася на ўзбярэжжы Дняпра і яго левабярэжныя прытокі.

На цяперашні час на ўсходзе Беларусі выяўлена не менш 500 стаянак верхнедняпроўцаў, каля 40 з іх даследавалася шляхам археалагічных раскопак. Месцапасяленні размяшчаліся пераважна на дзюнных узвышэннях рачных паплавоў і на краях тэрас. Каля сучасных вёсак Гронава Чэрыкаўскага, Вець Быхаўскага, Струмень Кармянскага, Лучын і Ходасавічы Рагачоўскага, Залессе, Петраполле, Сябровічы Чачэрскага, Дубовы Лог, Дзям'янкі Добрушскага раёнаў паселішчы ўтваралі скапленні. Некаторыя паселішчы дасягалі плошчы ў 10 тыс. $м^2$.

Верхнедняпроўскае насельніцтва, трывала трымаючыся асвоеных месцаў, было даволі кансерватыўнае, і ў развіцці яго культуры не назіраецца асабліва рэзкіх скачкоў, што сведчыць аб паступовай эвалюцыі і адсутнасці радыкальных змен этнакультурнай сітуацыі.

На раннім этапе мясцовае насельніцтва ў сваёй культуры яшчэ захоўвае шэраг перажыткавых адзнак папярэдняй эпохі. Па-ранейшаму яно ўжывае лістападобныя крамянёвыя наканечнікі стрэл, сярод прылад працы шмат разнастайных разцоў. Аднак з'яўляюцца і вырабы, характэрныя для ранненеалітычнага часу. Першыя гаршкі тут таўстасценныя, ляпіліся з гліны, у якой было шмат раслінных дамешак. Арнаменты сціплыя — з авальных ямкавых паглыбленняў і адбіткаў буйназубчастага грэбеня. Часам посуд зусім не аздабляўся.

На познім этапе ў крамянёвым інвентары верхнедняпроўцаў зменшылася колькасць скрабкоў і разцоў, у той жа час ва ўжытку стала больш рубячых прылад, зробленых пераважна з масіўных адшчэпаў. Такія змены сведчаць аб пэўных пераменах, якія адбыліся ў гаспадарчай дзейнасці. Разам з пласцінчнымі наканечнікамі стрэл шырока распаўсюдзіліся трохвугольныя, ромбападобныя, міндалепадобныя з двухбаковай апрацоўкай паверхні. Частка прылад працы і паляўнічай зброі была зроблена з косці.

Іншай стала і кераміка. Пачалі вырабляць шыракагорлыя вялікія акруглабокія гаршкі, у гліняных сценках якіх заўважаюцца дамешкі пяску і дробнай жарствы, расліннасці ж мала. Посуд аздабляўся адбіткамі грэбеня, рознымі ямкавымі паглыбленнямі, насечкамі, нарэзкамі, лапчастымі элементамі. Арнамент складаўся з гарызантальных, дыяганальных і больш складаных кампазіцый — зігзагападобных, трохвугольных, у выглядзе шахматнай дошкі. Значна лепшым стаў і абпал керамікі. У тэхналогіі і арнаментыцы посуду верхнедняпроўскага насельніцтва на познанеалітычным этапе развіцця адзначаюцца ўплывы з суседніх тэрыторый.

Ускладненасць гаспадарчага і грамадскага жыцця праявілася і ў характары паселішчаў. Жытло было па-ранейшаму драўляным, але яно пачало некалькі заглыбляцца ў зямлю, мела круглы або авальны план. У цэнтры жытла ў невялікіх паглыбленнях падлогі знаходзілася агнішча, тут жа меліся і ямы глыбінёй да 1 м, верагодна, нейкага гаспадарчага прызначэння. Назіраецца і пэўная планіроўка паселішчаў, на якіх збудаванні выцягваліся ў пас каля грэбеня найбольш высокага ўчастка дзюны або тэрасы. Вакол жытла таксама выяўляюцца агнішчы і гаспадарчыя ямы.

У познанеалітычны час на ўсход Беларусі пачынаюць пранікаць уплывы культур насельніцтва, якое займала Паўночна-Усходнюю Украіну і Волга-Окскі рэгіён. Гэта найперш адлюстравалася ў тэхналогіі і аздабленні керамікі. У сваю чаргу і верхнедняпроўцы пэўным чынам уздзейнічалі на суседзяў, напрыклад жыхароў Падзясення.

**Плямёны Заходняй Беларусі ў ранненеалітычны час.** На прасторах Усходняй Еўропы, занятых плямёнамі з грабеньчата-накольчатай керамікай, ужо з самага пачатку праяўляліся і рэгіянальныя асаблівасці, што дало падставу гаварыць пра існаванне тут розных, хоць і блізкіх між сабой археалагічных культур.

У басейнах Нёмана і Верхняй Прыпяці з самага ранняга неаліту жылі плямёны нёманскай археалагічнай культуры.

Свае паселішчы нёманцы размяшчалі на мысах рачных тэрас, утвораных рэчышчамі прытокаў, на дастаткова высокіх дзюнах поплаву або тэрасы,



Распаўсюджанне характэрных тыпаў неалітычнага посуду на Беларусі

якія не затапляліся паводкамі. Падыходзілі для засялення і краі тэрас, дзе меліся пясчаныя добра дрэніраваныя ўзвышэнні. У месцах, багатых на залежы крамянёвай сыравіны, асабліва побач з крэйдавымі адорвенямі, закладаліся крэмнеапрацоўчыя майстэрні.

У найбольш зручных для рыбалоўства мясцінах, каля старыц і заток, на ўчастках поплаву з групамі дзюн стаянкі нёманцаў утваралі гнёзды, якія часам налічвалі да 10 такіх помнікаў. На значнай частцы іх жыццё адбывалася інтэнсіўна і працяглы час. Пра гэта сведчаць вялікія памеры некаторых паселішчаў (нярэдка больш за 5000 тыс. м$^2$), значная таўшчыня напластаванняў з рэшткамі жыццядзейнасці старажытных людзей (да 0,5 м і больш), шматлікія знаходкі крамянёвых вырабаў і фрагментаў керамікі (больш за 1000 адзінак). Побач з такімі базавымі асяродкамі жыхарства, звычайна на перыферыі скаплення, знаходзіліся невялікія стаянкі-выселкі. Такая асаблівая канцэнтрацыя пасялення існавала ў раёне сучасных вёсак Сверынава і Русаковічы Стаўбцоўскага, Ярэмічы Карэліцкага, Панямонь і Чарэшля Навагрудскага, Русакова Слонімскага, Добры Бор Баранавіцкага раёнаў — у Панямонні, каля Каменя Пінскага і Моталя Іванаўскага раёнаў — у басейне Верхняй Прыпяці. Магчыма, тут існавалі племянныя цэнтры з некалькіх родавых паселішчаў, дзе ў спрыяльных тапаграфічных умовах хапала дзічыны, рыбы і дзікарослай спажывы для вялікай колькасці жыхароў.

Па канцэнтрацыі стаянак на адносна вялікіх участках рачных далін можна акрэсліць племянныя тэрыторыі. Асабліва выразныя скапленні існавалі ў вярхоўях Нёмана, на Сярэдняй Шчары, Росі і Зальвянцы, у верхнім басейне Котры на беларуска-літоўскім памежжы, на Ясельдзе, Бобрыку і ў вярхоўях Прыпяці. Паміж гэтымі густа заселенымі тэрыторыямі знаходзіліся памежныя зоны, дзе сустракаюцца адзінкавыя рэшткі паселішчаў. Такое назіраецца ў нізоўях Шчары, Котры, у некаторых іншых месцах.

Пры раскопках стаянак нёманскай культуры пакуль што не выяўлена верагодных слядоў жытла. Сустракаюцца толькі адкрытыя агнішчы ў невялікіх паглыбленнях, у запаўненні якіх часам трапляюцца перапаленыя камяні, але адсутнічаюць рэгулярныя каменныя выкладкі. На плошчы паселішчаў выяўляюцца асобныя скапленні знаходак і даволі вялікія плямы асабліва гумусаванай зямлі. Усё гэта магчымыя сляды жытла, якое было несумненна наземным і не мела нейкай заглыбленасці ў грунт, магло ўяўляць канструкцыі з тонкага дрэва, жэрдак, плеценага галля, кары і трыснягу.

Набор крамянёвых вырабаў панямонцаў меў свае рэгіянальныя асаблівасці. Ужо на раннім этапе неаліт'яны пачалі апраўляць стрэлы трохвугольнымі наканечнікамі. Імі ж служылі па яшчэ мезалітычнай традыцыі некаторыя ланцэтападобныя вастрыі і мікралітычныя ўкладышы, асабліва трапецыі. Лістападобныя наканечнікі коп'яў апрацоўваліся рэтушшу са спінкі. Былі вядомыя нажы, блізкія па форме да наканечнікаў. Сякеры мелі асіметрычныя профілі, што надавала ім цеслападобную форму, а іх лёзы нярэдка фармаваліся архаічным бакавым сколам. Звяртае на сябе ўвагу тое, што крамянёвы інвентар панямонцаў на першапачатковым этапе іх гісторыі меў шмат асаблівасцей, захаваных з сярэднекаменнага часу.

У ранненеалітычны час носьбіты нёманскай культуры карысталіся слаба абпаленымі і даволі няякасна вырабленымі вастрадоннымі пасудзінамі, злепленымі з гліны, у якую дабаўлялі пераважна валакністыя раслінныя рэшткі. Абястлушчвальнікам у гліне даволі рана стаў і шамот, для якога трушчыліся чарапкі пашкоджанага і непрыдатнага для выкарыстання посуду. Паверхні сценак раўняліся расчэсваннямі зубчастым (грабеньчатым) штампам, ад чаго заставаліся характэрныя сляды. Пераважнай формай гліняных вырабаў быў вастрадонны гаршчок з выпуклым корпусам і крыху зведзеным верхам. Пад краем венцаў прысутнічаў абавязковы пояс з глыбокіх круглых ямак. Павер-

хні ранненеалітычных гаршкоў аздабляліся сціпла і пераважна ў верхніх частках — паясамі з грабеньчатых адбіткаў, насечак, наколаў, пракрэсленымі рыскамі. Значная частка наколаў наносілася ў адступаючай — скарапіснай — манеры нахіленай палачкай або дробнай трубчастай костачкай.

Увогуле па сваім посудзе панямонцы вельмі мала адрозніваліся ад суседзяў з Ніжняй Прыпяці, Падняпроўя і Паўднёвага Падзвіння, а асобныя чарапкі па тэхналогіі і арнаментыцы практычна ідэнтычныя. Аднак маюцца і пэўныя асаблівасці. Панёманскі ранні посуд даволі разнастайны. Дны не толькі вострыя, але бываюць прыкругленымі або шыпастымі. Некаторыя гаршкі маюць тоўстыя сценкі, часам лёгкую рабрыстасць на корпусе. Краі венцаў пераважна злёгку адагнутыя, часам зведзеныя ўсярэдзіну. Зрэзы іх прыкругленыя, але некаторыя рабіліся плоскімі або нават мелі напльіў. У арнаментыцы прыкметнае месца займалі пракрэсленыя рыскі, якія ўтваралі касыя або сеткавыя кампазіцыі. Такім чынам, ранненеалітычная кераміка Заходняй Беларусі выглядае некалькі рознастылёвай. Магчыма, гэта вынік пошукаў свайго стылю, характэрны пры зараджэнні кожнай канкрэтнай з'явы, у дадзеным выпадку "гаршкалепства". Не выключаны і ўплывы з боку розных іншых культур, якія маглі стаць імпульсам для мясцовай вытворчасці керамікі.

Усе рэшткі жыццядзейнасці ранненеалітычнага насельніцтва Заходняй Беларусі — прылады працы, зброя, адыходы крэмнеапрацоўкі, чарапкі посуду, сляды жытла і агнішчаў навукоўцы аб'ядноўваюць у першы — дубічайскі — этап нёманскай культуры (названы па стаянцы Дубічай на літоўска-беларускім памежжы).

Размяшчэнне паселішчаў на асабліва рыбных участках рачных далін ускосна сведчыць пра важную ролю рыбалоўства ў прысвойваючай гаспадарцы нёманскага неалітычнага насельніцтва. Праўда, сярод здабытых падчас раскопак матэрыялаў няма прамых сведчанняў гэтага занятку. Толькі зрэдку сустракаюцца авальныя камяні, якія маглі служыць грузіламі да сетак, меншыя акруглыя каменьчыкі як грузілы да плеценых рыбацкіх прыстасаванняў. Падобныя рэчы, аплеценыя бяростай ці спалучаныя з пруткамі, знойдзены на тарфянікавых стаянках Прыбалтыкі, а таксама на поўначы Беларусі. Вынікае, што на рэках Нёманскага і Верхняпрыпяцкага басейнаў асноўнымі рыбацкімі снасцямі былі не сеткі, больш прыстасаваныя да шырокіх азёрных узбярэжжаў, а розныя лавушкі-засткі з прутоў або жэрдак з нацягнутымі невялікімі сеткавымі палотнамі тыпу кломлі, якімі пры зарослых старычных берагах ловяць рыбу на Панямонні і сёння. Распаўсюджана было і вуджэнне рыбы, пра што, напрыклад, сведчаць знаходкі касцяных кручкоў на дне рэчкі каля в.Камень Пінскага раёна[1].

Сведчанні палявання больш пераканаўчыя. Гэта разнастайныя наканечнікі стрэл і коп'яў, крамянёвыя нажы. Аднак саміх крамянёвых наканечнікаў коп'яў знойдзена мала, верагодна, значная частка іх рабілася з рога або косці. На інтэнсіўнае паляванне ўказвае і вялікая колькасць разнастайных скрабкоў, якія пасля рэжучых інструментаў займалі другое месца ў мясцовым вытворча-паляўнічым інвентары і якія найперш выкарыстоўваліся для апрацоўкі скур.

Значную ўвагу жыхары заходнебеларускіх стаянак надавалі апрацоўцы крэменю, што зразумела, калі ўлічваць велізарнае багацце мясцовых запасаў гэтай сыравіны як на паверхні зямлі, так і ў яе глыбіні, асабліва каля крэйдавых пакладаў. На некаторых паселішчах, размешчаных побач асабліва багатых на крэмень мясцін, адыходы яго апрацоўкі перавышаюць 90% усіх расшчэпленых камянёў. Меліся і сезонныя майстэрні крэмнеапрацоўшчыкаў, дзе амаль не сустракаюцца кераміка і закончаныя вырабы. Крэ-

[1] *Исаенко В.Ф.* Древнее рыболовство в Полесье // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита – раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. Л., 1991.

мень здабываўся не толькі для мясцовых патрэб, але і для імпарту на суседнія бедныя на такую сыравіну тэрыторыі, асабліва дзе жылі роднасныя плямёны — найбольш на Сярэднюю Вілію і Паазер'е.

Мяркуючы па выразным падабенстве крамянёвага інвентару ранненеалітычных панямонцаў да мясцовых матэрыялаў папярэдняй мезалітычнай эпохі, яны з'яўляліся ў пераважнай большасці аўтахтонамі, а навацыі, характэрныя для новакаменнага веку, успрынялі ад сваіх паўднёвых і паўднёва-заходніх суседзяў. Не выключана, калі мець на ўвазе пэўную рознастылёвасць керамікі, што на тэрыторыі Верхняй Прыпяці — Панямоння магло часткова пранікнуць і прышлае насельніцтва з Сярэдняга Падняпроўя, дзе рана сфарміравалася роднасная нёманскай днепра-данецкая неалітычная культура.

Найбольш характэрныя рысы нёманскай культуры мела насельніцтва, якое жыло ў басейне Нёмана ад яго вярхоўяў да Росі на захадзе, а таксама на левабярэжных прытоках Верхняй Прыпяці. У Паўднёвай Літве і частцы Паўночна-Усходняй Польшчы жылі перыферыйныя групы нёманцаў. Ранненеалітычнае насельніцтва Паўночна-Заходняй Украіны таксама мела культуру, блізкую да нёманскай. Аднак некаторыя ўкраінскія даследчыкі вылучаюць яе ў асобную валынскую культуру.

На ўсход ад плямён нёманскай культуры Верхняй Прыпяці жыло роднаснае ім насельніцтва днепра-данецкай культуры. Іх падзялялі Пінскія балоты і водападзелы паўднёвых прытокаў Прыпяці. Нёманцаў, што займалі вярхоўі Нёмана і яго правабярэжжа, аддзялялі лясістыя водападзелы ад Верхняга Падняпроўя, занятага насельніцтвам верхнедняпроўскай культуры, і басейна Віліі, дзе была перыферыя нарвенцаў. На поўдні і паўднёвым захадзе носьбіты нёманскай культуры суседзілі з жывёлагадоўча-земляробчым насельніцтвам культуры лінейна-стужкавай керамікі, якое са сваёй падунайскай прарадзімы перайшло на поўнач ад Карпат. Прышлае насельніцтва з-за Карпат і аўтахтоннае познамезалітычнае і ранненеалітычнае насельніцтва лясістых раўнін, якія прымыкалі да Балтыкі, было зусім розным па гаспадарчых занятках, матэрыяльнай і духоўнай культуры, мове. Па гэтай прычыне кантакты між імі былі мінімальнымі, што не спрыяла міжкультурнаму абмену.

**Плямёны Заходняй Беларусі ў познім неаліце**. У 3-м тысячагоддзі да н.э. у даволі спакойным развіцці неалітычнага грамадства Заходняй Беларусі наступілі істотныя змены ў матэрыяльнай культуры, гаспадарцы і, верагодна, у духоўным жыцці. Заўважана, што менавіта з пачатку 3-га тысячагоддзя да н.э. мясцовае жыхарства пачынае вырабляць гладкасценны гліняны посуд з выдзеленай шыйкай і адагнутым венцам, упрыгожваючы яго пераважна ў верхняй частцы пасудзін рознымі штампаванымі ўзорамі, сярод якіх з'яўляюцца і адбіткі невядомага раней лінейнага штампа. У крамянёвым інвентары пачынаюць дамінаваць трохвугольныя наканечнікі стрэл, распаўсюджваюцца пласціны са стромкай рэтушшу па перыметры. Павялічваецца колькасць крамянёвых сякер.

Хутчэй за ўсё гэтыя змены ў культуры заходнебеларускага неалітычнага насельніцтва наступілі пад уплывам плямён цэнтральнаеўрапейскай культуры лейкападобных кубкаў. Яны доўгі прамежак часу, прыкладна ад сярэдзіны 4-га тысячагоддзя да трэцяй чвэрці 3-га тысячагоддзя да н.э., дамінавалі на поўначы Сярэдняй Еўропы, займаючы пераважна раўнінныя прасторы паміж Балтыкай і Карпатамі, на захадзе даходзілі да Цэнтральнай Германіі, Ютландыі і Паўднёвай Скандынавіі, на ўсходзе — Заходняга Палесся. Лейкападобнікі карысталіся характэрным гладкасценным посудам з лейкападобна разгорнутымі венцамі, умелі здабываць крэмень шахтавым спосабам, культывавалі даволі развітыя формы земляробства і жывёлагадоўлі.

Носьбіты культуры лейкападобных кубкаў непасрэдна суседзілі з ранняёманскім насельніцтвам на Валыні, паступова яго асімілявалі, а частко-

ва і выцеснілі на ўзбярэжжа Прыпяці. Магчыма, пэўныя яго групы пранікалі і на паўднёвы захад Беларусі. Па крайняй меры на некаторых неалітычных стаянках Брэстчыны сустракаюцца адзінкавыя фрагменты характэрнай ім керамікі. Аднак ужо сёння можна сказаць, што яны аказалі прыкметны ўплыў на развіццё нёманскай культуры, у выніку чаго і сфарміраваліся яе новыя асаблівасці, якія праяўляюцца на помніках, характэрных для другога, лысагорскага, этапу яе развіцця (названы па характэрнай стаянцы Лысая Гара каля в. Кругліца Стаўбцоўскага раёна).

Не выключана, што на вярхоўі Нёмана і яго правабярэжныя прытокі пранікалі ўплывы і з паўночнага ўсходу, з недалёкага Беларускага Паазер'я, занятага ў 3-м тысячагоддзі да н.э. як носьбітамі познанарвенскай культуры, так і культуры з тыповай грабеньчата-ямкавай керамікай. Гэта магло праявіцца ў з'яўленні вусеневых адбіткаў (палачкі з накручаным шнурам) на посудзе і кароткіх ліставатых наканечнікаў стрэл з суцэльнай рэтушшу на плоскасцях.

Паселішчы з матэрыяламі тыпу Лысай Гары найдаўжэй праіснавалі на Верхнім Нёмане на тэрыторыі Карэліцкага і Стаўбцоўскага раёнаў.

На паўднёвым захадзе Панямоння і на Верхняй Прыпяці ў хуткім часе, можа, нават у сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н.э., назіраюцца далейшыя змены ў мясцовай неалітычнай культуры. Ва ўжытку насельніцтва распаўсюджваецца посуд з выразна заштрыхаванымі паверхнямі сценак, у якіх прысутнічаюць дамешкі толькі пяску і жарствы. У арнаментацыі амаль цалкам знікаюць грабеньчатыя ўзоры, адначасова пачынаюць пераважаць адбіткі розных лінейных штампаў, з'яўляюцца пад краем венца і шнуравыя адбіткі. У крамянёвым інвентары распаўсюджваюцца серпападобныя нажы, сякеры набываюць дасканалыя формы са звужаным абушком і пашыраным выпуклым лязом, якое часам нават прышліфоўваецца. Помнікі позняга этапу нёманскай культуры даследчыкі аб'ядноўваюць у тып Добрага Бору, па назве стаянкі з асабліва характэрнымі матэрыяламі каля аднайменнай вёскі ў Баранавіцкім раёне на Шчары. Яны характарызуюць позні (дабраборскі) этап развіцця плямён нёманскай культуры.

Яшчэ больш сведчанняў таго, што дабраборскі этап культуры сфарміраваўся пад уплывамі, што ішлі з Цэнтральнай Еўропы. Пры гэтым відавочна, што такія ўплывы адбываліся ў выніку найперш пранікнення з Павіслення і Валыні новага насельніцтва.

У лясных і пясчаных раёнах паўднёвабалтыйскай раўніны жылі плямёны з культурай "ляснога неаліту". Іх вытокі знаходзіліся ў мясцовым мезаліце. Характэрна, што нават пры інвазіі на поўнач ад Карпат дунайскага земляробчага насельніцтва мясцовае жыхарства, хоць і адсунутае на пясчаныя і балоцістыя няўдобіцы, усё ж трымалася ў басейнах Сярэдняй і Ніжняй Віслы, у правабярэжжы ніжняга цячэння Одэра. На Ніжнім Пабужжы яно нават дамінавала. Выпрацаваўшы мясцовую форму глінянай пасудзіны — вастрадоннага гаршка з крыху выдзеленай шыйкай і злёгку адагнутым венцам, з лёгкай заштрыхоўкай паверхні, з неарганічнымі дамешкамі ў гліне — носьбіты польскага "ляснога неаліту" ў яго арнаментацыі запазычылі ад земляробчых плямён некаторыя элементы, найбольш паскі адступаючых наколаў і адбіткі лінейнага штампа.



Спосабы атрымання агню

Займаючыся спачатку пераважна прысвойваючымі формамі гаспадарання, носьбіты культуры "ляснога неаліту" рана ўспрынялі ад сваіх больш высокаразвітых суседзяў земляробства і жывёлагадоўлю. Гэта давала ім большыя запасы ежы, а значыць, садзейнічала прыросту насельніцтва. Аднак прыросту не хапала, каб пераламаць дэмаграфічную і палітычную сітуацыю на Павісленні і правабярэжжы Одэра на сваю карысць, але было дастаткова, каб пачаць паступовую міграцыю на ўсход у басейны Сярэдняга і Верхняга Нёмана і на Верхнюю Прыпяць. На захадзе Беларусі яны змешваліся з жыхарамі паселішчаў тыпу Лысай Гары, надаючы мясцовай культуры новыя асаблівасці.

Пад канец 3-га тысячагоддзя на захад Беларусі накацілася новая хваля міграцыі. У гэты час тут з'явіліся групы носьбітаў вельмі дынамічнай культуры шарападобных амфар, для посуду якой былі таксама характэрныя лёгкая заштрыхоўка і арнаментацыя лінейным штампам. Аднак усё ж асноўная культуратворчая роля тут належала не шарападобнікам, а менавіта носьбітам польскага "ляснога неаліту".

Увогуле ў культуры неалітычнага насельніцтва Заходняй Беларусі лысагорскі і дабраборскі этапы блізкія між сабой, маюць шмат пераходных рыс. Гэтыя этапы выглядаюць гарманічнымі звёнамі эвалюцыі. У той жа час яны значна адрозніваюцца ад ранейшай мясцовай культуры, матэрыялаў дубічайскага этапу. І калі ў ранненеалітычнай культуры праяўлялася несумненная роднаснасць з плямёнамі астатняй тэрыторыі Беларусі, то на другім і асабліва трэцім этапе мы бачым, як распалася колішняе адзінства зоны культур з грабеньчата-накольчатай керамікай, на захадзе — пад уплывам культур з Павіслення, на поўначы — з-над Фінскай затокі.

На лысагорскім і дабраборскім этапах развіцця неалітычнага грамадства Заходняй Беларусі назіраецца павелічэнне колькасці насельніцтва, адбываецца сапраўдны дэмаграфічны выбух, што было выклікана развіццём вытвараючай гаспадаркі. Памеры паселішчаў значна павялічыліся, напластаванні на іх з рэшткамі жыццядзейнасці робяцца больш тоўстымі і насычанымі значнай колькасцю крамянёвых прылад, адыходаў крэмнеапрацоўкі, абломкаў посуду. Павялічваюцца і скапленні паселішчаў на асобных участках рачных далін.

На дабраборскім этапе ўжо практычна не захавалася насельніцтва нёманскай культуры на правабярэжных прытоках Верхняй Прыпяці. Тут яно было цалкам выцеснена спачатку насельніцтвам культуры лейкападобных кубкаў, якое заняло даволі ўрадлівыя землі Паўднёва-Заходняга Палесся, а затым і шарападобнікамі. У іншых жа рэгіёнах свайго спрадвечнага арэала нёманцы ўтрымаліся ажно да пачатку бронзавага веку.

На мяжы 3-га і 2-га тысячагоддзяў да н.э. на лёс познанеалітычнага насельніцтва Заходняй Беларусі выпадаюць новыя выпрабаванні, якія ўплываюць на яго культурна-духоўнае жыццё і этнічны склад. У гэты час тут з'яўляюцца носьбіты адной з культур шнуравой керамікі. Пры гэтым прышлае насельніцтва не змагло выцесніць з тутэйшых лясістых узбярэжжаў супольнасці познанеалітычных абарыгенаў, але істотна змяніла іх культуру.



Посуд насельніцтва культуры шарападобных амфар з заходняй Гродзеншчыны

Пакуль што мала сведчанняў, што земляробства і жывёлагадоўля на захадзе Беларусі былі вядомы ўжо ў раннім неаліце. Аднак верагодна, што на

лысагорскім этапе мясцовыя плямёны ўжо паспелі запазычыць у сваіх паўднёва-заходніх суседзяў — носьбітаў культуры лейкападобных кубкаў — сакрэты вырошчвання культурных раслін і гадоўлі свойскай жывёлы. Так, на зараджэнне земляробства, звязанага з высечкай лясоў, можа ўказваць прыкметнае павелічэнне колькасці сякер. На кераміцы з Валыні, якая належыць да позніх матэрыялаў дубічайскага тыпу, знойдзены адбіткі ячменю. Яшчэ больш верагоднымі ўяўляюцца заняткі вытвараючымі формамі гаспадаркі сярод насельніцтва дабраборскага этапу. Гэтаму мог садзейнічаць уплыў шарападобнікаў, асабліва ў жывёлагадоўлі, а затым і шнуравікоў. На дабраборскім жа этапе шырока распаўсюджваюцца крамянёвыя сярпы, якія выкарыстоўваліся на жніве, яшчэ больш павялічваецца колькасць і сякер.

**Экспансія з Павіслення.** Плямёны з шарападобнымі амфарамі ў 3-м тысячагоддзі да н.э. засялялі тэрыторыю Паўночна-Усходняй Германіі, амаль усю Польшчу, Паўночна-Заходнюю Украіну. Асобныя групы шарападобнікаў пранікалі ў Чэхію, Паўночна-Усходнюю Румынію, а таксама ў Беларусь, на Кіеўскае Падняпроўе і нават на вярхоўі Дняпра.

Шарападобнікі ладзілі свае паселішчы на прырэчных узвышэннях, дзе будавалі наземнае жытло слупавой канструкцыі, якое часам дзялілася на асобныя памяшканні. Агнішчы ў жытле былі каменныя або гліняныя. У некаторых рэгіёнах жылі ў паўзямлянках. Побач з жытлом размяшчаліся шматлікія гаспадарчыя ямы, некаторыя з іх былі сметніцамі.

Сваіх нябожчыкаў насельніцтва культуры шарападобных амфар хавала на невялікіх могільніках у неглыбокіх ямах, абкладзеных, як правіла, камянямі. Часам акрамя трупапалажэння практыкаваўся і абрад няпоўнай крэмацыі. Адзін з найбольш значных могільнікаў гэтай культуры меўся на Сярэднім Пароссі на тэрыторыі Краснасельскіх шахтаў. Могільнік пашкоджаны пры земляных работах, аднак адна магіла захавалася практычна поўнасцю. У ёй знаходзілася рытуальнае пахаванне свойскіх жывёл — дзевяці быкоў, дзвюх авечак або коз, частак свінні і каня. Жывёліны былі забітыя ўдарам у лоб, адзін з быкоў — дзвюма стрэламі, касцяныя наканечнікі якіх знойдзены сярод костак грудной клеткі. Рэшткі жывёлін знойдзены і ў іншых пахаваннях. У суседняй жа магіле знаходзіліся і паўабпаленыя чалавечыя косткі, тут была і амфара. Яшчэ адзін могільнік з косткамі свінні, керамічнымі, крамянёвымі і касцянымі вырабамі знойдзены каля в.Малыя Едкавічы Бераставіцкага раёна. Асобныя знаходкі характэрных прышліфаваных крамянёвых сякер шарападобнікаў спарадычна сустракаюцца па ўсім захадзе Беларусі. Сенсацыйным выглядае адкрыццё могільніка гэтага народа пад Смаленскам, які пакуль што адзначае самую паўночна-ўсходнюю мяжу яго экспансіі.


Частка рытуальнага пахавання жывёл культуры шарападобных амфар.
Пасёлак Краснасельскі Ваўкавыскага раёна

Раскопкі паселішчаў і асабліва могільнікаў культуры шарападобных амфар (а гэта работа была найбольш выніковай у Польшчы і Германіі) дазволілі дастаткова поўна рэканструяваць матэрыяльную і духоўную культуру, а таксама заняткі і побыт мясцовага насельніцтва.

Характэрным быў посуд шарападобнікаў, зусім не па-

добны да таго, які меўся ва ўжытку мясцовага познанеалітычнага насельніцтва Беларусі. Яны карысталіся разнастайнымі гліянымі вырабамі — гаршкамі, кубкамі, міскамі. Асабліва выразнымі былі амфары з шарападобным тулавам (адсюль і назва культуры), простай кароткай шыйкай і прылепленымі вушкамі. Посуд арнаментаваўся пераважна ўзорамі з адбіткаў лінейнага штампа, шнура, насечкамі, наколамі, націскамі пальцаў. Сярод крамянёвых вырабаў акрамя характэрных для ляснога неаліту форм ужываліся чатырохгранныя шліфаваныя сякеры-кліны, вузкія долаты. З косці часам выраблялі кінжалы і долаты, верацёнападобныя вастрыі для стрэл і лёгкіх дроцікаў.

Любімымі ўпрыгожаннямі шарападобнікаў былі касцяныя фігурныя "спражкі" і бурштынавыя аздобы — падвескі, гузікі, трубачкі-пранізкі. На Павісленні і ў Германіі ўжываліся і медныя ўпрыгожанні.

Насельніцтва культуры шарападобных амфар займалася сельскай гаспадаркай, у якой, мабыць, пераважала жывёлагадоўля. Вядомыя ім былі і традыцыйныя заняткі каменнага веку — паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Ад сваіх папярэднікаў у Цэнтральнай Еўропе — носьбітаў культуры лейкападобных кубкаў —шарападобнікі перанялі таямніцы крэмнездабыўнай справы ў падземных выпрацоўках. Яны сталі першымі шахцёрамі і на захадзе Беларусі, у прыватнасці на Краснасельскіх шахтах.

Лішкі крамянёвай прадукцыі шарападобнікі маглі абменьваць з плямёнамі суседніх культур на неабходныя матэрыялы і рэчы. Такім чынам яны атрымлівалі бурштын з узбярэжжа Балтыкі і медзь, верагодна, з Прыкарпацця.

Пэўна, там, дзе з'яўляліся групы носьбітаў культуры шарападобных амфар, узнікалі складанасці ў адносінах з мясцовым насельніцтвам, асабліва з носьбітамі нёманскай неалітычнай культуры. На гэта можа, напрыклад, указваць практычная адсутнасць позніх матэрыялаў нёманцаў на сярэднім Парoссі ў раёне Краснасельскіх шахтаў, рана занятым прышлым насельніцтвам. Аднак з-за істотнай розніцы ў гаспадарчых занятках гэтыя дзве адменныя культурна-этнічныя супольнасці ў пэўныя перыяды, асабліва калі з цягам часу наступала ўзаемнае "прывыканне", маглі і суіснаваць. Вынікам такога суіснавання сталі прыкметныя змены ў пазнейшай мясцовай нёманскай культуры. Менавіта пры ўдзеле шарападобнікаў аформіўся яе завяршальны дабраборскі этап.

**Неалітычнае насельніцтва Паўночнай Беларусі.** Паўночная Беларусь — край тысяч азёр, нездарма называецца Паазер'ем. Азёры ў сваю чаргу злучаюцца мноствам пратокаў. Існуе разгалінаваная рачная сетка. Такая надзвычайна багатая колькасць вадаёмаў наклала свой адбітак на развіццё мясцовага неалітычнага грамадства.

У раннім неаліце, а гэта як мінімум усё 4-е тысячагоддзе да н.э., поўнач нашага краю засялялі плямёны нарвенскай культуры, названай так па характэрным паселішчы каля Нарвы ў Эстоніі. Сваё паходжанне яны вялі ад мясцовага насельніцтва кундскай мезалітычнай культуры.

Асноўны масіў нарвенскіх плямён займаў тэрыторыі Латвіі і Эстоніі. На тэрыторыі ж Беларусі яны жылі па ўсім Падзвінні, за выключэннем яго паўднёва-ўсходняга ўскрайку, а таксама на Нарачанскіх азёрах і па верхнім цячэнні Віліі. Асобныя групы нарвенцаў пранікалі нават на Бярэзіну Дняпроўскую, у межы сучасных Лагойскага і Барысаўскага раёнаў. Такім чынам, наша Паазер'е складала паўднёвую частку арэала, занятага нарвенскім насельніцтвам. На ўсходзе і паўночным усходзе іх паселішчы знаходзіліся на захадзе Пскоўшчыны і ў Ленінградскай вобласці, вядомыя яны былі і ў прыморскай і Усходняй Літве.

Паселішчы нарвенцаў размяшчаліся блізка каля вады, займаючы нязначныя ўзвышэнні звычайна пры вытоку рэчак з азёр, каля плыткіх зарослых узбярэжжаў вадаёмаў, багатых рыбай і азёрнай ядомай расліннасцю,



Сучасны выгляд тарфянікавай стаянкі каля в. Зацэнне Лагойскага раёна

асабліва вадзянымі арэхамі. Таксама выбіралі, каб побач былі баравыя і змешаныя лясы, а непадалёку — балоты. Усё гэта давала магчымасць выкарыстоўваць багатыя і разнастайныя прыродныя запасы мясной і раслiннай ежы. У той жа час нарвенцы пазбягалі глiністых узбярэжжаў, а таксама буйных рэк з каньёнападобным рэчышчам, нязручным для рыбалоўства.

Некаторыя стаянкі ў выніку наступнага звільгатнення клімату аказаліся пазней затопленымі і затарфянелымі. На такіх тарфянікавых паселішчах да нашых дзён захаваліся не толькі мінеральныя, але і разнастайнейшыя арганічныя рэшткі жыццядзейнасці чалавека — вырабы і ўпрыгожанні з рога, косці і дрэва, рэшткі збудаванняў. Найбольш ранняя нарвенская тарфянікавая стаянка знойдзена каля в.Зацэнне ў Лагойскім раёне. Арганічныя рэчывы захаваліся і на паселішчы Асавец-4 на краі Крывінскага тарфяніку ў Бешанковіцкім раёне на Віцебшчыне. Тут культурны пласт залягае на жвіровым пагорку, дзе шмат вапняку. Вапна прапітала вырабы з рога і косці і захавала іх ад гніення.

На нарвенскіх паселішчах Беларусі знойдзены невыразныя рэшткі драўляных канструкцый, якія, магчыма, засталіся ад жытла, а таксама адкрытыя агнішчы. На прыбалтыйскіх стаянках выяўлены сляды чатырохвугольнага выцягнутага жытла са сценамі, зробленага з вертыкальна ўбітых у зямлю завостраных калоў, з двухсхільнай страхой, у якім знаходзілася агнішча на пясчанай падсыпцы.

Нарвенцы, якія знаходзіліся на поўдзень ад Дзвіны, непадалёку ад крэменяносных радовішчаў вярхоўяў Віліі, шырока выкарыстоўвалі для прылад працы і зброі крэмень. Сярод крамянёвых вырабаў выдзяляліся кароткія лістападобныя наканечнікі і доўгія наканечнікі коп'яў, апрацаваныя двухбаковай рэтушшу звычайна па ўсёй паверхні. Насельніцтва ж больш паўночных бедных на крэмень мясцін нярэдка паспяхова замяняла яго рогам і косцю. Нарвенцы ўжывалі касцяныя разнастайныя наканечнікі стрэл, у тым ліку біканічныя і іголкападобныя, кінжалы, сякеры і цёслы, інструменты для здымання кары з дрэў, пешні для падлёднага лову рыбы, рыбацкія кручкі і гарпуны. Яны мелі нават матыкі з ласінага рога з прасвідраванымі для рукаятак адтулінамі. Матыкі служылі для выкопвання каранёў ядомых дзікарослых раслін.

Посуд, якім карысталіся нарвенцы, быў некалькі іншы, чым у астатняга неалітычнага насельніцтва Беларусі. Яны ляпілі пераважна шырокаадкрытыя

вастрадонныя гаршкі з гліняных стужак, якія змацоўваліся тарцамі. Пры гэтым у фармовачную гліну дабаўлялі раслінныя рэшткі і драбнатоўчаныя ракавіны. Паверхні раўняліся расчэсваннем зубчастай пласцінкай — грэбенем, а затым, яшчэ перад абпалам, упрыгожваліся штампаваным арнаментам. Посуд аздабляўся напачатку даволі сціпла — паясамі насечак, наколаў, грабеньчатымі адбіткамі і рыскамі, размешчанымі пераважна ў версе начыння. На паўднёвай перыферыі культуры гаршкі даволі часта мелі пад краем пояс глыбокіх круглых ямак. Затым вырабы абпальваліся на агнішчах. Абпал, як і тэхналогія вырабу керамікі, быў недасканалы. Таму посуд быў даволі крохкі і часта біўся. Пашкоджанае начынне рамантавалася шляхам накладання на трэшчыны бярэсты і сшывання яго праз прасвідраваныя адтулінкі. У такім выглядзе яно не ўжывалася для гатавання стравы на агнішчах, але заставалася прыдатным для захоўвання сыпучых рэчываў, напрыклад ягад або арэхаў.

Акрамя гаршкоў нарвенцы зрэдку выкарыстоўвалі і авальныя місачкі не зусім зразумелага прызначэння, часам арнаментаваныя і ўсярэдзіне.

Насельніцтва нарвенскай культуры выкарыстоўвала ўпрыгожанні-падвескі са звярыных зубоў, а на пазнейшых этапах сваёй гісторыі — бурштынавыя аздобы. Іх імкненне да арнаментальнай творчасці не абмяжоўвалася аздабленнем керамікі. Гравіраванымі ўзорамі яны пакрывалі і некаторыя касцяныя вырабы. Арнаменты дапаўняліся і пэўнымі выяўленчымі матывамі — стылізаванымі фігурамі звяроў і птушак. У пазнейшыя часы ў мастацтве нарвенцаў з'яўляецца і аб'ёмная пластыка.

Знаходзячыся на перыферыі нарвенскай супольнасці, плямёны Беларускага Паазер'я падтрымлівалі кантакты са сваімі паўднёвымі і паўднёва-заходнімі суседзямі — носьбітамі верхнедняпроўскай і нёманскай культур. Гэта найбольш адчуваецца ў асаблівасцях арнаментацыі посуду. На нарвенскіх гаршках з Беларусі часцей, чым у больш паўночных рэгіёнах, сустракаюцца грабеньчатыя адбіткі і пракрэсленыя рыскі, а таксама ямкі пад краем венца. Акрамя фармоўкі гаршкоў спосабам тарцовага прылепу тут шырока прымяняўся касы прылеп гліняных стужак. У сваю чаргу пад уплывам нарвенцаў верхнедняпроўскае насельніцтва часам аздабляла свае гаршкі і ўсярэдзіне.

У сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н.э. у развіцці супольнасці нарвенскай культуры наступілі значныя ўскладненні, якія ўзніклі па прычыне экспансіі ў Прыбалтыку і часткова на поўнач Беларусі плямён культуры з тыповай грабеньчата-ямкавай керамікай. Аднак у Літве і на нашым Паазер'і прышлае насельніцтва было нешматлікім, што прывяло да яго асіміляцыі нарвенцамі. Аднак знаходжанне іх на працягу некалькіх стагоддзяў на Беларускім Падзвінні не прайшло бясследна. Мабыць, пад іх уплывам мясцовае насельніцтва пачало ляпіць гладкасценны посуд са скошанымі і патоўшчанымі краямі венцаў. Да традыцыйных ранненарвенскіх узораў дабавіліся і новыя элементы — паясы глыбокіх круглых ямак і ромбападобных фігур з адбіткаў шыраказубчастага штампа.

Зразумела, што такія ўплывы мацнелі пры непасрэдных кантактах тубыльцаў і перасяленцаў. Гэта найбольш праявілася на захадзе Паазер'я.

На культуры нарвенцаў адчувальнае і ўздзеянне цэнтральнаеўрапейскай традыцыі, якая магла пранікнуць на поўнач Беларусі яшчэ ў час дамінавання на Павісленні плямён культуры лейкападобных кубкаў, але найбольш носьбітаў культуры шарападобных амфар, якія даходзілі ажно да Верхняга Дняпра і, паводле некаторых меркаванняў, нават у Латвію. Гэта найперш праявілася ў з'яўленні арнаментальных элементаў у выглядзе адбіткаў лінейнага штампа і кампазіцый з зігзагаў.

**Прышэльцы з-над Фінскай затокі.** Прыкладна ў другой чвэрці 3-га тысячагоддзя да н.э. у Паўднёва-Усходнюю Прыбалтыку з тэрыторый, прылеглых з усходу да Фінскай затокі, пачынае пранікаць насельніцтва зусім чужой нар-



Жытло жыхароў культуры грабеньчата-ямкавай керамікі (паводле Н. Гурынай)

венцам культуры Яно таксама займалася выключна прысвойваючымі формамі гаспадаркі і, мабыць, асаблівую ўвагу надавала рыбалоўству. Таму для сябе прышлае насельніцтва выбірала прыбярэжныя ўчасткі вадаёмаў, багатыя рыбай, побач са стаянкамі абарыгенаў, а нярэдка пасялялася і на саміх гэтых стаянках. Такім чынам, шмат дзе рознакультурныя этнасы трапілі ў аднолькавыя экалагічныя ўмовы, што непазбежна павінна было выклікаць вострыя міжплямённыя сутычкі. Па нейкіх прычынах прышэльцы з паўночнага ўсходу аказаліся мацнейшымі. Магчыма, яны выпрацавалі больш разнастайныя прыёмы выкарыстання прыродных запасаў ежы і былі таму больш шматлікія. Як бы там ні было, але яны даволі хутка запанавалі на большасці тэрыторый, асвоеных перад гэтым носьбітамі нарвенскай культуры. Ім удалося нават пранікнуць на поўнач Беларусі і заняць адносна вузкі пас паміж Нараччу і Лепельскімі азёрамі. Гэту экспансію не зведалі толькі перыферыйныя тэрыторыі — Усходняе Паазер'е Беларусі, узбярэжжа Віліі, Цэнтральная Літва і левабярэжжа Ніжняга Нёмана. Аднак пэўныя групы прышлага насельніцтва пранікалі і сюды, у прыватнасці ажно на паўночны ўсход Польшчы.

Прышэльцы найбольш выдзяляліся сваёй керамікай. Яны карысталіся даволі аднастайнымі гаршкамі яйцападобнай формы з прыкругленымі днамі. Сценкі пасудзін былі тоўстыя, моцна абпаленыя, мелі дамешкі жарствы. Краі венцаў патаўшчаліся і скошваліся вонкі. Добра загладжаныя паверхні сценак ад гарлавіны ажно да дна шчыльна пакрываліся пачарговымі паясамі з глыбокіх круглых ямак і адбіткаў шыраказубчастага штампа або вусеневых узораў. Гэтыя арнаментальныя элементы нярэдка кампанаваліся і ў ромбы, злучаныя вугламі. Менавіта па такім посудзе, невядомым дагэтуль па сваёй тэхналогіі і аздабленню мясцовым плямёнам, рэшткі жыццядзейнасці находнікаў, выяўленыя археолагамі, атрымалі назву культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі.

Для вырабу прылад працы і зброі прышлае насельніцтва выкарыстоўвала не толькі крэмень, часам і сланец, але косць і рог. Пры гэтым некаторыя формы касцяных вырабаў яно запазычыла ад нарвенцаў. Ад іх жа яно ўзяло звычай упрыгожваць цела і вопратку бурштынавымі вырабамі — падвескамі, трубачкамі, кольцамі, нашыванымі гузікамі.

На тэрыторыі Беларусі стаянкі насельніцтва культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі выяўлены на пратоцы паміж Нараччу і Мястрам, на Лепельскіх і Ліснянскіх азёрах, каля Пастаў. Такім чынам, вынікае, што прышэльцы праніклі толькі на Заходняе Паазер'е. Стаянкі іх на Беларусі невялікія па памерах, утрымліваюць даволі тонкія напластаванні са слядамі жыццядзейнасці чалавека і вельмі слаба насычаны знаходкамі.

З-за сваёй малалікасці прышлае насельніцтва з поўначы не змагло культурна і этнічна асвоіць наша Паазер'е. Ужо к канцу 3-га тысячагоддзя да н.э. яно было асімілявана мясцовым нарвенскім насельніцтвам, хоць і паспела пэўным чынам паўплываць на культуру апошняга.

Носьбітаў культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі шэраг даследчыкаў залічвае да старажытнейшых продкаў прыбалтыйскіх фінаў, найперш эстонцаў.

Мабыць, яшчэ з тых познанеалітычных часоў на поўначы Беларусі засталося некалькі назваў рэк і азёр, што паходзяць з эстонскай мовы.

## 4. Гаспадарчыя заняткі

**Прысвойваючыя формы гаспадарання.** Старажытныя людзі ў выкарыстанні прыроднага асяроддзя мала адышлі ад сваіх жывёльных продкаў. Новым у гэтым занятку напачатку стала бадай што толькі ўжыванне прылад.

Мяркуючы па форме зубоў, першыя чалавекападобныя істоты — аўстралапітэкі — хутчэй за ўсё былі ўсёеднымі. Няма таксама сумнення ў тым, што неандэртальцы, якія, магчыма, самымі першымі пачалі пранікаць на тэрыторыю Беларусі, ужо здабывалі сабе ежу паляваннем і збіральніцтвам.

Значна больш маецца сведчанняў гаспадарчых заняткаў краманьёнскіх насельнікаў Юравіцкай і Бердыжскай познапалеалітычных стаянак. Мяркуючы па рэштках касцей, што захаваліся на гэтых помніках, палявалі амаль на ўсё, што складала навакольную фауну і магло даць мяса, скуру, тлушч і косці. Найбольш спажывы прыносіла паляванне на мамантаў. Акрамя мяса ад іх атрымлівалі косці для паліва і будаўніцтва жытла. Жытло маглі накрываць і кавалкамі мамантавых скур. Палявалі таксама на валасатых насарогаў, паўночных і высакародных аленяў, мядзведзяў, зуброў, коней, казуль, ваўкоў, зайцаў і інш. Найперш для вопраткі выкарыстоўваліся скуры пушных звяроў — пясцоў, лісіц. З некаторых костак выраблялі і прылады, асабліва праколкі і іголкі, землекапалкі і інш.

Пераважная частка крамянёвых вырабаў першабытнага чалавека была зброяй або прыладамі для разбірання туш, апрацоўкі скур і касцей. Так, ручное рубіла служыла для бліжняга бою, сячэння і капання, вostраканечнікі прымацоўвалі да коп'яў, якімі калолі або забівалі дзічыну на адлегласці, часам нават з дапамогай касцяной або драўлянай коп'екідалкі. Кінжалы і нажы служылі для рэзання мяса і скур, скрабкі — для апрацоўкі скур, разцы — для работы з косткамі. Паколькі вопратка была амаль выключна скураная, то пры яе сшыванні выкарыстоўвалі праколкі.

Памеры і паводзіны дзічыны шмат у чым вызначалі і паляўнічую стратэгію. Мабыць, першапачаткова найбольш эфектыўным спосабам здабычы буйной жывёлы была аблава, у тым ліку з выкарыстаннем агню, калі дзічыну гналі да абрываў, багністых месцаў, лоўчых ям. На драбнейшых жывёлін можна было паляваць і індывідуальна, у тым ліку з выкарыстаннем розных пастак.

Другой крыніцай забеспячэння палеалітычнага чалавека ежай было збіральніцтва, хоць рэчавых доказаў яго існавання існуе вельмі мала. Нават у лесатундры прыледавіковай зоны, асабліва каля рачных узбярэжжаў, раслі пералескі і хмызнякі, дзе можна было знайсці ядомыя расліны, ягадныя і

грыбныя мясціны. Няма сумнення, што вясной шырока практыкаваўся збор птушыных яек. Маглі ўжывацца ў ежу і розныя малюскі і інш.

Напэўна, пры магчымасці лавілі і рыбу, асабліва ў час яе нерасту. Але для гэтага, мусіць, яшчэ не былі вынайдзены адпаведныя прылады і прыстасаванні. Рыбу маглі калоць коп'ямі, глушыць доўбнямі, лавіць рукамі.

Асновай гаспадаркі фінальнапалеалітычнага чалавека заставалася паляванне. Яно давала яму ежу, вопратку, абутак, матэрыялы для вырабу прылад працы, будаўніцтва жытла. Са зменай прыроднага асяроддзя мянялася фауна, а адпаведна і характар палявання. Галоўным аб'ектам палявання становіцца паўночны алень. Мабыць, па гэтай прычыне, а таксама з распаўсюджаннем лука і стрэл старадаўняя загонна-аблаўная сістэма палявання паспяхова дапаўняецца высочваннем, праследаваннем і забіваннем дзічыны кап'ём або стралой. Як сведчыць этнаграфія народаў, у культуры якіх да мінулага стагоддзя яшчэ захоўваліся першабытныя рысы, паколка паўночнага аленя праводзілася калектыўна восенню і вясной у час масавых пераправаў праз водныя перашкоды. Для гэтага выкарыстоўвалі коп'і і гарпуны. Зімой і летам галоўным відам палявання станавілася індывідуальнае высочванне з забоем дзічыны стрэламі. Паўночных аленяў маглі здабываць і з дапамогай пастак-ям, выкапаных у снезе і замаскіраваных, а таксама траншэй, дзе бездапаможная жывёліна станавілася лёгкай здабычай. Напэўна, лавілі дзічыну і петлямі, пастаўленымі на аленевых сцежках. Здабычай тагачаснага чалавека станавіліся і іншыя жывёлы, а таксама птушкі.

Паляванне на паўночных аленяў давала шмат мяса, таму не было сэнсу шмат часу аддаваць рыбалоўству. З-за беднасці расліннага свету ва ўмовах тундры няшмат спажывы магло даць чалавеку і збіральніцтва.

Асновай гаспадаркі мезалітычнага насельніцтва па-ранейшаму заставалася паляванне. Пры гэтым ва ўмовах лясной зоны яно вялося ў асноўным з дапамогай лука. Пра гэта найперш сведчыць тое, што на кожнай мезалітычнай стаянцы сустракаюцца пласцінчатыя наканечнікі стрэл. Розныя геаметрычныя мікраліты — трапецыі, трохвугольнікі і іншыя, а таксама ланцэтападобныя вастрыі таксама ў большасці з'яўляліся наканечнікамі. Мяркуючы па знаходках на тарфянікавых паселішчах суседніх краін, у мезаліце лукі майстравалі з цвёрдых парод дрэў — вяза, дуба, ціса. Яны мелі засечкі на канцах для прывязвання цецівы, а пасярэдзіне — невялікае паглыбленне для рукі. Даўжыня лукаў рэдка перавышала 150—180 см. Стрэлы былі драўляныя, трысняговыя і, магчыма, касцяныя. Даўжыня іх разам з наканечнікам дасягала 70—90 см. На адным канцы рабілі выемку для ўпору на цеціву, на другі мацавалі наканечнік — крамянёвы, касцяны (рагавы) або драўляны. Былі стрэлы і больш прымітыўныя з суцэльнай драўлянай нарыхтоўкі, з якой выразаўся нават наканечнік. Эфектыўнай паляўнічай зброяй з'яўлялася і кап'ё.

Спосабы палявання на буйных жывёл у мезаліце былі разнастайныя. Найбольш часта ўжываўся гон — праследаванне адным або некалькімі паляўнічымі жывёліны да яе знясілення. Асабліва эфектыўным гэты спосаб быў па свежым снезе, тым больш з выкарыстаннем лыжаў.

Практыкавалася і высочванне, вядомае яшчэ з палеаліту. Карыстаючыся маскай з рагамі, паляўнічы мог даволі блізка падабрацца да здабычы і забіць або раніць яе. Пра такі спосаб палявання сведчаць наскальныя малюнкі Францыі і Іспаніі, а таксама знаходкі саміх масак на стаянках Германіі і Вялікабрытаніі.

Ужываліся і розныя пасткі, з якіх, мабыць, найбольш распаўсюджанымі былі лоўчыя земляныя ямы з камянямі або вастракамі на дне.

Распаўсюджанай здабычай мезалітычнага чалавека была і драбнейшая лясная дзічына — зайцы, лісіцы, барсукі і іншыя, а таксама птушкі — качкі,

гусі, цецерукі і інш. На іх палявалі пераважна лукамі. Несумненна, што выкарыстоўваліся таксама розныя петлі, сеткі і іншыя прыстасаванні. Не выклікае ў навукоўцаў сумненняў і тое, што мезалітычны чалавек на паляванні выкарыстоўваў свойскіх сабак.

Значную ролю ў сярэднекаменны час адыгрывала і рыбалоўства. Аб гэтым найперш сведчыць той факт, што менавіта ў мезаліце з'явіліся першыя спецыялізаваныя рыбалоўныя прылады — кручкі з лескай. Здабывалі рыбу таксама касцянымі гарпунамі і восцямі. У познамезалітычны час пачалі выкарыстоўваць сеткі, што значна павялічыла прадукцыйнасць рыбацкіх намаганняў, тым больш што з'явіліся і выдзеўбаныя з камля дрэва чоўны. У самым канцы эпохі ў вузкіх рачных месцах з калоў і жэрдак пачалі будаваць заколы, у якіх рыбу лавілі бучамі. Аналіз касцявых рэштказ на тарфянікавых стаянках паказвае, што рыбакі найбольш спажывы атрымлівалі са здабычы шчупакоў.

Мяса складала аснову харчавання мезалітычнага чалавека. Яно ў некаторай ступені дапаўнялася раслінная ежай, якую атрымлівалі збіральніцтвам. Але менавіта збіральніцтва пачало займаць важнае месца ў тагачаснай гаспадарцы толькі пад канец эпохі.

Акрамя здабычы ежы ў лесе, на балоце або вадаёме чалавек каменнага веку меў шмат іншых клопатаў — апрацоўка скур і шыццё з іх вопраткі і абутку, будаўніцтва жылля, выраб рознага хатняга драўлянага начыння і найбольш майстраванне з крэменю, рога і косці, а таксама дрэва прылад працы і паляўнічай зброі.

У раннім неаліце яшчэ назіраўся росквіт прысвойваючай гаспадаркі — палявання, рыбацтва і збіральніцтва, але ў гэтых занятках к канцу эпохі пачалі адчувацца крызісныя з'явы ў сувязі з пагаршэннем клімату і празмерным выкарыстаннем прыродных рэсурсаў шматлікім насельніцтвам. Для кампенсацыі недахопу харчу яно пачало шукаць альтэрнатывы, што прывяло да з'яўлення земляробства і жывёлагадоўлі.

Багатыя фауна і флора, якія квітнелі ва ўмовах цёплага і вільготнага клімату ў ранненеалітычны час, спрыялі далейшаму развіццю прысвойваючых форм гаспадаркі. Аб гэтым шмат сведчанняў на тагачасных помніках, асабліва калі на іх захаваліся арганічныя рэчывы. Так, ранненеалітычныя жыхары стаянак Крывінскага тарфяніка на Віцебшчыне найбольш палявалі на ласёў і дзікоў, здабывалі яны таксама мядзведзяў і баброў. Для вырабу футры забіваліся выдры. На захадзе Палесся ў наваколлі сучаснай вёскі Камень Пінскага раёна ў ранненеалітычны час палявалі ў асноўным на дзіка, лася і высакароднага аленя, бабров, зуброў. Мядзведзяў і казуль здабывалі менш.

Паляпшаецца паляўнічая зброя, наканечнікі стрэл і коп'яў набываюць больш дасканалыя формы і ахайна апрацоўваюцца рэтушшу. У месцах, бедных на крамянёвую сыравіну, шырока распаўсюдзіліся касцяныя і рагавыя наканечнікі стрэл і кінжалы.

У раннім неаліце асабліва на багатым азёрамі Падзвінні росквіту дасягнула і рыбная лоўля. Пра гэта сведчыць размяшчэнне тагачасных паселішчаў паблізу рыбных вадаёмаў, знаходкі на тарфянікавых помніках кручкоў, гарпуноў, грузілаў і паплаўкоў ад сетак, костак і лускі рыбы. Месцамі сустракаюцца фрагменты чоўнаў-дзяўбёнак і вёслаў. Для вырабу чоўнаў служылі крамянёвыя цёслы, колькасць якіх у неаліце значна ўзрастае. Найбольш сведчанняў рыбалоўства выяўлена на стаянках Крывінскага тарфяніку на Віцебшчыне і на стаянцы Камень-8 у Пінскім раёне на Брэстчыне.

І ў неаліце сярод гаспадарчых заняткаў прыкметнае месца працягвала займаць збіральніцтва.

**Зараджэнне земляробства і жывёлагадоўлі.** У неалітычную эпоху, асабліва ў яе пазнейшыя перыяды, старажытнае насельніцтва Беларусі па-

чало авалодваць значна больш прагрэсіўнымі ад прысвойваючых вытвараючымі формамі гаспадарання — земляробствам і жывёлагадоўляй.

Земляробства зарадзілася на Блізкім Усходзе вельмі даўно — каля 8—7-га тысячагоддзяў да н.э., калі на Беларусі толькі ўсталёўвалася мезалітычнае грамадства. Праз пару тысячагоддзяў гэты занятак распаўсюдзіўся на паўднёва-ўсходні край Еўрапейскага кантынента. Потым ён пашырыўся на басейн Дуная, на поўдзень Польшчы і Украіны.

З земляробчай практыкай карэннае насельніцтва Украіны пазнаёмілася дзякуючы пашырэнню плямён дунайскай культуры з лінейна-стужкавай керамікай. У Сярэдняе Падняпроўе навыкі земляробства праніклі ў 4-м тысячагоддзі да н.э. з плямёнамі трыпольскай культуры, якія аказалі непасрэднае ўздзеянне на днепра-данецкае насельніцтва. Яшчэ адзін імпульс пашырэння вытвараючай гаспадаркі ва Усходняй Еўропе ішоў ад супольнасці ямнай культуры, якая прасоўвалася на левабярэжжа Ніжняга і Сярэдняга Дняпра.

Амаль на кожным неалітычным паселішчы поўдня Беларусі знойдзены крамянёвыя сярпы і масіўныя жніўныя нажы. У старажытнай глебе каля паселішчаў новага каменнага веку выяўлены пылок акультураных злакаў. У позданеалітычных арнаментах з'яўляюцца адпаведныя фігуры — трох- і чатырохвугольнікі, ромбы, звязаныя з земляробчай культавай сімволікай.

Жывёлагадоўля зарадзілася і распаўсюджвалася прыкладна адначасова з земляробствам. Аднак асвойваць некаторых дзікіх жывёл пачалі ў розных месцах, у тым ліку і ў Еўропе. Самыя раннія рэшткі свойскай жывёлы, знойдзеныя на паселішчах днепра-данецкай культуры, датуюцца пачаткам 5-га тысячагоддзя да н.э. У позданеалітычны час на стаянцы нёманскай культуры Камень-2 на захадзе Палесся, а таксама на стаянцы Бур'яка на ўсходзе Палесся былі вядомы каровы, свінні, козы і авечкі, сабакі.

Носьбіты культуры шарападобных амфар, якія пад канец 3-га тысячагоддзя да н.э. пачалі пасяляцца на захадзе Беларусі, валодалі развітай жывёлагадоўляй. Мяркуючы па матэрыялах Краснасельскага могільніка, у іх статку знаходзілася буйная і дробная рагатая жывёла, свінні, коні.

**Здабыча і апрацоўка крамянёвай сыравіны, першабытныя шахцёры.** У познім неаліце і асабліва ў наступную эпоху — у бронзавым веку з пашырэннем земляробства ўзнікла неабходнасць высечкі лясоў. Для гэтай мэты патрабавалася вялікая колькасць высакаякасных крамянёвых сякер.



Краснасельскія крэмнездабыўныя шахты. Рэканструкцыя

Крэменю, што залягае на паверхні, даволі шмат у Беларусі, асабліва на захадзе краю і ў Пасожжы. Аднак такі матэрыял высахлы і падыходзіў пераважна для дробных прылад працы. Для вырабу такіх вялікіх рэчаў, як сякера або цясла, больш падыходзіла сыравіна, якая залягала ў зямной тоўшчы. Яе здаўна знаходзілі ў рачных абрывах або на краях яроў, аднак асабліва цаніўся крэмень, што залягаў у глыбіні крэйды або вапняку.

У тоўшчы крэйды крамянёвыя канкрэцыі-жаўлакі размяшчаюцца пластамі, ланцужкамі або россыпам. Памеры жаўлакоў ад некалькіх сантыметраў да вялікіх утварэнняў у 30 — 40 см у папярочніку. Больш буйныя крамяні асабліва шукалі людзі позняга неаліту і бронзавага веку. У шэрагу месцаў перайшлі ад іх паверхневага збору да здабычы шахтавым спосабам. Такія шахты па здабычы крэменю, якія ўзніклі ў канцы неаліту, існавалі на сярэднім цячэнні Росі ў Ваўкавыскім раёне.

Калі групы познанеалітычнага насельніцтва культуры шарападобных амфар пранiклі на захад Беларусі, і ў прыватнасці на Пароссе ў ваколіцы сучаснага пасёлка Краснасельскі, яны адразу ж звярнулі ўвагу на паклады багатай на крэмень крэйды. Тым больш што яна месцамі залягала амаль на самай паверхні.

Археалагічныя даследаванні каля Краснасельскага паказалі, што спачатку крэмень тут здабывалі невялікімі ямамі і траншэямі. Гэта магло рабіць і насельніцтва мясцовай познанеалітычнай нёманскай культуры. Аднак яно яшчэ не валодала тэхнікай шахтавай горнараспрацоўкі. Першымі ж сапраўднымі шахцёрамі тут сталі шарападобнікі.

Для здабычы крэменю ў крэйдавай тоўшчы спачатку выкопвалі калодзеж-ствол дыяметрам да 1,5 м і глыбінёй у адпаведнасці з заляганнем сыравіны ў сярэднім 2—3 м. Часам выпрацоўкі былі глыбейшыя, асобныя ж паглыбляліся на 5—8 м. Дасягнуўшы пласта канкрэцый, старажытныя шахцёры пачыналі распрацоўваць іх па ходу залягання падбоямі. Яны былі невялікія, рэдка дасягалі больш чым метр у даўжыню. Гэта абумоўлівалася як тэхнікай бяспекі, так і тым, што было больш рацыянальна побач выкапаць новую шахту, чым высякаць у крэйдавай глыбіні цесныя падбоі, дзе прадукцыйнасць працы была невялікай. Калі пры паглыбленні калодзежа траплялі на некалькі крэменяносных пластоў, шахты атрымлівалі два або нават больш ярусаў падбояў.

Калі крэйдавы ўчастак быў асабліва насычаны канкрэцыямі, то на ім выпрацоўкі размяшчалі густа, і яны нярэдка злучаліся пралазамі-штрэкамі або невялікімі адтулінамі.

У месцах, дзе крэмень утвараў у крэйдавай тоўшчы россыпы, шахты мелі мехападобную форму. Пры скошаным заляганні сыравіны яны таксама рабіліся нахільнымі. Часам выпрацоўкі набывалі форму глыбокіх шчылінападобных траншэй.

Шахтапраходка і здабыча канкрэцый вялася разнастайнымі шахцёрскімі інструментамі з рога, дрэва і каменю. Яны мелі розную форму і прызначэнне. Вусцевая частка шахты магла распрацоўвацца звычайнымі завостранымі каламі. Глыбей жа ў справу ішлі матыкападобныя кіркі-кайлы. Для іх вырабу выкарыстоўваліся фрагменты пераважна аленевых рагоў з адросткамі. Пры гэтым ствол рога быў рукаяткай, а адростак — рабочай часткай. Адростак загладжваўся, каб на яго не наліпала крэйда, а канец завастраўся касым счэсваннем. Некаторыя кайлы майстраваліся з шырокіх фрагментаў пераважна ласінага рога і мелі прасвідраваныя адтуліны для насаджвання на рукаятку. Часам рабочай часткай капальных інструментаў былі кінжалападобныя ўстаўкі з адшчапаных рагавых пласцін.

У вузкіх месцах, дзе нельга было працаваць з замахам, выкарыстоўваліся розныя вастракі-капачы, зробленыя з рагавых адросткаў. Капачамі былі і

адчлененыя каронныя часткі рагоў аленя і розныя іншыя завостраныя фрагменты.

Пры здабычы крэменю выкарыстоўвалі і розныя ўдарныя інструменты — рагавыя даўбешкі, камяні, магчыма, і каменныя свідраваныя сякеры, якія часам таксама сустракаюцца ў шахтах.

Пры археалагічных раскопках шахтаў у крэйдавым друзе шахцёрскіх інструментаў сустракаецца даволі шмат. Пераважная большасць іх — пашкоджаныя экземпляры, выкінутыя наўмысна. Аднак зрэдку сустракаюцца і цэлыя экземпляры, пакінутыя па няўважлівасці.

Перагледжаную пароду з падбояў і штрэкаў выграбалі лапаткамі буйных звяроў або пашчапанымі дошчачкамі, адбіткі якіх захаваліся на крэйдавым друзе. Здабытыя канкрэцыі і сам друз, калі толькі ён не ссыпаўся ў ніжэйшыя выпрацоўкі або не зграбаўся ў суседнія пустыя падбоі, выцягваліся на паверхню хутчэй за ўсё ў плеценых кошыках і скураных мяхах. Прынамсі, тоўстая іголка для сшывання грубых скур знаходзілася ў шахтавым пахаванні аднаго з крэмнездабытчыкаў.

У друзавым запаўненні некаторых выпрацовак выяўлены пустоты, што засталіся ад невялікіх ствалоў з коратка абсечанымі сукамі. Гэта былі лесвіцы. Для лажання ў шахты выкарыстоўваліся і палкі, якія гарызантальна ўстаўляліся ў адпаведныя паглыбленні сценак выпрацовак.

Па тым, як выдатна захаваліся шахты, сценкі якіх спрэс пакрыты слядамі ад капальных інструментаў, маюць пісагі ад гарэлых лучын, а вузкія месцы зацёртыя вопраткай, можна меркаваць, што яны адразу ж пасля заканчэння распрацоўкі засыпаліся друзам з суседніх шахтаў. Гэта рабілася з-за ашчадных адносін мясцовых жыхароў да сваёй працы, іх жадання рацыянальна выкарыстаць тэрыторыю, якую стараліся не загрувашчваць перагледжанай пародай.

Першапачатковая праца над здабытымі крамянёвымі канкрэцыямі вялася ўжо непасрэдна ў шахце. Здабытчык найперш выбракоўваў дробны матэрыял, канкрэцыі з дэфектамі, збіваў з жаўлакоў непатрэбныя нарасты. Далейшая ж і асноўная апрацоўка вялася ў размешчаных побач з шахтамі майстэрнях.

Майстэрні ладзіліся каля камянёў, у прывусцевых частках напаўзасыпаных шахтаў — у месцах зацішных і зручных для працы і кароткачасовага побыту. Тут засталіся пласты адыходаў крэмнеапрацоўкі, сапсаваныя і адбракаваныя нарыхтоўкі прадукцыі, некаторыя прылады працы, а таксама рэшткі агнішчаў.

Майстэрні, што дзейнічалі на аснове Краснасельскіх шахтаў, спецыялізаваліся на вырабе пераважна крамянёвых сякер. На крэйдавых адорвенях Сярэдняга Паросся, (а некаторыя з іх перавышалі ў даўжыні два кіламетры), знаходзілася некалькі тысяч шахтаў. Таму са здабытага ў іх крэменю, верагодна, было змайстравана незлічонае мноства сякер, якія затым шляхам абмену распаўсюджваліся на ўсё Панямонне і маглі экспартавацца нават ў больш аддаленыя рэгіёны.

Краснасельскія шахты, звязаныя з імі крэмнеапрацоўчыя майстэрні, сезонныя пасёлкі шахцёраў, суседнія стаянкі ўтваралі унікальны вытворча-пасяленчы комплекс, які фукцыяніраваў каля тысячы гадоў, задавальняючы неабходнымі ў тагачасным земляробстве, ды і ў побыце рубячымі прыладамі многія пакаленні жыхарства Заходняй Беларусі. Прадуманасць канструкцыі шахтаў, адпрацаванасць тэхнікі горнай праходкі і здабычы сыравіны, дасканаласць шахцёрскіх інструментаў, некаторыя тыпы якіх захаваліся амаль да Навейшага часу, стандартызацыя апрацоўкі крэменю і спецыялізацыя вырабу прадукцыі сведчаць аб незвычайна высокім узроўні мясцовай першабытнай вытворчасці, у якой існаваў і прафесіўны падзел працы — шахцёраў, майстроў па крэменю, распаўсюджвальнікаў канечнай прадукцыі.

Падобных шахтаў у іншых мясцінах Беларусі пакуль не знойдзена. А вось майстэрні па апрацоўцы крэменю дзейнічалі на тэрыторыі рассялення многіх плямён і размяшчаліся яны пераважна каля крэйдавых радовішчаў, на паверхні якіх было шмат сыравіны, дзе яе можна было здабываць і неглыбокімі выпрацоўкамі. Такія майстэрні, напрыклад, знойдзены ў нізоўях Дзітвы. Тут яны функцыяніравалі на базе мясцовых крэйдавых радовішчаў і абслугоўвалі патрэбы насельніцтва нёманскай культуры, якое займала рачныя ўзбярэжжы на Лідчыне. Існавалі майстэрні ў ваколіцах сучаснага Гродна, на Верхнім Павіленні. Вядомыя яны і на Заходнім Палессі і ў Падняпроўі.

**Апрацоўка арганічных рэчываў. Выраб глінянага посуду.** Камень у каменным веку быў асноўнай сыравінай для вырабу прылад працы. Аднак у такіх мэтах, а таксама для іншых патрэб выкарыстоўваліся і арганічныя рэчывы — дрэва, косці, рогі і інш.

Дрэва дрэнна захоўваецца, асабліва ў пясчаным асяроддзі. Аднак несумненна, што яно было палівам ужо самаму старажытнейшаму чалавеку. Практычна на ўсіх стаянках каменнага веку Беларусі сустракаюцца сляды або нават рэшткі драўніннага вуглю. Дрэва было незаменным пры будаўніцтве жытла, як самых прымітыўных першых буданоў, так і неалітычных. З яго выраблялiся розныя рукаяткі, дрэўкі коп'яў, стрэлы, некаторыя рыбалоўныя пасткі. Ужо ў мезаліце былі вядомыя чоўны-даўбёнкі. З дрэва і кары рабілі посуд. Цяжка знайсці сферу жыцця чалавека каменнага веку, дзе б не выкарыстоўвалася дрэва.

На палеалітычных стаянках Паўднёва-Усходняй Беларусі, а таксама суседніх тэрыторый Украіны і на Браншчыне даволі шырока вядомы вырабы з косці, асабліва мамантавай. Гэта наканечнікі коп'яў, праколкі, іголкі, землекапалкі, расціpaчы і інш. Буйныя косткі мамантаў і рэбры шырока выкарыстоўваліся пры будаўніцтве жытла. Пры адсутнасці ў ледавіковую эпоху дастатковай колькасці дрэва косці ішлі і на паліва.

Няма дакладных сведчанняў таго, як выкарыстоўвала косці і рогі фінальнапалеалітычнае насельніцтва Беларусі. Па выпадковых знаходках у балотах і вадаёмах, раскопках некаторых помнікаў на суседніх тэрыторыях вядома, што ў гэты час былі шырока распаўсюджаны масіўныя рагавыя гарпуны і сякеры. Жыхары мезалітычных стаянак выраблялі з рога і костак, акрамя вядомых з папярэдніх часоў тыпаў прылад, плоскія кінжалы і разнастайныя наканечнікі стрэл з пазамі для крамянёвых укладышаў, сякеры з круглымі або авальнымі адтулінамі для рукаятак, дробназубчастыя гарпуны. Яшчэ больш сведчанняў выкарыстання арганічных рэчываў захавалася на неалітычных тарфянікавых стаянках, а таксама на Краснасельскіх шахтах, дзе ўжывалі рагавыя шахцёрскія інструменты.

Косць і рог апрацоўваліся рознымі спосабамі. Спачатку матэрыял награвалі, каб ён страціў натуральную цвёрдасць, а потым яго шчапалі, рассякалі, пілавалі, абстругвалі, паліравалі. Акрамя сякеры і нажа найбольш распаўсюджанымі і спецыялізаванымі інструментамі ў рабоце з рогам былі крамянёвыя разцы.

Ужо ў сярэднім неаліце чалавек з валокнаў дзікарослых раслін навучыўся рабіць ніткі, якія выкарыстоўваліся для шыцця і, мабыць, ткацтва. Мяркуючы па адбітках на кераміцы, у канцы неаліту ніткі рабілі і з воўны свойскай дробнай рагатай жывёлы.

Чалавек яшчэ з часоў палеаліту быў знаёмы з пластычнымі ўласцівасцямі гліны і з яе абпалам, у выніку чаго яна як бы камянела і не размакала ад вады. Таму, калі ўзнікла патрэба ў трывалым і асабліва вогнетрывалым посудзе, глінай пачалі абмазваць розныя плеценыя з арганічных рэчываў змесцівы, а затым ляпіць і абпальваць адмысловы посуд.

Гліна, прызначаная для вырабу посуду, працяглы час апрацоўвалася. Яна найперш ачышчалася ад непатрэбных дамешак, здрабнялася і доўгі час вытрымлівалася пры розных тэмпературах. На завяршальным этапе падрыхтоўкі фармовачнага цеста гліну размочвалі і старанна перамешвалі, дабаўляючы розныя дамешкі — валакністыя раслінныя рэшткі, здробненыя ракавіны, шамот, пясок, а ў позні неаліце і жарству. Дзякуючы дамешкам посуд рабіўся больш моцным і не трэскаўся пры абпале.

Гаршкі найчасцей ляпіліся з даволі шырокіх гліняных стужак, якія змацоўваліся касым або тарцовым прылепам. Стык паміж стужкамі дадаткова мацаваўся накладаннем тонкіх гліняных пластоў. У ранненеалітычны час край венца неабпаленай пасудзіны для моцы сцягвалі стужкай кары — лубу. У познім неаліце ў краявы жгут закатвалі тоўстую нітку. Затым усе няроўнасці сценак саскрабаліся зубчастымі пласцінкамі, загладжваліся касцянымі глянцавальнікамі. У выніку на паверхнях посуду заставаліся характэрныя сляды расчэсвання або заштрыхоўка. Але каб кераміка мела лепшы выгляд, звонку яна абмазвалася моцна разбаўленай глінай — пакрывалася ангобам.

Неалітычны посуд Беларусі, асабліва на раннім этапе, даволі аднастайны па форме. Гэта былі пераважна яйцападобныя гаршкі з вострым дном, а часам прыкругленым. Такая форма дна абумоўлівалася тым, што страву гатавалі на звычайных агнішчах. Толькі краі венцаў гаршкоў былі больш разнастайныя — яны маглі быць простымі, крыху зведзенымі да сярэдзіны, але найчасцей злёгку адагнутымі. У адзінкавых выпадках ужывалі злёгку рабрысты посуд. Ранненеалітычныя жыхары Паўночнай Беларусі акрамя гаршкоў выкарыстоўвалі авальныя місачкі.

У познім неаліце ў сувязі з больш разнастайным харчаваннем (не толькі мяса-раслінным, але і малочным), павелічэннем спосабаў гатавання ежы, а таксама пранікненнем на нашу тэрыторыю іншакультурных прышлых людзей, якія прыносілі свае керамічныя традыцыі, сярод посуду з'яўляюцца новыя адмысловыя формы. Так, акрамя традыцыйных яйцападобных гаршкоў пачалі ляпіць пасудзіны з выдзеленай шыйкай і адагнутым венцам, міскі, амфары, мініяцюрныя змесцівы і інш. У гэты ж час упершыню з'яўляецца і пласкадонная кераміка, што сведчыць пра наяўнасць агнішчаў з роўным подам, сталоў і паліц для посуду.

Перад абпалам практычна ўвесь посуд пакрываўся штампаванымі і наразнымі арнаментамі з адбіткаў грэбеня, насечак, розных наколаў, паглыбленняў, наразных (пракрэсленых) рысак. У познім неаліце сталі выкарыстоўвацца таксама адбіткі лінейнага штампа і шнура. Самая старажытная кераміка аздаблялася даволі сціпла і пераважна ў версе пасудзіны. Пазней арнаментацыя становіцца больш насычанай, набывае ўскладнёнасць. Часам з'яўляюцца нават выяўленчыя элементы. Пад краем венцаў пераважнай большасці неалітычных гаршкоў з Беларусі — традыцыйны пояс з глыбокіх круглых ямак. Часам, у прыватнасці на Палессі, паверхня посуду націралася рудымі або чырвонымі фарбавальнікамі.

Абпал керамічных вырабаў праводзіўся на агнішчах, таму ён быў не вельмі якасным — паверхні часам станавіліся плямістымі, сярэдзіна злому мела цямнейшы праслоек. У познім неаліце тэрмічная апрацоўка стала больш дасканалай, а сценкі посуду —мацнейшымі.

## 5. Духоўная культура ў каменным веку

У эпоху палеаліту ўзровень інтэлектуальнага развіцця старажытных людзей дасягнуў такой ступені, калі ўзнікае патрэбнасць як у пэўных эстэтычных адчуваннях, так і ў поглядах, якія б давалі ўяўленне пра агульную



Познапалеалітычная касцяная статуэтка з Браншчыны

карціну свету і тлумачылі месца чалавека ў ім. Так узніклі першабытнае мастацтва і рэлігійныя вераванні. Паколькі на тэрыторыі Беларусі адсутнічаюць выхады горных парод, то не маглі ствараццa і наскальныя роспісы накшталт сустрэтых у іншых краінах або выявы на сценах пячор. Даступнымі спосабамі адлюстравання акаляючага асяроддзя, змяшчэння магічных выяў, перадачы праз матэрыяльныя вырабы тагачасных міфалагічных поглядаў для палеалітычных паляўнічых і збіральнікаў з'яўляліся выраб упрыгожанняў, нанясенне выяў на такі распаўсюджаны ў той час матэрыял, як косці здабытых на паляванні мамантаў, стварэнне касцяных статуэтак.

Шырока вядомыя на многіх палеалітычных стаянках Еўропы выраблены з косці фігуркі жанчын, празваных "палеалітычнымі Венерамі". Адна такая змайстраваная з біўня маманта статуэтка знойдзена непадалёку ад тэрыторыі Беларусі на стаянцы Елісеевічы ў Бранскай вобласці. Яна адрозніваецца ад аналагічных знаходак Усходняй Еўропы больш дасканалай прапорцыяй форм. Галава ў елісеевіцкай статуэткі была, магчыма, адбітая або адсутнічала з самага пачатку. На многіх іншых палеалітычных статуэтках галовы, асабліва твар, выяўлены вельмі схематычна.

Наконт прызначэння "палеалітычных Венер" існуе некалькі гіпотэз. Многія лічаць, што гэта характэрныя для часоў мацярынскай родавай абшчыны (матрыярхату) выявы мацярынскіх продкаў, сімвалы адзінства і кроўнай сувязі членаў роду, увасабленне плоднасці. Іншыя сцвярджаюць, што статуэткі адлюстроўваюць веру ў іх магічную здольнасць садзейнічаць поспеху палявання або з'яўляюцца сведчаннем грамадскай павагі да жанчын. Аднак найбольш пераканаўчай выглядае думка, што "палеалітычныя Венеры" — помнікі культу звышнатуральнай усемагутнай істоты, погляду якой баяліся, таму і паказвалі без твару. Гэтыя істоты маглі адначасова ўвасабляць паняцці нараджэння і смерці, спрыялі як размнажэнню дзікіх звяроў, так і паляванню на іх. Яны — маці-прадзіхі і ў той жа час злосныя, жорсткія, каварныя, не адрозніваюць дабра ад зла, як сляпая сіла прыроды, погляд іх забівае. Гэта правобраз міфалагічнага персанажу, вядомага ў некаторых пазнейшых народаў як Вялікая багіня.

Цела і вопратку людзі каменнага веку яшчэ з часоў позняга палеаліту ўпрыгожвалі рознымі амулетамі з зубоў ваўка, лісіцы, пясца і іншых звяроў. Пра існаванне ўжо ў старажытным каменным веку культу ваўка сведчаць выяўленыя на некаторых тэрыторыях яго рытуальныя пахаванні і экспанаванне ваўчыных чарапоў. Як паказана многімі даследчыкамі, пазней воўк увасабляў хтанічнае (падземнае) бажаства. Такая повязь міфалагічных персанажаў з жывёламі мае вытокі ў татэмных уяўленнях, надзвычай характэрных для палеаліту і мезаліту. Як мяркуюць даследчыкі па матэрыялах з суседняй Літвы, у тыя эпохі ў рэлігійных уяўленнях дамінаваў вобраз "Гаспадара звяроў", які ўяўляўся ў вобразе лася і іншых дзікіх жывёлін.

Вядома, у дачыненні да палеаліту яшчэ завельмі рана ўжываць тэрміны "бог" або "бажаства". Міфалагічныя персанажы таго часу былі толькі іх правобразамі.

Старажытныя жыхары тых жа Елісеевіч на Браншчыне ў магічных мэтах выкарыстоўвалі так званыя чурынгі — пласціны з біўняў маманта, аздобленыя геаметрычнымі арнаментамі, сярод якіх вядомы паралельныя лініі, зігзагі, шасцівугольнікі. На адной пласціне сярод геаметрычнага арнаменту маюцца дзве схематычныя выявы канічных чумаў, на іншай пласціне "жытло" паказана з паўкруглым дахам.


Гравіраваныя выявы на косці. Возера Вячэра Любанскага раёна

На мезалітычных стаянках Беларусі амаль не маецца знаходак рога і косці, якія былі адпаведным матэрыялам для арнаментавання і дробнай пластыкі. Па гэтай прычыне цяжка што-небудзь сказаць пра рэлігію і мастацтва таго часу. Толькі пад Смаргонню ў жвіровым кар'еры знойдзены масіўны выраб з рога, пакрыты нарэзкавым і кропкавым узорам.

На падставе археалагічных раскопак, асабліва тарфянікавых стаянак, значна больш можна даведацца пра духоўную культуру неалітычнага насельніцтва Беларусі. Мяркуючы па касцяных фігурках жывёл, ушаноўваліся лось, качкі, чаплі, змеі. Існаваў і культ лася, які, верагодна, паходзіў яшчэ з фінальнага палеаліту — мезаліту. Выявы качак маглі быць адлюстраваннем як хтанічных вераванняў, так і культу сонца. Па-ранейшаму шырока былі вядомыя амулеты, у тым ліку і з прасвідраваных зубоў мядзведзя і дзіка. Хутчэй за ўсё яны павінны былі перадаць людзям сілу і спрыт адпаведных звяроў. Не выключана, што амулетамі маглі быць і зубы звяроў—татэмаў роду.

У новакаменны час пашыраюцца выявы антрапаморфных істот. Такая выява знойдзена на адной з пасудзін з паселішча Юравічы ў Калінкавіцкім раёне ("мужчына з качкай"). На косці з возера Вячэра ў Любанскім раёне былі выгравіраваны мужчынскія, таксама схематычныя выявы, адна з іх трымае ў руцэ рэч, падобную на сякеру.

Майстэрства старажытных скульптараў найбольш праявілася ў антрапаморфных выявах з Асаўца Бешанковіцкага раёна, дзе знойдзены дзве выявы людзей — драўляная і касцяная. Абедзве скульптуркі ўяўляюць еўрапеоідны антрапалагічны тып. Звязана гэта з тым, што старажытныя майстры стваралі абагульненыя вобразы сваіх супляменнікаў.

Калі ў мастацтве палеаліту антрапаморфныя выявы прысвечаны пераважна жанчынам, то ў неаліце Беларусі сустракаліся толькі мужчынскія выявы — вобразы нейкіх міфічных герояў і духаў. Гэта было выклікана складваннем патрыярхальных родавых калектываў, дамінаваннем у гаспадарцы паляўнічых і пастухоў. У той час як палеалітычныя жаночыя статуэткі адлюстроўвалі перш за ўсё біялагічны пачатак у чалавеку пры схематычным паказе галавы і твару, то неалітычныя мастакі асноўную ўвагу надавалі твару з індывідуальнымі асаблівасцямі. Чалавек у гэты час усё больш асэнсоўваў сябе мыслячай істотай.

Такія адносіны ў выяўленчым мастацтве да чалавека звязаны са зменамі ў рэлігійных вераваннях. Побач з захаваннем міфалагічных уяўленняў пра хтанічныя (падземныя) персанажы ўзнікае вера ў апекуна (валадара) грому і маланкі. У досыць зачаткавай форме, мабыць, існавалі вераванні і ў апекуна сонца.

У неаліце або нават некалькі раней пачалі ўшаноўваць некаторыя крыніцы. Пра гэта сведчаць назіранні латвійскіх археолагаў, якія выявілі, што з



Выяўленчая кампазіцыя на неалітычным гаршку.
Вёска Юравічы Калінкавіцкага раёна

адной з крыніц бралі вохру для рытуальнага пасыпання нябожчыкаў, каля другой знаходзіліся каменныя сякеры. Не выключана, што ў каменным веку ўжо ўшаноўваліся і некаторыя асабліва вялікія валуны.

Гліняны посуд, што з'явіўся ў неаліце, пакрываўся разнастайнымі арнаментамі, якія мелі магічны сэнс, а таксама задавальнялі эстэтычныя патрэбы чалавека. Элементамі арнаментаў былі адбіткі грабеньчатага і лінейнага штампа, накалы, насечкі, ямкі, пракрэсленыя рысы, якія ўтваралі паясы, вертыкальныя лініі, касыя і рамбічныя кампазіцыі. Асабліва насычанымі арнаменты на посудзе становяцца ў познім неаліце.

На тэрыторыі Беларусі знойдзены толькі адзінкавыя пахаванні каменнага веку. Таму мы не ведаем тагачасных пахавальных абрадаў і не можам рэканструяваць вераванні, звязаныя з культамі мёртвых. Толькі з позняга неаліту паходзіць некалькі пахаванняў на Росі ў Ваўкавыскім раёне, пакінутых носьбітамі культуры шарападобных амфар. Мяркуючы па канструкцыі магіл і тым, што ў іх змяшчалася, шарападобнікі практыкавалі як культы памерлых, так і плоднасці. Як мяркуецца, рэшткі свіней у магілах сімвалізавалі багіню зерня, урадлівасці, жыцця і смерці. Буйная рагатая жывёла звязвалася з месяцам, месяцавым бажаством жыцця і смерці, была гарантам уваскрашэння.

## ГЛАВА 2

# ПЛЯМЁНЫ БЕЛАРУСІ Ў БРОНЗАВЫМ ВЕКУ

**Асаблівасці эпохі.** Бронзавы век — эпоха ў гісторыі чалавецтва, калі ўзнікае і актыўна пашыраецца металургія, апрацоўка і выкарыстанне бронзы. Раннія металічныя вырабы, якія ўжываліся разам з каменнымі і крамянёвымі, уносілі прыкметныя змены ў жыццё тагачасных людзей і спрыялі асабліва паскоранаму развіццю грамадства. Наступленне новай эпохі ў першую чаргу адзначалася зрухамі ў гаспадарчай, сацыяльнай і духоўнай сферах жыцця.

На Беларусі першыя металічныя вырабы пачынаюць выкарыстоўвацца на Верхнім Падняпроўі з пачатку 2-га тысячагоддзя да н.э. насельніцтвам сярэднедняпроўскай культуры. Але яшчэ пэўны час на тэрыторыі нашай краіны ў значнай ступені захоўваўся неалітычны ўклад жыцця. У сувязі з гэтым некаторыя даследчыкі прапаноўваюць вылучаць адмысловы перыяд на пераломе неаліту і бронзавага веку, які адлюстроўвае працэс культурных змен у межах нізін Сярэдняй і Усходняй Еўропы.




Рассяленне плямён бронзавага веку:
1 — плямёны са шнуравой керамікай Панямоння; 2 — плямёны паўночнабеларускай культуры; 3 — плямёны сярэднедняпроўскай культуры; 4 — плямёны са шнуравой керамікай Заходняга Палесся; 5 — плямёны тшцінецка-сосніцкай супольнасці

Паводле традыцыйнай археалагічнай перыядызацыі, якая заснавана на вызначэнні агульных змен у развіцці культуры, бронзавы век падзяляецца на ранні, сярэдні і позні перыяды.

Ранні перыяд на поўдні і паўднёвым усходзе Беларусі ахоплівае час ад першых стагоддзяў 2-га тысячагоддзя да н.э. да XVI/XV стст. да н.э. і найперш звязваецца з развіццём культур і груп шнуравой керамікі. Паводле Р.Рымантэне, культуры са шнуравой керамікай на тэрыторыі Беларусі і Усходняй Прыбалтыкі ўваходзілі ў сферы двух асноўных культурнавызначальных рэгіёнаў — прыбалтыйскага і падняпроўскага[1]. На поўдні Беларусі (група палескай шнуравой керамікі і прыпяцкая група сярэднедняпроўскай культуры) назіраліся сувязі з прыкарпацкім культурным кругам.

Побач з прышлым шнуравым культурным кампанентам у ранні перыяд бронзавага веку назіраецца паралельнае існаванне і ўзаемапранікненне іншых культурных з'яў: перажыткавага неаліту (эпінеаліту) і, не выключана, трансфармаваных пад мясцовым уплывам позніх элементаў культуры шарападобных амфар.

Сярэдні перыяд бронзавага веку прыпадае на XVI/XV – XII/XI стст. да н.э. У гэты час на большай частцы поўдня і захаду Беларусі жыло насельніцтва тшцінецка-сосніцкай культурнай супольнасці. Магчыма, працэс яго ўзнікнення адбываўся

[1]*Римантене Р.К.* Культура шнуровой керамики в Прибалтике // Новое в археологии СССР и Финляндии. Л., 1984. С.34–40.

шляхам кансалідацыі розных культурных праяў часоў ранняй бронзы на нізінах ад Вісла-Одэрскага міжрэчча да Падзясення і Падняпроўя[1]. Тшцінецка-сосніцкія культурныя ўплывы даходзілі да цэнтральных і нават паўночных раёнаў Беларусі, дзе адзначаецца кераміка з ружанцавым арнаментам. Аднак разам з тым паўночны рэгіён Беларусі па-ранейшаму быў далучаны да культур Прыбалтыкі.

У позні перыяд (XII/XI – VIII стст. да н.э.) поўдзень Беларусі засяляла насельніцтва, археалагічныя помнікі якога адносяцца да познасосніцкага або лебядоўскага тыпу. Аднак пакуль што маладаследаванай застаецца праблема яго ролі ў генезісе культур ранняга жалезнага веку. На поўначы ж Беларусі ў канцы эпохі з'яўляецца тэкстыльная і штрыхаваная кераміка і пачынае, верагодна, складвацца ранні этап днепра-дзвінскай культуры[2].

З усталяваннем культур ранняй бронзы вытвараючая гаспадарка на нашых землях пачынае займаць вядучае становішча. Аднак дынаміка і суадносіны форм гаспадарання ў гэты час на Беларусі пакуль не з'яўляліся прадметам спецыяльных даследаванняў.

Актывізуецца абмен, найперш па набыцці металу і вырабаў з яго, а таксама высакаякасным крэменем, бурштынам.

Тагачаснае грамадства, што асабліва бачна на падставе даследаванняў на суседніх тэрыторыях, перажывала бурныя гаспадарчыя, сацыяльныя і палітычныя пераўтварэнні. Прынамсі, захоўваючы эгалітарызм (ураўняльнасць), асабліва ў пачатку эпохі бронзы, супольнасці пачынаюць структурна падзяляцца паводле ўзроставых, палавых адзнак, далучанасці да асноўных матэрыяльных каштоўнасцей, удзелу ў абменных аперацыях, адведзенай ролі пры выкананні абрадаў і г.д. Ужо ў раннім перыядзе бронзы вызначаецца вядучае становішча мужчыны ў грамадстве, прыкметна праяўляюцца патрыярхальныя адносіны.

Бурлівыя міграцыйныя працэсы, якія ахапілі большую частку Еўропы ў 3-м – пачатку 2-га тысячагоддзя да н.э.,назіраліся і на тэрыторыі Беларусі. У гэты час на нашы землі пранікае насельніцтва з выразнымі індаеўрапейскімі асаблівасцямі. Аднак трэба адзначыць, што мясцовы этнічны пласт — спрадвечныя неалітычныя насельнікі, мяркуючы па матэрыялах да- і раннетшцінецкага часу, актыўна ўключыліся ў этнакультурныя працэсы. Лесастэпавы паўднёвы этнічны элемент мог мець пэўнае дачыненне да фарміравання тагачаснага насельніцтва ў Верхнім Падняпроўі і на Ніжняй Прыпяці. Сваё адмысловае месца ў этнаразвіцці на поўначы Беларусі заняў фіна-угорскі кампанент.

У эпоху бронзы ў духоўным жыцці вялікае значэнне набываюць культы агню, сонца, вады, што абумоўлена найперш большай размеранасцю і рэгулярнасцю працы, якая цяпер засноўвалася на сезонна-гаспадарчай цыклічнасці пры развядзенні свойскіх жывёл і вырошчванні раслін. Фарміраванне культаў у многім залежала ад прытоку новых індаеўрапейскіх светапоглядных традыцый.

## 1. Фарміраванне супольнасцей ранняга перыяду бронзавага веку

**Старажытныя індаеўрапейцы.** У 3-м тысячагоддзі да н.э. у Еўропе адбываюцца выключныя па сваім значэнні змены, важнейшым вынікам якіх стала з'яўленне на прасторах кантынента носьбітаў індаеўрапейскіх моў і складванне многіх еўрапейскіх супольнасцей, у тым ліку і тых, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі ў эпоху бронзы і ў наступныя часы.

У першапачатковай гісторыі індаеўрапейцаў яшчэ шмат нявысветленага. Спрэчкі навукоўцаў найбольш вядуцца вакол пошукаў іх першапачатковай лакалізацыі — аб "прарадзіме", а таксама аб вызначэнні шляхоў, часу і

[1] *Czebreszuk J.* Społeczności Kujaw w początkach epoki brązu. Poznac,1996. S.152–158.
[2] *Зайковский Э.М.* Неолит и бронзовый век Белорусского Подвинья: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Вильнюс, 1985. С.16.

механізму распаўсюджання індаеўрапейскіх дыялектаў і іх носьбітаў. У пачатку асваення Еўропы індаеўрапейцы верагодней за ўсё займалі паўночнапрычарнаморскія і прыволжскія стэпы або нават і шырэйшую прастору, куды яны, па меркаванні некаторых даследчыкаў, трапілі з Паўднёвага Каўказа, Усходняй Анатоліі і Паўночнай Месапатаміі, дзе, магчыма, і знаходзілася ў 5 — 4-м тысячагоддзях да н.э. іх "прарадзіма"[1].



Каменныя свідраваныя сякеры з басейна р.Шчары

Індаеўрапеізацыя нашага кантынента, верагодна, адбывалася шляхам пранікнення індаеўрапейскіх дыялектаў разам з нейкай часткай насельніцтва, якое змешвалася з мясцовымі этнічнымі групамі і перадавала ім з большым або меншым поспехам сваю гаворку.

Існуе даволі распаўсюджанае меркаванне, што першапачатковыя імпульсы індаеўрапейскага пранікнення ў Еўропу маглі зыходзіць найперш з асяроддзя стэпавай ямнай культурнай супольнасці. Аднак высвятляецца, што менавіта тэрыторыя ямнай супольнасці стала месцам абасаблення індаіранскай дыялектнай групы, а таму "ямнікі" маглі толькі ўплываць на мясцовыя культуры Сярэдняй Еўропы[2].

Якім бы чынам ні адбываліся працэсы індаеўрапеізацыі, зараз амаль не выклікае сумненняў, што ў 2-м тысячагоддзі да н.э. большасць Еўропы ўжо была заселена насельніцтвам, якое размаўляла на індаеўрапейскіх мовах.

З адным з этапаў індаеўрапеізацыі значных прастораў Сярэдняй і Усходняй Еўропы звязваюць распаўсюджванне культур шнуравой керамікі, найбольш раннія праявы чаго заўважаюцца яшчэ ў 3-м тысячагоддзі да н.э. У канцы 3-га — першай палове 2-га тысячагоддзя да н.э. у перыяд свайго найбольшага пашырэння носьбіты "шнуравых" і вытворных з іх "эпішнуравых" культур асвоілі прасторы ад Рэйна на захадзе да Волгі на ўсходзе і ад Фінляндыі на поўначы да Сярэдняга Падняпроўя і Карпат на поўдні. Першапачатковыя этапы гісторыі шнуравікоў звязваюць з так званым "агульнаеўрапейскім гарызонтам", матэрыяльныя сведчанні якога сустракаюцца пры вывучэнні тагачасных паселішчаў і могільнікаў пераважна Сярэдняй Еўропы.

"Агульнаеўрапейскі гарызонт", на думку некаторых даследчыкаў, мог утварыцца ў выніку вельмі хуткага распаўсюджання пэўных груп насельніцтва са старажытнымі "шнуравымі" рысамі. Культуры пазнейшых шнуравікоў,паводле меркавання большасці навукоўцаў, сфарміраваліся ў выніку вельмі складаных працэсаў (акультурацыі, асіміляцыі, інфільтрацыі і інш.) з удзелам як нашчадкаў "агульнаеўрапейскага гарызонту", так і мясцовых груп насельніцтва і адзначаюцца на вялікіх прасторах Сярэдняй і Усходняй Еўропы, у тым ліку і на Беларусі.

**Насельніцтва культур шнуравой керамікі на Беларусі.** З'яўленне груп насельніцтва са шнуравой керамікай на тэрыторыі Беларусі, верагодна, было адной з істотнейшых падзей індаеўрапеізацыі нашага краю. Якія ж шнуравікі праніклі ў межы Беларусі — звязаныя з культурай "агульнаеўрапейскага гары-

[1]*Гамкрелидзе Т, Иванов В.* Индоевропейский язык и индоевропейцы. Тбилиси, 1984.
[2]История Европы. М., 1988. Т.1. С.106.



Посуд насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры

зонту" або іх пазнейшыя нашчадкі "эпішнуравікі"? Паводле даследаванняў літоўскага навукоўца Р.Рымантэне, носьбіты "агульнаеўрапейскага гарызонту" мелі дачыненне да фарміравання прыморскай супольнасці са шнуравой керамікай ва Усходняй Прыбалтыцы. Вельмі верагодна, што яна ў сваю чаргу пашыралася і на заходнія раёны Беларусі, у прыватнасці на Панямонне, а таксама ўплывала на генезіс плямёнаў паўночнабеларускай культуры.

Цяжэй пакуль вызначыць, як складвалася супольнасць плямёнаў падняпроўскай шнуравой керамікі, культуру якіх называюць сярэднедняпроўскай. Па меркаванні Я.Махніка, актыўнаму распаўсюджванню ранніх шнуравікоў ва ўсходнім кірунку перашкаджалі групоўкі насельніцтва культуры шарападобных амфар. Таму генезіс раннябронзавай супольнасці Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя мог адбыцца ў "познашнуравым" асяроддзі пры значным удзеле ўсходніх груп культуры шарападобных амфар, пры ўплыве стэпавых культур і адначасова з вялікай роллю ў яе фарміраванні мясцовага познанеалітычнага насельніцтва.

Паводле заключэння І. Арцёменкі, першапачаткова сярэднедняпроўская супольнасць шнуравікоў пачала фарміравацца на невялікай тэрыторыі правабярэжжа Сярэдняга Падняпроўя. Гэты самы ранні этап яе існавання займаў XXVI–XXIV стст. да н.э. На сярэднім этапе (XXIV–XVIII стст. да н.э.) сярэднедняпроўцы рассяліліся на левабярэжжа Сярэдняга Дняпра, на Дзясну, Прыпяць, Верхняе Падняпроўе. Адначасова адбываецца працэс асіміляцыі мясцовага насельніцтва, вынік чаго выразна праяўляецца на познім этапе (XVIII–XV стст. да н.э.)[1].

На тэрыторыі Беларусі плямёны сярэднедняпроўскай культуры распаўсюджваліся па Верхнім Падняпроўі, у Прыпяцкім Палессі, верагодна, пры гэтым пашыраючы свой уплыў на суседнія рэгіёны Верхняга Панямоння і Пінскага Загароддзя. На Беларусі паселішчы і пахаванні сярэднедняпроўцаў адносяцца да сярэдняга і позняга этапаў развіцця іх культуры.

Насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры звычайна сялілася на пясчаных пагорках сярод рачных і азёрных паплавоў, на краях рачных тэрас. Тут яно ўзводзіла (Ксяндзова Гара Быхаўскага, Завалле Рагачоўскага, Лоша-1 Кармянскага, Азярное-1 Любанскага раёнаў) наземнае жытло слупавой канструкцыі з агнішчамі ў ямах, часам абкладзеных камянямі. Побач сустракаюцца і рэшткі гаспадарчых ям. Мясцовыя жыхары ўжывалі кухонны і сталовы ляпны посуд: вялікія пласкадонныя пасудзіны з адагнутымі прамымі гарлавінамі, танкасценнае начынне з прамымі венцамі або ў выглядзе слоікаў, звонападобнай і біканічнай форм, а таксама гаршкі з патаўшчэннямі-каўнерыкамі пад краем венца, чашы з плоскімі або акруглымі днамі. Посуд багата арнаментаваўся традыцыйнымі для сярэднедняпроўцаў радамі пракрэсленых трохвугольнікаў, ліній, насечак, адбіткамі шнура або па-

[1]*Артеменко И. И.* Культуры раннего бронзового века южной полосы лесов Европейской части СССР // Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987. С.38.

лачкі з накручанай ніткай. На больш старажытных гліняных вырабах арнаменты ўтваралі адну-дзве зоны, пазней распаўсюдзілася больш ускладненае шматзоннае аздабленне.

Жыхары паселішчаў таксама карысталіся крамянёвымі скрабкамі, нажамі, сякерамі, наканечнікамі стрэл, коп'яў, каменнымі свідраванымі сякерамі, зерняцёркамі, адбойнікамі, вырабамі з косці. Вядомы ім былі і металічныя вырабы — найперш зброя і ўпрыгожанні.

Знойдзены і могільнікі, якія адносяцца да сярэднедняпроўскай культуры (Ходасавічы Рагачоўскага, урочышча Страліца каля Рудні Шлягінай Веткаўскага, Сябровічы Чачэрскага раёнаў).



Пахаванне знатнага чалавека ранняга этапу бронзавага веку. Падняпроўе

На месцы пахаванняў звычайна распальвалі вогнішчы, мабыць, каб ачысціць іх магічнай сілай агню. Затым выкопвалі ямы даволі рознай арыентацыі, дно якіх пасыпалі вуголлем або попелам, пакрывалі падсцілкай. На падсцілку нябожчыкаў клалі ў скурчаным стане. Аднак у некаторых выпадках змяшчалі і спаленыя рэшткі памерлага. Пахавальныя ямы перакрываліся драўлянымі плашчакамі, зрэдку яны мелі павеці або агароджы. Затым над магіламі насыпалі курганы, якія абкопваліся раўкамі, часам абносіліся агароджай.

Аднак найчасцей сярэднедняпроўцы хавалі памерлых на бескурганных могільніках, пры гэтым па абрадзе як трупаспалення-крэмацыі, так і трупапалажэння-інгумацыі. Нябожчыка клалі бокам у скурчаным стане, зрэдку на спіне. Некаторыя магілы або іх групы мелі драўляныя агароджы, часам аддзяляліся ад астатняга могільніку раўкамі.

Памерлым клалі разнастайныя падарункі: гліняны посуд, каменныя, крамянёвыя, металічныя вырабы, упрыгожанні і іншыя рэчы з косці, бурштыну, фаянсу. Пры гэтым посуд з магіл звычайна адрозніваўся ад кухоннага і сталовага некаторымі тэхналагічнымі, арнаментальнымі і марфалагічнымі асаблівасцямі. Найчасцей гэта былі гаршкі, амфары, кубкі. Пахавальныя гаршкі пераважна мелі акруглае ці плоскае дно, высокія або кароткія гарлавіны і акруглае тулава. Зрэдку ў пахаванне ставілі гаршкі складанага (S-падобнага) профілю з плоскімі днамі, а таксама кубкі — невялікія, з акруглым тулавам і высокай гарлавінай пасудзіны цыліндрычнай або звонападобнай формы. Жыхары Сярэдняга Падняпроўя і Падзясення таксама змяшчалі ў магілы біканічныя або з выцягнутаакруглым тулавам амфары.

Акрамя керамікі ў пахаваннях маглі быць крамянёвыя нажы, лукі са стрэламі, коп'і або дроцікі з крамянёвымі наканечнікамі, крамянёвыя шліфаваныя сякеры. Звычайна памерлым клалі каменныя шліфаваныя сякеры са свідраванымі адтулінамі, а часам іншыя каменныя рэчы: шліфавальныя пліткі, булавы, матыкі, зерняцёркі, адбойнікі, грузілы і інш.

У некаторых выпадках на целе і вопратцы нябожчыкаў меліся розныя ўпрыгожанні: бурштынавыя падвескі, касцяныя пацеркі, каралі з ваўчыных і аленевых зубоў, медныя акулярападобныя падвескі і скроневыя кольцы, трубчастыя пранізкі, бранзалеты, грыўні і дыядэмы. Памерлым, якія пры жыцці займалі высокае сацыяльнае становішча, клалі медныя і бронзавыя прылады працы і зброю — нажы, шылы, сякеры, коп'і з металічнымі наканечнікамі.

Вельмі распаўсюджаным быў звычай змяшчаць у пахаванні ахвярных жывёлін або іх часткі.

Знамянальна, што на могільніках побач з надзвычай багатымі на рэчы пахаваннямі сустракаліся і безынвентарныя магілы.

Насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры займалася жывёлагадоўляй і земляробствам. Гадавалі кароў, авечак і коз, свіней, коней. Значная роля належала паляванню, рыбалоўству і збіральніцтву.

Сярэднедняпроўскае грамадства мела прыкметы структурнага падзелу, найперш па палавой і ўзроставай адзнаках. Назіраюцца адрозненні ў наборы пахавальных падарункаў, выбары месца для магілы, прызначанай для мужчыны, жанчыны або дзіцяці. Некаторыя мужчынскія пахаванні ўтрымлівалі багатыя наборы металічнай зброі, адмысловыя ўпрыгожанні, рэдкія прывазныя рэчы. Магчыма, такія нябожчыкі пры жыцці мелі высокі сацыяльны статус, асаблівыя вайсковыя абавязкі, што дазваляе канстатаваць развіццё патрыярхальных адносін. Асобныя ж пахаванні мужчын утрымлівалі самыя дасканалыя па тых часах, а значыць, вельмі дарагія наборы зброі (металічныя сякеры, коп'і), што можа сведчыць пра асабліва значную ролю, якую яны адыгрывалі ў грамадстве пры жыцці.

Верагодна, такія змены ў грамадскай структуры ў пэўнай ступені маглі адбывацца не толькі ў выніку ўнутранага сацыяльнага развіцця, але і пад уздзеяннем паўднёвых суседзяў, напрыклад супольнасці катакомбнай культуры.

Большасць металічных рэчаў або сыравіну для іх вырабу сярэднедняпроўцы праз пасрэднікаў атрымлівалі з Балкана-Карпацкага і Каўказскага металургічных цэнтраў. Верагодна, мясцовае насельніцтва і само валодала сакрэтамі металаапрацоўкі, на што ўказваюць некаторыя непаўторныя па сваёй форме рэчы, а таксама знаходкі са сплаваў, у якіх прысутнічаюць металы з аддаленых між сабой рэгіёнаў[1].

Пра развітыя абменныя сувязі сведчаць не толькі прывазныя металічныя вырабы, але і ўпрыгожанні з бурштыну, фаянсавая шматсегментная пацерка. Бурштынавыя рэчы маглі трапіць на Верхняе Падняпроўе ад плямён Прыбалтыкі па дзвінскаму шляху. Вытворчасць фаянсавых пацерак у той час ужо існавала ў Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропе[2].

Сярод насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры былі шырока распаўсюджаны культы агню і сонца, пра што сведчаць пахавальныя абрады крэмацыі, звычаі абпальвання месца пахавання і ўзвядзення курганных насыпаў, з'яўленне якіх, верагодна, адлюстроўвала ўяўленні пра сувязь зямнога жыцця з нябесным. Пашыраюцца анімістычныя вераванні, у якіх вялікае значэнне надаецца культу продкаў. Шмат увагі надаецца пахавальнай абраднасці. Могільнікі маглі функцыяніраваць на працягу некалькіх стагоддзяў, з'яўляючыся месцам апошняга спачыну не аднаго пакалення суродзічаў. Магчыма, культавае значэнне набываюць каменныя свідраваныя сякеры як неад'емны атрыбут і сімвал мужчыны-воіна. У пашане застаюцца некаторыя татэмныя жывёлы, пра што сведчаць, напрыклад, знаходкі ў пахаваннях звяроў або іх зубоў.

Праблемы ўзнікнення і распаўсюджання супольнасці сярэднедняпроўскай культуры застаюцца і да сённяшняга дня дыскусійнымі. Яе асноўны даследчык І.Арцёменка лічыў, што культура пачала складвацца на мясцовай аснове ў выніку складанага працэсу, у якім удзельнічалі носьбіты старажытнаямнай, сярэднястогаўскай і познатрыпольскай культур[3]. Аднак гэта меркаванне выклікае пярэчанні шэрагу навукоўцаў.

---

[1]*Артеменко И.И.* Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967. С.39, 40.

[2]*Kadrow S.* Gospodarka i społeczeństwo. Wczesny okres epoki brązu w Małopolsce. Kraków, 1995. S. 86—89.

[3]*Артеменко И.И.* Культуры раннего бронзового века южной полосы лесов Европейской части СССР // Эпоха бронзы лесной полосы СССР. С.41,42.

На познім этапе развіцця ў культуры сярэднедняпроўцаў праявіліся вынікі асіміляцыі імі мясцовага неалітычнага насельніцтва. У яе складзе таксама выяўляецца прысутнасць кампанентаў культур шарападобных амфар і катакомбнай, вылучаецца і прыпяцкі варыянт.

У раннябронзавы час Заходняе Палессе і Панямонне займалі плямёны іншых культур са шнуравой керамікай. Асобныя групы шнуравікоў траплялі і на Падзвінне.

Адмысловая група насельніцтва са шнуравой керамікай займала Заходняе Палессе. Мясцовая група шнуравікоў вылучалася багата аздобленым керамічным посудам, выраб якога засноўваўся на спалучэнні традыцый не толькі сярэднееўрапейскага шнуравога гарызонту, але і культуры шарападобных амфар і мясцовага насельніцтва нёманскай культуры. Паселішчы іх размяшчаліся на пясчаных узвышшах сярод забалочаных паплавоў, дзе, верагодна, узводзіліся паўзямлянкавыя жылыя збудаванні.

Паходжанне і развіццё шнуравікоў Панямоння, відаць, былі цесна звязаны не толькі з прыбалтыйскім насельніцтвам прыморскай культуры, але і з мясцовай нёманскай культурай. Тутэйшае насельніцтва раннябронзавага часу хавала сваіх памерлых на бескурганных могільніках. У пахавальныя ямы змяшчалі цела нябожчыка або яго спаленыя рэшткі, посуд з высокімі шыйкамі, арнаментаваны адбіткамі шнура, лінейнага штампа, пракрэсленымі рысамі. У магілу часта клалі каменныя свідраваныя сякеры, крамянёвыя і касцяныя вырабы. Панёманскія шнуравікі працягвалі шахтавую здабычу крэменю на вядомым Краснасельскім радовішчы. На дне аднаго з шахтавых калодзежаў выяўлена скурчанае пахаванне старажытнага шахцёра з тыповым для культуры шнуравой керамікі гаршком і касцяной іголкай.

**Плямёны Паазер'я ў раннябронзавы час.** Тыповы прыклад радыкальных этнакультурных змен, якія распачаліся ў самым канцы неаліту на ўсёй тэрыторыі Беларусі і былі звязаны з пранікненнем груп носьбітаў культур шарападобных амфар, а затым і плямён культур шнуравой керамікі, — лёс жыхароў Беларускага Паазер'я.

Як ужо вядома, гэты рэгіён Беларусі ў канцы неаліту займала насельніцтва познанарвенскай культуры, аднак у пачатку 2-га тысячагоддзя да н.э., а можа, і некалькі раней сюды пачынаюць перасяляцца з Падняпроўя групы мігрантаў, што адступалі пад націскам ваяўнічых шнуравікоў. Яны прынеслі ў азёрны край некаторыя свае традыцыі, што найперш праявілася ў вырабе характэрнай керамікі. Неўзабаве на Паазер'е пранікаюць і самі носьбіты культур шнуравой керамікі як з Падняпроўя, так і з боку Прыбалтыкі. З імі ж сюды трапляюць і пэўныя элементы культуры шарападобнікаў. У выніку адбыўся сінтэз некалькіх этнакультурных кампанентаў — мясцовага познанарвенскага і прышлых, у выніку чаго тут сфарміравалася надзвычай самабытная паўночнабеларуская культура, што ўвабрала ў сябе самыя разнародныя пачаткі, стала мастом паміж эпохамі —



Каменныя і рагавыя матыкі



Станок для свідравання адтулін у камені

познакаменным і ранняброзавым вякамі, паміж старажытнымі цывілізацыйнымі зонамі: цэнтральнаеўрапейскай — земляробаў і жывёлаводаў і лясной — паляўнічых, рыбаловаў і збіральнікаў.

Плямёны паўночнабеларускай культуры з самага пачатку 2-га тысячагоддзя да н.э. і да яго другой паловы займалі амаль усё Беларускае Паазер'е ажно да Нарачанскіх азёр на захадзе, поўдзень Пскоўшчыны і паўночны захад Смаленшчыны. Асобныя іх паселішчы сустракаліся нават на вярхоўях дняпроўскай Бярэзіны і Друці, г.зн. выходзілі на Падняпроўе.

Паўночнабеларуская культура прадстаўлена пераважна стаянкамі, часткова асобнымі выпадковымі знаходкамі, верагодных яе могільнікаў пакуль не выяўлена. Мясцовае насельніцтва найбольш ахвотна сялілася на невысокіх пясчаных узбярэжжах азёр пры вусцях або вытоках невялікіх рэк. Вядомы таксама стаянкі на астравах і пясчаных узвышэннях паплаваў. Заўважана, што людзей прыцягвала памежжа розных глеб, лясоў з адменным відавым складам. У такіх месцах быў значна багацейшы выбар фауны і флоры, а значыць, і багацейшыя запасы неабходнай чалавеку спажывы.

Найбольш значныя паселішчы насельніцтва паўночнабеларускай культуры выяўлены на Крывінскім тарфяніку на мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў, гэта стаянкі Крывіна-1,2,3, Асавец -2,5.

Жыхары крывінскіх стаянак будавалі наземнае жытло выцягнутай формы з двухсхільным дахам. Ад яго захаваліся ніжнія завостраныя часткі жэрдак, абкораных і з карой, якія былі пераважна нахільна ўвагнаныя ў мацярык або торф. У цэнтры жытла па падоўжнай восі размяшчаліся моцна заглыбленыя ў мацярык вертыкальныя завостраныя слупы з развілкамі-расохамі наверсе. Відавочна, што на расохі мацавалася гарызантальная кладзь, якая і трымала каркас даху. Пры раскопках стаянкі Крывіна-1 выяўлена, што жытло было выцягнутапрамавугольным у плане. Яно магло накрывацца трысцягом, рэштках якога шмат траплялася пры раскопках. У інтэр'ер жытла ўваходзілі і нейкія элементы з расшчэпленых хваёвых дошак. Часам дошкі былі акуратна абчасаны з двух бакоў.

У жыллёвых збудаваннях на Асаўцы-2 знаходзіліся адкрытыя агнішчы, аснову якіх складалі пласты пяску на вымастках з яловай кары. Так было найбольш пажарабяспечна ва ўмовах тарфяніку. У агнішчах захаваліся скапленні попелу і вуголля, аднак каменных выкладак не знойдзена. Падобныя аб'екты з камянямі сустрэты ў самым версе напластаванняў, калі жыццё на стаянках Крывінскага тарфяніку набліжалася да завяршэння.

Лічыцца, што насельніцтва тарфянікавых стаянак паўночнабеларускай культуры на поўдні Пскоўшчыны ладзіла сваё жытло на палях[1]. Аднак на Крывінскіх паселішчах, пры наяўнасці шматлікіх драўнінных рэшткаў, усё ж дастатковых сведчанняў існавання палевых канструкцый не выяўлена.

[1]*Микляев А.М.* Каменный — железный век в междуречье Западной Двины и Ловати // Петербургский археологический вестник. СПб., 1995. № 9.

Беларуская поўнач бедная на крамянёвыя запасы, таму гэта сыравіна трапляла да мясцовых людзей пераважна з суседніх тэрыторый, часам нават далёкіх – не толькі з вярхоўяў Віліі або Нёмана, але і з Пасожжа і вярхоўяў Волгі. Крэмень берaглі і выкарыстоўвалі эканомна. Ды і саміх крамянёвых вырабаў на стаянках паўночнабеларускай культуры, калі параўнаць, напрыклад, з Панямоннем, мала. Паазерцы ўзбройвалі свае стрэлы і коп'і лістападобнымі наканечнікамі, мелі крамянёвыя кінжалы, нажы, праколкі.

Крэмнеапрацоўка вялася пераважна ў ранейшых неалітычных традыцыях. Аднак у ёй ужо праяўлялася і тое новае, што было характэрна для бронзавага веку – струменістая рэтуш, шліфаванне. Адначасова з мясцовымі неалітычнымі тыпамі наканечнікаў стрэл усё часцей выкарыстоўвалі трохвугольныя вастрыі, у тым ліку з шыпамі паабапал увагнутай асновы.

Мясцовае насельніцтва было знаёма і з каменнымі сякерамі, долатамі і цёсламі. З каменю былі таксама розныя паліравальныя пліты, некаторыя грузілы для рыбалоўных прыстасаванняў.

Недахоп крамянёвай сыравіны паспяхова кампенсаваўся рогам і косцю. З гэтых матэрыялаў выраблялiся самыя разнастайныя рэчы – паляўнічая зброя (наканечнікі стрэл, кінжалы), рыбацкія прыстасаванні (кручкі і гарпуны), інструменты штодзённага ўжытку (сякеры, цёслы, долаты, шылы і іголкі), скрабкі для апрацоўкі скуры, рэтушоры для працы па крэменю, інструменты для апрацоўкі паверхні гліняных гаршкоў, лыжкі і г.д.).

Шырока выкарыстоўвалася і дрэва, з якога рабілі міскі, днішкі для расколвання арэхаў, муфты для насаджвання сякер, розныя побытавыя рэчы, а таксама чоўны і дошкі. У Асаўцы-2 нават знойдзена драўлянае кап'ё з адмыслова выразаным вастрыём.

У карыстанні жыхароў Паазер'я быў гліняны посуд значна больш разнастайны па формах і памерах, чым у папярэднюю эпоху. Найбольш распаўсюджанымі былі вялікія гаршкі са зведзеным верхам і вострым дном. Яны ляпіліся з гліны, у якую па-ранейшаму дабаўляліся тоўчаныя ракавіны, аднак паверхня керамікі была не гладкая, як раней, а спрэс заштрыхаваная. Пачаў выкарыстоўвацца і пласкадонны посуд, асабліва ў пазнейшы час. Амаль усе гэтыя гаршкі, міскі, кубкі, у тым ліку і зусім мініяцюрныя, шчыльна, па ўсёй паверхні, аздабляліся насечкамі, адбіткамі тонкага грэбеня, ямкавымі і накольчатымі элементамі, адбіткамі тарца лапаткі – лінейным штампам. Быў вядомы і шнуравы арнамент. Некаторыя вырабы аздабляліся толькі ў верхняй частцы, у чым цалкам праявіліся ўплывы традыцыі культур шарападобных амфар і шнуравой керамікі. Часам узоры на посудзе былі асабліва складанымі і адмысловымі і зашыфроўвалі нейкія магічныя паняцці. Характэрна, што гліняны посуд быў розным па прызначэнні – сталовым, кухонным, а таксама выкарыстоўваўся як начынне для захавання прадуктаў. Кухонныя гаршкі мелі нагар.



Фрагмент касцяной жалейкі і статуэткі з тарфянікавай стаянкі каля Асаўца Бешанковіцкага раёна

Жыхары паселішчаў паўночнабеларускай культуры карысталіся адмыслова арнаментаваным посудам, любілі ўпрыгожыць сваю вопратку рознымі аздобамі, у тым ліку і з бурштыну, валодалі высокімі мастацкімі здольнасцямі. Сведчанні гэта-

га — творы першабытнага мастацтва, сярод якіх сапраўднымі шэдэўрамі з'яўляюцца касцяныя статуэткі звяроў, птушак і асабліва чалавека. У Асаўцы-2 знойдзены і музыкальныя, падобныя да жалейкі інструменты з трубчастых костак буйных птушак.

Заляганне рэшткаў шэрагу паселішчаў паўночнабеларускай культуры пад торфам садзейнічала добрай захаванасці арганікі. Па гэтай прычыне тут мы маем, як нідзе на Беларусі, мноства рэчавых доказаў характару і асаблівасцей гаспадарчых заняткаў тагачаснага чалавека.

Асноўную ўвагу ў паўсядзённым жыцці мясцовае насельніцтва ўдзяляла традыцыйным неалітычным заняткам — паляванню, рыбалоўству і збіральніцтву. Гэтаму самым спрыяльным чынам садзейнічала акаляючае асяроддзе — лясы, шматлікія азёры, густая рачная сетка, неабсяжныя балоты. Аднак тут несумненна практыкаваліся і вытвараючыя формы гаспадарання — жывёлагадоўля і земляробства. І натуральна, што іх роля з цягам часу ўсё больш узрастала.

Каля сярэдзіны 2-га тысячагоддзя і ў трэцяй яго чвэрці, г. зн. у канцы існавання супольнасці плямён паўночнабеларускай культуры, мясцовае насельніцтва ўжо было знаёмае з некаторымі, хоць і нешматлікімі, меднымі і бронзавымі вырабамі. Так, на стаянцы каля Кастык Вілейскага раёна знойдзена плоская бронзавая сякера, а ў Асаўцы-2 — меднае шыла. У гэты ж час усё больш пачынае распаўсюджвацца пласкадонная гладкасценная, а таксама заштрыхаваная кераміка, якая к канцу бронзавага веку — у першых стагоддзях 1-га тысячагоддзя да н.э. стала дамінуючай.

Носьбіты паўночнабеларускай культуры валодалі складаным светапоглядам, у якім спалучаліся ўяўленні пра сябе і навакольны свет паляўнічых і збіральнікаў з уяўленнямі земляробаў і жывёлаводаў, дзе перакрыжоўвалася паляўнічая магія з рытуаламі, звязанымі з плоднасцю, моцай агню і нябеснымі свяцiламі. Пра гэта сведчаць культавыя выявы ласёў, качак, змей, мужчын-паляўнічых і стылізаваныя фігуры ў арнаментах — трохвугольнікі, ромбы, крыжы ў сонцападобных акружнасцях, дугападобныя кампазіцыі з кропкавымі запаўненнямі, якія маглі выяўляць нябесную сферу і дождж.

Мясцовае насельніцтва паступова пераадольвала ізаляванасць жыхарства, прывязанага да канкрэтных азёрных мікрарэгіёнаў. Яно ўступала ў кантакты з блізкімі і далёкімі суседзямі — найперш шляхам абмену рэчамі, вытворчымі здабыткамі і асаблівасцямі ідэалогіі. Так, на наша Падзвінне трапляў бурштын з Прыбалтыкі, крэмень з Панямоння, Пасожжа і нават з Валдайскага ўзвышша, а медныя і бронзавыя вырабы, як вынікае, — з Сярэдняга Паволжа. У той жа час лішкі здабытага крэменю падзвінцы маглі перапраўляць ў Прыбалтыку, а бурштыну — на Падняпроўе. Мастацкі стыль пластычных і гравіраваных выяў, тыпы ўпрыгожанняў шмат чым блізкія аналагічным вырабам Паўднёва-Усходняй і Паўднёвай Прыбалтыкі і нават Падняпроўя. Тое ж можна гаварыць і пра рэчы, што адлюстроўваюць тагачасныя рэлігійныя вераванні. Такое значнае пашырэнне кантактаў, верагодна, найперш трэба звязваць з міграцыямі, якія ўзмацніліся ў канцы неаліту і ў пачатку бронзавага веку.

## 2. Плямёны на тэрыторыі Беларусі ў сярэднім і познім перыядах бронзавага веку

**Плямёны тшцінецка-сосніцкай супольнасці.** Гісторыя насельніцтва Паўднёвай Беларусі, пасля якога засталіся помнікі тшцінецка-сосніцкага тыпу, звычайна разглядаецца ў рамках тшцінецка-камароўска-сосніцкай агульнасці, якая ў эпоху бронзы распаўсюджвалася на прасторах Еўропы ад



Паселішча насельніцтва тшцінецкай культуры. Усходняе Палессе

басейна Одэра на захадзе да Падзясення на ўсходзе. Храналогія яе вызначаецца ў межах XV—XI стст. да н.э.

На шырокай прасторы адзначанай агульнасці выдзяляюцца ўсходні і заходні рэгіёны. Заходні займалі плямёны, культуру якіх вызначаюць як тшцінецкую або заходнетшцінецкую, якія распаўсюджваліся ў Польшчы і, напэўна, у суседніх раёнах Заходняга Палесся, Беларускага Панямоння і Заходняй Валыні[1]. Ва ўсходнім рэгіёне жылі плямёны ўсходнетшцінецкай культуры[2]. Яны займалі прастору на ўсход да Падзясення і ўтваралі шэраг груп, з якіх сосніцкая, на думку некаторых археолагаў, утварала самастойную культуру і ахоплівала тэрыторыі Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя, заходзячы ў Прыпяцкае Палессе і нават цэнтральныя раёны Беларусі[3].

Картаграфаванне тшцінецка-сосніцкіх паселішчаў і могільнікаў, асобных знаходак дае ўяўленне пра даволі значнае іх распаўсюджанне на тэрыторыі Беларусі. Найбольш іх на Беларускім Палессі, у нізоўях правых прытокаў Прыпяці, прынамсі, у Сцвіга-Гарынскім міжрэччы. На поўначы Верхняга Падняпроўя паселішчы сосніцкага тыпу, паводле меркаванняў І. Арцёменкі, распаўсюджваліся да Аршанска-Магілёўскай раўніны, а асобныя знаходкі характэрнай керамікі сустракаюцца, на яго думку, нават у некаторых месцах Беларускага Паазер'я. Посуд і асобныя рэчы, характэрныя для сосніцкай культурнай супольнасці, былі знойдзены таксама на паўночным захадзе Беларусі ў басейне Нёмана, пераважна на яго левабярэжжы, а месцамі нават і на правых прытоках.

Тшцінецка-сосніцкае насельніцтва сялілася на пясчаных узвышэннях сярод рачных і азёрных паплаваў ці зрэдку на мысападобных выступах на краях рачных тэрас. У некаторых рэгіёнах прасочваецца "гняздавы" спосаб рассялення, калі на пэўных участках даліны размяшчалася да 5—6 і больш паселішчаў.

[1] *Dąbrowski J.* Powiązania ziem Polskich z terenami wschodnimi w epoce brązu. Wrocław, 1972.
[2] *Березанская С.С.* Средний период бронзового века в Северной Украине. Киев, 1972.
[3] *Артеменко И.И.* Культуры раннего бронзового века южной полосы лесов Европейской части СССР // Эпоха бронзы лесной полосы СССР. С.106—113.

Напрыклад, рэшткі пяці паселішчаў каля в.Ліпляны Лельчыцкага раёна знаходзіліся на ўчастку даліны Убарці працягам да 2 км, дзе было шмат старыц.

Некаторыя паселішчы былі кароткатэрміновымі, на іншых жа жылі працяглы час. Пры раскопках каля в. Пустынка на Чарнігаўшчыне выяўлена 35 будынкаў, сярод якіх 20 з'яўляліся жытлом, 2 — культавымі, а рэшта — гаспадарчымі збудаваннямі. Жытло і іншыя будынкі размяшчаліся ў некалькі радоў на выспе ўздоўж старарэчышча і займалі ўчастак даўжынёй каля 250 м.

Жыхары гэтага пасёлка ўзводзілі наземныя або паглыбленыя ў зямлю на 0,5—1,4 м збудаванні плошчай ад 24—40 да 72—120 м$^2$. У аснове іх канструкцыі былі вертыкальныя слупы, а сцены рабіліся з бярвенняў або пераплеценага галля, абмазанага глінай. Жытло складалася з аднаго або часцей двух памяшканняў — жылой "святліцы" і кухні. У інтэр'ер уваходзілі печкі з камянёў або адкрытыя агнішчы, гаспадарчыя ямы. Падлога ў "святліцах" магла выкладацца глі832нянымі валікамі. На ўскраіне пасёлка знаходзілася наземная будыніна слупавой канструкцыі, якая служыла месцам адпраўлення нейкіх земляробчых культаў. Другая культавая пабудова — паўзямлянка — магла быць адмысловым "домам памерлых", дзе апрача агнішчаў знаходзілася шэсць пахаванняў з крэмацыяй[1].

Сярод тшцінецка-сосніцкага насельніцтва існавалі разнастайныя пахавальныя вераванні. Памерлых хавалі на курганных і бескурганных могільніках па абрадзе крэмацыі або інгумацыі. Сустракаюцца магілы з вялікай колькасцю спаленых нябожчыкаў.

На Верхнім Падняпроўі бескурганныя магілы з трупаспаленнем знойдзены пад Ходасавічамі Рагачоўскага, Гарошкавам Рэчыцкага, Сябровічамі Чачэрскага раёнаў. Пахаванні зроблены ў ямах, арыентаваных па лініі ўсход—захад. Зверху яны, верагодна, мелі перакрыцці. У ямах побач з крэміраванымі рэшткамі памерлых знаходзяцца адмысловыя пасудзіны, крамянёвыя вырабы, іншыя рэчы. Пахаванне з крэмацыяй у яме і пасудзінай выяўлена нават на верхнім цячэнні Нёмана каля Апечак у Стаўбцоўскім раёне.

Да курганных пахаванняў сосніцкага тыпу, магчыма, можна адносіць адзін з кургаңоў ва ўрочышчы Міліцкае каля в. Прыбар Гомельскага раёна. Тут пад насыпам кургана на ўзроўні старажытнай паверхні знаходзіліся абломкі посуду, крамянёвыя вырабы, а таксама крэміраваныя косці нябожчыка.

Насельніцтва тшцінецка-сосніцкай супольнасці практычна на ўсёй тэрыторыі свайго распаўсюджання на Беларусі карысталася вельмі характэрным гладкасценным посудам з дамешкамі жарствы ў гліняным цесце. Найбольш тыповымі былі высокія гаршкі цюльпанападобнай формы і слоікападобныя пасудзіны. Краі іх венцаў былі патоўшчаныя і скошаныя вонкі. Ужывалі таксама міскі, а часам і друшлякі.

Большасць посуду аздаблялася пракрэсленымі і баразнаватымі лініямі, рыскамі, насечкамі, наколамі, ямкамі, адбіткамі шнура. У Прыпяцкім Палессі, на Верхнім Падняпроўі і Панямонні шырока выкарыстоўваўся арнамент у выглядзе ружанца, які атрымліваўся пры націску на неапаленую сценку гаршка пласцінкі з накручанай ніткай. Менавіта шырокае распаўсюджанне ў аздабленні ружанца ў спалучэнні з іншымі адзнакамі стала падставай для вылучэння керамікі сосніцкага тыпу. Некаторыя пасудзіны мелі на шыйках наляпныя гліняныя валікі. Арнаментальныя кампазіцыі тшцінецка-сосніцкай керамікі складаліся з трохвугольнікаў, зігзагаў, гарызантальных ліній, груп нахіленых рысак у спалучэнні з наколамі, ямкамі і г.д. Аздаблялася ўся паверхня або толькі верхняя палова пасудзіны.

На паселішчах сустракаюцца таксама гліняныя біканічныя і так званыя "рагатыя" багата арнаментаваныя праслачкі.

---

[1]*Березанская С.С.* Пустынка. Поселение эпохи бронзы на Днепре. Киев, 1974.

Тшчінецка-сосніцкае насельніцтва карысталася крамянёвымі сярпамі, сякерамі, нажамі, трохвугольнымі і чаранковымі з двухбаковай рэтушшу наканечнікамі стрэл, наканечнікамі дроцікаў, каменнымі сякерамі і інш. Зерне расціралася на каменных зерняцёрках.



Крамянёвыя сярпы. Рэканструкцыя

Жыхарам паселішчаў сярэднябронзавага часу Паўднёвай Беларусі і Паўночнай Украіны былі вядомыя і металічныя (медныя і бронзавыя) вырабы. Аднак пакуль што не да канца вырашана пытанне, ці валодалі яны самі сакрэтамі металургіі або карысталіся толькі імпартнымі рэчамі.

Вывучэнне тшчінецка-сосніцкіх старажытнасцей у Беларускім Палессі дазволіла прыйсці да высновы, што ў сярэднябронзавы час тут жылі групы насельніцтва, якія некалькі адрозніваліся між сабой па матэрыяльнай культуры. На сярэднім і ніжнім цячэнні Прыпяці, а таксама ў нізоўях Гарыні, Сцвігі, Убарці і некаторых іншых прыпяцкіх прытокаў вылучаецца турава-мазырская (прыпяцкая) група помнікаў, якія, захоўваючы пэўную самабытнасць, маюць найбольшае падабенства з кіеўскай і ровенскай групамі ўсходнетшчінецкай культуры. Далей на ўсход турава-мазырскія помнікі паступова набываюць рысы, тыповыя для сосніцкіх старажытнасцей.

У турава-мазырскім рэгіёне варта вылучыць паселішчы тыпу Бухліцкага Хутара ў нізоўях Стыра, Гарыні і Сцвігі. Гэты раён Прыпяцкага Палесся быў адкрыты для непасрэднага культурнага ўздзеяння з паўднёвага захаду і поўдня, а высокаўрадлівыя перагнойна-карбанатныя глебы асабліва прыцягвалі земляробчае насельніцтва.

На поўначы Палесся вылучаецца паўночнапалеская група паселішчаў тыпу Азярное-1 (Любанскі раён). У параўнанні з турава-мазырскім рэгіёнам тут мацней праяўляліся раннябронзавыя і нават позненеалітычныя традыцыі, а таксама адчуваліся ўплывы з поўначы. Гэта, мабыць, было часткова абумоўлена і адасобленасцю ад узбярэжжаў Прыпяці забалочанымі і малазаселенымі нізінамі паміж нізоўямі Пцічы і Ясельды.

Паводле даследаванняў, праведзеных на Паўночным Палессі, дапускаецца, што людзі перыядычна і параўнальна часта мянялі свае месцапасяленні. Падобнае назіраецца таксама на Панямонні і Верхнім Падняпроўі. Такі характар пасяленства можа быць сведчаннем пераважна жывёлагадоўчага кірунку гаспадаркі мясцовага насельніцтва. Пацвярджэннем гэтаму могуць служыць вынікі паліналагічных даследаванняў, праведзеных Г.Сімаковай на тарфяніку побач з паселішчам Азярное-1. Тут у адкладах, якія датуюцца 2000—500 гг. да н.э., выяўлены пылок раслін, які сведчыць пра існаванне жывёлагадоўлі. Пылок жа культурных раслін і спадарожнага ім пустазелля адзначаны толькі для канца эпохі бронзы — пачатку жалезнага веку.

Заходняе Палессе і Верхняе Панямонне былі памежжам плямён усходнетшчінецкай і заходнетшчінецкай культур. На поўнач жа ад Палесся іх уплыў значна слабеў, а наяўныя некаторыя тшчінецка-сосніцкія элементы ў кераміцы хутчэй за ўсё з'явіліся ў выніку перайманняў.

Большасць даследчыкаў тшчінецка-сосніцкай супольнасці лічыць, што яна сфарміравалася на аснове груп раннябронзавага насельніцтва са шнура-

вой керамікай, у фарміраванні культуры якога прынялі актыўны ўдзел нашчадкі познанеалітычных абарыгенаў з грабеньчата-накольчатай керамікай, а таксама носьбіты культуры шарападобных амфар. Не выключана, што ва Усходнім Палессі на фарміраванне сосніцкай групы маглі паўплываць мігранты з поўдня культуры шматваліковай керамікі (другая палова XVII — XV ст. да н.э.), якія эпізадычна пранікалі на тэрыторыю сучаснай Гомельшчыны.

Аднак дыскусійнай застаецца праблема характару ўзнікнення "Тшцінца" і форм яго існавання. На думку адных даследчыкаў, тшцінецка-камароўска-сосніцкая агульнасць уяўляла сабой цыкл культур з цэлым шэрагам тоесных адзнак[1]. Паводле меркаванняў іншых вучоных, стык Усходняй і Заходняй Еўропы ад нізін басейна Віслы да лясных і лесастэпавых зон правабярэжжа Дняпра ў неаліце становіцца нестабільнай "супольнасцю памежжа". У ёй ідзе працэс цыркуляцыі рознакультурных груп насельніцтва, якія ў выніку працяглых і ўзаемных кантактаў і ўплываў зблізіліся адзін да другога, утвараючы "Тшцінец" — гарызонт агульна сходных і параўнаўча адначасовых комплексаў[2].

Існуюць і іншыя погляды на "тшцінецкі гарызонт". Напрыклад, мяркуецца, што асноўныя тшцінецкія элементы першапачаткова з'явіліся на тэрыторыі сярэднееўрапейскіх нізін, ідэя якіх у выглядзе адмысловага "пакета адзнак" распаўсюдзілася па восі захад—усход у асяроддзі рознакультурных праяў, якіх аб'ядноўваў па сутнасці неалітычны ўклад жыцця. Верагодна, пазней "тшцінецкі гарызонт" у некаторых рэгіёнах ператвараецца ў стабільныя культурныя згрупаванні, такія, як лужыцкая культура[3].

**Насельніцтва Беларусі на завяршальным этапе бронзавага веку.** Перыяд позняй бронзы — адзін з самых загадкавых і маладаследаваных этапаў нашай першабытнай гісторыі і ў асноўным з-за малавядомасці старажытнасцей гэтага часу.

Пакуль што цяжка адказаць на пытанне, якімі былі лёс тшцінецка-сосніцкай супольнасці на тэрыторыі Беларусі і роля згаданага насельніцтва ў працэсе ўзнікнення некаторых культур эпохі ранняга жалеза. Паводле даных І.Арцёменкі, сосніцкая група на завяршальным этапе бронзавага веку перажывала свой позні этап (XI—IX стст. да н.э.) і з'явілася асновай для складвання падняпроўскіх культур эпохі жалеза. С. Беразанская мяркуе, што на Падняпроўі і ў суседніх усходніх раёнах Палесся ў XI—IX/VIII стст. да н.э. на аснове сосніцкай групы і пад уплывам стэпавых культур узнікла самастойная лебядоўская культура, якая ўдзельнічала ў генезісе культур ранняга жалезнага веку.

На тэрыторыі Беларусі познасосніцка-лебядоўскія старажытнасці адкрыты на цэлым шэрагу помнікаў Верхняга Падняпроўя і Усходняга Палесся. Найперш гэта рэшткі кароткачасовых паселішчаў (Канатоп, Хільчыцы і інш.) з асобнымі знаходкамі абломкаў характэрнага посуду: гаршкоў цюльпанападобнай формы з вузкімі днамі і патоўшчанымі краямі венцаў, слоікаў з нярэдка патоўшчанымі венцамі і інш. Кераміка часта аздаблялася ямкамі пад краем венца.

Курганныя пахаванні познасосніцка-лебядоўскага тыпу раскопваліся каля в.Прыбар (Гомельскі раён). Рэшткі спаленых нябожчыкаў, найперш фрагменты крэміраваных касцей, змяшчаліся на ўзроўні старажытнай паверхні або ў невялікай ямцы. Побач сустракаюцца абломкі характэрных па-

[1] *Gardawski A.* Plemiona kultury trzcinieckiej w Polsce // Materiały starożytne. T.V. 1959; *Беразанская С.С.* Средний период бронзового века в Северной Украине.

[2] *Kośko A.* Specyfika rozwoju kulturowego społeczeństwa Niżu Polskiego w dobie schyłkowego neolitu i wczesnej epoki brązu. Zarys problematyki // Lubelskie Materiały Archeologiczne. VI. Lublin, 1991. S.36,37.

[3] *Czebreszuk J.* Trzciniec — koniec pewnej tradycji // "Trzciniec". System kulturowy czy interkulturowy proces? Społeczeństwa pogranicza bałtycko — pontyjskiego w początkach epoki brązu. Streszczenia referatów miendzynarodowego sympozjuma. Poznań-Obrzycko, 1997. S. 13—14.

судзін, крамянёвыя вырабы. У адно з пахаванняў былі пакладзены і каменныя зерняцёркі. Над пахаваннямі ўзводзіліся пясчаныя насыпы, якія за мінулы час ператварыліся ў расплывістыя нізкія курганы. На Прыбарскім могільніку сустракаюцца курганы, якія, верагодна, былі насыпаны над раннемілаградскімі пахаваннямі ў прамежку часу ад IX да VII ст. да н.э.

Лёс тшцінецка-сосніцкага насельніцтва на захадзе Палесся і ў Панямонні застаецца невядомым. Не выключана, што і тут яго нашчадкі маглі нейкім чынам удзельнічаць у фарміраванні мясцовых супольнасцей эпохі жалеза.

У канцы бронзавага веку, паводле даных А.Мітрафанава, скончылася складванне супольнасці плямён культуры штрыхаванай керамікі, якія ў жалезным веку займалі значную частку Беларусі і большасцю даследчыкаў атаясамліваюцца з раннябалцкім этнасам. На думку М.Чарняўскага, у позні перыяд бронзавага веку на Беларускім Панямонні ўжо існавалі паселішчы з ранняй штрыхаванай керамікай (Латышы Дзятлаўскага, Ваўкелі Лідскага раёнаў і інш.). Штрыхаваны посуд канца эпохі бронзы адзначаецца таксама на Беларускім Паазер'і (Дубавое, Сцюдзяніца, Скема-1, Рыбкі Мядзельскага, Лаўкі Чашніцкага раёнаў)[1]. У канцы 2-га тысячагоддзя да н.э. на некаторых паселішчах Паазер'я (Крывіна-1,2 Сенненскага, Сцюдзяніца Мядзельскага раёнаў) распаўсюджваецца так званая тэкстыльная кераміка, надзвычай характэрная ў гэты час для насельніцтва, што рассялілася ад нізоўяў Камы і Акі да Усходняй Прыбалтыкі.

У VIII—VII стст. да н.э. на Віцебшчыне пачынаюць з'яўляцца раннія паселішчы насельніцтва днепра-дзвінскай культуры, якое мела аўтахтоннае паходжанне і таксама атаясамліваецца з пэўнай групай усходнябалцкіх плямён. Паводле меркаванняў В.Шадыры, днепра-дзвінская культура ў VIII—V стст. да н.э. перажыла свой першы этап, калі яе носьбіты жылі на слаба ўмацаваных або нават неўмацаваных паселішчах, яшчэ не карысталіся жалезам, а па-ранейшаму ўжывалі вырабы з каменю, косці, рога, ляпілі посуд слоікападобнай формы, актыўна займаліся не столькі лядным земляробствам, як жывёлагадоўляй, паляваннем і рыбалоўствам.

Насельніцтва Беларусі ў познабронзавы час значна шырэй, чым ў папярэднія стагоддзі, было знаёма з бронзавымі вырабамі. Найбольшай увагі сярод іх заслугоўваюць утульчатыя сякеры, так званыя кельты, у тым ліку і меларскага тыпу, якія выкарыстоўваліся і ў пачатку эпохі жалеза. Больш за 10 іх знойдзена ў Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі. Аналогіі ім вядомы ў Скандынавіі, Ютландыі, Усходняй Прыбалтыцы, цэнтральных раёнах Расіі. Крыніцай сыравіны для некаторых з іх маглі быць радовішчы Цэнтральнай Еўропы[2]. Мелі пашырэнне некаторыя іншыя бронзавыя вырабы, якія ўжываліся ў гэты ж час насельніцтвам Літвы, Латвіі, Польшчы, у тым ліку і жыхарамі ранніх паселішчаў лужыцкай культуры.

## 3. Гаспадарчыя заняткі насельнікаў

**Металаапрацоўка.** Металургія, апрацоўка і выкарыстанне медзі і бронзы — адна з асноўных адзнак бронзавага веку. На Беларусі адсутнічаюць радовішчы руды, неабходнай для атрымання медзі і бронзы, што прымушала нашых продкаў імпартаваць сыравіну і металічныя вырабы з іншых рэгіёнаў.

Увогуле вядома, што Усходняя Еўропа ў бронзавым веку не ўваходзіла ў кола старажытнейшых цэнтраў станаўлення і развіцця металургіі. Навыкі

[1] *Зайковский Э.М.* Неолит и бронзовый век Белорусского Подвинья. Мн., 1985. С. 15, 16.
[2] *Зайкоўскі Э.М., Цыркунова В.А.* Металічныя прылады бронзавага веку Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1996. № 9. С.57—60.

абыходжання з металам тагачасныя жыхары ўсходнееўрапейскіх раўнін перанялі ад насельніцтва Балкан і Каўказа. На поўдзень ад Беларусі на тэрыторыі Украіны пад уздзеяннем Балканскіх цэнтраў ужо ў 4-м тысячагоддзі да н.э. з'яўляюцца ўласная металургія і металаапрацоўка, а ў 3-м тысячагоддзі да н.э. тут пачынаюць атрымліваць першы штучны сплаў — мыш'яковістую бронзу[1]. У другой палове 3 — пачатку 2-га тысячагоддзя да н.э. у ранні перыяд бронзавага веку насельніцтва культур шнуравой керамікі Украінскага Перадкарпацця, Падоліі і Валыні ўжо карыстаецца алавяністай бронзай[2].

Самыя раннія сведчанні выкарыстання медзі і бронзы на тэрыторыі Беларусі адносяцца да ранняга перыяду бронзы. На помніках насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры, найперш у курганах пад Ходасавічамі (Рагачоўскі раён) і ў бескурганных пахаваннях ва ўрочышчы Страліца (в. Рудня Шлягіна Веткаўскага раёна) знойдзена вялікая колькасць металічных вырабаў, такіх, як шылы, нажы, віслаабушная сякера так званага калантаеўскага тыпу, утулкавая сякера, скроневыя кольцы, дыядэмы, грыўні, бранзалеты, трубчастыя пранізкі, утулкавыя наканечнікі коп'яў. Большасць іх зроблена з чыстай медзі і мыш'яковістай бронзы. Для вырабу двух рэчаў (нажа і бранзалета) выкарыстоўвалася алавяністая бронза.

На думку І.Арцёменкі, насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры карысталася металам як каўказскага, так і балкана-карпацкага паходжання. Знойдзены таксама рэчы, зробленыя са змешанага каўказска-карпацкага металу, што можа сведчыць пра іх мясцовую вытворчасць. Пацвярджэннем існавання мясцовай металаапрацоўкі з'яўляецца і той факт, што некаторыя вырабы сярэднедняпроўскай культуры не маюць прамых аналогій ні на Каўказе, ні ў Карпацкім басейне, а таму маглі быць адліты паводле мясцовых узораў. Кавадламі, якімі карысталіся для апрацоўкі металу, маглі служыць некаторыя каменныя вырабы, адшуканыя ў курганах сярэднедняпроўскай культуры, у тым ліку і пад Ходасавічамі. С.Беразанская звязвае з сярэднедняпроўскай культурай некаторыя знаходкі гліняных формачак для адліўкі клінападобных сякер.

Паводле даследаванняў на суседніх тэрыторыях Украіны ў час знаходжання там плямён сярэднедняпроўскай культуры тэхналогія металаапрацоўкі дасягнула даволі высокага ўзроўню. Акрамя кавальскай апрацоўкі металу выкарыстоўвалася таксама тэхніка ліцця ў гліняных і каменных формах, гатаваліся сплавы, у тым ліку не толькі мыш'яковістыя, але і алавяністыя[3].

Знойдзеныя ў Страліцы і Ходасавічах (урочышча Мошка) наканечнікі коп'яў з літымі незамкнутымі ўтулкамі, магчыма, з'яўляюцца найстаражытнейшымі ў Еўропе наканечнікамі з адлітай утулкай і тэарэтычна маглі быць зроблены раней, чым у XVII ст. да н.э.[4] Вядома, што адліўка наканечнікаў коп'яў і кельтаў з так званай "сляпой" утулкай і шырокае выкарыстанне алавяністай бронзы — адзнака новага этапу ў развіцці металургіі ва Усходняй Еўропе, які пачаўся з XVI ст. да н.э. (паводле меркавання Е.Чарных), акрамя таго, распаўсюджанне рэчаў з класічнай (так званай алавяністай) бронзы пачынаецца ў Заходняй і Сярэдняй Еўропе каля 1600 г. да н.э.[5]

Пасля XVII ст. да н.э. змяншаецца роля каўказскіх металургічных традыцый і ў Еўропе вялікае значэнне набывае Карпата-Трансільванскі металургіч-

[1]Ремесло эпохи энеолита-бронзы на Украине. К., 1994. С.98.

[2]*Рындина Н.В.* Металл в культурах шнуровой керамики Украинского Предкарпатья, Подолии и Волыни // СА. 1980. №3. С.24—41.

[3]Ремесло эпохи энеолита — бронзы на Украине.С. 129, 130; *Рындина Н.В.* Металл в культурах шнуровой керамики Украинского Предкарпатья, Подолии и Волыни. С. 24—41.

[4]*Klochko V.* Weapons of the Treibs of the Northern Pontic Zone in the 16 th — 10 th centuries B.C. // Baltic — Pontic Studies. Vol. 1. Poznac, 1993. P. 53.

[5]Prahistoria Ziem Polskich. T. III. Wczesna epoka brązu. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1979. S. 28, 29.

ны цэнтр. Выключную ролю атрымлівае алавяністая бронза і тэхніка ліцця ў высокавытворчыя каменныя формы, у тым ліку па метадзе "сляпой" утулкі. Пачынаюць актыўна фарміравацца мясцовыя металаапрацоўчыя традыцыі. На думку В. Клочкі, мясцовая металавытворчасць магла ўзнікнуць у асяроддзі ўсходнетшцінецкага і сосніцкага насельніцтва, пра што сведчаць, як лічыць даследчык, некаторыя знаходкі ліцейных форм у правабярэжных раёнах Украіны і асаблівасці тутэйшай вытворчасці металу.



Бронзавыя вырабы з Беларускага Падняпроўя: наканечнік кап'я і сякеры

Колькасць металічных вырабаў, знойдзеных пераважна ў цэнтральных і паўночных раёнах Беларусі, дазваляе меркаваць, што вялікае значэнне ў позні перыяд эпохі бронзы мелі так званыя кельты — сякеры, у якіх утулка размяшчалася ў абушковай частцы перпендыкулярна лязу. У Скандынавіі кельты датуюцца ў межах 1000—600 гг. да н.э. На Беларусі шырока распаўсюджваліся бронзавыя кельты меларскага тыпу, большасць якіх выкарыстоўвалася ў першай чвэрці 1-га тысячагоддзя да н.э. і мела пашырэнне не толькі на прасторах Скандынавіі і Беларусі, але і Усходняй Прыбалтыкі, Ютландыі, Фінляндыі, Цэнтральнай Расіі[1]. Паводле даных спектральнага аналізу, кельт, знойдзены недалёка ад р. Чарніца (Віцебская вобласць), быў адліты з алавяністай бронзы, сыравінай для якой маглі быць радовішчы Цэнтральнай Еўропы[2].

Сярод адзінкавых і выпадковых знаходак сярэдняга перыяду эпохі бронзы на Беларусі даследчыкі адзначаюць сякеры з бакавымі закраінамі, ці пальштабы (Пінск, Кальвішкі Браслаўскага раёна, Новы Быхаў), якія маюць аналогіі ў Скандынавіі і Прыбалтыцы. Ёсць таксама звесткі пра іншыя вырабы эпохі бронзы: бронзавыя мячы, уступчатую сякеру, наканечнік стралы, меднае плоскае цясла і г.д.

**Вытвараючая гаспадарка — жывёлагадоўля і земляробства.** Працэс актыўнага авалодання вытвараючымі формамі гаспадаркі — земляробствам і жывёлагадоўляй, які пачаўся яшчэ ў неаліце, з пачаткам бронзавага веку стаў паўсюдным.

Носьбіты культур шнуравой керамікі былі аселымі жывёлаводамі і земляробамі. Іх статкі складаліся з буйной і дробнай рагатай жывёлы, свіней і коней, а на полі вырошчвалі пшаніцу, ячмень, авёс, сачавіцу і інш.[3]

На паселішчах раннябронзавага часу, на якіх жылі нашчадкі неалітычнага насельніцтва, а таксама прышлае насельніцтва—шнуравікі, у пахаваннях, а тым больш на пазнейшых помніках захавалася даволі шмат сведчанняў існавання земляробства. Найперш гэта крамянёвыя сякеры, асабліва з прышліфаванымі лёзамі або запаліраваныя спрэс. Для высечкі лясоў і хмызняку пад палі выкарыстоўваліся і зашліфаваныя каменныя сякеры-кліны,

[1]*Зайкоўскі Э. М., Цыркунова В. А.* Металічныя прылады бронзавага веку Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі. С. 57, 58.

[2]Там жа. С. 58.

[3]*Артеменко И. И.* Культуры шнуровой керамики //Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987. С.35.

магчыма, і некаторыя сякеры са свідраванымі адтулінамі, хаця апошнія многімі даследчыкамі вызначаюцца як зброя. Зямлю рыхлілі каменнымі, рагавымі і нават драўлянымі матыкамі. Мяркуецца, што тагачаснае насельніцтва Паўночнай Украіны ўжо апрацоўвала зямлю з дапамогай і цяглавых жывёл – валоў[1]. Падобнае магло існаваць і на Беларускім Палессі. Для жніва служылі масіўныя крамянёвыя пласціны з рэтушаваным краем, а таксама серпападобныя нажы. На поўдні Беларусі з сярэднябронзавага часу пачалі выкарыстоўваць масіўныя крамянёвыя сярпы з двухбаковай буйной рэтушшу ляза. На тэрыторыях, размешчаных на поўдзень ад Беларусі, бліжэй да старажытных металургічных цэнтраў, былі вядомы і бронзавыя сярпы. Але яны на беларускіх помніках пакуль не знойдзены. Некаторыя каменныя пліты і акруглыя камяні маглі служыць для расцірання зерня.

Наяўнасць земляробства ў насельніцтва бронзавага веку ўстанаўліваецца таксама па адбітках зерня на кераміцы і па пылку акультураных раслін і пустазелля.

У лясной зоне магло быць перспектыўным толькі падсечна-агнявое (ляднае) земляробства, якое патрабавала вялізнай колькасці сякер. Менавіта ў бронзавым веку назіраўся росквіт дзейнасці Краснасельскіх крамянёвых шахтаў і майстэрань, якія спецыялізаваліся на вырабе такіх прылад.

Значнае месца ў гаспадарцы займала жывёлагадоўля. Так, сярод астэалагічнага матэрыялу на крывінскіх паселішчах паўночнабеларускай культуры косці свойскіх жывёлін займаюць каля 25 %. Значыць, каля чвэрці мяснога харчавання тутэйшае жыхарства ўжо атрымлівала не з палявання, а з гадоўлі быдла. Прыкладна трэцюю частку статка на Асаўцы-2 складалі каровы і свінні, коней было каля 17%, значна менш разводзілі коз і авечак. Апошнія, мабыць, яшчэ не паспелі адаптавацца ў лясной зоне. Памочнікам чалавека ў выпасе жывёлы быў сабака.

Такіх жа свойскіх жывёл гадавалі і плямёны сярэднедняпроўскай культуры, аднак вынікае, што ў іх жывёлагадоўля ўжо пачала пераважаць над паляваннем. Сярод тшцінецкага насельніцтва на поўначы Украіны, а напэўна, і на поўдні Беларусі была асабліва распаўсюджана гадоўля буйной рагатай жывёлы. Гэта, відаць, было абумоўлена выкарыстаннем валоў у земляробстве.

**Захаванне прысвойваючых форм гаспадаркі.** І з наступленнем новай эпохі на тэрыторыі Беларусі ў многіх рэгіёнах заставаліся нашчадкі мясцовага познанеалітычнага насельніцтва, якія, ужо валодаючы навыкамі земляробства і жывёлагадоўлі, па-ранейшаму шырока практыкавалі традыцыйныя для лясной зоны заняткі — паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Прысвойваючая гаспадарка яшчэ мела істотнае значэнне і для прышлага насельніцтва культур шнуравой керамікі.

Найбольш сведчанняў аб прысвойваючай гаспадарцы, асабліва ў ранні перыяд бронзавага веку, зноў жа маецца на стаянках Крывінскага тарфяніку.

На важную ролю інтэнсіўнага палявання ўказвае не толькі наяўнасць зброі — наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы і кінжалы, але і астэалагічны матэрыял. Сярод яго каля 75 % складаюць косткі дзікіх жывёлін. Найбольш распаўсюджаным аб'ектам палявання быў лось. На яго прыпадала трэцяя частка ад усіх здабытых млекакормячых, а сярод мясных гэтыя суадносіны яшчэ больш узрастаюць. Другое месца ў мясным рацыёне крывінскага насельніцтва займаў дзік. На трэцім знаходзіўся мядзведзь. Значна менш спажывы давала паляванне на высакароднага аленя. На апошніх месцах знаходзіліся тур, казуля, зубр. Натуральна, што гэтыя паказчыкі былі ў прамой залежнасці ад колькасці канкрэтнага віду ў наваколлі. Мясцовыя ўмовы найбольш спрыялі для размнажэння ласёў і дзікіх свіней.

---

[1] *Березанская С.С.* Средний период бронзового века в Северной Украине. С. 183.

Каб здабыць пушніну, палявалі на куніц, барсукоў, лісіц, выдраў. Аднак костак гэтых жывёлін на паселішчах сустракаецца мала, таму бачна, што здабытчыкаў цікавіла найперш шкура. Шмат у культурных напластаваннях костак бабра. Ён даваў не толькі футра, але і спажыву.

Калі меркаваць па памерах костак, забіваліся дарослыя асобіны — фауна выкарыстоўвалася рацыянальна.

У балотна-азёрным краі важным аб'ектам палявання з'яўляліся птушкі, пераважна вадаплаўныя. Мяркуючы па матэрыялах Крывіны-1, 2, здабывалі найбольш кракву, сярод костак трапляюцца рэшткі гусі звычайнай і гуменніка, шыраканоскі, шэрай качкі, шылахвосткі, чырка-траскунка, гогаля, паганкі вялікай, гагары. Жыхары Асаўца-2 таксама палявалі пераважна на вадаплаўных птушак, асабліва на розныя віды качак.

Шмат на Крывінскіх паселішчах і сведчанняў рыбалоўства. Гэта гарпуны і кручкі, грузілы і паплаўкі да сетак, рэшткі пастак з прутоў і лучынак, пешні для падлёднай лоўлі з масіўных трубчастых костак, фрагменты чоўнаў. Важнейшыя сведчанні рыбалоўства—косткі рыбы і луска. Скапленні апошняй у Асаўцы-2 утвараюць лінзы таўшчынёй да 10 см і больш. Калі меркаваць па наяўных костках, тут найбольш лавілі акунёў, крыху менш — шчупакоў. Здабычай рыбака былі таксама ляшчы, плоткі, ліні. А вось костак сама, карася і ярша выўлена зусім мала.

Важнай галіной гаспадарчай дзейнасці чалавека лясной зоны нават у бронзавым веку, асабліва ў яго пачатку, заставалася збіральніцтва. У напластаваннях крывінскіх стаянак даволі шмат рэшткаў лясных і вадзяных арэхаў, жалудоў, насення жоўтай лілеі, карнявішчы якой таксама ішлі ў харч. Багата на помніках і ракавін перлавіцы. Яны ў здробненым выглядзе выкарыстоўваліся пры лепцы посуду, аднак запасы малюскаў у развалах некаторых гаршкоў даюць магчымасць дапусціць, што іх мяса спажывалася чалавекам.

**Апрацоўка каменю, костак, рагоў і дрэва. Выраб керамікі.** Большасць зброі і прылад працы жыхары Беларусі ў бронзавым веку па-ранейшаму выраблялі з каменю. Пры гэтым у асноўным захаваліся неалітычныя прыёмы крэмнеапрацоўкі. Аднак у ёй ужо праяўлялася і тое новае, што было характэрным для бронзавага веку. Краі некаторых рэжучых і колючых вырабаў пачалі пакрываць ахайнай струменьчатай або пільчатай рэтушшу. Распаўсюдзілася шліфаванне крамянёвых сякер, асабліва на лёзах. Усё часцей пачалі выкарыстоўваць трохвугольныя наканечнікі стрэл з шыпамі паабапал увагнутай асновы.

Акрамя крэменю ў бронзавым веку шырока выкарыстоўваліся іншыя пароды каменю. З іх шляхам абабівання і наступнага шліфавання па ўсёй паверхні рабілі плоскія сякеры-кліны, долаты, цёслы, матыкі. Шліфаванне праводзілі на каменных плітах. Майстравалі таксама сякеры і булавы з прасвідраванымі адтулінамі для рукаятак. Большасць матык таксама мела такія ж адтуліны. Свідраванне выконвалася з дапамогай свідравальнага станка, асноўнай рабочай часткай якога была трубчастая костка з пяском. Сярод знаходак на помніках бронзавага веку часам знаходзяць стрыжні-высвідравіны, а таксама прылады з незакончаным свідраваннем. Каменнымі былі большасць грузілаў для сетак і іншых рыбалоўных прыстасаванняў.

У канцы бронзавага веку з больш значным пашырэннем металічных вырабаў у крэмнеапрацоўцы назіраецца заняпад. А вось каменнымі сякерамі карысталіся яшчэ і ў наступную эпоху — у жалезным веку.

Людзі эпохі бронзы па-ранейшаму выкарыстоўвалі для сваіх патрэб і іншыя матэрыялы, асабліва косці, рогі і дрэва. З косці і рога майстравалі зброю — наканечнікі стрэл і нават коп'яў, кінжалы; прыстасаванні для рыбалоўства — кручкі і жэрліцы, гарпуны, пешні для падлёднага лову, нажы для разборкі рыбы; прылады працы — праколкі, іголкі, нажы, рубячыя і колю-



Бурштынавыя ўпрыгожанні з курганоў ранняга бронзавага часу каля Ходасавіч Рагачоўскага раёна

чыя прылады, інструменты для апрацоўкі крэменю, скуры, керамікі; побытавыя рэчы — лыжкі, шпількі для вопраткі; упрыгожанні — розныя падвескі, плоскія кольцы, пранізкі. З рога і косці рабілі духавыя музычныя інструменты, выявы людзей, звяроў і птушак.

Рогі і косці выкарыстоўвалі паўсюдна. Але для жыхароў нашай поўначы, беднай на крамянёвую сыравіну, гэты матэрыял меў асабліва вялікае значэнне.

З'яўленне шліфаваных рубячых прылад дало новыя магчымасці для выкарыстання дрэва. З яго рабілі жытло, гаспадарчыя і культавыя збудаванні — бажніцы, чоўны.

Асноўныя прыёмы вырабу керамікі былі выпрацаваны яшчэ ў неалітычны час, асабліва ў яго пазнейшы перыяд. Жыхары бронзавага веку Беларусі ляпілі пераважна пласкадонны посуд, найбольш распаўсюджаны тып якога складалі гаршкі з выдзеленай шыйкай. Выкарыстоўвалі таксама розныя слоікі, місы, кубкі і інш. З'явіліся раней зусім невядомыя друшлякі.

Кераміка была звычайна танкасценная і добра выпаленая. У сценках не заўважаюцца дамешкі арганікі, асабліва валакністай, яе замянілі пясок, жарства і шамот. Паверхні пасудзін былі гладкія або заштрыхаваныя, у некаторых выпадках яны звонку пакрываліся ангобам. У арнаментах часам захоўваліся элементы з папярэдняй эпохі, асабліва ямкі пад краем венца. Аднак у цэлым стыль аздаблення керамікі бронзавага веку істотна мяняецца. Узоры пераважна канцэнтруюцца ў версе пасудзін, з'яўляюцца амаль невядомыя ў папярэдні час элементы — наляпныя карбаваныя валікі і вушкі. У канцы эпохі назіраецца заняпад керамічнай арнаментацыі.

**Абмен.** Далейшае эканамічнае развіццё ў эпоху бронзы прыводзіла да фарміравання некаторай спецыялізацыі асобных раёнаў і груп насельніцтва на вытворчасці тых або іншых відаў прадукцыі, што спрыяла абмену. У бронзавым веку такая спецыялізацыя развівалася пераважна ў залежнасці ад геаграфічных асаблівасцей пэўных рэгіёнаў, у прыватнасці ад наяўнасці сыравіны і матэрыялаў, якія карысталіся попытам, арыентацыі рэк, распаўсюджвання унікальнай флоры і фауны і г.д. У меншай ступені скіраванасць на пэўную вытворчасць магла залежыць ад культурных традыцый, палітычнай арыентацыі і некаторых іншых прычын. Абмену спрыяла таксама фарміраванне груп людзей, якія спецыялізаваліся на апрацоўцы металаў, здабычы крэменю і інш. У выніку пашырэння вытвараючай гаспадаркі назіраецца арыентаванасць некаторых чалавечых супольнасцей на жывёлагадоўчыя заняткі, а іншых — на захаванне паляўніча-рыбалавецкага ўкладу жыцця, што таксама прыводзіла да пашырэння практыкі абмену.

Прадметам абмену становіцца метал, радовішчы і кампаненты для атрымання сплаваў з якога знаходзіліся толькі ў пэўных рэгіёнах. Адсутнасць сваіх радовішчаў меднай і іншых руд, неабходных для выплаўкі медзі і брон-

зы, вымушалі старажытных жыхароў Беларусі карыстацца, як і раней, крамянёвымі і касцянымі прыладамі або наладжваць абменныя сувязі для атрымання металаў ад суседзяў. У ранні перыяд бронзы на поўдзень Беларусі металічныя вырабы або сыравіна для іх вытворчасці маглі трапляць праз пасрэднікаў з Каўказскага і Балкана-Карпацкага металургічных рэгіёнаў. На пэўным этапе такімі пасрэднікамі пры распаўсюджванні металу і металаапрацоўчых традыцый на поўнач у асяроддзе сярэднедняпроўскай культуры маглі выступаць плямёны катакомбнай культуры, а таксама насельніцтва са шнуравой керамікай Украінскага Перадкарпацця, Падолля і Валыні.



Шахцёр з Краснасельскіх шахтаў раннябронзавага часу. Рэканструкцыя па чэрапе

З пашырэннем вытворчасці металічных вырабаў і паступовым складваннем у сярэдні і позні перыяды бронзавага веку іншых рэгіянальных цэнтраў металавытворчасці насельніцтва тэрыторыі Беларусі пашырае геаграфію абменных сувязяў. Металічныя прылады, упрыгожанні ў гэты час трапляюць у межы нашага краю не толькі з Каўказа, Украіны і Цэнтральнай Еўропы, але і са Скандынавіі, Ютландыі, Прыбалтыкі, цэнтральных раёнаў Расіі.

Аднак выяўленне канкрэтных шляхоў і сувязяў пэўных рэгіёнаў, дынаміка і час паступлення металу застаюцца дагэтуль нявырашанымі.

Важным і даволі прэстыжным прадметам імпарту ў эпоху бронзы быў бурштын. Бліжэйшыя ад Беларусі і буйнейшыя ў свеце радовішчы бурштыну знаходзяцца на паўднёвым узбярэжжы Балтыйскага мора. Адсюль па Дзвіне, Нёману, Вісле і Бугу гэта выкапнёвая смала трапляла на тэрыторыю Беларусі, Украіны, Верхняга Паволжа, Усходняга Міжземнамор'я. Вялікае значэнне ў раннябронзавы перыяд для насельніцтва Беларусі набываў дзвінскі бурштынавы шлях з яго адгалінаваннем на Падняпроўе. Шмат бурштынавых упрыгожанняў знойдзена на Падзвінні на паселішчах паўночнабеларускай культуры (Крывінскі тарфянік на мяжы Сенненскага і Бешанковіцкага раёнаў). Бурштынавыя вырабы пранікалі таксама на Верхняе Падняпроўе ў асяроддзе насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры.

У адным з пахаванняў сярэднедняпроўскай культуры на могільніку Страліца знойдзена фаянсавая пацерка. Картаграфаванне падобных вырабаў, знойдзеных у Еўропе, паказвае, што найбольш іх канцэнтруецца ў Цэнтральнай і Цэнтральна-Усходняй Еўропе[1]. Апошнім часам даследчыкі схіляюцца да меркавання аб цэнтральнаеўрапейскім паходжанні фаянсавых пацерак ранняга перыяду бронзы, тэхналогія вытворчасці якіх прыйшла сюды на хвалі ўплываў цывілізацыі Бліжняга Усходу адначасова з пашырэннем металургіі бронзы[2]. Аднак пакуль нявызначанымі застаюцца шляхі іх распаўсюджвання ў Еўропе. Найбольш верагодна, што такая пацерка на бераг Сожа магла трапіць з бліжэйшых цэнтральна-ўсходнееўрапейскіх раёнаў.

---

[1]*Harding A.* The earliest glass in Europe // Archeologicke rozhledy. T. XXIII., 1971. S.190,191, (fig.2).

[2]*Kadrow S.* Gospodarka i społeczeństwo. Wczesny okres epoki brązu w Małopolsce. S. 189—191, 193.


Каменныя булавы

Прадметам абмену ў эпоху бронзы, асабліва на раннім этапе, быў высакаякасны крэмень. Некаторыя вырабы, такія, як крамянёвыя шліфаваныя сякеры, наканечнікі дроцікаў, сярпы, маглі трапляць у цэнтральныя і ўсходнія раёны Палесся, дзе адсутнічаюць радовішчы якаснага крэменю, з суседняй Валыні і Заходняга Палесся. Менавіта на Валыні жыхары многіх пасе-лішчаў бронзавага веку спецыялізаваліся на здабычы і апрацоўцы мясцовага шэрага крэменю, які разыходзіўся на суседнія тэрыторыі. У бронзавым веку квітнела шахтавая крэмнездабыча на Красасельскіх радовішчах пад Ваўкавыскам. Тут жа дзейнічала і мноства спецыялізаваных майстэрань па вырабу нарыхтовак сякер, якія пераважна ішлі на абмен.

## 4. Духоўная культура

У бронзавым веку ў светапоглядзе насельніцтва Беларусі адбыліся досыць значныя зрухі, выкліканыя як зменамі ў гаспадарцы, так і прыходам новага насельніцтва. У выніку гэтага духоўная культура, захоўваючы многае з набыткаў каменнага веку, узбагацілася шэрагам новых рыс. Заняткі земляробствам прывялі да пашырэння культу сонца, паколькі ад гэтага святціла залежалі прарастанне і рост раслін. Распаўсюджвалася таксама ўшанаванне дажджу і звязаных з ім навальніц і маланак.

У сувязі з прысутнасцю ў бронзавым веку на тэрыторыі Беларусі індаеўрапейцаў, якія тут маглі з'явіцца і раней, несумненна, што для мясцовага жыхарства былі характэрныя некаторыя агульныя рысы індаеўрапейскай міфалогіі. Адна з такіх рыс, на думку шэрагу даследчыкаў, ушанаванне ў якасці вярхоўнага бажаства дзённага азоранага неба. Гэтаму нябеснаму "бацьку" адпавядала "апладняемая" небам таксама абагаўлёная зямля як жаночае бажаства — "маці". Існавала таксама вера ў бога-грамавіка, пэўным чынам падобнага на пазнейшага Перуна. Важнае значэнне меў культ агню.

Пры разглядзе светапогляду чалавека бронзавага веку неабходна ўлічваць, што ў канкрэтных умовах Беларусі, калі яшчэ захоўвалася прыкметная роля палявання, і асабліва ў больш паўночных рэгіёнах, важнейшае месца ў міфалогіі яшчэ з часоў каменнага веку адводзілася хтанічнаму бажаству, апекуну звяроў, вытокаў рэк і крыніц, замагільнага свету і памерлых. Пасля з'яўлення жывёлагадоўлі гэта бажаство разглядалася і ў якасці апекуна свойскіх жывёл, і таму да ранейшых увасабленняў яго ў выглядзе змяі, ваўка або мядзведзя дадаўся вобраз быка.

У вераваннях насельніцтва эпохі бронзы важнае месца займала, хоць і з пэўнымі трансфармацыямі, жаночае бажаства хтанічнага паходжання (Мара́ пазнейшага беларускага фальклору). Па рэштках міфаў можна меркаваць, што гэта бажаство было звязана як з нараджэннем і плоднасцю, так і са смерцю, хваробамі і эпідэміямі, а таксама з жывёльным светам (здольнасць прымаць воблікі розных жывёл). У латышскай міфалогіі блізкая па

назве і паходжанню Мага лічыцца апякункай кароў. Некаторыя даследчыкі лічаць, што Мара — рэлікт вобраза Вялікай Багіні.

З верай у мужчынскае хтанічнае бажаство звязана ўшанаванне некаторых культавых камянёў. У шэрагу месцаў Беларусі захаваліся "камяні кахання" або "камяні нявест", якія маюць дачыненне да культу старажытнай Вялікай Багіні. Верагодна, у бронзавым веку сталі ўшаноўваць камяні-следавікі. Некаторыя шведскія даследчыкі сцвярджаюць, што ў бронзавым веку існавала строгая забарона рабіць выявы божастваў. Таму на камянях высякаліся іх сляды як знакі прысутнасці.



Магічная сімволіка на посудзе позна-неалітычнага і раннябронзавага часу

Мяркуючы па даследаваннях у Латвіі, дзе ў бронзавым веку жыло насельніцтва, даволі блізкае па культуры насельніцтву Паўночнай Беларусі, і на нашай тэрыторыі магло існаваць пакланенне святым крыніцам, якое хутчэй за ўсё зарадзілася яшчэ ў папярэдні час. Тым больш што ў розных частках нашага краю на берагах азёр з назвай "Святое" выяўлены паселішчы неаліту—бронзавага веку.

Для правядзення пэўных магічных абрадаў, звязаных з вераваннямі, існавалі адпаведныя збудаванні. Так, насельніцтва тшцінецкай культуры будавала круглыя бажніцы са слупоў і жэрдак, у сярэдзіне якіх знаходзіліся ахвярнікі і нават пахаванні.

У бронзавым веку працягваў існаваць культ жывёл. Пра гэта найперш сведчыць звычай нашэння амулетаў з прасвідраваных зубоў — дзіка, мядзведзя, ваўка, лася, бабра, а таксама скульптурныя выявы звяроў, птушак і змей. Магчыма, некаторыя плямёны практыкавалі і канібалізм. На гэта могуць указваць знаходкі на паселішчах насельніцтва паўночнабеларускай культуры патрушчаных фрагментаў чалавечых чарапоў.

У бронзавым веку істотна мяняюцца пахавальныя абрады. Распаўсюджваюцца звычаі спальваць нябожчыкаў і насыпаць над пахаваннем курган. Сам абрад трупаспалення быў складанай часткай культу агню, веры ў ачышчальную моц полымя. Але звычай крэмацыі быў характэрны для паўднёвабеларускіх плямён. У паўночнай частцы краіны, як уяўляецца, панаваў абрад трупапалажэння, прынамсі ў ранні перыяд бронзавага веку.

Мастацтва бронзавага веку, як і ўсёй першабытнай эпохі, спалучала эстэтычныя і магічныя функцыі. Насельніцтва ранняга бронзавага веку па-ранейшаму аздабляла посуд арнаментам, але іншым, чым у неалітычны час. У ім адлюстраваліся змены светапогляду, выкліканыя найперш распаўсюджаннем вытвараючых форм гаспадаркі і з'яўленнем салярнага культу. Адлюстраваннем гэтага маглі быць радыяльныя ўзоры на донцах пасудзін. Заштрыхаваныя трохвугольнікі з'яўляліся як сімвалам багіні неба, так і знакам зямлі. Арнамент у выглядзе паўкругоў з кропкамі па перыметры, знойдзены на адной са стаянак насельніцтва паўночнабеларускай культуры, мог абазначаць зерне, якое арашаецца нябеснай вільгаццю. Нябесную вільгаць сімвалізаваў і такі папулярны сярод раннябронзавых шнуравікоў арнаментальны матыў, як зігзаг. Сімваламі салярных божастваў былі крыжападобныя фігуры, адзінарныя або двайныя кругі на днах пасудзін, шматпрамянёвыя выявы. Даследчыкі адзначаюць, што некаторыя матывы арнаменту керамікі ў перыяд ранняй бронзы захаваліся да нашага часу ў беларускай народнай вышыўцы.

У другой палове 2-га тысячагоддзя да н.э. на вялікай тэрыторыі Сярэдняй і Паўночнай Еўропы арнамент на кераміцы робіцца бяднейшым, а потым амаль цалкам знікае. Для Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі гэта супала са знікненнем слядоў пахавальнага абраду, што характэрна і для амаль усёй наступнай эпохі — жалезнага веку. Можна меркаваць, што прычынай усяго гэтага былі нейкія змены ў рэлігійных уяўленнях, нешта накшталт "рэлігійнай рэформы", якая прывяла да значнай пераацэнкі ранейшых духоўных каштоўнасцей.

Для розных культавых мэт выкарыстоўваліся мініяцюрныя арнаментаваныя пасудзінкі, гліняныя рагатыя праслачкі і некаторыя іншыя рэчы.

Пры шырокім распаўсюджанні арнаментальнага мастацтва і кананізацыі знакаў-сімвалаў у той жа час наглядаўся заняпад выяўленчай культуры. Выключэнне складае хіба што схематычная выява чалавечай постаці на абломку гаршка з Асаўца. Гэта гравіроўка выканана ў ранейшым неалітычным стылі.

Новым крокам у дэкаратыўна-прыкладным мастацтве быў выраб упрыгожанняў з медзі і бронзы. Сярод іх выдзяляюцца медныя ўпрыгожанні з пахаванняў сярэднедняпроўскай культуры, а таксама грыўні, акулярападобныя падвескі і скроневыя кольцы. Частка ўпрыгожанняў рабілася з косці і прыбалтыйскага бурштыну. У бронзавым веку ўпрыгожанні паступова пачалі губляць магічны сэнс, усё больш набываючы эстэтычныя і сацыяльныя функцыі.

Ужо ў часы дамінавання ў прыбалтыйскім рэгіёне плямён са шнуравой керамікай тут былі вядомыя даволі разнастайныя духавыя інструменты — жалейкі і свістулькі з птушыных костак, казіныя ражкі, берасцянкі. Напэўна, існавалі і ўдарныя музычныя інструменты.

## ГЛАВА 3

# РАЗВІЦЦЁ ГРАМАДСТВА Ў ЖАЛЕЗНЫМ ВЕКУ

**Агульная характарыстыка эпохі.** Заключным перыядам першабытнай гісторыі стаў жалезны век (з VIII—VII стст. да н.э. па IV—V стст. н.э.), які найперш характарызаваўся з'яўленнем і шырокім распаўсюджаннем металургіі жалеза, вырабам з яго прылад працы і зброі. Навыкамі вытворчасці і апрацоўкі жалеза ў Беларусі першымі ў другой чвэрці 1-га тысячагоддзя да н.э. авалодалі плямёны мілаградскай культуры, якія засялялі поўдзень нашай краіны, а ў другой палове гэтага ж тысячагоддзя з сакрэтамі яго здабычы і кавальства пазнаёмілася насельніцтва культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай, якое засяляла цэнтральную і паўночную частку Беларусі. Нямногія дасягненні адной эпохі змаглі ў такой ступені паскорыць прагрэс ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці, як атрыманне і выкарыстанне жалеза. У Еўропе вытворчасць жалеза пачалася каля рубяжа 2-га і 1-га тысячагоддзяў да н.э. у Грэцыі і на Эгейскіх астравах, а на больш паўночных тэрыторыях — у XI—VIII стст. да н.э. Насельніцтва Паўднёвай Беларусі авалодала навыкамі жалезаробчай вытворчасці амаль адначасова з многімі іншымі еўрапейскімі народамі.

Пашырэнню чорнай металургіі спрыялі даступнасць сыравіны і адносна нескладаная тэхналогія варкі жалеза, якое атрымлівалі з балотных і азёрных руд (бурых жалезнякоў), адклады якіх маюцца па ўсёй тэрыторыі краіны. Старажытныя майстры ў адной асобе сумяшчалі прафесію металурга і каваля, а іх сацыяльны статус быў даволі высокім і абумоўліваўся ўстойлівай патрэбай грамадства ў прадуктах іх вытворчасці.

З'яўленне жалеза стала важнай вяхой у гісторыі старажытных плямён. Яго выкарыстанне значна паўплывала на характар матэрыяльнай культуры і гаспадаркі,

стварыла вялікія магчымасці для новых тэхналагічных ідэй, практычна зраўняла шанцы ўсіх рэгіёнаў Еўропы на прагрэс у галіне вытворчасці. Аснову гаспадаркі насельніцтва эпохі жалеза складалі земляробства і жывёлагадоўля, якія дапаўняліся рыбалоўствам, паляваннем, збіральніцтвам і інш. Пераважала падсечнае земляробства. Жалезная сякера і саха з жалезным нарогам, рала з наральнікам, сярпы і косы дазволілі значна павялічыць плошчы, занятыя пасевамі, забяспечыць прадуктамі харчавання людзей і грамадскі статак і, акрамя таго, стварыць пэўныя запасы. Удасканальваліся і іншыя занятні насельніцтва, з'явіліся неабходныя ў вытворчасці і побыце такія рэчы, як нажніцы, абцугі, напільнікі, пілы і інш. Палепшылася апрацоўка дрэва для мэт домабудаўніцтва, вытворчасці сродкаў транспарту, розных прыстасаванняў і начыння, з'явіўся новы больш дасканалы інструментарый, пашырыўся тавараабмен. З ростам прадукцыйнасці працы ў асобных родаў і плямён назапашвалася маёмасць, што вяло да войнаў з мэтаю грабежніцтва і заняволення. Каб абараніць жыццё суродзічаў і накопленае дабро, насельніцтва пачало сяліцца ў цяжкадаступных месцах, сярод балот і лясоў, умацоўваючы свае паселішчы штучнымі абарончымі збудаваннямі – равамі і землянымі валамі. Так узнікалі гарадзішчы, якія сталі асноўным тыпам паселішчаў на працягу амаль усёй эпохі жалеза.

Жыццё чалавека эпохі жалеза адбывалася ў цесным узаемадзеянні з навакольным асяроддзем. На ўсіх этапах сваёй гісторыі чалавецтва залежала ад прыродных умоў, не зважаючы на тое што развіццё прыроды і грамадства адбывалася сваімі шляхамі. Па меры ўдасканалення сацыяльнай арганізацыі грамадства непасрэдны ўплыў прыродных умоў на яго змяншаўся. Будуючы жытло, шыючы адзенне, удасканальваючы вытвараючыя формы гаспадарання і сацыяльнае асяроддзе пражывання, чалавек эпохі жалеза дасягнуў значна большых поспехаў у параўнанні з папярэднікамі ў адаптацыі да фізіка-геаграфічных і кліматычных умоў існавання.

Рэльеф Беларусі мае раўнінны характар. Захад і поўнач яе вышэйшыя, з няроўным узгорыстым ландшафтам, на поўдні распасціраецца роўная балоцістая Палеская нізіна. Найбольш высокім месцам краіны з'яўляецца Беларуская града, якая пачынаецца каля Гродна і цягнецца на ўсход за Оршу. Беларусь, якая знаходзіцца на водападзеле Балтыйскага і Чорнага мораў, займае верхнія часткі водазбораў вялікіх рэк Еўропы – Дняпра, Нёмана, Дзвіны, праз Буг адкрываецца шлях у басейн Віслы. У цэлым гідраграфічная сетка краіны налічвае звыш 20 тыс. рэк і 10 тыс. азёраў. Рэкі мелі вельмі важнае значэнне ў жыцці старажытнага насельніцтва. Па іх прасоўваліся групы людзей, асвойваючы новыя тэрыторыі, тут пралягалі асноўныя кірункі ўнутрыплемянных і знешніх кантактаў. На берагавых тэрасах і надпоймавых узвышшах размяшчалі палі і будавалі паселішчы. Іх прымеркаванасць да рэк і азёраў – яскравы прыклад асэнсаванага выбару найбольш спрыяльнага ландшафту. На багатых травамі абалонных паплавах пасвілі жывёлу і нарыхтоўвалі сена. У вадаёмах лавілі рыбу, а на іх берагах палявалі на баброў, вадаплаўных птушак і іншую дзічыну. На тэрасах і паплавах звычайна расце шмат дзікарослых дрэў і кустоў з пладамі (яблыні, рабіны, арэчкі, маліны, ажыны і інш.).

У межах Беларусі вылучаюць дзярнова-падзолістыя глебы, пашыраныя на ўзвышшах і плоскіх водападзелах. У ніжэйшых мясцінах, дзе назіраецца скапленне атмасферных ападкаў і блізка залягаюць грунтавыя воды, сфармаваліся дзярнова-падзолістыя забалочаныя і тарфяна-балотныя глебы. У далінах рэк, асабліва ў цэнтры і на поўдні краіны, пашыраны паплаўныя глебы. Па механічным складзе яны раздзяляюцца на гліністыя, суглінкавыя, пясчаныя і супясчаныя. Больш высокай прыроднай урадлівасцю адзначаюцца гліністыя і суглінкавыя глебы, а больш лёгкімі для апрацоўкі з'яўляюцца пясчаныя і супясчаныя. У цэлым глебы Беларусі не вельмі ўрадлівыя і патрабуюць адпаведных захадаў пры іх выкарыстанні.

Вялікае ўздзеянне на рассяленне старажытных людзей і характар іх гаспадаркі заўсёды мелі кліматычныя ўмовы. Клімат Беларусі ўмерана кантынентальны пры значным уздзеянні паветраных мас Атлантыкі, даволі цёплы і вільготны. Цеплавы



Гарадзішча жалезнага веку каля в. Камень Лепельскага раёна

рэжым характарызуецца паступовым зніжэннем сярэднегадавой тэмпературы з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Вегетацыйны перыяд доўжыцца ад 180 сутак на поўначы да 208 сутак на поўдні. Такім чынам, клімат Беларусі дастаткова спрыяльны для гаспадарчай дзейнасці чалавека. Аднак вызначана, што прыродныя ўмовы краіны ў эпоху жалеза пэўным чынам змяніліся[1]. Па распрацаванай даследчыкамі схеме кліматычных ваганняў жалезнаму веку адпавядае канец другога, заключнага этапу суббарэальнага перыяду (SB-2 — XX—V стст. да н.э.) і першы этап субатлантычнага перыяду (SA-1 — V ст. да н.э. — IV ст. н.э.). У SB-2 клімат быў цёплым і крыху больш вільготным, чым зараз, а сярэднегадавыя тэмпературы практычна нагадвалі сучасныя. Сярэднегадавая тэмпература SA-1 была меншай за сучасную на 0,5—1,5 $^0$С, клімат быў умерана прахладны і вільготны, у спора-пылковых спектрах пастаянна адзначаюцца хлебныя злакі і элементы расліннасці, якая спадарожнічала чалавеку (трыпутнік, крапіва і інш.). На пераломе паміж этапамі SA-1 і SA-2 (абсалютная дата 1440 ± 70 гадоў назад) фіксуецца пахаладанне, калі сярэднегадавая тэмпература знізілася на 1,5—1$^0$ С, а ападкаў выпадала на 50—75 мм менш, чым у сучасны перыяд. З другога этапу субатлантычнага перыяду ў паліналагічных комплексах узрастае колькасць пылку травяністых раслін. Гэта можна растлумачыць скарачэннем лясных масіваў і пашырэннем плошчаў выпасаў і палёў.

Вывучэнне археалагічных даных дазваляе сцвярджаць, што старажытнае грамадства ў жалезным веку знаходзілася на стадыі разлажэння родавага ладу. Рост вытворчых магчымасцей комплекснай гаспадаркі, павелічэнне абмену, ваенная здабыча садзейнічалі ўзмацненню ролі асобных сем'яў і адасабленню родаплемяннной знаці. Нарастаючыя працэсы расслаення грамадства прыводзілі да ўскладнення сацыяльных адносін і сувязяў. Эпоха жалеза характарызуецца таксама складанымі этнакультурнымі працэсамі, якія выявіліся ў значных перамяшчэннях плямён, узаемадзеяннях розных этнічных груповак, знікненні адных і з'яўленні іншых археалагічных культур. Тагачаснае насельніцтва не жыло ізалявана, мела прамыя і апасрэдаваныя кантакты і сувязі з блізкімі і далёкімі народамі, адчувала і ўспрымала культурныя імпульсы, якія надыходзілі з боку Прычарнамор'я і Скіфіі, Прыбалтыкі, Волга-Окскага рэгіёна, гальштацка-латэнскіх і правінцыяльна-рымскіх культур Сярэдняй Еўропы.

[1]*Еловичева Я. Л.* Палинология позднеледниковья и голоцена Беларуси. Мн., 1993.

Гістарычнае жыццё асобных груп плямён на тэрыторыі Беларусі, іх культурныя лакальныя і храналагічныя асаблівасці прасочваюцца перш за ўсё па матэрыялах старажытных паселішчаў і могільнікаў, таму што пісьмовыя крыніцы па перыядзе эпохі жалеза практычна адсутнічаюць. Аднак рэчавыя археалагічныя крыніцы маюць сваю спецыфіку і іх магчымасці абмежаваныя ў асвятленні праблем этнічнага і духоўнага жыцця, дэталёвай структуры грамадскіх адносін старажытнага насельніцтва, але даюць добрыя вынікі для вывучэння асаблівасцей яго матэрыяльнай культуры, будаўнічых традыцый, характару і ўзроўню гаспадаркі ў цэлым і асобных яе галін.

Пры распрацоўцы перыядызацыі жалезнага веку Беларусі сустракаюцца пэўныя цяжкасці, звязаныя з малой колькасцю датаваных рэчаў, знойдзеных на тагачасных помніках. Таму для вызначэння абсалютнай і адноснай храналогіі з'яў і падзей часта выкарыстоўваюцца схемы, распрацаваныя для Сярэдняй і Заходняй Еўропы.

Самы ранні перыяд эпохі жалеза ў Еўропе, які доўжыўся з VIII ст. і прыкладна да 400 гадоў да н.э., атрымаў назву гальштацкага (ад назвы паселішча Гальштат у Аўстрыі). Ён вызначаўся ўплывамі з усходнеальпійскіх тэрыторый, дзе знаходзіліся цэнтры жалезаапрацоўчай металургіі і солездабычы.

Другі перыяд, які датуецца прыкладна ад 400 гадоў да н.э. і па рубеж эр, называецца латэнскім (ад назвы вядомага асяродка старажытных кельтаў, што размяшчаўся непадалёку ад сучаснага паселішча Ла Тэн у Швейцарыі). Гэты перыяд характарызуецца моцным уплывам кельцкіх традыцый у розных галінах культуры і гаспадаркі старажытнага насельніцтва Еўропы. У навуковай літаратуры сустракаецца і іншая назва гэтага перыяду — перадрымскі.

Трэці перыяд эпохі жалеза, які распачаўся на рубяжы эр і працягваўся прыкладна да 476 года н.э. (да падзення Рымскай імперыі), атрымаў назву рымскага, або перыяд рымскіх уплываў. Ён вызначаецца моцнымі ўплывамі Рыма і яго еўрапейскіх правінцый на культурнае, сацыяльна-эканамічнае і палітычнае становішча народаў, што жылі на поўнач ад Імперыі.

Канец жалезнага веку і пачатак ранняга сярэднявечча, якія прыпадаюць на IV—VI стст., вылучаюцца ў асобны перыяд — эпоху Вялікага перасялення народаў. Гэты перыяд пачынаецца са з'яўлення ў Еўропе ў канцы IV ст. азіяцкіх плямён гунаў і доўжыцца да сярэдзіны або нават і канца VI ст. Канец гэтага перыяду звычайна звязваюць з нашэсцем авараў і іх асяданнем у Карпацкай катлавіне ў 567—568 гг.

Усе падзеі і працэсы, якія ў эпоху жалеза адбываліся ў Паўднёва-Усходняй і Сярэдняй Еўропе, у рознай ступені ўплывалі і на лёс плямён, якія засялялі тэрыторыю Беларусі, што і ўлічваецца пры асвятленні іх гісторыі.

## 1. Плямёны жалезнага веку. Паселішчы і матэрыяльная культура

У пачатку жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі склаліся тры ўстойлівыя групы плямён, якія добра вылучаюцца на аснове археалагічных даных. На поўнач ад басейна Прыпяці, на берагах Нёмана і яго прытокаў, на Верхняй і Сярэдняй Бярэзіне рассяліліся носьбіты культуры штрыхаванай керамікі. Тэрыторыю Сярэдняга Падзвіння і прылеглыя раёны Верхняга Падняпроўя занялі плямёны днепра-дзвінскай культуры. У басейне Прыпяці, паўднёвай частцы Верхняга Дняпра і Ніжнім Пасожжы размясцілася насельніцтва мілаградскай культуры. Акрамя таго, у ранні перыяд жалезнага веку крайні паўднёвы захад нашага краю ўваходзіў у арэал распаўсюджання плямён паморскай культуры.

Характэрна, што ў Паўночнай і Сярэдняй Беларусі праз усю эпоху жалеза не назіралася асабліва радыкальных этнакультурных змен. У той жа час




Рассяленне плямён жалезнага веку ў VIII—I стст. да н.э.:
1 — плямёны культуры штрыхаванай керамікі; 2 — плямёны днепра-дзвінскай культуры; 3 — плямёны мілаградскай культуры; 4 — плямёны паморскай культуры

на поўдні нашага краю гістарычныя працэсы былі больш разнастайнымі і дынамічнымі. Пад канец 1-га тысячагоддзя да н.э. тэрыторыі, да гэтага заселеныя мілаградцамі і паморцамі, заняло насельніцтва зарубінецкай культуры, а ў позні перыяд жалезнага веку тут ужо вядомы носьбіты кіеўскай культуры, а на Пабужжы і вярхоўях Прыпяці — вельбарскай. Поўдзень Беларусі раней за ўсіх адчуў і працэсы славянізацыі.

На тэрыторыі Беларусі вядома каля 1000 гарадзішчаў і некалькі сотняў селішчаў жалезнага веку, на якіх жылі носьбіты названых вышэй культур.

**Плямёны Паўднёвай Беларусі.** Пачынаючы з VIII—VII стст. да н.э. большасць тэрыторыі Паўднёвай Беларусі і частку Паўночнай Украіны займалі плямёны *мілаградскай культуры.* На поўначы яны рассяляліся да сярэдняга цячэння Бярэзіны, Рагачова і Крычава, на поўдні — да р. Рось на Украіне, на захадзе — амаль да вярхоўяў Прыпяці, на ўсходзе распаўсюджваліся на заходнюю частку Браншчыны. Іх культура сваю назву атрымала па назве тыповага гарадзішча каля в. Мілаград Рэчыцкага раёна.

Для мілаградскага насельніцтва характэрны два тыпы паселішчаў: гарадзішчы і адкрытыя селішчы. Пераважная колькасць гарадзішчаў канцэнтруецца ва ўсходняй частцы арэала. Яны ўзводзіліся на невысокіх узвышшах або роўных месцах паблізу балот, на пагорках, а таксама на мысах рачных і азёрных тэрас. Гарадзішчы на ўзвышшах або каля балота характэрны толькі для Палесся.

Пляцоўкі гарадзішчаў у залежнасці ад рэльефу мясцовасці, дзе яны ўзводзіліся, мелі круглую, авальную, трох-, чатырох-, пяцівугольную форму. Нярэдка гарадзішчы складаліся з дзвюх і больш пляцовак, аддзеленых адна ад другой валамі. Некаторыя мысавыя гарадзішчы ўмацоўваліся валамі і ровам толькі з напольнага боку (Майсееўка Мазырскага раёна), але большасць гарадзішчаў гэтага часу, асабліва на поўдні Беларусі, абнесена адной і больш лініямі ўмацаванняў (Мілаград, Ліскі Рэчыцкага, Ястрабка Лоеўскага раёнаў і інш.). Частка мілаградскіх гарадзішчаў не мае культурнага пласта і, відаць, выкарыстоўвалася як сховішчы, куды падчас ваеннай небяспекі жыхары прылеглай акругі заганялі статкі жывёлы, зносілі свой пажытак і за сценамі якіх баранілі сваё жыццё. Найбольшая колькасць падобных умацаванняў знаходзіцца сярод балот Прыпяцкага Палесся.

Неўмацаваныя селішчы распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі, занятай плямёнамі мілаградскай культуры. У Падняпроўі яны звычайна прымыкалі да гарадзішчаў, а на Палессі існавалі незалежна ад іх. Пляцоўкі гарадзішчаў забудоўваліся жытлом уздоўж умацаванняў, са свабоднай прасторай у цэнтры або размяшчаліся кучна. Апошні прынцып забудовы характэрны і для селішчаў. Асноўным тыпам жылля былі наземныя або паглыбленыя ў зямлю пабудовы плошчаю 12—16 м$^2$, якія мелі слупавую канструкцыю сцен. Дах такога жытла часта апіраўся на цэнтральны слуп. У адзінкавых выпадках у Падняпроўі выяўлены зямлянкі. Мілаградскія жылыя пабудовы ў многіх выпадках маюць вельмі характэрную прыкмету, якая вылучае іх сярод сінхронных і наступных культур: спецыфічны выступ прамавугольнай, авальнай або круглай формы ў адной са сцен або ў куце. Агнішчы змяшчаліся воддаль ад ўваходу, на ўзроўні пясчанай падлогі або ў невялікіх круглых ці авальных ямках. Гаспадарчыя пабудовы прадстаўлены невялікімі наземнымі асобна размешчанымі збудаваннямі або ямамі-скляпамі розных форм.

Мілаградскае насельніцтва карысталася керамічным посудам, які мае своеасаблівы і выразны характар. Ён прадстаўлены гаршкамі з яйцападобнай і шарападобнай формы тулавам і прамою альбо крыху адагнутаю вонкі шыйкаю. Сустракаецца начынне чашападобнай формы без шыйкі, з прамымі або загнутымі ўнутр краямі, трапляюцца таксама мініяцюрныя пасудзінкі. Значная колькасць посуду мае не плоскае, а закругленае дно, што вылучае мілаградскі керамічны комплекс сярод сінхронных культур лясной зоны. Большасць керамікі арнаментавалася па шыйцы або плечыках круглымі ямкамі, насечкамі, пазногцевымі або пальцавымі адбіткамі, выпуклінамі — "жамчужынамі", якія былі негатывамі ямак, нанесеных на ўнутраную паверхню сценкі, і інш.

Распаўсюджанай знаходкай на мілаградскіх паселішчах з'яўляюцца гліняныя грузікі разнастайных форм: крыжападобныя, у выглядзе шара або шпулькі. Іншыя нагадваюць мініяцюрны кругладонны посуд. Шмат якія грузікі арнаментаваныя заштрыхаванымі трохвугольнікамі, зоркамі, крыжыкамі і інш. Многія даследчыкі лічаць, што падобныя гліняныя рэчы былі культавымі прадметамі, таксама як і гліняныя фігуркі жывёл, пераважна коней.

Комплекс металічных вырабаў, якімі карысталіся мілаградцы, багаты і разнастайны. Ён нясе на сабе яскравы адбітак традыцый паўднёвых суседзяў — скіфскіх плямён. Адчуваюцца таксама ўплывы гальштацка-латэнскіх



Скарб бранзалетаў з мілаградскага гарадзішча Гарошкаў Рэчыцкага раёна



**Рэканструкцыя жытла на паселішчы зарубінецкай культуры каля в. Хотамель Столінскага раёна**

культур Сярэдняй Еўропы. Рэчамі, безумоўна, скіфскага паходжання з'яўляюцца бронзавыя трохлопасцевыя і трохгранныя наканечнікі стрэл і меч-акінак з Асарэвіцкага гарадзішча, некаторыя тыпы ўпрыгожанняў — завушніцы з грыбападобным шчытком, цвікападобныя шпількі і інш.

Аб высокім развіцці металургічнай вытворчасці ў мілаградскага насельніцтва сведчаць шматлікія знаходкі сякер, сярпоў, матык, нажоў з гарбатай спінкай, брытваў, шылаў, наканечнікаў дзід і стрэл. Металічнымі былі многія дэталі касцюма і ўпрыгожанні — фібулы, бляшкі, бранзалеты, грыўні, пярсцёнкі, скроневыя кольцы і іншыя прадметы. Аздобы мясцовай вытворчасці дапаўняліся прывазнымі пацеркамі з бурштыну, халцэдону, шкла і бронзы.

Насельніцтва мілаградскай культуры хавала сваіх памерлых на грунтавых і курганных могільніках. Курганы выяўлены ў басейне р.Гарынь, каля в.Дубай Столінскага раёна. Там знойдзены рэшткі нябожчыкаў, пахаваныя па абрадзе трупапалажэння на старажытным гарызонце, часам у драўляных скрынях або ў неглыбокіх прамавугольных ямах. Зверху насыпаліся невысокія паўсферычныя, круглыя ў плане курганы дыяметрам ад 2 да 22 м. Пахавальны інвентар складаўся з аднаго або некалькіх гаршкоў, зрэдку сустракалася зброя (наканечнікі коп'яў) або ўпрыгожанні, у тым ліку і залатая завушніца скіфскага тыпу.

Бескурганныя могільнікі размяшчаліся на невялікай адлегласці ад паселішчаў або непасрэдна прымыкалі да валоў гарадзішчаў. Даследавана звыш 150 пахаванняў. Нябожчыка спальвалі па-за межамі могільніка. Невялікую колькасць кальцыніраваных костак ачышчалі ад вугольчыкаў і попелу і змяшчалі на дне невялікіх круглых альбо авальных у плане ям глыбінёю 0,5—1 м. Пахавальны інвентар больш сціплы, чым у курганах, або ўвогуле адсутнічае.

Заходняе Палессе ў IV—III стст. да н.э. засялялі плямёны *паморскай культуры*, арэал распаўсюджання якіх распасціраўся на тэрыторыю Польшчы, Паўночна-Заходняй Украіны і Паўднёва-Заходняй Беларусі. На поўначы іх паселішчы займалі ўзбярэжжа Балтыйскага мора, на захадзе дасягалі Одэра, на поўдні — вярхоўяў Віслы і Днястра, на ўсходзе і паўночным усходзе — Гарыні, Ясельды і Мазурскіх балот. Асноўная тэрыторыя, якую займалі паморцы, знаходзілася на тэрыторыі Польшчы. Тут іх супольнасць сфарміравалася яшчэ ў VII ст. да н.э., на аснове мясцовых традыцый лужыцкіх плямён эпохі позняй бронзы, на ўсход жа ад Буга яны праніклі толькі ў IV ст., на завяршальным этапе сваёй экспансіі.

Паморцы жылі толькі на неўмацаваных паселішчах, забудаваных паўзямлянкамі або наземнымі пабудовамі слупавой канструкцыі з адным

або двума памяшканнямі і адкрытымі агнішчамі, выкладзенымі камянямі. Аднак паселішчы пакуль што даследаваны мала, лепш вывучаны могільнікі гэтага насельніцтва, прадстаўленыя пераважна бескурганнымі некропалямі. Курганы пакуль што выяўлены толькі на Гданьскім Памор'і.

Пахаванні паморскай культуры на тэрыторыі Беларусі даследаваліся каля вёсак Ратайчыцы, Трасцяніца ў Камянецкім, Аздамічы ў Столінскім раёнах, каля Драгічына і Пінска і ў некаторых іншых месцах. Пахаванні адбываліся па абрадзе трупаспалення за межамі могільніка. Перапаленыя косткі ссыпалі проста на дно магільнай ямкі альбо ў вялікую гліняную пасудзіну — клёш, якую зверху накрывалі міскай або гаршком. Часам рэшткі нябожчыка змяшчалі ў гліняную урну або абстаўлялі па перыметры камянямі.

Асноўная маса знаходак у пахаваннях і на паселішчах — ляпны гліняны посуд, прадстаўлены глянцаванымі з бліскучай паверхняй гаршкамі, міскамі, вазамі, кубкамі, накрыўкамі. Пашыраны былі таксама грубаляпныя вялікія пасудзіны-клёшы і гаршкі з бугрыстай паверхняй. З упрыгожанняў знойдзены фібулы раннелатэнскага выгляду, спіральныя і рубчастыя бранзалеты, кольцы, шкляныя і каменныя пацеркі.

На мяжы III—II стст. да н.э. на тэрыторыі, да гэтага занятай мілаградскім і часткова паморскім насельніцтвам, пачынае фарміравацца супольнасць *плямён зарубінецкай культуры.* Зарубінецкія старажытнасці цалкам перакрываюць тэрыторыю мілаградскай культуры на Беларусі. Яе носьбіты занялі пабудаваныя ў ранейшы час гарадзішчы і селішчы. Жылыя збудаванні выяўлены на паселішчах каля вёсак Велямічы, Рубель, Давыд-Гарадок, Хотамель Столінскага, Чаплін, Мохаў Лоеўскага раёнаў і інш. Па асаблівасцях канструкцыі яны падзяляюцца на тры групы: паўзямлянкавыя, з паглыбленай у зямлю падлогай і наземныя. Першыя з іх сустракаюцца толькі на Палессі, апошнія — у Прыдняпроўі. Усе яны маюць невялікія памеры (10—24 м$^2$), квадратную або прамавугольную ў плане форму. Паўзямлянкавае жытло мела зрубавую канструкцыю сцен, ацяплялася глінабітнымі агнішчамі або печамі. Наземныя і злёгку паглыбленыя збудаванні з адкрытымі агнішчамі і са слупавой канструкцыяй сцен выяўлены на помніках Падняпроўя. Пераемнасці ў будаўнічых традыцыях мілаградскага і зарубінецкага насельніцтва не назіраецца. Калі мілаградцы ўзводзілі дамы слупавой канструкцыі, то зарубінецкае насельніцтва будавала і зрубавыя паўзямлянкі. Мілаградскія жылыя памяшканні ацяпляліся агнішчам, месца якога зрэдку абкладвалася камянямі, зарубінцы выкарыстоўвалі агнішчы і печы з камянёў і гліны.

Дастаткова добра вывучаны таксама пахавальныя звычаі зарубінецкіх плямён. На 11 могільніках даследавана каля 750 пахаванняў. Могільнікі не маюць знешніх прыкмет. Пахаванні адбываліся па абрадзе трупаспалення за межамі некропаля. Рэшткі нябожчыка змяшчалі ў круглых або падоўжаных у плане ямках глыбінёю 0,2—1 м. У Верхнім Падняпроўі выяўлены ямныя пахаванні і кенатафы, а ў Прыпяцкім Палессі — ямныя і урнавыя трупаспаленні і пахаванні няспаленых чарапоў. Пахавальны інвентар даволі багаты і разнастайны. Ён складаецца з ляпных глянцаваных гаршкоў, місак, кубкаў, радзей сустра-



Гліняны посуд насельніцтва зарубінецкай культуры

каецца грубаляпны, неглянцаваны посуд. У вялікай колькасці знойдзены спецыфічныя, так званага зарубінецкага тыпу фібулы з трохвугольным шчытком, сярэднелатэнскія і позналатэнскія фібулы, посахападобныя і са спіральнай галоўкай шпількі, кольцы, падвескі, пранізкі, шкляныя і бурштынавыя пацеркі, прылады працы і зброя, косткі хатніх жывёлін, рэшткі рытуальнай стравы. У некаторых пахаваннях палескіх могільнікаў знаходзяць вялікія бронзавыя шпількі са спіральным навершам, якія не сустракаюцца ў іншых рэгіёнах зарубінецкай культуры. Своеасаблівасцю вызначаецца пахавальны інвентар могільніка каля в.Сямурадцы Жыткавіцкага раёна, у пахаваннях якога выяўлены мініяцюрныя пасудзінкі, якія па сваёй форме падобныя на вялікія начынні зарубінецкай культуры.

На даследаваных паселішчах выяўлены ўпрыгожанні, прылады працы, бытавы інвентар — сякеры-кельты і абушковыя сякеры, нажы, сярпы, іголкі, шылы, прабойнікі, долаты, наканечнікі дзід, стрэл і дроцікаў, гліняныя біканічныя і шайбападобныя праслачкі, грузікі і інш. На паселішчах пераважае грубаляпны посуд у адрозненне ад могільнікаў, дзе пахаванні звычайна суправаджаюцца глянцаванымі пасудзінамі чорнага, карычневага або шэрага колеру.

Увесь комплекс знаходак, выяўленых на паселішчах і могільніках, сведчыць аб тым, што насельніцтва зарубінецкай культуры валодала адпаведнымі навыкамі і прыёмамі атрымання і апрацоўкі жалеза і каляровых металаў і мела сталыя абменныя сувязі з блізкімі і далёкімі суседзямі. У I ст. н.э. класічная зарубінецкая культура спыняе сваё існаванне.

У II—IV стст. н.э. тэрыторыю Заходняга Палесся, абмежаваную рэкамі Буг, Ясельда і Гарынь, займала насельніцтва *вельбарскай культуры*, якая сфарміравалася на польскім Памор'і ў I ст. н.э. У II ст. адбылося значнае перамяшчэнне носьбітаў гэтай культуры на паўднёвы ўсход, праз палескія балоты далей на Украіну і ў Прычарнамор'е. У Беларусі адкрыты паселішчы і бескурганныя могільнікі вельбарцаў каля вёсак Вялічкавічы і Кругель Камянецкага, Блювінічы Брэсцкага, Струга, Велямічы Столінскага раёнаў і інш. Найбольш поўна даследаваны могільнік Брэст-Трышын, выяўлены на ўскрайку Брэста каля р.Мухавец. Пахаванні адбываліся па абрадзе трупаспалення ў невялікіх ямах глыбінёю да 1 м. Перапаленыя косткі, нярэдка з рэшткамі вогнішча, ссыпаліся на дно паглыблення. Пэўная колькасць урнавых пахаванняў выяўлена толькі на могільніку Брэст-Трышын. Найбольш тыповы набор прадметаў у пахавальным інвентары — гліняны посуд, касцяныя грэбені, металічныя фібулы. Зброю ў магілы ніколі не клалі.


Наканечнікі коп'яў і стрэл з помнікаў зарубінецкай культуры

Керамічны комплекс прадстаўлены гаршкамі, вазападобнымі пасудзінамі, збанамі, кубкамі, міскамі, мініяцюрнымі пасудзінкамі. Гаршкі звычайна маюць шурпатую або сітаватую паверхню тулава і загладжаныя шыйкі і прыдонныя часткі. Усе астатнія формы посуду глянцаваліся. Практычна ўся кераміка зроблена рукамі. Ганчарны гаршчок, ваза і міска знойдзены толькі ў трох выпадках. Акрамя керамікі на вельбарскіх помніках Беларусі сустракаюцца разнастайныя




**Рассяленне плямён жалезнага веку ў першай палове 1-га тысячагоддзя н.э.:**

**1 — плямёны культуры штрыхаванай керамікі; 2 — плямёны днепра-дзвінскай культуры; 3 — плямёны зарубінецкай культуры; 4 — насельніцтва вельбарскай культуры; 5 — насельніцтва кіеўскай культуры**

рэчы з металу, шкла, косці, рога — align рознатыповыя фібулы, бранзалеты, падвескі, паясныя спражкі, шпількі, пацеркі, фрагмент брытвы, часткі замкоў і фрагменты шклянога посуду.

У II—V стст. н.э. паўднёвы ўсход Беларусі ад р. Пціч і да мяжы з Расіяй займала насельніцтва *кіеўскай культуры*, якое жыло таксама на тэрыторыі Чарнігаўскай, Сумскай і на поўначы Кіеўскай абласцей на Украіне, на поўдні Бранскай і захадзе Курскай абласцей Расіі.

Культура прадстаўлена толькі неўмацаванымі селішчамі, якія размяшчаліся па берагах рэк і азёр на невысокіх узвышшах поплаву або на надпоймавых тэрасах. Іх памеры вагаюцца ад 1 да 7 гектараў. Тапаграфія паселішчаў адлюстроўвае асноўны напрамак гаспадарчай дзейнасці: ураджайныя глебы на тэрасах выкарыстоўваліся пад палі, а поплаў — пад пашу. Зрэдку паселішчы размяшчаліся ў 1—2 км адзін ад аднаго і складалі кампактныя групы-гнёзды. Напрыклад, такое гняздо даследавалася каля в.Адаменкі на Дняпры ў Быхаўскім раёне.

На паселішчах кіеўскай культуры выяўлены разнастайныя жылыя і гаспадарчыя збудаванні, якія ўтвараюць розныя тыпы планіроўкі. Часам жытло будавалася кампактна адно каля другога, а гаспадарчыя пабудовы размяшчаліся крыху воддаль ад іх. У некаторых выпадках хаты знаходзіліся на большай адлегласці між сабой, пры такой планіроўцы гаспадарчыя аб'екты памяшчаліся паміж імі і вакол іх. Вылучаюцца і асобныя сядзібы, якія ўключаюць комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў. Большасць жылых пабудоў

насельніцтва кіеўскай культуры ўяўляла сабой аднакамерныя канструкцыі прамавугольнай формы, блізкай да квадрата, памерам 8—20 $м^2$, з паглыбленай падлогай. Падлогі былі пясчаныя, зрэдку падмазаныя глінаю, часам вымошчваліся драўлянымі плашкамі. У цэнтры памяшкання на падлозе або ў неглыбокай ямцы будаваліся з камянёў, гліны або чарапкоў посуду агнішчы. Сцены жытла трымаліся на слупах, у шэрагу выпадкаў прасочаны цэнтральны слуп, які падпіраў дах. Акрамя паўзямлянак на паселішчах кіеўскай культуры на Беларусі адзначаюцца наземныя слупавыя збудаванні. Разнастайнасць жылых пабудоў сярод насельніцтва кіеўскай культуры ў пэўнай ступені сведчыць аб незавершаным працэсе складвання домабудаўнічых традыцый.

Пахавальны абрад вядомы па раскопках бескурганных могільнікаў каля Абідні, Тайманава Быхаўскага раёна, Новага Быхава і інш. Трупаспаленне адбывалася за межамі могільнікаў. Косткі, часам ачышчаныя ад рэшткаў пахавальнага вогнішча, ссыпаліся ў круглыя або авальныя ў плане ямкі глыбінёю 0,2—0,6 м. Сустракаюцца і урнавыя пахаванні. У магілах выяўлены цэлыя і разбітыя пасудзіны і зрэдку рэчы побыту і ўпрыгожанні.

Жыхары паселішчаў кіеўскай культуры карысталіся грубаляпнымі таўстасценнымі пасудзінамі. Сярод глінянага начыння ў невялікай колькасці сустракаўся таксама глянцаваны і ўпрыгожаны расчосамі посуд. Функцыянальна вылучаюцца гаршкі, міскі, падстаўкі-дыскі, мініяцюрныя пасудзіны. Яскравай адметнасцю керамічнага комплексу з'яўляецца наяўнасць у ім масіўных пасудзін вышынёй да 50 см, якія выкарыстоўваліся для захоўвання харчовых прыпасаў.

На паселішчах і могільніках жыхароў кіеўскай культуры знойдзены разнастайныя рэчы, якія адлюстроўваюць характар заняткаў насельніцтва, узровень хатніх рамёстваў і тэндэнцыі развіцця моды. Знойдзены жалезныя сярпы, сякеры, нажы, шылы, крэсівы, кавальскі інструментарый, высокай мастацкай вартасці ўпрыгожанні з выемістай эмаллю, падвескі, бляшкі, шкляныя пацеркі.



Гарадзішча насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі каля в. Малышкі Вілейскага раёна

**Плямёны Сярэдняй і Паўночнай Беларусі.** Праз увесь жалезны век асноўным насельніцтвам Сярэдняй і Паўночна-Заходняй Беларусі былі плямёны *культуры штрыхаванай керамікі*. На поўдні і паўднёвым усходзе яны пранікалі да раёна Слуцка і вярхоўяў Ясельды, на ўсходзе пераходзілі за Бярэзіну, у межы тэрыторыі іх панавання ўваходзіла таксама Паўднёва-Усходняя і Усходняя Літва.

Самыя старажытныя паселішчы носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі першапачаткова не мелі абарончых умацаванняў і ўяўлялі сабою адкрытыя селішчы і амаль не адрозніваліся ад стаянак эпохі бронзы. Яны датуюцца VIII—V стст. да н.э. і выяўлены каля вёсак Гатавічы і Занарач Мядзельскага, Яселевічы Шчучынскага, Таўкуны Дзятлаўскага раёнаў.

Пазней асноўным тыпам паселішчаў штрыхавікоў сталі гарадзішчы. Яны будаваліся на ўзвышшах або мысападобных выступах тэрас, каля рэк і іншых вадаёмаў, у месцах, звычайна добра абароненых самой прыродай. Найбольш раннія гарадзішчы (Аўгустова Лепельскага раёна) умацоўваліся па краі пляцовак толькі драўлянай сцяной, а схілы мыса альбо пагорка штучна зразаліся, чым дасягалася іх большая стромкасць. Пазней у IV—I стст. да н.э. плямёны культуры штрыхаванай керамікі пачалі ўзводзіць добра ўмацаваныя гарадзішчы, а ранейшыя — перабудоўваць. Пляцоўкі іх павялічваліся, а па краях, з боку поля насыпалі земляныя валы і выкопвалі равы (Аздзяцічы, Навасёлкі Барысаўскага раёна). Па ўнутраным перыметры пляцовак будавалі доўгія дамы слупавой канструкцыі, падзеленыя на 3—6 асобных жылых памяшканняў. Унутры кожнага памяшкання змяшчалася агнішча круглай, авальнай або падковападобнай формы, абкладзенае камянямі ці гліնянымі валікамі. У першай палове 1-га тысячагоддзя н.э. гарадзішчы насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі набываюць яшчэ больш складаную сістэму абарончых умацаванняў. Равы і земляныя валы з моцнымі драўлянымі сценамі на іх грэбенях з усіх бакоў акружаюць пляцоўкі. Цяпер уся іх плошча забудоўвалася невялікімі чатырохвугольнымі наземнымі жылымі збудаваннямі слупавой канструкцыі, з адкрытымі агнішчамі ўсярэдзіне (Малышкі Вілейскага, Васількоўка Лагойскага раёнаў).

На паселішчах культуры штрыхаванай керамікі выяўлены разнастайныя рэчы, якія адлюстроўваюць шматвяковы працэс сацыяльна-эканамічнага развіцця яе насельніцтва. У ранні перыяд існавання культуры яе носьбіты яшчэ не былі знаёмыя з металургіяй жалеза і прылады працы і зброю выраблялі з каменю, косці, рога, дрэва. Знойдзены каменныя сякеры, цёслы, жніўныя нажы, зерняцёркі, тачыльныя брускі, касцяныя і рагавыя ўпрыгожанні. Найбольш масавай знаходкай з'яўляюцца абломкі гліնянага посуду, які рабіўся метадам стужкавага налепу без прымянення ганчарнага кола. Выраблялiся розных памераў слоікападобныя, конусападобныя і з выпуклым тулавам пасудзіны, упрыгожаныя па шыйцы ямкавымі ўціскannямі. Паверхня асноўнай масы посуду была пакрыта вельмі характэрнай штрыхоўкай, якая, магчыма, наносілася пучком саломы або травы. З-за гэтай характэрнай штрыхоўкі керамікі культура мясцовага насельніцтва і атрымала сваю назву.

У другой палове 1-га тысячагоддзя да н.э. плямёны культуры штрыхаванай керамікі авалодваюць навыкамі вытворчасці жалеза, якое да рубяжа эр канчаткова выцясняе камень як сыравіну для вырабу прылад працы і зброі. Асартымент вырабаў пашыраецца, яны робяцца больш дасканалымі і сведчаць аб больш высокім эканамічным патэнцыяле грамадства. Жалезныя прадметы таго часу, якія вырабляліся кавалямі, разнастайныя па сваім прызначэнні і характарызуюць шматлікія гаспадарчыя заняткі насельніцтва, яго побыт, дэталі касцюма і ваенную справу. Выкарыстоўваліся жалезныя сякеры з вузкім і выгнутым лязом, долаты, зубілы, серпы і нажы для жніва, брытвы з выпуклым ля-



Бронзавае ўпрыгожанне з гарадзішча днепра-дзвінскай культуры каля в. Бароніці Віцебскага раёна

зом, розных памераў гаспадарчыя нажы, шылы, іголкі, наканечнікі коп'яў, дроцікаў і стрэл, падковападобныя і латэнскага тыпу фібулы, паясныя спражкі, посахападобныя шпількі. Многія аздобы выраблялісь з бронзы — пярсцёнкі, скроневыя кольцы, спіралькі, бранзалеты з разамкнёнымі канцамі, трапецападобныя і акулярападобныя падвескі, бляшкі і інш. У гэты час у керамічным комплексе з'яўляюцца рабрыстыя штрыхаваныя гаршкі, упрыгожаныя па рабру зашчыпамі або ямкавымі паглыбленнямі. З гліны выраблялісь і шматлікія праслачкі, якія надзяваліся на канец драўлянага верацяна, тыглі і тыглі-льячкі, у якіх плавілі каляровыя металы, рыбалоўныя грузілы, грузікі і інш. Знойдзены таксама рэчы немясцовага паходжання, якія трапілі на паселішчы культуры штрыхаванай керамікі ў выніку абмену з насельніцтвам іншых тэрыторый.

За межамі нашых ведаў застаецца пахавальны абрад штрыхавікоў, які археалагічна не прасочваецца.

Паўночны ўсход Беларусі ў жалезным веку займалі плямёны *днепра-дзвінскай культуры.* У арэал іх распаўсюджання ўваходзілі таксама паўднёвая Пскоўшчына і значная частка Смаленшчыны да вярхоўяў Дняпра і Дзвіны.

Насельніцтва днепра-дзвінскай культуры, як і штрыхавікі, узводзіла свае гарадзішчы на ўзгорках і мысах. Пры выбары месца для паселішча, з аднаго боку, улічвалася яго абароненасць прыроднымі фактарамі — балотамі, рэчкамі, ярамі, стромкімі схіламі, а з другога — наяўнасць на невялікай адлегласці зарослых травою паплавоў і значных плошчаў надпоймавых тэрас або схілаў карэнных берагоў, зручных для земляробства. Сістэма штучных умацаванняў старажытных гарадзішчаў ствaралася з мэтай эфектыўнай абароны з усіх бакоў пляцоўкі, з размешчанымі на ёй пабудовамі і маёмасцю. Яна складалася з земляных валоў і равоў. На працягу існавання ўмацаваных паселішчаў характар абарончых збудаванняў на іх мяняўся ад простых форм да больш складаных. Пляцоўкі гарадзішчаў мелі авальную, круглую, трохвугольную або прамавугольную форму і дасягалі плошчы ад 500 да 2500 м$^2$. Самыя раннія з іх (VIII—V стст. да н.э.) мелі толькі драўляную сцяну па перыметры пляцоўкі (Кастрыца Лепельскага раёна), пазней (IV—I стст. да н.э.) па краі пляцовак насыпаліся земляныя валы і выкопваліся равы (Мазуры Міёрскага раёна). Уздоўж унутранага схілу вала будаваліся вялікія дамы слупавой канструкцыі, падзеленыя на асобныя памяшканні з каменнымі агнішчамі ўсярэдзіне. На познім этапе існавання днепра-дзвінскай культуры (I—IV стст. н.э.) значна ўдасканальваецца сістэма абароны гарадзішчаў. Плошча пляцовак узрастае ад 2000 да 7000 м$^2$. Вакол іх узводзіцца двайная і трайная сістэма валоў з драўлянымі сценамі на іх і равоў. Уся прастора гэтых моцных крэпасцей забудоўваецца невялікімі наземнымі жылымі збудаваннямі слупавой канструкцыі з адкрытымі каменнымі агнішчамі ўсярэдзіне (Паддубнікі Міёрскага, Заронава Віцебскага раёнаў і інш.).

Як і насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі, у ранні перыяд развіцця днепра-дзвінскай культуры яе носьбіты не валодалі вытворчасцю жа-

леза і неабходныя ва ўсіх сферах жыцця рэчы выраблялі пераважна з каменю, косці і рога. Гэта сякеры, матыкі, астрогі, качадыкі, праколкі, іголкі, рукаяткі, зерняцёркі, наканечнікі стрэл і дроцікаў, шпількі, пранізкі, падвескі-амулеты і інш. У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя да н.э. і пазней усё шырэй распаўсюджваюцца вырабы з жалеза, а на паселішчах гэтага часу дастаткова яскрава прасочваюцца сляды чорнай металургіі ў выглядзе металургічнага жужаля, кавалкаў крыц і гліняных рэшткаў домніц, паўфабрыкатаў. На рубяжы эр і да канца існавання днепра-дзвінскай культуры асартымент металічных вырабаў становіцца даволі шматлікім і разнастайным. Гэта ў асноўным прылады працы і зброя: нажы, сякеры, сярпы, шылы, іголкі, наканечнікі коп'яў і стрэл. Сустракаецца кавальскі інструментарый — кавадла, накавальня, зубілы, прабоі і інш. З жалеза выраблялiся і некаторыя тыпы ўпрыгожанняў: гладкія, вітыя і рубчастыя бранзалеты, нашыйныя грыўні, шпількі.

Даволі часта старажытныя майстры выкарыстоўвалі для вырабу ўпрыгожанняў бронзу. Гэты прыгожы жоўтага колеру метал прывозіўся з-за меж арэала днепра-дзвінскай культуры, а разнастайныя ўпрыгожанні з яго адліваліся на месцы ў каменных і гліняных формачках, якія знойдзены пры раскопках паселішчаў. З бронзы выраблялiся разнастайныя па форме шпількі — посахападобныя, са спіральнай або ажурнай галоўкай, бранзалеты, пярсцёнкі, кольцы, грыўні, фібулы. Бронза выкарыстоўвалася таксама для вырабу некаторых прылад працы, такіх, як сякеры-кельты, іголкі, брытвы, шылы.

Адным з найбольш характэрных элементаў днепра-дзвінскай культуры з'яўляецца яе гліняны посуд, які прадстаўлены ляпнымі гладкасценнымі слабапрафіляванымі і слоікападобнай формы гаршкамі, зрэдку арнаментаванымі перакрэсленымі касымі лініямі, ямкамі і насечкамі. Гліна выкарыстоўвалася не толькі для вырабу посуду. З яе рабілі ліцейныя формы, тыглі, льячкі, праслачкі, рыбалоўныя грузілы, грузікі.

У сярэдзіне І-га тысячагоддзя н.э. у жыцці насельніцтва Беларусі адбываюцца значныя змены. У IV—V стст. спыняюць сваё існаванне помнікі днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі, кіеўскай і вельбарскай культур. На поўначы Падзвіння фарміруецца культура доўгіх курганоў, у Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі складваецца супольнасць банцараўскай культуры, а на поўдні з'яўляецца насельніцтва пражскай і калочынскай культур.

## 2. Этнакультурная гісторыя насельніцтва Беларусі ў жалезным веку

Жалезны век у гісторыі Еўропы — гэта перыяд складаных працэсаў фарміравання розных племянных і этнічных груповак, частка якіх у далейшым склала аснову пазнейшых сярэднявечных народнасцей — продкаў сучасных народаў. Удзел у іх брала і насельніцтва тэрыторыі Беларусі.

Сучасны стан даследаванняў дазваляе выдзеліць на Беларусі каля 10 культур[1]. Сярод вывучаных можна адзначыць наступныя: мілаградская, культура штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінская, паморская, зарубінецкая, вельбарская, кіеўская і інш. Выяўлены і іншыя лакальныя і храналагічныя комплексы помнікаў эпохі жалеза: старажытнасці заходніх балтаў V ст. да н.э. — VIII ст. н.э. (грунтавыя могільнікі тыпу Начы, каменныя курганы), лужыцкая культура, але ўсе яны да апошняга часу не разглядаліся ў абагульняючых публікацыях.

[1]Археалогія Беларусі: У 4 т. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Мн., 1999.

Неглыбокая распрацоўка праблем этнакультурнага развіцця і пытанняў датавання прывяла да таго, што храналагічны падзел на ранні жалезны век (VIII ст. да н.э. — V ст. н.э.) і ранняе сярэднявечча (ці, як лічылася раней, проста жалезны век (V—VIII стст.)) недастатковы і вельмі недакладны. Так, пачатак перыяду звязваюць з пачаткам выкарыстання насельніцтвам вырабаў з жалеза. Але ў гэты час пачалі выраблягь жалеза плямёны толькі мілаградскай культуры, а шырокае распаўсюджванне вырабаў з жалеза ў Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі мела месца толькі ў час каля рубяжа н.э.

У Цэнтральнай Еўропе падзел на перыяды жалезнага веку больш дробны і дакладны. Таму, разглядаючы пытанні развіцця насельніцтва Беларусі, знешніх кантактаў і ўдзелу насельніцтва ў гістарычных падзеях, якія ахоплівалі значныя часткі Еўропы, і мы будзем прытрымлівацца больш дробнай храналогіі.

**Першая палова 1-га тысячагоддзя да н.э.** Тэрыторыю Беларусі ў гэты час засялялі плямёны трох асноўных археалагічных культур. Значныя абшары поўначы і ўсходу займала насельніцтва днепра-дзвінскай культуры. Арэал распаўсюджання плямён культуры штрыхаванай керамікі ахоплівае Усходнюю Літву і значную частку Заходняй і Сярэдняй Беларусі.

Паводле многіх рыс (паселішчы, жытло, прылады працы і ўзбраенне), матэрыяльная культура насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі падобная да культуры днепра-дзвінскай і іншых балцкіх плямён лясной паласы Усходняй Еўропы. Для абедзвюх культур невядомы пахавальныя помнікі. Адрозненні выяўлены ў кераміцы. Штрыхавікі выраблялі посуд слоікападобнай ці слабапрафіляванай формы са штрыхаванай паверхняй, колькасць якога значна большая за колькасць іншых тыпаў керамікі — гладкасценнай, глянцаванай і шурпатай.

Плямёны мілаградскай культуры займалі Паўднёва-Усходнюю Беларусь і паўночную частку Украіны.

У заходняй частцы Беларусі (Наваградак, Здзітаў і інш.) былі знойдзеныя рэчы, якія могуць сведчыць аб сувязях з насельніцтвам лужыцкай культурай. Але гэта выпадковыя знаходкі, якія не дазваляюць дакладна меркаваць аб пранікненні носьбітаў гэтай культуры на Беларусь.

Паводле этнічнай прыналежнасці балцкім можна лічыць насельніцтва трох асноўных культур Беларусі гэтага часу: днепра-дзвінскай, мілаградскай і культуры штрыхаванай керамікі. Усе яны ўзнікаюць як вынік развіцця культуры насельніцтва бронзавага веку. Асаблівасці складання і розны напрамак кантактаў абумовілі іх узаемаадрозненні.

Мілаградская культура ўзнікла на аснове развіцця старажытнасцей лебядоўскай культуры і з самага пачатку існавання мела значныя кантакты з больш паўднёвымі арэаламі. Гэта можна бачыць як у асаблівасцях абарончых умацаванняў, так і ў знаходках. Так, частка рэчаў з курганоў каля в. Дубай мае сувязі з гальштацкай (наканечнікі дзід) і высоцкай культурамі (ляпныя гаршкі). На паселішчах гэтай культуры знойдзены некаторыя рэчы (наканечнікі стрэл, люстэркі), якія датуюцца ў межах VII—V стст. да н.э. і адносяцца да скіфскіх вырабаў[1]. Аднак неабходна адзначыць, што размова тут можа ісці аб гандлёвых кантактах ці запазычаннях ад суседніх культур (пачатак апрацоўкі жалеза), якія не выклікалі змены этнасу мілаградскай культуры, хоць надавалі ёй адметныя рысы. Існавалі сувязі і з культурамі балцкага тыпу (днепра-дзвінскай і юхнаўскай), пра што сведчыць распаўсюджванне рэчаў (падвесак, галовак шпілек), выкананых у ажурным стылі.

[1]*Рассадин С. О.* О находках из Белоруссии — свидетельствах контактов ее жителей с лесостепью скифской эпохи // Гомельщина: археология, история, памятники. Гомель, 1991. С.13—15.

Культуры днепра-дзвінская і штрыхаванай керамікі з'явіліся на аснове развіцця культур бронзавага веку, якія адрозніваюцца ад старажытнасцей Паўднёвай Беларусі. Так, насельніцтва днепра-дзвінскай культуры паходзіць ад носьбітаў узменьскай культуры[1], якія з'яўляюцца нашчадкамі шнуравікоў. Паходжанне культуры штрыхаванай керамікі таксама выводзяць з арэала шнуравікоў. Але ў яе рэчавым інвентары адчувальныя традыцыі яшчэ познанеалітычнай нарвенскай культуры[2]. Такім чынам, і днепра-дзвінцы, і штрыхавікі з'яўляюцца нашчадкамі культуры шнуравой керамікі: да стварэння розных культур прывяла наяўнасць рознага субстрату. Трэба адзначыць таксама, што для насельніцтва днепра-дзвінскай культуры характэрныя знаходкі ўпрыгожанняў, выкананых у ажурным стылі; ёсць таксама знаходкі, якія маюць аналогіі на помніках чарналескай, лужыцкай і скіфскай культур, у той час як на помніках культуры штрыхаванай керамікі падобныя знаходкі невядомыя.

І днепра-дзвінцы, і штрыхавікі таксама мелі сувязі з іншым культурным асяроддзем. Кантакты адбываліся дзякуючы размяшчэнню іх паселішчаў уздоўж гандлёвага шляху, што звязваў Паволжа па Дзвіне з Прыбалтыкай і далей са Швецыяй. Гэты шлях можна вызначыць па знаходках розных прылад працы, асабліва кельтаў меларскага ці акозінска-меларскага тыпу, якія датуюцца 900—700 гг. да н.э. Такія кельты знойдзены на помніках днепра-дзвінскай культуры (Наквасіна, Жарынь) і, магчыма, культуры штрыхаванай керамікі ў Беларусі (Мінск, Смалявіцкі раён) і Усходняй Літве (Наркунай, Вазгеляй), прычым на апошніх былі выяўлены і майстэрні па вырабу гэтых прылад (абломкі ліцейных форм).

Для насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі ў гэты час прасочваюцца сувязі з паўднёва-заходнімі суседзямі, з мазурска-вармінскай групай лужыцкай культуры (продкі заходніх балтаў). Так, на гарадзішчы Тарлаўкі Сувалкскага ваяводства знойдзены ліцейныя формы сякер-кельтаў тыпу Мелар.

Такім чынам, асаблівасці балцкіх культур Беларусі першай палавы 1-га тысячагоддзя да н.э. з'явіліся ў выніку як развіцця мясцовых традыцый папярэдняга часу, так і дзякуючы розным кірункам іх сувязяў.

**Трэцяя чвэрць 1-га тысячагоддзя да н.э. (перыяд да ўзнікнення зарубінецкай культуры).** Сярэдзіна 1-га тысячагоддзя да н.э. з'яўляецца значнай мяжой у гісторыі насельніцтва Еўропы. Наступае пагаршэнне клімату, звязанае з павелічэннем вільготнасці і зніжэннем тэмпэратуры, у выніку чаго павысіўся ўзровень вады і значна пагоршыліся ўмовы апрацоўкі зямлі. Пачынаецца субатлантычны занепад земляробства. У Цэнтральнай Еўропе знікае лужыцкая культура, змяняюцца напрамкі культурных сувязяў. З'яўляюцца новыя культуры (паморская, заходнебалтыйскіх курганоў), новыя этнічныя супольнасці — латэнскія (кельцкія) культуры. Адну з узніклых тады культур можна адносіць да плямёнаў заходніх балтаў. Гэта культура заходнебалтыйскіх курганоў у Паўднёвай Прыбалтыцы (Паўночна-Усходняя Польшча, Калінінградская вобласць, Заходняя Літва), якая падзяляецца на лакальныя групы: заходнемазурская (галінды), усходнемазурская (яцвягі), самбійская (прусы), заходнелітоўская (куршы). Усе астатнія балцкія культуры можна аднесці да ўсходніх балтаў.

Значныя эканамічныя змены праявіліся і ў развіцці культур Беларусі. Так, на помніках днепра-дзвінскай культуры фіксуюцца перамены ў матэрыяльнай сферы (трансфармацыя керамікі, з'яўленне жалезных вырабаў ва ўсходняй час-

[1]*Короткевич В. С., Мазуркевич А. М.* Пять вариантов днепро-двинской культуры // Петербургский археологический вестник. СПб., 1992. Вып. 2. С. 75—78.

[2]*Гиринипкас А.* К вопросу о формировании культуры штрихованной керамики в Литве // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1992. С. 91—93.

тцы арэала). Сярод старажытнасцей насельніцтва мілаградскай культуры можна выдзеліць дзве лакальныя групы (Усходняе Палессе і Верхняе Падняпроўе), якія адрозніваюцца па тыпу паселішчаў і жытла. Адбылося скарачэнне арэала гэтай культуры (далей на захад, у раёне Пінска яе помнікі адсутнічаюць).

У заходняй частцы Палесся з'яўляюцца помнікі (грунтавыя могільнікі і селішчы) насельніцтва паморскай культуры, якое існавала тут да III/II стст. да н.э. — да з'яўлення першых зарубінцаў.

У паўночна-заходніх раёнах Беларусі і Паўднёвай Літве (Занямонне), г. зн. у паўночна-заходняй частцы арэала культуры штрыхаванай керамікі, з'яўляюцца грунтавыя пахаванні (Нача, Павейснінкай і інш.), якія адлюстроўваюць міграцыю насельніцтва заходнябалцкіх курганоў і змяншэнне арэала культуры штрыхаванай керамікі.

У гэты час змяняюцца напрамкі кантактаў насельніцтва Беларусі з навакольным светам. У матэрыяльнай культуры мілаградскіх і днепра-дзвінскіх (ва ўсходняй частцы) плямён зноў фіксуюцца гандлёвыя сувязі са скіфамі. Узмацняюцца кантакты з латэнскім светам (латэнскія бранзалеты)[1]. У выніку днепра-дзвінская культура падзяляецца на дзве групы: заходнюю — дзвінскую, больш кансерватыўную, і ўсходнюю — дняпроўскую.

Насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі было больш замкнёнае ў сваіх сувязях. Яно мела кантакты толькі з заходнімі балтамі, ад якіх у заходнюю частку арэала (Усходняя Літва з сумежнымі помнікамі Беларусі, напрыклад, Гарані Смаргонскага раёна) пераходзяць некаторыя рысы матэрыяльнай культуры (з'яўленне шурпатай керамікі).

Аднак усе гэтыя кантакты і частковае скарачэнне арэалаў некаторых культур не вялі да змен у этнічных адносінах. На тэрыторыі Беларусі дамінавалі ўсходнія балты. Значныя перамены ў культурным складзе насельніцтва Беларусі адбыліся ў наступны перыяд.

**III—II стст. да н.э. — пачатак I ст. н.э.** У гэты час пры эвалюцыйным развіцці большасці культур (штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай, помнікаў тыпу Начы) дайшло да знікнення старажытнасцей мілаградскай культуры і з'яўлення зарубінецкай.

Зарубінецкія плямёны займалі тэрыторыю Паўднёвай Беларусі (сучаснае Палессе і частка Верхняга Падняпроўя) і Паўночнай Украіны. На дадзены момант іх старажытнасці падзяляюцца на пяць лакальных рэгіёнаў, тры з якіх (Прыпяцкае Палессе, Верхняе і Сярэдняе Падняпроўе) з'явіліся ў пачатку існавання культуры. На тэрыторыі сучаснай Беларусі размяшчаюцца дзве групы: палеская — правы бераг сярэдняга цячэння Прыпяці і нізоўі прытокаў Гарыні і Стыры і верхнедняпроўская — басейн Дняпра ад вусця Бярэзіны да ўпадзення Прыпяці і частка цячэння Сожа.

Зарубінецкая культура мае складанае паходжанне. Узнікла яна амаль адначасова ў трох групах на мяжы III—II стст. да н.э. Некаторыя даследчыкі (Л.Побаль, Я.Максімаў) лічаць яе носьбітаў славянамі. Але ў складзе гэтай культуры выяўляюцца рысы шэрагу рознаэтнічных кампанентаў: ясторфскай (германцы), паморскай культур пры сувязях з культурай Паянешты—Лукашоўка (дакі або ілірыйцы) і значным уплыве кельцкіх традыцый. Гэта не дазваляе прыняць гіпотэзу аб славянскай прыналежнасці носьбітаў дадзенай культуры. Іх можна атаясаміць з бастарнамі[2]. Да таго ж розныя лакальныя групы зарубінцаў асімілявалі носьбітаў розных культур, што ўнесла дадатковыя асаблівасці ў іх старажытнасці. Так, уплыў мілаградскай

---

[1]*Шмидт Е. А.* Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства. М., 1992 (табл. 9: 8—20; 10: 3—4; 32).

[2]*Каспарова К. В.* К вопросу о происхождении и этнической принадлежности зарубинецкой культуры // Гомельщина: археология, история, памятники. Гомель, 1991. С. 22—25.



Фрагменты срэбраных упрыгожанняў са скарбу каля в. Красны Бор Лагойскага раёна

культуры (балты) на насельніцтва верхнедняпроўскай групы быў вельмі грунтоўны. Менавіта ад іх зарубінцы ўспрынялі тыпы жытла (наземныя слупавыя дамы, паўзямлянкі з апорным слупам), тэхналогію вырабу посуду (з дамешкай жарствы) і інш.

Асіміляцыя мясцовага насельніцтва была складаным працэсам. Ва Усходнім Палессі помнікі мілаградскай культуры існавалі яшчэ ў II — першай палове I ст. да н.э., калі побач (па даліне Дняпра) размяшчаліся ўжо зарубінецкія гарадзішчы. І гэта насельніцтва не дало магчымасці носьбітам зарубінецкай культуры прасоўвацца на поўнач, па правым беразе Дняпра і па Бярэзіне. Насельніцтва верхнедняпроўскай групы мела сувязі і з носьбітамі культуры штрыхаванай керамікі, што прывяло да фарміравання змешанай групы помнікаў тыпу Чачэрск—Кісцяні. Падобная група (але з перавагай штрыхавікоў) знаходзілася ў нізоўях Бярэзіны (Шчаткава, Пятровічы)[1].

**Рубеж н. э. — трэцяя чвэрць I ст. н.э.** У гэты час у матэрыяльнай культуры Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі адбываліся значныя змены, зноў жа эвалюцыйнага характару — з'явіліся добра ўмацаваныя гарадзішчы, новы тып жытла (слупавыя дамы па краі пляцоўкі), паўсюдна ўжываліся вырабы з жалеза. Для носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі асноўнай формай посуду сталі рабрыстыя гаршкі. Вынікам знешняга ўплыву з захаду на штрыхавікоў можна лічыць з'яўленне невялікай колькасці посуду з аблітай паверхняй (з I ст. н.э.).

Значныя перамены адбыліся на поўдні Беларусі, дзе жылі носьбіты зарубінецкай культуры. Помнікі зарубінцаў знікаюць амаль што адначасова (40—70-я гады н.э.) на ўсёй тэрыторыі. Верагодна, гэта было вынікам палітычных падзей (разгром сарматамі бастарнаў і адыход апошніх да меж Рымскай імперыі, да Мезіі). У гэтых падзеях прыняло ўдзел і насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі. Пад яго ціскам частка зарубінцаў пайшла на поўдзень, у Падзясенне, дзе дала пачатак новым культурным групам. У той жа час помнікі познаразубінецкага гарызонту на тэрыторыі Беларусі невядомы.

На рэштках былой зарубінецкай культуры пры ўдзеле носьбітаў пшэворскай і вельбарскай культур фарміруецца новы культурны гарызонт — помнікі тыпу Рахны—Почап. На працягу амаль што цэлага стагоддзя (да сярэдзіны II ст. н.э.) гэта насельніцтва знаходзілася ў нестабільнай сітуацыі, у рухомым стане, што дазваляла яму быць звяном для перадачы культурных імпульсаў з Сярэдняй Еўропы. Этнас гэтага ўтварэння немагчыма вызна-

[1]*Лашанкоў М. І.* Помнікі ранняга жалезнага веку на ніжняй Бярэзіне // Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Мн., 1993. С. 12—14.

чыць, таму што яго носьбіты сталі кампанентам фарміравання розных культур (кіеўскай і мошчынскай — праз почапскую групу) ці былі нават асіміляваны мясцовым насельніцтвам.

Шляхі міграцыі носьбітаў гарызонту Рахны—Почап праз Палессе і ўздоўж Бярэзіны былі перакрыты насельніцтвам культуры штрыхаванай керамікі (пра гэта сведчыць адсутнасць уплыву ў масавым матэрыяле і толькі імпарт гатовых рэчаў, што было вынікам ці гандлёвых сувязяў, ці ваеннай здабычы). Таму асноўныя напрамкі ўплыву з поўдня можна пракласці ўздоўж Дняпра і Дзясны ў кірунку іх вярхоўяў[1]. У матэрыяльнай культуры днепра-дзвінскіх плямён гэты працэс адлюстроўваецца ў распаўсюджванні ў невялікай колькасці керамікі з расчосамі. Пры гэтым у міграцыі прынялі ўдзел носьбіты культуры штрыхаванай керамікі з усходняй часткі арэала (Падняпроўе), аб чым сведчыць адначасовае распаўсюджванне штрыхаванага посуду. Прыход новага насельніцтва не прывёў да змены культуры і з цягам часу яно было асімілявана мясцовым асяроддзем.

**Другая палова II ст. — IV ст. н.э.** У гэты час склалася стабільная сітуацыя. Працягвалася эвалюцыйнае развіццё шэрагу мясцовых культур (штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай, помнікаў тыпу Начы). Штрыхавікі адчувалі моцны ўціск з захаду толькі ў III—IV стст., што прывяло да знікнення іх культуры і з'яўлення помнікаў усходнелітоўскіх курганоў (выкарыстоўвалі посуд з аблітай паверхняй) ва Усходняй Літве[2]. Але насельніцтва Беларусі да рубяжа IV—V стст. не адчула гэтых перамен, хоць заходні ўплыў праяўляўся і тут (новыя тыпы ўзбраення, упрыгожанняў, павелічэнне колькасці шурпатай керамікі). Днепра-дзвінская культура Смаленшчыны паступова трансфармавалася ў культуру тыпу Акатава, Тушамля[3], фарміраванне завяршылася ў IV ст. н.э. Не выключана, што адным са знешніх штуршкоў да гэтага было ўздзеянне з поўдня. Так, паводле пісьмовых крыніц (Іардан), маюцца звесткі пра паход караля готаў Германарыха на эсціяў (старажытных балтаў), што пражывалі ў Верхнім Падняпроўі.

З сярэдзіны II ст. н.э. у Заходнім Палессі адзначаны помнікі вельбарскай культуры (Брэст—Трышын і інш.), якія належалі готам і адлюстроўвалі іх міграцыю з нізоўяў Віслы ў Пабужжа, Падняпроўе і Падунаўе. Тады ж на аснове часткі помнікаў гарызонту Рахны—Почап фарміруецца новая культура — кіеўская, адна з лакальных груп якой заняла Верхняе Падняпроўе (Абідня, Тайманава). Міграцыя была выклікана моцным культурным уплывам з Цэнтральнай Еўропы, штуршком да якога і было перамяшчэнне готаў. На гэтых помніках выяўлены шэраг рэчаў, якія маюць аналогіі ў Цэнтральнай Еўропе (два тыпы крэсіваў, паясны набор — спражкі, накладкі і наканечнікі паясоў), правінцыяльна-рымскія рэчы і ўпрыгожанні з выемістай эмаллю (лунніцы). Частка іх (крэсівы, наканечнікі паясоў, лунніцы) вядомая на помніках дзякаўскай культуры і нават у Паволжы, але не сустрэта на паселішчах балцкіх культур Беларусі, якія не былі пад уплывам гэтага паўднёвага імпульсу. Такім чынам, змены мелі месца толькі для невялікай часткі Беларусі (частка Верхняга Падняпроўя). У той жа час на помніках Абідня і Тайманава можна адзначыць асаблівасці матэрыяльнай культуры (сумеснае выкарыстанне паўзямлянак і наземных слупавых жылых збудаванняў, посахападобныя шпількі з рамбічным сячэннем верхняй часткі, шпоры з адагнутымі кручкамі), якія сведчаць пра ўплыў на гэта насельніц-

[1] *Шмидт Е. А.* Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства. С. 134.

[2] *Лухтан А.* Селище в Кярнаве на берегу р. Нярис // Научные труды вузов ЛитССР. История. Вильнюс, 1987. С. 3—21.

[3] *Шмидт Е.А.* Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства. С. 137—138.

тва балцкага асяроддзя. Усё гэта, з улікам складанага працэсу фарміравання кіеўскай культуры, пярэчыць версіі аб славянскай этнічнай прыналежнасці яе носьбітаў, асабліва яе паўночных лакальных груп.

Эпоха стабільнасці ў развіцці насельніцтва Беларусі хутка скончылася, і з рубяжа IV—V стст. яно было ўцягнута ў гістарычныя працэсы Вялікага перасялення народаў. Спачатку гэта адчулі носьбіты культуры штрыхаванай керамікі, на якіх адбіліся тры хвалі міграцыі: з захаду, з Паўночна-Усходняй Польшчы (старажытныя яцвягі). Першая хваля, якая прывяла да знікнення гэтай культуры ва Усходняй Літве і з'яўлення там помнікаў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў (пахаванні па абрадзе трупапалажэння), мела месца ў III—IV стст. н.э. На рубяжы IV—V стст. н.э. другая хваля міграцыі прывяла да знікнення культуры штрыхаванай керамікі і з'яўлення помнікаў новай культуры (селішчы і курганы з пахаваннямі паводле абраду трупаспалення) у частцы басейна Віліі і каля возера Свір[1]. Трэцяя хваля захапіла першую палову V ст. н.э. У яе выніку сфарміравалася культура пскоўскіх доўгіх курганоў, якую лічаць славянскай культурай і адносяць да старажытных крывічоў[2]. Апошнія падзеі могуць быць ахарактарызаваны напрамкам распаўсюджвання жалезных В-падобных спражак з рыфлёнай рамкай (германскія культуры Сярэдняй Еўропы — Паўночна-Усходняя Польшча (яцвягі) — Усходняя Літва (заходнія балты з субстратам усходніх балтаў— Пскоўшчына)[3]. Аднак этнічная прыналежнасць культур, праз якія праходзіла дадзеная міграцыя, не дазваляе адносіць носьбітаў культуры доўгіх курганоў да славян. Даныя мовазнаўства і антрапалогіі (балцкі пласт у гідраніміі Пскоўшчыны[4], антрапалагічная еднасць крывічоў і латгалаў[5]) даюць падставы ідэнтыфікаваць яе носьбітаў з балтамі.

У астатняй частцы арэала культуры штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай, кіеўскай і вельбарскай культур жыццё працягвалася да сярэдзіны V ст. н.э., калі ў выніку палітычных падзей (міграцыі розных груп насельніцтва пасля навалы качэўнікаў на поўдні Усходняй Еўропы) помнікі гэтых плямён знікаюць. Аб ваенных сутыкненнях сведчаць знаходкі трохлопасцевых чаранковых наканечнікаў стрэл (узбраенне качэўнікаў са стэпу) і вырабаў, аздобленых выявамі галавы арла (спражка з Дзямідаўкі, накладкі да пояса з Хотышча). Аналогіі апошнім вядомыя сярод гоцкіх старажытнасцей Крыма (тып Суук-Су) V—VII стст. У наступе качэўнікаў бралі ўдзел, відаць, і готы.

Аналагічныя падзеі адбываліся ў балцкіх культурах Польшчы, Калінінградскай вобласці Расіі і ў Літве. Але на тэрыторыі апошняй маштаб нашэсця быў значна меншы, чым у Беларусі.

Такім чынам, развіццё насельніцтва Беларусі ў жалезным веку трэба разглядаць як развіццё культур, што ў этнічных адносінах належалі да ўсходніх балтаў (культура штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінская і мілаградская). З V ст. да н.э. з'яўляюцца помнікі заходніх балтаў (могільнікі тыпу Начы, якія пазней трансфармаваліся ў культуру каменных курганоў V—XIII стст.). Апрача таго, прыйшло насельніцтва, якое належала да германскага этнасу (вельбарская культура — готы) або асяроддзяў, этнас якіх

---

[1]*Зверуго Я.Г.* Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. М., 1989. С. 21—29, 54—57.

[2]*Седов В.В.* Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982. С. 52—53.

[3]*Бажан И.А., Каргопольцев С.В.* В-образные рифленые пряжки как хронологический индикатор синхронизации // КСИА. 1989. Вып. 198. С. 28—35.

[4]*Агеева Р.А.* Гидронимия Русского Северо-Запада как источник культурно-исторической информации. М., 1989.

[5]*Беневоленская Ю.* О кранио-серологическом параллелизме на территории Псковщины и Прибалтики // Проблемы этнической истории балтов. Рига, 1985.

пры сучасным стане вывучэння цяжка вызначыць з неабходнай дакладнасцю (зарубінецкая культура — бастарны(?), кіеўская культура).

Плямёны жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі ўспрымалі культурныя ўплывы, якія зыходзілі з суседніх рэгіёнаў: мілаградцы — з поўдня са Скіфіі і паўднёвага захаду з гальштацкага свету, зарубінцы — з захаду ад супольнасцей латэнскіх культур Сярэдняй Еўропы. Тыя ж мілаградцы, а таксама носьбіты днепра-дзвінскай культуры Падняпроўя адчувалі ўплывы з усходу, а насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі — з захаду. У выніку культуры дзяліліся на драбнейшыя лакальныя групы, якія, магчыма, адпавядалі канкрэтным плямёнам. Падзеі Вялікага перасялення народаў (перамяшчэнні насельніцтва пасля навалы на поўдні, міграцыя з захаду) прывялі да значных змен у развіцці мясцовых грамадстваў (фарміраванне на большай частцы тэрыторыі Беларусі банцараўскай культуры, а таксама падобных ёй культур — тушамлянскай, калочынскай). І толькі ў V — VI стст. у Заходнім Палессі з'яўляецца насельніцтва пражскай культуры, у славянскай прыналежнасці якога навукоўцы не сумняваюцца.

## 3. Гаспадарчыя заняткі ў жалезным веку

**Земляробства і жывёлагадоўля.** Асновай гаспадаркі насельніцтва Беларусі з пачатку жалезнага веку з'яўляліся вытвараючыя яе галіны — земляробства і жывёлагадоўля. Аб значэнні гэтых заняткаў сведчаць як даныя археалогіі: знаходкі рэшткаў культурных раслін (як асобна, так і адбіткаў на гліняных гаршках), прылады працы (сярпы, косы, зерняцёркі, жорны), кухонныя рэшткі ад жывёлагадоўлі і палявання), так і даныя палеагеаграфіі (паліналагічныя даследаванні). Трэба адзначыць, што на развіццё гаспадаркі вялікі ўплыў аказвалі знешнія ўмовы (рэльеф, клімат), знешнія сувязі і этнаграфічныя асаблівасці. Таму можна сцвярджаць, што ў гаспадарцы носьбітаў канкрэтных культур або нават іх частак (лакальных культурных груп) значэнне земляробства і жывёлагадоўлі было розным.

Так, у Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі ў гаспадарцы насельніцтва культур днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі значную ролю адыгрывала падсечнае (ляднае) земляробства, асноўнай зерневай культурай у якім была пшаніца. Прычым для падсекі лясоў пры іх выпальванні маглі шырока выкарыстоўвацца і каменныя сякеры. Аднак можна адзначыць і асаблівасці. Так, для заходнядзвінскага варыянта днепра-дзвінскай культуры на раннім этапе пераважала жывёлагадоўля. Але для насельніцтва смаленскага варыянта гэтай культуры большае значэнне мела земляробства (вялікія высечкі і асвоеныя прасторы вакол гарадзішчаў)[1]. Так і для культуры штрыхаванай керамікі пераважае падсечнае земляробства. Прыродныя ўмовы (моцная забалочанасць тэрыторыі) у Палессі таксама мелі вынікам тое, што ў гаспадарцы насельніцтва мілаградскай культуры вялікую ролю адыгрывала жывёлагадоўля[2].

У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя да н.э. у сувязі з пагаршэннем кліматычных умоў (пахаладанне, вялікая вільготнасць) на Беларусі, як і ва ўсёй Еўропе, пачынаецца заняпад земляробства, што выклікала неабходнасць прыстасавання. Насельніцтва пачало выкарыстоўваць землі на ўзвышшах і водападзелах. Глебы там былі больш урадлівыя, але патрабавалася больш

---

[1]*Шмидт Е.А.* Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства. С.55–61.

[2]*Лошенков М.И.* Городища милоградской культуры восточной части Белорусского Полесья: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Киев, 1990. С.16,17.

намаганняў для падрыхтоўкі поля для пасеву. Паселішчы пачынаюць канцэнтравацца каля ўчасткаў з урадлівай глебай.

Яшчэ адным са спосабаў выжывання стала інтэнсіфікацыя жывёлагадоўлі, прычым і ў гэтым занятку можна вызначыць рэгіянальныя асаблівасці. Так, можна сцвярджаць, што для ўсіх культур жывёлагадоўля мела прысядзібны характар. У статку носьбітаў мілаградскай, днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур асноўным відам была буйная рагатая жывёла, аднак іншыя віды жывёл мелі рознае значэнне. Так, у мілаградцаў пасля буйной рагатай жывёлы на другім месцы быў конь, потым свіння і дробная рагатая жывёла[1]. Для днепра-дзвінскага насельніцтва значную ролю адыгрывала развядзенне дробнай рагатай жывёлы (авечак і коз), а потым амаль аднолькавымі па значэнні былі свіння і конь. Для плямён культуры штрыхаванай керамікі на другім месцы па значэнні была свіння, потым дробная рагатая жывёла і конь. Але тут мелі месца лакальныя асаблівасці. Так, на гарадзішчы Івань Слуцкага раёна (поўдзень Беларусі, Перадпалессе) большую частку статка хатніх жывёл складалі авечкі і козы (дробная рагатая жывёла — 39%)[2]. Перавага ў статку коз і авечак (як больш непатрабавальных да знешніх умоў) характэрна для часоў пагаршэння клімату (1-е тысячагоддзе да н.э.) ці адзначаецца на помніках, якія размешчаны на перыферыі арэала культуры, дзе існавалі і фактары знешняй пагрозы, неспрыяльных умоў для гаспадаркі.

Трэба адзначыць, што лакальныя групы апошніх дзвюх культур (у Літве і на Смаленшчыне) мелі зусім іншы склад статка (пераважае свіння, потым буйная і дробная рагатая жывёла). Гэтыя асаблівасці маглі скласціся ў выніку як унутранага развіцця насельніцтва, так і пры знешнім уплыве (для мілаградскай культуры з лесастэпу). Можна таксама адзначыць тэндэнцыю для насельніцтва днепра-дзвінскай культуры Беларусі, а потым і насельніцтва гэтай тэрыторыі ў наступны перыяд да павелічэння колькасці свіней у складзе статка на помніках бліжэй к захаду Беларусі (уплыў жыхароў Прыбалтыкі).

На поўдні Беларусі ў апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя да н.э. з'яўляюцца плямёны зарубінецкай культуры і земляробства з канца 1-га тысячагоддзя да н.э. пачало тут адыгрываць вядучую ролю. Прыродныя ўмовы Палесся (вялікія паплавы, лёгкія для апрацоўкі і адносна ўрадлівыя глебы, асабліва ў Пагарынні і на тэрыторыі Тураўшчыны, мяккі клімат) спрыялі развіццю вытвараючых форм гаспадарання.

Сярпы і іх фрагменты знойдзены на шэрагу паселішчаў 1-га тысячагоддзя н.э. (Лемяшэвічы, Абідня і Тайманава). Глебу апрацоўвалі драўлянымі ворнымі прыладамі, якія ў насельніцтва Усходняй Еўропы былі вядомы яшчэ з эпохі бронзы. Так, крываградзільнае рала знойдзена ў тарфяніку каля в. Капланавічы Нясвіжскага раёна і адносіцца даследчыкамі да мяжы н.э.[3] Апрацоўка зямлі мела экстэнсіўны характар, выкарыстоўваліся пералог, ляднае і ворнае земляробства. Гэтыя сістэмы суіснавалі на працягу ўсяго 1-га тысячагоддзя н.э. Поле апрацоўвалі і засявалі да таго часу, пакуль глеба радзіла. Затым яно зарастала і адпачывала да аднаўлення сваёй прыроднай урадлівасці. Не зважаючы на неабходнасць частай змены дзялянак, такі спосаб вядзення гаспадаркі быў досыць прадукцыйным. Вырошчвалі проса, пшаніцу, ячмень, якія добра растуць нават на дрэнна апрацаванай глебе.

---

[1]*Лошенков М.И.* Городища милоградской культуры восточной части Белорусского Полесья: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. С.16.

[2]*Егорейченко А.А.* Древнейшие городища Белорусского Полесья. Мн., 1996. С. 54 (табл. 4).

[3]*Поболь Л.Д.* Древнее рало из торфяника у дер. Каплановичи // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1967. С.117—124.



Драўлянае рала з крывым дышалем — старажытнейшае ворнае прыстасаванне земляроба. Наваколле в. Капланавічы Клецкага раёна

З гародніны найбольш распаўсюджанай была рэпа, вядомая ў Цэнтральнай Еўропе з 1-га тысячагоддзя да н.э. Адбіткі яе насення знойдзены на зарубінецкім посудзе. Вырошчвалі таксама лён і каноплі[1].

На працягу ўсяго 1-га тысячагоддзя н.э. у насельніцтва Паўднёвай Беларусі пераважала буйная рагатая жывёла і свінні. Валоў выкарыстоўвалі як цяглавую сілу пры ворыўным земляробстве. Менш было дробнай рагатай жывёлы і коней. Такі склад статка сведчыць пра прысядзібны характар жывёлагадоўлі, калі чарада пасвілася на поплаве паблізу селішча. Зімой жывёлу трымалі ў абароненых ад непагоды месцах, падкормлівалі яе сенам.

Такія ж перамены адбываліся з пачатку 1-га тысячагоддзя н.э. і на астатняй частцы Беларусі. На рубяжы эр пачынаецца шырокае распаўсюджванне культуры жыта, якое найбольш прыстасавана да вырошчвання ў лясной паласе Усходняй Еўропы. Сярод прылад шырокае распаўсюджанне атрымліваюць вырабы з жалеза, якія дазвалялі зрабіць працу больш прадукцыйнай. Да таго ж даныя паліналогіі сведчаць, што ў першыя стагоддзі н. э. пачынае шырока распаўсюджвацца лядна-пераложнае і нават ворнае земляробства. Маглі таксама выкарыстоўвацца драўляныя ралы, а ў якасці цяглавых жывёл, верагодна, конь. Інтэнсіўнасць гаспадаркі ўзрастае і павялічваецца колькасць прадуктаў. Так, аб вялікай колькасці зямных пладоў у эсціяў (старажытных балтаў) пішуць антычныя гісторыкі ўжо ў I—II стст. н.э.

У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н.э. адбываюцца змены ў рассяленні. Асноўным тыпам паселішча становяцца невялікія неўмацаваныя селішчы. Гэта стала вынікам таго, што асобныя невялікія сем'і ўжо маглі паспяхова весці сваю гаспадарку.

**Паляванне і рыбалоўства.** Здабываючыя галіны гаспадаркі (паляванне і рыбалоўства) на працягу жалезнага веку маюць значную ўдзельную вагу ў гаспадарцы старажытнага насельніцтва Беларусі. Аднак астэалагічныя калекцыі не прадстаўлены з помнікаў усіх культур, што часта звязана як з аб'ёмам даследаванняў на аб'ектах, так і з умовамі захавання костак у культурным пласце (так, на мілаградскім гарадзішчы косткі амаль не захоўваюцца).

Па складзе астэалагічных калекцый з помнікаў розных культур можна бачыць, што колькасць дзікіх жывёл (падлікі па асобінах) складае ад 13,7% (мілаградская культура)[2] да больш паловы на помніках культуры штрыхаванай керамікі Сярэдняй Беларусі[3].

Аб'ектамі палявання былі многія дзікія жывёлы, што вадзіліся ў Беларусі. У калекцыях вызначана да 12 розных відаў. Таму па спецыялізацыі палявання насельніцтва розных культур можна вызначыць два асноўныя напрамкі: з-за мяса (лось, зубр, тур, алень, кабан і мядзведзь) і з-за футра (астат-

---

[1] *Пачкова С.П.* Господарство східно-слов'янських племен на рубежи нашої ери. Київ, 1974.

[2] *Мельниковская О.Н.* Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967. С. 137.

[3] *Митрофанов А.Г.* Железный век средней Белоруссии (VII в до н.э. — VIII в. н. э.). Мн., 1978. С. 44.

нія віды, перш за ўсё бабёр). Для большасці плямён асноўным было паляванне з мэтай здабычы мяса.



Зерняцёрка з гарадзішча днепра-дзвінскай культуры. Вёска Сцяпанавічы Гарадоцкага раёна

Але розныя плямёны мелі і тут свае асаблівасці. Так, на Гарошкаўскім гарадзішчы (мілаградская культура) пераважае паляванне з мэтай здабычы мяса (асноўныя аб'екты — лось, дзік і толькі потым бабёр). Насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі Сярэдняй Беларусі палявала ў асноўным на аленя (Кімія, Лабеншчына, Навасёлкі), і толькі жыхары Навасёлак больш здабывалі бабра (да 28,56% ад колькасці дзікіх жывёл)[1]. На паселішчах культуры штрыхаванай керамікі Беларускага Панямоння таксама бачна спецыялізацыя па аб'ектах палявання (жыхары Кашчэліч — на аленя, Малышак — на дзіка, Васькаўцаў — на дзіка і лася). Для жыхароў некаторых гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры таксама характэрна перавага палявання з-за мяса (Урагава, Заронава, Кастрыца)[2]. Верагодна, гэта звязана з асаблівасцямі навакольных ландшафтаў вакол помнікаў. Але несумненна, што калі ўлічыць значную вагу жывёл (зубр — 700—900 кг, лось — 400—500 кг, дзік — да 300 кг, алень — 200 кг), то можна сцвярджаць, што доля мяса дзікіх жывёл у харчаванні старажытнага насельніцтва была даволі значнай.

У той жа час была важнай роля палявання на жывёл, футра якіх магло выкарыстоўвацца для менавага гандлю. Так, на здабыванні бабра і лісіцы спецыялізаваліся жыхары гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры (Буракова Верхнядзвінскага, Кублічы Ушацкага раёнаў) на поўначы Беларусі[3]. Паляванне на бабра пераважала і на раннім этапе засялення гарадзішча Кашчэлічы Валожынскага раёна. Акрамя таго, тут неабходна ўлічыць і тую акалічнасць, што часта на паселішча прыносілі толькі шкуру, якую здымалі яшчэ ў лесе, а таксама тое, што косткі невялікіх пушных звяркоў (бабёр, заяц, барсук) маглі выкарыстоўвацца ў ежу і нават з'ядацца сабакамі.

У культурным пласце паселішчаў жалезнага веку амаль не захавалася рэшткаў рыбы, як і рэшткаў большай часткі прылад рыбалоўства з арганічных матэрыялаў (сетак, езаў). Толькі на Чаплінскім гарадзішчы (але ў недакладна датаваных пластах) знойдзены косткі сама, акуня, плоткі, ляшча, ліня[4]. Толькі знаходкі некаторых прылад (кручкі, астрогі) (Аўгустова і Кастрыца Лепельскага, Кублічы і Загаваліна Ушацкага, Мазурына Міёрскага, Замошша Полацкага раёнаў)[5], а таксама грузіл да сетак на помніках культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай могуць сведчыць аб занятках рыбалоўствам. У той жа час В. Мельнікоўская сцвярджала аб нязначнай яго ролі ў гаспадарцы носьбітаў мілаградскай культуры.

[1]*Митрофанов А.Г.* Железный век средней Белоруссии (VII в до н.э. — VIII в. н. э.). С. 44.
[2]*Шадыро В. И.* Ранний железный век Северной Белоруссии. Мн., 1985. С. 96 (табл. 9).
[3]Там жа.
[4]*Мельниковская О.Н.* Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. С. 139.
[5]*Шадыро В.И.* Ранний железный век Северной Белоруссии. С. 97.

Пэўнае значэнне для чалавека жалезнага веку захоўвала і збіральніцтва, асабліва грыбоў, ягад, арэхаў, а таксама здабыча мёду і воску лясных пчол.

**Хатнія заняткі.** Да ліку найбольш жыццёва важных заняткаў насельніцтва эпохі жалеза адносяцца наступныя віды рамёстваў: чорная металургія і металаапрацоўка, бронзаліцейная справа, лепка посуду, апрацоўка дрэва, каменю, косці, прадзенне і ткацтва. Кожны з пералічаных відаў рамеснай дзейнасці з'яўляўся неад'емнай часткай патрыярхальнага ўкладу жыцця разнастайных плямён на працягу амаль больш як тысячагадовага адрэзку часу. Узровень хатніх рамёстваў у цэлым заставаўся яшчэ прымітыўным.

Цяжка ацаніць усю значнасць укаранення і выкарыстання жалеза для многіх першабытных калектываў. Для насельніцтва таго часу гэты працэс быў доўгім. Ён расцягваўся не на адно стагоддзе. Так, на поўдні рэспублікі людзі сталі выкарыстоўваць жалезныя прылады працы недзе з VII—VI стст да н.э., а ў цэнтральнай і паўночнай яе частках — толькі ў апошнія (II—I) стагоддзі да н.э.

Выключнае значэнне для атрымання жалеза мелі прыродныя ўмовы Беларусі. Вядома, што сыравінай для такой вытворчасці з'яўляецца жалезная (балотная) руда. Шмат балотнай руды было на Палессі і ў іншых мясцінах краю на нізінах узбярэжжаў рэк, азёр і балот. Вокіснае жалеза — бурыя жалезнякі, ліманіты — залягалі блізка да паверхні, што рабіла іх лёгкадаступнымі радовішчамі сыравіны. Звычайна для металургіі жалеза старажытныя майстры рабілі і выкарыстоўвалі спецыяльныя печы-домніцы. Шахту печы загружалі пластамі драўніннага вугалю, сушанай і здробненай балотнай руды, вапнай у якасці флюсу. У ніжняй частцы печы мелiся адтуліны для ўдзімання паветра. Паветра ўдзімалі ў домніцу праз гліняныя трубкі — соплы і ў камеры гарэння стваралі тэмпературу да 1200 ° С. Жалеза атрымлівалася з руды шляхам аднаўлення. У выніку хімічных пераўтварэнняў яно ў выглядзе дробных размякчаных зярнят, якія спякаліся паміж сабой, асядала на дно печы. Аднак жалеза не плавілася, таму што тэмпература ў домніцы была ніжэй за тэмпературу плаўлення. Калі печ астывала, яе разбуралі, каб узяць порыстую крыцу чорнага металу на далейшую апрацоўку. Такі спосаб атрымання жалеза некаторыя даследчыкі называюць сырадутным. Рэшткі сырадутных печаў археолагамі зафіксаваны на ўмацаваных паселішчах насельніцтва розных археалагічных культур: днепра-дзвінскай (Кастрыца Лепельскага, Кублічы Ушацкага, Канькі Віцебскага раёнаў), штрыхаванай керамікі (Кісцяні Рагачоўскага, Аздзяцічы, Слабодка Барысаўскага, Свідна Лагойскага, Лабеншчына Мінскага раёнаў), зарубінецкай культуры (Чаплін Лоеўскага раёна). У той жа час насельніцтва мілаградскай культуры на паўднёвай ускраіне Беларусі вытворчасцю жалеза займалася за межамі гарадзішчаў, у мэтах супрацьпажарнай бяспекі.

Старажытныя майстры-металургі з'яўляліся адначасова і кавалямі. Атрыманае крычнае жалеза было яшчэ не прыгоднае, каб з яго рабіць вырабы. Порыстую крыцу зноў разагравалі, а потым пракоўвалі, каб выдаліць з яе шлакі і зрабіць кавалак жалеза больш шчыльным, пераўтварыўшы яго такім чынам у нарыхтоўку. Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што молаты і накавальні ў металургаў-кавалёў былі каменныя. Такія прылады знойдзены на двух гарадзішчах: Буракова Гарадоцкага і Малышкі Вілейскага раёнаў. Мноства разнастайных жалезных вырабаў на археалагічных помніках сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н.э. — сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н.э. сведчыць аб параўнаўча высокай тэхніцы апрацоўкі жалеза кавалямі. Яны выраблялі асноўныя прылады працы (сякеры, сярпы, цёслы, нажы), узбраенне (коп'і, дроцікі, наканечнікі стрэл), упрыгожанні (шпількі, бранзалеты, кольцы, фібулы), прадметы побыту (шылы, іголкі).

У гэтым асартыменце ёсць не толькі простыя, але і складаныя па тэхніцы выканання прадметы.



Жалезныя прылады працы насельніцтва жалезнага веку Беларусі

Металаграфічнае вывучэне М. Гурыным[1] шасці сярпоў з помнікаў днепра-дзвінскай культуры і больш за 60 прадметаў мілаградскай культуры даюць некаторае ўяўленне аб кавальскім майстэрстве мясцовых майстроў. Устаноўлена, што большасць прадметаў выраблена са звычайнага жалеза, а значная частка металічных вырабаў мілаградцаў — з сырцовай (нізкаякаснай) сталі і невялікая колькасць — з высокавугляродзістай сталі. Больш за 10 мілаградскіх вырабаў мелі даволі складаныя тэхналагічныя схемы: пакеціраванне нарыхтовак, цэментацыю, зварку жалеза са сталлю, загартоўку. Несумненна, што прымяненне складаных тэхналогій значна паляпшала якасць прадметаў. І можна сцвярджаць, што некаторыя старажытныя кавалі добра валодалі складанымі тэхналогіямі вытворчасці дабраякасных прылад. Тым не менш большую частку кавальскай прадукцыі складалі рэчы, зробленыя шляхам свабоднай гарачай коўкі па прасцейшай тэхналогіі.

Жанчыны ў жалезным веку шырока выкарыстоўвалі разнастайныя бронзавыя ўпрыгожанні. Да такіх вырабаў адносяцца бранзалеты, грыўні, завушніцы, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, шпількі, фібулы, трапецападобныя падвескі, каралі і г.д. На кожным даследаваным помніку археолагі заўсёды знаходзяць бронзавыя рэчы. Адказаць жа на пытанне, адкуль да нас трапляла бронза або гатовыя вырабы, складана. Большасць даследчыкаў схіляецца да думкі, што галоўныя пастаўкі ішлі з паўднёва-заходніх і паўднёвых тэрыторый. Гэтай думцы не пярэчыць і хімічны склад некаторых вырабаў насельніцтва мілаградскай і зарубінецкай культур. У той жа час сустракаюцца прадметы, якія прама сведчаць аб мясцовым характары бронзаліцейнай справы. Пацвярджаецца гэта знаходкамі тыгляў — невялікіх керамічных пасудзін для плаўкі металу, льячак — невялікіх гліняных лыжачак для іх разліўкі, абломкамі ліцейных форм. Тым не менш трэба адзначыць, што на тэрыторыі Беларусі няма радовішчаў зыходных кампанентаў для вытворчасці бронзы (медзі, волава, свінца, цынку). Таму хутчэй за ўсё сыравіна трапляла да мясцовага насельніцтва ў выглядзе зліткаў гатовай бронзы або асобных яе састаўных частак: медзі, волава, свінцу. Мясцовыя майстры бронзаліцейнай справы маглі адліваць вырабы і з рэчаў, якія ўжо прыйшлі ў нягоднасць ці зламаліся.

Бронза плавіцца пры невысокай тэмпературы (700—900 °С). Само ліццё адбывалася некалькімі спосабамі ў залежнасці ад канструкцыі форм. Так, плоскія прадметы адліваліся ў аднастворкавых формах, зробленых з каменю або гліны. Больш складаныя патрабавалі састаўных форм з некалькіх створак, якія трэба было звязваць паміж сабой. І нарэшце, больш распаўсюджаным было ліццё па васковай мадэлі. У апошнім выпадку для атрымання

[1]*Гурин М.Ф.* Древнее железо Белорусского Поднепровья (I тысячелетие н.э.). Мн., 1982.



Упрыгожанні і дэталі вопраткі зарубінцаў: шпількі, бранзалеты, фібула, падвеска і круглая бляшка

ўпрыгожанняў форму абавязкова разломвалі. Ліцейныя формы па васковых узорах былі толькі аднаразовага карыстання.

Амаль паўсотні бронзавых і медных прадметаў з помнікаў Паўднёвай Беларусі былі прааналізаваны з дапамогай спектральнага аналізу. Устаноўлена, што пераважная большасць вырабаў складаецца з алавяна-свінцовай, затым з алавяна-свінцова-мыш'яковай і пароўну з алавянай і алавяна-мыш'яковай бронзы.

Калі з насельніцтвам мілаградскай і зарубінецкай культур сітуацыя з атрыманнем бронзы больш-менш зразумелая, то ў дачыненні да плямён штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур можна выказваць толькі меркаванні. Відаць, гэта насельніцтва бронзу ці вырабы з яе атрымлівала праз паўночна-заходні (прыбалтыйскі) шлях.

Выраб глінянага посуду займаў значнае месца ў працоўнай дзейнасці старажытнага чалавека. Яго шырокае выкарыстанне пачалося яшчэ ў канцы каменнага веку (у неаліце). Таму такі від рамяства, як лепка посуду, сфарміраваўся яшчэ да жалезнага веку. Нягледзячы на тое што майстэрства ганчароў ужо абапіралася на вопыт папярэднікаў, у эпоху жалеза былі свае адметныя асаблівасці і ў гэтага віду дзейнасці. Вытворчасць посуду ў разглядаемы час, як чорная, так і каляровая металургія ўяўлялі сабой складаны працэс. Ён уключаў шэраг паслядоўных тэхналагічных ступеняў: падрыхтоўку сыравіны, фармоўку вырабаў, апрацоўку паверхняў і абпальванне. Майстры-ганчары карысталіся звычайна радовішчамі тых глін, што знаходзіліся паблізу паселішчаў. Гэта былі пераважна нятлустыя гліны азёрна-алювіяльнага паходжання. Трэба адзначыць, што ўзровень майстэрства ганчароў у насельніцтва розных археалагічных культур быў прыкладна аднолькавы. Яны добра ведалі зыходную сыравіну і ў час прыгатавання цеста дасыпалі ў гліну патрэбную колькасць дамешак, каб зменшыць растрэскванне і дэфармацыю вырабаў у час іх абпалу. Такімі дамешкамі з'яўляліся здробнены валунны камень (жарства), бітая кераміка (шамот), а іншы раз і балотная руда. Безумоўна, што яны дабаўляліся ганчаром у пэўнай прапорцыі. Посуд ляпілі стужкавым метадам. Месца злучэння стужак загладжвалі. Потым апрацоўвалі паверхні гаршкоў, місак, кубкаў. Частка гаршкоў аздаблялася ўзорамі з ямкавых уцісканняў. Некаторая частка посуду пакрывалася штрыхамі. Малая колькасць пасудзін глянцавалася. Абпальвалі майстры-ганчары посуд у адкрытых вогнішчах пры тэмпературы ад 500 да 750 ° С.

Калі сам працэс лепкі быў аднолькавы, то формы пасудзін у розных плямён былі неаднолькавымі. Так, у днепра-дзвінцаў, штрыхавікоў і зарубінцаў увесь посуд быў з плоскім дном, а вось у мілаградцаў — з акруглым. Плямёны зарубінецкай культуры шмат ляпілі глянцаваных місак і гаршкоў.

Днепра-дзвінскія плямёны карысталіся пераважна пасудзінамі слоікавай і слабапрафіляванай формы. Менавіта ў формах посуду яскрава адлюстроўвалася ўстойлівасць традыцый керамічнай вытворчасці.

Чалавек пачаў выкарыстоўваць дрэва для сваіх мэт з даўніх часоў. У пясчанай глебе яно дрэнна захоўваецца, таму пры раскопках помнікаў жалезнага веку амаль не сустракаецца. Безумоўна, што з дрэва рабілі рукаяткі для нажоў, сярпоў, шылаў і сякер. Выкарыстоўвалася яно і для стрэл і дрэўкаў колючай зброі. Амаль выключна з дрэва будаваліся жытло і гаспадарчыя памяшканні, узводзіліся абарончыя канструкцыі.

Людзі добра ведалі якасці розных парод дрэва. На будаўнічыя мэты пераважна ішлі сасна і елка. Пасудзіну выразалі з ліцевага дрэва. З яго ж выдзёўбвалі і чоўны-аднадрэўкі. А вось з цэлай дубовай расохі зроблена старажытнейшая на Беларусі ворная прылада працы — крываградзільнае рала.

Пры даследаванні паселішчаў жалезнага веку атрыманы пераканаўчыя доказы, што іх жыхары валодалі даволі разнастайнымі прыёмамі апрацоўкі каменю і асабліва рога, пралі з воўны і раслінных валокнаў ніткі, ткалі тканіны, якія ішлі пераважна на шыццё вопраткі.

**Абмен і гандаль.** Асаблівасці знешніх сувязяў насельніцтва Беларусі характарызаваліся некаторымі акалічнасцямі. Тут існавала патрэбнасць у сыравіне каляровых металаў з-за адсутнасці мясцовых крыніц, праз Беларусь у гэты час і амаль да VIII—IX стст. н.э. не праходзілі вядомыя старажытныя гандлёвыя шляхі, на Беларусі адсутнічаюць радовішчы якіх-небудзь каштоўнасцей для гандлю, як, напрыклад, бурштын на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Таму паступленне рэчаў з іншых тэрыторый было найперш вынікам міжпляменных кантактаў і можа служыць важным індыкатарам як гандлёвых, так і культурных сувязяў.

Так, на раннім этапе (IX—VII стст. да н.э.) вядомы знаходкі двух скарбаў і некалькіх асобных бронзавых рэчаў, пераважна прылад працы. Значную частку іх складаюць бронзавыя сякеры тыпу Мелар, якія маглі трапляць на Беларусь праз гандлёвы шлях, што звязваў Швецыю, Прыбалтыку і Паволжа па Дзвіне.

На ўсходзе існавала адгалінаванне гэтага шляху, якое звязвала Верхняе Падняпроўе (Смаленшчыну) праз басейн Дзясны з Сярэднім Падняпроўем, адкуль паступалі каляровы метал (з Карпацкіх радовішчаў) і ўпрыгожанні — бранзалеты са спіралямі. Некалькі пазней на тэрыторыях, занятых насельніцтвам падгорцаўскай, юхнаўскай і днепра-дзвінскай (Смаленшчына) культур, сустракаюцца ўпрыгожанні, зробленыя ў ажурным стылі. Са Смаленшчыны яны (падвескі, шыйная грыўня) траплялі і на Беларусь.

Пазней, у VII—III стст. да н.э., сустрэта вялікая колькасць рэчаў (14 месцазнаходжанняў), якія трапілі ад плямён скіфскай культуры. Сярод іх пераважаюць прадметы ўзбраення, перш за ўсё бронзавыя наканечнікі стрэл і рыштунку конніка і баявога каня, прылады працы, сустракаюцца вырабы паўсядзённага ўжытку, нават бронзавыя люстэркі. Асноўная частка знойдзена на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі ў арэале мілаградскай культуры.

Да насельніцтва астатніх культур скіфскія вырабы траплялі ў выніку міжпляменнага абмену (для днепра-дзвінскай культуры Беларусі праз Смаленшчыну, для культуры штрыхаванай керамікі — праз Польшчу). Па распаўсюджванні найбольш масавых знаходак, якімі з'яўляліся наканечнікі стрэл, можна сцвярджаць, што рэчы ад скіфаў траплялі ў два асноўныя перыяды: ранні — VII—VI/V стст. да н.э. і позні — IV—III стст. да н.э. Цікава,

што перыяды пранікнення скіфскіх рэчаў на Беларусь супадаюць з перыядамі іх паступлення ў Польшчу. Такое чаргаванне актывізацыі і заняпаду кантактаў сведчыць, што гэтыя сувязі звязаны з перыядамі актыўнасці на поўдні (набегі качэўнікаў на паўночных суседзяў) і не мелі значнага ўплыву на развіццё культур Беларусі.

Са знікненнем скіфскай культуры ў IV—III стст. да н.э. усталёўваюцца сувязі з латэнскім светам (10 месцазнаходжанняў). Першапачаткова трапляюць фібулы ранніх тыпаў (духцаўскага тыпу), а таксама бранзалеты, упрыгожаныя нарэзкамі і выступамі (так званага латэнскага тыпу). Гэты ўплыў абмяжоўваецца ў асноўным толькі поўднем і ўсходам Беларусі, дзе жылі плямёны мілаградскай і днепра-дзвінскай культур. Месцазнаходжанні такіх рэчаў дазваляюць гаварыць аб існаванні шляху зносін па р. Сож на поўнач.

У II ст. да н.э. на поўдні Беларусі з'яўляюцца помнікі зарубінецкай культуры. Сярод імпартных рэчаў, што паступалі да яго насельніцтва і потым да суседзяў, варта адзначыць шкляныя пацеркі. Найбольшая іх колькасць вядома з могільніка Чаплін (больш за 1000 пацерак).

У рымскі час (I—V стст. н.э.) інтэнсіўнасць знешніх сувязяў павялічваецца (вядома 67 месцазнаходжанняў), што звязана з вялікім уплывам Рымскай імперыі на тагачасны варварскі свет. Асноўная частка знаходак (правінцыяльна-рымскія рэчы і рымскія срэбраныя манеты) адносяцца да I—III стст. н.э.[1] Знойдзена больш як 30 месцазнаходжанняў рымскіх манет, сярод якіх асабліва вылучаецца скарб з Клімавічаў (1815 манет). У гэты час складваюцца два рэгіёны з рознымі напрамкамі сувязяў. Так, значная колькасць знаходак размяшчаецца ў заходняй і паўночна-заходняй частках Беларусі, у асноўным уздоўж Нёмана. Гэта сведчыць пра заходні і паўднёва-заходні кірунак сувязяў праз адгалінаванні Бурштынавага шляху, які звязваў правінцыі Рымскай імперыі (Норык і Панонію) з Прыбалтыкай (Прусіяй і Заходняй Літвой). У паўднёва-ўсходнюю частку Беларусі рэчы і манеты маглі трапіць таксама ў выніку міжплеменнага абмену з поўдня, ад гарадоў Паўночнага Прычарнамор'я. Пазней, з сярэдзіны III ст. н.э. колькасць знаходак рэзка скарачаецца з прычыны крызісу Рымскай імперыі.

У больш позні час сустракаюцца толькі асобныя знаходкі залатых рымскіх манет IV—V стст. н.э. на паўночным захадзе Беларусі. Але ў многіх культурах Усходняй Еўропы (таксама сустракаюцца ў Польшчы, нават Фінляндыі і Швецыі) у III—V стст. н.э. распаўсюджваюцца рэчы, упрыгожаныя выемістымі эмалямі. Было некалькі рэгіёнаў скаплення такіх знаходак, дзе магла існаваць і іх вытворчасць (Мазурыя і Усходняя Літва, Сярэдняе Падняпроўе, Эстонія, цэнтральная частка Расіі (па р. Ацэ)). На Беларусі вядома толькі шэсць месцазнаходжанняў рэчаў з эмалямі, сярод якіх вылучаецца скарб з Чырвонага Бору Лагойскага раёна (часткаараднай вупражы каня — срэбраныя пласціны і рэчы з эмалямі). Па тэхніцы выканання гэтыя рэчы падобныя на знаходкі з Усходняй Літвы. Астатнія знаходкі на Беларусі прадстаўлены ўпрыгожаннямі (фібулы, падвескі-лунніцы), значная частка якіх знойдзена на помніках кіеўскай культуры Верхняга Падняпроўя. Вядомы тут і знаходкі (фібулы воінскага тыпу IV ст. н.э. і, верагодна, жорны), якія трапілі ад насельніцтва чарняхоўскай культуры з Паўночнага Прычарнамор'я. Такім чынам, і ў III—V стст. н.э. захоўваюцца два асноўныя напрамкі кантактаў насельніцтва Беларусі ( з захаду і паўднёвага ўсходу).

[1] *Кропоткин В.В.* Клады римских монет. М., 1961; *Ён жа.* Римские импортные изделия. М., 1970.

## 4. Сацыяльныя адносіны і грамадскі лад

Археалагічныя матэрыялы дазваляюць меркаваць, што ўсе плямёны, якія засялялі тэрыторыю Беларусі з самага пачатку жалезнага веку, жылі ва ўмовах патрыярхату. Вялікая патрыярхальная сям'я з'яўлялася асноўнай гаспадарчай адзінкай. Аб'яднанне некалькіх такіх кроўных сем'яў насіла родавы характар, і гэта злучэнне мела сваю тэрыторыю для пражывання і гаспадарання. Мяркуюць, што на кожным паселішчы (гарадзішчы), якія месціліся адно паблізу другога, пражывала адна патрыярхальная сям'я колькасцю ў 50—70 чалавек. На Беларусі, як і на сумежных тэрыторыях, гарадзішчы групуюцца звычайна гнёздамі па два-тры-чатыры. Хутчэй за ўсё гэтыя групы гарадзішчаў належалі аднаму кроўнаму роду. У грамадскім ладзе плямён Беларусі ўжо ў самым пачатку жалезнага веку вызначаюцца прыкметы раскладання першабытнаабшчынных адносін. Сведчанне гэтаму — працэс распадзення родаў на вялікія патрыярхальныя сем'і (асобнае гарадзішча). І гэты факт з'яўляецца першым этапам у раскладзе родавых адносін. Зыходзячы з прыкладнай колькасці паселішчаў-гарадзішчаў на Беларусі ў канцы 1-га тысячагоддзя да н.э. (800—1200), можна сцвярджаць, што насельніцтва нашага краю ў гэты перыяд складала прыблізна 50—70 тыс. чалавек, якое аб'ядноўвалася ў паўтысячы родаў. Некалькі родаў утваралі племя, а некалькі плямён — аб'яднанні плямён (саюзы).

Працэс раскладу першабытнаабшчынных адносін можа засведчыць і пабудова абарончых збудаванняў на гарадзішчах. Вядома, што паселішчы першапачаткова не мелі штучных умацаванняў і абгароджваліся толькі драўлянай сцяной. Але з цягам часу, калі супярэчнасці паміж родамі і плямёнамі ўзмацніліся, узнікла неабходнасць у дадатковым умацаванні паселішчаў шляхам насыпкі валоў, выкопвання равоў, павелічэння стромкасці схілаў і г.д. Бесперапынны рост прадукцыйных сіл, і асабліва жывёлагадоўлі і земляробства, паступова пачаў забяспечваць людзям накапленне матэрыяльных каштоўнасцей і, акрамя таго, вымушаў іх шукаць новыя землі для свайго гаспадарання. Гэта прыводзіла да ўзнікнення супярэчнасцей паміж родамі, плямёнамі, частых ваенных сутыкненняў паміж імі. Гаспадарчая дзейнасць у гэты час дасягнула такога ўзроўню, што дазваляла пракарміць лішніх людзей і, магчыма, патрабавала дадатковай рабочай сілы. Таму ў гэты перыяд палонных ужо не забівалі, а выкарыстоўвалі як хатніх рабоў. Хутчэй за ўсё колькасць такіх рабоў (някроўнікаў) была невялікай, і рабства насіла хатні патрыярхальны характар. Пра наяўнасць рабства можа сведчыць прысутнасць на гарадзішчах нязначнай дамешкі керамікі, характэрнай для суседніх груп. Такая кераміка, відаць, выраблялася палоннымі чужынцамі, пакуль яны не засвойвалі новай для іх тэхналогіі і прыёмаў вырабу мясцовага посуду[1].

Войны і ваенныя набегі сталі распаўсюджанай і звыклай справай. У гэтых умовах асноўная роля ў сацыяльным жыцці належала мужчынам, як воінам, так і старэйшынам роду. Вярхоўнай уладай у родзе і племені становіцца агульны сход мужчын-воінаў, які вырашаў пытанні вайны і міру, а таксама выбіраў старэйшын і правадыра племені. Такі грамадска-палітычны лад, які ўзнікае на апошняй стадыі першабытнаабшчыннага ладу, атрымаў назву ваеннай дэмакратыі.

Як канкрэтна быў арганізаваны патрыярхальны род і асобная сям'я, з-за адсутнасці матэрыялаў пакуль сказаць немагчыма. Але наяўнасць аднастай-

[1]*Шмидт Е.А.* Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства. С. 111, 112.

ных элементаў на паселішчах, аддаленых адно ад другога, аднолькавых рыс у тыпе пабудоў, канфігурацыі гарадзішчаў і сістэме абарончых збудаванняў, падабенстве гаспадаркі — сведчаць аб тым, што асобныя роды і плямёны ў межах кожнай культуры мелі паміж сабой цесныя сувязі. Адзінства гэтых плямён дае падставу гаварыць аб узнікненні ў іх саюзаў плямён, якія хутчэй за ўсё не былі пастаянна дзеючымі, а ўзнікалі перыядычна ў час значнай ваеннай небяспекі. Такія, нават кароткачасовыя, ваенныя саюзы садзейнічалі ўзмацненню эканамічных сувязяў, абмену вопытам і дасягненнямі ў галіне гаспадарчай і ваеннай дзейнасці.

Працэс змянення сацыяльна-эканамічнага жыцця з пачатку 1-га тысячагоддзя н.э. звязаны з распадам патрыярхальна-сямейнай абшчыны на малыя сем'і. Развіццё земляробства патрабавала засваення новых плошчаў, больш аддаленых ад месцаў пастаянных пасяленняў. Земляробства давала магчымасць існаваць больш дробным гаспадарчым адзінкам — малым сем'ям. Гэты працэс можна прасачыць па змяненні тыпу жылых пабудоў на гарадзішчах. Вялікія (доўгія) абшчынныя дамы, якія адпавядалі сумеснаму пражыванню адзінага калектыву, саступаюць месца індывідуальнаму жыллю адной сям'і ў адпаведных асобных жылых пабудовах меншых памераў. У розных рэгіёнах Беларусі працэс гэты праходзіў неаднолькава. На поўдні, дзе адчуваўся ўплыў скіфска-сармацкіх плямён, ён пачаўся значна раней, у канцы 1-га тысячагоддзя да н.э., і меў больш інтэнсіўны характар. Археалагічныя помнікі сведчаць, што ў гэтых плямён ужо ўзнікла маёмасная няроўнасць. Так, у Чаплінскім могільніку (Лоеўскі раён) знойдзены багатыя пахаванні з мноствам розных рэчаў і бедныя — з адсутнасцю іх.

У цэнтральнай і паўночнай частках Беларусі патрыярхальна-родавыя сувязі трывала падтрымліваліся амаль да першых стагоддзяў нашай эры. Вялікія абшчынныя дамы тут існавалі да I—III стст. н.э. (гарадзішчы Лабеншчына Мінскага, Збаровічы Рагачоўскага, Урагава Верхнядзвінскага раёнаў і інш.). Дамы меншых памераў, якія прыйшлі на змену ім (гарадзішчы Вязынка Маладзечанскага, Малышкі Вілейскага, Кастрыца Лепельскага, Барсукі Верхнядзвінскага раёнаў і інш.), былі яшчэ шматкамернымі, але ўжо прызначаліся для меншых сем'яў.

На поўдні Беларусі ў пачатку 1-га тысячагоддзя н.э. насельніцтва пакідае ўмацаваныя гарадзішчы і пасяляецца на адкрытых месцах — на селішчах. З узнікненнем племянных аб'яднанняў знікла неабходнасць умацоўваць паселішчы для кожнай асобнай сямейнай абшчыны.

На поўначы гэты працэс адбываўся на некалькі стагоддзяў пазней. К сярэдзіне 1-га тысячагоддзя месцам пастаяннага жыхарства насельніцтва становяцца селішчы, а некаторыя ўмацаваныя паселішчы ператвараюцца ў гарадзішчы-сховішчы. З цягам часу гэты працэс інтэнсіўна пашыраўся. Гэта было прагрэсіўнай з'явай, паколькі распад патрыярхальна-родавых адносін садзейнічаў развіццю ініцыятывы асобных членаў роду, засваенню новых зямель пад пашу і распаўсюджанню ворнай сістэмы земляробства. Відаць, утварэнне сямейных гаспадарак прывяло да ўзнікнення прыватнай уласнасці на зямлю[1].

У першых стагоддзях н.э. малыя сем'і, высяляючыся з былых цэнтраў, асвойваюць суседнія тэрыторыі і ўтвараюць новыя вытворчыя адзінкі. Гэтым тлумачыцца факт з'яўлення ў дадзены час адкрытых паселішчаў, якія размяшчаліся не толькі паблізу гарадзішчаў, але і на значнай адлегласці ад іх. Так паступова адбываецца трансфармацыя патрыярхальна-родавай абшчыны, у аснове якой ужо былі не крэўныя (кроўнародныя), а тэры-

[1]*Косвен М.О.* Очерки истории первобытной культуры. М., 1953. С 185.

тарыяльныя сувязі, хоць роднасныя яшчэ не страчваюць свайго значэння. Пераход у другой палове 1-га тысячагоддзя н.э. ад родавай абшчыны да тэрытарыяльнай з'яўляецца адным з важнейшых момантаў у сацыяльна-структурных зменах насельніцтва Беларусі.

Другім важным момантам з'яўляюцца змены ва ўзаемаадносінах паміж родамі і плямёнамі. Перабудовы ўнутры родавай арганізацыі прывялі да аслаблення родавых сувязяў і страты некаторых функцый, уласцівых у папярэдні час толькі роду. Відаць, племянная арганізацыя пачала больш рашуча ўмешвацца ў справы родаў і браць на сябе функцыі абароны агульных інтарэсаў і асобных членаў розных родаў, якія ўваходзілі ў племя. Акрамя таго, у племянныя функцыі ўваходзіла абарона родавых пасёлкаў (тэрытарыяльных абшчын) ад нападу з боку як роднасных, так і чужародных калектываў.



Жаночы касцюм і ўпрыгожанне. Рэканструкцыя Л.Дучыц паводле матэрыялаў з гарадзішча Шчаткава Бабруйскага раёна

Уладжванне спрэчных пытанняў паміж роднаснымі плямёнамі патрабавала ўмацавання сувязяў паміж імі, а абарона іх тэрыторый прыводзіла да стварэння міжпляменных саюзаў. Такім чынам, узмацненне ўлады племянных арганізацый і стварэнне міжпляменных саюзаў зрабіла непатрэбным умацоўваць кожнае асобнае паселішча.

Далейшы працэс развіцця вёў да дыферэнцыяцыі членаў суседскіх абшчын, выдзялення асобных груп абшчыннікаў, якія набывалі розныя багацці як за кошт свайго асабістага становішча, так і за кошт рабавання іншых плямён падчас ваенных акцый. З такіх людзей паступова фарміравалася ваенная дружына. Пацвярджэннем гэтай з'явы можна лічыць шматлікія знаходкі ў матэрыялах трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя да н.э. разнастайнай зброі (наканечнікі коп'яў, стрэл). Аснову дружыны складалі воіны-коннікі, аб чым сведчаць прадметы рыштунку конніка (цуглі, шпоры, спражкі і інш.). Яскравым прыкладам гэтых працэсаў з'яўляюцца матэрыялы з шэрагу археалагічных помнікаў Беларусі. Пры гэтым трэба заўважыць, што падобныя прадметы ў папярэднюю эпоху амаль не сустракаюцца ці знаходзяцца вельмі рэдка.

Ваенныя набегі ў перыяд Вялікага перасялення народаў былі звыклай падзеяй не толькі ў нашых суседзяў на поўдні ці захадзе, але і на тэрыторыі самой Беларусі. Таму мясцовае насельніцтва, нягледзячы на наяўнасць племяннoй арганізацыі і дружыны, усё ж было вымушана ўзводзіць умацаваныя сховішчы ці выкарыстоўваць пакінутыя старыя гарадзішчы. У выпадках, калі вораг быў мацнейшым, людзі мелі магчымасць захаваць сваю маёмасць і жыццё дзякуючы гэтым сховішчам.

Размяшчэнне гарадзішчаў-сховішчаў і адначасовых ім селішчаў, унутраная структура пабудовы некаторых сховішчаў (Свіла-1 Глыбоцкага ра-

ёна) даюць падставы для меркавання, што ў большасці выпадкаў на адным гарадзішчы-сховішчы знаходзіла царатунак насельніцтва даволі значнай акругі. Прычынай пабудовы сховішчаў былі не сацыяльныя супярэчнасці ўнутры абшчын і нават не ўзаемаадносіны паміж блізкімі суседнімі абшчынамі, а войны і сутычкі паміж рознымі плямёнамі ці іх аб'яднаннямі. Гэта з'ява была звязана з агульным палітычным становішчам ва Усходняй Еўропе таго часу.

## 5. Духоўная культура

У жалезным веку разам з прагрэсам у матэрыяльнай культуры насельніцтва Беларусі развівалася і ўдасканальвалася (ускладнялася) і яго духоўная культура, міфалагічна-рэлігійныя ўяўленні, дэкаратыўна-прыкладное і музычнае мастацтва, зачаткі навуковых ведаў пра акаляючы свет. Міфалагічныя ўяўленні і першабытная рэлігія ў тагачасных умовах з'яўляліся важнымі чыннікамі не толькі ў спробах тлумачэння сусвету, але і праз пасрэдніцтва гэтага — гарманізацыі адносін чалавека з прыродай і адносін паміж людзьмі, а таксама індыкатарам захавання этнічнай адметнасці.

Міфалагічна-рэлігійныя ўяўленні непарыўна былі звязаны з асяроддзем пражывання і гаспадарчымі заняткамі людзей, адлюстроўвалі іх гісторыю і менталітэт. Практычна ўся прырода— жывёльны свет, расліннасць, важнейшыя прыродныя аб'екты і стыхіі — знаходзілі сваё адлюстраванне ў міфах і абрадах.

На думку вядомага даследчыка міфалогіі М.Эліадэ, любы рытуал мае сваю сакральную мадэль (свяшчэнны ўзор), архетып (першаобраз, першаўзор, арыгінал). У помніку старажытнаіндыйскай культуры "Чытападха Брахмана" ўказваецца: "Мы павінны рабіць тое, што рабілі спачатку багі". Зыходзячы з гэтага мяркуецца, што ўсім рэлігійным актам далі пачатак багі, культурныя героі ці міфічныя продкі. У шэрагу першабытных народаў любы чалавечы ўчынак, не кажучы ўжо пра рытуалы, становіцца паспяховым толькі тады, калі дакладна паўтарае дзеянні, якія выконваліся спачатку багамі, героем або продкам. Згодна логіцы міфалагічнай свядомасці, уяўныя акты стварэння космасу неабходна было паўтараць у выглядзе рытуальных абрадаў у час важнейшых святаў, звязаных з кругаваротам прыроды ці важнейшымі падзеямі жыцця чалавека, такімі, як нараджэнне, вяселле, пахаванне і г.д.[1] Назіранні за нябеснай сферай і прыроднымі цыкламі на зямлі былі звязаны як з практычнымі, гаспадарчымі патрэбамі, так і з імкненнем браць прыродныя з'явы ў якасці прыкладу для паўтарэння ў рытуалах.

Асаблівасць археалагічных матэрыялаў заключаецца ў тым, што яны адлюстроўваюць не ўвесь комплекс рэлігійных вераванняў, а пераважна культавы бок рэлігіі.

Адным з самых старажытных культаў, які вядзе пачатак з глыбінь каменнага веку, з'яўляецца культ жывёл. Гэты культ пакінуў свае сведчанні і сярод археалагічных знаходак жалезнага веку. Так, на мілаградскіх гарадзішчах Паўднёвай Беларусі знойдзена больш за 100 фігурак жывёл, асабліва іх шмат (каля 90) было на гарадзішчы каля в. Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Выявы жывёл звычайна сустракаюцца ў жылых і гаспадарчых пабудовах, а таксама ў комплексах, звязаных з культам. Большасць фігурак у абломках і звычайна яны выкананы схематычна. Па вызначаных вырабах

[1]*Элиаде М.* Космос и история. М., 1987. С.112.

можна меркаваць, што большасць фігурак — гэта выявы каня, радзей — буйной рагатай жывёлы і сабак. Як лічыць В. Мельнікоўская, мілаградскія фігуркі маюць стылістычнае падабенства з аналагічнымі рэчамі лесастэпавай паласы. У апошнія дзесяцігоддзі на мілаградскіх помніках знойдзены гліняныя фігуркі кароў, а на гарадзішчы Падгор'е Добрушскага раёна — фігурка бабра і падвеска з мядзведжага клыка[1]. В. Мельнікоўская паведамляла пра знаходкі падвесак з зубоў мядзведзя, дзіка, ваўка. У мілаградцаў сустракаліся таксама ахвярныя пахаванні дзікіх і свойскіх жывёл. Так, на Гарошкаўскім гарадзішчы і за яго валамі выяўлена некалькі такіх пахаванняў (два сабакі, бабёр, свіння, парасё). Косці ляжалі ў анатамічным парадку, а ў адным з пахаванняў сабакі знаходзілася разбітая пасудзіна[2].

Культ жывёл меў распаўсюджанне і ў плямён зарубінецкай культуры. Пры раскопках могільніка Атвержычы ў Столінскім раёне ў адным з пахаванняў трапіліся абгарэлыя косці мядзведзя[3], а на могільніку Чаплін у Лоеўскім раёне ў пахаваннях былі трубчастыя косці казулі, зуб сабакі, зуб каровы. У культурным пласце Чаплінскага гарадзішча знойдзены прасвідраваныя клыкі ваўка, зуб мядзведзя і зуб бабра[4].

Для плямён Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі былі характэрныя амулеты з іклаў мядзведзя і дзіка, што сведчыць пра існаванне культу гэтых жывёл. Аналагічныя амулеты выяўлены на гарадзішчах Усходняй Літвы. На некаторых штрыхаваных пасудзінах (Пятровічы Бабруйскага, Паліцкае Асіповіцкага раёнаў) маюцца адбіткі зерня як сляды земляробчых культаў.

У насельніцтва днепра-дзвінскай культуры, акрамя таго, сустракаліся бронзавыя фігуркі коней. Існавалі свяцілішчы чатырохвугольнай у плане формы, з падмазанай глінай падлогай і спецыяльнымі глі顔нымі агнішчамі-ахвярнікамі. Пазней распаўсюдзіліся круглыя ў плане гарызантальныя пляцоўкі — свяцілішчы.

Пахавальныя помнікі насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культуры невядомыя. Аналіз летапіснай устаўкі "Легенда пра Совія" ў "Хроніцы Іаана Малалы" (1261) і пазнейшых фальклорных паданняў у супастаўленні з археалагічнымі матэрыяламі дае падставы меркаваць, што для насельніцтва Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі і прылеглай часткі Літвы ў перыяд ад позняга неаліту — ранняй бронзы і да ранняга сярэднявечча была характэрная наступная паслядоўнасць змены пахавальных абрадаў: 1) звычай трупапалажэння; 2) пахаванні ў "дрэве" (хутчэй за ўсё ў дуплах дрэў); 3) абрад трупаспалення. На позні бронзавы і жалезны вякі якраз прыпадала панаванне звычаю пахавання памерлых у дуплах дрэў ці нейкім іншым спосабам "в древо и положи".

Верагодна, з магіяй плоднасці трэба звязваць некаторыя знаходкі драўляных рал. Пакуль што на сучаснай тэрыторыі Беларусі выяўлена толькі адна такая прылада. Гэта драўлянае крываградзільнае рала, знойдзенае ў тарфяніку каля в.Капланавічы Клецкага раёна і датаванае Л. Победам першымі стагоддзямі н.э. Ралы такога тыпу ва Усходняй Еўропе вя-

---

[1]*Рассадин С.Е.* К вопросу о религиозных верованиях жителей Белорусского Посожья в скифское время // Тезисы докладов конференции "Религиозные представления в первобытном обществе". М., 1987. С.185.

[2]*Мельниковская О.Н.* Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. С.149.

[3]*Поболь Л.Д.* Славянские древности Белоруссии (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры). Мн., 1975. С.40.

[4]*Поболь Л.Д.* Славянские древности Белоруссии (ранний этап зарубинецкой культуры). Мн., 1971. С.85, 149.



Арнаментаваныя грузікі мілаградскай культуры з гарадзішча Гарошкаў Рэчыцкага раёна

домыя яшчэ па знаходках у Бранскай вобласці (Расія) і ў Сумскай вобласці (Украіна). Капланавіцкае рала Ю. Красноў лічыць найбольш абгрунтаваным датаваць на падставе аналогій перыядам паміж першай паловай 1-га тысячагоддзя н.э. і да сярэднявечча. Гэтаму не супярэчыць і храналогія размешчанага паблізу селішча.

У старажытнасці акрамя чыста земляробчага ралы мелі і сакральнае прызначэнне.

У сэнсе рэканструкцыі палеаастранамічных уяўленняў старажытнага насельніцтва Беларусі цікавасць уяўляе збудаванне каля в.Бікульнічы Полацкага раёна, на паўднёвым беразе возера Янава. Помнік размешчаны на адкрытай пляцоўцы ўзгорка пад назвай Бікульніцкі Рог і ўяўляе адкрыты з аднаго боку квадрат памерамі 15 х 15 м, выкладзены з валуноў. Адкрытым бокам квадрат скіраваны ў бок возера. Пры вывучэнні збудавання з валуноў было ўстаноўлена, што аснова гэтага квадрата знаходзіцца па азімуту 52° на паўночны ўсход ад кірунку на поўнач. Якраз паміж 50° і 52° на паўночны ўсход ад збудавання, на процілеглым беразе возера размешчана гара Гарадзец.

Як вядома, у перыяд летняга сонцастаяння, на Купалле, сонца ўзыходзіць на паўночным усходзе, і таму Гарадзец мог быць адным са звёнаў у ланцужку культавых аб'ектаў, звязаных з найбольш вялікім язычніцкім святам. Штучных умацаванняў на ўзгорку няма, пляцоўка даволі роўная. Раскопкі паказалі, што культурны пласт зусім тонкі, але ў мацерыку знаходзіцца шмат ям рознай глыбіні і канфігурацыі, нават самай вычварнай. У многіх ямах траплялася вуголле. Ямы хутчэй за ўсё з'яўляліся геогліфамі (рэльефнымі выявамі на паверхні зямлі нейкіх міфалагічных істот). Выяўлена ляпная гладкасценная кераміка, у асноўным насельніцтва днепра-дзвінскай культуры.

У мясцовасці Разтолты (на Усходнім Падляшшы) быў раскапаны курган насельніцтва вельбарскай культуры. Унутры кургана выяўлена цікавая структура, якая ўяўляла сабой выкладзены з камянёў крыж у коле. Аналагічныя структуры вядомы з некаторых курганоў на захадзе Польшчы і ў Мекленбургу ў Германіі. Як лічыў З.Кжак, ва ўсіх згаданых курганах былі пахаванні жрацоў, а крыж прадстаўляў у дадзеным выпадку космас, сакральную прастору, а таксама цэнтральнае бажаства. У свой час яшчэ Карл Густаў Юнг спрабаваў даказаць, што крыж з'яўляецца затоеным у чалавечай псіхіцы архетыпам Бога, звязвалі крыж таксама з так званым астрабіялагічным светапоглядам чалавека. Разам з тым крыж сімвалізуе ўзыходжанне духа, імкненне да Бога, да вечнасці.

Пачаткам нашай эры датуюцца самыя раннія на тэрыторыі Беларусі выявы свастык, якія даследчыкамі звычайна лічацца сімваламі агню ці сонца. Праслачкі і іншыя прадметы са свастыкамі знаходзяць на гарадзішчах насельніцтва культур штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай і кі-

еўскай, на заходнябалцкім могільніку каля Начы ў Воранаўскім раёне. Амаль усе гэтыя свастыкі, у адрозненне ад больш позніх, правабаковыя, г.зн. павернутыя канцамі па гадзіннікавай стрэлцы.

Звяртае ўвагу тое, што каля падножжа некаторых гарадзішчаў са штрыхаванай керамікай (Крынічкі Барысаўскага, Навасады Дзяржынскага раёнаў, г. Капыль) знаходзяцца культавыя крыніцы.



Фрагмент гаршка з выявай магічнага знака. Гарадзішча каля в. Гара Барысаўскага раёна

На паасобных гарадзішчах Беларусі (Малышкі, Кастрыца) знойдзены гліняныя праслачкі, пакрытыя знакамі, якія не адносяцца да арнаментаў. Магчыма, у дадзеным выпадку прадстаўлены нейкія зачаткавыя формы пісьма.

Няма сумнення, што ў жалезным веку, ва ўсякім разе ў яго канцы, у асноўным сфарміраваўся пантэон багоў. У сувязі з разлажэннем родавага ладу ўсё больш узрастае значэнне бога-грамавіка, распарадчыка навальніц, маланак і дажджу, апекуна ваеннай справы, які адначасова меў і пэўныя аграрныя функцыі. Важнае месца ў пантэоне займаў і бог сонца. Але паводле сярэднявечных пісьмовых крыніц, так і паводле пазнейшых фальклорна-этнаграфічных і лінгвістычных даных можна меркаваць, што аж да афіцыйнага прыняцця хрысціянства найбольш разнастайным па функцыях і самым уплывовым лічылася традыцыйнае хтанічнае бажаство, якое ўяўлялася апекуном як дзікіх, так і свойскіх жывёл, звязвалася з абрадавымі песнямі і паэзіяй, было таксама апекуном памерлых і міфічных волатаў, распараджалася зямнымі водамі, уключаючы крыніцы і выток і рэк, было богам багацця і сакралізаванай традыцыйнай улады першабытных жрацоў. Бажаство гэта з глыбокай старажытнасці магло ўяўляцца ў вобразах ваўка, мядзведзя, змея, вала, хаця з часам яму ўсё больш надавалі антрапаморфныя рысы. З нябесных свяціл гэтаму бажаству, які адпавядаў славянскаму Вялесу, балцкаму Вяльнясу (Велсу), быў прысвечаны месяц. Аб'ектамі пакланення яму з'яўляліся найбольш адметныя неапрацаваныя валуны, а таксама крыніцы. Сакральная пара ("жонка") гэтага бажаства характарызавалася волатаўскім ростам і сілай, сувяззю з вадой, мела дачыненне да жывёльнага свету, асабліва да мядзведзяў, была апякункай парадзіх і шлюбаў. Сваю шлюбную пару меў і бог-грамавік. Акрамя гэтых персанажаў у рэлігіях насельніцтва жалезнага веку істотнае месца займалі багі і духі, звязаныя з іншымі сферамі чалавечага жыцця і прыроды.

Акрамя рэлігіі і міфалогіі духоўная культура ахоплівала першабытнае мастацтва, рацыянальныя веды, фальклор. У арнаментыцы керамічных вырабаў, нягледзячы на лакальныя адрозненні, найбольш часта паўтараліся салярныя знакі (канцэнтрычныя кругі, праменепадобныя лініі, крыжы), вуглы, трохвугольнікі, ламаныя лініі, ромбы. Устойлівыя агульныя матывы геаметрычнага арнаменту, асабліва такія, як двайны і трайны зігзаг, можна знайсці ў арнаментыцы насельніцтва культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай. З іншага боку, гэтыя матывы маюць аналогіі ў арнаментыцы несумненна балцкіх раннесярэднявечных плямён Літвы і Латвіі.

Эстэтычныя ідэалы жалезнага веку ўвасабляліся таксама ў дэкоры металічных (жалезных і бронзавых) упрыгожанняў і прыналежнасцей адзення (фібулы, шпількі і г.д.). Гэтыя прадметы мелі функцыянальна апраўданую форму.

Упрыгожанні на тэрыторыі Беларусі былі як мясцовай вытворчасці, так і імпартныя, латэнскія або правінцыяльна-рымскія. Як сведчаць знаходкі падчас раскопак тygляў са слядамі шкляной масы, мясцовае насельніцтва і само ўмела вырабляць шкляныя ўпрыгожанні.

Тагачасныя рацыянальныя веды ўключалі гаспадарчы вопыт, веды ў галіне медыцыны, астраноміі, метэаралогіі, геаграфіі сваіх і суседніх зямель, прыродазнаўства.

РАЗДЗЕЛ 2

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў РАННІМ СЯРЭДНЯВЕЧЧЫ (VI ст. – першая палова XIII ст.)

## Прынцыпы перыядызацыі

Вучонымі распрацаваны розныя варыянты перыядызацыі гісторыі. Адны даследчыкі кіруюцца сацыяльна-эканамічнымі крытэрыямі, другія — шукаюць іх у галіне палітыкі, права, дзяржаўнасці ці ў сферы культуры і інш. У XIX — пачатку XX ст. у расійскай гістарыяграфіі была распаўсюджана так званая дзяржаўніцкая канцэпцыя гісторыі Расіі. Яе прытрымліваўся буйнейшы гісторык С. Салаўёў, які лічыў галоўнай рухаючай сілай гісторыі дзяржаву. На гэтым прынцыпе засноўвалася гістарычная перыядызацыя, якую ён распрацаваў.

Менавіта дзяржаўніцкі прынцып перыядызацыі быў устаноўлены ў гістарыяграфіі Беларусі У. Ігнатоўскім. У сваёй працы "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" (1919) ён пісаў: "Па асаблівасці палітыка-сацыяльнага і культурнага жыцця беларускага народа гісторыю Беларусі можна падзяліць на чатыры перыяды: Полацкі, Літоўска-Беларускі, Польскі і Расійскі". Яшчэ адзін перыяд ён назваў "Беларусь пасля звяржэння царызму". У.Ігнатоўскі разглядаў гісторыю Беларусі ў залежнасці ад таго, у склад якой дзяржавы ўваходзіла тады Беларусь. Такая перыядызацыя выкарыстоўваецца некаторымі гісторыкамі і цяпер.

У савецкай гістарыяграфіі панавала фармацыйная канцэпцыя перыядызацыі гісторыі (спосабы вытворчасці – першабытнаабшчынны, рабаўладальніцкі, феадальны, капіталістычны, сацыялістычны). Пры гэтым заўсёды падкрэслівалася, што ўсходнія славяне перайшлі ад першабытнаабшчыннага ладу да феадалізму, мінуючы стадыю рабаўладальніцкага грамадства. Гэта сцвярджалася і адносна Беларусі. Фармацыйная канцэпцыя перыядызацыі гісторыі, з'яўляючыся навуковай, мае свае хібы і супярэчнасці [1].

На пераломе 1980—1990-х гадоў з'явілася магчымасць адраджэння і далейшага развіцця нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі, у распрацоўку якой унеслі ўклад навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі НАНБ, асабліва М. Біч.

У 1991 г. была апублікавана новая канцэпцыя гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе [2]. На яе аснове створаны і выдадзены ў 1993—1995 гг. базавыя праграмы і вучэбныя дапаможнікі па айчыннай гісторыі. Была ўведзена новая перыядызацыя гісторыі Беларусі, узгодненая з перыядызацыяй сусветнай гісторыі паводле схемы: "Старажытны свет – сярэднія вякі – Новы час".

У заходнееўрапейскай гістарыяграфіі пераважала думка, што тэрміны "Старажытны свет", "сярэднія вякі", "Новы час" пазбаўлены пэўнага зместу і прыняты для зручнасці выкладання гісторыі, як традыцыйны падзел гістарычнага матэрыялу, які быў зроблены яшчэ гуманістамі эпохі Адраджэння. Савецкая (марксісцка-ленінская) гістарычная навука таксама карысталася гэтай традыцыйнай адносна краін Заходняй Еўропы перыядызацыяй, але ўкладвала ў яе зусім іншы змест. Гісторыкі-марксісты вызначылі сярэднія вякі як час панавання феадалізму, які змяніў рабаўладальніцтва, а затым Новы час перадаў гістарычную эстафету капіталізму.

---

[1] *Штыхаў Г.В.* Перыядызацыя гісторыі Беларусі: Беларусь у свеце і часе // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 3. С. 48—49

[2] Настаўніцкая газета. 1991. 30 лістап.

Манаграфічныя даследаванні па пытаннях перыядызацыі гісторыі Беларусі адсутнічаюць. У апошнія гады з'явіліся асобныя артыкулы. У навуковым часопісе "Беларускі гістарычны агляд" Г.Сагановіч надрукаваў артыкул, дзе ён крытычна ставіцца да "пераносу заходнееўрапейскай перыядызацыі на мінулае Беларусі" [1]. Аўтар лічыць, што сам тэрмін "сярэднія вякі" непрыдатны для Беларусі. У сувязі з гэтым трэба нагадаць, што пачатак сярэднявечча звычайна гісторыкі вызначаюць Вялікім перасяленнем народаў і падзеннем Рымскай імперыі. Гэты працэс цягнуўся некалькі стагоддзяў у сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н.э. і дата — 476 г. (звяржэнне апошняга рымскага імператара) вельмі ўмоўная. Вялікім перасяленнем народаў называюць перасяленне германскіх, славянскіх, сармацкіх і іншых плямён на тэрыторыю Рымскай імперыі ў IV—VII стст., якое ў значнай ступені садзейнічала яе падзенню. Менавіта ў гэты час славяне з'явіліся на тэрыторыі Беларусі. Праз суседнія з Беларуссю землі праходзіў гандлёвы шлях з рымскіх уладанняў да Бурштынавага берага Балтыйскага мора. Шматлікія рымскія манеты, якія знаходзяць на тэрыторыі Беларусі, сведчаць, што прабеларускае насельніцтва, якое тут пражывала, падтрымлівала гандлёвыя сувязі з насельніцтвам Рымскай імперыі

Археолагамі даказана, што ў канцы V—VI ст. на тэрыторыі Беларусі з'явіліся славяне[2]. Да гэтага карэнным насельніцтвам тут былі балты — продкі літоўцаў і латышоў. З'яўленне славян на тэрыторыі Беларусі мела найвялікшае значэнне для гістарычнага лёсу гэтага краю, дзе цяпер размешчана ўсходнеславянская дзяржава — Рэспубліка Беларусь. Яно прывяло да больш хуткага пераадолення многіх інстытутаў першабытнаабшчыннага ладу, садзейнічала ўзнікненню гарадоў і паскарала развіццё раннефеадальных адносін. Тут як бы ў мініяцюры назіралася тое, што адбывалася некалькі стагоддзяў раней на граніцах Рымскай імперыі і Візантыі, дзе з'яўленне варвараў садзейнічала ліквідацыі старых грамадскіх адносін і зацвярджэнню новых. Тэмпы грамадскага і гаспадарчага развіцця ў славян былі больш інтэнсіўнымі, чым у балтаў. Таму славяне здолелі іх асіміляваць. Вось чаму важна браць за важнейшую вяху ў гісторыі Беларусі VI ст. і шэраг наступных стагоддзяў і лічыць іх раннім сярэднявеччам на Беларусі.

У сярэднія вякі феадалізацыя грамадства развівалася рознымі шляхамі, прычым яны мелі свае рэгіянальныя асаблівасці ў асобных землях і краінах. Таму гісторыкі вылучаюць у Еўропе лакальныя мадэлі цывілізацыі (заходнееўрапейская, цэнтральна-еўрапейская, усходнееўрапейская) і рэгіёны з рознымі формамі і тэмпамі грамадскага развіцця[3]. З улікам гэтага і трэба разглядаць гісторыю Беларусі ў сярэднія вякі.

У гістарыяграфіі Беларусі, асабліва ў апошнія гады, усё часцей ужываецца перыядызацыя "па стагоддзях". Гэта самая простая перыядызацыя ў няпростых умовах пераходнага перыяду. Толькі гэта павінна быць не "арыфметычнае стагоддзе" [4]. Стагоддзі павінны аб'ядноўвацца ў пэўныя перыяды — адрэзкі часу, калі адбываліся падзеі, абмежаваныя пачаткам і заканчэннем шэрагу звязаных паміж сабой з'яў. Па такому прынцыпу перыядызацыі пайшоў аўтарскі калектыў гісторыкаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта пры стварэнні дапаможніка "Гісторыя Беларусі" (1998), дзе раздзелы называюцца "Беларусь у IX — сярэдзіне XIII ст.", "Беларускія землі ў сярэдзіне XIII — першай палове XVII ст." і г.д. Гэты прынцып перыядызацыі можна назваць храналагічна-тэрытарыяльным. Такі падыход непазбежны таму, што агульнапрызнаная перыядызацыя адсутнічае.

Па-іншаму дазваляе разглядаць сусветна-гістарычны працэс цывілізацыйны падыход. Цывілізацыя — гэта ў дадзеным выпадку ўзровень грамадскага развіцця, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры. Пад цывілізацыяй трэба мець на ўвазе буйное аб'яднанне чалавечага грамадства на пэўнай тэрыторыі, якое ўзнікае ў выніку рознабаковай

---

[1]*Сагановіч Г.* У пошуках Сярэднявечча // Беларускі гістарычны агляд. 1997. Т. 4. Сш. 1—2. С. 9—17.

[2]Археалогія Беларусі. Т.2. С. 317—319, 449, 450.

[3]*Риер Я.Г.* Очерки истории средневековых цивилизаций. Могилев, 1997. С. 7—53.

[4]*Кошалеў У.С.* Гістарычная перыядызацыя // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1996. Т. 3. С. 10.

дзейнасці людзей. Гэта дзейнасць уключае ўсе сферы жыцця: гаспадарку, рэлігію і ўвогуле ўсю культуру чалавека, а таксама дзяржаву. Сутнасць кожнай цывілізацыі найперш праяўляецца ў духоўных асновах і каштоўнасцях. Таму цывілізацыі застаюцца на доўгі час устойлівымі гістарычнымі рэаліямі. Дастаткова абгрунтаваным уяўляецца вылучэнне ўсходнеславянскай цывілізацыі і вызначэнне яе асаблівасцей.

ГЛАВА 1

# УЗНІКНЕННЕ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ. ЭТНІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ (VI–XI стст.)

## 1. Балты і славяне ў VI–VIII стст.

**Плямёны банцараўскай культуры.** У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н.э. у жыцці насельніцтва Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі адбываюцца значныя змены, якія выявіліся ў матэрыяльнай культуры. Культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінская змяняюцца помнікамі тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Упершыню яны сталі вядомымі ў канцы 20-х гадоў па матэрыялах, атрыманых з верхняга культурнага гарызонту Банцараўскага гарадзішча пад Мінскам.

Банцараўскае гарадзішча (назва па хутару Банцараўшчына) размешчана на левым беразе р. Свіслач (цяпер вадасховішча Драздь) на гары вышынёй 20 м. Авальная пляцоўка мае памер 50 х 35 м. Гарадзішча ўмацавана валамі і равамі. На гарадзішчы-сховішчы збіраліся людзі адной абшчыны, верагодна, з некалькіх неўмацаваных паселішчаў падчас ваеннай небяспекі.

Пры археалагічных раскопках Банцараўскага гарадзішча ў верхнім гарызонце, які датуецца V–VIII стст., знойдзена 20 гліняных пасудзін, вылепленых без прымянення ганчарнага круга. У некаторых гаршках было абвугленае зерне пшаніцы, гароху і проса. Сярод пасудзін ёсць такія, якія маюць пашырэнне ў верхняй частцы (так званую "плячыстасць"), што характэрна для вырабаў славян, але большасць мелі форму слоіка ці былі слабапрафіляванымі і, на думку даследчыкаў, належалі балтам[1].

Атрыманы значныя і разнастайныя звесткі аб аналагічных помніках Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі. У паўночна-заходняй частцы дняпроўскага басейна і ў Панямонні выяўлена некалькі дзесяткаў паселішчаў V–VIII стст. (Равячка, Гуры, Дзядзілавічы, Гарадзішча, Мікольцы, Хведзічы ў Мінскай вобласці). Матэрыялы гэтага ж часу і адпаведнага культурнага аблічча знойдзены ў Віцебскай вобласці на селішчах паблізу населеных пунктаў Варганы і Лукомль, на гарадзішчах у Полацку і Віцебску. Такія ж старажытнасці выяўлены на гарадзішчах каля в. Цясты Верхнядзвінскага, Пруднікі Міёрскага раёнаў, у Беларускім Падзвінні.

Спачатку насельніцтва банцараўскай культуры, відаць, пражывала толькі на паселішчах, размешчаных на берагах рэк і азёраў. Да ранніх належаць паселішчы каля вёсак Курчына і Равячка Мядзельскага, Варонеч Полацкага, Гуры і Сосенка Вілейскага, Малое Стахава Барысаўскага раёнаў. Найбольш ранні комплекс рэчаў знойдзены пры раскопках паселішча і грунтавога могільніка каля в. Равячка[2]. Тут выяўлены наземныя і паўзямлянкавыя жылыя збудаванні з печкамі-каменкамі. Да V–VI стст. н.э. можна аднесці і селішча ў в. Гуры Вілейскага раёна. Гэта помнікі першага перыяду банцараўскай культуры.

---

[1]Археалогія Беларусі. Т. 2. С. 418 (мал. 121).

[2]*Митрофанов А.Г.* Железный век средней Белоруссии (VII–VI вв. до н.э. – VIII в. н.э.). С. 112, 119.

Паселішча другога храналагічнага перыяду знаходзілася ў непасрэднай блізкасці ад ранніх гарадзішчаў, ужо запусцелых да таго часу. Гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай былі значна перабудаваны і пératвораны ў добра ўмацаваныя сховішчы, дзе хавалася насельніцтва ў час небяспекі. Гарадзішчы-сховішчы і паселішчы каля іх выяўлены каля вёсак Дзядзілавічы Барысаўскага, Гарадзішча, Мікольцы, Некасецк Мядзельскага, Урагава Верхнядзвінскага, Буракова (Новы Болецк) Гарадоцкага раёнаў[1].

Селішча Дзядзілавічы ляжыць на схілах узгорка, на вяршыні якога знаходзілася невялікае гарадзішча, заснаванае плямёнамі культуры штрыхаванай керамікі. Тут даследаваны 54 жылыя збудаванні двух тыпаў — наземныя збудаванні слупавой і зрубавай канструкцыі. Звычайна жытло паглыблена ў грунт амаль на 0,5 м. Ацяплялася яно з дапамогай адкрытых ачагоў або пячэй-каменак, размешчаных у адным з куткоў паўзямлянак. Печы будаваліся з камянёў велічынёй 8—40 см, пры гэтым гліна не выкарыстоўвалася.

Значныя даныя атрыманы пры раскопках гарадзішча і паселішча ў в. Гарадзішча Мядзельскага раёна. Гарадзішча неаднаразова перабудоўвалася. Яно было заснавана старажытнейшым насельніцтвам, культура якога блізкая да мілаградскай. Паселішча апусцела ў канцы III — пачатку IV ст. н.э. У V або VI ст. каля гарадзішча ўзнікла селішча. Яго насельніцтва ператварыла пакінутае гарадзішча ў магутнае ўмацаванае сховішча. Па краі пляцоўкі была ўзведзена абарончая сцяна. Гарадзішча было абнесена валам і ровам. Але ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. на ім ніхто не жыў пастаянна. Яно выкарыстоўвалася як сховішча, месца для захоўвання гаспадарчых прыпасаў і, відаць, як свяцілішча. Неўмацаванае пасяленне размяшчалася на пакатых схілах узгорка вакол гарадзішча, дзе пры раскопках выяўлены 42 паўзямлянкі[2].

З насельніцтвам банцараўскай культуры звязаны могільнікі V—VII стст. Грунтавыя пахаванні выяўлены на паселішчы паблізу в. Равячка. Адно трупаспаленне змешчана ў урне, два іншыя — у ямках. Падобны абрад пахавання прасочваецца на могільніках у Смаленскім Падняпроўі і Падзясенні.

Шматлікія пахаванні ў курганных могільніках гэтага часу былі выяўлены ў Паўночнай Беларусі. Курганы даследаваны ў вёсках Янкавічы Расонскага, Дарахі Гарадоцкага, Гаравыя Полацкага, Старое Сяло Віцебскага раёнаў. Насыпы ў плане доўгія, падоўжаныя, круглыя. Пахавальны абрад падобны на рытуал апісаных вышэй грунтавых могільнікаў. У насыпы кургаНоў змяшчаліся рэшткі крэмацыі ў урнах ці без іх. У курганах канца V — сярэдзіны VIII ст. інвентар бедны. Сустракаюцца знаходкі дэталяў касцюма, упрыгожанні, адзінкавыя рэчы (сінія шкляныя пацеркі, невялікія бронзавыя выпуклыя бляшкі, жалезныя спражкі, цуглі, фрагменты арнаментаваных касцяных вырабаў). У якасці урн і накрываючых іх пасудзін выкарыстоўваліся ляпныя гаршкі слоікавай, слабапрафіляванай або цюльпанападобнай формы.

У Беларускім Падзвінні ўзнік лакальны (атокінскі) варыянт банцараўскай культуры, які характарызуецца паяўленнем побач з круглымі курганамі доўгіх валападобных насыпаў. Даследчыкі лічаць такія могільнікі крывіцкімі[3].

Археалагічныя даследаванні паказалі, што на паселішчах V —VIII стст. вядучымі галінамі гаспадаркі былі ляднае земляробства і жывёлагадоўля. Дапаможную ролю ў забеспячэнні насельніцтва харчаваннем адыгрывалі прысвойваючыя формы гаспадаркі — паляванне і рыбалоўства. Былі развіты дамашнія рамёствы, чорная і каляровая металургія, ганчарства, апрацоўка шкур, дрэва, прадзенне, ткацтва.

---

[1]Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993.
[2]*Митрофанов А.Г.* Железный век средней Белоруссин(VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). С. 88, 89.
[3]*Штыхаў Г.В.* Крывічы. С. 21—40.




Насельніцтва Беларусі ў V—VIII стст.
Арэалы культур: 1 — пражскай; 2 — калочынскай; 3 — банцараўскай; 4 — тушамлянскай; 5 — каменных курганоў; 6 — усходнелітоўскіх курганоў; 7 — шурпатай керамікі; А — міграцыя насельніцтва культуры тыпу Лукі Райкавецкай; Б — міграцыя носьбітаў раменскай культуры ў IX ст.; В — мяркуемая міграцыя носьбітаў культуры каменных курганоў

Час існавання банцараўскай культуры вызначаецца V—VIII стст. Выказаны погляд, згодна якому помнікі ранняга сярэднявечча ў Сярэдняй і Паўночнай Беларусі сфарміраваліся на аснове культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай, пры ўдзеле элементаў кіеўскай культуры. Асаблівасці ўздзеяння паўднёвых культур праявіліся ў распаўсюджванні адкрытых паселішчаў, будаўніцтве паўзямлянак, пахавальным абрадзе, з'яўленні гаршкоў з паверхняй, упрыгожанай так званымі расчосамі.

Банцараўская культура займала тэрыторыю Сярэдняй і Паўночнай Беларусі, а таксама некаторыя суседнія раёны. Роднаснай ёй была тушамлінская культура на Смаленшчыне. Некаторыя даследчыкі лічаць гэтыя культуры балцкімі[1]. Аднак можна назваць некалькі аргументаў на карысць таго, што славяне маюць адносіны да банцараўскай культуры: выяўленне ў некаторых выпадках на гарадзішчах славянскай керамікі, своеасаблівага жытла з печамі-каменкамі, жорнавых камянёў, нажоў з "валютападобным" навершам, трупаспаленняў у круглых курганах VI—VII стст., наяўнасць бясспрэчна славянскай гідранімікі ў Беларускім Падзвінні, культурнага пласта V—VIII стст. з керамікай тыпу Банцараўшчыны — на гарадзішчах і паселішчах старажытных гарадоў Полацка, Віцебска, Лукомля.

Верагодна, у гэты час славяне рассяліліся на землях балцкіх плямён. Археалагічныя матэрыялы дазваляюць меркаваць, што ў фарміраванні банцараўскай культуры ўдзельнічалі таксама славянскія плямёны. Яны з'явіліся

[1] *Шмидт Е.А.* Племена Смоленского Поднепровья и Подвинья в эпоху Великого переселения народов // Социально-экономическое развитие России и зарубежных стран. Смоленск, 1972.



Скроневае бронзавае кальцо з гарадзішча Баронікі Віцебскага раёна

на тэрыторыі, дзе раней жылі балты, і ў значнай ступені самі асіміляваліся. Пры далейшым рассяленні славяне канчаткова засялілі Верхняе Падняпроўе і Падзвінне.

**Плямёны калочынскай культуры** (назва паходзіць ад паселішча Калочын Рэчыцкага раёна). Яны займалі вялізную прастору паўднёвай часткі лясной зоны Усходняй Еўропы[1]. Тэрыторыя іх распаўсюджвання ўключала Беларускае Падняпроўе, Пасожжа, Падзясенне, вярхоўі Сулы і Сейма, басейн Ніжняй Прыпяці. Калочынская культура датуецца сярэдзінай V — пачаткам VIII ст.

Для пасяленчай структуры ўсяго арэала калочынскай культуры характэрна "гнездавое" распаўсюджванне паселішчаў на невялікай адлегласці адзін ад аднаго. Канцэнтрацыя паселішчаў назіраецца па р. Адроў, на праваўзбярэжжы Сожа каля вёсак Шарсцін і Прысно, па Іпуці, каля в. Дзям'янкі, каля в. Тайманава на Дняпры і інш. Селішчы плошчай ад 0,5—0,7 га да 1,5—2,5 га размяшчаліся па краі надпоймавай тэрасы, радзей — на выспах карэннага берага паблізу ад вады. З гнёздамі паселішчаў звычайна звязаны гарадзішчы-сховішчы на выпадак ваеннай небяспекі і свяцілішчы. У Беларусі даследаваны гарадзішчы Калочын, Нікадзімава, Вежкі, Чырвоная Зорка, на Сожы — Залатоміна і інш.[2] Гарадзішчы адрознівающца магутнай сістэмай драўляна-земляных умацаванняў, якая складаецца з валоў і драўляных сцен, што абкружалі пляцоўку.

Асноўным тыпам жытла з'яўляліся прамавугольныя ў плане паўзямлянкі плошчай 6—24 м$^2$, са слупавой або зрубавай канструкцыяй сцен. Ацяпляльныя прыстасаванні ў выглядзе адкрытых, зрэдку абкладзеных камянямі агнішчаў размяшчаліся побач з цэнтральным апорным слупам або ў адным з вуглоў жытла. У шэрагу выпадкаў агнішча замяняла печ-каменка. Да ліку такіх пабудоў адносіцца жытло № 1, даследаванае А. Макушнікавым на паселішчы Нісімкавічы-2. Паўзямлянка блізкая да падквадратнай формы памерамі 3,4 х 3,5 м была паглыблена ў мацярык на 0,3 м. Уздоўж унутраных сцен на вышыню двух вянкоў захаваліся абгарэлыя бярвёны, рубленыя ў "лапу". Печ-каменка прамавугольнай формы вышынёй 0,4 м, памерамі 1,0—1,1 х 0,95—1,2 м размяшчалася ў паўночна-ўсходнім вугле на ўзроўні падлогі. Уваход у выглядзе прыступка размяшчаўся каля заходняй сценкі. Печы-каменкі знойдзены таксама ў паўзямлянкавых жылых збудаваннях у Шчаткаве, Тайманаве, Юравічах. Для гарадзішчаў-сховішчаў характэрны доўгія наземныя шматкамерныя пабудовы са слупавой канструкцыяй сцен (Калочын-1, Нікадзімава, Вежкі, Панізоўе і інш.).

Пахавальны абрад насельніцтва калочынскай культуры прадстаўлены як грунтавымі (Новы Быхаў, Ніжняя Тошчыца, Тайманава і інш.), так і курганнымі (Колас, Вароніна) пахаваннямі па абрадзе крэмацыі. Абодва тыпы пахаванняў маюць шмат блізкіх рыс. Крэмацыя памерлага праводзілася па-за месцам пахавання разам з пахавальным інвентаром. Рэшткі крэмацыі (кальцыніраваныя косці, попел, вуглі, рэшткі пахавальнага інвентару) засыпаліся ў яму (грунтавыя пахаванні) або змяшчаліся на гарызонце, а потым узводзіўся курганны насып. Сярод грунтавых пахаванняў пераважаюць ур-

[1]Тэкст "Плямёны калочынскай культуры" напісаў Ю. Каласоўскі.
[2]Археалогія і нумізматыка Беларусі.

навыя. У курганах пахаванні суправаджаліся пасудзінамі-прыстаўкамі на гарызонце або ў насыпе. У кургане каля в. Колас Жлобінскага раёна пахаванне VI—VII стст. было абкружана агароджай з вертыкальных калоў.

Важным вынікам вывучэння калочынскай культуры ў Беларусі з'яўляецца выдзяленне адміністрацыйна-гаспадарчых, племянных цэнтраў, вакол якіх канцэнтраваліся гнёзды паселішчаў. Адміністрацыйна-гаспадарчыя цэнтры прадстаўлены як адкрытымі паселішчамі плошчай да 2,5 га, якія налічвалі некалькі дзесяткаў жылых і гаспадарчых пабудоў (Тайманава), так і гарадзішчамі (Нікадзімава Горацкага, Вежкі Дубровенскага раёнаў).

Ва ўмовах перасялення плямён і каланізацыі ўзрастала пагроза рабаўнічых набегаў, што прымушала мясцовае насельніцтва будаваць гарадзішчы з магутнымі абарончымі ўмацаваннямі. Вельмі цікавым археалагічным помнікам V—VII стст., які адначасова можна разглядаць як помнік эпохі ваеннай дэмакратыі гэтага часу, з'яўляецца гарадзішча, выяўленае ў апошнія гады каля в. Нікадзімава на Магілёўшчыне, якое даследаваў А. Седзін[1].

Нікадзімаўскае гарадзішча знаходзіцца на беразе р. Быстрая, якая ўпадае ў Проню. Яно мае дзве пляцоўкі, добра ўмацавана валамі. Адна пляцоўка выконвала абарончую і, відаць, культавую функцыі. На другой пляцоўцы пры археалагічных даследаваннях з унутранага боку вала выяўлены рэшткі доўгай пабудовы слупавой канструкцыі. Такія пабудовы вядомы на гарадзішчах Смаленшчыны. Пабудова была падзелена на жылыя і гаспадарчыя памяшканні. У значнай колькасці знойдзены прыналежнасці ўзбраення воінаў і рыштунку конніка: шпоры, цуглі і іншыя дэталі конскай збруі. Своеасаблівымі ўпрыгожаннямі з'яўляюцца бронзавыя пальчатыя фібулы, якіх знойдзена 6 экземпляраў.

Паселішча каля в. Вежкі ўключала гарадзішча, пабудаванае на высокім узгорку, і прылеглае да яго з усходняга боку селішча-спадарожнік. Уздоўж краю пляцоўкі гарадзішча размяшчалася высокая драўляная сцяна. З унутранага боку пляцоўкі да яе прымыкалі наземныя драўляныя пабудовы гаспадарчага прызначэння. На гарадзішчы захоўвалася найбольш каштоўная маёмасць абшчыны (запасы харчавання, гаспадарча-бытавы інвентар і інш.). Радавыя члены абшчыны жылі на адкрытым неўмацаваным селішчы-спадарожніку, размешчаным побач з гарадзішчам. У час раскопак на селішчы былі даследаваны дзве невялікія паўзямлянкавыя жылыя пабудовы плошчай 16 м². У цэнтры пабудоў, якія мелі зрубавую канструкцыю сцен, побач з цэнтральным апорным слупам размяшчаліся адкрытыя агнішчы. Запасы харчавання жыхары захоўвалі ў ямах-скляпах побач з жытлом.

Шматлікія знаходкі гаспадарча-бытавога інвентару (жорнаў, сярпоў, крэсіваў, шылаў і інш.), прадметаў бронзаліцейнага і ювелірнага рамёстваў (тыгляў, л'ячак) сведчаць аб адносна высокім узроўні развіцця сельскагаспадарчай прамысловасці і рамяства. Найвялікшую цікавасць уяўляе калекцыя жаночых упрыгожанняў. Упрыгожанне галавы складалі спіральныя венчыкі, скроневыя кольцы з пашыранымі серпападобнымі канцамі з бронзы і срэбра. Шыю і грудзі ўпрыгожвалі бронзавыя грыўні і маністы са шкляных і бурштынавых пацерак, невялікія ажурныя падвескі са срэбра. На запясці рук адзяваліся бронзавыя бранзалеты з філігранна выкананай арнаментацыяй.

Высокі ўзровень развіцця рамяства, арыентаванага на абслугоўванне як племяннай арыстакратыі, так і простага насельніцтва прылеглай акругі, багаты і прэстыжны набор ювелірных упрыгожанняў, зброя сведчаць аб тым, што паселішчы Нікадзімава і Вежкі ў VI—VII стст. з'яўляліся важнымі племяннымі цэнтрамі, якія кантралявалі значную тэрыторыю.

---

[1] *Седин А.А.* Новые городища Восточной Беларуси // Магілёўшчына. Вып. 3. Магілёў, 1992. С. 19.



Выгляд гарадзішча V—VIII стст. каля в.Нікадзімава Горацкага раёна (рэканструкцыя па матэрыялах раскопак А.Седзіна)

Своеасаблівая гістарычная мяжа для насельніцтва калочынскай культуры Беларускага Падняпроўя прыходзіцца на канец VII — пачатак VIII ст. Асноўнай рысай гэтага перыяду з'яўляецца складанне на вялізнай прасторы лясной і лесастэпавай зон Усходняй Еўропы новых этнакультурных утварэнняў, вядомых па "Аповесці аб мінулых часах". Што тычыцца тэрыторыі Беларусі, то гэта племянныя саюзы крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў. Прыток новага насельніцтва з паўднёвых раёнаў Падняпроўя прывёў да рэзкіх змен у матэрыяльнай культуры і лёсе насельніцтва рэгіёна. У выніку ваенных сутычак з прышэльцамі ў агні пажараў на мяжы VII—VIII стст. гінуць старыя племянныя цэнтры: гарадзішчы Калочын, Нікадзімава, Вежкі ў Беларускім Падняпроўі, Тушамля і Дзямідаўка на Смаленшчыне і многія іншыя. Частка насельніцтва, якое ацалела ў ходзе ваенных сутыкненняў з прышэльцамі, была выцеснена далей на поўнач, на тэрыторыю віцебскага Падзвіння, другая, — якая засталася на месцы, прыняла ўдзел у фарміраванні новых этнакультурных супольнасцей у Падняпроўі — крывічоў і радзімачаў.

Усе даследчыкі аднадушныя ў вывадах, што паходжанне калочынскай культуры звязана з помнікамі папярэдняга часу на гэтай тэрыторыі, у прыватнасці з кіеўскай культурай III—V стст. Пытанне аб этнічнай прыналежнасці калочынскай культуры застаецца дыскусійным. Некаторыя даследчыкі ўключаюць яе ў балцкі этнічны масіў. Яны ўказваюць на адсутнасць генетычных сувязяў з мясцовымі ўсходнеславянскімі старажытнасцямі наступнага перыяду і на распаўсюджанне балцкіх назваў рэк у Верхнім Падняпроўі[1], другія даследчыкі гавораць аб славянскім характары калочынскіх помнікаў. Трэція лічаць, што калочынская культура балцкая, але знаходзілася пад моцным уплывам славян. Не выключана, што менавіта гэта адпавядае сапраўднасці[2].

**Плямёны пражскай культуры.** На поўдні Беларусі выяўлены бясспрэчна славянскія помнікі пражскай археалагічнай культуры. Упершыню такія помнікі былі адкрыты ў Чэхіі ў наваколлі Прагі і таму атрымалі назву культуры

---

[1]*Мядзведзеў А.М.* Насельніцтва Беларусі ў жалезным веку (VIII ст. да н.э. — VIII ст. н.э.) // Беларускі гістарычны агляд. 1994. Т. 1. Сш. 1.

[2]Нарысы гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Ч. 1. С. 55.

пражскага тыпу. Гэта самыя раннія помнікі, славянская прыналежнасць якіх даказана археалагічным шляхам. На тэрыторыі Усходняй Еўропы выяўлены помнікі тыпу Карчак па назве сяла ў Жытомірскай вобласці, каля якога яны шырока вывучаліся[1]. Адсюль узнікла і рабочая назва культуры Прага—Карчак. Найбольш істотныя прыкметы культуры славян выяўляюцца ў формах ляпных пасудзін, домабудаўніцтве і пахавальнай абраднасці.

Помнікі пражскай культуры адкрыты ў паўднёвай частцы Беларусі — па рэках Прыпяць і Ясельда. Сярод іх ёсць паселішчы, якія існавалі ўжо ў V ст.[2] На Украіне і ў паўднёвай частцы Беларусі славянскія помнікі прадстаўлены пераважна паселішчамі плошчай ад 0,3 да 1,5 га. Яны размешчаны звычайна групамі па 3—4 паселішчы блізка адно ад аднаго. Паўзямлянкі былі заглыблены ў грунт на 0,5—1,2 м. На паселішчы яны размяшчаліся групамі або бессістэмна. У VIII—IX стст. паселішчы забудоўваліся паралельнымі радамі. У сярэдзіне жытла, у далёкім ад увахода куце знаходзіліся печы-каменкі авальнай або круглай формы.

Добра даследаваным славянскім помнікам другой паловы 1-га тысячагоддзя н.э. з'яўляюцца гарадзішча і селішча каля в. Хатомель (Хотамель) Столінскага раёна. Невялікае гарадзішча авальнай формы ўмацавана двумаваламі і ровам. У культурных напластаваннях вылучаюцца два гарызонты. У ніжнім гарызонце знойдзены толькі ляпныя пасудзіны карчакскага тыпу. Тут былі выяўлены неарнаментаваныя слабапрафіляваныя гаршкі і невялікія гліняныя патэльні, тыповыя для старажытнасцей славян. Датаванне VII ст. пацвярджаецца знаходкай жалезнага наканечніка аварскай стралы.

У верхнім больш познім гарызонце культурнага слоя гарадзішча Хатомель на ўчастках, якія прымыкаюць да вала, прасочаны рэшткі наземных слупавых пабудоў. Побач з карчакскай керамікай знойдзена шмат ляпной славянскай керамікі VIII—IX стст., у меншай колькасці — пасудзін, зробленых з дапамогай ганчарнага круга.

У другім перыядзе свайго існавання гарадзішча належала больш заможнай частцы абшчыны. Аб гэтым сведчаць знаходкі — рэчы ваеннага побыту — жалезныя наканечнікі дзід і стрэл, пласцінкі ад панцыра, бляшка ад партупеі, цуглі. Такія рэчы звычайна належалі да ўзбраення старажытных дружыннікаў. Гарадзішча магло быць месцам сходаў старэйшын і дружыннікаў, калі ў славян адбываўся працэс выдзялення абшчыннай знаці.

Простае насельніцтва знаходзілася побач на неўмацаваным даволі вялікім паселішчы, дзе адкрыта 16 заглыбленых у грунт жылых пабудоў. Кожная з іх даўжынёй ад 3 да 6 м. Падлога ў жылым памяшканні была земляная. У адным з куткоў яго заўсёды знаходзілася глінабітная печ, узведзеная на драўляным каркасе.

На паселішчы ў час раскопак не выяўлена прадметаў узбраення і каштоўных упрыгожанняў. Былі знойдзены жалезныя наральнікі ад рала, якое ўжывалася для апрацоўкі зямлі, сярпы, восці для лоўлі рыбы, тачыльныя брускі, праслачкі для прадзіва. Такія знаходкі характэрны для вясковага паселішча, жыхары якога займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбнай лоўляй. Жыхары паселішча карысталіся вылепленымі рукамі глінянымі пасудзінамі на працягу ўсяго IX ст. У канцы IX ці пачатку X ст. з'явіўся посуд, зроблены з дапамогай ганчарнага круга[3].

Археалагічныя помнікі каля Хатомеля — сведкі паступовага распаду патрыярхальна-родавага ладу. У апошні перыяд існавання гарадзішча на ім

---

[1] *Русанова И.П.* Славянские древности VI—VII вв. Культура пражского типа. М., 1976. С. 5—54.

[2] *Вяргей В.С.* Актуальныя праблемы археалогіі славян 5—10 стст. у Беларускім Палессі // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. артыкулаў. Мн., 1992. С. 13—22.

[3] *Кухаренко Ю.В.* Средневековые памятники Полесья. М., 1961. С. 22—27.




Пальчатыя фібулы (зашпількі) V—VIII стст. з гарадзішча Нікадзімава

знаходзіліся прадстаўнікі знаці і сярод іх узброеныя дружыннікі. Побач на паселішчы жылі тыя, хто араў, сеяў і збіраў збожжа, гадаваў жывёлу.

Помнікі славян VII—X стст. у Беларусі займаюць тую ж тэрыторыю, што і старажытнасці пражскай культуры, выходзячы за яе межы толькі на поўначы[1]. Археалагічныя даныя сведчаць, што ў апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. адбываліся значныя змены ў гаспадарчым і грамадскім развіцці славян.

**Ваенная дэмакратыя і зародкі дзяржаўнасці ў славян.** Старажытныя летапісы перадаюць паданні, з якіх вынікае, што славяне не былі абарыгенамі на абшарах лясной зоны Усходняй Еўропы. Паводле паведамлення летапісаў, славяне пачаткова жылі на Дунаі. Адны даследчыкі лічаць, што спачатку славяне знаходзіліся ў Вісла-Одэрскім міжрэччы, іншыя адстойваюць думкі аб лакалізацыі славян у прыпяцка-сярэднедняпроўскім рэгіёне, трэцяя група вучоных змяшчае славян на шырокіх прасторах ад Одэра да Дняпра[2]. У VI ст. славяне ўключыліся ў працэс Вялікага перасялення народаў. Яны сяліліся на землях Візантыйскай імперыі, з'явіліся на Балканах. На ўсходзе славяне паступова выйшлі да вярхоўяў Дняпра, Дона і Акі, Ладажскага возера. Розныя славянскія плямёны мелі шмат агульнага ў гаспадарцы, грамадскім жыцці, побыце і культуры. Таму сацыяльна-эканамічныя з'явы ва ўсіх славян у раннім сярэднявеччы адбываліся прыкладна аднолькава.

Візантыйскі гісторык VI ст. Пракоп Кесарыйскі пісаў: "Гэтыя плямёны не кіруюцца адным чалавекам, але здаўна жывуць у народапраўстве, і таму ў іх шчасце і няшчасце ў жыцці абмяркоўваюцца разам"[3]. Адсюль вынікае, што ў славян у VI—VIII стст. яшчэ захоўваўся родавы лад, яны жылі родавымі абшчынамі. Гэта пацвярджаецца звесткамі пра славян Маўрыкія: "Іх нікім чынам нельга схіліць да рабства ці падпарадкавання ў сваёй краіне... Тых, хто знаходзяцца ў іх у палоне, яны не трымаюць у рабстве, як іншыя плямёны, на працягу неабмежаванага часу, але абмяжоўваюць (тэрмін рабства) пэўным часам і прапаноўваюць ім на выбар: ці жадаюць яны за пэўны выкуп вярнуцца дадому ці жадаюць заставацца там (дзе яны знаходзяцца) у становішчы свабодных і сяброў".

Няма сумнення ў тым, што ў славян існавалі рабства і гандаль рабамі. Колькасць рабоў папаўнялася за кошт палонных, якіх славяне забіралі сотнямі і тысячамі ў выніку ваенных паходаў на землі Візантыйскай імперыі. Славяне звычайна бралі палонных для таго, каб прадаць іх у рабства ці атрымаць за іх выкуп. Калі гэта не ўдавалася, то праз пэўны час палонныя заставаліся сярод славян як свабодныя.

У славян адбываўся працэс разлажэння родавых адносін. Змяненні ў жыцці славян адлюстроўваў "Земляробчы закон", які быў складзены ў другой палове VIII ст. і прымяняўся на тэрыторыі Усходняй Рымскай імперыі

---

[1]Археалогія Беларусі. Т. 2. С. 337—348.
[2]*Седов В.В.* Происхождение и ранняя история славян. М., 1979. С. 7—44.
[3]Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 23.

пасля засялення яе славянамі. Гэта помнік звычаёвага права, які ствараўся на працягу доўгага часу. Паводле яго даных, у славян вярхоўным уладальнікам зямлі з'яўлялася суседская абшчына. Але ворныя землі былі ў прыватным уладанні абшчыннікаў. Лугі, лясы і іншыя ўгоддзі заставаліся ў агульным карыстанні. Пашыраючы свае палі, земляробы рабілі заімкі, выпальваючы дрымучыя лясы. У славян працягвала існаваць сельская абшчына[1].

Ворныя землі, якія апрацоўваліся земляробамі паасобку, ужо сталі адасабляцца як уласнасць асобных абшчыннікаў. "Земляробчы закон" забараняў парушэнне мяжы чужога валодання. Селянін, які заараў чужую зямлю, пазбаўляўся расчышчанага ўчастка, але не прысуджаўся да пакарання. Уласнасць на зямлю яшчэ поўнасцю не замацавалася.

Славянскай абшчыне быў уласцівы дуалізм, характэрны для ўсялякай суседскай абшчыны. Гэты дуалізм заключаўся ў супрацьлегласці паміж старымі правамі абшчыны як калектыва і правамі селяніна-ўласніка, які паступова вызваляўся з-над кантролю абшчыны. Земляроб быў і непасрэдным вытворцам, які працаваў на зямлі, і яе ўладальнікам. Паміж членамі абшчыны ўзнікала расслаенне. З асяроддзя збяднелых людзей утваралася залежнае сялянства, якое яшчэ не страціла сваёй свабоды, але ўжо стаяла на сацыяльнай лесвіцы ніжэй, чым свабодныя абшчыннікі.

"Земляробчы закон" ведае і рабскую працу. Рабы названы ў пяці артыкулах гэтага закона ў якасці пастухоў. Цяжка сказаць, ці выкарыстоўвалася праца пастухоў толькі ў жывёлагадоўлі, ці яна прымянялася таксама ў іншых сферах гаспадарчай дзейнасці.

У славянскім грамадстве ў VI—VII стст., паводле пісьмовых крыніц — паведамленняў Пракопа Кесарыйскага і Маўрыкія, вызначаліся тры сацыяльныя групы. Першая група свабодных і ў маёмасна-сацыяльным сэнсе раўнапраўных абшчыннікаў, якія складалі выключную большасць родаплемянных славянскіх аб'яднанняў. Другая група — рабы. Трэцяя група — кіруючая вярхушка — племянная славянская знаць[2].

Тады ў славян існавала малая сям'я, пра што сведчаць памеры жытла. Квадратныя паўзямлянкі мелі плошчу ад 6 да 20 м$^2$. Сярэдняя плошча складала 10—12 м$^2$. Вакол жытла размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы. Тут захоўваліся прылады працы, асабістыя рэчы. Гэта сведчыць аб вядзенні малой сям'ёй самастойнай гаспадаркі. Адначасова ў славян захоўвалася таксама вялікая сям'я. Паўзямлянкі ў шэрагу выпадкаў размяшчаюцца групамі ("кустамі" ці "гнёздамі") на невялікай адлегласці. Яны звычайна налічваюць ад 4 да 10 пабудоў у групе[3]. Гаспадары гэтых паўзямлянак — члены вялікай сям'і (патраніміі), былі звязаны агульнымі гаспадарчымі інтарэсамі, відаць, кроўнароднаснымі сувязямі, культам аднаго продка.

У часы засялення Балканскага паўвострава ў славян захоўвалася родаплемянная арганізацыя. Занятая тэрыторыя размяркоўвалася ў адпаведнасці з племянным прынцыпам. Кожнае племя атрымлівала ўласную вобласць, дзе асядала і стварала свае паселішчы. Аднак у выніку вялікага перамяшчэння славянскіх мас, якія рознымі шляхамі траплялі на Балканскі паўвостраў, адбываліся значныя перамяшчэнні асобных плямёнаў, і нярэдка здаралася так, што ў адной вобласці абасноўваліся групы розных плямён. Тут родаплемянныя прынцыпы саступалі месца тэрытарыяльным. Гэтым тлумачыцца тое, што назвы некаторых славянскіх плямён былі новымі. Яны звязаны не з імем

[1]*Липшиц Е.Э.* Византийское крестьянство и славянская колонизация (преимущественно по данным земледельческого закона) // Византийский сборник. М.;Л., 1945. С. 122—123.

[2]*Литаврин Г.Г.* Этносоциальная структура славянского общества в эпоху поселения на Балканах (VI—VII стст.) // Этносоциальная и политическая структура раннефеодальных славянских государств и народностей. М., 1987. С. 34.

[3]*Русанова И.П.* Славянские древности VI—VII вв. М., 1976. С. 49.



Прадметы ўзбраення і амуніцыі конніка часоў ваеннай дэмакратыі:
1—2 — наканечнікі коп'яў; 4, 5, 6 — наканечнікі стрэл;
3 — фрагмент партупеі; 7 — спражка; 8 — шпора
(гарадзішча Нікадзімава Горацкага раёна, V—VIII стст.)

якога-небудзь роданачальніка, а з мясцовай назвай. У візантыйскіх крыніцах VII—VIII стст. занятая кожным асобным племем вобласць звычайна носіць назву "славінія", што мае этнічна абагульняючы сэнс. На балканскіх землях з'явілася значная колькасць "славіній", якая адпавядала расселеным тут славянскім плямёнам. На чале асобных плямён, г. зн. асобных славіній, працягваў знаходзіцца племянны правадыр.

Захоп вялікіх абласцей выклікаў сур'ёзныя змены сацыяльнай структуры славянскіх плямён. У першую чаргу памнажае свае багацці ваенна-племянная вярхушка. У яе рукі трапляла ільвіная доля здабычы — рабы, зброя, жывёла, каштоўнасці. Потым яна становіцца ўладальнікам найбольш пладародных зямель на захопленай тэрыторыі. У выніку перасялення быў дадзены новы штуршок працэсу маёмасна-сацыяльнага расслаення, што па сутнасці азначала крок у бок дзяржаўнай арганізацыі[1].

Ваеннае кіраўніцтва звычайна дазваляла правадырам вылучыцца з асяроддзя астатняй родаплемяннной арыстакратыі. Іх апорай станавілася дружына — аб'яднанне прафесійных воінаў, якія страцілі сувязь са сваімі родамі і абшчынамі. У дружыне адзіным сувязным звяном станавілася асабістая адданасць правадыру і зацікаўленасць у яго поспехах.

Фарміруецца асобная палітычная арганізацыя. Яе органы кіравання — вярхоўны правадыр, савет старэйшын, народны сход. Пры гэтым народны сход складаўся з усіх свабодных мужчын, здольных насіць зброю. Такая форма арганізацыі грамадства і яго кіравання з часоў надрукавання вынікаў даследаванняў Люіса Моргана атрымала назву "ваеннай дэмакратыі"[2].

Эпоха ваеннай дэмакратыі — гэта час несупынных міжпляменных войнаў. Ваенныя сутыкненні заканчваліся рабаўніцтвам. Пераможцы захоплівалі жывёлу, зерне, футры і рабоў. Паўсядзённая пагроза ваеннага нападу з боку чужых плямён выклікала неабходнасць у абарончых збудаваннях. Пасёлкі размяшчаліся на мысах стромкага берага ракі і ўмацоўваліся з напольнага боку валам і ровам. Плошча ўмацаваных гарадзішчаў звычайна невялікая (45 х 85 м). На тэрыторыі Беларусі вядомы дзесяткі гарадзішчаў банцараўскай археалагічнай культуры V—VII стст., аб чым гаварылася вышэй. Паўсюдна ваенная дэмакратыя была формай пераходнага перыяду да класавага грамадства, да ўтварэння дзяржавы. Месца ваеннай дэмакратыі ў агульнай перыядызацыі першабытнага грамадства знаходзіцца на яго заключным этапе, напярэдадні ўзнікнення дзяржавы.

Узнікалі племянныя органы кіравання, а з імі — племянная арыстакратыя. З яе асяроддзя вылучаліся правадыры, адной з галоўных функцый якіх

[1]*Ангелов Д.* Проблемы предгосударственного периода на территории будущего Болгарского государства // Этносоциальная и политическая структура раннефеодальных славянских государств и народностей. М., 1987. С. 9.

[2]*Морган Л.Г.* Древнее общество. Л., 1934. С. 74, 87, 177.

становіцца кіраванне ваеннымі мерапрыемствамі. У племянных аб'яднаннях звычайна вылучаліся два тыпы ваенных кіраўнікоў. У адных грамадствах імі былі племянныя правадыры. Яны выконвалі грамадзянскія, ваенныя, а таксама жрэчаскія функцыі. У іншых выпадках разам з грамадскім правадыром быў асобны — ваенны — кіраўнік. З цягам часу паміж старой арыстакратыяй, якая абапіралася на традыцыйныя інстытуты, і ваеннымі правадырамі ўзнікла барацьба за ўладу. Старая вярхушка часцей за ўсё аказвалася адсунутай на задні план. Вынік гэтай барацьбы ў многім вызначаў формы будучай дзяржаўнасці.

Некаторыя даныя аб грамадскім ладзе ў славян можна атрымаць з моваэнаўства. Мовазнаўцы лічаць, што распад праславянскай мовы адбываўся ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н.э. З гэтых даных вынікае, што ў часы Вялікага перасялення народаў у славян на чале роду стаяў рэальны старэйшына — самы стары, вопытны, а таму паважаны прадстаўнік роду. Магчыма, гэта быў дзед, а на чале племя станавіўся правадыр ("вождь"). Вельмі верагодна, што такі галава першапачаткова выбіраўся на савеце ці вечы. Ён быў часовым правадыром для выканання якой-небудзь канкрэтнай задачы, напрыклад ваеннай.

У праславянскім слоўніку былі тэрміны, якія адлюстроўвалі ваенную лексіку. Так, існавала некалькі абазначэнняў бітвы — "бітва", "бой", "вайна". Таксама было некалькі слоў для абазначэння войска — "войска", "дружына", "полк". Можна нагадаць некалькі назваў воіна — "воін", "лучнік", "коннік". Выкарыстоўвалася слова "меч", запазычанае з германскай мовы. Гэта сведчыць аб тым, што племянным княжанням была ўласціва і некаторая ваенная функцыя абароны сваёй тэрыторыі, сваёй маёмасці і захопу чужога дабра[1].

У славянскай мове да VI—VII стст. н.э. складвалася элементарная тэрміналогія, звязаная з правам: "рад", "парадак", "судзіць", "закон", "віна", "кара". Аднак у ёй няма агульнаславянскага слова для абазначэння дзяржавы. Найбольш старажытны тэрмін "держава" ў гэтым значэнні прысутнічае не ва ўсіх мовах. Паказальна, што запазычанымі з'яўляюцца назвы амаль усіх прадстаўнікоў пануючага слоя і асабліва кіраўнікоў дзяржавы: слова "князь" паходзіць з гоцкай мовы "кунінг", "кесар" — ад рымскага імя Цэзар, "кароль" — ад імя франкскага кіраўніка Карла Вялікага (у славян для абазначэння сваіх уладароў пачало выкарыстоўвацца не раней X ст.). Славянскае па паходжанні слова "вождь" азначала племяннога кіраўніка, і толькі слова "владыка" магло азначаць кіраўніка буйнога калектыву людзей тыпу дзяржавы ці рэгіёна[2].

Як бачна, у праславянскай мове да VI—VII стст. існавала лексіка, якая сведчыць аб сацыяльнай дыферэнцыяцыі ў грамадстве, але лексіка для абазначэння асноўных дзяржаўных паняццяў яшчэ не склалася. Гэта звязана з тым, што найбольш старажытныя славянскія дзяржавы ўтварыліся ўжо пасля распаду праславянскага адзінства ў выніку рассялення славян і ўваходжання іх у кантакты з прадстаўнікамі іншых народаў.

Такім чынам, у славян VI—VIII стст. адбываўся распад родавых адносін. Яшчэ захоўваліся такія рэшткі родавых адносін, як, напрыклад, вялікая патрыярхальная сям'я. Аднак славянскія плямёны, як аб гэтым гавораць іх назвы, складваліся на тэрытарыяльнай аснове і былі аб'яднаннем тэрытарыяльных абшчын. Неаднаразова даследчыкі адзначалі, што ў параўнанні са старой родавай арганізацыяй дзяржава адрозніваецца перш-на-перш падзелам падданых дзяржавы па тэрытарыяльных дзяленнях. Такі тэрытарыяльны падзел складаўся ў славян у выглядзе тэрытарыяльна-племяннай арганізацыі, якая аб'ядноўвала суседскія сельскія абшчыны.

---

[1]*Супрун А.Е.* Введение в славянскую филологию. Мн., 1980. С. 163.
[2]Там жа. С. 64.

## 2. Усходнеславянскія саюзы плямён

У Верхнім Падняпроўі і Падзвінні на тэрыторыі Беларусі ў VIII—X стст. сфарміраваліся некалькі аб'яднанняў усходніх славян. Яны ўяўлялі сабой даволі ўстойлівыя этнічныя супольнасці дрыгавічоў, крывічоў-палачан, радзімічаў. У аснове гэтых супольнасцей ляжалі не столькі родаплемянныя, колькі тэрытарыяльныя, эканамічныя і палітычныя сувязі. Цяпер гісторыкі звычайна лічаць іх "саюзамі плямён". У этнаграфічных адносінах гэтыя супольнасці можна называць пранароднасцямі. Адначасова яны былі пачатковымі дзяржаўнымі ўтварэннямі тэрытарыяльна-палітычнага характару ці прадзяржавамі, у летапісе абазначанымі тэрмінамі "княжанні"[1]. На чале племянных княжанняў стаялі правіцелі, якія мелі тытул "светлы князь", паводле паведамлення "Аповесці аб мінулых часах" ("Повесть временных лет).

Стварэнню княжанняў садзейнічалі развіццё мірных сувязяў паміж плямёнамі, ці ваенныя перамогі адных плямён над другімі, ці, нарэшце, неабходнасць барацьбы з агульнай знешняй небяспекай. У час заняпаду родаплемяннога грамадства і ў перыяд ваеннай дэмакратыі складваліся сацыяльна-палітычныя супольнасці, аб'яднаныя адзінай уладай, адноснай агульнасцю гаспадарча-культурнага жыцця, тэрыторыі і інш. Утварэнне такіх супольнасцей садзейнічала ўзмацненню моўных і культурных сувязяў паміж асобнымі плямёнамі, іх змешванню і трансфармацыі ў новыя этнасацыяльныя супольнасці — народнасці.

Памылковым з'яўляецца сцвярджэнне аб тым, быццам паводле археалагічных даных немагчыма прасачыць станаўленне ўсходнеславянскіх аб'яднанняў і засведчыць рэальнае існаванне "племянных саюзаў, якія мелі свае акрэсленыя прыкметы, што адрознівалі б іх адзін ад аднаго"[2]. Разважаць так — значыць зусім адкінуць важнейшыя дасягненні славяна-рускай археалогіі за ўвесь час яе існавання [3].

**Крывічы-палачане.** Крывічы займалі значныя абшары Усходняй Еўропы. Гэта вялікае аб'яднанне плямён, якія жылі ў вярхоўях Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі, на поўдні Чудскага возера. Звесткі аб іх змешчаны ў "Аповесці аб мінулых часах" пры апісанні падзей IX—X стст. і папярэдняга часу. Пра крывічоў пісаў таксама візантыйскі гісторык X ст. Канстанцін Парфірародны.

Па-рознаму выводзяць гісторыкі назву "крывічы": ад прозвішча старэйшага роду Крыў (Крыва), што найбольш верагодна; ад слоў "крэўныя" (блізкія па крыві, у сэнсе параднёныя), ад імя язычніцкага першасвяшчэнніка Крыва — Крывейтэ, ад "крывізны" гарыстай мясцовасці і інш.[4]

Даследчыкамі вывучаліся на тэрыторыі рассялення крывічоў-палачан гарадзішчы і паселішчы ў Віцебску, Полацку, Лукомлі[5]. Але найбольш значны матэрыял па гісторыі насельніцтва выяўлены ў Віцебскай вобласці ў курганных могільніках. Дакладна ўстаноўлена, што для полацкіх крывічоў характэрна археалагічная культура доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі, у якой прысутнічае шмат элементаў матэрыяльнай культуры ўсходніх балтаў. Смаленскія крывічы вельмі блізкія да полацкіх па мове і культуры. Таму ў этнаграфічных адносінах яны звычайна разглядаюцца як полацка-смаленская група плямён.

У некаторых пісьмовых крыніцах старажытныя курганы названы "валатоўкамі". На Віцебшчыне сярод мясцовага насельніцтва такая назва рас-

---

[1]Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1972. Ч. 2. С. 8.

[2]*Загарульскі Э.М.* Заходняя Русь IX—XIII стст. Мн., 1998. С. 19.

[3]*Седов В.В.* Восточные славяне в VI—XIII вв. С. 5—8.

[4]*Рогалеў А.Ф.* Да пытання аб паходжанні крывічоў // Весці АНБ. Сер. грамад. навук. 1992. № 1. С. 116—118.

[5]*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978. С. 26—55.

Рассяленне ўсходніх славян і іх суседзяў у IX—XII стст.

паўсюджана дагэтуль. Паводле народных паданняў, тут як быццам пахаваны волаты (волат — персанаж беларускай міфалогіі, асілак высокага росту). Назва "валатоўкі" пашырана на поўначы Беларусі і ў сумежных раёнах Смаленшчыны, Пскоўшчыны, Латвіі, у мінулым карэнных землях крывічоў.

Могільнікі крывічоў другой паловы 1-га тысячагоддзя складаюцца з доўгіх (валападобных), падоўжаных і круглых у плане насыпаў вышынёй 1—2 м, у якіх змешчаны рэшткі крэмацыі памерлых. У Віцебскай вобласці вывучаны курганы V—VII стст. атокінскага варыянта банцараўскай культуры. На беразе возера Сенніца ў Гарадоцкім раёне каля в. Дарахі выяўлена 11 курганных могільнікаў трох перыядаў: трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н.э. банцараўскай культуры, IX ст. з крэмацыяй памерлых і канца X — пачатку XI ст. з трупапалажэннем.

Фарміраванне крывічоў — вынік асіміляцыі прышлымі славянамі мясцовых балцкіх і заходнафінскіх плямён, паступова славянізаваных. Гэта пацвярджаюць выразныя археалагічныя матэрыялы. Курганныя могільнікі полацкіх крывічоў VIII—X стст. даследаваліся на Віцебшчыне каля вёсак Баркі, Глінішча, Рудня (Полацкі раён), Бяскатава, Вышадкі, Смалькі (Гарадоцкі раён). Трупаспаленне амаль заўсёды знаходзілася пад насыпам, на гарызонце. Часта перапаленыя косці сабраны ў неглыбокай ямцы, зверху якой змешчаны перакулены ўверх дном невялікі ляпны гаршчок[1]. Большасць курганоў бедныя на інвентар ці зусім яго не маюць. Зрэдку сустракаюцца курганы з вялікай колькасцю пашкоджаных агнём упрыгожанняў, распаўсюджаных у балтаў, характэрных таксама для культуры смаленскіх доўгіх курганоў: бронзавыя трапецападобныя падвескі, шыйныя грыўні, бранзалеты, маністы, у якіх чаргуюцца шкляныя сінія пацеркі з бронзавымі спіралепадобнымі трубачкамі-пранізкамі — дэталямі вянкоў, што насіліся на галаве, касцяныя птушкі. Славянскімі рысамі курганоў IX—X стст. з'яўляюцца абрад трупаспалення і наяўнасць ляп-

[1] *Штыхаў Г.В.* Крывічы. С. 41—60, 115—126.

ных гаршкоў з акруглым плячом у верхняй частцы тулава, якое захавана і ў кераміцы, зробленай пазней на ганчарным крузе.

Курганныя могільнікі VIII—IX стст. адлюстроўваюць другую стадыю ці хвалю славянскай каланізацыі ў Беларускім Падзвінні. Але гэта не прывяло да канчатковай славянізацыі насельніцтва. Лета-літоўскія элементы ў культуры доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі, як і на Смаленшчыне, займаюць значнае месца. Каланізуючы лясную зону, уступаючы ў цесную сувязь з мясцовым насельніцтвам, славяне пераймалі ў большай ці меншай ступені культурна-этнаграфічныя асаблівасці балтаў, унаследавалі элементы іх матэрыяльнай культуры. Новая этнічная супольнасць, якая фарміравалася ў працэсе змешвання славян з мясцовымі балтамі, была, відаць, славянамоўнай.

У канцы X ст. паяўляюцца круглыя курганы з пахавальным абрадам трупапалажэння, якія канчаткова выцесніў крэмацыю. Такія помнікі вывучаліся археолагамі каля вёсак Пуцілкавічы, Бельчыца, Чарневічы, Лісна, Сінчукі, Кублішчына, Плусы і іншых у Віцебскай вобласці[1]. Для полацкіх і смаленскіх крывічоў у XI—XII стст. характэрны пэўны тып упрыгожанняў — бранзалетападобныя драцяныя кольцы з завязанымі канцамі дыяметрам 5—11 см, якія насілі жанчыны каля скроняў на павязцы.

Акрамя скроневых бранзалетападобных кольцаў ёсць іншыя этнавызначальныя прыкметы ў матэрыяльнай культуры крывічоў-палачан. Для іх касцюма характэрна шматлікасць упрыгожанняў — гэта падковападобныя спражкі (фібулы), зааморфныя бранзалеты, вітыя шыйныя грыўні з петлепадобнымі канцамі, пазалочаныя шкляныя пацеркі, мноства бразготак, пласцінавыя падвескі-конікі. Характэрнай рысай жаночага касцюма крывічоў былі маністы, у якіх пацеркі спалучаліся з металічнымі бразготкамі.

У Беларускім Паазер'і пры раскопках курганоў у пахаваннях выяўлены тыпова балцкія галаўныя вяночкі — вайнагі, якія састаўляліся са спіральных пранізак пры дапамозе бляшак, звычайна з ціснёным арнаментам. Падобныя вяночкі знойдзены ў Браслаўскім, Міёрскім, Талачынскім, Шклоўскім раёнах. Да некаторых вайнагаў падвешваліся скроневыя кольцы, якія лічацца славянскімі ўпрыгожаннямі[2].

Своеасаблівасцю вызначаецца таксама касцюм крывічоў-мужчын. Аб шматлікасці яго ўпрыгожанняў сведчаць падковападобныя спражкі (фібулы), ліраподобныя спражкі, пярсцёнкі, абшыванне адзення і галаўных убораў металічнымі пранізкамі.

У летапісе крывічы названы пад 859 г. Паводле летапіснага паведамлення, яны плацілі даніну варагам. У 862 г. крывічы разам з плямёнамі прагналі варагаў за мора, адкуль яны прыйшлі. Аднак потым, як паведамляе летапіс, чудзь, наўгародскія славяне, крывічы заклікалі да сябе нарманскіх князёў. Тут гаворыцца пра Полацк, пра тое, што заснавалі яго крывічы, а варагі (нарманы) у ім прышлыя[3].

Вялізнае аб'яднанне крывічоў у канцы 1-га тысячагоддзя распалася на групы — полацкую, смаленскую, пскоўскую (паводле назваў іх галоўных гарадоў).

Крывічы прымалі ўдзел у паходах князя Алега (907) і Ігара (944) супраць грэкаў. На аснове племяннога княжання крывічоў-палачан склалася буйное Полацкае княства — самастойная моцная сярэднявечная дзяржава на тэрыторыі Беларусі. Насельніцтва Полацкай зямлі і прадстаўнікі мясцовай дынастыі князёў названы "крывічамі" ў летапісах пад 1127, 1129, 1140,

---

[1]*Штыхаў Г.В.* Крывічы. С. 16—19.

[2]*Дучыц Л.У.* Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIV стст.: Гісторыка-археалагічны нарыс. Мн., 1991. С. 74 (мал. 37).

[3]Полное собрание русских летописей (далей — ПСРЛ). М., 1962. Т. 2. С. 14.

1162 гг. Да яе належалі гарады Полацк, Віцебск, Менск, Лукомль, Браслаў, Ізяслаўль (Заслаўе), Лагойск, Орша, Копысь, Барысаў.

У старажытных летапісах насельніцтва Полацкай зямлі называецца таксама "палачанамі". Летапісцы лічылі, што гэта назва паходзіць ад назвы ракі Палата – правага прытоку Заходняй Дзвіны, ля вусця якой заснаваны першапачатковы Полацк. Палачане – група плямён, што вылучылася з крывіцкага аб'яднання з цэнтрам у Полацку, ад якога атрымала першапачатковую сваю назву. У XI–XII стст. і ў больш познія часы палачанамі называлі жыхароў Полацка або ўсёй Полацкай зямлі.



Нагруднае жаночае ўпрыгожанне жыхароў Паўночнай Беларусі XI ст.

На славяна-балцкім сумежжы ўзнік тапонім "крывічы", размешчаны ланцугом на заходняй ускраіне Полацкай зямлі. Ад этноніма "крывічы" паходзяць назвы вёсак у Зэльвенскім, Іўеўскім, Салігорскім, Глыбоцкім, Пінскім, Докшыцкім, Ашмянскім, Мядзельскім, Смаргонскім раёнах Беларусі.

Тапанімічныя даныя сведчаць аб тым, што крывічы-палачане ў IX–XI стст. пранікл і ў Верхняе Панямонне. Тут на паўночным захадзе сучаснай беларускай тэрыторыі фіксуецца асноўная колькасць тапонімаў, утвораных ад этноніма "крывічы". Гэты этнонім успрымаўся менавіта ў этнічным сэнсе ў адрозненне ад назвы "палачане", якая была палітыка-геаграфічным абазначэннем крывіцкага насельніцтва з іх цэнтрам у Полацку[1].

У некаторых выпадках назва "крывіцкія землі" захоўвалася за тэрыторыяй Беларусі да першай чвэрці XIV ст. У латышскай мове тэрмін "крывічы" замацаваўся для вызначэння ўсходніх славян.

**Дрыгавічы.** Гэта адно з усходнеславянскіх летапісных племянных аб'яднанняў, што ў IX–XIII стст. займала вялікую тэрыторыю сучаснай Беларусі і ў пазнейшым часе разам з крывічамі і радзімічамі з'явілася асновай для фарміравання беларускай народнасці.

Дрыгавічы рэдка згадваюцца ў старажытных пісьмовых крыніцах. У самым аўтарытэтным і дакладным старажытным летапісе – "Аповесці аб мінулых часах" ("Повесть временных лет") яны пачынаюць упамінацца ў шэрагу летапісных плямён (паляне, драўляне, северане, славене), у яе ранняй, не датаванай частцы. Найбольш ранні ўпамін гаворыць аб рассяленні славян, што прыйшлі з Падунаўя: "...те же словене пришедше седоша по Днепру и нарекошася поляне, а друзии деревляне, зане седоша в лесех, а друзии седоша межи Припетью и Двиною и нарекошася дреговичи, а инии седоша на Двине и нарекошася полочане, речкы ради, яже втечь в Двину, именем Полота, от сея прозвашася полочане"[2].

У прыведзеным паведамленні летапісца перш за ўсё трэба звярнуць увагу на месцы рассялення асобных летапісных плямён. Яны паказаны летапісцам на вялікім абшары (што сведчыць аб шырокім кругаглядзе аўтара) і прыстасаваны да мясцовасці ў агульных рысах, па выразных геаграфічных

[1]*Рогалеў А.Ф.* Крывіцкія "сляды" ў тапаніміі Беларусі // Весці АНБ. Сер. грамад. навук. 1987. № 3. С. 109–115.

[2]ПСРЛ. Т. 2. С. 5.

арыенцірах. Для дрыгавічоў гэта гучыць вельмі прыблізна — "...седоша межи Припетью и Двиною..."

Другая акалічнасць першага летапіснага ўпаміну дрыгавічоў заключаецца ў тым, што змешчаны яны ў ліку несумненна славянскіх плямён. Гэта адразу вызначае іх этнічнае паходжанне і прыналежнасць. Дадзенаму важнейшаму пытанню прысвечаны і другі летапісны ўпамін дрыгавічоў: "...се бо токмо словенеск язык в Руси — поляне, деревляне, новегородьци, полочане, дьрьговичи, северо, бужане, зане седять по Бугу, послеже (не) волыняне..." Крыху ніжэй летапісец зноў пералічвае плямёны ўсходнеславянскага сусвету: "...и живяху в мире поляне, и деревляне, и северо, и радимичи, и вятичи, и хорвати, дулеби же живяху по Бугу, где ныне волыняне, а уличи, тиверци седяху по Бугу и по Днепру..."[1]

Як паказваюць летапісныя паведамленні, летапісец вялікую ўвагу ўдзяляў этнічнаму вызначэнню плямён як аднаму з важнейшых і актуальнейшых у гісторыі плямён і народаў крытэрыю. Такая ўвага летапісца да гэтага пытання дае нам магчымасць і на сённяшні дзень вызначыць этнічныя карані і этнічную прыналежнасць нашых продкаў і адпаведна сучасных нашчадкаў і сучаснага насельніцтва Беларусі.

У адным з ранейшых летапісных паведамленняў летапісец зноў згадвае дрыгавічоў у адным шэрагу з найбольш развітымі ўсходнеславянскімі плямёнамі: "... И по сеи братьи (кіеўскія князі Кій, Шчэк, Харыў і сястра іх Лыбедзь. — *П.Л.*) почаша держати род их княжение в полях, а в деревлях свое, а дрьговичи свое, а словене свое в Новегороде, а другое на Полоте, иже и полочане, от сих же и кривичи, ... также северо..."[2]

Такім чынам, на падставе летапісных паведамленняў старажытнейшым насельніцтвам Паўднёвай, Цэнтральнай і Заходняй Беларусі з'яўляліся дрыгавічы, якія паходзілі ад старажытных славян, што прышлі з Падунаўя, належалі да ўсходнеславянскай моўнай групы ("...се бо токмо словенск язык..."), займалі значную тэрыторыю сучаснай Беларусі ("...межи Припетью и Двиною...") і былі ў ліку найбольш развітых усходнеславянскіх плямён (мелі сваё "княжение"). Прыведзенымі вышэй паведамленнямі летапісца практычна вычэрпваюцца звесткі пісьмовых крыніц аб дрыгавічах. Іх кароткі, урыўкавы характар не дазваляе стварыць поўнага ўяўлення аб жыцці гэтага летапіснага племені і прымушае шукаць і выкарыстоўваць даныя іншых крыніц. Такімі крыніцамі на землях рассялення дрыгавічоў з'яўляюцца археалагічныя помнікі, матэрыялы даследавання якіх значна дапаўняюць пісьмовыя паведамленні. Археалагічныя даныя сталі асноўнай крыніцай ведаў аб тэрыторыі рассялення дрыгавічоў, іх сацыяльна-эканамічным развіцці, гаспадарцы, развіцці культуры, культурных і эканамічных сувязях з суседнімі і аддаленымі землямі.

На тэрыторыі рассялення дрыгавічоў засталіся шматлікія археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі, селішчы, гарадзішчы, вывучэнне якіх працягваецца на працягу XIX—XX стст.[3]

Раскопкі курганных могільнікаў дрыгавічоў дазваляюць вылучаць характэрныя для іх рысы пахавальнага абраду і інвентару. Па іх распаўсюджанні акрэслена тэрыторыя рассялення дрыгавічоў, што значна ўдакладняе агульныя паведамленні летапісу.

Пахавальныя курганы дрыгавічоў круглыя ў плане і маюць паўсферычную форму. Ля падножжа яны абкружаны невялікай канаўкай. Часцей за ўсё іх вышыня 1—1,5 м і дыяметр 9—12 м. Аднак бываюць курганы вышынёй 0,15—0,20 м, дыяметрам 3,5—4 м і вышынёй да 3 м, дыяметрам 17—18 м. У

[1]ПСРЛ. Т. 2 С. 8, 9.
[2]Там же. С. 8.
[3]*Лысенко П.Ф.* Дреговичи. Мн., 1991. С. 11—17.



Курганны могільнік X–XI стст. каля Заслаўя (1928)

кожным кургане звычайна выяўлена адно пахаванне. Аднак сустракаюцца і па тры нябожчыкі ў адным кургане.

Звычайна ў могільніку некалькі дзесяткаў курганоў. Буйныя могільнікі ў некалькі соцень курганоў сустракаюцца рэдка (каля в. Мохаў – 620 курганоў, в. Рычоў – 270, в. Лянеўка – 300, в. Валасовічы – 267, в. Марулін – 500). Могільнікі часта разворваюцца і нават поўнасцю зносяцца.

Найбольш ранні пахавальны абрад дрыгавічоў — трупаспаленне. Зверху вогнішча і рэшткаў спалення насыпалі курган. Часам рэшткі спалення памяшчалі ў гліняную пасудзіну — урну, ставілі яе ў насыпе кургана. Датуецца гэты пахавальны абрад канцом X – пачаткам XI ст. Пахаванні вельмі бедныя на інвентар, бо рэчы гінулі ў вогнішчы.

З прыняццем хрысціянства язычніцкі (паганскі) звычай крэмацыі нябожчыка змяняецца трупапалажэннем. Звычайна нябожчыка клалі галавой на захад на дзённую паверхню зямлі, ачышчаную рытуальным вогнішчам, і паверх яго насыпалі курган. Часам нябожчыка змяшчалі на земляной падсыпцы, а ў больш познія часы — у падкурганнай магіле.

Пахаванні з трупапалажэннем значна багацейшыя на інвентар, пакладзены нябожчыку ў магілу. Звычайна гэта самыя неабходныя ў жыцці рэчы, што, на думку родзічаў, будуць неабходныя памерламу і на тым свеце. Часцей за ўсё клалі гліняныя гаршкі, нажы, жаночыя ўпрыгожанні. Зрэдку сустракаюцца прылады працы (сярпы, сякеры), узбраенне (коп'і). Некаторыя знаходкі вельмі карысныя ў вызначэнні асобных рыс жыцця дрыгавічоў. Манеты ў складзе жаночых упрыгожанняў даюць даволі блізкую дату пахавання, у тым ліку і час пахавальнага абраду.

Асобныя жаночыя ўпрыгожанні ўласцівы толькі жанчынам пэўнага племені. Па іх распаўсюджанні можна вызначыць тэрыторыю рассялення гэтага племені больш канкрэтна і дэталёва, чым агульных і недакладных паведамленнях летапісу. Для дрыгавічоў характэрным упрыгожаннем з'яўляліся вялікія металічныя пацеркі, ажурныя (з дроту) або суцэльныя цыліндрычнай ці авальнай формы (радзей — круглыя), упрыгожаныя напаянымі шарыкамі металічнай (срэбранай) зерні. Іх называюць буйназярністымі і прызнаюць этнавызначальным прадметам дрыгавічоў. Іх насілі па адной альбо некалькі штук у

складзе нізкі пацерак. Яны былі распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі дрыгавічоў, а часам і за яе межамі, куды траплялі гандлёвым шляхам або як здабыча ў час ваенных набегаў ці захопу ў палон жанчын-дрыгавічанак.

На падставе распаўсюджання дрыгавіцкіх этнавызначальных пацерак тэрыторыя рассялення дрыгавічоў выглядае наступным чынам: на поўначы мяжа (паласа) іх рассялення праходзіць ад Заслаўя на Лагойск і Барысаў, адкуль па міжрэччы Бярэзіны і Друці ідзе ў напрамку на Рагачоў (Кісцяні, Задрудцце); на ўсходзе мяжа з радзімічамі праходзіць у асноўным па Дняпры да нізоўяў Прыпяці; на поўдні мяжа з палянамі і драўлянамі (да Гарыні) пралягае блізка ад сучаснай дзяржаўнай граніцы, а на левабярэжжы Гарыні з валынянамі верагодней за ўсё па лініі Роўна — Луцк; на захадзе дрыгавічы засялялі левабярэжжа Нёмана і Сярэдняе Пабужжа (да Драгічына Надбужнага).

Мяркуючы па распаўсюджанні найбольш ранніх дрыгавіцкіх курганоў з абрадам трупаспалення і найбольш ранняй ляпной керамікай, можна сказаць, што рассяленне дрыгавічоў на асноўную іх тэрыторыю адбывалася з поўдня, у асноўным па цячэнні рэк. Раннія пахаванні дрыгавічоў вядомы на Дняпры, Бярэзіне, у Панямонні, Сярэднім Пабужжы. На правабярэжжы Прыпяці выяўлены таксама помнікі славянскай пражскай культуры (VI—VII стст.) і славянскай культуры Лукі-Райкавецкай, што змяніла яе (VIII—X стст.), на якіх прасочваецца паслядоўны працэс развіцця бытавой керамікі ад VI да IX—X стст. Дрыгавіцкі гліняны посуд, несумненна, паходзіць ад керамікі паселішчаў тыпу Лукі-Райкавецкай (Хатомель, Гарадзішча, Радасць, Дружба), што дазваляе гаварыць аб генетычным паходжанні дрыгавічоў ад насельніцтва культуры Лукі-Райкавецкай, а праз яе — ад папярэдняга насельніцтва пражскай культуры тыпу Карчак.

Асноўная частка насельніцтва дрыгавічоў пражывала ў сельскай мясцовасці на селішчах і гарадзішчах. У X—XI стст. у дрыгавічоў пачынаюць узнікаць гарады (Тураў — 980 г., Берасце — 1019 г., Меньск — 1067 г., Пінск — 1097 г., Случаск — 1097 г., Клечаск — 1127 г., Гародня — 1127 г., Драгічын Надбужны — 1142 г., Рагачоў — 1142 г., Мазыр — 1155 г.). Да X—XI стст. адносіцца ўзнікненне Наваградка, Ваўкавыска, Слоніма. У XIII ст. узнікаюць Камянец (1276), Кобрын (1287). Узнікненне і развіццё гарадоў з'яўляецца яркім сведчаннем высокага ўзроўню эканамічнага і сацыяльнага развіцця дрыгавічоў.

Аснову гаспадаркі дрыгавічоў складалі земляробства і жывёлагадоўля. Аб гэтым сведчаць матэрыялы археалагічнага вывучэння курганоў, селішчаў, гарадоў. Земляробствам і жывёлагадоўляй займалася насельніцтва сельскіх паселішчаў і гарадоў. Разам з тым раскопкі Турава, Брэста, Пінска, Мінска, Давыд-Гарадка, Гродна, Навагрудка, Ваўкавыска, Слоніма, Клецка, Слуцка сведчаць аб высокім узроўні мясцовага жалезаапрацоўчага, ювелірнага, касцярэзнага, скураапрацоўчага, дрэваапрацоўчага і ганчарнага рамёстваў. Мясцовыя майстры выраблялі жалеза і сталь, рабілі наварку на рэжучы край жалезных вырабаў (сярпы, сякеры, нажы, нажніцы), складаную слясарную падгонку дэталяў складаных вырабаў (замкі, ключы), выраблялі прылады працы (сярпы, косы, сякеры, нажы, нажніцы і г.д.), узбраенне (наканечнікі дзід, стрэл), прадметы хатняга ўжытку.

У матэрыяльнай культуры археалагічных помнікаў дрыгавічоў у першую чаргу звяртае на сябе ўвагу арыентаванасць мясцовай вытворчасці на выраб прылад працы, інструментаў і прадметаў паўсядзённага ўжытку, а не раскошы і аздабленняў. Другая характэрная рыса — агульнасць сыравіны, тэхналагічных працэсаў і ўзораў вырабаў у дрыгавічоў з шырокім колам усходнеславянскіх плямён X—XIII стст.

Знаходкі прадметаў мясцовага і замежнага паходжання сведчаць аб гандлёвых сувязях з Валынню, Сярэднім Падняпроўем, Паўночным Прычар-

намор'ем, Прыбалтыкай (валынскія праслачкі, кіеўскія шкляныя бранзалеты, прычарнаморскія амфары, прыбалтыйскі бурштын і г.д.).

Дрыгавічы займаліся таксама паляваннем, рыбалоўствам, прадзеннем, ткацтвам.

Аб высокім узроўні сацыяльнага развіцця дрыгавічоў сведчаць існаванне свайго "княжання" яшчэ да ўключэння ў склад Кіеўскай Русі ў X ст., вылучэнне дрыгавіцкіх зямель у Тураўскае княства пры першым жа падзеле Кіеўскай Русі Уладзімірам Святаславічам (вялікі князь кіеўскі) у 988 г., існаванне мясцовай дружыны ў тураўскіх князёў. Сацыяльную няроўнасць пацвярджаюць бедныя і багатыя інвентарам курганныя пахаванні.

На падставе летапісных паведамленняў і матэрыялаў археалагічных раскопак дрыгавічы паўстаюць як адно з найбольш развітых усходнеславянскіх плямён, што знаходзіліся на шляху інтэграцыі ўсіх усходнеславянскіх плямён у адзіную супольную ўсходнеславянскую народнасць.

**Радзімічы.** У летапісе паведамляецца, што радзімічы, як і вяцічы, прыйшлі з прапольскіх зямель ("родимичи бо и вятичи от ляхов"), назву сваю атрымалі ад імя Радзім, які ўзначальваў іх, і рассяліліся ў Пасожжы ("седоста Радим на Сьжю"). Летапісец адзначае, што жылі ў міры паміж сабой паляне, драўляне, севяране, радзімічы і іншыя плямёны. Але побыту радзімічаў, таксама як вяцічаў і севяран, ён дае адмоўную характарыстыку з пункту гледжання хрысціянскай маралі. Жылі яны ў лясах быццам дзікуны, спажывалі брудную ежу, было ў іх брыдкаслоўе перад бацькамі і нявесткамі. На язычніцкіх "бесаўскіх ігрышчах" танцавалі і спявалі, выкрадалі сабе жонак, якіх мелі па дзве-тры. Летапісец, відаць, згусціў фарбы, супрацьпастаўляючы "дзікунскі" побыт радзімічаў і іншых жыхароў лясной паласы побыту кіеўскіх палян.

Цікавыя звесткі паведаміў летапісец пра пахавальныя звычаі: "А калі хто паміраў, тварылі трызну над ім... спальвалі мерцвяка, а потым, сабраўшы косці, укладвалі ў малы сасуд і ставілі на слупах пры дарогах, што робяць вяцічы і цяпер. Гэтага ж звычаю трымаліся крывічы і іншыя паганыя, што не ведаюць закону Божага, а самі сабе ўстанаўляюць закон..."[1]

З летапіснага паведамлення, датаванага 885 г., мы даведваемся, што ў канцы IX ст. радзімічы плацілі даніну спачатку хазарам (Хазарскаму каганату), а потым кіеўскаму князю Алегу. У радзімічаў існавала свая племянная вярхушка і ваенная арганізацыя. У 907 г. яны ўдзельнічалі ў паходзе на грэкаў у складзе рознаплемяннога войска князя Алега. Пасля смерці Алега радзімічы, мабыць, адмовіліся падпарадкоўвацца кіеўскаму князю. Летам 984 г. ваявода кіеўскага князя Уладзіміра, якога празвалі Воўчы Хвост, на р. Пяшчань перамог войска радзімічаў і яны былі канчаткова ўключаны ў склад Кіеўскай дзяржавы.

Летапісец лакалізаваў радзімічаў на р. Сож. Больш дакладна тэрыторыю іх размяшчэння можна акрэсліць з дапамогаю археалагічных матэрыялаў. Вывучэнне старажытнасцей радзімічаў пачалося ў XIX ст. Але першая абагульняючая праца па іх гісторыі была апублікавана Б. Рыбаковым у пачатку 30-х гадоў XX ст. і не страціла значэння да нашага часу[2].

У пасляваенныя гады вывучэнне радзімічаў было працягнута археолагамі. Накоплены археалагічны матэрыял даў магчымасць удакладніць тэрыторыю іх рассялення. Радзімічы займалі прастору ў міжрэччы Дняпра і Дзясны па берагах Сожа і яго прытокаў. На поўначы граніца іх рассялення праходзіла на поўдзень ад Гарадка, Мсціслава, Чавус, Новага Быхава. Тут іх межы шчыльна сутыкаліся з межамі крывічоў. На паўднёвы ўсход ад радзі-

---

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 9, 10; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі VI—XV стст. Мн., 1998. С. 13.

[2]*Рыбакоў Б.А.* Радзімічы // Працы секцыі археалогіі Беларускай Акадэміі навук. Мн., 1932. Т. 3. С. 81—151.

мічаў жылі севяране. На захадзе граніца заходзіла на правы бераг Дняпра і сутыкалася з межамі дрыгавічоў. Граніца паміж радзімічамі і вяцічамі праходзіла на захад ад р. Судасць.

Курганы радзімічаў маюць паўсферычную форму, сярэднюю вышыню 1—1,5 м, дыяметр 6—10 м. Могільнікі налічваюць звычайна некалькі дзесяткаў насыпаў, зрэдку некалькі соцень кургаоў. Курганны могільнік каля в. Гадзілавічы налічваў да 400 насыпаў. Яго лічаць некропалем старажытнага Рагачова.

Курганны могільнік каля в. Дзям'янкі Добрушскага раёна пакуль адзіны на тэрыторыі радзімічаў некропаль, які існаваў на працягу некалькіх соцень гадоў (VII—XII стст.). Раннія пахаванні зроблены па абрадзе трупаспалення на месцы насыпання кургана або непадалёку ад яго. Зрэдку нябожчыка спальвалі ў зрубавай дамавіне.

З XI ст. у радзімічаў пахавальны абрад трупаспалення паступова пачаў змяняцца трупапалажэннем у дамавінах, калодах або трунах. Перад пахаваннем месца ачышчалі агнём альбо тут рассыпалі прынесены попел. Пахаванні зроблены на гарызонце і ў падкурганных ямах. Звычайна хавалі аднаго нябожчыка ў кургане, здараліся і двайныя пахаванні[1]. Нябожчыкаў змяшчалі галавой на захад, але сустракаецца і ўсходняя арыенціроўка, якая ў радзімічаў трапляецца часцей, чым у іншых усходніх славян.

У мужчынскіх пахаваннях апрача гліняных гаршкоў знаходзілі нажы, крэсівы, паясныя кольцы і спражкі.

Аснову галаўнога жаночага ўпрыгожання складалі сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, якіх насілі ад аднаго да васьмі. Характэрнай асаблівасцю жаночага касцюма з'яўляюцца шкляныя рознакаляровыя пацеркі ў спалучэннях з прывескамі рознай формы. Так, у кургане каля в. Шапчыцы Рагачоўскага раёна ў жаночым пахаванні выяўлены тры ніткі дробнага бісеру, дзве ніткі шкляных пацерак і адна нітка срэбраных металічных прывесак з выявай галавы быка. Шыйныя грыўні радзімічанак мелі розную форму (пласцінчатыя, кручаныя, ромбападобныя, з заходзячымі адзін за другі канцамі). Срэбраныя арабскія манеты X ст. іншы раз выкарыстоўваліся ў якасці прывесак. Рэдкая для курганных старажытнасцей знаходка — гліняная льячка, у якой плавілі каляровы метал, знойдзена ў кургане каля в. Юдзічы Рагачоўскага раёна. Гэта было пахаванне ювеліра. З рэдкіх знаходак неабходна нагадаць бязмен з кургана каля в. Гадзілавічы. У кургане каля в. Каласы ў скураным мяшэчку, які насіўся на поясе нябожчыцы, знаходзілася пяць шыракарогіх лунніц, бронзавы пярсцёнак і 143 шкляныя дробныя пацеркі. Гэта асобна пакладзены дар памёршай.

У навуцы даўно абмяркоўваецца пытанне аб ляшскім паходжанні радзімічаў. У наш час спецыяльна і шырока даследаваны заходнеславянскі ўплыў на раннесярэднявечную Беларусь паводле рэчавых крыніц. Устаноўлена, што такі ўплыў адбываўся на працягу VIII—XIII стст. у розных формах і ахопліваў непасрэдна ці ўскосна практычна ўсю тэрыторыю беларускіх зямель. Спачатку пераважалі этнічныя кантакты VIII—X і нават XI стст., якія не выключалі магчымага перасялення груп заходніх славян. Аднак арэал радзімічаў не вылучаецца пераважнай прысутнасцю заходнеславянскіх элементаў у параўнанні з іншымі абласцямі Беларусі. Ён нават саступае ў гэтых адносінах заходнім раёнам міжрэчча Дняпра і Нёмана, басейна Заходняга Буга і Панямоння, якое знаходзілася на пагранічччы з Польскай дзяржавай і яцвягамі[2].

Цяпер даказана, што папярэднікамі радзімічаў у Пасожжы былі плямёны калочынскай культуры V—VIII стст. Генетычная сувязь паміж куль-

---

[1] *Богомольников В.В.* Курганы радимичей // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн.,1994. № 4. С. 23.

[2] *Перхавко В.Б.* Западнославянское влияние на раннесредневековую культуру Белоруссии // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 26.





а б в

**Упрыгожанні жанчын:**

а — крывічанкі; б — дрыгавічанкі; в — радзімічанкі

турамі гэтых дзвюх груп насельніцтва не прасочваецца. А вось на паўднёвым усходзе Беларусі добра адчуваецца ўплыў славянскай раменскай культуры VIII—X стст., у сувязі з чым выказана меркаванне, што прарадзіму радзімічаў трэба шукаць на тэрыторыі раменскай культуры[1].

Зародкі ўсходнеславянскіх народаў на землях радзімічаў узнікаюць у канцы 1-га тысячагоддзя н.э.: Гомель, Чачэрск, Крычаў, Прупой (Слаўгарад). Выказваюцца меркаванні, што Гомель мог выконваць ролю племяннога цэнтра радзімічаў. У выніку шырокага археалагічнага вывучэння Гомеля ўстаноўлена, што паселішча калочынскай культуры на яго тэрыторыі існавала ў VI—VII стст. Яно ўключала невялікае гарадзішча каля ўпадзення рэчкі Гамеюк у Сож і значны неўмацаваны пасёлак. У VIII—X стст. на паселішчы адбылася змена жыхароў. Замест плямён калочынскай культуры сюды пранікла іншае славянскае насельніцтва. Паселішча ў Гомелі пачало выконваць ролю племяннога цэнтра радзімічаў. У X—XI стст. вакол яго пачынае засяляцца сельская акруга. У XII ст. Гомель ператвараецца ў буйны ваенна-адміністрацыйны цэнтр Ніжняга Пасожжа і ў цэнтр хрысціянскай культуры. У XII — пачатку XIII ст. Гомель быў самы буйны горад у Пасожжы[2].

На тэрыторыі радзімічаў размяшчаўся добра вывучаны археолагамі феадальны замак канца XI — першай паловы XIII ст. каля в. Вішчын, дзе знойдзены багаты скарб. Неўмацаваныя паселішчы вывучаліся на берагах р. Покаць каля в. Нісімкавічы Чачэрскага раёна.

Аснову эканомікі радзімічаў складала земляробства, аб чым сведчаць матэрыялы раскопак сельскіх і гарадскіх паселішчаў. У радзімічаў былі развіты разнастайныя рамёствы, сярод якіх першарадным з'яўлялася кавальскае. Аб гэтым можна меркаваць па знаходках на паселішчы X ст. горна для атрымання жалеза каля в. Нісімкавічы і кавальскіх вырабаў з прымяненнем складаных тэхналогій.

Аб сувязях радзімічаў сведчаць імпартныя рэчы: бронзавая чаша, якая выраблена на Ніжняй Эльбе (в. Збораў), фігурка конніка са Скандынаўскіх дзяржаў (в. Калодзецкая), шкляны бранзалет візантыйскай вытворчасці (каля г. Чавусы). Унікальны для тэрыторыі Беларусі скарб, у які ўваходзілі 7 шыйных срэбраных грыўняў XII ст., выробленых у гарадской ювелірнай майстэрні, знойдзены каля пасёлка Козі Рог Буда-Кашалёўскага раёна.

[1]*Шинаков Е.А., Гурьянов В.Н.* Русско-радимичское пограничье // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1994. № 3. С. 256.

[2]*Макушников О.А.* В поисках древнего Гомия. Гомель, 1994. С. 59—62.

Большасць упрыгожанняў з каштоўнага металу, якія ўваходзяць у склад унікальнага скарба, схаванага ў XIII ст. на тэрыторыі замка каля в. Вішчын, таксама не мясцовага паходжання.

З тэрыторыі радзімічаў вядомы манетныя скарбы, сярод якіх ёсць раннія (IX—X стст.). У 15 пунктах у пахаваннях радзімічаў знойдзены арабскія срэбраныя манеты X—XI стст. У двух пунктах выяўлены срэбранікі кіеўскага князя Уладзіміра канца X ст., што выклікае выключную цікавасць нумізматаў.

У часы феадальнай раздробленасці (з канца XI ст.) тэрыторыя радзімічаў была падзелена паміж чарнігаўскімі і смаленскімі князямі. Пры гэтым асобныя населеныя пункты ў выніку міжусобнай барацьбы неаднаразова пераходзілі з рук у рукі. У летапісе радзімічы названы ў апошні раз пад 1169 г. як этнаграфічная адзінка ўсходняга славянства.

**Славянская каланізацыя ў землях Панямоння.** На працягу другой паловы 1-га тысячагоддзя н.э. славяне асвоілі амаль усю тэрыторыю Беларусі, паступова асімілявалі балтамоўнае насельніцтва, якое тут пражывала. Асіміляцыя балтаў Верхняга (Беларускага) Панямоння адбывалася ў IX—XI стст. Частка балцкага насельніцтва была, відавочна, выціснута на паўночны захад, невялікая яго частка, верагодна, была знішчана, але асноўная маса заставалася жыць на ранейшых месцах, утвараючы часам даволі значныя астравы сярод прышлых славян. Яшчэ ў XII—XIII стст. такія астравы меліся ў раёне Докшыц, Радашковіч, Пяршай, Дзятлава, Ружан. Пастаяннай этнічнай граніцы паміж славянамі і балтамі ў раннім сярэднявеччы не было. Адсутнічала яна і на заключным этапе каланізацыі[1].

На думку буйнейшага польскага даследчыка Г.Лаўмяньскага, літоўска-рускую (усходнеславянскую) палітычную граніцу ў XII—XIII стст. вызначалі памежныя гарады: Гродна, Ваўкавыск, Слонім, Наваградак, Заслаўе, Лагойск. Тут, па яго словах, была старажытная палітычная граніца Кіеўскай Русі, а да гэтага праходзіла племянная граніца дрыгавічоў і крывічоў у перыяд завяршэння каланізацыі. Усходнюю граніцу кампактнага лета-літоўскага насельніцтва Г.Лаўмяньскі праводзіць па лініі Мерач — Эйшышкі — Ашмяны — возера Свір — вярхоўе Дзісны[2].

На аснове пераважна лінгвістычных і этнаграфічных даных, а таксама звестак археалогіі этнічную славяна-балцкую граніцу ў канцы 1-га тысячагоддзя большасць сучасных даследчыкаў праводзіць прыблізна па лініі Дзісна — Пліса — Будслаў — Заслаўе — Рубяжэвічы — Дзераўная — Беліца — Слонім — Ваўкавыск[3]. Да XII—XIII стст. гэта граніца адсунулася на захад і паўночны захад. Славяне асвоілі значную частку правага берага Нёмана. Акружаныя балцкім насельніцтвам астраўкі славян зафіксаваны ўздоўж усяго правага берага Нёмана ад вусця Бярэзіны да Гродна.

Да нядаўняга часу пытанне аб вытоках славянскай каланізацыі Панямоння вырашалася па-рознаму. Полацкай калоніяй лічылі панёманскі край М. Любаўскі, У. Бяляеў, У. Пічэта.

На думку А. Андрыяшава і Я. Карскага, каланізацыя Панямоння ішла з зямель дрыгавічоў. М. Барсаў пісаў, што яцвягі Верхняга Нёмана былі адціснуты за Нараў і Бобр "дзякуючы ваяўнічай дзейнасці Яраславічаў" і славянскай каланізацыі з карэнных зямель крывічоў, дрыгавічоў, драўлян і палян. Паводле меркавання У. Антановіча, гарады, што існавалі на землях яцвягаў, былі заснаваны валынскімі князямі[4].

---

[1] *Зверуго Я.Г.* Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. С. 17, 197.
[2] *Łowmiański H.* Początki Polski. T. III. Warszawa, 1967.
[3] *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1998. С. 80—81.
[4] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовского государства. М., 1915. С. 18; *Барсов Н.П.* Очерки русской исторической географии. Варшава, 1885. С. 133; *Антонович В.Б.* Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV в. Киев, 1885. С. 11.

На аснове даных гідранімікі лінгвісты прыйшлі да высновы, што ўсходнія славяне, якія асвойвалі тэрыторыю на поўнач ад Прыпяці да вярхоўяў Нёмана, прыйшлі сюды з усходу (з дняпроўскага Левабярэжжа) і толькі пазней сталі распаўсюджвацца на поўнач, выціскаючы або асімілюючы больш старажытнае насельніцтва[1]. Прысутнасць у басейне верхняга цячэння Нёмана р. Рось, якая паўтарала назву "Росі дняпроўскай", пацвярджае думку аб пранікненні сюды славянскай каланізацыі з поўдня.

Да вырашэння пытання аб вытоках славянскай каланізацыі панёманскага краю рашаючае значэнне маюць даныя археалагічных даследаванняў і перш за ўсё раскопак гарадоў і курганных могільнікаў. Падчас археалагічных раскопак было ўстаноўлена, што ў Ваўкавыску першыя жыхары Шведскай гары (будучага дзядзінца), Замчышча (акольнага горада) і Муравельніка (трэцяга ўзвышша ў Ваўкавыскім археалагічным комплексе) будавалі паўзямлянкавае жытло з каркасна-слупавой і зрубавай канструкцыяй сцен і печамі-каменкамі. Паўзямлянкі са зрубавай канструкцыяй сцен у другой палове X—XI ст. былі характэрны галоўным чынам для паўднёва-заходніх тэрыторый усходніх славян, што дазваляе лічыць першых пасяленцаў Ваўкавыска выхадцамі з паўднёвых зямель усходняга славянства.

Больш пэўна вытокі і напрамкі каланізацыйнага патоку вызначаюцца на аснове керамічнага матэрыялу. У Ваўкавыску, Навагрудку і Гродне выяўлены гаршкі так званага "ранняга валынскага тыпу", з рэзка адагнутым вонкі венцам і пакатымі плечыкамі. Прысутнасць такіх гаршкоў у гарадах Беларускага Панямоння сведчыць аб удзеле нейкай групы (або груп) валынян разам з іншымі плямёнамі ў каланізацыі краю ля Навагрудка. М. Малеўская лічыць магчымым бачыць перасяленцаў з Валыні ў ліку першых насельнікаў горада[2].

Аб тым, што каланізацыя басейна Нёмана ішла ў першую чаргу з паўднёвых і паўднёва-заходніх зямель, сведчаць дакладна зафіксаваныя праявы ў пахавальным абрадзе і пахавальным інвентары курганных могільнікаў Навагрудчыны рыс, характэрных для дрыгавічоў, драўлян і валынян[3].

Верагодна, асноўнае насельніцтва ваколіц Навагрудка ў X—XI стст. складалі драўляне, дрыгавічы і валыняне, якія перасяліліся сюды ў другой палове X ст. У могільніках наваколля Навагрудка XII—XIII стст. найбольш выразна і ў большай колькасці выступаюць пахаванні валынян (в. Суляцічы) і носьбітаў культуры каменных курганоў Бугска-Нёманскага міжрэчча (в. Батароўка). Гэтыя могільнікі адлюстроўваюць другую хвалю рассялення славянскіх плямён у Верхнім Панямонні[4].

У славянскіх курганах паўночнай часткі басейна Верхняга Нёмана рысы, характэрныя для пахавальнага абраду і інвентару драўлян і валынян, зусім не прасочваюцца. Курганныя могільнікі ў басейне Верхняй Віліі (вёскі Наўры, Кастыкі і інш.) належалі змешанаму крывіцка-дрыгавіцкаму насельніцтву[5].

В. Сядоў выключае Верхняе Панямонне са складу дрыгавіцкай тэрыторыі. Да ўласна дрыгавіцкіх зямель ён адносіць толькі тую частку басейна Нёмана, якая непасрэдна прымыкае да басейна Дняпра. Уся астатняя тэрыторыя, на яго думку, была першапачаткова асвоена крывічамі і толькі ў XI—XII стст. да крывіцкага насельніцтва далучылася дрыгавіцкае[6]. Аднак у

[1]*Топоров В.Н., Трубачев О.Н.* Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962. С. 244.

[2]*Малевская М.В.* Некоторые исторические связи Новогрудка в X в. (по материалам керамики) // Краткие сообщения Института археологии (далей — КСИА). Вып. 129. М., 1972. С. 15—17.

[3]*Зверуго Я.Г.* Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. С. 197.

[4]*Павлова К.В.* Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // КСИА. Вып. 166. М., 1981. С. 83.

[5]*Зверуго Я.Г.* Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. С. 106—107.

[6]*Седов В.В.* Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970. С. 81, 107.



Касцяны выраб з выявай музыкі з Наваградка XII ст.

сувязі з гэтым звяртае на сябе ўвагу тое, што асноўны арэал культуры доўгіх курганоў, з якімі звязваюць гісторыю крывічоў, паводле даследавання Г. Штыхава, на захад далей верхняга цячэння Нёмана не заходзіць[1].

Аналіз пахавальнага абраду і рэчавага інвентару паказвае, што славянскае насельніцтва Верхняга Панямоння было змешаным. Тут выразна выступаюць розныя этнічныя элементы. Гэта сведчыць аб тым, што асваенне краю славянамі ішло з розных бакоў. Разам з тым як у абрадзе, так і ў інвентары некаторых славянскіх курганных пахаванняў паўночна-заходняга Панямоння прасочваюцца этнічныя прыкметы балцкіх (лета-літоўскіх) плямён. Гэта сведчыць аб прысутнасці сярод славянскага ў сваёй масе насельніцтва балтаў, якія зведалі славянскі культурны ўплыў і адначасова ўнеслі ў славянскае асяроддзе элементы сваёй матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Такім чынам, на рубяжы 1-га і 2-га тысячагоддзяў землі Верхняга Панямоння былі асвоены славянамі. У XI—XII стст. тут ужо існавалі ўсходнеславянскія гарады Гародня, Ваўкавыск, Слонім, Нав採градак, Турыйск, Свіслач і інш. Што датычыць летапісных звестак, то яны (у прыватнасці паведамленні аб паходах Уладзіміра і Яраслава на яцвягаў і Літву) таксама ўскосна сведчаць аб наяўнасці ў Панямонні значнага славянскага насельніцтва і жаданні кіеўскіх князёў замацаваць за сабой гэтыя землі.

## 3. Полацкае княства ў IX—XI стст.

**Полацк у IX — 60-х гадах X ст.** Гісторыю Полацкага княства трэба адлічваць ад пачатку існавання горада Полацка. Гістарычнае ядро горада сфарміравалася да IX ст. на аснове гарадзішча, якое знаходзілася на беразе р. Палаты, каля ўпадзення яе ў Заходнюю Дзвіну[2]. Да гарадзішча далучаліся перадграддзе на правым беразе Палаты і даволі вялікае селішча на левым беразе гэтай ракі[3].

Ужо ў IX ст. Полацк актыўна ўключаецца ў палітычнае жыццё ўсходнеславянскіх плямён. Гэтаму перш за ўсё спрыяла яго размяшчэнне на заходнядзвінскім адгалінаванні гандлёвага шляху "з варагаў у грэкі". Шлях гэты злучаў Чорнае і Балтыйскае моры праз сістэму волакаў паміж рэкамі Днепр, Заходняя Дзвіна і Вялікая. Росквіт шляху прыпадае на IX—X стст., што садзейнічае эканамічнаму росквіту Полацка, а таксама выспяванню ў Полацкім княстве тэндэнцыі да незалежнага існавання ад улады Кіева, князі якога імкнуліся мець кантроль над усім шляхам "з варагаў у грэкі".

Першыя летапісныя звесткі аб Полацку прыпадаюць на 862 г. Пад гэтай датай у "Аповесці аб мінулых часах" запісана, што скандынаўскі князь Рурык, які прыняў уладу ў Ноўгарадзе, пачаў раздаваць "мужам сваім" гарады, у тым ліку і Полацк[4]. Мы не ведаем імя першага князя, прынятага палачанамі, але верагодна, што па этнічным паходжанні, як "муж" Рурыка, ён быў

[1]*Штыхаў Г.В.* Крывічы. С. 7 (мал. 1).
[2]*Штыхов Г.В.* Древний Полоцк IX—XIII вв. С. 26.
[3]*Тарасаў С.В.* Полацк IX—XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998. С. 36.
[4]Повесть временных лет. М.; Л., 1950. Ч. 1. С. 18.

скандынавам. Такім чынам, Полацк трапляе пад уплыў палітыкі, якую праводзіў Рурык з мэтай поўнага падпарадкавання паўночнай часткі шляху "з варагаў у грэкі". Таму ў гарадах, у тым ліку ў Полацку, з'явіліся падначаленыя яму князі. В. Ляўко лічыць, што пасля гэтага Полацкае княства ўваходзіць у федэрацыю паўночных дзяржаў Усходняй Еўропы, чым аддаляецца ад тэрыторыі крывічоў віцебскага Падзвіння[1].

Сітуацыя, якая ўтварылася ў выніку дзеянняў Рурыка, паставіла пад пагрозу эканамічныя інтарэсы Кіеўскага княства. Кіеўскія князі Аскольд і Дзір у 865 г. (па некаторых звестках — у 867 г.) здзяйсняюць ваенны паход на крывічоў, а дакладней — пад Полацк. Вынікі гэтага паходу для нас засталіся невядомымі, бо летапісныя крыніцы абмежаваліся толькі паведамленнем, што кіеўскія князі ваявалі палачан і шмат шкоды ім нарабілі[2].

З 882 г. Полацк і землі, якія яму падпарадкоўваліся, знаходзіліся ў пастаянных палітычных і эканамічных сувязях з Кіеўскім княствам. Аб гэтым ёсць некалькі паведамленняў летапісу. У першым з іх апавядаецца пра ўдзел крывічоў у сумесным паходзе 882 г. кіеўскага князя Алега на Смаленск. Паводле другога паведамлення, Алег устанавіў даніну крывічам. Некаторыя з даследчыкаў лічаць, што пад паняццем "уставі дані" трэба разумець не накладанне даніны на заваяваныя плямёны, а рэгламентацыю даніны ўжо падначаленага ўладзе Алега племені, у якасці якога і выступалі крывічы[3]. Безумоўна, што пры пераходзе Алега, нашчадка ўлады Рурыка, з Ноўгарада ў Кіеў Полацкае княства, якое знаходзілася ў сферы інтарэсаў Ноўгарада, трапляла ў такія ж адносіны да Кіеўскага княства.

Звесткі аб паходзе князя Алега ў 907 г. на Царград, у якім удзельнічалі палачане, дазваляюць атрымаць больш дакладнае ўяўленне аб тых адносінах, што склаліся паміж Кіеўскім і Полацкім княствамі ў гэты час. Пасля заключэння міру паміж Кіеўскай дзяржавай (Русь) і Візантыяй кожны з удзельнікаў паходу атрымаў па 12 грыўняў, а асобныя гарады, у тым ліку і Полацк — дадатковыя ўзнагароджанні або "ўклады". Б. Грэкаў, разглядаючы дадзенае пытанне, указаў на магчымасць уключэння Полацка ў шэраг удзельнікаў паходу ў пазнейшай рэдакцыі летапісу, каб адзначыць падначаленне Полацкага княства ўладзе Кіева яшчэ пры праўленні князя Алега[4]. Большасць даследчыкаў прыйшла да думкі, што само згадванне ў дадзеным выпадку крывічоў пацвярджае ўдзел Полацка ў паходзе на Царград. Разам з тым трэба прызнаць магчымасць пазнейшага рэдагавання летапісу на карысць Кіева ў частцы тэксту, дзе даецца тлумачэнне, чаму некалькі гарадоў, у тым ліку і Полацк, атрымалі "ўклады". У летапісе гэта тлумачыцца тым, што "по темъ бо городомъ седяху князья под Олегом суще..."[5] Такім чынам, можна меркаваць, што Полацкае княства ўваходзіла ў склад Кіеўскай дзяржавы, але адносіны з апошняй былі намінальнымі і абмяжоўваліся толькі стасункамі, якія прадугледжвалі ўдзел ва ўзаемавыгадных ваенных мерапрыемствах.

Пасля 907 г. і да 980 г. няма ніякіх звестак аб падначаленым стане Полацка Кіеву. Да 80-х гадоў X ст. Полацк не згадваецца ў пераліку падзей, што разгортваліся вакол Кіева. Вядомы паведамленні аб удзеле крывічоў у паходзе кіеўскага князя Ігара на Візантыю ў 944 г. і згадка аб крывічах, да якіх кіеўскія князі хадзілі ў "палюддзе", змешчаны ў трактаце "Пра кіраванне дзяржавай" візантыйскага імператара Канстанціна VII Парфірароднага. Але ўжо ў X ст. крывічы не ўяўлялі сабой агульнага саюза плямён, так як падзя-

[1]*Левко О.* Начальный этап формирования Полоцкого государства // Полацк: карані нашага радавода. Полацк, 1996. С. 39.
[2]Ипатьевская летопись // ПСРЛ. Т. 2. С. 9.
[3]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. С. 64.
[4]*Греков Б.Д.* Киевская Русь. М., 1953. С. 295.
[5]Ипатьевская летопись // ПСРЛ. Т. 2. С. 22.




Полацкая зямля ў X — XII стст. (паводле Г. Штыхава)

ляліся на полацкіх, пскоўскіх і смаленскіх. У дачыненні да апошніх і магла быць ужыта агульная назва "крывічы". У трактаце Канстанціна Парфірароднага згаданы таксама некалькі гарадоў, што выплачвалі даніну Кіеву. Сярод іх пазначаны Смаленск, але адсутнічае Полацк. Гэта дало падставу Б. Рыбакову прыйсці да высновы, што Смаленск з'яўляўся самым аддаленым і паваротным пунктам палюддзя кіеўскіх князёў, якое ажыццяўлялася "па колу" (было кругавым аб'ездам зямель)[1].

Выхад Полацкага княства з-пад улады Кіева неабходна адносіць да перыяду 907—947 гг. У 947 г. кіеўская княгіня Вольга пачынае ў землях, залежных ад Кіева, ставіць пагосты і становішчы, рэгламентуючы памер даніны. Гэта дзейнасць закранула Драўлянскую зямлю, Пскоўшчыну, Наўгародчыну, Падняпроўе і Падзясенне, але не датычылася Полацкага княства. Паўднёвая накіраванасць палітыкі кіеўскага князя Святаслава, сына княгіні Вольгі, у 60—70-я гады X ст. не спрыяла збліжэнню паміж Полацкім і Кіеўскім княствамі. І як слушна падкрэсліў яшчэ ў XIX ст. М. Барсаў, імкненне замацавацца на заходнядзвінскім адгалінаванні вялікага воднага шляху "з варагаў у грэкі" і неабходнасць падтрымліваць каланізацыйны рух крывічоў адштурхоўвалі полацкіх князёў ад інтарэсаў Кіева і з'яўляліся прычынай адасобленасці Полацкага княства[2]. У падзеях 980 г. Полацкае княства выступае як незалежная дзяржава.

**Падзеі ў Полацкім княстве ў 970-х — 1003 гг.** Прыкладна ў 70-я гады X ст. у Полацку стаў княжыць Рагвалод, які, як сказана ў летапісе, "прыйшоў з-за мора". Да гэтага часу навукоўцы спрачаюцца аб яго этнічнай прыналежнасці, якая выводзіцца з тлумачэння імені князя. Адны сцвярджаюць, што гэта славянскі князь і імя яго чытаецца як "уладар рога", у значэнні "ўладар мыса"[3], іншыя ж прытрымліваюцца пункту погляду аб скандынаўскім паходжанні імя,

[1] *Рыбаков Б.А.* Мир истории. Начальные века русской истории. М., 1987. С. 78.

[2] *Барсов Н.П.* Очерки русской исторической географии начальной летописи. Варшава, 1873. С. 158.

[3] *Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. С. 70; *Ігнатоўскі У.* Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1925. С. 25.

Замах Рагнеды на Уладзіміра і заступніцтва Ізяслава за маці (мініяцюра Радзівілаўскага летапісу)

што больш верагодна[1]. Без выяўлення археолагамі пахавання князя Рагвалода вырашэнне гэтай праблемы немагчыма.

Бясспрэчным застаецца той факт, што Рагвалод адзінаўладна кіраваў усёй Полацкай зямлёй, да саюзу з якой імкнуліся і наўгародскі князь Уладзімір і кіеўскі князь Яраполк. Як сведчыць летапіснае паданне, князь Уладзімір, каб заручыцца падтрымкай з боку Полацка ў барацьбе супраць Яраполка, пасватаўся да дачкі Рагвалода Рагнеды. Апошняя, нібыта ведаючы аб нараджэнні Уладзіміра ў выніку пазашлюбных адносін паміж ключніцай Малушай і князем Святаславам, адказала словамі: “Не хочю розути робичича, но Ярополка хочю”. Праз смугу стагоддзяў да нас дайшоў асноўны сэнс падзеі 980 г. На гэтым этапе сваёй палітычнай гісторыі Полацкае княства ў спрэчцы двух князёў за ўладу ўзяло бок Яраполка. Яно імкнулася да саюза з кіеўскім княствам, але падзеі разгарнуліся не на карысць Полацка.

Летапіс паведамляе пад 980 г., што наўгародскі князь Уладзімір сабраў вялікае войска, у якое былі запрошаны скандынавы, і выступіў у паход на Полацк. Горад быў захоплены прыступам. Князь Рагвалод і яго абодва сыны былі забітыя, а Рагнеда гвалтам узята Уладзімірам у жонкі і, калі ён стаў кіеўскім князем, адвезена ў сяльцо Прадславіна каля Кіева.

Асноўным вынікам падзей 980 г. для Полацкага княства стала страта незалежнасці і ўваход яго на пэўны час у склад Кіеўскай дзяржавы. Як факт страты незалежнасці, так і факт вяртання Полацкаму княству дынастыі ў летапісе парадзены праз паданне. Згодна з ім, Рагнеда, каб адпомсціць Уладзіміру за крыўду, нанесеную ёй у 980 г., аднойчы, калі князь спаў, зрабіла няўдалы замах на яго жыццё. Князь цудам пазбег смерці і адразу вырашыў забіць жонку, але за Рагнеду заступіўся іх сын Ізяслаў і княгіня засталася жыць. Пасля рады з баярамі Уладзімір саслаў Рагнеду з сынам у крэпасць, якая пазней стала вядомай як горад Ізяслаўль (Заслаўе).

Можна меркаваць, што ў паданні пра Рагнеду адбылося сумяшчэнне рэальных фактаў і пазнейшых здагадак. Так, яшчэ М.Доўнар-Запольскім было слушна заўважана, што яно магло нарадзіцца з дружыннага эпасу ў Кіеве ў XII ст. як тлумачэнне таго, чаму Полацк змагаецца супраць Кіева[2]. Да гэтага часу памяць пра Рагнеду і Рагвалода застаецца ўвасобленай у некалькіх

[1]*Тарасаў С.В.* Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. Мн., 1991. С. 10.

[2]*Довнар-Запольский М.* Очерк истори Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия. Киев, 1891. С. 71.

мікратапонімах на тэрыторыі Беларусі. Асаблівую цікавасць уяўляе гара Рагвалода і Рагнеды ў Расонскім раёне, дзе, згодна з мясцовым паданнем, яны бышцам пахаваны[1].

Аднак не ўсё ў паведамленні пра Рагнеду міфалагізавана. Адпавядаючым рэчаіснасці трэба прызнаць існаванне сяльца Прадславіна, што змяшчалася на левым беразе ракі Лыбедзь, за два кіламетры ад гістарычнага цэнтра горада Кіева. Сама ж назва гэтага сяльца, як лічыць П.Талочка, паходзіць ад імя адной з дачок, народжанай Рагнедай ад шлюбу з Уладзімірам[2].

Дакладным фактам са звестак пра Рагнеду таксама з'яўляецца існаванне горада Ізяслаўля, часткай якога было ўмацаванне гарадзішча Замэчак, дзе маглі ў канцы X ст. знаходзіцца Рагнеда і Ізяслаў[3]. Сапраўдным неабходна прызнаць і факт вяртання Рагнеды і Ізяслава ў Полацкую зямлю, а таксама запрашэнне Ізяслава на княжанне ў Полацку.

Адносна характару гэтай падзеі нельга пагадзіцца з думкай Б. Рыбакова, які тлумачыў княжанне Ізяслава ў Полацку як праяву распаўсюджвання Уладзімірам новай адміністрацыйнай сістэмы, у межах якой кожны з сыноў кіеўскага князя атрымаў па гораду[4]. Больш правільна тлумачыць з'яўленне Ізяслава ў Полацк як аднаўленне дынастыі Рагвалодавічаў.

Пры гэтым пісьмовыя крыніцы нам нічога не паведамляюць аб дзейнасці Ізяслава на пасадзе полацкага князя. Станоўчая характарыстыка Ізяслава, змешчаная ў пісьмовых крыніцах, складзеных пад уплывам царквы, можа сведчыць аб тым, што ў час яго кіравання адбываўся працэс распаўсюджвання хрысціянства на тэрыторыі Полацкай зямлі. У 1001 г. Ізяслаў памёр. Ён пакінуў пасля сябе двух сыноў — Усяслава і Брачыслава. Першы з іх пражыў да 1003 г. Пасля гэтага Брачыслаў робіцца адзіным нашчадкам княжацкай улады ў Полацку.

**Полацкае княства ў час княжання Брачыслава Ізяславіча (1003–1044).** Полацкім князем у 1003 г. становіцца Брачыслаў, сын Ізяслава, праўнук Рагвалода. Мае сэнс меркаваць, што да 1015 г. — года смерці кіеўскага князя Уладзіміра — асноўная дзейнасць Брачыслава была скіравана на вырашэнне ўнутрыпалітычных пытанняў, якія не закраналі інтарэсаў суседніх княстваў. Адсутнасць звестак аб знешнепалітычнай актыўнасці Полацкага княства ў гэты час можа тлумачыцца дзвюма акалічнасцямі. Па-першае, Брачыслаў як сын Ізяслава (год нараджэння якога трэба адлічваць ад 980 г.) у пачатку XI ст. быў яшчэ падлеткам і не меў вопыту ў дзяржаўных справах. Па-другое, пакуль у Кіеве княжыў Уладзімір, Полацкае княства не магло праяўляць сваю ваенную актыўнасць, бо адразу б сустрэла арганізаваны адпор з боку княстваў, дзе правілі яго сыны.

Пасля смерці Уладзіміра стабільнасць у Кіеўскай дзяржаве была парушана і паміж сынамі былога кіеўскага князя разгарнулася барацьба за ўладу ў Кіеве. З 1015 г. сыны Уладзіміра аспрэчвалі прастол бацькі да таго часу, пакуль ініцыятар міжусобіцы, былы тураўскі князь Святаполк, у 1019 г. не ўцёк у Польшчу. Менавіта гэта сітуацыя стварыла спрыяльныя ўмовы для Брачыслава ў вырашэнні пытання аб поўным кантролі Полацка над заходнядзвінскім адгалінаванні шляху "з варагаў у грэкі".

З дадзенай мэтай у 1021 г. Брачыслаў ажыццявіў імклівы паход на Ноўгарад. Горад быў захоплены і разрабаваны. Калі Брачыслаў вяртаўся з Ноўгарада ў Полацк, яго сустрэлі войскі кіеўскага князя Яраслава, і ў бітве

---

[1] *Дучыц Л.У.* Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў. Мн., 1993. С. 28.

[2] *Толочко П.П.* Древний Киев. Киев, 1976. С. 90.

[3] *Заяц Ю.А.* Заславль в эпоху феодализма. Мн., 1995. С. 17.

[4] *Рыбаков Б.А.* Мир истории. М., 1987. С. 132.

на р. Судаміры, як паведамляюць крыніцы: "... и победи Ярослав Брячислава и новгородце (в) вороти Новугороду, а Брячислав бежа (к) Полотьску"[1]. Пасля перагавораў паміж Брачыславам і Яраславам апошні заключае з Полацкім княствам мір і аддае ва ўладанне полацкага князя два населеныя пункты, якія кантралявалі волакі паміж Заходняй Дзвіной і Дняпром, на шляху "з варагаў у грэкі" — Віцебск і Усвяты. Маючы не вельмі трывалае становішча ў Кіеве ў якасці вялікага князя, Яраслаў вымушаны быў заключыць мір з Полацкам, каб пазбегнуць вайны з апошнім і ўмацаваць сваё становішча.

Перадачай Віцебска і Усвят Полацкаму княству Яраслаў зняў пытанне аб далейшай барацьбе Полацка за ўмацаванне сваіх пазіцый на гандлёвым шляху, а таксама заручыўся падтрымкай усіх сваіх ваенных дзеянняў з боку Брачыслава. Атрымаўшы кантроль над волакамі, Полацкае княства эканамічна замацоўвае сваю незалежнасць.

Вышэй разгледжаныя падзеі знайшлі адлюстраванне ў скандынаўскай сазе (гістарычнай аповесці) аб Эймундзе. З гэтай сагі вынікае, што Брачыслаў пасля заключэння міру паміж ім і Яраславам тры гады правіў у Кіеве[2]. Адны з даследчыкаў адносяць магчымасць гэтай падзеі да 1019—1021 гг.[3], іншыя датуюць яе 1024—1026 гг.[4] Л. Аляксееў зусім адмаўляе магчымасць удзелу Брачыслава ў кіраванні Кіеўскім княствам і лічыць, што "двор Брачиславль" (так ён названы ў летапісе) мог быць пабудаваны не кіеўскім, а полацкім князем Брачыславам для сваіх купцоў[5]. На самай справе пытанне аб княжанні ў Кіеве Брачыслава застаецца не вырашаным. Усе вядомыя крыніцы дакладна паведамляюць толькі ад мірнай дамове паміж Брачыславам і Яраславам у 1021г.

Звесткі ж сагі маюць пэўную тэндэнцыйнасць, што вынікае пры больш уважлівым аналізе тэксту гэтай крыніцы.

Са звестак "Эймундавай сагі" мы даведваемся, што князь Эймунд з дружынай воінаў-скандынаваў перайшоў на службу да Брачыслава (у сазе названы Вартылавым). Падчас найбольшай канфрантацыі паміж Брачыславам і наўгародскім князем Яраславам (паводле сагі, Ярыцлейў) Эймунд нібыта спрыяў заключэнню мірнай дамовы паміж князямі, згодна з якой Яраслаў (пазней празваны Мудрым) заставаўся князем у Ноўгарадзе, Эймунд атрымаў ва ўладанне Полацк, а Брачыслаў — Кіеў[6]. Па меркаванні даследчыкаў, звесткі, пададзеныя ў сазе, пераклікаюцца са звесткамі, выкладзенымі ў "Аповесці аб мінулых часах", з той толькі розніцай, што ў сазе перабольшваецца роля скандынаваў у палітычнай гісторыі Полацкага княства.

Безумоўна, нельга адмаўляць прысутнасць скандынаваў у пачатку XI ст. на тэрыторыі Полацкай зямлі, што добра прасочваецца па пісьмовых і археалагічных даных. У скандынаўскіх геаграфічных творах сярод невялікай колькасці ўсходнеславянскіх гідронімаў і тапонімаў неаднаразова згадваецца р. Заходняя Дзвіна (у скандынаваў — Duna) і Полацк (у іх жа — Palteskja)[7].

У скандынаўскіх сагах налічваецца некалькі сюжэтаў, якія датычацца полацкай гісторыі[8]. Рэчы скандынаўскага паходжання выяўлены пры археалагічных даследаваннях Полацка і Віцебска, паселішчаў Пруднікі і

[1]Ипатьевская летопись // ПСРЛ. Т. 2. С. 133.

[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—X V стст.). Мн., 1998. С. 23.

[3]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. С. 94.

[4]*Заяц Ю.А.* Полоцкие события "Саги об Эймунде" // Полоцкий летописец. № 1. 1993. С. 10.

[5]*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. С. 245.

[6]Дакументы и матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.). С. 23—24.

[7]*Рыдзевская Е.А.* Древняя Русь и Скандинавия 9—14 вв. М., 1978. С. 103; *Мельникова Е.А.* Древнескандинавские географические сочинения. М., 1986. С. 35, 36, 38.

[8]*Дзярновіч С.Д.* Аб знаходжанні нарманаў у Полацку ў XI—XII стст. // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998. С. 92.

Маскавічы[1]. Разам з тым адсутнічаюць непасрэдныя сведчанні таго, што ў падзеях 1015—1026 гг. скандынавы адыгрывалі рашаючую ролю. У XI ст. варагаў можна было сустрэць сярод гандляроў, воінаў або воінаў-наймітаў. Аднак ні ў адным з усходнеславянскіх княстваў ім не пашчасціла ў XI ст. зрабіцца князямі, што імкнуліся даказаць у "Эймундавай сазе" ў дачыненні да Полацкага княства.

Перыяд праўлення князя Брачыслава Ізяславіча з 1021 па 1044 г. застаецца адным з самых недаследаваных у беларускай гісторыі. Адсутнасць якіх-небудзь крыніц пакідае магчымасць толькі для гістарычных рэканструкцый і гіпотэз. Адным з падобных дапушчэнняў лічыцца тое, што менавіта Брачыслаў заснаваў горад Браслаў, змешчаны на мяжы балцкай і славянскай супольнасцей. Аднак археалагічныя даныя толькі ўказваюць на XI ст. як на час заснавання горада і не даюць канкрэтызацыі дакладнага часу пабудовы Браслава ў межах стагоддзя[2], але паходжанне назвы горада ад імя заснавальніка — князя Брачыслава выглядае пераканаўчым.

Падобнае меркаванне мае сэнс, калі ўлічыць, што адсутнічаюць якія-небудзь звесткі аб удзеле Брачыслава ў гэты час у кіеўскіх справах. Задаволіўшы свае памкненні на ўсходзе княства, Брачыслаў развівае заходні напрамак дзейнасці — падтрыманне крывіцкай каланізацыі і распаўсюджванне сваёй улады на балцкія плямёны. Аб маштабах гэтай дзейнасці Брачыслава таксама казаць цяжка, але, відаць, заснаваннем Браслава як крэпасці на балта-славянскім памежжы быў пакладзены пачатак умацавання Полацкім княствам сваёй заходняй мяжы. Аб неабходнасці гэтых мерапрыемстваў могуць сведчыць сляды пажарышча першай паловы XI ст. на гарадзішчы Браслава[3] і перапыненне жыццядзейнасці на ўмацаваным паселішчы Гарадзец на р. Мнюта, датаванае тым жа часам[4], што можа ўказваць на ваенныя сутыкненні з заходнімі балтыйскімі суседзямі. Далейшыя мерапрыемствы ў гэтым кірунку трэба звязваць са свядомым планаваннем Полацкам абарончай лініі на мяжы з балтамі, вынікам чаго было заснаванне ўмацаваных населеных пунктаў Маскавічы, Рацюнкі, Дрысвяты[5].

Адным са спрэчных пытанняў, што ўзнікаюць пры аналізе часу кіравання Брачыслава, з'яўляецца пытанне аб далучэнні Менскай воласці да Полацкага княства. Па гэтым пытанні выказваліся даволі спрэчныя меркаванні. Адны з навукоўцаў без залішняй канкрэтызацыі імкнуліся сцвердзіць думку, што Полацк распаўсюдзіў даніну на паўночных дрыгавічоў (асноўнае насельніцтва Менскай воласці) ужо ў канцы X ст.[6], іншыя ж, наадварот, лічылі, што ў адносінах даніны гэтыя землі з'яўляліся спрэчнымі паміж Тураўскім і Полацкім княствамі, і да часу кіравання Усяслава Чарадзея тураўскія князі тут нават не збіралі даніны, таму канчаткова далучыў да Полацкага княства землі, што знаходзіліся на поўнач ад Менска, толькі Усяслаў і ў перыяд, што папярэднічаў 1063 г.[7] Найбольш абгрунтавана гэта пытанне выклаў Ю. Заяц, які даказаў, што ваенная прысутнасць крывічоў у вярхоўях р. Свіслач назіраецца ўжо ў першай палове — сярэдзіне X ст. Пасля

---

[1]*Гуревич Ф.Д.* Скандинавские находки X—XI вв. на территории Белоруссии // Скандинавский сборник. Таллинн, 1990. № 33. С. 111—117.

[2]*Семянчук Г.* Гарадзішча "Замкавая гара" ў Браславе // Гісторыя Беларусі: жалезны век і сярэднявечча. Мн., 1997. С. 63—65.

[3]*Алексеев Л.В.* Раскопки Древнего Браслава // КСИА. 1960. Вып. 81. С. 105.

[4]*Штыхаў Г.В.* Гарадзішча Гарадзец на рацэ Мнюта //Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 174.

[5]*Дучыц Л.У.* Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIV стст.: Гісторыка-археалагічны нарыс. С. 86.

[6]*Семенчук Г.Н.* Формирование границ Полоцкой земли в XI в. // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1990. С. 54.

[7]*Алексеев Л.В.* Минск и Друцк // Славяне и их соседи: Археология, нумизматика, этнология. Мн., 1998. С. 13.

падзей 980 г. гэта тэрыторыя часова адыходзіць пад адміністрацыйнае кіраванне Уладзіміра, які дадаткова будуе тут крэпасць Замэчак, што паклала пачатак гораду Ізяслаўлю. Ізяслаўль пры вяртанні Ізяслава ў Полацк адыходзіць да апошняга[1]. А вось суседняя з Ізяслаўскай Менская воласць трапляе пад уладу Полацка пасля яе перадачы Яраславам Брачыславу ў 1024 г., каб замацаваць з ім саюз для супрацьстаяння Мсціславу[2]. Уключэнне Менскай воласці ў склад Полацкага княства, безумоўна, адбылося ў час княжання Брачыслава, але з такой жа доляй верагоднасці гэта падзея магла мець месца як у 1026 г., так і ў перыяд 1038—1044 гг., калі кіеўскі князь Яраслаў ажыццявіў некалькі паходаў супраць Літвы і яцвягаў, у якіх удзел Брачыслава дапускаецца некаторымі з навукоўцаў[3]. І калі лічыцца з тэзісам аб тым, што паходы Яраслава супярэчылі інтарэсам Полацка на Панямонні[4], то зразумела, што ў першым з выпадкаў як паплечнік Яраслава па барацьбе з балтамі Брачыслаў мог атрымаць Менскую воласць у якасці своеасаблівага ўзнагароджання за ўдзел у паходах, у другім выпадку перадача Менскай воласці выглядае як жаданне пазбегнуць вайны с Полацкім княствам ва ўмовах узнікнення супярэчнасцей на Панямонні.



Воіны з Заслаўя часоў княжання Брачыслава

У 1044 г. заканчваецца перыяд княжання Брачыслава, пры якім Полацкае княства вырасла тэрытарыяльна і замацавала сваю незалежнасць эканамічна праз усталяванне кантролю над волакамі каля Віцебска і Усвят. З 1044 г. пачынаецца новы этап у полацкай гісторыі, спалучаны з дзейнасцю яго сына — Усяслава Брачыславіча.

**Час Усяслава Чарадзея (1044—1101).** З'яўленне Усяслава Брачыславіча на палітычнай арэне XI ст. было незвычайным. Само нараджэнне князя знайшло водгук у крыніцах таго часу. У летапісе гаворыцца аб тым, што маці нарадзіла яго ад чаравання і "бысть ему язвено на главе его"[5]. Застаецца невядомым, якая прыкмета была ў князя на галаве, але яна падкрэслівала асаблівае становішча Усяслава сярод іншых усходнееўрапейскіх князёў таго часу. Гэта своеасаблівасць была адзначана і ў пазнейшай мянушцы князя — Чарадзей, якая стала вынікам міфалагізацыі сучаснікамі далейшай палітычнай дзейнасці князя.

Аналізуючы пачатковы этап княжання Усяслава Чарадзея, трэба казаць аб тым, што ён з'явіўся прадаўжальнікам палітыкі свайго бацькі. Можна таксама меркаваць, што працяг яе закрануў у першую чаргу заходні кірунак,

[1]*Заяц Ю.А.* Заславль в эпоху феодализма. С. 108—112.
[2]*Заяц Ю.А.* Менская зямля: этапы фармавання // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 3. С. 11.
[3]*Загарульскі Э.М.* Заходняя Русь: IX—XIII стст. Мн., 1998. С. 62.
[4]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. С. 100.
[5]Повесть временных лет. Ч. 1. С. 168.

што знайшло ўвасабленне ва ўмацаванні ўлады Полацкага княства на тэрыторыі Ніжняга Падзвіння. Прамым адлюстраваннем гэтага працэсу трэба лічыць наступныя факты: па-першае, даннікамі Русі ў шэрагу пісьмовых крыніц называюцца балтыйскія плямёны — латгалы, лівы, земгалы, куршы і селы[1], па-другое, існаванне Герцыке (Герсіке) і Кукенойса, якія развіваюцца з XI—XII стст. як гарады-цэнтры ніжнепадзвінскіх княстваў, што знаходзіліся ў залежнасці ад Полацка, сведчыць аб спробе каланізацыі Ніжняга Падзвіння з боку полацкай княжацкай адміністрацыі[2]. Згодна з меркаваннем В. Булкіна, заснаванне Герцыке і Кукенойса дазволіла полацкім князям кантраляваць не толькі Ніжняе Падзвінне, але і рух па Балтыйскім моры[3].

Некаторыя з даследчыкаў, аналізуючы пахавальны інвентар, прыйшлі да высновы аб магчымасці ваенна-адміністрацыйнага пранікнення славян у Ніжняе Падзвінне ў больш ранні перыяд — у канцы X — пачатку XI ст.[4]

Э. Мугурэвіч дапускае, што землі Усходняй Прыбалтыкі ўваходзілі ў сферу данінных адносін з боку ўсходнеславянскіх князёў пачынаючы з XI ст.[5] Мэтазгодна лічыць, што канчатковае афармленне данінных адносін з боку Полацка ў дачыненні ніжнепадзвінскіх балтаў адбылося ў XI ст. і толькі пасля замацавання Брачыславам славяна-балцкай мяжы і заснавання Усяславам Герцыке і Кукенойса.

Характар падпарадкавання балтаў Ніжняга Падзвіння Полацку праяўляўся як у выплаце даніны, так і ў форме аб'яднання дружын[6]. У час княжання Усяслава Чарадзея адносіны з балцкімі плямёнамі насілі мірны, дамоўны характар, сведчаннем чаго з'яўляецца адсутнасць у старажытнарускіх летапісах звестак аб ваенных сутыкненнях дружыны Усяслава з балтамі. Да таго ж ажыццяўленне актыўнай знешняй палітыкі Усяславам Чарадзеем у другой палове XI ст. было б немагчымым пры існаванні пагрозы з боку балцкіх плямён, што вымагала б неабходнасць канцэнтрацыі дружыны на заходнім рубяжы Полацкага княства. Паражэнне полацкіх войскаў, нанесенае ім земгаламі ў 1106 г., калі загінула каля 9 тыс. палачан[7], сведчыць на карысць таго, на колькі значныя ваенныя сілы магло адцягнуць супрацьстаянне балтам ва ўмовах вайны. Падтрыманне міру з балтамі стала вынікам працягу Усяславам балцкай палітыкі Брачыслава, якая грунтавалася на двух прынцыпах — захаванні мірных адносін з балтамі і распаўсюджанні на балцкую тэрыторыю дамоўна-данінных адносін.

У першыя два дзесяцігоддзі свайго княжання Усяслаў не ўносіў змен і ў паўднёвы напрамак палітыкі Брачыслава, развіваючы мірныя стасункі з Кіеўскім княствам, палітычная стабільнасць і моц якога да 1054 г. падтрымлівалася Яраславам Мудрым, а пазней Ізяславам, які са сваімі братамі Усеваладам і Святаславам не дапускаў міжкняжацкіх усобіц і ў ваенных справах выступаў з імі заадно. Да хаўрусу з паўднёварускімі князямі быў прыцягнуты і Усяслаў Чарадзей, які прыняў удзел у 1060 г. у сумесным пераможным паходзе з імі супраць торкаў.

Для нас застаюцца невядомымі ўмовы, на якіх полацкі князь згадзіўся выступіць у сумесным паходзе. Некаторыя з даследчыкаў не адмаўляюць у магчымасці перадачы Усяславу паўднёварускімі князямі Копысі і Оршы,

---

[1]Ипатьевская летопись // ПСРЛ. Т. 2. С. 293.
[2]*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). С. 60—62.
[3]*Булкин В.А.* Герцике и Кукенойс (к постановке проблемы) // Генезис и развитие феодализма в России. С. 133.
[4]*Казакова Н.А.* Полоцкая земля и прибалтийские племена в X — начале XIII века // Проблемы истории феодальной России. Л., 1971. С. 85.
[5]*Мугуревич Э.С.* Восточная Латвия и соседние земли в X—XIII вв. Рига, 1965. С. 94.
[6]*Дучыц Л.У.* Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIV стст.: Гісторыка-археалагічны нарыс. С. 85.
[7]Повесть временных лет. С. 388.

якія належалі Смаленскаму княству[1]. Асноўным аргументам на карысць гэтага з'яўляецца тое, што ў 1116 г. Орша і Копысь былі адваяваны паўднёварускай кааліцыяй у Менскага княства, якое ў другой палове XI ст. уваходзіла ў склад Полацкай зямлі. У дачыненні Оршы і Копысі ў гэты час магчыма сцвярджаць, што яны з'яўляліся неўмацаванымі населенымі пунктамі[2], якія займалі стратэгічнае палажэнне на Дняпры. Але аб іх уключэнні ў склад Полацкага княства ні адна з летапісных крыніц не паведамляе.

Палітычная стабільнасць Полацкага княства ў гэты час абумовіла тэрытарыяльны рост самога Полацка. К сярэдзіне XI ст. адбываецца перанос дзядзінца Полацка з гарадзішча на р. Палаце да Верхняга замка (узвышша), змешчанага ў сутоцы Заходняй Дзвіны і Палаты. Згодна з высноваў С. Тарасава, распаўсюджанне на Верхні замак функцый дзядзінца як цэнтра горада адбылося не раней 50-х гадоў XI ст.[3] Прыкладна ў гэты час пачалося і будаўніцтва Сафійскага сабора — як адлюстраванне моцы дзяржавы і незалежнасці Полацкага княства. Усе гэтыя мерапрыемствы вымагалі значных матэрыяльных выдаткаў, што, безумоўна, паўплывала на мірны характар палітыкі Полацкага княства ў 50-я — пачатку 60-х гадоў XI ст.

1065 год стаў паваротным у палітычнай гісторыі Полацкага княства. Гэтым годам датуецца ваенны паход Усяслава Чарадзея на Пскоў, што азначала пераход Полацкага княства ад мірнага суіснавання з суседзямі да ваенных адносін. У летапісе гэта знайшло адлюстраванне ў трапным выразе: "Заратися Всеславь сын Брячиславль Полотьский..."[4]

Гісторыкі да гэтага часу спрачаюцца наконт прычын агрэсіўных дзеянняў Полацка. Можна прывесці некалькі меркаванняў, каб даць уяўленне аб рознасці падыходаў да вырашэння гэтага пытання. Так, С. Тарасаў сцвярджае, што ваенныя дзеянні 1065—1066 гг. з боку Усяслава Чарадзея з'яўляліся заступніцтвам за правы князёў-сірот, якія прыходзіліся полацкаму князю пляменнікамі і былі абдзелены Яраславічамі пры вырашэнні пытання аб спадчыннасці Смаленска[5]. Не згодны з падобным пыдаходам Ю. Заяц падкрэслівае, што Усяслаў у дадзенай сітуацыі дзейнічаў у інтарэсах полацкага купецтва і баярства, якое жадала атрымаць уладанні на Дняпры, і па прыватных меркаваннях уключыўся ў барацьбу за права княжання ў Кіеве[6].

Аднак выказаныя версіі не могуць растлумачыць прычыны паўночнай накіраванасці паходаў Усяслава спачатку на Пскоў, а потым на Ноўгарад. Гэта не выглядае як заступніцтва за чые-небудзь правы і зусім не стасуецца з жаданнем замацавацца на Дняпры, куды ў іншым выпадку і былі б накіраваны паходы. Не ўяўляецца натуральным і памкненне Полацка далучыць да сябе два паўночныя княствы. Можна зрабіць дапушчэнне, што выправы полацкага князя на Пскоў у 1065 г. і на Ноўгарад у 1066 г. мелі пад сабой эканамічны інтарэс і з'явіліся найбольш простым спосабам барацьбы Полацка супраць сваіх паўночнаеўрапейскіх гандлёвых канкурэнтаў. Менавіта праз Ноўгарад і Пскоў ва Усходнюю Еўропу ішоў асноўны паток заходнееўрапейскіх дынарыяў. У другой палове XI ст. гэтыя гарады з'яўляліся самымі актыўнымі ўдзельнікамі гандлю з Заходняй Еўропай. Манапалізацыя Ноўгарадам гандлёвых паставак футра ў Заходнюю Еўропу адмоўна адбіва-

[1]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і навагародскі перыяды. С. 111; *Тарасаў С.В.* Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. С. 29.

[2]*Загорульский Э.М.* Открытие в Копыси // Неман. 1973. № 1. С. 191; *Левко О.Н.* Средневековая Орша и ее округа (историко-археологический очерк). Орша, 1993. С. 19.

[3]*Тарасаў С.В.* Полацк IX—XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. С. 37.

[4]Ипатьевская летопись // ПСРЛ. Т. 2. С. 155.

[5]*Тарасаў С.В.* Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. С. 31.

[6]*Заяц Ю.А.* Полоцкий князь Всеслав и Ярославичи в 1065—1066 гг.: от Пскова до Белгорода // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1994. № 4. С. 91—92.

лася нават на кіеўскім гандлі[1]. З другой паловы XI ст. інтэнсіўнасць паступлення заходнееўрапейскіх дынарыяў па Заходняй Дзвіне рэзка ўзрастае і складае 80% ад колькасці ўсіх заходнееўрапейскіх манет, знойдзеных на тэрыторыі Ніжняга Падзвіння[2]. Гэта сведчыць аб узрастанні ролі Заходняй Дзвіны ў гандлі з Заходняй Еўропай. У такіх умовах палачане, каб павялічыць гандлёвы паток па Заходняй Дзвіне, паспрабавалі змагацца з канкурэнтамі па заходнееўрапейскім гандлі шляхам рабавання іх маёмасці.

У 1065 г. Усяслаў Чарадзей з войскам нападае на Пскоў. Для наступу на Пскоўскае княства ён выбраў зручны момант. У гэты час паўднёварускія князі былі заняты барацьбой з князем Расціславам за ўладу ў Тмутаракані. Аблога Пскова з боку полацкага войска не мела поспеха і палачане былі вымушаны вярнуцца назад[3].

У сувязі з паходам Усяслава Чарадзея на Пскоў уяўляецца малаверагоднай магчымасць выступлення супраць Полацкага княства літоўскіх князёў Кернуса і Гімбута ў 1065 г., з чым пагаджаюцца некаторыя з гісторыкаў[4]. Калі прааналізаваць само паведамленне, дзе ўказваецца, што літоўскія князі "...сабралі сілы свае літоўскія і жамойцкія, і пайшлі на Русь пад Браслаў і пад Полацак, і багата шкоды ўчынілі, і землі іх спустошылі, і людзей мноства ў палон павялі..."[5], то становіцца зразумела, што пасля такога спусташэння планаванне полацкім князем ваенных дзеянняў за сотні кіламетраў ад княства спачатку пад Псковам, а потым пад Ноўгарадам было б немагчымым.

Адсутнасць супрацьдзеяння з боку паўднёварускіх князёў на паход 1065 г. схіліла Усяслава Чарадзея да ваеннай выправы на Ноўгарад у 1066 г. Згадка ў летапісе аб ваенным паражэнні наўгародскага князя Мсціслава Ізяславіча ў бітве на р. Чарэсе і бегстве яго ў Кіеў стала звязвацца гісторыкамі з перамогай Усяслава ў 1066 г. над наўгародскім войскам[6]. Пасля разгрому наўгародцаў Усяслаў бесперашкодна авалодаў Ноўгарадам, аб чым у "Аповесці аб мінулых часах" сказана лаканічна: "Заратися Всеславь, сын Брячиславль, Полочске и зая (захапіў) Новгородь". Захоплены Ноўгарад быў разрабаваны, у палон былі ўзяты жанчыны і дзеці, а з Сафійскага сабора зняты званы і панікадзілы[7]. Гэта рабаванне было такім памятным, што нават узгадвалася ў пісьмовых крыніцах адносна полацка-наўгародскага канфлікту, які меў месца ў 1178 г.[8] Катастрафічны характар для наўгародцаў гэта падзея мела яшчэ і таму, што палачане падпалілі горад, як аб гэтым паведамляюць пскоўскія летапісцы. Пажар 1066 г. прасочваецца і археалагічна. У 23-м ярусе (1055—1076) Нярэўскага раскопу (на тэрыторыі Ноўгарада XI ст.) назіраецца найбольшая колькасць спаленых пабудоў за храналагічны прамежак з 972 па 1194 г.[9] Такім чынам, усе прыведзеныя даныя сведчаць аб рэальнасці паходу Усяслава на Ноўгарад, пасля чаго ён бесперашкодна з войскам і палонам вярнуўся ў Полацк.

Гэтыя дзеянні палачан не маглі застацца незаўважанымі з боку паўднёварускіх князёў, і апошнія пачалі рыхтавацца да нападу на Полацкае княства. У склад антыполацкай кааліцыі ўвайшлі кіеўскі князь Ізяслаў Яраславіч, чарнігаўскі князь Святаслаў Яраславіч, пераяслаўскі князь Усевалад Яраславіч.

---

[1]*Даркевич В.П.* К истории торговых связей Древней Руси // КСИА. 1974. Вып. 138. С. 101.
[2]*Мугуревич Э.С.* Восточная Латвия и соседние земли в X—XIII вв. Рига, 1965. С. 28.
[3]Псковская вторая летопись // ПСРЛ. СПб., 1851. Т. 5. С. 8.
[4]*Семянчук А.* Полацк у польскіх хроніках // Гісторыя і археалогія Полацкай зямлі. Полацк, 1998. С. 276—277.
[5]Хроніка Быхаўца // Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997. С. 74.
[6]*Насонов А.Н.* "Русская земля" и образование территории Древнерусского государства. М., 1951. С. 152; *Заяц Ю.А.* Полоцкий князь Всеслав и Ярославичи в 1065—1066 гг.: от Пскова до Белгорода. С. 95.
[7]Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.;Л., 1950. С. 17.
[8]Ипатьевская летопись // ПСРЛ. Т. 2. С. 607.
[9]*Колчин Б.А., Черных Н.Б.* Дендрохронология Восточной Европы. М., 1977. С. 106.

Узяцце Усяславам Полацкім Ноўгарада ў 1066 г.
(мініяцюра Радзівілаўскага летапісу)

Выступленне кааліцыі было паскорана заўчаснай смерцю Расціслава, барацьба з якім адцягвала ваенныя сілы паўднёварускіх князёў. У лютым 1066 г. войскі Яраславічаў рушылі да меж Полацкага княства. Першым пад удар трапіў Менск. Яго жыхары закрыліся ў горадзе, чакаючы дапамогі ад Усяслава. Па меркаванні Л. Аляксеева, з якім можна цалкам пагадзіцца, полацкі князь не быў падрыхтаваны да хуткага вылучэння варожых войскаў да меж княства і даведаўся пра іх паход са спазненнем[1], таму дапамога Менску не была ажыццёўлена. Горад быў узяты прыступам, разрабаваны і знішчаны.

Абцяжараныя здабычай, войскі трыумвірату Яраславічаў выйшлі да р. Нямігі, дзе іх пераняді войскі Усяслава Чарадзея. 3 сакавіка 1067 г. каля Нямігі паміж двума войскамі адбылася жорсткая бітва. Вось як аб гэтых падзеях паведамляе летапіс: "... Браты (Ізяслаў, Усевалад, Святаслаў) ж узялі Менск, перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей узялі ў палон і пайшлі да Нямігі. І пайшоў Усяслаў супраць іх. І сустрэліся праціўнікі на Нямізе месяца сакавіка ў 3-і дзень, быў снег вялікі, і пайшлі адзін на аднаго. І была лютая сеча, і многія паляглі ў ёй і перамаглі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, Усяслаў жа ўцёк"[2]. Іншымі словамі, паўднёварускія войскі не здолелі канчаткова акружыць і знішчыць палачан і захапіць Усяслава Чарадзея.

Некаторыя з даследчыкаў імкнуцца даказаць, што бітва адбылася каля горада Нямігі, які нібыта існаваў побач з Менскам[3], у доказ чаго прыводзіцца згадка назвы горада ў "Спісе гарадоў рускіх дальніх і бліжніх". Адсутнасць іншых звестак аб горадзе Нямізе і апісанне бітвы ў "Слове пра паход Ігаравы", дзе сказана аб Нямізе як аб рацэ: "...Нямігі крававыя берагі"[4], сведчыць на карысць таго, што бітва праходзіла каля ракі, а не каля горада Нямігі.

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што войскі палачан здолелі супрацьстаяць аб'яднаным войскам трох княстваў. Гэты факт разам са сведчаннем упартай барацьбы двух войскаў ("лютай сечы") указвае на тое, што ў бітве з боку палачан прымалі ўдзел не толькі прафесійныя воіны — дружыны князя, але і апалчэнне, якое складалася з вольных сялян і гараджан. Калі пагадзіцца з І. Фраянавым, які ўказаў на выкарыстанне антыполацкай кааліцыяй апалчэнцаў-"вояў"[5] і ўлічыць, што толькі войскі Святаслава ў 1068 г. (пасля бітваў на р. Нямізе і на р. Альце) складалі 3000 воінаў[6], стане зразуме-

[1]*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. М., 1966. С. 243.
[2]Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.). С. 20—21.
[3]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. С. 120.
[4]Слова пра паход Ігаравы / Пер. Р.Барадуліна. Мн., 1986. С. 144.
[5]*Фроянов И.Я.* Киевская Русь. Л., 1980. С. 200.
[6]Повесть временных лет. С. 115.

лым, што для супрацьстаяння такой колькасці войскаў Усяслаў абавязкова павінен быў абапірацца на апалчэнне. Па падліках Г.Ласкавага, к пачатку XII ст. Полацкае княства магло выставіць да 15—16 тыс. "рубленай раці" (сялянскага апалчэння) і 1,5—1,7 тыс. гарадскіх апалчэнцаў[1]. Асэнсаванне гэтага моманту дае тлумачэнне таму, якім чынам Усяславу ўдавалася хутка ўзнаўляць страчаны ў бітвах ваенны патэнцыял.

Адносна падзей, якія разгарнуліся з 3 сакавіка па 10 ліпеня 1067 г., калі Усяслаў быў запрошаны на перагаворы з паўднёварускімі князямі каля Ршы, крыніцы маўчаць. Толькі ў В. Тацішчава ўтрымліваюцца звесткі аб тым, што пасля Нямігскай бітвы "... Ярославичи оласть Полоцкую разоряли"[2]. Можна дапусціць, што паўднёварускія князі нязначна паглыбіліся на тэрыторыю Полацкага княства і ў хуткім часе вымушаны былі пакінуць межы Полаччыны, бо набліжэнне вясновага бездарожжа, страты на Нямізе і небяспека, што яшчэ зыходзіла ад Усяслава Чарадзея, рабілі далейшую затрымку ў межах варожага княства немэтазгоднай. І Яраславічы павярнулі на поўдзень.

Няма поўнай яснасці і ў дзеяннях Усяслава Чарадзея паміж сакавікам і ліпенем 1067 г. Паводле адной з самых абгрунтаваных гіпотэз, да ліпеня 1067 г. Усяслаў паспеў ажыццявіць ваенны паход у левабярэжныя землі Кіеўскай Русі, у Чарнігаўскае або Пераяслаўскае княствы[3]. Але гэта застаецца толькі гіпотэзай, якую цяжка прыняць, калі прыняць пад увагу тыя абставіны, што Усяслаў не меў магчымасці хутка ўзнавіць ваенныя сілы за кошт апалчэння з гараджан і сялян, якія вясной і летам былі звязаны ў большай ці меншай ступені сельскагаспадарчымі працамі. А весці ваенныя дзеянні на чужой тэрыторыі малымі сіламі не ўяўлялася магчымым нават для авантурнай палітыкі Усяслава, які за ўсё сваё княжанне не рабіў за год больш аднаго паходу.

Новае летапіснае паведамленне сведчыць, што 10 ліпеня 1067 г.[4] Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад выклікалі Усяслава Чарадзея на перагаворы, гарантуючы яму бяспеку прысягай на крыжы. Полацкі князь "... переяха в лодьи чересь Днепръ. Изяславу же в шатеръ предъидущю (увайшоў), тако яша (захапіў) Всеслава на Рши у Смолиньска (Смоленска), преступивше крестъ...", як апавядае летапіс. Іншымі словамі, Яраславічы парушылі прысягу, схапілі князя разам з яго двума сынамі і пасадзілі іх у вязніцу — поруб — у Кіеве. Прысутнасць на перагаворах сыноў Усяслава, што выглядала як прадстаўніцтва ўсёй Полацкай зямлі, сведчыць аб тым, што тут маглі закранацца і тэрытарыяльныя пытанні, вырашэнне якіх на карысць Полацкага княства (як гэта было ў 1021 г.) і падштурхнула полацкага князя да ўдзелу ў перагаворах.

Пераход тактыкі паўднёварускіх князёў ад вайны да гвалтоўнага захопу Усяслава, як адзначае большасць гісторыкаў, — сведчанне таго, што Яраславічы не жадалі весці працяглую вайну з Полацкім княствам. Галоўнай прычынай гэтага, на нашу думку, з'яўляецца тое, што акрамя барацьбы з Полацкам перад паўднёварускімі князямі ў 60-я гады паўстала новая небяспека — полаўцы, якія ўжо ў 1061 і 1064 гг. спрабавалі рабаваць паўднёвыя абшары Кіеўскай дзяржавы. Уцягваючыся ў барацьбу з Полацкам, Ізяслаў і яго браты пакінулі б безабароннымі перад полаўцамі паўднёвыя межы сваіх княстваў, што было малаверагодна.

Аб перыядзе полацкай гісторыі, калі Усяслаў з сынамі знаходзіўся ў кіеўскім порубе, нічога невядома. Адносна вырашэння кіеўскім князем пытання

---

[1] *Ласкавы Г.В.* Да пытання аб арганізацыі і складзе ўзброеных сіл Полацкай зямлі ў канцы XI — пачатку XIII ст. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1993. Ч. 2. № 2. С. 15.

[2] *Татищев В.Н.* История Российская: В 7 т. М.;Л., 1963. Т. 2. С. 84.

[3] *Заяц Ю.А.* Полоцкий князь Всеслав и Ярославичи в 1065 г—1066 гг.: от Пскова до Белгорода. С. 100.

[4] У Іпацьеўскім, Уваскрэсенскім і Ніканаўскіх летапісах гэта падзея датуецца 10 чэрвеня 1067 г.

полацкага княжання магчыма казаць пра два варыянты падзей: Ізяслаў адразу пасадзіў у Полацку свайго сына Мсціслава або накіраваў туды часова свайго пасадніка. І першае і другое меркаванні застаюцца не даказанымі.

Паўстанне 15 верасня 1068 г., якое паднялі ў Кіеве гараджане, патрабуючы ў Ізяслава абароны ад полаўцаў, што разбілі войска Яраславічаў на р. Альце, стала паваротным у лёсе Усяслава і яго сыноў. Не атрымаўшы ад Ізяслава коней і зброі для абароны ад полаўцаў, паўстанцы, як згадваецца ў летапісе: "... сташа у двора Брячиславля и реша: пойдем, высадим (вызвалім) дружину свою ис погреба..."[1], вызвалілі Усяслава Чарадзея з сынамі з поруба. Ён быў абвешчаны кіеўскім князем, а Ізяслаў збег з горада. Паводле меркавання Л. Аляксеева, актыўны ўдзел у паўстанні прынялі палачане, якія знаходзіліся ў Кіеве, таму згадка двара Брачыслава ў дадзеным паведамленні не падаецца выпадковай[2]. Бок полацкага князя ўзялі і кіеўляне, пазней пакараныя ў вялікай колькасці Мсціславам Ізяславічам (толькі непасрэдных вызваліцелей Усяслава было забіта каля 70 чалавек)[3]. Таму можна сцвярджаць, што ўзвядзенне Усяслава Чарадзея на кіеўскі трон было ўсенародным.

Вялікім кіеўскім князем Усяслаў быў усяго 7 месяцаў і летапісы нічога не паведамляюць аб яго дзейнасці на гэтай пасадзе. Толькі ў "Слове пра паход Ігаравы" ўтрымліваюцца наступныя звесткі:

Усяслаў князь людзям чыніў суды,
Радзіў князям гарады,
А сам уночы ваўком рыскаў.
З Кіева паспяваў да пеўняў да Тмутараканя,
Хорсу вялікаму шлях перацінаў.

Сціслыя звесткі "Слова..." ствараюць цяжкасці пры інтэрпрэтацыі падзей 1068—1069 гг. Сведчанне "Слова..." аб тым, што князь людзям "чыніў суды", указвае на пераход да Усяслава функцыі кіравання судовым працэсам, што абараняла апошні ад злоўжыванняў з боку цівуноў.

Ад апекі цівуноў, на думку М. Ціхамірава, быў вызвалены і гандаль, а кіеўляне атрымалі гандлёвыя ільготы[4]. Перамяшчэнне Ізяславам пасля падаўлення паўстання торгу — месца гандлю на "гару" непасрэдна пад свой нагляд можа ўскосна сведчыць аб гэтым напрамку палітыкі Усяслава.

Словы "людзям гарады радзіў" маглі мець двайны сэнс. Калі пагадзіцца з Д. Леанардавым, то ў дадзеным выпадку гаворка можа ісці аб мерапрыемствах Усяслава ў Полацкім княстве, а менавіта аб размяшчэнні ім па гарадах княства сваіх сыноў на аснове дамоўленасці з гараджанамі[5]. Але больш абгрунтаванай падаецца думка, згодна з якой у час кіеўскага княжання Усяслаў імкнуўся знайсці сабе ў асяродку князёў паплечнікаў шляхам новых тэрытарыяльных падараванняў.

Пытанне аб магчымасці наведвання Усяславам у гэты перыяд Тмутаракані стала адным са спрэчных сярод гісторыкаў. Акрамя "Слова..." на верагоднасць гэтай падзеі ўказвае і адзін з сюжэтаў аб Волху Усяславічы, у якім распавядаецца пра тое, што Волх, вобраз якога звычайна атаясамляецца з Усяславам Чарадзеем, хадзіў на царства Індзейскае[6]. Час апісаных падзей застаецца невядомым. На аснове комплекснага аналізу крыніц Б. Рыбакоў

[1]Повесть временных лет. С. 184.
[2]*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. С. 247.
[3]Повесть временных лет. С. 116.
[4]*Тихомиров М.Н.* Крестьянские и городские восстания на Руси XI—XIII вв. М., 1955. С. 100.
[5]*Леонардов Д.С.* Полоцкий князь Всеслав и его время // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912. Вып. 2. С. 206.
[6]Волх Всеславьевич // Былины. М., 1986. С. 60.

паспрабаваў абгрунтаваць версію аб заключэнні ў Тмутаракані саюза паміж Глебам Святаславічам і Усяславам Брачыславічам, пасля чаго апошні з войскам, набраным на Каўказе, забяспечыў перамогу Святаслава над полаўцамі ў 1068 г.[1] Пры няпэўным становішчы Усяслава ў Кіеве пакідаць горад для паездкі ў Тмутаракань яму было небяспечна[2], таму казаць аб якой-небудзь дзейнасці Усяслава па-за межамі Кіева праблематычна. Можна толькі здагадвацца аб невядомых нам адносінах Усяслава са Святаславам. Святаслаў і яго сыны пасля 1067 г. не з'яўляліся ініцыятарамі ваеннай барацьбы з Усяславам. Адсутнасць якіх-небудзь звестак у летапісах аб магчымых дамоўленасцях і аб дзейнасці кіеўскага князя Усяслава, а таксама скасаванне апісання падзей, што станоўча ахарактарызавалі Усяслава, як гэта вынікае са "Слова...", — сведчанне іх пазнейшага рэдагавання ворагамі.

У 1069 г. Ізяслаў з дружынай польскага караля Баляслава рушыў на Кіеў. Жыхары Кіева сабралі войска, якое ўзначаліў Усяслаў Чарадзей. Войска кіеўлян падышло пад Белгарад, адкуль уначы, не чакаючы бітвы, полацкі князь збег у Полацк. Яшчэ В. Тацішчаў тлумачыў гэты ўчынак адсутнасцю ў Усяслава веры да кіеўлян[3]. Прычыны недаверу тлумачацца ацэнкай Усяславам суадносін войска кіеўлян, з аднаго боку, і войска Баляслава і Ізяслава, з другога боку. Колькасная перавага была, відаць, не на баку кіеўлян, што і вымусіла Усяслава збегчы, не чакаючы паражэння.

У 1069 г. Усяславу не ўдалося замацавацца князем у Полацку. Княжыць там стаў сын Ізяслава — Мсціслаў, які хутка памёр. Пасля смерці Мсціслава Ізяслаў пасылае ў Полацк свайго другога сына — Святаполка. Замест таго каб змагацца за Полацк, Усяслаў у 1069 г. набірае войска з асяродку фінскага племені "водзь" і выступае супраць Ноўгарада. Мэта гэтага паходу застаецца цалкам незразумелай. Выкарыстанне водзі супраць Ноўгарада не можа быць растлумачана толькі тым, што нібыта маці Усяслава паходзіла з гэтага племені[4]. Прычыну выступлення водзі супраць Ноўгарада трэба бачыць у цяжкім эканамічным становішчы, у якім апынулася водскае насельніцтва, абкладзенае з боку Ноўгарада данінай. Хваляванні 1071 г. на Белавозеры таксама пацвярджаюць выказанае.

Хутка сабранае водскае войска ў бітве на р. Гзені было разгромлена наўгародцамі на чале з Глебам Святаславічам. Вось як аб гэтым распавядае наўгародскі летапіс: "... И пособи богъ Глебу князю съ новгородци. О велика бяше сеця (сеча) Вожаномъ, и паде ихъ бещисленое число; а самого князя (Усяслава) отпустиша бога деля..."[5] Вызваленне Усяслава Чарадзея з палону не можа разглядацца як факт яго абрання наўгародскім князем[6] або простай сімпатыяй наўгародцаў да палачаніна[7] (дастаткова прыгадаць вынікі разгрому 1066 г., каб цалкам абвергнуць гэтыя версіі). У дадзеным выпадку гаворка можа ісці аб дамове паміж Ноўгарадам і Усяславам, згодна з якой полацкі князь браў абавязак не нападаць на Ноўгарад. На магчымасць падобнага абавязацельства ў выглядзе клятвы ўказваў яшчэ С. Салаўёў[8]. Сапраўды, пасля 1069 г. і да пачатку XII ст. невядома ніводнага паходу палачан у наўгародскім кірунку. Ва ўмовах паступовага нарастання наўгародска-кіеўскіх супярэчнасцей дзейнасць Усяслава ў паўднёвым і ўсходнім кірунках для Ноўгарада здавалася больш выгаднай, чым простае ўтрыманне Усяслава ў вязніцы.

---

[1] *Рыбаков Б.А.* Петр Бориславич. Поиск автора "Слова о полку Игореве". М., 1991. С. 45.
[2] *Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. С. 248.
[3] *Татищев В.Н.* История Российская. Т. 2. С. 85.
[4] *Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. С. 129.
[5] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 17.
[6] *Тарасаў С.В.* Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. С. 47.
[7] *Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. С. 130.
[8] *Соловьев С.М.* История России с древнейших времен. Книга первая. М., 1959. С. 296.



Пераправа Усяслава Полацкага праз Дняпро пад Оршай (мініяцюра Радзівілаўскага летапісу)

З 1069 па 1071 г. ніякіх звестак аб дзейнасці Усяслава крыніцы не ўтрымліваюць. Некаторыя навукоўцы лічаць, што Усяслаў княжыў у гэты перыяд у Тмутаракані[1]. Пры такім развіцці падзей полацкаму князю не ўдалося б весці барацьбу за вяртанне Полацкага княства, якое знаходзілася на значнай адлегласці ад Тмутаракані.

Пытанне аб тым, з дапамогай каго Усяслаў вяртаў сабе Полацкае княства, таксама застаецца адкрытым. М. Ермаловіч следам за І. Бяляевым спрабаваў вылучыць хаўруснікаў полацкага князя з асяродку літоўцаў і іншых балцкіх плямён[2]. Г. Штыхаў лічыць апорай Усяслава Чарадзея ў гэтай барацьбе мясцовую знаць і гараджан[3], якія выступілі на баку полацкага князя, згодна з меркаваннем І. Фраянава, у форме земства-веча[4]. Безумоўна, што ў вяртанні Усяслава былі непасрэдна зацікаўлены слаі грамадства, для якіх незалежная ад Кіева эканамічная палітыка княства прыносіла непасрэдны прыбытак. Такімі паплечнікамі маглі быць гандляры і крупныя феадалы, якія былі ўключаны ў знешнеэканамічныя адносіны. Яны з большага кіравалі як вечам, так і аказвалі ўздзеянне на палітыку князя, а значыць, арыентаваліся на мясцовага князя, а не на прышлага.

У 1071 г. Усяслаў Чарадзей знянацку з'явіўся пад Полацкам і выгнаў Святаполка з горада. Кіеўскі князь Ізяслаў паспрабаваў зноў пазбавіць Усяслава ўлады, накіраваўшы супраць яго свайго сына Яраполка, які ў 1071 г. у бітве пры г. Галацічаску нанёс паражэнне полацкаму войску. Спроба лакалізацыі гэтага горада аказалася беспаспяховай[5]. Па нашым меркаванні, Галацічаск быў аддалены ад Полацка і нават мог знаходзіцца па-за межамі Полацкага княства, аб чым ускосна сведчыць наступны факт. Калі б горад, каля якога адбылося паражэнне палачан, знаходзіўся побач з Полацкам, гэта прывяло б да захопу апошняга Яраполкам. Складальнікі "Спіса гарадоў рускіх, дальніх і бліжніх" унеслі ў спіс назву Галацічаска па-за межамі сукупнасці гарадоў, што змяшчаліся на тэрыторыі Полацкага княства. Адсутнасць вайсковай падтрымкі Яраполка з боку Ізяслава, Усевалада і Святаслава тлумачыцца тым, што ваенныя сілы Яраславічаў зноў былі адцягнуты для стрымлівання наступу полаўцаў, якія парушылі межы паўднёвых княстваў каля Растоўца і Няяціна[6]. Да таго ж неспакой у Кіеве, у паўночна-ўсходніх і паўночных землях усходнеславянскіх княстваў быў выкліканы народным рухам, які ўзначальвалі вешчуны, што так-

[1]*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. С. 248.
[2]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. С. 131—132.
[3]*Штыхов Г.В.* Древний Полоцк IX—XIII вв. С. 10.
[4]*Фроянов И.Я., Дворниченко А.Ю.* Города-государства Древней Руси. С. 198.
[5]*Штыхов Г.* Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). С. 21.
[6]Повесть временных лет. С. 116.

сама не спрыяла аб'яднанню намаганняў для барацьбы супраць Усяслава. І ён нават пасля паражэння застаўся полацкім князем.

З 1071 па 1073 г.назіраецца зацішша ў адносінах паміж Полацкам і Кіевам. Пад 1073 г. у летапісах пазначана падзея, згодна з якой Святаслаў стаў ініцыятарам выгнання Ізяслава з Кіева, што было ажыццёўлена ў змове з Усеваладам, якога чарнігаўскі князь "прельсти, глаголя, яко "Изяслав сватится со Всеславом..."[1] Верагоднасць саюза паміж Ізяславам і Усяславам нельга адмаўляць. Па арыгінальных падліках Л. Аляксеева, паміж дзецьмі Усяслава і Яраполка, сына Ізяслава, маглі мець месца заручаны, якія пазней скончыліся шлюбам[2]. Э. Загарульскім была абаснавана больш позняя версія даты нараджэння дачкі Яраполка — канец 1074—1075 гг.[3], што ставіць пад сумненне вышэй прыведзеныя разлікі і тлумачэнне выраза "сватится" як намеру аб заключэнні шлюбу паміж дзецьмі Яраполка і Усяслава.

Калі саюз кіеўскага і полацкага князёў і меў месца, то ўмовы гэтага саюзу застаюцца невядомымі. Непрымальнай уяўляецца версія Д. Леанардава аб пошуку Ізяславам паплечніка для магчымасці вяртання пад сваю ўладу Ноўгарада[4], бо нават пасля ўзнаўлення княжання Ізяслава ў Кіеве ў 1077 г. Глеб Святаславіч застаўся наўгародскім князем. Не мог саюз з Усяславам падмацаваць і няпэўнае становішча Ізяслава ў Кіеве, бо аддаленасць Полацка ад Кіева не дазваляла полацкаму князю аказаць хуткую дапамогу саюзніку ў выпадку выступлення яго братоў, княствы якіх знаходзіліся побач з кіеўскім. Вартай увагі падаецца думка Ю. Зайца аб тым, што ініцыятарам змовы супраць Ізяслава з'явіўся не Святаслаў, а Усевалад[5]. Сапраўды, Святаслаў у 1069 г. выступіў у якасці абаронцы кіеўскіх прыхільнікаў Усяслава ад гневу Мсціслава. Падчас княжання Святаслава ў Кіеве з 1073 г. нам невядома ніводнага выпадку, каб паміж Святаславам і яго сынамі, з аднаго боку, і Усяславам Чарадзеем — з другога, вяліся якія-небудзь ваенныя дзеянні, у той час як Усевалад і яго сыны знаходзіліся з Полацкім княствам з канца 70-х гадоў XI ст. у становішчы перманентнай вайны. З 1073 па 1092 г. летапісы ў дачыненні да гісторыі Полацкага княства маўчаць. Полацкі летапіс дапамог бы ў праясненні палітычнай сітуацыі, што склалася вакол Полацка ў гэты перыяд, але такая магчымасць адсутнічае, і адзінай крыніцай, якая дазваляе весці гаворку аб падзеях полацкай гісторыі, з'яўляецца "Павучанне" Уладзіміра Манамаха.

З гэтага дакумента і становіцца вядомым, што ў канцы 70 — пачатку 80-х гадоў абвастраюцца адносіны паміж Усяславам Чарадзеем, з аднаго боку, і Усеваладам і яго сынам Уладзімірам (пазней — Уладзімір Манамах), з другога боку.

З "Павучання" вынікае, што летам 1077 г. Уладзімір Манамах разам са сваім бацькам Усеваладам хадзіў паходам на Полацк[6]. Замоўчванне вынікаў паходу ўказвае на тое, што Полацк не быў захоплены. У другім паходзе Уладзіміра Манамаха на горад разам са Святаполкам і полаўцамі, які адбыўся ўзімку 1077 г., ім таксама не ўдалося нанесці гораду значнай шкоды, што вынікае з вышэй указанай крыніцы. Падпаліўшы ваколіцы Полацка, Манамах з полаўцамі пайшоў на Одрск, ад якога накіраваўся да Чарнігава. Месцазнаходжанне Одрска да гэтага часу застаецца не высветленым[7]. Прычыну падобнага абвастрэння адносін з Полацкам з боку Усеваладавічаў трэба бачыць у зменах, якія ад-

[1]Повесть временных лет. С. 121.
[2]*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. С. 249.
[3]*Загорульский Э.М.* Возникновение Минска. Мн., 1982. С. 16.
[4]*Леонардов Д.С.* Полоцкий князь Всеслав и его время. С. 190.
[5]*Заяц Ю.А.* Полоцкий князь Всеслав и Ярославичи в 1065—1066 гг.: от Пскова до Белгорода. С. 107—108.
[6]Повесть временных лет. С. 159.
[7]*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). С. 22.

быліся ў знешняй палітыцы Полацкага княства. Пасля адмовы ад канфрантацыі з Ноўгарадам Усяслаў пераходзіць да падпарадкавання сваёй уладзе ўсяго Верхняга Падняпроўя, чым у найбольшай ступені закрануў інтарэсы як Усевалада, чарнігаўскага, а з 1078 г. кіеўскага князя, так і яго сына Уладзіміра, смаленскага, а потым чарнігаўскага князя. Магчыма, гэтым часам трэба датаваць часовае ўключэнне ў склад Полацкага княства Оршы і Копысі, якія ў гэтай барацьбе набывалі важнае значэнне — значэнне "ўсходняй брамы" на мяжы Полацкага княства. Адсутнасць назваў Оршы і Копысі ў "Павучанні" ў сувязі з апісанымі падзеямі (што разглядаецца асобнымі даследчыкамі як доказ неўключэння гэтых пунктаў у склад Полацкага княства)[1] трэба тлумачыць невялікімі памерамі гэтых населеных пунктаў і жанрам самога твора, для якога залішняя канкрэтызацыя была неабавязковай.

Увосень 1078 г. Усяслаў Чарадзей зрабіў самы рашучы крок у ажыццяўленні сваёй усходняй палітыкі: напаў на Смаленск і спаліў яго. Уладзімір Манамах паспрабаваў дагнаць Усяслава. Ён "о двух конях" (мяняючы коней) імкліва рушыў з Чарнігава, не дагнаў Усяслава, але, помсцячы апошняму, паваяваў ваколіцы Лукомля, Лагойска і Друцка. У 1084 г. (па некаторых звестках — 1085 г.) Уладзімір Манамах паспрабаваў нанесці яшчэ адзін адчувальны ўдар па Полацкаму княству і разам з полаўцамі захапіў Менск. Як падкрэсліў у "Павучанні" сам Манамах, ён не пакінуў у горадзе "... ни чалядина, ни скотины..."

Усе гэтыя факты сведчаць не аб прыватнай непрыязні Усевалада Яраславіча і Уладзіміра Усеваладавіча да Усяслава Брачыславіча, а аб мэтанакіраванай палітыцы Полацка, канчатковым вынікам якой бачылася поўнае замацаванне на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя. Ажыццяўленне гэтай палітыкі сустрэла жорсткі адпор з боку паўднёварускіх князёў.

Прыцягненне Уладзімірам Манамахам да ваеннага саюзу полаўцаў супраць Полацка паказвае, наколькі небяспечным ворагам у вачах паўднёварускіх князёў заставаўся Полацк. І нават больш чым праз сто гадоў аўтар "Слова пра паход Ігаравы" дакараў за гэта паўднёварускіх князёў:

Бо вы сваімі крамоламі
пачалі наводзіць паганых
на зямлю Рускую
на Усяслававу нажыць.

Нічога невядома аб гісторыі Полаччыны з 1084 (1085) па 1092 г. Паведамленне, пазначанае на старонках летапісу пад 1092 г., стала вартым увагі кіеўскіх летапісцаў, напэўна, таму, што мела месца нейкая эпідэмія і ў Полацку памерла шмат жыхароў. Форма, у якой распавядаецца, як "мерцвякі б'юць палачан", сведчыць аб тым, што Полаччына ў кіеўскіх летапісцаў асацыіравалася з краем, дзе хрысціянства не мела сталых каранёў.

Перыяд полацкай гісторыі, спалучаны з дзейнасцю Усяслава Чарадзея, скончыўся ў 1101 г., пад якім у летапісе пазначана, што "... преставися Всеслав, полоцкий князь, месяца априля въ 14 день, в 9 часъ дне, в среду"[2]. Адзінае ў старажытнарускіх летапісах дакладнае ўказанне смерці князя сведчыць аб тым, якое значэнне надавалі Усяславу ў Кіеве, якой неардынарнай асобай быў полацкі князь, што пакінуў у гісторыі XI ст. яркі і незабыўны след.

Па-рознаму можна ставіцца да асобы Усяслава і яго дзейнасці, але адно застаецца бясспрэчным: гэта быў адзін з выдатнейшых палітычных дзеячаў старажытнай Беларусі. Сапраўды, выклікае пытанне тое, якім чынам князь,

---

[1] *Мяцельскі А.А.* Орша ў XII—XIII стст.: паміж Полацкам і Смаленскам // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1995. № 6. С. 217.
[2] Повесть временных лет. С. 266.

што прайграў шэраг ваенных сутыкненняў, пакінуў такі глыбокі след у народнай памяці. Згодна з меркаваннем Э. Загарульскага, з якім цалкам можна пагадзіцца, Усяслаў пасля паўстання 1068 г. атрымаў арэол князя – народнага выбранніка[1]. Таму ў "Слове пра паход Ігаравы" ўтрымліваецца толькі станоўчая характарыстыка полацкага князя.

Асноўным вынікам палітычнай дзейнасці Усяслава Чарадзея трэба лічыць захаванне цэласнасці і палітычнай незалежнасці Полацкага княства – першай дзяржавы на беларускіх землях. Нягледзячы на тое што Усяслаў некалькі разоў быў пераможаны, Полацкае княства толькі на непрацяглы час, з 1067 па 1071 г., губляе сваю незалежнасць. З 57 гадоў княжання Чарадзея толькі 15–20 гадоў прыпадаюць на актыўныя ваенныя дзеянні. І ў той час, калі ў астатніх усходнеславянскіх княствах з другой паловы XI ст. пачынаецца актыўны падзел княстваў на ўдзелы, Полацкая зямля застаецца цэласнай дзяржавай з адзіным цэнтрам у Полацку. І гэта вынік палітыкі Усяслава Брачыславіча, якую часам называюць авантурнай, але яна забяспечыла росквіт Полацкага княства.

Трэба памятаць, што ў час кіравання Усяслава адбыліся такія значныя падзеі для Полацкага княства, як канчатковае замацаванне за Полацкам Ніжняга Падзвіння, перанос дзядзінца Полацка да берага Заходняй Дзвіны, будаўніцтва Сафійскага сабора, аднаўленне Менска, барацьба за пашырэнне ўсходняй мяжы княства. Такім чынам, дзейнасць Усяслава Чарадзея аказала значны ўплыў не толькі на палітычнае развіццё Полацкага княства, але і на ўсю гісторыю ўсходнеславянскіх княстваў у другой палове XI ст.

## 4. Тураўскае княства ў IX–XI стст.

**Тэрыторыя Тураўскай зямлі.** Тэрыторыя Тураўскага княства фарміравалася на землях, заселеных дрыгавічамі. Паўночная граніца іх рассялення (з крывічамі) праходзіла на поўнач ад Мінска прыкладна па лініі ад Заслаўя на Лагойск і Барысаў. Усходняя граніца (з радзімічамі) праходзіла ў асноўным па Бярэзіне і Дняпры да Брагіна. Паўднёвая граніца рассялення дрыгавічоў (з драўлянамі і валынянамі) праходзіла па правабярэжжы Прыпяці прыкладна па сучаснай мяжы з Украінай, а заходняя (з заходнеславянскім племем мазаўшан) пераходзіла на левы бераг р. Заходні Буг. Левабярэжнае Панямонне таксама было заселена дрыгавічамі.

Дрыгавічы належалі да ліку найбольш развітых усходнеславянскіх плямён і нават мелі сваё ўласнае племяннное "княжанне" яшчэ да стварэння адзінай агульнай старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у г. Кіеве. Такія племянныя княжанні існавалі ў папярэднія часы ў палян (на чале з Кіем), у сярэдзіне X ст. у драўлян (на чале з Малам), у 70-х гадах XI ст. у вяцічаў (на чале з Хадотай), а таксама ў славян наўгародскіх і палачан.

Тураўскае княства, што фарміравалася на землях дрыгавічоў, было спадкаемцам яго тэрыторыі, насельніцтва, гістарычных традыцый і працэсу паслядоўнага паступальнага развіцця. Аднак гэта не азначае, што Тураўскае княства ўнаследавала ўсю тэрыторыю дрыгавічоў. Пры адначасовым фарміраванні тэрыторый новых феадальных палітычных утварэнняў – княстваў адбываліся пэўныя змены папярэдніх этнічных племянных тэрыторый ранейшых княжанняў на карысць больш развітых і агрэсіўных суседзяў. Тэрытарыяльныя страты дрыгавіцкіх тэрыторый адбыліся і пры фарміраванні Тураўскай зямлі. Аб гэтым сведчаць паведамленні летапісаў больш позніх часоў. Так, тэрыторыя ў паўночных рэгіёнах рассялення дрыгавічоў ужо ў

[1]*Загарульскі Э.М.* Заходняя Русь IX–XIII стст. С. 71.

X—XI стст. адыходзіла да Полацкага княства. У наваколлях Менска, Заслаўя, Лагойска, Барысава і Свіслачы, паводле матэрыялаў даследавання курганоў, жылі дрыгавічы. Аднак ужо ў XI ст. гэтыя гарады ўваходзілі ў склад Полацкага княства. Аб гэтым сведчаць напрамкі ўдараў кіеўскіх князёў на Менск (1067), Лагойск (1071), Заслаўе ў час іх паходаў на Полацкае княства. Як можна меркаваць, пры гэтым Заслаўе і Менск былі памежнымі крэпасцямі на паўднёвых межах Полацкага княства.

З боку Тураўскага княства памежнымі крэпасцямі ім супрацьстаялі Слуцк і Клецк. На Слуцк рабіў набег менскі князь Глеб (1116), каб адпомсціць за паход кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха на Друцк у 1115 г. Летапісец адзначае "... Глеб бо бяше воевал дреговичи и Случеск пожег, и не каяшеться о сем, ни покаряшеться"[1]. А Клецк упамінаецца як сталіца ўжо асобнага княства, з якога накіроўваўся "Вячеслав Ярославич ис Клечьска"[2] ў час агульнага паходу паўднёвых князёў пад кіраўніцтвам кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча (сын і спадкаемец Уладзіміра Манамаха) на Полацкае княства ў 1127 г. з-за адмовы полацкіх князёў удзельнічаць у агульнай барацьбе з нашэсцем полаўцаў.

Прыведзеныя летапісныя паведамленні пераканаўча сведчаць аб устойлівым характары граніцы паміж Тураўскай зямлёй і Полацкім княствам, адпаведна якой паўночная частка заселенай дрыгавічамі тэрыторыі (Заслаўе, Менск, Лагойск, Барысаў) апынулася за межамі Тураўскай зямлі і стабільна ўваходзіла ў склад Полацкага княства.

На ўсходнім участку мяжа паміж Полацкім і Тураўскім княствамі, што прымыкала да Дняпра, паніжалася на поўдзень, пакідаючы ў межах Полацкага княства г. Стрэшын.

Усходняя граніца Тураўскага княства ў асноўным адпавядала ўсходняй мяжы рассялення дрыгавічоў і праходзіла таксама па Дняпры. Рагачоў, размешчаны на высокім мысе правага карэннага берага Дняпра ў сутоках з р. Друццю, належаў Тураўскаму княству, аб чым сведчыць запіс у летапісе пад 1142 г. У ім гаворыцца аб тым, што кіеўскі князь Усевалад Ольгавіч раздае сваім братам Ігару і Святаславу гарады Тураўскай зямлі — Берасце (Бярэсце), Драгічын, Клечаск, Чартарыйск і разам з імі Рагачоў[3]. Гэта сведчыць аб прыналежнасці Рагачова да Тураўскага княства.

Аднак і на ўсходняй зоне рассялення дрыгавічоў не абышлося без тэрытарыяльных страт для Тураўскага княства. Правабярэжжа Дняпра ў наваколлі Рэчыцы, заселенае дрыгавічамі, разам з гэтым горадам уваходзіць у склад Чарнігаўскага княства. У 1213 (1214) г. Рэчыца была разгромлена наўгародскім князем Мсціславам, што ваяваў з чарнігаўскімі князямі[4]. Брагін, размешчаны ў кантактнай зоне рассялення дрыгавічоў, палян і севяран, уваходзіць у склад Кіеўскага княства. Аб гэтым сведчыць паход чарнігаўскіх князёў у 1147 г. на Брагін з мэтай помсты кіеўскаму князю Ізяславу Мсціславічу за разбурэнне чарнігаўскіх гарадоў[5].

На паўднёвай мяжы Тураўскае княства суседнічала з Кіеўскім на ўсходняй частцы і Валынскім на заходняй частцы мяжы. Як відаць, палітычныя межы Тураўскага княства супадалі з тэрыторыяй рассялення дрыгавічоў. На правым беразе Прыпяці размяшчаліся тураўскія гарады Мазыр, Тураў, Пінск, Давыд-Гарадок. У Пагарынні ў склад Тураўскай зямлі ўваходзілі, як відаць, гарады на Гарыні, Дубровіца, Сцепань і Чартарыйск на Стыры. Падставай для такіх меркаванняў могуць быць летапісныя паведамленні аб тым,

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 282.
[2]Там жа. С. 292.
[3]Там жа. С. 312.
[4]Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов.
[5]ПСРЛ. Т. 2. С. 359.

што пры вылучэнні з Тураўскага княства ў канцы XII ст. дубровіцкім князем стаў Глеб Юр'евіч, сын тураўскага князя Юрыя Яраславіча[1]. Меркаваць аб уваходжанні ў Тураўскае княства Чартарыйска дазваляе летапіснае паведамленне аб канфлікце ў 1227 г. паміж пінскім князем Уладзімірам і галіцка-валынскім князем Данілам Раманавічам. Верагодна, на падставе нейкіх раней існуючых правоў Уладзімір заняў гэты горад. Аднак князь больш магутнага Галіцка-Валынскага княства Даніла Раманавіч ваеннай сілай выгнаў яго з Чартарыйска[2].

Пытанне аб заходніх межах Тураўскага княства вырашаецца на падставе паведамленняў аб рашэннях Любецкага з'езда князёў у 1097 г. З'езд пастанавіў перадаць "... Святополку Изяславичу з сыновцы, яко сыну и внукам Изяславлим — Туров, Слуцк, Пинск и все городы до Буга по оне стороне Припети, и яко великому князю — Киев, со всею областиею, что ко оному принадлежит, до реки Горыни, и Новгород Великий к Киеву"[3]. На заходніх межах Тураўскай зямлі апрача Берасця ў XII ст. упамінаецца Драгічын Надбужны, які трапляе ў 1142 г. у лік тураўскіх гарадоў, што Усевалад Ольгавіч раздаваў сваім братам[4]. Гэтыя гарады акрэсліваюць межы Тураўскага княства ў XI—XII стст. Паводле матэрыялаў пахавальных курганоў, гэтыя гарады таксама знаходзіліся ў арэале дрыгавіцкага рассялення.

Недастаткова існуе даных для дакладнага вызначэння прыналежнасці гарадоў і дрыгавіцкіх пасяленняў Сярэдняга Панямоння (Гародня, Ваўкавыск, Наваградак, Слонім, Здзітаў). Несумненна, з другой паловы XII ст. і ў XIII ст. яны ўваходзяць у зону палітычнага ўплыву і палітычнай прыналежнасці Уладзіміра-Валынскага княства. Гэта перыяд значнага аслаблення Тураўскага княства і росту магутнасці Уладзіміра-Валынскага княства. Аднак апошняя заўвага не адказвае на пытанне аб палітычнай прыналежнасці гэтага рэгіёна ў папярэдні час. Верагодна, што згодна з пастановай Любецкага з'езда гэты рэгіён таксама ўваходзіў у тую зону "... до Буга по оне стороне Припети...", якая была зацверджана за Святаполкам з сынамі як за князямі тураўскімі, нашчадкамі Ізяслава Яраславіча.

Такім чынам, на падставе летапісных паведамленняў тэрыторыя Тураўскага княства ў XI ст. мела значныя памеры — ад Дняпра і да Заходняга Буга (пераходзячы на яго левы бераг каля Драгічына) — каля 500 км і ў напрамку з поўдня на поўнач ад правабярэжжа Прыпяці да граніц з Полацкім княствам — ад 200 (ад Рэчыцы да Рагачова) да 300 км (ад Паўночнай Валыні да Сярэдняга Панямоння), г. зн. ад 100—150 тыс. км$^2$. Трэба падкрэсліць, што гэта максімальныя памеры Тураўскага княства ў момант яго найбольшай значнасці ў XI ст. У далейшым памеры княства мяняліся, плошча яго скарачалася. Стабільнымі заставаліся паўночная і ўсходняя граніцы княства, значна змяняліся яго заходнія і паўднёвыя граніцы.

**Палітычная гісторыя.** Назва "Тураўскае княства" не сустракаецца ў старажытных летапісах. Аднак гэта не азначае, што яно не існавала як самастойнае адміністрацыйна-палітычнае ўтварэнне. Для абазначэння такіх утварэнняў летапісцы таксама ўжывалі тэрміны "зямля", "воласць" або называлі імя князя разам з назвай зямлі, тэрыторыі ці яе галоўнага горада (князь тураўскі, пінскі, дубровіцкі, полацкі, менскі і інш.)[5].

Назвы гэтыя былі раўназначныя і азначалі існаванне самастойных адміністрацыйна-палітычных адзінак (княстваў, зямель, валасцей) на чале з

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 631.
[2]Там жа. С. 752.
[3]*Татищев В.Н.* История Российская. Т. 1. С. 110.
[4]ПСРЛ. Т. 2. С. 310.
[5]*Насонов А.И.* "Русская земля" и образование территории Древнерусского государства. С. 34.

пэўнымі гістарычнымі асобамі, якія мелі годнасць князя. Летапісы неаднаразова называюць Тураў воласцю (980 г., 1136 г., 1155 г.)[1] або называюць тураўскіх князёў, што ў Тураве княжылі (1054 г. — Ізяслаў Яраславіч, 1088 г. — Святаполк Ізяславіч, 1274 г. — князі пінскія і тураўскія)[2]. Гэта сведчыць аб тым, што не можа быць ніякіх сумненняў у існаванні Тураўскага княства (воласці, зямлі) як самастойнага адміністрацыйнага ўтварэння, як не было яго ў летапісцаў і іх сучаснікаў у часы стварэння летапісаў.

У гістарычнай літаратуры апрача назвы "Тураўская зямля" (княства, воласць) часам сустракаецца назва "Турава-Пінская зямля" (княства, воласць). Такая назва не сустракаецца ў старажытных летапісах і ўяўляе сабой не гістарычную, а штучную назву, што ўжывалі асобныя даследчыкі, імкнучыся падкрэсліць важнае значэнне Пінска ў гісторыі гэтай зямлі. Аднак, калі падыходзіць да гэтай справы больш строга і адказна, трэба прызнаць такую падвойную назву неправамернай. Аб гэтым сведчаць наступныя довады. Тураў як цэнтр воласці (княства, зямлі) вядомы летапісцам з 980 г. Пінск упершыню ўпамінаецца ў летапісе ў 1097 г. Археалагічныя даследаванні Пінска не выявілі матэрыялаў старэй за апошнюю чвэрць XI ст. Гэта значыць, што на працягу канца X ст. і ўсяго XI ст. Тураў існаваў адзін, без Пінска, і ў гэты час не магло быць ніякіх падстаў называць Тураўскае княства (воласць, зямлю) Турава-Пінскім. Не было такіх падстаў у больш познія часы, калі Пінск узнік, хутка развіваўся і пачаў адыгрываць значную ролю ў жыцці княства. Аднак сталіца Тураўскага княства была заўсёды ў Тураве і ніколі не пераносілася ў Пінск. Дынастыя тураўскіх князёў заўсёды мела сваім месцазнаходжаннем Тураў і ніколі — Пінск. Менавіта ў Тураве як адміністрацыйна-палітычным, культурным і духоўным цэнтры Тураўскага княства (зямлі, воласці) была заснавана пры Уладзіміры Святаславічу адна са старэйшых у Кіеўскай дзяржаве самастойная Тураўская епіскапія (епархія). Пасля ўзнікнення і хуткага развіцця Пінска сюды ніколі не пераносіліся сталіца Тураўскага княства, месцазнаходжанне княжацкага прастола і месцазнаходжанне княжацкай рэзідэнцыі і дынастыі, а ў старажытныя часы (да ўключэння ў склад Вялікага княства Літоўскага) — месцазнаходжанне Тураўскай епархіі.

Гэтыя прычыны не дазваляюць лічыць правамерным ужыванне назвы "Турава-Пінскае княства" (зямля, воласць) і патрабуюць ужывання назвы "Тураўская зямля" (княства, воласць).

Фарміраванне Тураўскага княства адбывалася на падставе ўжо існуючага племяннога княжання дрыгавічоў на апошняй і вышэйшай стадыі іх развіцця. Дрыгавічы належалі да найбольш развітых у сацыяльна-эканамічных адносінах плямён усходняга славянства, аб чым яскрава сведчыла існаванне ў іх вядомых летапісцу (па паданнях) самастойных племянных княжанняў. Такія княжанні існавалі таксама ў палян, драўлян, севяран, крывічоў. Існаванне адзіных племянных княстваў для шырокіх тэрыторый рассялення асобных этнічных груп азначала іх значную кансалідацыю, усведамленне этнічнага адзінства, высокі ўзровень развіцця адносін, пры якіх у княжаннях ужо адбывалася вылучэнне сацыяльнай вярхушкі і адзінаўладных племянных князёў, якія, магчыма, ужо мелі спадчынную дынастычную ўладу.

Тураўскае княства вырастала на падставе княжання дрыгавічоў і было спадкаемцам яго тэрыторый, насельніцтва, традыцый, культуры, узроўню эканамічнага і сацыяльнага развіцця. Гэта быў ужо значны і высокі ўзровень, што дало падставу летапісцу назваць яго княжаннем, як відаць, параўноўваючы з існуючымі ў летапісныя часы княствамі. Аднак у параўнанні

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 63—64, 237, 303, 473.
[2]Там жа. С. 150, 199, 872.

з племяннымі княжаннямі гэта была ўжо больш высокая форма развіцця. Племянныя княжанні ўзнікалі на падставе першабытнаабшчыннага ладу, які знаходзіўся ўжо на стадыі яго разлажэння. Аб гэтым сведчыць вылучэнне ў ёй родаплемяннойвярхушкі і сваіх племянных князёў.

Аднак у раннефеадальным Тураўскім княстве грамадскае развіццё пайшло ўжо далей, і фарміраванне княжацкай улады адбывалася на падставе новай феадальнай структуры грамадства, з фарміраваннем сталай дынастычнай улады князя. Знешнім праяўленнем гэтага працэсу стала замена племянных княжанняў феадальнымі княствамі, што адбылося ў форме адміністрацыйнай рэформы вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча. Праводзячы палітыку аб'яднання пад сваёй рукой усіх усходнеславянскіх плямён і ўмацавання сваёй цэнтральнай улады, ён увёў адзіную для ўсіх хрысціянскую веру праваслаўнага веравызнання і замяніў племянных князёў сваімі сынамі, увёўшы іх строгую падначаленасць уладзе вялікага князя кіеўскага[1]. У Тураве князем быў пасаджаны сын Уладзіміра Святаславіча Святаполк. Гэтым актам закончылася існаванне княжання дрыгавічоў і быў пакладзены пачатак існаванню Тураўскага княства.

Сярод княстваў Старажытнай Русі Тураўскае княства займала даволі значнае месца. Пры раздзелах вялікім князем Кіеўскай Русі паміж сваімі сынамі Тураўскае княства звычайна надавалася трэцяму па старшынству сыну. Так, пры раздзеле зямель Кіеўскай дзяржавы Уладзімірам Святаславічам у 988 г. Тураў атрымаў Святаполк. Пры раздзеле Кіеўскай дзяржавы Яраславам Уладзіміравічам у 1054 г. тураўскім князем стаў яго трэці па старшынству сын Ізяслаў, які на час раздзелу заставаўся старэйшым сярод сваіх братоў. Пры наступным падзеле зямель Кіеўскай Русі ў 1125 г. Уладзімірам Манамахам Тураў атрымаў яго трэці па старшынству сын Вячаслаў. З гэтага пераліку відаць, што на працягу каля 150 гадоў сваёй ранняй гісторыі Тураўскае княства займала высокае месца і лічылася прэстыжным сярод іншых надзелаў, саступаючы толькі Наўгародскаму, Полацкаму, а пазней — Чарнігаўскаму княствам.

Аб важным значэнні Тураўскага княства сведчыць той факт, што тураўскія князі неаднаразова пераходзілі на кіеўскі велікакняжацкі прастол. Так, тураўскі князь Святаполк пасля смерці Уладзіміра Святаславіча ў 1015 г. заняў кіеўскі прастол. У 1054 г. пасля смерці вялікага князя кіеўскага Яраслава Уладзіміравіча Мудрага кіеўскі прастол заняў яго сын тураўскі князь Ізяслаў. У 1093 г. пасля смерці свайго дзядзькі вялікага князя кіеўскага Усевалада Яраславіча на кіеўскі велікакняжацкі прастол узышоў яго пляменнік тураўскі князь Святаполк Ізяславіч. У сярэдзіне XII ст. кіеўскім вялікім князем таксама станавіўся тураўскі князь Вячаслаў Уладзіміравіч (трэці сын Уладзіміра Манамаха).

У ранняй палітычнай гісторыі Тураўскай зямлі могуць быць вылучаны два этапы. Першы з іх звязаны з гісторыяй княства дрыгавічоў. Яно існавала самастойна і незалежна. Час яго падпарадкавання і ўключэння ў склад Кіеўскай Русі невядомы. Летапісец не паведамляе аб паходах на дрыгавічоў кіеўскіх князёў, як гэта гаворыцца аб паходах на радзімічаў, драўлян, севяран, вяцічаў. Княжаннем дрыгавічоў, відаць, кіравалі свае, мясцовыя князі, са сваёй мясцовай родаплемяннойстарэйшыны. Аднак у сярэдзіне X ст. становішча змянілася, і дрыгавічы апынуліся ў межах уплыву кіеўскага князя. Візантыйскі імператар і гісторык Канстанцін Парфірародны ў сваім вядомым творы "Аб народах" (949) упамінае "другувітаў" у ліку плямён, што плацяць даніну Русі[2].

---

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 105.

[2]Известия византийских писателей о Северном Причерноморье. М.;Л., 1934. С. 10.

Да гэтага ж перыяду ў гісторыі Тураўскай зямлі адносіцца таксама яго першае летапіснае ўпамінанне. Пад 980 г. летапісец паведамляе: "... бе бо Рогволод перешел из заморья, имяше волость свою Полотьске, а Тур Турове, от него же и туровци прозвашася..."[1]



Манета (срэбранік) тураўскага князя Святаполка

З гэтага кароткага летапіснага паведамлення можна зрабіць некалькі важных высноў: па-першае, князь Рагвалод не паходзіць з мясцовай палачанскай племяннай старэйшыны, а з'яўляецца прышэльцам з "заморя" варагам-захопнікам; па-другое, становішча Полацка і Турава аднолькавае, абодва гэтыя гарады з'яўляюцца сталіцамі аднолькава самастойных і незалежных княстваў; па-трэцяе, Тур не з'яўляецца заснавальнікам Турава, як і Рагвалод — Полацка.

Аднак летапісец занадта даверліва паставіўся да легенд і паданняў, бо ў X ст. летапісаў яшчэ не існавала. І не ўсяму можна давяраць у запісанай легендзе. Перш за ўсё тураўцы празваліся ад назвы горада Турава, а не ад прозвішча князя Тура. Па-другое, вельмі здзіўляе, як трапна накіраваўся варажскі князь Тур менавіта ў горад Тураў, які ўжо існаваў да яго з'яўлення. Па-трэцяе, чаму толькі Тураў засвоіў імя варажскага князя, у той час як з соцень старажытных гарадоў ніводзін не названы варажскім імем? Па-чацвёртае, калі назва Турава варажскага паходжання, то сотні іншых тапонімаў з коранем "тур" павінны мецъ такое ж паходжанне. А яны распаўсюджаны вельмі шырока (ад Польшчы і Славакіі да Заходняй Сібіры) у рэгіёнах, дзе ніколі не бывалі варагі.

Гэтыя пытанні не знаходзяць адказу, калі з поўным даверам і некрытычна паставіцца да летапіснага паведамлення. Таму многія даследчыкі лічаць паведамленне аб Туры этымалагічнай легендай, прыведзенай летапісцам, каб растлумачыць паходжанне назвы горада Турава. Тым больш што шырокае распаўсюджанне назваў з коранем "тур" на абшарах славянскіх арэалаў прымушае адносіць іх да назваў славянскага паходжання. Запіс у летапісе аб варажскім князі Туры хутчэй за ўсё мае легендарнае паходжанне, а князь Тур з'яўляецца не гістарычнай, а легендарнай асобай. Малаверагодна таксама паходжанне назвы Турава ад назвы жывёліны тура ці ад нейкага мясцовага бажаства. Магчыма, назва горада паходзіць ад прозвішча мясцовага князя, магутнага, няўрымслівага, як "буй-тур" (выраз са "Слова пра паход Ігаравы").

Летапіснае паведамленне 980 г. — апошняе з тых, што завяршаюць апавяданне пра гістарычныя падзеі першага перыяду палітычнай гісторыі Тураўскай зямлі.

Другі перыяд палітычнай гісторыі Тураўскай зямлі пачынаецца з паведамлення аб скасаванні ўлады дрыгавіцкіх князёў і раннефеадальнага Тураўскага княства. Як адзначалася вышэй, цэнтралізуючы ўладу ў Кіеўскай Русі і канцэнтруючы яе ў сваіх руках, кіеўскі вялікі князь Уладзімір Святаславіч (972—1015) у 988 г. пазбавіў улады мясцовых племянных князёў, а на іх месца прызначыў сваіх сыноў. Тураўскім князем быў "пасаджаны" Святаполк.

Святаполк нарадзіўся не раней 981 г. і ў 988 г. быў яшчэ ў дзіцячым узросце. На тураўскім прастоле разам з ім знаходзіўся апякун з ліку davераных асоб кіеўскага князя Уладзіміра.

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 63—64.

Згодна з паведамленнем нямецкага храніста Цітмара Мерзебургскага (975—1018), сучасніка падзей, у 1009 ці 1010 г. узяў шлюб Святаполк з дачкой польскага князя Баляслава Харобрага, якая прыехала ў суправаджэнні свайго духоўніка епіскапа Рэйнберна. Як відаць з паведамленняў Цітмара, у канцы 1012 г. Святаполк са сваёй жонкай і Рэйнбернам былі схоплены Уладзімірам, князем кіеўскім, і пасаджаны ў турму. Прычынай рэпрэсій, як мяркуюць даследчыкі, было імкненне Святаполка з дапамогай Баляслава дабіцца незалежнасці ад Кіева. У Тураве Рэйнберн загінуў, лёс жонкі Святаполка застаўся невядомым, а яго самога па просьбе кіеўскага баярства Уладзімір вызваліў са зняволення, аднак пакінуў пад сваім наглядам у Вышгарадзе.

15 ліпеня 1015 г. у Кіеве у час падрыхтоўкі карнага паходу на Яраслава наўгародскага, які перастаў выплачваць штогадовую даніну кіеўскаму князю, памёр Уладзімір Святаславіч. Вышгарадскае і кіеўскае баярства, што згуртавалася вакол Святаполка, узвяло яго на кіеўскі прастол. Як адзнаку сваёй велікакняжацкай годнасці ён выпускае манету "Святаполк на стале, а се яго срэбра".

Паводле летапіснай версіі, яму здаюцца небяспечнымі сапернікамі другія сыны Уладзіміра Святаславіча, і ён падсылае да іх забойцаў. Пад Пераяслаўлем на р. Альце забойцы загубілі яго малодшага брата Барыса, а пад Смаленскам на Смядыні — яго брата Глеба. Выкарыстоўваючы гэтыя забойствы як падставу, у барацьбу за кіеўскі прастол уключыўся яшчэ адзін іх брат — Яраслаў, князь наўгародскі. Пад Любечам на Дняпры глыбокай восенню войска Яраслава разграміла войска Святаполка, і ён збег у Польшчу да свайго цесця Баляслава Харобрага. У 1018 г. Святаполк з польскім войскам рушыў на Кіеў і ў бітве на Заходнім Бугу нанёс страшэннае паражэнне Яраславу, які збег у Ноўгарад толькі з 4 мужамі і збіраўся бегчы далей за мяжу. Але наўгародцы, баючыся помсты Святаполка, сабралі грошы на наём новага варажскага войска і зноў рушылі на Кіеў.

У Кіеве і навакольных гарадах у гэты час, пасля таго як узвялі Святаполка на прастол, сваволілі польскія войскі, прыцясняючы мясцовае насельніцтва. Як паведамляе летапісец, Святаполк нават загадаў памалу знішчаць іх. Баляслаў вымушаны быў рушыць назад у Польшчу, захапіўшы велікакняжацкія скарбы і сям'ю Яраслава. А ў гэты час з новым войскам пад Кіеў падступіў Яраслаў. Не маючы войскаў для барацьбы, страціўшы надзею на дапамогу з Польшчы, Святаполк кінуўся да печанегаў. У 1019 г. Святаполк прыйшоў з вялікім печанежскім войскам і Яраслаў выступіў яму насустрач. Вялікая і вельмі жорсткая бітва адбылася пад Пераяслаўлем, на р. Альце, дзе ў 1015 г. быў забіты іх брат Барыс. Перамогу атрымаў Яраслаў. Пасля паражэння Святаполк кінуўся ў Польшчу, пабег праз Берасце і загінуў за межамі Русі, "межи ляхи и чехи".

У летапісах Святаполк намаляваны толькі чорнымі фарбамі, называецца Акаянным. Тлумачыцца гэта імкненнем летапісца ўхваліць заснавальніка летапісу Яраслава і зняславіць яго палітычнага праціўніка Святаполка. На самай справе пераважныя правы на кіеўскі прастол меў старшы брат Святаполк, а малодшы Яраслаў выступаў як парушальнік прававых норм пераходу ў спадчыну прастола. Аднак вядомы знаўца старажытных летапісаў А. Шахматаў адзначаў, што "... рукой летописца управляли политические страсти и мирские интересы"[1].

З паведамленняў аб жыцці і дзейнасці Святаполка ў першую чаргу трэба адзначыць тыя, што адносяцца да Тураўскай зямлі. Па-першае, Святаполк — гэта першы дасташерны гістарычны князь Тураўскага княства, які

---

[1]*Шахматов А.А.* "Повесть временных лет". Пг., 1916. Т. 1. С. 16.

першым сеў на тураўскі прастол у 988 г. пасля вялікай адміністрацыйнай рэформы Уладзіміра Святаславіча. Па-другое, прызначэнне на тураўскі прастол Святаполка азначала высокую годнасць Тураўскай зямлі сярод іншых зямель Кіеўскай Русі. Па-трэцяе, шлюб тураўскага князя Святаполка з дачкой польскага караля Баляслава Харобрага падкрэсліваў высокую годнасць тураўскага князя і Тураўскага княства. Па-чацвёртае, сепаратысцкія імкненні Святаполка, які першым сярод іншых князёў выступіў за незалежнасць ад Кіева, сведчылі аб высокай ступені сацыяльна-эканамічнай самастойнасці Тураўскага княства. Па-пятае, цяжкае паражэнне Святаполка ў напружанай барацьбе за кіеўскі велікакняжацкі прастол прывялі да страты самастойнасці Тураўскага княства. Яно было ўключана ў склад агульнай Кіеўскай дзяржавы Яраслава Уладзіміравіча Мудрага. Тураўскае княства вылучылася ў наступны раз са складу Кіеўскай Русі яшчэ напярэдадні смерці Яраслава Мудрага ў 1054 г. Паведамляючы аб яго хваробе, летапісец заўважае: "Изяславу тогда в Турове князящю"[1]. Час, калі Ізяслаў стаў тураўскім князем, па летапісе не прасочваецца.

Ізяслаў нарадзіўся ў 1024 г., трэці па старшынству сын Яраслава Мудрага і старэйшы сярод братоў на час падзелу Кіеўскай Русі яго бацькам Яраславам Мудрым. Будучы вялікім князем кіеўскім з 1054 г., правёў бурнае палітычнае жыццё, добра адлюстраванае летапісам. Паводле паведамленняў заходніх хронік, удзельнічаў у паходах у Мазовію, быў у дыпламатычных зносінах з дваром польскага князя Казіміра, у 40-х гадах жыў у Ноўгарадзе, у 1043—1047 гг. ажаніўся з польскай князёўнай Алісавай-Гертрудай[2]. У сакавіку 1067 г. у адказ на захоп Ноўгарада полацкім князем Усяславам Брачыславічам узяў Менск, а ў чэрвені паланіў Усяслава з сынамі. У 1068 г. пацярпеў паражэнне ад полаўцаў і вымушаны быў уцякаць у Польшчу ў выніку паўстання ў Кіеве, дзе паўстаўшыя абралі князем вызваленага са зняволення Усяслава. У 1069 г. Ізяслаў вярнуўся з Польшчы, а Усяслаў, не маючы сіл для барацьбы і падтрымкі, збег у Полацк. Ізяслаў выгнаў Усяслава з Полацка і пасадзіў там свайго сына Мсціслава, а пасля яго хуткай смерці — другога сына Святаполка (у 1071 г. выгнаны Усяславам). У 1073 г. Ізяслаў быў выгнаны з Кіева Святаполкам і Усеваладам, вярнуўся ў 1076 г. пасля смерці Святаслава, загінуў 3 снежня 1078 г. у бітве на Нежацінай ніве, абараняючы брата Усевалада ад пляменнікаў, якія захапілі Чарнігаў.

Знаходзячыся на кіеўскім велікакняжацкім прастоле, Ізяслаў працягваў заставацца князем тураўскім. Аднак дзейнасць яго як князя тураўскага не адлюстравана ў летапісах. Тлумачыцца гэта тым, што вірлівае палітычнае жыццё ў Кіеве паглынала ўсю ўвагу Ізяслава і летапісцаў, якія не мелі звестак з перыферыі. Адносна Турава можна заўважыць, што абароненае аўтарытэтам і ваеннай сілай вялікага князя Ізяслава, яно знаходзілася ў зоне адносна спакойнага жыцця.

Пасля гібелі Ізяслава Яраславіча ў 1078 г. вялікім князем кіеўскім стаў яго малодшы брат Усевалад Яраславіч. Ён пакінуў сынам Ізяслава надзелы, якімі валодаў Ізяслаў Яраславіч. Старэйшы з Ізяславічаў Яраполк атрымаў Уладзіміра-Валынскае княства, прыдаўшы яму Тураўскае, а малодшы Святаполк — Наўгародскае. Лёс Тураўскага княства ў гэты час знаходзіўся ў цеснай сувязі з лёсам Валынскага княства.

Яраполку Ізяславічу давялося весці жорсткую і ўпартую барацьбу за Валынскае княства з мясцовымі князямі і вялікім князем кіеўскім. У 1084 г. валынскія князі Васілька Расціславіч, князь цярабоўльскі, і яго брат Валадар

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 150.

[2]*Королюк В.Д.* Западные славяне и Киевская Русь. М., 1964. С. 313—321.

Расціславіч, князь перамышльскі, выгналі Яраполка, які мусіў уцякаць у Польшчу. Паслаўшы сына Уладзіміра Манамаха з дружынай, Усевалад дапамог аднавіцца на ўладзіміра-валынскім прастоле Яраполку Ізяславічу. Аднак апошні, разлічваючы на падтрымку польскага караля, каб атрымаць кіеўскі велікакняжацкі прастол, у 1085 г. пачынае барацьбу з Усеваладам Яраславічам. Зноў на Валынь ідзе з дружынай Уладзімір Манамах, выганяе Яраполка. Усевалад Яраславіч перадае Уладзімірскае і Тураўскае княствы Давыду Ігаравічу.

У 1087 г. вяртаецца з Польшчы Яраполк і сядае на ўладзімірскі прастол, аднак ненадоўга, бо праз некалькі дзён — 22 лістапада — пад Звенігарадам ён быў забіты. Уладзімірскае княства зноў атрымлівае Давыд Ігаравіч.

Тым часам у 1088 г. "... иде Святаполк из Новагорада Турову на княжение"[1]. Відаць, улічваючы сваё паходжанне ад Ізяслава, старэйшага сына з Яраславічаў, і свае правы на кіеўскі прастол, Святаполк вырашыў перамясціцца бліжэй да Кіева і заняць бацькоўскі прастол у Тураве. У гэтым яму ніхто не рабіў перашкоды, бо прызнавалі яго правы. Такі пераход яшчэ раз пацвердзіў важнае значэнне Тураўскага княства, дзеля якога Святаполк пакінуў Наўгародскае княства.

Спадзяванні Святаполка спраўдзіліся. У 1093 г. 13 красавіка ў сераду, у велікодную нядзелю, памёр Усевалад Яраславіч. Уладзімір Усеваладавіч, не маючы сіл вытрымаць барацьбу, прапанаваў кіеўскі прастол Святаполку, прызнаючы яго пераважныя правы. Святаполк сеў на кіеўскі прастол 24 красавіка 1093 г.

Княжанне Святаполка ў Кіеве даволі падрабязна асветлена ў летапісе. Летапісец пры гэтым не вельмі схільна ставіцца да Святаполка. Святаполк вядзе ўпартую барацьбу з полаўцамі, заключае мір з Тугарканам у 1094 г. і жэніцца на яго дачцы. У 1096 г. зноў зацятая бойка з полаўцамі. У 1097 г. па ініцыятыве Святаполка і Уладзіміра Манамаха адбыўся знакаміты з'езд князёў у Любечы. Згодна з пастановаю з'езда, Святаполк "... яко князь тураўскі" атрымліваў вялізную тэрыторыю "...об оне стороне Припети с городами Туровом, Пинском, Берестьем и Погорынью", а як вялікі князь кіеўскі — Кіеўскае княства і Наўгародскую зямлю да яго[2]. Дзейнасць Святаполка як князя кіеўскага добра асветлена ў летапісе, а як князя Тураўскага засталася ў цяні. Вядома толькі, што ў Кіеў ён прывёз з сабою сваю тураўскую дружыну, "маладую", "новую". Кіеўскі летапісец крыўдзіцца за старую кіеўскую дружыну.

В. Тацішчаў прывёў цікавую характарыстыку Святаполка: "Сей князь великий был ростом высок, сух, волосы чермноваты и прями, борода долгая, зрение острое. Читатель был книг е вельми памятен, за многое бо лета бывшее мог сказать, яко написанное. Болезней же ради мало ел, и весьма редко, и то по нужде для других учился. К войне не был охотник, и хотя на кого скоро осердился, но скоро и запамятовал. При том был вельми сребролюбив и скуп... многи христиане торгу и ремесла лишились..."[3]

Святаполк Ізяславіч памёр 16 красавіка 1113 г. Вялікім князем кіеўскім стаў Уладзімір Манамах. Сын Святаполка Яраслаў не атрымаў бацькоўскай спадчыны — Тураўскай зямлі. Яна засталася за новым кіеўскім вялікім князем — Уладзімірам Манамахам.

Так скончыўся другі перыяд у гісторыі Тураўскага княства — перыяд захавання самастойнасці, спадчыннай княжацкай дынастыі, вялікага значэння княства сярод іншых зямель Кіеўскай Русі.

---

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 199.
[2]Там жа. С. 231.
[3]*Татищев В.Н.* История Российская. Т. 2. С. 128.

ГЛАВА 2

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў XII–XIII стст.

## 1. Палітычная гісторыя Полацкай зямлі

**Любецкі з'езд князёў і яго асноўны вынік.** У сярэднявеччы былі распаўсюджаны з'езды князёў. Ва ўсходніх славян з'езд абазначаўся словам "снем". Тэрмін гэты мае некалькі значэнняў. Звычайна так называлася ваенная сустрэча саюзных войскаў. Зрэдку слова "снем" азначала сустрэчу для размовы. Лёсавызначальнымі маглі стаць з'езды, калі сустракаліся князі для вырашэння карэнных пытанняў, якія адносіліся да грамадскай арганізацыі, дзяржаўнага ладу і знешняй палітыкі.

Пастановы знакамітага Любецкага з'езда вырашылі лёс Кіеўскай Русі на некалькі стагоддзяў. Шэсць найбольш уплывовых князёў Русі сабраліся разам, каб спыніць міжусобіцы і ўмацаваць паміж сабой мір. "Навошта, — гаварылі яны, — нішчым мы Рускую зямлю, самі задумваем адзін на аднаго крамолу (змову), а полаўцы раздзіраюць нашу зямлю і рады, што мы ваюем паміж сабою. З гэтага часу будзем усе аднадушнымі"[1].

На з'ездзе князям удалося дамовіцца аб сумесных дзеяннях па абароне Рускай зямлі ад полаўцаў. Усе князі цалавалі крыж і раз'ехаліся задаволеныя. І толькі пазней стала зразумела, што на Любецкім з'ездзе 1097 г. было юрыдычна замацавана раздрабленне старажытнарускай дзяржавы Рурыкавічаў. Любецкі з'езд стаў паваротным пунктам у гісторыі ўсходняга славянства. Ён адлюстроўваў перадом у размеркаванні зямельнай уласнасці і тым самым садзейнічаў усталяванню феадальных адносін.

У Кіеўскай Русі не было адзінай сістэмы наследавання княжацкага пасада (прастола). Крывавыя сутыкненні паміж князямі, якія адбываліся ў час княжацкіх міжусобіц, ускладняліся частымі набегамі стэпавых качэўнікаў — полаўцаў. Здаралася так, што князі самі бралі цюркскіх качэўнікаў у саюзнікі і прыводзілі іх на Русь[2].

На з'ездзе было вырашана, каб кожны з князёў "держал свою отчину", г. зн. атрыманую ад бацькі зямлю, і не прэтэндаваў на ўладанні іншых князёў. Удзельнікі з'езда дамовіліся аб тым, што калі хто-небудзь з князёў падымаецца на другога, то яны павінны выступіць супраць пачынальніка міжусобіц. Такім чынам, на Любецкім з'ездзе быў санкцыяніраваны новы палітычны лад. З'ездам было прызнана: "кождо держить отъчину свою" (няхай кожны трымае зямлю свайго бацькі)[3].

Руская зямля з гэтага часу больш не лічылася адзіным уладаннем усяго княжацкага дому Рурыкавічаў, а была сукупнасцю асобных "отчин", спадчынных уладанняў розных галін княжацкага дому. Устанаўленне гэтага прынцыпу юрыдычна замацоўвала ўжо пачатае з 1054 г. (пасля смерці Яраслава Мудрага) раздзяленне Рускай зямлі на асобныя княствы-вотчыны і феадальную раздробленасць. Спыніць усобіцы на Русі не ўдалося. Хутка ваеннымі дзеяннямі была ахоплена ўся Руская зямля. Князі запрашалі на дапамогу іншаземнае войска: палякаў, полаўцаў, венграў.

У 1101 г. у Віцічаве на Дняпры быў скліканы другі з'езд князёў. Яшчэ адна спроба захаваць выгляд адзінства Кіеўскай Русі як дзяржавы была зроблена на з'ездзе ў 1103 г. на Далобскім возеры, дзе князі прынялі рашэнне аб

---

[1]Літопис Руський. Київ, 1989. С. 146.
[2]*Греков Б.Д.* Киевская Русь. М., 1953. С. 348, 470.
[3]ПСРЛ. Т. 2. С. 231.

сумесным паходзе супраць полаўцаў. На гэтых з'ездах-снемах не ўдалося захаваць адзінства краіны, хаця яны і адыгрывалі прыкметную ролю ў паспяховай барацьбе Русі з качэўнікамі.

Полацкі князь Усяслаў не ўдзельнічаў у Любецкім з'ездзе. І гэта зусім зразумела: ён быў незалежным правіцелем свайго княства. Полацкія князі з'яўляліся сюзерэнамі тэрыторыі, дзе ажыццяўлялася іх улада, як гэта назіраецца ў іншых сярэднявечных дзяржавах. Фарміраванне меж уладанняў полацкага князя ў якасці сюзерэна краіны адбывалася ў X—XI стст.

Перыядычныя спробы паўднёварускіх князёў прымусіць Полацк і Менск падпарадкавацца ўладзе Кіева прыводзілі да ваенных сутычак. Так часта здаралася ў XI ст. У пачатку XII ст. Уладзімір Манамах і іншыя рускія князі мелі значныя поспехі ў барацьбе з качэўнікамі-полаўцамі. Заняўшы кіеўскі прастол, Уладзімір Манамах (1113—1125) імкнуўся ўмацаваць Старажытную Русь у шырокім сэнсе і прымусіць іншых князёў падпарадкавацца яму. Гэтыя спробы прывялі толькі да часовага поспеху. Уладзімір Манамах нярэдка жорстка душыў любое праяўленне мясцовай самастойнасці, парушаючы гэтым самым права кожнага асобнага княства на незалежнае развіццё і існаванне, што лагічна выцякала з дамоўленасцей 1097 г. у Любечы. Традыцыі жорсткай палітыкі свайго бацькі працягваў сын Манамаха вялікі князь кіеўскі Мсціслаў (1125—1132). Пасля смерці Мсціслава Уладзіміравіча Старажытная Русь раскалолася назаўсёды. Гэта значыць, што яна канчаткова распалася на асобныя часткі[1].

**Часовае ўзвышэнне Менска.** Усяслаў Брачыславіч быў найбольш магутным і апошнім князем, які валодаў усёй Полацкай зямлёй. Пасля яго смерці з Полацкай зямлі пачалі вылучацца ўдзелы-воласці, у якіх мелі права княжыць прадстаўнікі полацкай княжацкай дынастыі.

Пісьмовыя крыніцы называюць 7 імён сыноў Усяслава Полацкага: Давыд, Глеб, Рагвалод, Барыс, Раман, Расціслаў, Святаслаў. Трэба сказаць, што ў тыя часы людзі часта мелі два імені — адно язычніцкае ("хатняе", больш прывычнае) і хрысціянскае, якое давалі чалавеку пры хрышчэнні. Сын Усяслава Брачыславіча Святаслаў меў другое імя — Георгій, унук Усяслава Рагвалод атрымаў пры хрышчэнні імя Васіль. У летапісе ў адным выпадку князь мог быць названы свецкім прывычным імем, а ў другім — хрысціянскім. Таму ў пісьмовых крыніцах колькасць імён магла мець разыходжанні. Выказваюцца меркаванні, што Барыс меў другое імя — Рагвалод. Калі гэта адпавядае сапраўднасці, то ва Усяслава было 6 сыноў.

Заблытаным з'яўляецца пытанне аб іх старшынстве. Сярод даследчыкаў дагэтуль ідуць спрэчкі пра тое, хто сеў на полацкі пасад адразу пасля смерці Усяслава. Адны называюць Давыда, другія — Барыса[2]. Больш верагодна, што гэта быў Барыс[3].

Беларуска-літоўскія хронікі прыпісваюць менавіта Барысу шэраг знамянальных спраў — будаўніцтва г. Барысава на р. Бярэзіне, узвядзенне ў Полацку каменных цэркваў. В. Тацішчаў пацвярджае, што полацкі князь Барыс сапраўды пабудаваў Барысаў і ўдакладняе дату — 1102 г.

Відаць, менавіта князем Барысам быў здзейснены паход на старажытнае латышскае племя земгалаў, якое знаходзілася ў сярэдняй частцы тэрыторыі Латвіі ў басейне р. Ліелупе. У Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1106 г. паведамляецца: "Победиша зимегола Всеславичь всю братью и дружины убиша 9 тысящь". Вельмі магчыма, што земгалы раней былі пакораны Полацкам, але пасля смерці Усяслава перасталі плаціць даніну і выйшлі з падначалення

[1]История СССР с древнейших времен до наших дней. М., 1966. Т. 1. С. 575—577; *Субтельний О.* Україна, історія. Київ, 1993. С. 61.

[2]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь. Мн., 1990. С. 152, 153.

[3]*Загорульский Э.М.* Генеалогия полоцких Изяславичей. Мн., 1994. С. 6—9.

полацкім князям. Князі Усяславічы дзейнічалі разам усёй "братью", але пацярпелі моцнае паражэнне.

Як будзе паказана ніжэй, у канцы XI — першай палове XII ст. узніклі Менскае, Ізяслаўскае ўдзельныя княствы, пазней — Друцкае, Віцебскае, Лагойскае і інш. Прастол у Полацку лічыўся галоўным, і гэты горад працягваў заставацца самым буйным палітычным цэнтрам, старшым горадам Полацкай зямлі. Магчыма, што Усяслаў Полацкі пры жыцці накіроўваў у больш значныя гарады сваіх старэйшых сыноў у якасці пасаднікаў. Пасля смерці Усяслава яго сыны станавіліся самастойнымі валадарамі асобных удзельных княстваў. Паміж князямі адбывалася міжусобная барацьба.



Брама дзядзінца Менска XII ст.
(паводле даных археалагічных раскопак)

Менскае княства атрымаў Глеб Усяславіч. У 1073 г. Глеб быў заручаны з нованароджанай дачкой Яраполка Ізяславіча, князя валынскага і вышгарадскага. Глеб, які стаў князем у Менску, накіроўваў усю энергію на ўмацаванне і пашырэнне Менскага княства.

У 1105 г. (у Іпацьеўскім летапісе — у 1104 г.) на Менск напала аб'яднанае войска паўднёварускіх князёў. Кіеўскі князь Святаполк накіраваў супраць Глеба ваяводу Пуцяту, Уладзімір Манамах — свайго сына Яраполка, чарнігаўска-северскі князь Алег Святаславіч хадзіў сам, "поемше" (узяўшы) з сабой Давыда Усяславіча. Паход на Менск не меў поспеху. Глеб Усяславіч здолеў адбіць напад.

Узнікае пытанне, чаму ў гэтым паходзе ўдзельнічаў Давыд Усяславіч, родны брат менскага князя Глеба. Верагодна, Давыд не меў удзельнага княства і разлічваў яго атрымаць з дапамогай паўднёварускіх князёў. Не выпадкова ў пераліку князёў, якія ўдзельнічалі ў паходзе на полаўцаў у 1103 г., у Лаўрэнцьеўскім летапісе Давыд названы сярод маладых князёў, большасць з якіх былі ізгоямі, пра што пісалі гісторыкі[1].

Глеб Усяславіч імкнуўся пашырыць свае ўладанні перш за ўсё ў напрамку да Дняпра, адкуль адкрываліся перспектывы шырокіх сувязяў са знешнім светам. Гэта ў сваю чаргу абяцала эканамічную моц, упэўненае палітычнае становішча ўсёй Полацкай зямлі. У Аршанскім Падняпроўі інтарэсы Глеба Усяславіча сутыкнуліся з асабістымі інтарэсамі Уладзіміра Манамаха, які ў 1097 г. зноў узяў Смаленскае княства ва ўдзел. Уладзімір Манамах і яго нашчадкі намагаліся пашырыць тэрыторыю Смаленскага княства ў першую чаргу за кошт заходніх зямель, што належалі Полацкай зямлі ці знаходзіліся ў сферы яе інтарэсаў.

Амаль адначасовае ўзвядзенне на левым беразе Дняпра на рубяжы XI—XII стст. крэпасці Копысь і будаўніцтва на правым беразе крэпасці Орша ў пачатку XII ст. сведчыць аб сутыкненні меж Полацкай зямлі і Смаленскага княства на

[1]*Данилевич В.Е.* Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896. С. 71.—72.

Дняпры[1]. Як бачна з летапісных паведамленняў, пад уладай менскага князя Глеба неўзабаве апынуўся г. Копысь. У 1116 г. Глеб пашырае свае валоданні за кошт зямель дрыгавічоў (дзе таксама былі інтарэсы Манамахавічаў), спаліў г. Слуцк, захапіў у палон шмат людзей. Уладзімір Манамах, які быў на той час вялікім князем кіеўскім, накіраваў на менскія ўладанні Глеба Усяславіча шматлікае войска з трох бакоў. Смаленскі князь Вячаслаў, сын Манамаха, захапіў Оршу і Копысь. Другі яго сын Яраполк знішчыў Друцк, а яго жыхароў вывеў у палон у Пераяслаўскае княства. Сам Уладзімір Манамах накіраваўся на Менск і пачаў яго двухмесячную аблогу. Не дасягнуўшы поспеху, ён загадаў будаваць трывалае зімовае жыллё ў сваім стане. Толькі тады Глеб Усяславіч накіраваў паслоў да Манамаха, які згадзіўся на мірныя перагаворы. Глеб выйшаў з горада са сваімі дзецьмі і дружынаю і паабяцаў Манамаху ва ўсім яго слухацца. Пасля гэтага Уладзімір Манамах вярнуўся ў Кіеў. Сярод даследчыкаў існуе думка, што менавіта падчас аблогі Менска Манамах напісаў сваё "Павучанне", у якім паведамляў аб шматлікіх паходах, у тым ліку на Полацк і Менск.

Пагром 1116 г., учынены кааліцыяй паўднёварускіх князёў, фактычна ліквідаваў ранейшыя дасягненні Глеба Менскага ў Аршанскім Падняпроўі, якія былі карыснымі для ўсёй Полацкай зямлі. Зразумела, чаму ў 1119 г. Глеб Усяславіч разам з палачанамі "паки начал воевать области Владимировых детей, Новогородскую и Смоленскую" [2]. Гэта была кроўная справа ўсёй Полацкай зямлі. Тады Уладзімір Манамах наказаў свайму сыну Мсціславу асадзіць Менск і быць бязлітасным у дачыненні да Глеба. Паланенне Глеба Усяславіча, яго хуткая смерць у Кіеве, далучэнне Менска з воласцю да кіеўскіх уладанняў — такім быў вынік зацятай барацьбы. Гэтыя падзеі яшчэ больш пагоршылі адносіны паміж полацкімі і кіеўскімі князямі.

**Паход на Полацкую зямлю 1127 г. і высылка яе князёў у Візантыю.** Пасля 1119 г. Менск на пэўны час знік са старонак летапісаў. Са стратай Менскай воласці полацкія князі не маглі змірыцца. У працы В. Тацішчава ёсць запіс, што ў 1121 г., праз два гады пасля смерці Глеба, "Владимир, князь великий, был с детми своими в Смоленске для рассмотрения несогласей и усмирения полоцких князей и некоторых других разпорядков"[3]. Нельга пагадзіцца з Л. Аляксеевым, які лічыў гэты запіс паказчыкам таго, што полацкія князі выступалі ў ролі васалаў Манамаха[4]. На самай справе верагодней за ўсё клан Манамахавічаў спрабаваў вырашыць пытанні кампенсацыі Полацкай зямлі за страту Менскай воласці і ўстанаўлення смаленска-полацкай мяжы. Узнікненне шэрагу памежных крэпасцей па правым беразе Дняпра ў XII ст., якія акрэслівалі лінію полацкай мяжы са Смаленскім княствам, дазваляе ўспрымаць гэты факт як вынік перагавораў[5].

Відавочна, што дамоўленасці, дасягнутыя паміж полацкімі князямі і кланам Манамахавічаў, дзейнічалі на працягу ўсяго праўлення Уладзіміра Манамаха ў Кіеве. Але сітуацыя змянілася пасля смерці Манамаха і ўстанаўлення на кіеўскім пасадзе яго сына Мсціслава. Летапісцы не называюць прычын паходу паўднёварускіх аб'яднаных сіл у Полацкую зямлю ў 1127 г. Сярод даследчыкаў існуюць розныя меркаванні, у тым ліку на першы план выносіцца пытанне аб спробах палачан вярнуць Менск з воласцю. Нездарма ж у даследаванні В. Тацішчава гаворыцца, што полацкія князі "области, данные братьям и сынам его (Мстислава), непрестанно нападая, разоряли"[6].

[1]*Ляўко В.М.* Смаленска-Полацкае памежжа ў Верхнім Падняпроўі (па археалагічных і пісьмовых крыніцах) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1997. № 12. С. 174—175.
[2]*Татищев В.Н.* История Российская. Т. 2. С. 133.
[3]Там жа. С. 134.
[4]*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. С. 257—258.
[5]*Ляўко В.М.* Смаленска-Полацкае памежжа ў Верхнім Падняпроўі (па археалагічных і пісьмовых крыніцах). С. 175—176.
[6]*Татищев В.Н.* История Российская. Т. 2. С. 139.

Паход 1127 г. адрозніваўся ад паходу 1116 г. перш за ўсё тым, што ў ім прымалі ўдзел не толькі прыхільнікі Манамахавічаў, але значна большая колькасць паўднёварускіх князёў. Гэты паход быў добра спланаваны і меў сваёй мэтай падпарадкаванне ўсёй Полацкай зямлі Кіеўскай дзяржаве. Расклад войскаў, якія прымалі ўдзел у паходзе, паказвае значэнне кожнага горада Полацкай зямлі, супраць якога яны выступалі. На Ізяслаўль (Заслаўе) былі скіраваны адразу чатыры дружыны. Удзельны цэнтр знаходзіўся на паўднёва-заходняй ускраіне Полацкай зямлі. Адсюль ажыццяўляліся паходы полацкіх князёў у суседнія землі. Паведамленне Густынскага летапісу аб тым, што Мсціслаў паслаў войскі "в Литву ко Изяславлю"[1], падкрэслівае тое, што менавіта гэты цэнтр Полацкай зямлі быў галоўным супернікам паўднёварускіх князёў у іх экспансіі на землі Літвы. Другім горадам, на які былі скіраваны моцныя сілы, з'яўляўся Барысаў: "А Всеволоду Ольговичю повеле ити с своею братиею на Стрежев к Борисову Ивана Вонтешича туже посла с торкы". У Лагойск і Друцк было накіравана па аднаму атраду: "и сына своего Изяслава ис Курска с своим полком посла и на Логожеск, а другаго сына своего Ростислава посла со Смолняны на Дрьютеск"[2].

На полацкім пасадзе ў той час знаходзіўся Давыд Усяславіч. Яго сын Брачыслаў, жанаты з дачкой Мсціслава, арганізатара паходу, княжыў у Ізяслаўлі. Барыс Усяславіч верагодней за ўсё знаходзіўся ў сваёй Барысаўскай воласці. Нездарма ж галоўныя сілы паўднёварускіх войскаў былі скіраваны на гарады, што ўпраўляліся князямі, а не праз намеснікаў Давыда.

Лаўрэнцьеўскі спіс змяшчае паведамленне аб паходзе на Полацкую зямлю пад 1127 г., Іпацьеўскі спіс — пад 1128 г. Больш абгрунтаванай датай з'яўляецца 1127 г. Для нанясення рашаючага ўдару ўсяму войску быў назначаны дзень — 4 жніўня. У летапісах падрабязна апісана, як сын Мсціслава Ізяслаў парушыў план, наблізіўшыся да Лагойска за дзень да назначанага тэрміну. Нечакана да яго ў палон трапіў Брачыслаў, які спяшаўся са сваёй дружынай на дапамогу бацьку ў Полацк з Ізяслаўля. Даведаўшыся пра гэта, жыхары Лагойска здалі князю Ізяславу горад. Другім пацярпелым горадам быў Ізяслаўль, які асаджала вялікае войска. Убачыўшы палонёным свайго князя, жыхары горада адкрылі браму войску князя Ізяслава, але не змаглі пазбегнуць рабавання і здзекаў з боку захопнікаў[3].



Паход паўднёварускіх князёў у Полацкую зямлю

Летапісы не паведамляюць, ці былі ўзяты Друцк і Барысаў. Вынікі гэтага вялікага паходу выкладзены сцісла і ўяўляюцца не зусім лагічнымі. Палачане "выгнаша Давыда и с сыньми и поемши Роговолода идоша к Мстиславу просвяще и собе княземь и створи волю ихь Мстиславь и поимше Роговолода ведоша и

[1]Густинская летопись // ПСРЛ. СПб., 1843. Т. 2.
[2]ПСРЛ. М., 1962. Т. 1. С. 297—299.
[3]ПСРЛ. Т. 2. С. 292—293.

Полотьску"[1]. Трэба разумець, што палачане, змовіўшыся, выгналі Давыда з сынамі, узялі Рагвалода і пайшлі з ім да Мсціслава, просячы ўзяць яго за князя. І выканаў іх волю Мсціслаў. Тады палачане ўзялі Рагвалода і павялі ў Полацк на княжанне. Відавочна, што ў дадзеным выпадку на палітычную арэну выступіла новая сіла — веча, "палачане", якое ўзяло на сябе справу ўладкавання адносін паміж Кіеўскай дзяржавай і Полацкай зямлёй. Дазвол з боку Мсціслава на замену аднаго полацкага Усяславіча другім на полацкім пасадзе сведчыць аб тым, што полацкая княжацкая сям'я ў выніку паходу 1127 г. трапіла часова ў васальную залежнасць ад Кіева. У той жа час не выкарыстанымі да канца засталіся магчымасці, якія адкрываліся перад кіеўскай кааліцыяй. Палітычная нестабільнасць становішча ўнутры самой Кіеўскай дзяржавы (Русі), барацьба паміж Манамахавічамі і Вольгавічамі, удзельнікамі паходу, за дзяржаўную ўладу прымусілі часовых паплечнікаў спыніцца на паўмерах у адносінах да Полацкай зямлі.

У "Хроніцы Быхаўца" пра князя Барыса гаворыцца: "І валадарачы ў Полацку, быў ласкавы да падданых сваіх, і даў ім вольнасці і дазволіў веча мець, і ў звон званіць (склікаць веча), а потым і самім кіраваць, як у Вялікім Ноўгарадзе і Пскове. А потым князь полацкі Барыс памёр"[2]. Гэта здарылася ў 1129 г. Аб далейшых суадносінах паміж Кіевам і полацкім княжацкім домам паведамляецца ў Іпацьеўскім спісе ў двух месцах: коратка пад 1130 г. і больш дэталёва пад 1140 г. У В. Тацішчава дадзеныя падзеі правільна датуюцца 1129 г. На заклік Мсціслава да сваіх васалаў прыняць удзел у паходзе на полаўцаў полацкія князі з лаянкай адмовіліся. Тым самым была парушана ўмова "крыжацалавання", паводле якой спыніліся ваенныя дзеянні 1127 г. Таму пасля перамогі над полаўцамі Мсціслаў накіраваў сваіх ваявод аб'явіць "усім палачанам ва ўсіх гарадах", што дзеянні іх князёў недапушчальныя. Полацкае веча, асцерагаючыся новага спусташэння Полацкай зямлі, не стала на іх абарону. Князі Давыд, Расціслаў, Святаслаў, два сыны Барыса з жонкамі і дзецьмі былі вывезены спачатку ў Кіеў, дзе ім было аб'яўлена аб пакаранні за непаслушэнства, а потым сасланы ў Канстанцінопаль. Візантыйскі імператар Іаан, зяць Мсціслава, прыняў полацкіх князёў і прызначыў іх у войска, якое ваявала супраць сарацын (арабаў), дзе яны з пахвалой служылі[3].

Пакараўшы полацкіх князёў, Мсціслаў нарэшце атрымаў магчымасць упраўляць Полацкай зямлёй. Ён "мужи свои посади по городом ихь", а сам ажыццяўляў рабаўнічыя паходы на даннікаў Полацка: "В лето 6640 (1132) ходи Мьстиславль на Литву с сыньми своими и сьолговичи и сь Всеволодомь Городеньскимь и пожгоша я"[4]. У самім Полацку правіў сын Мсціслава Ізяслаў, актыўны ўдзельнік паходу 1127 г. Смерць вялікага князя кіеўскага Мсціслава Уладзіміравіча ў 1132 г. зноў змяніла палітычную сітуацыю на карысць Полацкай зямлі.

**Палітычнае жыццё Полаччыны ў сярэдзіне XII — пачатку XIII ст.** Пасля смерці Мсціслава яго месца ў Кіеве заняў брат Яраполк. Ён перавёў Ізяслава Мсціславіча з Полацка ў Пераяслаўль таму, што той быў прэтэндэнтам на кіеўскі пасад. Але пазней Ізяслаў у выніку дзеляжу кіеўскіх уладанняў апынуўся ў Менску і яму ў прыдачу былі аддадзены Тураў і Пінск. У Полацку застаўся трэці Мсціславіч — Святаполк. Але палачане, скарыстаўшы разборкі паміж кіеўскімі князямі, аб'явілі: "лишается нась" и "выгнаша Святополка, а Василка посадиша Святославича"[5]. Такім чынам, на полацкім пасадзе зноў быў прад-

[1]ПСРЛ. Т. 1. С. 299.
[2]Хроника Быховца. М., 1966. С. 39; Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997. С. 76—77.
[3]*Татищев В.Н.* История Российская. Т. 2. С. 142.
[4]ПСРЛ. Т. 2. С. 294.
[5]ПСРЛ. Т. 1. С. 301.

стаўнік полацкага княжацкага дому. Васілька Святаславіч правіў у Полацку з 1132 г. Але да самага вяртання сасланых у Візантыю князёў (1140) Полацкая зямля выконвала абавязкі васала ў адносінах да Кіеўскай дзяржавы. Аб гэтым сведчаць летапісныя звесткі. У 1138 г. Васілька Святаславіч сустракае і падтрымлівае выгнанага з Ноўгарада Усевалада Мсціславіча, які накіроўваўся ў Пскоў. У 1139 г. полацкія "вои" ўдзельнічаюць у паходзе кіеўскага князя на Чарнігаў супраць Ольгавічаў. Калі памёр кіеўскі князь Яраполк (паводле Іпацьеўскага летапісу — у 1139 г.), князі, якія вярнуліся з Візантыі, засталі на кіеўскім пасадзе Усевалада Ольгавіча, прадстаўніка варожага Манамахавічам стану. З гэтага часу палітычныя адносіны як у самой Полацкай зямлі, так і паміж ёю і кіеўскімі ўладаннямі асабліва ўскладніліся.

Кіеўская дзяржава пасля 1132 г. канчаткова распалася на землі — "вотчыны", якімі валодалі асобныя галіны роду Рурыкавічаў. Калектыўную адказнасць яны неслі толькі за "Рускую зямлю", г. зн. за пачатковае ядро Кіеўскай дзяржавы, таму кіеўскі пасад заставаўся пачэсным і прываблівым. Кожны з найбольш уплывовых князёў меў сваю частку ў Рускай зямлі, што давала яму права змагацца за прыярытэт яго сям'і ў палітычных справах.

Каб павысіць сваю палітычную вагу, паўднёварускія князі змянілі тактыку ў адносінах да полацкага княжацкага дому. Усевалад Ольгавіч, які займаў велікакняжацкі стол у Кіеве і адначасова быў князем чарнігаўскім, у 1143 г. ажаніў свайго сына Святаслава на дачцы полацкага князя Васількі Усяславіча — Марыі і вельмі даражыў сувязямі з Полацкам[1]. Яго палітычны сапернік Ізяслаў Мсціславіч выдае сваю дачку за Рагвалода Барысавіча (паводле Іпацьеўскага спіса — у 1143 г., а паводле Лаўрэнцьеўскага — у 1144 г.). Такім чынам, патомкі Святаслава Усяславіча і Барыса Усяславіча дзякуючы роднасным суадносінам былі прыцягнуты да варожых станаў паўднёварускіх князёў.

Унутры самой Полацкай дзяржавы пасля 1140 г. абазначыўся таксама разлад паміж нашчадкамі Усяславічаў. Полацкае веча пачынае актыўна ўмешвацца ў палітычнае жыццё дзяржавы, улічваючы жаданне нашчадкаў асобных галін роду Усяславічаў атрымаць верх і ўсталявацца на полацкім пасадзе. Прыблізна да 1146 г. полацкім князем застаецца Васілька Святаславіч. Потым яго змяніў Рагвалод Барысавіч. У Менскай воласці як частцы Полацкай зямлі ўсталяваўся каля 1146 г. сын Глеба Менскага Расціслаў, які вярнуўся з Візантыі. З летапісаў вядома, што ў 1151 г. Рагвалод Барысавіч быў захоплены палачанамі і адпраўлены ў Менск, дзе яго "держаша у велице нужи, а Глебовича к собе уведоша и прислашася полотьчане кь Святославу Олговичу с любовью, яко имети отцем собе и ходити в послушаньи его и на том целоваша хресть"[2]. Гэта сведчыць аб тым, што замена аднаго князя полацкай дынастыі Рагвалодавічаў іншым адбывалася ў другой палове XII ст. пад нейкім уплывам паўднёварускіх князёў. Падчас праўлення Расціслава Глебавіча ў Полацку менскім князем з'яўляўся яго брат Валадар. Другі брат Расціслава — Усевалад атрымаў княжанне ў Заслаўі, а сын Расціслава Глеб княжыў у Друцку. Расціславу Глебавічу да 1158 г. удалося аб'яднаць значную частку Полацкай зямлі пад уладай Глебавічаў, але на непрацяглы час[3]. У 1158 г. (у летапісе — у 1159 г.) на полацкі пасад вярнуўся Рагвалод Барысавіч, які на працягу некалькіх гадоў вёў барацьбу з менскімі Глебавічамі як за сваю "отчину", адабраную ў яго братамі, так і за ўмацаванне на полацкім пасадзе. Паражэнне пад Гарадцом у 1161 г. (у летапісе — у 1162 г.) прымусіла Рагвалода ўцячы ў сваё ўладанне — Друцкую воласць, а ў Полацку са згоды веча стаў княжыць Усяслаў Васількавіч, князь ві-

---

[1] *Соловьев А.В.* Политический кругозор автора "Слова" // Исторические записки. № 25. 1948. С. 83.

[2] ПСРЛ. Т. 2. С. 445—446.

[3] *Штыхов Г.В.* Киев и города Полоцкой земли // Киев и западные земли Руси в IX—XIII вв. Мн., 1982. С. 68—70.



Мячы Полацкай зямлі (X—XII стст.)

цебскі. Відаць, адчуваючы няўпэўненасць свайго палажэння ў абставінах варожага настрою Глебавічаў і Рагвалодавічаў, Усяслаў Васількавіч уступае ў саюз са смаленскім князем Давыдам (1165), які ўладкоўваецца ў Віцебску, а ў Смаленску княжыць Раман Расціславіч.

У 1167 г. менскі князьВаладар Глебавіч у апошні раз паспрабаваў завалодаць Полацкам. Ён разграміў войска Усяслава Васількавіча, заняў полацкі пасад, замацаваўшы дамоўленасць з полацкім вечам хрэсным цалаваннем. Потым павёў сваю дружыну наўздагон Усяславу, які кінуўся ў Віцебск, дзе яго маглі падтрымаць Расціславічы — Давыд і Раман, які падаспеў са Смаленска. Валадар Глебавіч вымушаны быў вярнуцца ў свае землі.

Саюз Полацка са Смаленскам мацнеў. У тым жа 1167 г. палачане разам са смалянамі дапамагаюць Андрэю Багалюбскаму ў барацьбе з Ноўгарадам. У адказ у наступным 1168 г. наўгародцы разам з пскавічамі хадзілі “к Полтеску и пожгоша волость и воротишаяся от города за 30 верьст”. У гэтым жа 1168 г. палачане са смаленскімі Расціславічамі беспасняхова нападаюць на Кіеў. Дадзеныя звесткі вядомыя па “Наўгародскаму першаму летапісу”[1]. Раман Расціславіч смаленскі ў 1178 г. прадухіліў паход на саюзны яму Полацк Мсціслава Расціславіча наўгародскага[2]. Але праз два гады са смерцю Рамана Расціславіча палітычная сітуацыя зноў змянілася карэнным чынам.

Давыд Расціславіч перайшоў у Смаленск. У Полаччыне ўсе ключавыя пазіцыі былі ў руках Васількавічаў. Полацкі пасад займаў Усяслаў Васількавіч. Яго брат Брачыслаў княжыў у Віцебску, а сын Брачыслава Васілька сядзеў у Ізяслаўлі. Адбылася палітычная пераарыентацыя ў стане паўднёварускіх князёў. Цяпер Давыд Расціславіч увайшоў у саюз з друцкім князем Глебам Рагвалодавічам. Яго былыя саюзнікі Васількавічы разам з вялікім кіеўскім князем Святаславам Усеваладавічам, чарнігаўскім князем Яраславам Усеваладавічам і героем “Слова пра паход Ігаравы” ноўгарад-северскім князем Ігарам Святаславічам арганізавалі кааліцыйны паход на Друцк у 1181 г. (у летапісе — у 1180 г.). Мэтай гэтага паходу было адарваць Друцк ад Смаленска, каб не даць апошняму кантраляваць ключавыя пазіцыі друцка-ўшацкага волаку. Вялікая зацікаўленасць палачан у паспяховасці дадзенай ваеннай аперацыі праявілася ў згуртаванасці ўсіх магчымых мясцовых сіл. У паходзе прынялі ўдзел не толькі ўсе Васількавічы, але і іх родзічы (Усяслаў Мікуліч, князь лагожскі, Андрэй Валодшыч, яго “сынавец” Ізяслаў), а таксама даннікі Полацка лівы і літва. Пад націскам сіл праціўніка Давыд Расціславіч смаленскі вымушаны быў адступіцца ад Друцка. Але гэта перамога палачан у саюзе з паўднёварускімі князямі

[1]Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов.
[2]ПСРЛ. Т. 2. С. 608, 609.

была кароткачасовай. У 1195 г. у Друцку быў вядомы князь Барыс Давыдавіч (верагодна, сын Давыда, князя смаленскага)[1].

Паводле паведамлення Лаўрэнцьеўскага летапісу, у 1186 г. быў арганізаваны паход на Полацк. У ім удзельнічалі Давыд Расціславіч, князь смаленскі, яго сын Мсціслаў з Ноўгарада, а таксама лагожскі князь Васілька Валадаравіч, друцкі князь Усяслаў. У 1186 г. у Полацку вядомы ўжо новы правіцель — Уладзімір. Епіскап Мейнард называе яго каралём[2].

Гэты князь правіў у Полацкім княстве амаль 30 гадоў (памёр у 1216 г.). З яго імем звязаны бурныя падзеі, якія адбываліся ў ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны. Князь Уладзімір бараніў інтарэсы даннікаў Полацка — ліваў ад тэўтонаў. Ён не пагаджаўся прапускаць нямецкіх купцоў у сваю зямлю, адмоўна адносіўся да прымусовага хрышчэння язычніцкіх плямён ліваў з боку крыжаносцаў, але ў гэтых пытаннях князь быў не заўсёды паслядоўным. Тое, што эсты звярнуліся за дапамогай да полацкага князя Уладзіміра супраць тэўтонаў і ён збіраўся з русінамі і літоўцамі ў паход (1216), сведчыць аб тым, што Полацк быў галоўным праціўнікам Тэўтонскага ордэна ў пачатку XIII ст.

У 1196 г. (па Іпацьеўскім спісе – у 1195 г.) адбылося сутыкненне паміж полацкім і смаленскім войскамі пад Віцебскам, якое скончылася паражэннем смалян — “полочане потоптале стяги Мьстиславли”. Але ў 1222 г. пасля смерці Уладзіміра Полацкага смаляне зноў зрабілі паход на Полацк і захапілі яго[3]. У 1229 г. пад эгідай Смаленска заключаецца дагавор трох усходнеславянскіх гарадоў (у тым ліку Полацка і Віцебска) з Рыгай і Гоцкім берагам, што сведчыць аб тэндэнцыі аб'яднання крывіцкіх зямель, і гэта мела значэнне ў працэсе фарміравання беларускай народнасці. Пасля смерці смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча полацкі князь Святаслаў Мсціславіч захапіў Смаленск і знаходзіўся там шэсць гадоў. Аднак у пачатку 50-х гадоў XIII ст. Полацк і Віцебск ужо былі цэнтрамі самастойных зямель.

## 2. Раздрабленне Полацкай зямлі

**Утварэнне княстваў-удзелаў.** У сувязі з пераменамі ў палітычным жыцці Полацкай зямлі XII — пачатку XIII ст. адбываліся змены ў яе адміністрацыйна-тэрытарыяльнай структуры. З канца XI ст. побач з валасцямі, што падпарадкоўваюцца непасрэдна Полацку, ужо існуюць воласці-ўдзелы, якімі кіруюць старэйшыя сыны полацкага князя. Відавочна, што гэта ўпраўленне ажыццяўлялася на родавым (звычаёвым) праве, таксама як у Кіеўскай дзяржаве. Пазней, у XII ст., ужо на феадальным праве вядомы ўдзелы-княствы (“отчины”). Яны могуць складвацца з некалькіх валасцей і амаль нічым не звязвацца са сваім былым цэнтрам — Полацкам. Нарэшце зноў утвараюцца “землі”, якія аб'ядноўваюць па некалькі ўдзелаў-княстваў. Існаванне гэтых структур на тэрыторыі Полаччыны адносіцца ў асноўным да XIII — пачатку XVI ст.

Структурныя перамены ў тэрытарыяльна-адміністрацыйным развіцці Полацкай зямлі прасочваюцца па матэрыялах археалогіі, пісьмовых крыніцах, “памежных” тапонімах і інш.

У гады княжання Усяслава Брачыславіча (1044—1101) быў заснаваны новы цэнтр Менскай воласці — Менск на р. Свіслачы[4]. Тое, што Менская воласць першапачаткова ўваходзіла ў сферу дзяржаўных інтарэсаў Кіева, мела выключнае значэнне для яе далейшага лёсу. Відавочна, полацкі князь Усяслаў ра-

[1]*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля в IX—XIII вв. С. 280, 282.
[2]*Генрих Латвийский.* Хроника Ливонии. М.; Л., 1938. С. 179.
[3]*Алексеев Л.В.* Смоленская земля в IX—XIII вв. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980. С. 233, 234.
[4]*Загорульский Э.М.* Возникновение Минска. С. 148.




Сярэднявечныя княствы на тэрыторыі Беларусі XI—XII стст.
1 — цэнтры зямель-княстваў да распада на ўдзелы; 2 — цэнтры ўдзельных княстваў у XII—XIII стст.; 3 — гарады, якія існавалі ў XI—XII стст.; 4 — тэрыторыя, якая ў XII ст. адышла да Смаленскай зямлі; 5 — межы зямель-княстваў; 6 — тэрыторыя, з XIV ст. вядомая пад назвай "Чорная Русь", і яе паўночная мяжа; 7 — граніцы Рэспублікі Беларусь

зумеў, што, трапіўшы ў склад тэрыторыі Полацкай зямлі ў выніку пагаднення з Кіевам, Менская воласць можа пры неспрыяльных абставінах ад яе адысці. Магчыма, менавіта таму сын Усяслава Глеб быў прысватаны да дачкі Яраполка Ізяславіча — Анастасіі. Шлюб павінен быў замацаваць не толькі саюз паміж нашчадкамі Яраслава і полацкімі князямі, але і Менскую воласць за Полацкай зямлёй. У той жа час Усяслаў, як гэта рабілі звычайна, калі дзеці дасягалі сталага ўзросту ці ўступалі ў шлюб, выдзеліў Глебу Менскі ўдзел. Як мяркуюць даследчыкі, гэта адбылося да 1086 г., таму што ў 1086 г. цесць Глеба быў забіты[1].

Другім пасля Менскага ўдзела (альбо побач з ім) мог быць толькі Ізяслаўскі ўдзел[2]. З узнікненнем града-крэпасці на паўднёва-заходнім рубяжы Полацкай зямлі Ізяслаўская воласць стала вотчынай полацкай княжацкай сям'і. Пазней яе, магчыма, маглі аддаваць ва ўдзел таму з князёў, хто павінен быў прыйсці на змену правіцелю ў Полацку. У Кіеўскай дзяржаве таксама былі "стартавыя" ўдзелы, куды садзілі будучых вялікіх князёў.

Як паказалі археалагічныя даследаванні, на рубяжы XI—XII стст. на тэрыторыі Ізяслаўля (Заслаўя) быў пабудаваны новы ўмацаваны цэнтр — дзядзінец, а папярэдняя крэпасць-град прыходзіць ў заняпад[3]. Месцазнахо-

[1]*Заяц Ю.А.* Менская зямля // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 4. С. 10.
[2]Там жа. С. 11.
[3]*Заяц Ю.А.* Заславль в эпоху феодализма. С. 110—111.

джанне новага цэнтра было больш зручным, калі ўлічваць развіццё пасадаў вакол яго. Па памерах гарадской тэрыторыі (12—13 га), узроўню эканамічнага развіцця Ізяслаўль у XI—XII стст. займаў трэцяе месца ў Полацкай зямлі, саступаючы Полацку і Менску. Час пабудовы дзядзінца, верагодна, супадае з вылучэннем Ізяслаўскай воласці ва ўдзел[1].

На працягу XII ст. прасочваецца барацьба за гэты ўдзел паміж нашчадкамі менскай і віцебскай галін дынастыі Усяславічаў. Відавочна, з распаўсюджваннем права бацькаўшчыны на тэрыторыі Полацкай зямлі валоданне тым ці іншым удзелам становіцца больш пастаянным. Правa Брачыслава Васількавіча на Ізяслаўль як на бацькаўшчыну падтрымана ў 1158 г. (у летапісе — у 1159 г.) полацкім князем Рагвалодам Барысавічам. Сам жа ён вярнуў сабе Друцкую валасць, якая дасталася яму ў спадчыну ад бацькі — Барыса Усяславіча і была захоплена ў 1151 г. менскімі Глебавічамі[2].

На мяжы XI—XII стст. Менскі і Ізяслаўскі ўдзелы ўвасаблялі тэрыторыі Менскай і Ізяслаўскай валасцей у складзе Полацкай зямлі. Яны межавалі паміж сабой, а таксама з тэрыторыямі (валасцямі), якімі ўпраўляў Полацк праз іх цэнтры (Лагожск, Друцк і інш.). Усе гэтыя цэнтры лічыліся "прыгарадамі" Полацка, залежнымі ад яго[3]. Напрамак развіцця тэрыторыі Ізяслаўскага ўдзела (паўночны захад) вызначаецца памежным горадам Лошаскам (Лоск) у вярхоўях р. Бярэзіны Нёманскай. Не пазней пачатку XI ст. тут узнікла паселішча, што дало яму пачатак. На паўночным усходзе з Ізяслаўскім удзелам межавала Лагожская воласць. Як сведчаць пісьмовыя крыніцы, яна значна пазней, чым іншыя воласці Полацкай зямлі, стала ўдзелам. Падчас паходу паўднёварускіх князёў 1127 г. на полацкія ўладанні Лагожск быў памежнай крэпасцю. Толькі пад 1180 г. (фактычна 1181 г.) Іпацьеўскі летапіс упамінае князя Усяслава Мікуліча з Лагожска, які быў у саюзе з Полацкам. А ўжо пад 1186 г. у Лаўрэнцьеўскім летапісе названы іншы князь "из Ложьска Василко Володаревич", які выступае супраць Полацка разам са смалянамі. Паколькі Лагожская воласць толькі ў апошнія дзесяцігоддзі XII ст. вылучылася ва ўдзел, магчыма, яе памеры былі сціплымі і адпавядалі гістарычна складзенай да XI ст. тэрыторыі воласці вакол яе цэнтра, які ўпершыню пападае на старонкі "Павучання" Уладзіміра Манамаха.

Цікавасць выклікае Барысаўская воласць, якая была размешчана паміж Лагожскай (на захадзе), Лукомльскай і Друцкай (на паўночным усходзе) валасцямі. На поўдзень ад яе знаходзіліся землі Менскай воласці-ўдзела, на поўнач — тэрыторыя Полацкай воласці. Без спасылкі на крыніцу В. Тацішчаў адзначаў: "В 1102 г. Борис Всеславич полоцкий ходил на ятвяг и, победя их, возвратясь, поставил град Борисов в свое имя и людьми населил". У беларуска-літоўскіх летапісах таксама гаворыцца аб тым, што г. Барысаў на р. Бярэзіне "вчинил" полацкі князь Барыс. Археалагічныя даследаванні пацвердзілі гэтыя паведамленні. Падчас раскопак у Старым Барысаве было ўстаноўлена, што гарадскі культурны пласт датуецца XII—XIII стст. Знойдзеныя тут рэчы ўказваюць на значнасць дадзенага паселішча. Важным з'яўляецца той факт, што г. Барысаў быў заснаваны князем, які знаходзіўся на полацкім пасадзе. У пачатку XII ст. Полацкая зямля трапляе на той шлях, якім пайшла Кіеўская дзяржава пасля з'езда ў Любечы (1097). Побач з заснаванымі на родавым праве Ізяслаўскім і Менскім удзеламі пачынаюць утварацца воласці на феадальным праве. Ініцыятыва ў стварэнні такіх валасцей ("отчин") належыць тым полацкім князям, якія займалі пасад у стольным горадзе. Пасля смерці Усяслава Брачыславіча працэс феадалізацыі гра-

---

[1]*Заяц Ю.А.* Основные итоги археологического изучения Заславля // Заслаўскія чытанні 1995 г. Заслаўе, 1997. С. 48—49.

[2]ПСРЛ. Т. 1. С. 403.

[3]*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли. С. 29.



Пячатка полацкага князя Ізяслава Уладзіміравіча

мадства ў Полацкай зямлі паскорыўся. Гэтаму садзейнічалі развіццё вотчыннага землеўладання, а таксама палітычны раскол у асяроддзі нашчадкаў Усяслава, фарміраванне асобных галін княжацкай сям'і — спадкаемцаў вотчын.

Як адзначаюць даследчыкі, удзелы, выдзеленыя на родавым праве (раннія), пэўны час развіваліся побач з вотчыннымі ўладаннямі, створанымі на феадальным праве (познімі), паступова таксама набываючы значэнне пастаянных вотчын. У гэтым адлюстроўвалася сутнасць усталявання феадальнага ладу. Дадзены працэс быў характэрнай рысай Кіеўскай дзяржавы ў XII ст., калі сістэма феадальных вотчын складвалася ў некаторай ступені на аснове ўдзелаў Яраславічаў[1]. Тое ж самае адбывалася ў Полацкай зямлі. Таму ўтварэнне Барысаўскай воласці ў пачатку XII ст. з цэнтрам у Барысаве магчыма разглядаць як першы крок у напрамку разгалінавання Полацкай зямлі на асобныя ўладанні — вотчыны прадстаўнікоў княжацкай сям'і. Памеры гэтай воласці былі значна большымі, чым гістарычна складзенае наваколле яе цэнтра. Як паказалі раскопкі, на месцы Барысава існавала паселішча X — пачатку XI ст. К гэтаму ж часу адносяцца і пахаванні ў навакольных курганах[2], што сведчыць аб пэўным храналагічным разрыве паміж валасным цэнтрам і яго папярэднікам. Старажытны Барысаў быў закладзены на левым беразе р. Бярэзіны, а яго воласць раскінулася ўздоўж берагоў у верхнім цячэнні ракі.

Межы Барысаўскай воласці на паўночным захадзе і ўсходзе, верагодна, вызначаюць "Барысавы камяні"[3].

Магчыма, утварэнне новай абшырнай воласці — вотчыны полацкага князя — падштурхнула менскага князя Глеба Усяславіча да актыўных захадаў у пашырэнні тэрыторыі яго асабістага ўдзела. Па пісьмовых крыніцах вядома, што калі ў 1116 г. паўднёварускія князі зрабілі спустошальны паход на Менскі ўдзел, то яны ўзялі гарады Копысь, Оршу, Друцк. Гэта азначае, што ў першыя дзесяцігоддзі XII ст. адбылося пашырэнне тэрыторыі Менскага ўдзела на ўсход да р. Днепр. Да Менскай воласці былі далучаны Друцкая воласць, а таксама землі, дзе паяўляюцца новыя ўмацаваныя цэнтры: Орша і Копысь. У гэты час Менскі ўдзел выступае ў якасці феадальнай вотчыны, якая самастойна намагаецца бараніць свае набыткі ад захопнікаў. Варожыя адносіны брата Давыда Усяславіча, які ў 1105 г. таксама хацеў атрымаць удзел у Полацкай зямлі, а цяпер займаў полацкі пасад, абыякавасць другога брата — Барыса, былога полацкага князя, спрыялі таму, што Глеб Менскі страціў воласці, далучаныя да асноўных яго ўладанняў. Калі ў 1119 г. Менскі ўдзел адыходзіць пад уладу Манамахавічаў, то ён уключае толькі тэрыторыю Менскай воласці, як гэта было пры яе ўтварэнні. Што ж датычыць Друцкай і Аршанскай валасцей, то яны сталі падуладнымі Полацку ў выніку пагаднення з Манамахам і яго сям'ёй аб смаленска-полацкім памежжы[4]. Копысь адышла да Смаленскага княства.

---

[1]*Назаренко А.В.* Родовой сюзеренитет Рюриковичей над Русью (X—XI вв.) // Древнейшие государства на территории СССР. М., 1985. С. 150—155.

[2]*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). С. 100—102; *Ляўданскі А.М.* Раскопкі і археолёгічныя разведкі ў Барысаўскім павеце. Навуковы зборнік Інстытуту Беларускае культуры. Мн., 1925.

[3]*Таранович В.П.* К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР // СА. Вып. VII. 1946. С. 249—260.

[4]*Ляўко В.М.* Смаленска-Полацкае памежжа ў Верхнім Падняпроўі (па археалагічных і пісьмовых крыніцах). С. 175.

Падчас паходу паўднёварускіх князёў на Полацкую зямлю ў 1127 г. галоўны ўдар быў скіраваны супраць Ізяслаўля і Барысава — цэнтраў удзелаў прадстаўнікоў полацкай княжацкай сям'і. Лагожск і Друцк у той час былі цэнтрамі валасцей, падпарадкаваных непасрэдна Полацку.

Калі на полацкі пасад замест Давыда Усяславіча зноў сеў Барыс Усяславіч, перад ім адкрылася магчымасць яшчэ больш пашырыць і ўзмацніць свае асабістыя ўладанні. Паколькі летапісы звязваюць нашчадкаў Барыса Усяславіча з Друцкам і яго воласцю, то падаецца слушным, што Друцкая воласць была далучана да Барысаўскай і яны абедзве склалі ўдзел (вотчыну) князя Барыса. Аналіз папярэдніх падзей, а таксама археалагічных матэрыялаў, здабытых пры раскопках гарадзішча ў Друцку, пацвярджаюць такое меркаванне. У канцы 20-х гадоў XII ст. Друцк яшчэ не быў значным горадам[1].

Лагічным будзе меркаваць, што менавіта падчас свайго другога прыходу на полацкі пасад Барыс Усяславіч звярнуў увагу на Друцк і далучыў гэту воласць да асабістых уладанняў. Нельга пагадзіцца з высновамі Л. Аляксеева, зробленымі ім у апошняй публікацыі, што князь Барыс сядзеў у Друцку ўжо ў канцы XI ст., а потым у 1102 г. пабудаваў г. Барысаў, каб умацаваць свае рубяжы супраць брата Глеба[2]. Цэнтрам удзельнага княства Друцк становіцца пры сыне Барыса — Рагвалодзе (Васілю), які разам з іншымі полацкімі князямі быў сасланы ў Візантыю (1129) кіеўскім князем Мсціславам і вярнуўся дамоў пасля 1140 г. Знешні выгляд друцкага дзядзінца гэтага часу, як і асобныя знаходкі, сведчыць аб тым, што гэта быў княжацкі цэнтр. Каля паўднёвага вала шчыльна мясціліся сядзібы рамеснікаў, якія абслугоўвалі князя і дружыну. Цэнтр займала плошча, дзе збіралася веча. У заходняй частцы была размешчана княжацкая рэзідэнцыя. На знойдзеных падчас раскопак рэчах ёсць княжацкія знакі. Адно праслачка мае надпіс “КЬНЯЖИНЬ”.

Пасля кароткага праўлення ў Полацкай зямлі кіеўскіх намеснікаў (з 1129 па 1132 г.) на полацкім пасадзе зноў з'явіўся прадстаўнік дынастыі Рагвалодавічаў. Гэта быў сын высланага ў Візантыю Святаслава Усяславіча — Васілька Святаславіч. Верагодна, ён правіў Полацкай зямлёй да 1146 г.[3] Менавіта Васількавічаў увасабляе віцебская галіна полацкіх князёў, вядомая па крыніцах XII ст. Таму цалкам верагодным з'яўляецца тое, што з Васількі Святаславіча пачынаецца існаванне ўдзела з цэнтрам у Віцебску. Гэта знаходзіць пацвярджэнне ў археалагічных матэрыялах Віцебска, дзе ў 40-я гады XII ст. узводзяцца новыя абарончыя збудаванні[4]. Плошча, абнесеная абарончым валам, павялічылася з 0,7 да 4 га. Гэта сведчыць аб тым, што значэнне Віцебска як адміністрацыйна-тэрытарыяльнага цэнтра ўзрасло і ён выступае ў дзяржаўнай структуры ў новай якасці. Першапачаткова Віцебскі ўдзел мог складвацца з Віцебскай, Усвятскай валасцей і тых частак (былых пагостаў), што размяшчаліся на тэрыторыі сучаснага Гарадоцкага раёна. Магчыма, гэтыя часткі ўвайшлі ў склад дадзеных валасцей на працягу XI — першай паловы XII ст.

Выказаныя некаторымі даследчыкамі меркаванні аб тым, што “віцебскі сталец перайшоў у спадчыну да самага малодшага з сыноў Усяслава, а менавіта да Святаслава” ў пачатку XII ст.[5], грунтуюцца на распаўсюджанай версіі, што ў Полацкай зямлі было столькі ўдзелаў, колькі сыноў ва Усяслава Полацкага. На самай справе ні пісьмовыя крыніцы, ні археалагічныя матэрыялы не дазваляюць падтрымліваць гэту версію.

[1] *Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. С. 152.

[2] *Алексеев Л.В.* Минск и Друцк // Славяне и их соседи (археология, нумизматика, этнология). Мн., 1998. С. 12.

[3] *Алексеев Л.В.* Полоцкая земля. С. 267.

[4] *Колединский Л.В.* Древнерусский Витебск: развитие топоструктуры в XI—XIII вв. // Гомельщина. Археология, история, памятники. Гомель, 1991. С. 78—80.

[5] *Калядзінскі Л.У.* Пра абарончы вал дзядзінца летапіснага Віцебска // Заслаўскія чытанні 1995 г. Заслаўе, 1997 . С. 57.

**Самастойнае існаванне ўдзелаў.** Важнай рысай гарадоў, якія могуць прэтэндаваць на роль цэнтраў самастойных удзелаў у XII ст., з'яўляецца наяўнасць на дзядзінцах цэркваў. Храмы ставіліся таксама на вакольным горадзе. Аб гэтым сведчаць знаходкі паліваных керамічных плітак, з якіх выкладалася падлога ў царкве. Пліткі з палівай знойдзены ў Друцку, Лагожску, Віцебску. У Барысаве і Віцебску выяўлена смальта, якая ўжывалася для мазаічнага аздаблення храмаў. На Менскім дзядзінцы зафіксаваны каменны фундамент царквы. Абмежаваная колькасць выяўленых матэрыялаў не дазваляе дакладна абазначыць час узвядзення гэтых пабудоў, іх канструкцыю. Выказаныя даследчыкамі меркаванні наконт датавання некаторых культавых аб'ектаў (менскі, віцебскі св. Міхаіла храмы) супярэчлівыя альбо недастаткова абгрунтаваныя.

Другая палова XII ст. адметная тым, што ў створаных удзелах адбываюцца перамены ў іх тэрытарыяльным развіцці. Гэта звязана ў першую чаргу з палітычна-адміністрацыйным станам унутры дзяржавы. Не апошнюю ролю адыгрываюць і знешнепалітычныя абставіны, агульны ход развіцця феадальных адносін.

Пасля ўсталявання ў Менскім, Друцкім, Віцебскім удзелах нашчадкаў Усяславічаў пачалося ўзмацненне асобных галін полацкага княжацкага дому. Яны вядуць паміж сабою барацьбу за прыярытэт вярхоўнай улады, тым самым паглыбляючы ўжо існуючыя супярэчнасці, падштурхоўваючы дзяржаву да канчатковага распаду. З 1146 па 1151 г. полацкі пасад знаходзіўся ў руках Рагвалода Барысавіча, князя друцкага. Але, як сведчаць летапісы, не без дапамогі палітычных інтрыг на яго месца заступае Расціслаў Глебавіч, князь менскі, які кіруе ўсёй дзяржавай да 1158 г.[1] За гэты час дынастычная галіна Глебавічаў умацоўваецца на ўсіх ключавых пазіцыях. У Менску сядзіць брат Расціслава Глебавіча Валадар, у Ізяслаўлі другі брат — Усевалад. У Друцку ўладкаваўся яго сын Глеб Расціславіч. Такім чынам, Глебавічы атрымалі вярхоўную ўладу ў дзяржаве, а таксама вярнулі сабе бацькоўскія набыткі (Друцкую воласць), прыхапіўшы тым часам уладанні Барысавічаў (Барысаўская воласць). Фактычна Глебавічам падпарадкоўваліся Полацкая, Ізяслаўская, Барысаўская, Менская, Друцкая валасці ў складзе Полацкай зямлі.

Калі зноў на полацкі пасад вярнуўся Рагвалод Барысавіч (1158—1162), ён намагаўся ўпарадкаваць маёмасныя адносіны ў адпаведнасці з правам бацькаўшчыны. Менавіта таму Рагвалод патрабаваў вярнуць Брачыславу Васількавічу Ізяслаўль. Магчыма, адной з умоў прымірэння паміж Рагвалодам і Расціславам было тое, што Расціслаў "прида волости Рогволоду". Аб якой воласці магла ісці гаворка? Аналіз падзелу на валасці былой тэрыторыі Полацкай зямлі паказаў, што іх межы ў пачатку XVI ст. у асноўным супадалі з межамі тэрытарыяльна-адміністрацыйных адзінак, існуючых на момант яе распаду. Так, Барысаўская воласць займала левабярэжжа р. Бярэзіны, што прылягала непасрэдна да Друцкай воласці. Правабярэжжа р. Бярэзіны, дзе была размешчана заходняя частка гэтай воласці, адышло да Менска. Верагодна, Расціслаў Глебавіч саступіў Рагвалоду Барысавічу левабярэжную частку воласці, якую папярэдне адабраў на сваю карысць. Правабярэжжа Барысаўскай воласці так і засталося за Менскім удзелам. Межы Менскага ўдзела, які канчаткова вылучыўся са складу Полацкай зямлі пасля 1185 г., амаль адпавядаюць межам Менскага павета XVI ст.[2]

Друцкі ўдзел на ўсходзе межаваў з Аршанскай воласцю. У 1171 г. Рагвалод па ўзору свайго бацькі паставіў памежны знак "Рагвалодаў камень" паблізу сучаснай в. Дзятлава. На поўдні дакладную мяжу Друцкага ўдзела вызначыць немагчыма. Некаторыя даследчыкі лічаць, што памежнай крэпасцю

[1] ПСРЛ. Т. 2. С. 394—418.
[2] *Заяц Ю.А.* Менская зямля. С. 13.



Гарадок крывічоў на рацэ Віцьбе

ўдзела ў XII ст. быў Магілёў[1]. Аб прысутнасці на тэрыторыі гарадзішча княжацкай адміністрацыі сведчаць знаходкі донцаў сасудаў з "трызубамі", аналагічнымі княжацкаму знаку з шыфернага праслачка, знойдзенага ў Друцку. Наяўнасць прафесійных воінаў-дружыннікаў пацверджана як знаходкамі ўзбраення, так і мініяцюрнай рытуальнай сякерай-амулетам.

Віцебскі ўдзел з 1165 г. уступае ў асобныя суадносіны са Смаленскім княствам, якое прыкладна ў гэты час падзелена на два ўдзелы (Таропецкі і Смаленскі). Таропецкі ўдзел прымыкае да Наўгародскай зямлі. Магчыма, паміж Смаленскам і Віцебскам існавала пэўнае пагадненне, па якім віцебскі князь Усяслаў Васількавіч быў запрошаны замест Рагвалода Барысавіча ў 1162 г. на полацкі пасад, і яно дазваляла кіраваць Віцебскім удзелам аднаму са смаленскіх князёў — Давыду Расціславічу. За гэта смаленскія князі падтрымлівалі Усяслава Васількавіча ў барацьбе з Глебавічамі за ўладу ў Полацкай зямлі. Магчыма, менавіта тады да Віцебскага ўдзела далучаецца Аршанская воласць. Такім чынам была закладзена аснова будучай Віцебскай зямлі.

На працягу 80—90-х гадоў XII ст. смаленскія князі спрабуюць выкарыстаць канфрантацыю паміж полацкімі князямі на сваю карысць. Некаторы час Віцебск разам з Полацкам змагаліся за Друцк супраць смаленскага князя Давыда Расціславіча, у якога друцкі князь Глеб Рагвалодавіч быў у васальнай залежнасці.

У канцы XII ст. княствы-ўдзелы, вылучаныя са складу Полацкай зямлі, развіваюцца цалкам самастойна. Як адзначае М. Любаўскі, палітычная групоўка гарадоў і валасцей, што складалася ва ўдзельны час, была ўстойлівай да пачатку XVI ст.[2]

З выдзяленнем асобных частак са складу дзяржаўнай тэрыторыі Полацкая воласць засталася ў сваім першапачатковым выглядзе. Разам з княствамі Герцыке і Кукенойс яна ўтварала тое "каралеўства", пра якое пісаў Генрых Латвійскі ў сваёй хроніцы. Працяглая барацьба тэўтонскага рыцарства за падпарадкаванне народаў Прыбалтыкі з канца XII ст. па 1225 г. сведчыць аб тым, што Полацкае княства ў новай сваёй якасці заставалася дастаткова моцнай дзяржавай у першыя дзесяцігоддзі XIII ст.

[1]*Марзалюк I.* Да пытання аб адміністрацыйна-тэрытарыяльнай прыналежнасці і сацыяльным статусе Магілёва ў XII—XIII стст. // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998. С. 183—184.

[2]*Любавский М.К.* Областное деление и местное самоуправление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Ист. очерки. М., 1892. С. 11, 13, 60—61.

## 3. Тураўская зямля ў XII—XIII стст.

**Тураўскае княства ў сістэме Кіеўскай Русі.** Развіццё гістарычных падзей у Тураўскім княстве ў XII ст. прыводзіць да высновы аб яго пэўнай своеасаблівасці ў сістэме княстваў Кіеўскай Русі. У найбольш магутных з іх, дзе цвёрда ўсталяваліся пэўныя княжацкія дынастыі, у XII ст. адбываецца натуральны працэс іх далейшага феадальнага развіцця і драблення паміж нашчадкамі наступных княжацкіх пакаленняў (Чарнігаўскае, Уладзімірскае, Полацкае). Гісторыя Тураўскай зямлі ў гэты час ідзе іншым напрамкам.

У пачатку XII ст. Тураўскае княства (зямля) належала Святаполку Ізяславічу, вялікаму князю кіеўскаму (з 1093 г.) і тураўскаму (з 1088 г.). Раней яно належала яго старэйшаму брату Яраполку Ізяславічу, а яшчэ раней (у 1052—1078 гг.) — яго бацьку Ізяславу Яраславічу, старэйшаму сыну вялікага князя кіеўскага Яраслава Уладзіміравіча Мудрага. Такім чынам, Тураўская зямля на працягу 60 гадоў (з 1052 па 1113 г.) належала адной дынастычнай лініі старэйшага сына Яраслава Мудрага Ізяслава (Ізяслаў, Яраполк, Святаполк). Гэта дынастычная прыналежнасць Тураўскага княства Ізяслававай дынастычнай лініі была зацверджана і пастановай Любецкага з'езда князёў у 1097 г. Важнасць Тураўскага княства ў той час пацвярджалася яго прыналежнасцю старэйшай лініі Яраславічаў і той акалічнасцю, што менавіта з Тураўскага княства тураўскія князі пераходзілі на кіеўскі велікакняжацкі прастол (у 1054 г. — Ізяслаў, у 1093 г. — Святаполк). Гэта надавала Тураўскаму княству дадатковае значэнне пры далейшых перадзелах княжацкіх валоданняў, і ў ёй бачылі неабходную папярэднюю ступеньку на шляху да кіеўскага велікакняжацкага прастола. Такая акалічнасць аказвала ўплыў на лёс Тураўскага княства ў XII ст.

Пасля смерці Святаполка Ізяславіча 16 красавіка 1113 г. на кіеўскі велікакняжацкі прастол узышоў яго стрыечны брат Уладзімір Усеваладавіч Манамах. Ён, безумоўна, меў перавагу перад іншымі не толькі па асабістых якасцях. Бацька яго Усевалад Яраславіч, малодшы брат Ізяслава Яраславіча, князя тураўскага і вялікага князя кіеўскага, таксама з 1078 па 1093 г. займаў кіеўскі прастол. Аднак, заняўшы кіеўскі велікакняжацкі прастол, ён імкнуўся ўмацаваць сваё становішча (і сваіх нашчадкаў) і з гэтай мэтай — аслабіць магчымых прэтэндэнтаў і сапернікаў сваіх нашчадкаў. Таму Тураўскае княства Уладзімір Манамах не перадаў нашчадкам памерлага Святаполка Ізяславіча, а пакінуў за сабой. Гэта пярэчыла пастановам Любецкага з'езда 1097 г., аднак умацоўвала Уладзіміра Манамаха і яго нашчадкаў і аслабляла пазіцыі Ізяславічаў. Тураўскія нашчадкі Святаполка адчувалі сябе пакрыўджанымі. Яны не атрымалі Тураўскага княства, аднак не ў стане былі пярэчыць кіеўскаму князю. Старэйшы сын і нашчадак Святаполка Яраслаў яшчэ пры бацьку ў 1097 г. атрымаў Уладзіміра-Валынскае княства, якое было адабрана ў Давыда Ігаравіча за распачатак смуты з Васількам Церабоўльскім пасля Любецкага з'езда. Родзіч Святаполка Вячаслаў Яраславіч быў клецкім князем.

Яраслаў Святаполкавіч, як відаць, спачатку мірна чакаў паляпшэння свайго становішча і вяртання Тураўскага княства. Аднак, пераканаўшыся ў намерах Уладзіміра Манамаха аддаць Кіеў і Тураў свайму сыну, ён пачаў выступаць больш энергічна. Уладзімір Манамах асадзіў Яраслава Святаполкавіча ва Уладзіміры. Ён вымушаны быў скарыцца. Манамах адабраў г. Уладзімір ад Яраслава Святаполкавіча і аддаў валынскае княства свайму сыну Раману. Каб выратавацца, Яраслаў Святаполкавіч уцёк у Венгрыю.

Яраслаў Святаполкавіч вырашыў ваеннай сілай дамагацца сваіх правоў і Тураўскага княства. Вясной 1123 г. ён вярнуўся з вялізным войскам венграў, чэхаў і палякаў і асадзіў г. Уладзімір. Уладзімір Манамах быў у роспачы, бо не меў сіл супрацьстаяць Яраславу Святаполкавічу. Аднак лёс злітаваўся над кі-

еўскім князем. У час аб'езду абложанага Уладзіміра-Валынскага Яраслаў Святаполкавіч быў цяжка паранены падасланымі забойцамі і ў той жа вечар памёр. Яго войска разышлося. Кіеўскі князь уздыхнуў з палёгкай. Сярод Святаполкавых нашчадкаў не аказалася здольных арганізаваць і працягваць упартую барацьбу за Тураўскае і Кіеўскае княствы. Тураўская зямля засталася пад уладай кіеўскага князя.

З падзей, якія адбываліся непасрэдна на Тураўскай зямлі, трэба ўспомніць набег менскага князя Глеба на Слуцк. Летапісец так апавядае пра гэту падзею: "... Глеб бо бяше воевал дреговичи и Случеск пожег, и не каяшеться о сем, ни покоряшеться...". Магчыма, гэта быў набег Глеба на Тураўскую зямлю, што ў гэты час уваходзіла ў склад Кіеўскай дзяржавы, і помста за паход на Менск у 1105 г., арганізаваны кіеўскім князем Святаполкам. Напэўна, адказам на набег Глеба на Слуцк з'яўляецца паход на Менск Манамахавічаў у 1116 і 1119 гг. [1]



Выраб з выявай лучніка з раскопак Турава

У 1125 г. памёр Уладзімір Манамах. Кіеўская зямля была падзелена паміж яго сынамі. Кіеўскі прастол заняў яго сын Мсціслаў. Тураўскае княства атрымаў трэці сын Уладзіміра Манамаха Вячаслаў Уладзіміравіч, які раней быў смаленскім князем.

Вячаслаў Уладзіміравіч на працягу свайго жыцця (памёр у 1155 г.) шмат разоў валодаў Тураўскай зямлёй, аднак па розных прычынах пазбаўляўся яе і пераходзіў на іншыя княствы (Пераяслаўскае ў 1133 і 1140 гг., Перасопніцкае ў 1146 г.). Пасля смерці сваіх старэйшых братоў, што паслядоўна займалі кіеўскі велікакняжацкі прастол, Мсціслава Уладзіміравіча (памёр у 1132 г.) і Яраполка Уладзіміравіча (памёр у 1139 г.) ён па праву старшынства нават заняў кіеўскі велікакняжацкі прастол. Аднак не змог утрымацца супраць кааліцыі магутных чарнігаўскіх князёў і вымушаны быў саступіць Кіеў Усеваладу Вольгавічу, князю чарнігаўскаму, які аддаў Тураў свайму сыну Святаславу Усеваладавічу.

Пасля ўмацавання на кіеўскім прастоле Усевалада Вольгавіча змянілася становішча Тураўскага княства. Да гэтага часу Манамахавічы захоўвалі яго цэласнасць у складзе Кіеўскай дзяржавы. Пры Усеваладзе Вольгавічу настаў перыяд яго драблення. Асобныя гарады Тураўскага княства разам з прылеглымі землямі аддаваліся саюзнікам кіеўскага князя, якія дапамагалі Усеваладу Вольгавічу дамагчыся кіеўскага прастола. Так, у 1142 г. Бярэсце (Берасце) і Драгічын былі аддадзены Уладзіміру і Ізяславу Давыдавічам (стрыечным братам), Клецк — Святаславу (брату), Рагачоў — Ігару (брату).

Пералік раздаваемых тураўскіх гарадоў сведчыць, што яшчэ ў 1142 г. гэтыя гарады ўваходзілі ў межы Тураўскага княства. 1 жніўня памёр кіеўскі князь Усевалад Вольгавіч. Кіеўляне запрасілі да сябе Ізяслава Мсціславіча, сына Мсціслава Вялікага. Вячаслаў Уладзіміравіч вырашыў выкарыстаць гэта як спрыяльную акалічнасць і насуперак волі кіеўскага князя вярнуўся ў Тураў, які быў аддадзены Святаславу Усеваладавічу ў 1139 г. яго бацькам Усеваладам Вольгавічам (кіеўскі князь з 1139 г.). Больш таго, ён вярнуў у склад Тураўскага княства гарады, якія былі раздадзены Усеваладам Вольгавічам у 1142 г. яго саюзнікам (Берасце, Драгічын, Клецк, Рагачоў). Такое самаўпраўства не спадабалася Ізяславу Мсціславічу. Таму ён накіраваў у Ту-

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 282.



Сядзіба-двор феадала ў XIII ст.

раў у 1146 г. з войскам свайго брата Расціслава і Святаслава Усеваладавіча, якія ўзялі горад, захапілі епіскапа Акіма і пасадніка Жыраслава Іванкавіча. Як відаць, яны былі прыхільнікамі Вячаслава Уладзіміравіча і, магчыма, ініцыятарамі яго вяртання ў Тураў.

Гэтыя падзеі сведчаць, што ў Тураве ўжо сфарміравалася кола мясцовай знаці, якая аказвала значны ўплыў на лёс горада, княства і мясцовай вышэйшай улады. Вячаслаў Яраславіч быў пераведзены ў Перасопніцу. Тураў аддадзены Яраславу, сыну Ізяслава Мсціславіча. У 1149 г. вялікім кіеўскім князем стаў чарнігаўскі князь Усевалад Вольгавіч. Свайму пляменніку Святаславу Усеваладавічу ён аддаў "... и Случеск, и Клеческ. И вси дреговиче". У 1149 г. Кіеў заняў Юрый Уладзіміравіч Даўгарукі (сын Уладзіміра Манамаха), князь далёкага Уладзімірскага княства. Тураўскую зямлю ён аддаў свайму сыну Андрэю.

**Аднаўленне самастойнасці Тураўскага княства.** У 1150 г. кіеўскім князем стаў Ізяслаў Мсціславіч, які атрымаў перамогу над Юрыем Даўгарукім. Ён запрасіў на кіеўскі велікакняжацкі прастол Вячаслава Уладзіміравіча як старэйшага з сыноў Уладзіміра Манамаха. Аднак у 1154 г. памёр Ізяслаў Мсціславіч, а ў хуткім часе за ім — Вячаслаў Уладзіміравіч. На кіеўскі прастол вярнуўся Юрый Даўгарукі, які перадаў Тураў свайму сыну Барысу.

1157 г. (па летапісе — у 1158 г.) — пераломны ў гісторыі Тураўскай зямлі. У гэтым годзе памёр кіеўскі князь Юрый Даўгарукі. Як відаць, на пахаванне бацькі паехаў яго сын, тураўскі князь Барыс (з 1155 г.). Скарыстаўшыся гэтай акалічнасцю, Тураў захапіў Юрый Яраславіч, сын загінуўшага ў 1123 г. Яраслава Святаполкавіча і ўнук тураўскага і вялікага кіеўскага князя Святаполка Ізяславіча. Як відаць, ён не меў свайго княжацкага ўдзела і быў служылым князем у Юрыя Даўгарукага, карыстаўся даверам, уплывам і пашанай. Верагодна, Юрыя Яраславіча горача падтрымалі тураўцы, якім, відаць, надакучылі частыя змены на тураўскім прастоле прышлых і часовых князёў, што клапаціліся аб сваіх набытках і прыбліжаных, а не аб дабрабыце княства і мясцовых жыхароў.

Кіеўскі прастол пасля смерці Юрыя Даўгарукага заняў чарнігаўскі князь Ізяслаў Давыдавіч. Ён не хацеў дапусціць страты Тураўскай зямлі для Кіева і арганізаваў паход на Тураў. "Том же лете иде Изяслав (Великий

князь киевский. — *Л.П.*) на Ярославича к Турову, и с ним иде Ярослав из Лучьска, и Андреевич Ярополк, и Галичьская помочь, и Ростиславич Рюрик с смолняны, и Володимир Мстиславич, тому бо искаху Турова, и Пол/о/чане. Пришедше к Турову, пожгоша села около его. И воеваша берендичи около Пиньска и за Припетью. И бьяхуть крепко, выходячи из города. И много бываше язвеных. И многу молбу створиваше, Гюрги Ярославич, высылая из города к Изяславу, река, брате, прими мя в любовь к собе, Изяслав же того не всхоте, но всяко хотяше под ним взяти Туров и Пинеск. И стояше около города недель 10. И бысть мор в коних. И тако не успевше ему ничтоже, возратишася в своязи, не створше с ним мира"[1].

Дагавор з кіеўскім князем не быў заключаны. Больш таго, праз два гады ў 1160 г. паўтарыўся паход на Тураў пяці паўднёвых князёў. Тры тыдні стаялі яны аблогай пад Туравам, імкнучыся ўзяць горад. Аднак "...и не вспевше ему ничтоже возвратишася в своязи..."

І толькі ў 1162 г. (фактычна ў 1161 г.) "... створи мир Ростислав (новы кіеўскі князь. — *Л.П.*) с Гюргем Ярославичем..." Так былі адноўлены адносная самастойнасць Тураўскага княства і дынастыя Ізяславічаў на тураўскім прастоле (ад Ізяслава Яраславіча, яго сыноў Яраполка і Святаполка). Перарванае Уладзімірам Манамахам у 1113 г. самастойнае палітычнае развіццё Тураўскага княства праз пакуты часовых падараванняў і драбленняў у 40—50-я гады было адноўлена ў 1157 г. дзякуючы рашучасці і мужнасці нашчадка Ізяславічаў Юрыя Яраславіча, гарачай і адданай падтрымцы тураўскага насельніцтва.

Юрый Яраславіч упамінаецца летапісцам у 1167 г. У гэтым годзе "... Ярослав Изяславич (сын Изяслава Мстиславича) поем дчерь Дюргия у Ярославича Малфрид ис Турова за сына Всеволода (князя Луцкага. — *Л.П.*)"[2]. Пазней імя Юрыя Яраславіча ў летапісе не сустракаецца. Аднак па летапісных паведамленнях вядомы яго сыны — Святаполк, Глеб, Іван, Яраслаў, Яраполк.

**Падзел Тураўскага княства.** Паміж сынамі Юрыя Яраславіча адбыўся падзел раней адзінага Тураўскага княства. Так, у 1183 г. упамінаюцца тураўскі князь Святаполк Юр'евіч, дубровіцкі князь Глеб Юр'евіч і пінскі князь Яраполк. Раней адзінае Тураўскае княства было падзелена на Тураўскае, Пінскае і Дубровіцкае. Яшчэ раней, у 1174 г. у летапісе ўпамінаюцца князі тураўскія і пінскія. Такім чынам, адбылося драбленне Тураўскай зямлі ў прамежку часу паміж 1167 г. (Юрый Яраславіч аддае замуж дачку Малфрыд) і 1174 г. (першае ўпамінанне летапісам князёў тураўскіх і пінскіх). Хутчэй за ўсё гэты падзел быў праведзены (або завешчаны) бацькам, Юрыем Яраславічам. Яшчэ раней з Тураўскай зямлі вылучылася Клецкае княства, князь якога Вячаслаў Яраславіч (сын Яраслава Святаполкавіча) у 1128 г. (па іншых даных — у 1127 г.) удзельнічаў у паходзе на Полацкую зямлю. У другой палове XII ст. са складу Тураўскай зямлі выйшлі Берасце і Драгічын Надбужны, што падпалі пад уплыў Уладзіміра-Валынскага княства.

Прыведзеныя даныя аб вылучэннях княстваў сведчаць аб памерах ранейшага адзінага Тураўскага княства, у склад якога раней уваходзілі Тураўскае, Пінскае, Дубровіцкае, Клецкае княствы і землі Пабужжа з Берасцем і Драгічынам Надбужным. Разам з паведамленнямі 1142 г. аб надзяленні тураўскімі гарадамі чарнігаўскіх князёў гэтыя звесткі дапамагаюць рэканструяваць памеры і першапачатковую тэрыторыю адзінага Тураўскага княства.

Пасля аднаўлення Тураўскага княства Юрыем Яраславічам і ў часы кіравання яго сыноў Тураўскае княства ўжо не магло вярнуць сваё былое вялікае значэнне. Прычынай гэтаму было ўмацаванне суседніх магутных княстваў — Чарнігаўскага, Галіцкага, Уладзіміра-Валынскага.

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 491—492.
[2]Там жа. С. 527.

Характэрным для палітычнага жыцця Тураўскага княства пасля яго аднаўлення з'яўляецца актыўны ўдзел у агульных мерапрыемствах, што арганізоўвалі і праводзілі кіеўскія князі. У 1168 г. Глеб Юр'евіч прыбыў у Кіеў па патрабаванні вялікага князя кіеўскага Расціслава і ўдзельнічаў у паходзе на полаўцаў. У 1170 г. у паходзе на полаўцаў удзельнічаў "Иван Гюргевич ис Турова". У 1171 і 1172 гг. Святаполк Юр'евіч удзельнічаў у паходах Мсціслава Ізяславіча на Кіеў. У вялікім і пераможным паходзе ў палавецкія стэпы 2 сакавіка 1183 г. пад кіраўніцтвам вялікага князя кіеўскага Мсціслава Ізяславіча ўдзельнічалі Глеб Юр'евіч — князь дубровіцкі, Яраслаў Юр'евіч — князь пінскі.

У 1187 г. як асабліва даверaная асоба Глеб Юр'евіч быў пасланы кіеўскім князем Рурыкам Расціславічам у Суздаль да ўладзімірскага князя Усевалада Юр'евіча па яго дачку Верхуславу, якую хацеў узяць у жонкі свайму сыну Расціславу.

У 1190 г. 19 красавіка памёр тураўскі князь Святаполк Юр'евіч і быў пахаваны ў Кіеве ў царкве святога Міхаіла Златаверхага, пабудаванай яго прадзедам кіеўскім і тураўскім князем Святаполкам Ізяславічам Вялікім. У 1195 г. у сакавіку памёр "князь Глеб туровский" і таксама быў пахаваны ў Кіеве ў сямейнай пахавальні Ізяславічаў — царкве Міхаіла Златаверхага.

З прыведзеных даных відаць, што тураўскія князі актыўна ўдзельнічалі ў падзеях, якія праводзіліся кіеўскімі князямі, карысталіся павагай і аўтарытэтам. Гэта знайшло сваё адлюстраванне і ў пахаванні ў Кіеве памерлых тураўскіх князёў Святаполка і Глеба.

Характэрнай рысай палітычнага жыцця Тураўскай зямлі пасля яе драблення з'яўляюцца мірныя, сапраўды брацкія адносіны князёў Юр'евічаў. Нідзе ў пісьмовых крыніцах не адлюстраваны іх міжусобныя войны, свары, нашэсці. Наадварот, у складаных умовах існавання паміж больш моцных княстваў яны заўсёды падтрымлівалі сваё адзінства як у адносінах паміж сабой, так і ў агульнай палітыцы да суседніх княстваў і да Кіева. Гэта было, як відаць, неабходнай умовай іх выжывання ў час феадальных войнаў, адзіна разумнай палітыкай, што забяспечвала захаванне імі пэўнай самастойнасці і незалежнасці. Яны разумелі гэту неабходнасць і кіраваліся ёю ў адносінах з больш моцнымі суседзямі, што сведчыла аб іх высокіх чалавечых якасцях і дыпламатычных здольнасцях.

Канкрэтных звестак аб палітычных падзеях у асобных удзельных княствах Тураўскай зямлі ў летапісах няма. Мяркуючы па тытулах, непасрэдна ў Тураве князем спачатку быў Святаполк (памёр у 1190 г.), а пазней — Глеб Юр'евіч (памёр у 1195 г.). Пінскім князем у 1183 г. названы Яраслаў, а ў 1190 г. у Пінску адбываецца "свадба Ярополча". Як відаць, і тут адбылася змена князёў на прастоле. Дубровіцкім князем у 1183 г. быў Глеб Юр'евіч, які пазней названы тураўскім князем.

Паведамленняў аб палітычным жыцці Тураўскага і Дубровіцкага княстваў у XIII ст. летапісы не ўтрымліваюць. Невялікая колькасць упамінанняў пра Пінск захавалася ва Уладзіміра-Валынскім летапісе, які складае аснову апошняй часткі Іпацьеўскага летапісу (XIII ст.).

У 1204 г. упамінаецца Уладзімір, князь пінскі, хутчэй за ўсё сын Яраслава Юр'евіча, князя пінскага. Ён быў захоплены перамышльскім князем Аляксандрам, што заняў Уладзімір-Валынскі. Як відаць, пінскі князь Уладзімір падтрымліваў уладзіміра-галіцкага князя Рамана Мсціславіча, а пасля яго гібелі ў 1204 г. — жонку "Раманавую" і сыноў Данілу і Васільку Раманавічаў. За гэта ён і пацярпеў ад Аляксандра, перамышльскага князя.

У 1226 г. на кароткі час да Пінска быў далучаны Чартарыйск. Аднак у хуткім часе яго адабраў Даніла Раманавіч, а ў 1228 г. упамінаецца Расціслаў пінскі, у якога былі захоплены дзеці. У 1229 г. Уладзімір пінскі па даручэнні Данілы,

князя галіцкага, абараняў Берасце ад яцвягаў і разграміў іх. Магчыма, Уладзімір і Расціслаў былі братамі і суправіцелямі Пінскага княства.



Фрагмент бранзалета з Пінска

У час мангола-татарскага нашэсця лёс гарадоў Тураўскай зямлі невядомы. Як відаць, асноўны паток войскаў Батыя абышоў іх.

У XIII ст. мяняюцца адносіны княстваў Тураўскай зямлі з літоўцамі. У XI—XII стст. летапісы паведамляюць аб паходах на Літву рускіх князёў (1040, 1132, 1190, 1193). З пачатку XIII ст. ідуць паходы літоўцаў на Валынь праз Пінскае княства (1205, 1241, 1246, 1247, 1248, 1253, 1256, 1262). Валынскія князі Даніла і Васілька Раманавічы з'яўляюцца асноўнымі арганізатарамі адпору літоўскім нашэсцям. Пінскія князі дапамагаюць Раманавічам у гэтай барацьбе і радуюцца іх перамогам. У 1262 г. летапісы ўпамінаюць пінскіх князёў Юрыя, Дзяміда, Фёдара, хутчэй за ўсё сыноў Уладзіміра. У 1263 г. у Пінску жыў літоўскі князь Войшалк, сын забітага Міндоўга. У 1292 г. у Пінску памёр князь Юрый, брат Дзяміда і сын Уладзіміра. У пачатку XIV ст. Тураўская зямля ўвайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага.

## 4. Землі Сярэдняга Пабужжа

**Насельніцтва.** Тэрыторыя Сярэдняга або Беларускага Пабужжа ўключае ў сябе землі, якія ляжаць у басейне сярэдняга цячэння Заходняга Буга і яго прытокаў (Мухавец, Лясная, Рыта). З далёкай старажытнасці Буг з'яўляўся асноўнай воднай магістраллю рэгіёна. Важную ролю адыгрывалі таксама прытокі Буга, асабліва Мухавец. Гэты гандлёвы шлях на працягу шэрагу стагоддзяў звязваў не толькі тэрыторыю Сярэдняга Пабужжа, але і землі Старажытнай Русі з Літвой, Польшчай, Германіяй, Чэхіяй. Наяўнасць гандлёвага шляху станоўча адбілася на развіцці эканамічных адносін і грамадскага ладу Сярэдняга Пабужжа. Аб гэтым сведчаць вынікі археалагічных даследаванняў, а таксама знаходкі грашова-рэчавых скарбаў X—XII стст. з манетамі розных краін: Англіі, Германіі, Даніі, Чэхіі, Польшчы.

У сувязі з адсутнасцю пісьмовых крыніц адзінымі гістарычнымі матэрыяламі з'яўляюцца археалагічныя даныя, якія сведчаць, што славянскія плямёны паявіліся ў Сярэднім Пабужжы ў VI—VII стст. Такі вывад можна зрабіць на падставе матэрыялаў, атрыманых у 1988 г. В. Вяргей пры раскопках паселішча каля в. Блювінічы Брэсцкага раёна, дзе знойдзена ляпная раннеславянская кераміка пражскай культуры VI—VII стст.[1]

Насельніцтва Сярэдняга Пабужжа працягвала жыць у IX—X стст. на адкрытых паселішчах плошчай 1—3 га па берагах рэк. Адно з іх каля в. Дружба (раней Скорбічы) Брэсцкага раёна ў 1966 г. вывучала І. Русанава. У выніку раскопак было здабыта шмат канкрэтных звестак пра культуру насельніцтва канца 1-га тысячагоддзя н.э. у басейне р. Лясная.

З самага пачатку прыходу на тэрыторыю Сярэдняга Пабужжа ў VI—VII стст. славяне жылі ў неўмацаваных паселішчах. З другой паловы X ст. побач

[1]*Вяргей В.С., Кудрашоў В.Я.* Раскопкі паселішча Блювінічы на р. Лясной // Весці АНБ. Сер. грамад. навук. 1994. № 4. С. 119, 120.

з селішчамі яны вымушаны былі будаваць умацаваныя гарадзішчы, якія служылі сховішчамі ў выпадку варожай навалы.

Група ўсходнеславянскіх археалагічных помнікаў другой паловы X ст. вывучалася каля в. Франопаль. Устаноўлена, што спачатку людзі жылі на паселішчы, а ў другой палове X ст. было пабудавана гарадзішча[1]. Аналагічны помнік выяўлены каля в. Філіпавічы.

Насельніцтва тэрыторыі Сярэдняга Пабужжа другой паловы 1-га тысячагоддзя н.э. мела звычай хаваць нябожчыкаў па абрадзе трупаспалення (крэмацыя) пад насыпам кургана або ў насыпе[2]. Нябожчыка спальвалі, потым рэшткі збіралі і хавалі ў іншым месцы ў круглай яме або на гарызонце ці ў насыпе кургана. Зрэдку памерлага спальвалі на месцы насыпання кургана.

Курганы з трупаспаленнем даследаваны каля в. Шэбрын Брэсцкага, хутара Гуркі, Струга Маларыцкага, Радасць, Войская, Кусцічы Камянецкага раёнаў. Каля вёсак Лісоўчыцы і Хацінава вывучаны курганы з частковым спаленнем. Яны адносяцца да пераходнага перыяду ад абраду крэмацыі да трупапалажэння. Вывучэнне ў рэгіёне больш за 260 курганоў дае магчымасць упэўніцца, што тут замена крэмацыі трупапалажэннем адбывалася паступова ў XI ст.

Важна адзначыць, што ва ўказаны час праходзіла змена пахавальнага абраду ў аднаго і таго ж у этнічных адносінах насельніцтва. Тут разам са звычайнымі курганамі ёсць насыпы, якія ў падножжы абкладзены камянямі-валунамі. Сустракаюцца выпадкі, калі апрача абкладкі пад дзірванам кургана зроблена выкладка з больш дробных валуноў. У курганах з каменнай абкладкай, так і без яе пахаваны прадстаўнікі ўсходнеславянскіх плямён, у асноўным дрыгавічоў, як лічаць некаторыя даследчыкі. У асобных выпадках сустракаюцца пахаванні ўсходнеславянскага племя валынян.

У сувязі з тым што выкарыстанне валуноў характэрна для заходнябалцкіх плямён і ў прыватнасці яцвягаў, іншыя даследчыкі мяркуюць, што курганы з прымяненнем валуноў пакінуты тут заходнябалцкім племем яцвягаў[3]. Таксама выказана думка, што гэта пахаванні славянізаваных нашчадкаў яцвягаў[4].

Неабходна падкрэсліць, што ў пахаваннях знойдзены толькі ўсходнеславянскі пахавальны інвентар. Пры жаночых пахаваннях выяўлены этнавызначальныя жаночыя ўпрыгожанні, якімі з'яўляюцца ажурныя металічныя пацеркі, зробленыя на каркасе з меднага дроту і з напаянымі на яго срэбранымі шарыкамі, і скроневыя кольцы, якія ўключаюць па тры такія пацеркі. Гэтыя ўпрыгожанні каштавалі вельмі дорага. На тэрыторыі Сярэдняга Пабужжа знойдзена значная колькасць такіх этнавызначальных рэчаў. Так, каля в. Свішчова ў двух курганах выяўлена пяць ажурных пацерак дрыгавіцкага тыпу.

Такія пацеркі знойдзены ў курганах каля вёсак Ратайчыцы, Войская Камянецкага раёна і в. Рогаўка (былы Бельскі павет). Гэты пералік можна прадоўжыць. Матэрыялы з шырокай тэрыторыі Сярэдняга Пабужжа даюць падставу адносіць курганы, а значыць, і насельніцтва да дрыгавічоў.

Вялікую колькасць курганоў налічваў могільнік каля хутара Гуркі Брэсцкага раёна — 173 насыпы вышынёй 0,4—1 м, дыяметрам 6—14 м. Гэта самы значны па колькасці курганоў могільнік у Брэсцкай вобласці, які датуецца XI—XIII стст.

На тэрыторыі Сярэдняга Пабужжа сустракаюцца так званыя "каменныя курганы", у насыпах якіх прысутнічае шмат валуноў. У некаторых курганах

[1] *Іоў А.* Этнічны склад насельніцтва Заходняга Палесся ў X—XIII стст. (па матэрыялах сельскіх паселішчаў) // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 27—30.

[2] *Коробушкина Т.Н.* Курганы Белорусского Побужья X—XIII вв. Мн., 1993. С. 21.

[3] *Квятковская А.В.* Курганы ятвягов конца I — начала II тысячелетия н.э. (устройство и типология) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1996. № 10. С. 58—61.

[4] *Седов В.В.* Восточные славяне в VI—XIII вв. С. 120.

назіраецца шчыльная каменная вымастка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, у падкурганных ямах, у насыпах, галавой на захад, зрэдку на ўсход. Такія курганы даследаваны каля вёсак Войская, Свішчова, Трасцяніца, Ратайчыцы ў Камянецкім раёне і ў іншых месцах[1].

Наяўнасць у курганах валуноў лічыцца заходнябалцкімі (яцвяжскімі) звычаямі.

Аднак, на думку аўтараў, наяўнасць валуноў у курганах не з'яўляецца этнавызначальнай рысай па той прычыне, што яны сустракаюцца не толькі ў заходніх балтаў, але і ва ўсходніх. Галоўнае, што такая дэталь прасочваецца таксама ва ўсходнеславянскіх плямён, а таксама плямён Пскоўшчыны і Наўгародчыны. Насельніцтва ўказанай тэрыторыі выкарыстоўвала валуны пры збудаванні кургана не толькі ў X—XIII стст., але і пазней. У курганах Наўгародскай зямлі валуны выкарыстоўвалі значна шырэй.

У яцвяжскіх курганах Сувалкіі (Польшча) валунамі выкладалі ўсю плошчу будучага кургана, а ў асобных выпадках і магільную яму. На тэрыторыі Сярэдняга Пабужжа няма нічога падобнага.

З улікам усіх навуковых даных можна сцвярджаць, што курганы Сярэдняга Пабужжа вядуць сваё паходжанне не ад заходнябалцкіх, а ад больш ранніх усходнеславянскіх помнікаў з пахаваннямі па абрадзе трупаспалення. Пацвярджэннем гэтаму служаць раннія курганы з трупаспаленнем на могільніках тэрыторыі Пабужжа.

У кургане № 20 каля в. Ратайчыцы з трупаспаленнем зафіксавана абкладка з валуноў на падэшве. У ім выяўлены рэшткі жаночага пахавання, сярод якога былі шкляныя пацеркі, у тым ліку залачоныя і пасярэбраныя, а таксама, што надзвычай істотна, металічная ажурная пацерка дрыгавіцкага тыпу. Гэтыя і іншыя прыведзеныя вышэй прыклады — яскравае сведчанне таму, што як пахаванні па абрадзе трупаспалення, так і трупапалажэння належаць аднаму ў этнічных адносінах насельніцтву. Гэтым насельніцтвам было ўсходнеславянскае племя дрыгавічоў[2].

Курганныя пахаванні Сярэдняга Пабужжа параўнальна бедныя на знаходкі, тым не менш яны даволі разнастайныя. У мужчынскіх пахаваннях прысутнічаюць кавалкі ганчарных гаршкоў (зрэдку гаршкі цэлыя), нажы, паясныя спражкі, крэсівы і зрэдку пярсцёнкі. Жаночыя пахаванні значна багацейшыя. У іх змешчаны кавалкі керамікі і цэлыя гаршкі, скроневыя кольцы розных форм, пацеркі з каляровага шкла і металічныя ажурныя дрыгавіцкага тыпу, сланцавыя праслачкі, бронзавыя бразготкі, металічныя гузікі. Для параўнання можна прыгадаць рэчы, якія часта сустракаюцца ў ранніх курганах яцвягаў з абрадам трупаспалення на тэрыторыі Сувалкіі ў Польшчы. У іх часта знаходзяць зброю, прадметы рыштунку каня і конніка. На тэрыторыі Сярэдняга Пабужжа ў курганах другой паловы 1-га тысячагоддзя н.э. звычайна фіксуюцца рэшткі вогнішча з перапаленымі касцямі і ляпная кераміка. Такое ж становішча і ў позніх курганах, толькі кераміка тут кругавая.

Такім чынам, курганы тэрыторыі Сярэдняга Пабужжа істотна адрозніваюцца па дэталях абраду і пахавальнаму інвентару ад курганоў Сувалкіі на тэрыторыі Польшчы. Аб гэтым пасля дэталёвага вывучэння адпаведных помнікаў можна сцвярджаць з упэўненасцю. Інвентар у каменных курганах Пабужжа пацвярджае, што насельніцтва, якое ў іх пахавана, у этнічных адносінах мае дачыненне да славян.

**Гарады.** У канцы X ст. дзякуючы Прыпяцка-Бугскаму гандлёваму шляху і эканамічнаму развіццю паяўляюцца рэальныя ўмовы для ўзнікнення на

[1]Археалогія і нумізматыка Беларусі. С. 301.

[2]*Коробушкина Т.Н.* Курганы Белорусского Побужья. С. 109; *Яна ж.* Насельніцтва Беларускага Пабужжа X—XIII стст. Мн., 1999. С. 56.

тэрыторыі Сярэдняга Пабужжа гарадоў. Дакладныя летапісныя звесткі аб Берасці (Брэсце) адносяцца да 1019 г.[1]

Ёсць падставы меркаваць, што старажытны Брэст быў пабудаваны на мяжы X—XI стст. З самага пачатку існавання ён адыгрываў ролю палітычнага, эканамічнага, адміністрацыйнага і культурнага цэнтра Пабужжа, а таксама з'яўляўся ваенна-абарончай крэпасцю. У ім, згодна Іпацьеўскаму летапісу, быў пабудаваны "столп камен" накшталт Камянецкай вежы і царквы святога Пятра[2].

Неўзабаве на Заходнім Бугу быў заснаваны Драгічын (Дарагічын), а потым Мельнік, які ў Іпацьеўскім летапісе названы пад 1260 г., дзе гаворыцца аб існаванні ў горадзе царквы святой Багародзіцы. У гэтым летапісе яшчэ паведамляецца пра два гарады ў Пабужжы. На р. Лясная ў 1276 г. быў закладзены Камянец, а ў 1287 г. Кобрын, размешчаны на Мухаўцы, пабудаваны князем Уладзімірам Васількавічам для "сваёй княгіні"[3].

Старажытны Брэст (Берасце, Бярэсце) з'яўляецца адным з найбольш вывучаных гарадоў на тэрыторыі Беларусі і самым даследаваным у Сярэднім Пабужжы. Пры раскопках была вызначана забудова старажытнага горада, атрымана яскравае ўяўленне аб структуры гарадской гаспадаркі. Па колькасці вывучаных драўляных пабудоў (звыш 200) ён пераўзыходзіць многія іншыя гарады. Гэтае ж самае можна сказаць аб выключнай захаванасці будынкаў (іншы раз на 10—12 вянцоў). Ускрыты тры вымашчаныя тоўстымі дошкамі вуліцы. У Берасці адсутнічала дваровая планіроўка.

Дзядзінец меў надзвычай стабільную і шчыльную забудову. Драўляныя аднакамерныя пабудовы памерамі 10—16 м² размяшчаліся ў 3—4 рады паміж паралельна пракладзеных вуліц. Вокны знаходзіліся з тыльнага боку жыллёвых пабудоў, якія мелі падлогу з дошак і глінабітныя, а з XIII ст. і цагляныя печы. Дахі былі двухскатныя, зробленыя з дошак, дзверы — вузкія і нізкія.

Матэрыял археалагічных раскопак, якія доўжыліся амаль 20 гадоў, дае ўяўленне аб развіцці ў горадзе разнастайных рамёстваў, занятках жыхароў земляробствам, жывёлагадоўляй, хатнімі промысламі. Сярод звычайных рэчаў выяўлены унікальныя, да якіх можна аднесці самшытавы грэбень з выразанымі літарамі алфавіта канца XII — пачатку XIII ст., дубовае рала XIII ст., касцяную шахматную фігурку з выявай воіна, выкананую ў рэалістычнай манеры, касцяны мастыхін — прыладу мастака для нанясення і расцірання фарбаў.

У сувязі з выдатнай захаванасцю драўляных пабудоў XIII ст. было вырашана закансерваваць іх і зрабіць музей старажытнага горада "Бярэсце". У ім размешчаны шматлікія археалагічныя знаходкі. У сакавіку 1983 г. ён адчыніў свае дзверы наведвальнікам.

Пісьмовыя і археалагічныя матэрыялы даюць падставу зрабіць вывад аб заснаванні горада ўсходнімі славянамі, верагодней за ўсё дрыгавічамі. З самага пачатку пасля ўзвядзення ўсходнеславянскага горада на яго ўскладалася адказная роля ў жыцці насельніцтва Сярэдняга Пабужжа. І нават калі на гэтай тэрыторыі вырастаюць іншыя гарады (Мельнік, Камянец, Кобрын), яго роля як галоўнага горада Сярэдняга Пабужжа не змяншылася.

Драгічын Надбужны размяшчаўся на гандлёвым прыпяцка-бугскім шляху і быў яго канечным усходнеславянскім горадам. Менавіта тут перагружалі тавары, якія ішлі з усходу на захад, і наадварот. Не выпадкова ў сярэдзіне XIX ст. у Драгічыне было знойдзена некалькі тысяч таварных свінцовых пломбаў XII—XIII стст.

---

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 132.
[2]Там жа. С. 927.
[3]Там жа. С. 876, 925.

Горад упамянуты ў летапісе пад 1142 г., але быў пабудаваны значна раней. Археалагічныя даследаванні Драгічына былі праведзены польскім археолагам К.Мусяновіч[1]. Выяўлены сельскія паселішчы VI—XI стст., у якіх пражывалі невялікія групы насельніцтва. У пачатку XI ст. сфарміраваўся горад, ад якога на беразе Буга засталося гарадзішча Замкавая гара. Каля гарадзішча размяшчаліся неўмацаваныя паселішчы — пасады. Верагодна, у XII ст. узнікла паселішча Драгічын Рускі на другім беразе ракі. На тэрыторыі горада каля ракі была заснавана прыстань для выгрузкі і пагрузкі тавараў, адкуль іх везлі далей ці па сушы ў польскія землі, ці, выкарыстоўваючы цячэнне Буга, накіроўвалі ў землі яцвягаў, якія жылі на р. Нараў. Побач з прыстанню знаходзілася мытня.

Водны шлях, які звязваў Кіеў з Драгічынам праз Прыпяць і Днепр, абазначаны знаходкамі скарбаў арабскіх манет — дархемаў. У Драгічыне знойдзены скарб такіх манет, які быў схаваны ў канцы IX ст. Скарбы арабскіх манет знойдзены ў Антопалі і Пінску.

Пры археалагічных раскопках у Драгічыне знойдзена шмат суручскіх каменных праслачкаў і мноства шкляных бранзалетаў. У суседняй Мазовіі такіх бранзалетаў няма.

У пласце канца XII — пачатку XIII ст. выяўлена касцяная ручка вялікага баявога нажа з надпісам, зробленым кірыліцай: "Ежков нож а иже и украдет проклят будет". Надпіс меў магічны сэнс, з якім уладальнік нажа звязваў надзею на захаванне сваёй уласнасці. Мяркуюць, што надпіс зрабіў сам уладальнік нажа, які быў, верагодна, воінам.

У Драгічыне пражывала змешанае насельніцтва, але пераважалі "русіны", г. зн. усходнія славяне. Тут знаходзілася таксама заходнеславянскае насельніцтва, якое перасялялася з суседняй Мазовіі. У горадзе былі групы купцоў, якія займаліся гандлем. Адны з іх жылі пастаянна, другія часова, пакуль заключаліся гандлёвыя пагадненні. У Мазовію праз Драгічын паступала галіцкая соль. У Драгічыне жыў князь ці яго пасаднік, знаходзілася княжацкая рэзідэнцыя[2].

**Палітычная гісторыя.** Важным палітычным цэнтрам Сярэдняга Пабужжа на працягу ўсяго сярэднявечча з'яўляўся г. Берасце. З пачатку XI ст. ён уваходзіў у склад Тураўскага княства, якое атрымаў у спадчыну Святаполк ад вялікага князя кіеўскага Уладзіміра. Пасля смерці Уладзіміра кожны з яго сыноў імкнуўся завалодаць велікакняжацкім сталом, барацьба за які праходзіла з пераменным поспехам.

У 1015 г. прастол у Кіеве захапіў Святаполк — прыёмны сын Уладзіміра, і хутка былі забіты два малодшыя Уладзіміравічы: Барыс і Глеб. Аднак Яраслаў Уладзіміравіч, тады наўгародскі князь, у выніку трохгадовай барацьбы (1016 — 1019) канчаткова перамог Святаполка, які быў у 1019 г. ушчэнт разбіты ў бітве на р. Альце і з рэшткамі дружыны ўцякаў да свайго цесця караля Баляслава Хараброга ў Польшчу. Летапісец піша: "Бежашу ему нападе на (нь) бес и расслабеша кости его". У вельмі цяжкім стане, калі Святаполк не мог рухацца, яго на насілках "принесоша к Берестью"[3]. Так увайшоў у пісьмовую гісторыю горад, якому было наканавана стаць стратэгічным і палітычным цэнтрам зямель Пабужжа. Важнасць і значэнне гэтай тэрыторыі добра ўяўлялі сабе кіеўскія князі, таму на працягу дзесяцігоддзяў яны вялі барацьбу за гэтыя землі з польскімі каралямі.

Хутка Берасце (Бярэсце) было занята польскім войскам. Летапісец паведамляе аб паходах Яраслава (пазней празванага Мудрым) к Берасцю ў 1020 г., яго барацьбе з палякамі ў 1022, 1031 і 1044 гг.

---

[1] *Musianowicz K.* Drohiczyn od VI do XIII wieku. Białystok, 1982; *Каробушкіна Т.М.* Насельніцтва Беларускага Пабужжа X—XIII стст. С. 63, 91—93.

[2] *Musianowicz K.* Drohiczyn od VI do XIII wieku.

[3] ПСРЛ. Т. 2. С. 118, 132.



Рэчы з тэрыторыі Пабужжа

Драгічын Надбужны: 1—2 — свінцовыя пячаткі; 3—5 — крыжыкі; 6 — пломба князя Усевалада Яраславіча; 7—8 — матрыца і дно гаршка з выявай кляйма; 9 — касцяная ручка нажа з надпісам; 10 — арнаментаваная касцянзя накладка; 11 — грэбень. Франапаль: 12—14 — наканечнікі стрэл; 15 — наканечнік ножнаў мяча; 16 — перакрыжаванне мяча; 17 — навясны замок

У сваім "Павучанні" Уладзімір Манамах пісаў, што каля 1073 г. ён быў пасланы вялікім князем кіеўскім ахоўваць Берасце, якое было спалена палякамі ў час набегу. У гэтым паведамленні Берасце ўпершыню названа горадам.

Вялікі князь кіеўскі Святаполк Ізяславіч у 1097 г. прагнаў з Берасця валынскага князя Давыда Ігаравіча. Пасля смерці Святаполка ў 1113 г. Берасце разам з Тураўскім княствам апынулася ў падпарадкаванні вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха. Але ў 1146 г. горад быў вернуты Тураўскаму княству[1].

У другой палове XII ст. Берасце ўвайшло ў склад Уладзіміра-Валынскага княства. У горадзе адбываліся розныя палітычныя падзеі. На працягу XII—XIII стст. летапісы адзначаюць спробы Берасця стаць самастойным цэнтрам асобнага ўдзела.

Драгічын Надбужны ў сярэдзіне XII ст. дасягнуў свайго росквіту. Фактычна ён быў другім пасля Берасця адміністрацыйным цэнтрам у Пабужжы. У 1181 г. Драгічын, верагодна, стаў сталіцай асобнага княства пад уладай князёў з турава-пінскай галіны, якія ў 1087—1157 гг. валодалі ўсім Сярэднім Пабужжам. Нейкі час Драгічын знаходзіўся пад уладай валынскіх князёў, якія яшчэ раней авалодалі Берасцем і ўсёй паўднёвай часткай Сярэдняга Пабужжа. У 1235 г. горад захапіў мазавецкі князь Конрад (Кандрат). У 1237 г. ён пасяліў

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 118, 132; *Лысенко П.Ф.* Берестье. Мн., 1985. С. 11—19.

тут нямецкіх мечаносцаў, якія былі ў яго на службе. У 1237 г. галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч з боем узяў горад. Многія крыжакі загінулі ці трапілі ў палон. Даніла Раманавіч распаўсюдзіў сваю ўладу на Драгічын каля 1240 г. Драгічын часта быў пунктам збора паходаў рускага мазавецкага войска супраць яцвягаў[1]. У 1254 г. у час паходу на яцвягаў у Драгічыне сціпла каранаваўся Даніла Раманавіч. Ён прыняў ад рымскага папы каралеўскі тытул, спадзеючыся стварыць у Еўропе кааліцыю для барацьбы з мангола-татарамі.

Драгічын быў важным горадам на ўсходнеславянска-мазавецкім памежжы. Меркаванне аб тым, што Драгічын быў сталіцай Ятвязі, не пацвярджаецца фактамі. Сталіца Ятвязі знаходзілася недзе ў іншым месцы, калі яна наогул існавала.

У 1260 г. праз Драгічын прайшлі мангола-татары, якія накіроўваліся з зямель яцвягаў у г. Мельнік. Мельнік быў усходнеславянскім невялікім горадам. У 1274 г. Драгічынам канчаткова завалодалі літоўскія князі.

## 5. Землі Пасожжа ў XI–XIII стст.

Землі Пасожжа ў XI–XIII стст. уваходзілі ў склад Смаленскага і Чарнігаўскага княстваў. Таму гісторыя гэтых зямель непасрэдна звязана з падзеямі, якія адбываліся на асноўнай тэрыторыі княстваў.

Паўднёва-ўсходнія раёны Беларусі, населеныя радзімічамі, канчаткова ўвайшлі ў склад Кіеўскай Русі ў 984 г. у выніку паходу ваяводы князя Уладзіміра Воўчага Хваста. Аднак усобіца, якая ўспыхнула пасля смерці Уладзіміра (1015) паміж яго сынамі Яраславам Мудрым і Мсціславам, прывяла ў 1024 г. да расколу Кіеўскай Русі на дзве часткі. Левабярэжжа Дняпра разам з зямлёю радзімічаў адышло ў сферу ўплыву Чарнігава, у якім сядзеў Мсціслаў. Правабярэжжа разам з Кіевам і астатнімі землямі засталося за Яраславам. У такім стане Кіеўская Русь заставалася да 1036 г., калі пасля смерці Мсціслава яна была зноў аб'яднана Яраславам. Але землі радзімічаў і пасля гэтага заставаліся пад уплывам Чарнігава.

Адсутнасць стабільнасці ў дзяржаве, якая назіралася ў першай трэці XI ст., зразумела, не спрыяла ўмацаванню Кіеўскай Русі. І таму, хаця пісьмовыя крыніцы маўчаць аб падзеях, якія адбываліся на Пасожжы ў XI ст., можна лічыць, што ўсё XI ст. — гэта гісторыя адзяржаўлення радзімічаў — замена суверэнітэта мясцовых князёў на суверэнітэт Рурыкавічаў, упарадкаванне падаткаабкладання і хрысціянізацыя.

Сацыяльна-эканамічнае развіццё ў IX–X стст. стварыла ўмовы для пачатку фарміравання ў X ст. гарадскіх цэнтраў. Перш за ўсё гэта адносіцца да Гомеля (летапіснага Гомія), які вырас з племяннога цэнтра радзімічаў. Размешчаны на поўдні зямлі радзімічаў, ён замыкаў сабой усе шляхі па Сожы і яго буйных прытоках і займаў зручнае геаграфічнае становішча. Таму ён стаў галоўным пунктам канцэнтрацыі і пераразмеркавання княжацкай даніны з усяго радзіміцкага саюза, што спрыяла развіццю горада.

У канцы IX–X ст. на Гомельскім паселішчы з'яўляюцца рысы, якія адлюстроўваюць пачатак генезісу раннефеадальнага горада. Значна павялічваецца яго плошча, якая дасягнула ў памерах 8 га і мела двухчасткавую тапаграфічную структуру: дзядзінец (0,7 га), вакольны горад са сваёй лініяй умацаванняў (4 га) і прылеглыя да яго паселішчы адкрытага тыпу. Гомель стаў не толькі важным адміністрацыйным, але і рамесным цэнтрам, аб чым сведчыць наяўнасць тут слядоў ганчарнага, кавальскага, ювелірнага і іншых рамёстваў[2].

---

[1] *Musianowicz K.* Drohiczyn od VI do XIII wieku.
[2] *Макушников О.А.* В поисках летописного Гомия. С. 31, 43.

Асваенне радзімічамі Пасожжа спрыяла таму, што акрамя Гомеля, племяннога цэнтра, пачалі ўзнікаць іншыя ўмацаваныя пункты, з якіх ішло асваенне наваколля. Яны, як правіла, узнікалі ў стратэгічна важных мясцінах, якія давалі магчымасць кантраляваць значную тэрыторыю. Так, у Чачэрску, неўмацаваным паселішчы роменскай культуры VIII—IX стст., размешчаным на беразе р. Чачоры, у Х ст. узводзяцца фартыфікацыйныя збудаванні, што ператварылі яго ва ўмацаваны цэнтр, які кантраляваў значную частку плыні Ніжняга Сожа. Каля ўпадзення р. Проні ў Сож, на мысу, утвораным Сожам і ярам, таксама ў Х ст. на аснове паселішча VIII—IX стст. узводзіцца ўмацаваны пункт, які стаў першым крокам у развіцці сярэднявечнага Прупоя (сучасны Слаўгарад). Ён кантраляваў як шлях уверх па Сожы, так і выхад у басейн Проні. Крыху ніжэй месца ўпадзення р. Астра ў Сож, на тэрыторыі сучаснага Крычава, у Х ст. на былым гарадзішчы жалезнага веку Гарадзец зноў пачынаецца жыццё.

Узніклыя апорныя пункты радзіміцкай каланізацыі Пасожжа адначасова, верагодна, выконвалі ролю адміністрацыйнага і культавага цэнтра акругі. Ва ўсялякім выпадку яны з'яўляліся адзінымі ўмацаванымі паселішчамі на значнай тэрыторыі, а ў Крычаве захавалася паданне аб існаванні на месцы будучай Замкавай гары капішча Перуна.

Пагром радзімічаў у 984 г. не спыніў развіцця Гомеля. Наадварот, уваход Пасожжа ў склад Кіеўскай Русі даў дадатковы штуршок развіццю горада. У канцы Х — пачатку XI ст. старыя ўмацаванні вакольнага горада былі знішчаны і адсунуты далей на захад, што дазволіла павялічыць плошчу ўмацаванага паселішча да 10 га. У гэты ж час горад пачынае пераходзіць на правы бераг ручая Гамеюк, дзе развіваецца пасад. Агульная плошча Гомеля XI ст. дасягала не менш 15 га.

У XI ст. назіраецца паступовы рост паселішчаў у Чачэрску і ў Крычаве. У Чачэрску каля сцен дзядзінца пачынае фарміравацца селішча, якое заняло плошчу больш за 1 га. У Х—XI стст. селішча такіх памераў фарміруецца каля гарадзішча Гарадзец у Крычаве. Адначасова ў апошнім з-за размяшчэння Гарадца ў баку ад Сожа, яго малой плошчы і, верагодна, разбурэння гарадзішча, якое пачалося ўжо ў той час, з XI ст. пачынаецца фарміраванне новага адкрытага паселішча на беразе Сожа, на месцы будучага гарадзішча Замкавая гара. Толькі паселішча ў Прупоі ў Х—XI стст. заставалася ў сваіх папярэдніх памерах — займала гарадзішча памерам 0,5 га каля сутокі Проні і Сожа.

**Пасожскія воласці Смаленскай зямлі.** Паўночна-ўсходнія раёны Беларусі апынуліся ў сферы ўплыву Кіева яшчэ з канца IX ст., калі ў 882 г. дружыны Алега захапілі Смаленск[1]. Улада крывіцкіх старэйшын у гнёздаўскім Смаленску была заменена ўладай кіеўскіх пасаднікаў, а потым і князёў-намеснікаў, якія бясспынна кантралявалі Смаленск да пачатку XII ст.

Такая пільная ўвага Кіева да гэтага крывіцкага цэнтра тлумачыцца тым, што ён быў своеасаблівым ключом да днепра-дзвінскага міжрэчча, на якім існавалі шматлікія пераходы волакам на гандлёвым шляху ранняга сярэднявечча — "з варагаў у грэкі". Значная частка гэтых шляхоў праходзіла па тэрыторыі сучасных Дубровенскага, Аршанскага, Лёзненскага раёнаў Віцебшчыны і Горацкага раёна Магілёўшчыны, тэрыторыя якіх уваходзіла ў склад Смаленскай воласці Кіеўскай Русі.

З канца Х — пачатку XI ст. барацьбу з Кіевам за кантроль над гэтым раёнам пачынае Полацкае княства, якое набірала моц. Ужо ў выніку першага ўзброенага канфлікту, што адбыўся паміж імі ў 1021 г., Яраслаў Мудры, шукаючы паплечнікаў у барацьбе з Мсціславам і жадаючы засцерагчы сябе ад небяспекі на поўначы, саступіў Полацку паўночную частку гэтага волаку з Віцебскам і Усвятамі. Аднак Кіеў, які меў недалёка адсюль свой буйны цэнтр Смаленск,

[1]Повесть временных лет. Ч. 1. С. 112.



Умацаваны цэнтр Гомеля XIII ст.

увесь час уважліва сачыў за падзеямі, што адбываліся тут, і ўпэўнена трымаў у сваіх руках паўднёвую частку гэтага стратэгічна важнага шляху.

Першыя звесткі ў крыніцах аб Оршы (летапіснай Ршы 1067 г.) падкрэсліваюць, што гэты раён у XI ст. знаходзіўся пад кантролем Смаленска. Сустрэча Усяслава Брачыславіча з Яраславічамі адбылася "на Рши у Смолиньска"[1]. Удакладненне, што раён р. Ршы належаў Смаленску, падкрэслівае спрэчнасць гэтых зямель, з-за якіх у другой палове XI — пачатку XII ст. існавала пэўная напружанасць у адносінах паміж Полацкам і Кіевам.

Прыналежнасць ваколіц сучаснай Оршы ў сярэдзіне XI ст. Смаленску сведчыць аб тым, што землі, размешчаныя на ўсход ад яе, таксама былі пад уладай Смаленска. Наогул можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ўсе крывіцкія землі левабярэжжа Дняпра ў X—XI стст. кантраляваліся Смаленскам — буйнейшым крывіцкім цэнтрам Верхняга Падняпроўя. Смаленск валодаў і Копыссю, якая ўпершыню згадваецца ў летапісе ў 1059 г.[2]

Жаданне Полацка паставіць пад свой кантроль увесь днепра-дзвінскі волак праз Оршу было ажыццёўлена Глебам Менскім у пачатку XII ст., калі ён далучыў альбо паставіў у сваю залежнасць Оршу і Копысь. Аднак гэта перамога Глеба была часовай. У 1116 г. Вячаслаў Уладзіміравіч зноў вярнуў іх у склад Смаленскай воласці Кіеўскай Русі[3].

Тая маўклівая, а часам і не зусім (падзеі 1116 г.) барацьба, якая на працягу XI — пачатку XII ст. бясспынна ішла паміж Полацкам і Кіевам за кантроль над днепра-дзвінскімі волакамі ў раёне Оршы, знайшла сваё адлюс-

[1] Як паказалі археалагічныя даследаванні, горада Оршы ў той час яшчэ не існавала (*Левко О.Н.* Средневековая Орша и ее округа (историко-археологический очерк). Орша, 1993. С. 19).

[2] ПСРЛ. М., 1963. Т. 9. С. 91; ПСРЛ. СПб., 1863. Т. 15. С. 135.

[3] Повесть временных лет. Ч. 1. С. 220.

траванне і ўзахаваных да нашых дзён шматлікіх "памежных" тапонімах: Межава, Межыева, Вялікі, Малы і Сярэдні Межнікі, Смаляны, Смаленцы, Палачані-Даманава, Палачанка, Брославуль. У рад, утвораны падобнымі тапонімамі, становіцца і Рагвалодаў камень 1171 г., які, верагодна, з'яўляўся своеасаблівым памежным знакам. Усе яны размешчаны выключна на правабярэжжы Дняпра і адмяжоўваюць Оршу і Копысь ад Полацкай зямлі, што пацвярджае іх прыналежнасць Смаленску[1].

У пачатку XII ст. былая Смаленская воласць Кіеўскай Русі вылучаецца ў самастойнае княства. У 1125 г. у Смаленску пачынае княжыць Расціслаў Мсціславіч — родапачынальнік дынастыі смаленскіх князёў, які, дарэчы, занесены ў лік беларускіх святых. Яго княжанне ў Смаленску (1125—1159) і ў Кіеве (1159—1167) было перыядам найбольшага росквіту і пашырэння Смаленскага княства, узрастання яго ролі ў агульнаўсходнеславянскіх справах. Мяжуючы на поўдні з Чарнігаўскай зямлёй, Смаленск уважліва сачыў за падзеямі, што адбываліся там, і чакаў зручнага моманту для таго, каб адарваць далёкія ад Чарнігава землі радзімічаў. І такая нагода хутка здарылася.

У 1127 г. Усевалад Ольгавіч, князь чарнігаўскі, распачаў усобіцу супраць Яраслава. За апошняга ўступіўся Мсціслаў Уладзіміравіч, князь кіеўскі — бацька Расціслава, князя смаленскага. У бітве, якая адбылася паміж Мсціславам і Усеваладам, апошні быў разбіты і ўцёк. Усевалад пачаў прасіць міру ў Мсціслава, аднак той не пагаджаўся. Такое становішча існавала ўсё лета да зімы. Патрабавалася ўмяшанне царквы для таго, каб Мсціслаў пагадзіўся на мір. Менавіта гэтым складаным становішчам Усевалада і скарыстаўся Расціслаў Мсціславіч, каб далучыць да свайго княства паўночныя землі радзімічаў[2]. Такім чынам адбыўся першы, але не апошні падзел зямель радзімічаў паміж Смаленскім і Чарнігаўскім княствамі.

Мяжу, якая ўсталёўвалася паміж імі ў Пасожжы, дапамагае рэканструяваць Статут 1136 г., што дайшоў да нас, якім з нагоды ўтварэння ў Смаленскім княстве самастойнай епіскапіі Расціслаў Мсціславіч надаваў ёй значныя ўладанні і вызначаў памеры даніны з валасцей, што таксама павінны былі ісці на карысць царквы. Са Статута 1136 г. мы даведваемся аб існаванні ў Пасожжы валасцей Кречют (сучасны Крычаў) і Прупой. На поўдзень ад іх пачыналася паласа лясоў, якія дзялілі паўночныя і паўднёвыя землі радзімічаў і якія на пэўны час сталі мяжой паміж Смаленскай і Чарнігаўскай землямі.

Статут паведамляе аб існаванні ў XII ст. на ўсходніх землях Беларусі яшчэ некалькіх адміністрацыйных адзінак акрамя гэтых валасцей. Так, уздоўж р. Басі на тэрыторыі сучасных Горацкага і Шклоўскага раёнаў існавала воласць Басея, якая плаціла даніну ў памеры 15 грывень, цэнтр якой, верагодна, знаходзіўся на гарадзішчы ў в. Гарадзішча Шклоўскага раёна. На паўночным усходзе ўздоўж р. Мярэі існавала воласць Мірацічы (10 грывень), цэнтр якой трэба шукаць альбо на гарадзішчы каля в. Горы Горацкага раёна, альбо на гарадзішчы каля в. Зваровічы Краснянскага раёна Смаленшчыны. На самым паўночным усходзе за Дняпром частка тэрыторыі сучасных Дубровенскага і Лёзненскага раёнаў уваходзіла ў воласць Вітрына (30 грывень), цэнтр якой знаходзіўся на гарадзішчы ў в. Мікуліна Руднянскага раёна Смаленшчыны.

На захадзе княства на Дняпры стаяла Копысь, у Копыскую воласць уваходзіла таксама Орша. Далёка ад асноўнай тэрыторыі Смаленскага княства, на месцы сучаснай в. Лучын Рагачоўскага раёна, стаяў Лучын — смаленскі фарпост, які кантраляваў не толькі дняпроўскі шлях "з варагаў у грэкі", але і назіраў за яго адгалінаваннем у Полацкую зямлю па Друці. Памеры даніны,

[1]*Мяцельскі А.А.* Орша ў XII—XIII стст.: паміж Полацкам і Смаленскам // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1995. № 6. С. 220.

[2]*Алексеев Л.В.* Смоленская земля в IX—XIII вв. М., 1980. С. 52.

якую ён плаціў князю, нам невядомы. Але Статут паведамляе, што ў Лучыне была карчма і тут збіралі мыта — плату за транзітны праезд.

Паход 1127 г. не быў адзінай падзеяй у спрэчках з-за зямель радзімічаў паміж Смаленскам і Чарнігавам. У 1142 г. зноў успыхнула ўсобіца паміж чарнігаўскімі князямі. Гэта не абмінуў скарыстаць Расціслаў Мсціславіч, які рушыў свае дружыны ў воласці Ольгавічаў, размешчаныя ў міжрэччы Іпуці і Бесядзі і далучыў іх да Смаленскай зямлі[1]. Расціслаў нават спаліў воласць Гомія, але зрабіць спробу захопу горада не адважыўся.

Гэтыя два падзелы зямель радзімічаў, ажыццёўленыя Расціславам у 1127 і 1142 гг., заставаліся на працягу ўсяго XII ст. той незагойнай ранай, якая не дазваляла нармалізаваць чарнігаўска-смаленскія ўзаемаадносіны і з-за якіх увесь час успыхвалі спрэчкі і канфлікты. Чарнігаўскія князі неаднаразова спрабавалі вярнуць сабе гэтыя землі як сілай, так і шляхам перагавораў, аднак іх намаганні былі безвыніковымі[2]. Пытанне аб валасцях у міжрэччы Бесядзі і Іпуці ўсплыло ў 1174 г., калі пры кіеўскім княжанні Рамана Расціславіча быў заключаны "Раманаў рад", які нейкім чынам рэгуляваў гэтыя спрэчкі. Гэта ж праблема зноў узнікла ў 1190 г., калі Святаслаў Усеваладавіч чарнігаўскі ўзняў пытанне аб "тяжи", якая цягнецца з часоў Расціслава. Аднак Рурык Расціславіч нагадаў яму "Раманаў рад" і падкрэсліў, што сысці з яго ён не дазволіць, і вяртаў Святаславу хросныя граматы, што азначала пачатак вайны. Чарнігаўская зямля апынулася перад пагрозай новай вайны з аб'яднанай кааліцыяй Расціславічаў, да якой яна не была падрыхтавана. Святаслаў быў вымушаны цалаваць Расціславічам крыж на "всей их воле"[3] і мяжа засталася стабільнай.

Значная адлегласць паўночных зямель радзімічаў ад асноўнай чарнігаўскай тэрыторыі не дазваляла да канца XI ст. надзейна ахапіць падаткаабкладаннем гэтыя землі. Менавіта з гэтай нагоды, а таксама з-за неабходнасці замацаваць новыя землі з сярэдзіны XII ст. тут распачаўся працэс будаўніцтва новых гарадскіх цэнтраў і ствараліся ўмовы для паскарэння развіцця старых, якія засталіся з часоў чарнігаўскага адзяржаўлення радзімічаў.

У Прупоі ў XII ст. узводзяцца драўляна-земляныя абарончыя збудаванні. На поўнач ад яго пачынаецца фарміраванне пасада, які ў XIII ст. займаў плошчу больш за 2 га[4] і пачаў пераходзіць на суседняе заходняе ўзвышша. З XII ст. Прупой застаецца адзіным умацаваным паселішчам у паўднёва-заходніх раёнах Смаленскай зямлі, вакол якога фарміруецца сельская акруга, цэнтрам якой ён з'яўляўся.

З XII ст. актывізуецца развіццё паселішча ў Крычаве. На беразе Сожа, на месцы невялікага неўмацаванага паселішча XI ст., узводзіцца новая крэпасць — гарадзішча "Замкавая гара". Сюды на працягу XII—XIII стст. пераходзіць цэнтр горада, які працягвае фарміравацца, хаця на "Гарадцы" і вакол яго жыццё працягвалася да мяжы XIII—XIV стст. Адначасова з узвядзеннем новай крэпасці на поўдзень ад яе, на Спаскай гары, пачынае фарміравацца рамесна-гандлёвы пасад. У XII—XIII стст. ён быў невялікім і займаў плошчу ўсяго каля 1 га[5], яго інтэнсіўнае развіццё пачалося з XV ст.

Далейшае развіццё атрымалі Лучын і Копысь, абодва яны згадваюцца ў грамаце "Аб пагароддзі і пачэсці" сярэдзіны XII — пачатку XIII ст.[6] у ліку га-

---

[1]*Мяцельскі А.А.* Смаленска-чарнігаўскае памежжа XII ст. у міжрэччы Дзясны і Дняпра // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1994. № 4. С. 150—157.

[2]ПСРЛ. Т. 2. С. 311.

[3]Там жа. С. 603—604, 670.

[4]*Ткачев М.А.* Работы в Белорусском Посожье // Археологические открытия 1975 года. М., 1976. С. 423—424.

[5]*Ткачев М.А.* Работы Посожского отряда // Археологические открытия 1976 года. М., 1977. С. 418.

[6]*Алексеев Л.В.* Смоленская земля в IX—XIII вв. С. 25; *Янин В.Л.* Заметки о комплексе документов Смоленской епархии // Отечественная история. 1994. № 6.

радоў. Копысь, паводле памераў даніны, што выплачвалася, займала трэцяе месца ў іерархіі смаленскіх гарадоў і саступала толькі княжацкім Тарапцу і Мсціславу. Лучын, згодна гэтай жа крыніцы, стаяў на сёмым месцы сярод 12 згаданых у ёй цэнтраў. Летапіснае паведамленне 1173 г. данесла да нас звесткі аб будаўніцтве тут храма св. Міхаіла[1].

Сярэдзіна XII ст. у гісторыі горадабудаўніцтва на ўсходнеславянскіх землях адзначаецца як час, калі павялічваецца роля княжацкай адміністрацыі ў будаўніцтве новых гарадоў. Гэта сведчыць перш за ўсё аб умацаванні феадальнай дзяржавы, якой ужо стала пад сілу не толькі асваенне існуючых сацыяльна-эканамічных структур (Прупой, Кречют), але і будаўніцтва значнай колькасці новых.

На частцы далучаных Расціславам зямель ім былі заснаваны ўласныя даменіяльныя ўладанні, цэнтрамі якіх сталі гарады Мсціслаў, Расціслаў і Ізяслаў, названыя ім так у гонар свайго бацькі, сябе і брата.

Адзінае ўпамінанне горада Мсціслава ў летапісах XII—XIII стст. адносіцца да 1156 г., калі Ізяслаў Давыдавіч падавіў бясчынствы Святаслава Усеваладавіча, рушыў свае дружыны ў землі яго паплечніка Расціслава Мсціславіча і заклікаў на дапамогу Святаслава Ольгавіча, князя ноўгарад-северскага. Тут, каля Мсціслава, было заключана мірнае пагадненне[2]. Яшчэ адна ранняя звестка аб Мсціслаўлі сустракаецца ў зборніку кіеўскага Міхайлаўскага манастыра XVI ст.: "Лѣта 6642 (1135) Растислав Мстиславич устрои град великыи Смоленскъ и церковь с(в)ятого Сп(а)са Верху Смыдыни и град Мстиславълъ на Вехре онъ же созда"[3]. Гэтыя дзве звесткі падаюць Мсціслаў выключна як геаграфічную кропку і сведчаць, што горад быў заснаваны Расціславам Мсціславічам у першай палове XII ст.

Археалагічныя даследаванні паказалі, што новы горад быў пабудаваны ў густанаселенай воласці, на месцы былога сельскага паселішча X—XI стст. Дзядзінец новаўтворанага горада "Замкавая гара" быў размешчаны на правым беразе р. Віхры і займаў плошчу каля 1,5 га. З паўднёвага і паўднёва-заходняга боку, за ярам-ровам размяшчаўся пасад, які ў XII—XIII стст. займаў плошчу каля 4,5 га[4].

Раскопкі ў паўднёвай частцы дзядзінца паказалі, што ён меў сядзібную забудову, планіроўка якой адпавядала плану гарадзішча. Вуліцы ішлі да вала пад прамым вуглом, а тыя, што перасякалі іх, не заўжды мелі паралельны валу кірунак. У цэнтры дзядзінца ў канцы XII — пачатку XIII ст. была ўзведзена драўляная вежа — данжон. Першапачатковае фартыфікацыйнае збудаванне згарэла і яе дакладныя памеры і канструкцыйныя асаблівасці высветліць немагчыма.

У другой чвэрці XIII ст., адразу пасля знішчэння першага данжона на яго месцы быў узведзены новы. Ён меў памеры 13 х 13,5 м і быў рублены з дуба. У 30—40-х гадах XIII ст. на месцы данжона была пабудавана невялікая каплічка, якая прастаяла да 60-х гадоў XIII ст. У пачатку 60-х гадоў яна была заменена на драўляную вежу памерам 13,7 х 12 м, якая загінула ў час пажару паміж 1296 і 1307 гг.[5]

---

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 567.

[2]Там жа. С. 485.

[3]*Щапов Я.Н.* Освящение смоленской церкви Богородицы в 1150 г. // Новое в археологии. М., 1972. С. 282.

[4]*Трусаў А.А., Ткачоў М.А., Мяцельскі А.А.* Некаторыя пытанні археалагічнага вывучэння акольнага горада Мсціслава XII—XVIII стст. // Весці АНБ. Сер. грамад. навук. 1990. № 2. С. 81, 83.

[5]*Алексеев Л.В.* Смоленская земля в IX—XIII вв. С. 192; *Ён жа.* Древний Мстиславль в свете археологии // Гістарычна-археалагічны зборнік Мн., 1995. № 6. С. 130, 166; *Ён жа.* Проблема становления культово-оборонительного зодчества Руси в свете раскопок в Мстиславле (Беларусь) // Российская археология. 1993. № 4. С. 219—237.

Вывучэнне археалагічных матэрыялаў з мсціслаўскіх вежаў дазваляе сцвярджаць, што яны мелі не толькі абарончае прызначэнне, але адначасова выконвалі і функцыі храма. Пісьмовыя крыніцы больш позняга часу сведчаць, што на мсціслаўскім дзядзінцы існавалі дзве царквы — Успення Багародзіцы і Мікольская. Выказана думка, што знойдзеная драўляная вежа-данжон, якая выконвала адначасова функцыі храма, і ёсць рэшткі царквы св. Міколы. Што ж датычыцца царквы Успення Багародзіцы, то менавіта ёй, верагодна, належаць фрагменты плінфы, выяўленай у паўночнай частцы дзядзінца[1]. Аб наяўнасці ў Мсціславе мураванага храма XII—XIII стст. сведчаць роспісы фрэскі XVIII ст. кармеліцкага Успенскага касцёла, прысвечанай аблозе горада рускімі войскамі летам 1654 г. На ёй добра бачна выява царквы, падобная на храмы XI—XIII стст., што стаіць пасярод Замкавай гары[2].

Археалагічныя крыніцы сведчаць, што перыяд XII—XIII стст. быў часам хуткага развіцця і росквіту Мсціслава, што ўскосна пацвярджаюць і пісьмовыя крыніцы.

Паводле памераў даніны, якія плацілі епіскапу смаленскія гарады згодна грамаце "Аб пагароддзі і пачэсці", Мсціслаў займаў другое месца і саступаў толькі Таропцу. Да таго ж ён быў адным з пяці гарадоў княства, акрамя Смаленска, дзе служыў епіскап, — горад плаціў "пачэсціе" — плату за гонар епіскапскай службы[3]. Гэта пацвярджае значную ролю горада ў княстве, і нельга выключыць таго, што ўжо ў гэты час пачалося фарміраванне Мсціслаўскага ўдзельнага княства, добра вядомага па крыніцах канца XIV — пачатку XVI ст. Ва ўсялякім выпадку ў В. Таціпічава пад 1180 г. захаваліся звесткі аб тым, што Мсціслаў быў перададзены Раманам Расціславічам свайму сыну Мсціславу[4].

У сярэдзіне XII ст. у Іпацьеўскім летапісе згадваецца населены пункт, верагодна, горад Смаленскай зямлі Зарой, месцазнаходжанне якога дакладна невядома, але штучныя тапонімы сустракаюцца на ўсходзе Магілёўшчыны. Звесткі аб ім трапляюцца пры апісанні падзей 1156 г.[5]

У вярхоўях Проні ёсць яшчэ адзін археалагічны помнік, які, верагодна, быў невялікім горадам Смаленскага княства. Гэта гарадзішча каля в. Горы Горацкага раёна. Археалагічныя даследаванні паказалі, што невялікае сярэднявечнае паселішча ўзнікла тут у XI ст. Аднак яго росквіт прыпадае на другую палову XII—XIII ст. У канцы XIII ст. яно было спалена і, хаця жыццё на ім працягвалася, яно не магло дасягнуць папярэдняга ўзроўню.

З XII ст. пачынаецца развіццё Оршы як гарадскога цэнтра Смаленскага княства. Першапачаткова Орша развівалася як памежная крэпасць на смаленска-полацкай мяжы, адбудаваная па княжацкім загадзе ў воласці Копысі, і была адным з ключавых пунктаў на днепра-дзвінскім волаку.

**Чарнігаўскія гарады Пасожжа.** Падзел Пасожжа, які адбыўся ў 1127 і 1142 гг. паміж Чарнігаўскім і Смаленскім княствамі, разам з развіццём сацыяльна-эканамічных адносін паспрыяў развіццю Чачэрска. Горад, які апынуўся на неспакойнай мяжы, атрымаў новыя, больш магутныя абарончыя збудаванні, што на працягу XII—XIII стст. неаднаразова падмацоўваліся. У гэты ж час павялічваецца пасад, які ў XII ст. займаў плошчу больш за 2 га[6]. У XII ст. Чачэрск неаднаразова трапляе на старонкі летапісаў. Першы раз мы сустракаем

---

[1]*Алексеев Л.В.* Смоленская земля в IX—XIII вв. С. 192; *Ён жа.* Древний Мстиславль в свете археологии // Гістарычна-археалагічны зборнік Мн., 1995. № 6. С. 130, 166; *Ён жа.* Проблема становления культово-оборонительного зодчества Руси в свете раскопок в Мстиславле (Беларусь) // Российская археология. 1993. № 4. С. 234.

[2]*Ткачоў М.А., Трусаў А.А.* Старажытны Мсціслаў. Мн., 1992. С. 11.

[3]Древнерусские княжеские уставы XI—XV вв. М., 1976. С. 146.

[4]*Татищев В.Н.* История Российская. Т. 3. С. 188.

[5]ПСРЛ. Т. 2. С. 476.

[6]*Ткачоў М.А.* Чачэрск // Археалогія і нумізматыка Беларусі. С. 644.

яго ўпамінанне ў 1159 г., калі Ізяслаў Давыдавіч перадаў яго разам з Мазыром чарнігаўскаму князю Святаславу. Другі раз ён трапляе на старонкі летапісаў у 1167 г. як месца сустрэчы Расціслава Мсціславіча з Алегам Святаславічам[1].

Аднак нягледзячы на свой рост, Чачэрск у XII ст. заставаўся яшчэ невялікім горадам Чарнігаўскай зямлі, ускоснае сведчанне аб чым ёсць у летапісе. У 1159 г. Святаслаў Ольгавіч скардзіцца, што Ізяслаў Давыдавіч даў яму "Чарнигов с 7-ю город пустых: Моровиеск, Оргошь, Всеволожь, а в нех седять псареве же и половць"[2].

У гэтым летапісным паведамленні не названы яшчэ тры гарады. Мяркуюць, што ў лік гэтых гарадоў увакходзіў і Глебль[3]. Застаюцца невядомымі яшчэ два гарады. Аднак вышэй у летапісе пад гэтым жа годам гаворыцца аб перадачы Ізяславам Давыдавічам Святаславу Мазыра і Чачэрска. З прыбаўленнем гэтых трох гарадоў — Глебля, Чачэрска і Мазыра становіцца зразумелым увесь удзел Святаслава Ольгавіча, а аднясенне Чачэрска да ліку "пустых" гарадоў сведчыць аб тым, што гэта быў невялікі горад.

У пачатку XIII ст. у летапісах упамінаецца яшчэ адзін горад Чарнігаўскага княства, размешчаны на ўсходзе Беларусі, — Рэчыца. Яна згадваецца ў 1214 г. як чарнігаўскі горад, які быў разгромлены Мсціславам Удалым[4].

Археалагічныя даследаванні паказалі, што горад пачаў фарміравацца на месцы папярэдняга паселішча не пазней сярэдзіны XII ст. Ужо ў гэты час ён меў дзве часткі тапаграфічнай структуры — гарадзішча памерам 75 х 35 м, вакольны горад з вулічна-дваровай планіроўкай і, магчыма, пасад, які прымыкаў да іх. Горад, верагодна, узнік як ваенна-адміністрацыйны цэнтр Чарнігаўскай зямлі, які кантраляваў басейн Дняпра ад вусця Бярэзіны да вусця Сожа.

Найбольш буйным горадам Чарнігаўскага княства ў Пасожжы XII—XIII стст. заставаўся Гомель (Гомій). Ён становіцца адміністрацыйным, рамесна-гандлёвым, ваенным, культавым і культурным цэнтрам усяго Ніжняга Пасожжа, у якім, як ускосна сведчыць летапіснае паведамленне 1165 г., быў заснаваны княжацкі стол[5].

На працягу XII ст. адбыліся значныя змены ў гарадской тапаграфіі. У пачатку XII ст. былі знішчаны ўмацаванні дзядзінца горада X—XI стст. Яго плошча была павялічана ўдвая — з 0,7 да 1,5 га, а ў сярэдзіне XII ст. на дзядзінцы ўзводзіцца мураваны храм. Новы этап у гісторыі развіцця цэнтра горада адносіцца к канцу XII ст. і звязаны з умацаваннем фартыфікацыйных якасцей крэпасці. Пасярэдзіне гарадзішча выкопваецца дадатковы абарончы роў, у выніку чаго дзядзінец Гомія быў падзелены на дзве часткі плошчай па 0,7 га[6].

Росквіт горада ў XII ст. добра адлюстроўваюць і пісьмовыя крыніцы. Так, самае першае летапіснае паведамленне аб Гоміі, якое мы сустракаем пад 1142 г., сведчыць аб ім як аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным цэнтры пэўнай воласці[7]. Значэнне горада добра бачна і з паведамлення 1159 г.: тут на пэўны час знаходзіць прытулак Ізяслаў Давыдавіч і адсюль ён пачынае новую барацьбу за кіеўскі стол[8]. І нарэшце, паведамленне 1165 г., якое сведчыць, што палажэнне чарнігаўскага князя ў значнай ступені залежала ад таго, ці будзе на яго баку Гомій, дазваляе меркаваць аб існаванні тут удзельнага стала.

---

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 496, 520.

[2]Там жа. С. 520.

[3]*Куза А.В.* Малые города Древней Руси. М., 1989. С. 43.

[4]Новгородская первая летопись (далей — НПЛ). М.;Л., 1950. С. 53, 252.

[5]ПСРЛ. Т. 2. С. 523; *Зайцев А.К.* Черниговское княжество // Древнерусские княжества X—XIII вв. М., 1975. С. 104.

[6]*Макушников О.А.* Стратиграфия раскопа 1988 г. на Гомельском детинце и некоторые вопросы истории летописного Гомия // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1994. № 8. С. 185—186.

[7]ПСРЛ. Т. 2. С. 311.

[8]Там жа. С. 502.

Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што ў XII—XIII стст. горад займаў плошчу больш за 40 га. Яго тапаграфічная структура складалася з дзядзінца плошчай 1,5 га, вакольнага горада (каля 10—15 га) і прылеглых да яго неўмацаваных пасадаў, якія цягнуліся ўздоўж Сожа. У XII—XIII стст. Гомій быў буйнейшым рамесным цэнтрам Пасожжа. У час археалагічных даследаванняў на дзядзінцы выяўлены рэшткі ювелірна-ліцейнай майстэрні. Матэрыялы з вакольнага горада фіксуюць існаванне кавальскага, ювелірнага, касцярэзнага рамёстваў, дрэваапрацоўкі. Ёсць падставы меркаваць аб мясцовым шкларобстве, вырабе паліванай керамікі і каменячосным рамястве[1]. Унікальнай з'яўляецца знойдзеная на тэрыторыі вакольнага горада майстэрня першай паловы XIII ст. па вырабу зброі. У яе запаўненні, якое мела памеры 4,4 х 4 м, знойдзена больш за 1600 рэчаў, сярод якіх як бытавыя знаходкі, так і інструментарый і дэталі наступальнага ўзбраення. Знойдзены перакрыжаванні і навершы мячоў і шабель, фрагменты кальчужнага палатна, шматлікія панцырныя пласціны. Аналіз выробленых прадметаў узбраення і інструментарый з майстэрні гавораць аб яе зборачна-слясарным кірунку, калі тут адбывалася толькі даводка і зборка зброі з дэталяў, што паступалі з іншых майстэрань[2].

Невялікія археалагічныя даследаванні, праведзеныя на дзядзінцы Брагіна, паказалі, што горад узнік у XI ст. і першапачаткова, верагодна, быў ваенна-адміністрацыйным цэнтрам Кіеўскага княства ў землях дрыгавічоў. Аднак для высвятлення больш дакладнай гісторыі яго развіцця патрэбны дадатковыя археалагічныя даследаванні.

У першай палове XIII ст. землі Смаленскага княства пачалі адчуваць на сабе ціск Літвы, якая набірала моц. Летапісы даволі часта паведамляюць аб гаспадаранні літоўскіх дружын на Смаленшчыне, прычым даходзіць нават да таго, што ў 1239 г. у смаленскія справы вымушаны быў умешвацца Яраслаў Усеваладавіч, каб выгнаць адтуль літоўскага князя і "смаляне оурядив". Аднак дакладных пісьмовых звестак аб набегах Літвы на паўднёва-заходнія (беларускія) землі Смаленскага княства няма. Толькі прыцягвае ўвагу паведамленне 1252 г. Іпацьеўскага летапісу, якое гаворыць аб адпраўцы Міндоўгам сваіх сыноўцаў Едзівіла, Таўцівіла і Вікінта ваяваць на Русь "ко Смоленску"[3].

Гэта паведамленне дапаўняе недатаваны дадатак з "Хронікі Літоўскай і Жамойцкай", у якой гаворыцца, што ў выніку гэтага паходу Таўцівіл заняў Полацк, Вікінт — Віцебск, а Едзівіл "в Смоленску и Друцку килка пригородов з волостями опановал"[4]. Безумоўна, гэта паведамленне мае пад сабой нейкую падставу, і можна меркаваць, што Падняпроўскія воласці Смаленскай зямлі пацярпелі ў выніку гэтага паходу.

Паведамленняў, звязаных з паходамі Літвы на Чарнігаўскую зямлю, захавалася значна менш. Аднак і яны сведчаць, што Літва, якая набірала моц, не забывалася праверыць трываласць чарнігаўскіх мячоў. Першыя звесткі аб паходах літоўскіх дружын на чарнігаўскія землі мы сустракаем яшчэ ў 1203—1205 гг.[5] У 1220 г. літоўскія дружыны моцна спустошылі Чарнігаўскае княства, хаця летапісец не ўдакладняе, што гэта былі за землі: "Приходиша Литва и воеваша волость Черниговъскую; Мстислав же Святосла-

---

[1]*Макушников О.А.* Основные этапы развития летописного Гомия (до середины XIII века) // Проблемы археологии Южной Руси. Материалы историко-археологического семинара "Чернигов и его округа в IX—XIII вв." Киев, 1990. С. 60—61; *Ён жа.* Стратиграфия раскопа 1988 г. на Гомельском детище и некоторые вопросы истории летописного Гомеля. С. 186.

[2]*Макушников О.А.* Древнерусская оружейная мастерская из Гомия // Старожитності Південної Русі. Чернігів, 1993. С. 121—130.

[3]ПСРЛ. Т. 2. С. 359, 658.

[4] ПСРЛ. Т. 35. С. 206—207.

[5]ПСРЛ. Т. 1. С. 421; ПСРЛ. М., 1949. Т. 25. С. 1010; Новгородская первая летопись. М.;Л., 1950. С. 246.

вич гони их из Чернигова, и постиг их изби всех, а полон отъятъ"[1]. Чарнігаўска-літоўскія адносіны заставаліся варожымі і пазней. У летапісах нават захавалася паведамленне аб забойстве ў 1258 г. ваяводы Міндоўга Хвала: "...иже велико обиство творяше земле Черниговское"[2].

У сярэдзіне XIII ст. усходнеславянскія землі трапілі пад удар мангола-татарскіх ордаў. Іх пагрому не абмінулі і паўднёва-ўсходнія раёны Пасожжа, якія ўваходзілі ў склад Чарнігаўскага княства, і, верагодна, гэтыя землі на доўгі час сталі ардынскімі правінцыямі. Пасожскія землі Смаленскага княства таксама, як сведчаць ускосныя даныя, не абмінулі гэтай навалы, аднак смаленскія князі прызналі сваю васальную залежнасць ад арды толькі ў 70-я гады XIII ст.

## 6. Землі Панямоння

**Даследаванне старажытных гарадоў.** Узнікненне гарадоў у Панямонні, як гаварылася вышэй, звязана са з'яўленнем тут славян і эвалюцыяй усходнеславянскага грамадства. Можна вылучыць тры этапы ў станаўленні і развіцці гэтых гарадоў: канец X — першая палова XI ст., сярэдзіна XI — першая палова XII ст., другая палова XII—XIII ст. Панямонне было перыферыяй усходнеславянскай каланізацыі, тут няма гарадоў, якія развіваліся з племянных цэнтраў. Усе гарады ўзніклі ў асяроддзі сельскіх паселішчаў, у месцах, дзе былі найбольш спрыяльныя ўмовы для заняткаў земляробствам. У XI ст. на аснове паселішчаў, якія ўзніклі пры асваенні славянамі Верхняга Панямоння, пачынаюць фарміравацца раннегарадскія цэнтры ў Гародні, Навагрудку, Ваўкавыску, Слоніме, крыху пазней — у Турыйску. Гарады першапачаткова выконвалі функцыі адначасова і памежных крэпасцей, і адміністрацыйных цэнтраў і княжацкіх сядзіб (замкаў). Гэта звязана з актыўнай палітычнай дзейнасцю кіеўскіх і полацкіх князёў, якія імкнуліся пашырыць свой уплыў. Гарады Панямоння належаць да ліку невялікіх з агульнай умацаванай плошчай ад 1,5 да 5 га[3].

У Гародні на тэрыторыі Старога замка або Замкавай гары ўжо ў XI ст. існавала славянскае паселішча, само размяшчэнне якога сведчыць аб яго ваенным прызначэнні. Гэта была крэпасць на славяна-літоўскім памежжы, у якой побач з воінамі-дружыннікамі жылі рамеснікі. У пачатку XII ст. крэпасць стала рэзідэнцыяй (замкам) князя, дзядзінцам горада. На паўднёвым краі пляцоўкі над Нёманам быў збудаваны двухпавярховы мураваны палац (церам) князя, у цэнтры ўзведзена вялікая багата ўпрыгожаная так званая Ніжняя царква.

На ўсход ад Старога замка, за ярам размешчаны Новы замак — вакольны горад старажытнага Гродна. Першае паселішча тут таксама ўзнікла ў XI ст. Умацаванні вакольнага горада не захаваліся. Аднак на старажытных планах добра бачны роў, які аддзяляў гэту частку старажытнага горада ад астатняй тэрыторыі. Старажытны горад меў некалькі пасадаў. Цэнтральны пасад размяшчаўся на тэрыторыі, абмежаванай ракой Гараднічанкай і правым берагам Нёмана. Частка гэтай тэрыторыі была заселена ў XI—XII стст., дзе пры раскопках выяўлены рэшткі Прачысценскай царквы.

Першае летапіснае ўпамінанне пра гарадзенскага князя Усеваладка адносіцца да 1116 г. У паходзе 1127 г. (па іншай крыніцы — 1128 г.), які арганізаваў супраць Полацка кіеўскі князь Мсціслаў, прымаў удзел "Усеваладка з Гародні". У 1132 г. гарадзенскае войска ўдзельнічае ў паходзе Мсціслава на

[1]ПСРЛ. СПб., 1856. Т. 7. С. 128.
[2]ПСРЛ. Т. 2. С. 840.
[3]*Піваварчык С.А.* Да пытання аб летапісных гарадах Панямоння // Краязнаўчыя запіскі. Зборнік артыкулаў памяці Ю.Ядкоўскага. Гродна, 1990. С. 31—34.

Літву. Гарадзенскія Усеваладкавічы неаднаразова ўдзельнічалі ў паходах, якія арганізоўвалі кіеўскія князі. Сыны Усеваладка Барыс і Глеб прымалі ўдзел у паходзе 1144 г. на Галіч. У 1168, 1170 і 1184 гг. гарадзенскія князі ўдзельнічалі па закліку Кіева ў паходах супраць качэўнікаў-полаўцаў[1].

Навагрудак з'явіўся на старонках летапісу больш чым на стагоддзе пазней за Гародню (Гродна). Пад 1235 г. (фактычна 1238 г.) у Іпацьеўскім летапісе ўпамінаецца князь наўгародскі Ізяслаў — саюзнік або васал Міндоўга. Першае летапіснае паведамленне аб горадзе адносіцца да 1252 г. і звязана з барацьбой галіцка-валынскіх і літоўскіх князёў за валоданне панёманскім краем. Цікавасць уяўляе сведчанне Іпацьеўскага летапісу аб існаванні ў Навагрудку ўмацаваных частак — дзядзінца і вакольнага горада ў 1274 г. (фактычна — 1275 г.)[2].

Гарадзішча старажытнага Навагрудка складаецца з дзвюх пляцовак — Замкавай гары і Малога замка. Мяркуючы па даных археалагічных раскопак, паселішча на Малым замку ўзнікла ў канцы X ст., а на Замкавай гары — у пачатку XI ст. Першапачаткова паселішчы былі неўмацаванымі. Затым пляцоўка Замкавай гары была абнесена валам іператварылася ў дзядзінец. У пачатку XII ст. валам быў умацаваны пасад на Малым замку і ён стаў вакольным горадам. На ўзгорку, размешчаным на паўднёвы захад ад вакольнага горада, быў збудаваны цагляны храм (папярэднік царквы Барыса і Глеба). У XII ст. побач са звычайнымі наземнымі зрубавымі дамамі з каменнымі або глінабітнымі печамі з'явіліся багатыя плошчай да 75 м² дамы са шклянымі вокнамі і фрэскавым роспісам сцен. Культура і быт жыхароў багатых дамоў рэзка адрозніваюцца ад культуры і быту простых людзей[3].

Размяшчэнне Навагрудка мае характэрную асаблівасць — горад быў акружаны ў раннім сярэднявеччы шчыльным кальцом сельскіх паселішчаў і курганоў (Брацянка, Гарадзілаўка і інш.).

Ваўкавыск, як і Навагрудак, упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 г. (фактычна — каля 1249 г.). Чатыры гады пазней летапіс называе імя ваўкавыскага князя Глеба, на дачцэ якога быў жанаты сын Данілы Раманавіча, князя галіцкага, Раман, князь наўгародскі. У паходзе зімой 1255—1256 гг., арганізаваным Данілам і Васількам Раманавічамі на яцвягаў, удзельнічалі і войскі Глеба, князя ваўкавыскага[4].

Гарадзішча старажытнага Ваўкавыска складаецца з дзвюх пляцовак — Шведскай гары і Замчышча. На аснове даных раскопак устаноўлена, што паселішча на Шведскай гары было заснавана ў сярэдзіне або другой палове X ст. Пачатак жыцця на Замчышчы адносіцца да рубяжа X—XI стст. Прыкладна ў гэты час было заселена гарадзішча Муравельнік, якое размешчана за 0,5 км на ўсход ад Шведскай гары.

Паселішча на Шведскай гары першапачаткова не было ўмацавана валам. Ён быў насыпаны ў канцы X ст. Шведская гара стала дзядзінцам. У пачатку XII ст. валам было ўмацавана Замчышча (гарадскі пасад) і яно ператварылася ў вакольны горад. На Замчышчы пачалося будаўніцтва цаглянага храма, якое па нейкіх прычынах было спынена на стадыі закладкі фундамента.

Умацаванае паселішча на Шведскай гары першапачаткова з'ўлялася крэпасцю, якой кіраваў пастаўлены князем пасаднік. Пазней крэпасць стала замкам, дзе жылі сам князь, знаць, дружына.

Да сярэдзіны XII ст. канчаткова склалася тапаграфія старажытнага Ваўкавыска. На захад ад дзядзінца знаходзіцца ўмацаваны вакольны горад, заселены ў асноўным рамеснікамі, а вакол абедзвюх пляцовак размяшчаюцца неўмаца-

---

[1] *Воронин Н.Н.* Древнее Гродно. М., 1954. С. 13—15, 200.

[2] ПСРЛ. Т. 2. С. 873; Літопис Руський. С. 429.

[3] *Гуревич Ф.Д.* Древние города Белорусского Понеманья. Мн., 1982. С. 25—26.

[4] ПСРЛ. Т. 2. С. 816, 831.



Шкляны посуд з Наваградка (XII ст.)

ваныя паселішчы чорнага люду — бяднейшых рамеснікаў і прышлых людзей. Што датычыць Муравельніка, то жыццё на гэтым гарадзішчы спынілася.

Слонім, як і Ваўкавыск, упершыню на старонках летапісу з'яўляецца пад 1252 г. (фактычна — каля 1249 г.). Да паведамлення Т.Нарбута аб тым, што Яраслаў разбіў літоўцаў у ваколіцах Слоніма ў 1040 г., трэба ставіцца крытычна.

Месцазнаходжанне летапіснага Слоніма да нядаўняга часу заставалася няясным. Сляды гарадзішча ўдалося выявіць у 1950-я гады на невялікім узвышшы, размешчаным у цэнтры сучаснага горада, вядомым сярод старажылаў пад назвай "Замчышча". На старых планах яго пляцоўка мае форму чатырохвугольніка, абмежаванага крутымі схіламі і ровам. Мост, які злучаў Замчышча з астатняй гарадской тэрыторыяй, размешчаны з паўночнага боку.

Паселішча на Замчышчы ўзнікла ў XI ст., хутка яго пляцоўка была абнесена валам. У другой палове XII ст. Слонім ужо з'яўляўся багатым і добраўпарадкаваным горадам: шырокія вулічныя насцілы, дыхтоўныя зрубавыя дамы, высокая матэрыяльная культура, значнае развіццё рамяства і гандлю[1]. Падобна як і Гродна, Наваградак і Ваўкавыск, Слонім таксама, відавочна, меў дзве лініі абароны: унутраную (дзядзінец) і знешнюю (вакольны горад). Паблізу гарадскіх умацаванняў знаходзіўся адкрыты пасад. Сляды апошняга зафіксаваны паміж Замчышчам і рукавом р. Шчары.

Пад назвай Турыйска ў летапісе вядомы два гарады: адзін на Валыні, другі на Нёмане. Турыйск валынскі ўпершыню ўпамінаецца пад 1097 г., Турыйск нёманскі — пад 1253 г. (фактычна 1252 г.). У запісе пад 1276 г. указана больш дакладна месцазнаходжанне пункта — "Туриискъ на реце на Немне и села около него"[2].

Гарадзішча летапіснага горада знаходзіцца на ўскраіне сучаснай вёскі Турэйск у Шчучынскім раёне. Яно займае сярэдзіну выспы, выцягнутай уздоўж

[1]*Зверуго Я.Г.* Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. С. 248–274.

[2]ПСРЛ. Т. 2. С. 819, 874–875.

правага берага Нёмана. З поўдня і поўначы пляцоўка гарадзішча абмежавана крутымі схіламі, а з захаду і ўсходу адрэзана ад працягу грады дугападобныміваламі. Уверх па цячэнні Нёмана размяшчалася неўмацаванае паселішча.

У выніку раскопак устаноўлена, што Турыйск на Нёмане ўзнік на мяжы XI—XII стст. Гэта была невялікая крэпасць на славяна-літоўскім памежжы. Горад, відавочна, уваходзіў у склад Гарадзенскага княства. Яго матэрыяльная культура вельмі блізкая да культуры іншых гарадоў Панямоння.

Пад 1256 г. у Іпацьеўскім летапісе маецца паведамленне аб удзеле Ізяслава Свіслацкага разам з іншымі князямі панёманскага краю ў паходзе на яцвягаў, арганізаваным Данілам і Васількам Раманавічамі зімой 1255—1256 гг. Рэшткі гэтага летапіснага горада, які, як бачна з летапісу, быў цэнтрам удзельнага княства, яшчэ патрэбна знайсці. Пошукі ў басейне р. Свіслачы (левы прыток Нёмана) надзейных вынікаў не далі.

Да ліку панёманскіх гарадоў некаторыя даследчыкі адносяць Здзітаў, які побач з іншымі гарадамі краю названы ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 г. (фактычна каля 1249 г.). Лакалізацыя горада ўскладнялася тым, што да гэтага часу існуюць чатыры населеныя пункты з такой назвай (тры ў Брэсцкай і адзін у Гродзенскай абласцях)[1].

Найбольш верагодным з'яўляецца меркаванне, што старажытны горад размяшчаўся за 4 км на поўдзень ад сучаснай вёскі Здзітава, каля в. Старамлыны, дзе на правым беразе р. Ясельды, каля дарогі ў Хомск захаваліся рэшткі гарадзішча XI—XIII стст. Матэрыяльная культура блізкая да матэрыяльнай культуры гарадоў Тураўскай зямлі і Беларускага Панямоння.

У вярхоўях р. Уша, левага прытока Нёмана, знаходзіўся сярэднявечны горад-крэпасць Нясвіж, знакаміты цэнтр ардынацыі Радзівілаў[2]. Старажытны пасад і замак у канцы XVI — пачатку XVII ст. былі поўнасцю перапланаваны, абнесены землянымі валамі і равамі, у прадмесцях створаны форты. Застаецца невядомым, ці існавалі ў гэтых месцах паселішчы XII—XIII стст. У бліжэйшым наваколлі Нясвіжа яны дагэтуль таксама не выяўлены.

**Паселішчы негарадскога тыпу.** На тэрыторыі Беларускага Панямоння вядома каля 20 гарадзішчаў, якія з'яўляюцца не гарадамі, а невялікімі пасяленнямі ці феадальнымі сядзібамі. Некаторыя гарадзішчы маглі служыць сховішчамі падчас ваеннай небяспекі, але большасць з'яўлялася месцамі пастаяннага пражывання. Такімі былі гарадзішчы каля вёсак Высоцк, Радагошча і інш. Найбольш цікавае гарадзішча Мсцібава Ваўкавыскага раёна размешчана на беразе р. Альшанкі ў нізіннай забалочанай мясцовасці. Яно ўмацавана магутным валам вышынёй 5 м са стромкімі схіламі. Пляцоўка гарадзішча ідэальна круглая дыяметрам 30 м. Каля гарадзішча ёсць другі невысокі вал, які абодвума канцамі ўпіраецца ў балота. Мяркуючы па знойдзеных пры раскопках матэрыялах, умацаванае паселішча ўзнікла ў XII ст. На думку некаторых даследчыкаў, гарадзішча з'яўляецца рэшткамі замка валынскага баярына Мсцібога, які ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1202 г. (фактычна канец 1206 г. — пачатак 1207 г.)[3].

Гарадзішча Індура Гродзенскага раёна, мусіць, таксама адносіцца да феадальна-ўласніцкіх замкаў XI—XIII стст. Яно мае дзве пляцоўкі — цэнтральную ўнутраную і знешнюю. Унутраная пляцоўка амаль круглая ў плане дыяметрам 18 м, умацавана валам, перад якім прасочваецца роў. Знешняя авальная пляцоўка памерам 45 х 48 м абнесена высокім валам. Побач з уездам, напэўна, існавала студня. Таўшчыня культурнага пласта складае каля 0,6 м. Пры археалагічных раскопках знойдзены разнастайныя прылады працы (сярпы, косы, рыбалоўныя кручкі, фрагменты багата аздобленай кераміі-

[1] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. С. 149.
[2] *Чарняўская Л., Чарняўскі І.* Нясвіж. З мінулага // ПГКБ. 1988. № 1. С. 21—24.
[3] Літопис Руський. С. 370.

кі), упрыгожанні (бранзалеты, спражкі), прадметы ўзбраення і прыналежнасці конніка (наканечнікі стрэл, шпоры).

У в. Збочна Слонімскага раёна размешчана гарадзішча, якое з трох бакоў акружана балотам. Яно мае дзве пляцоўкі, два валы. Схілы валоў пакрыты камянямі. Пры археалагічных раскопках знайдзены кавалкі гліняных пасудзін XII—XIII стст.

Гарадзішча ў в. Гарадок Маладзечанскага раёна адносіцца да тыпу ўмацаванняў, якія былі ўзведзены незалежна ад рэльефу мясцовасці, узніклі не стыхійна, а паводле задумы будаўнікоў. Яно, як і Мсцібаўскае гарадзішча, размешчана ў нізіннай забалочанай мясцовасці. Вакол пляцоўкі маецца запоўнены вадой шырокі роў, а за ім — магутны вал з крутымі схіламі. З унутранага боку да вала прымыкае тэраса шырынёй 7—10 м. Пры раскопках знойдзены матэрыялы XII—XVII стст. Гарадоцкае гарадзішча, відавочна, перабудоўвалася ў больш позні час. Узведзена яно было на месцы пасёлка ранняга жалезнага веку культуры штрыхаванай керамікі. Даследчыкі схільны атаясамліваць гарадзішча ў Гарадку з летапісным Гарадцом, у якім у сярэдзіне XII ст. княжыў Валадар Глебавіч. Аднак гэта меркаванне пакуль што не атрымала дастатковага аргументаванага пацвярджэння.

У Верхнім Панямонні выяўлена звыш 60 адкрытых неўмацаваных паселішчаў. Яны знаходзяцца па абодвух берагах рэк Нёмана, Шчары, Молчадзі, Росі, Дзітвы звычайна на надпоймавых тэрасах. Некаторыя селішчы займаюць вялікую плошчу. Селішча ў Дакудаве распасціраецца па беразе Нёмана на 1,5 км, іншыя паселішчы цягнуцца па беразе ракі на 200—300 м. Культурныя напластаванні селішча ў Гарадзілаўцы выяўлены на плошчы 130 x 125 м. У шэрагу выпадкаў селішчы размешчаны блізка адно ад аднаго[1].

Пры раскопках выяўлены прыкметы паглыбленых у зямлю і наземных жылых збудаванняў, шматлікія гаспадарчыя ямы. Знойдзены прылады працы: лыжкарэз, нож, ключ, фрагменты шкляных бранзалетаў, вырабы з бронзы, кавалкі ляпнога і ганчарнага посуду, упрыгожанага лінейным, хвалістым арнаментам. За 500 м ад селішча знаходзіцца курганны могільнік, у якім было 10 курганоў вышынёй да 2 м. Пахавальны абрад — крэмацыя памёршага. У другім могільніку налічвалася 40 курганоў вышынёй 1—1,5 м з трупапалажэннямі. Курганы сведчаць аб язычніцкіх вераваннях насельніцтва ў X—XIII стст. У адным кургане выяўлена нарманскае пахаванне[2].

**Суседскія балцкія этнічныя супольнасці.** У Прыбалтыцы ў пачатку 2-га тысячагоддзя на базе старажытных балцкіх плямён пачалі складвацца народнасці: літоўцы, латышы, яцвягі (ятвягі), прусы. Балты па мове падзяляліся на заходніх (прусы, яцвягі) і ўсходніх (літоўцы, латышы, куршы і інш.). Літоўская галіна балтаў займала асноўную тэрыторыю сучаснай Літвы і, магчыма, некаторыя суседнія мясцовасці ў вярхоўі р. Віліі. У другой палове 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н.э. гэта галіна балтаў падзялялася на племянныя групы, якія атаясамліваюцца, паводле пісьмовых крыніц, з жамайтамі, аўкштайтамі і ўласна літвой. У сярэднявечны перыяд аўкштайты склалі ядро старажытналітоўскай народнасці. У далейшым яны разам з жамайтамі (жмуддзю) і іншымі балцкімі групамі кансалідаваліся ў адзіны літоўскі этнас[3].

Выказваюцца думкі, што племянны саюз яцвягаў складаўся з чатырох плямён: судзінаў, дайновы, паляксянаў і ўласна яцвягаў. Мова яцвягаў, як мяркуюць лінгвісты, была пераходнай паміж балцкімі і славянскімі мовамі. Яцвягі ўпершыню прыгадваюцца ў летапісах пад 983 г., калі яны былі часова

---

[1]*Гуревич Ф.Д.* Древности Белорусского Понеманья. М.;Л., 1962. С. 87.
[2]*Штыхаў Г.В.* Крывічы. С. 76.
[3]*Куликаускене Р.К.* Образование литовской народности // Проблемы этнической истории балтов: Тезисы докладов. Рига, 1977. С. 61—65.

пераможаны войскам кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. З яцвягамі барацьба паўднёварускіх князёў працягвалася ў XI і XII стст. На яцвягаў у 1038 г. хадзіў Яраслаў Мудры, затым валынскі князь Яраслаў Святаславіч (1112), князь Раман Мсціславіч (1196). Яцвягі разам з літоўцамі ў 1205 г. зрабілі набег на Валынскую зямлю і нават дайшлі да гарадоў Турыйска і Чэрвеня. Летапіс называе шэраг імёнаў яцвяжскіх князёў: Скамонд, Мінтэля Шурпа, Стэгут, Мудыйка, Комат, Юндыл, характэрных для заходнябалцкіх моўных груп. Барацьба з яцвягамі дасягнула асаблівага напружання ў часы княжання ў Галіцка-Валынскай зямлі Данілы Раманавіча[1].

Паўстае пытанне: адкуль яцвягі рабілі набегі на заселеныя славянамі землі? Іпацьеўскі летапіс прыблізна ўказвае на заселенасць яцвягамі міжрэчча Нёмана і р. Нараў. Паводле назіранняў польскай даследчыцы К.Мусяновіч, яцвягі сяліліся на поўнач ад р. Нараў. Другі польскі вучоны А.Камінскі лічыць, што яцвягі знаходзіліся яшчэ далей на поўнач за р. Бебжа (Сувалкаўскае ваяводства Польскай рэспублікі).

У другой палове XIII ст. на яцвягаў узмацніўся націск з боку тэўтонаў. Пісьмовыя крыніцы адзначаюць адвагу правадыроў яцвягаў, мужнасць і гордасць воінаў, якія не здаваліся ў палон, гінулі разам з жонкамі. Пасля працяглай кровапралітнай барацьбы яцвягі і суседнія роднасныя ім прусы былі канчаткова заваяваны крыжакамі (1283). Нейкая іх колькасць паспела перасяліцца ў Літву, Польшчу, Беларусь. У Іпацьеўскім летапісе паведамляецца аб пасяленні прусаў літоўскім князем Трайдзенем у наваколлі Гродна і Слоніма. Мабыць, таму ў заходніх раёнах Беларусі з'явіліся населеныя пункты з назвамі Ятвязь, Ядзьвінкі, Прусы, Прусікі. Прыкметы знаходжання дайновы прасочваюцца ў тапонімах Дзейнова, Дайнава, Дайноўка, якія лакалізаваны ў раёнах Валожына, Івянца, Гродна, Слоніма[2].

Даследчыкі адзначаюць цесную роднасць яцвягаў і прусаў, а таксама тое, што ў сярэдневечных крыніцах нярэдка дубліруюцца найменні "яцвягі" і "прусы". На працягу ўсяго перыяду агрэсіі крыжакоў супраць Прусіі этнічная Ятвязь у саюзе з іншымі балтамі падтрымлівала прусаў. Самая характэрная рыса, якая аб'ядноўвала прусаў і яцвягаў, — іх адносіны да веры, законаў продкаў, што яны ставілі вышэй за ўсё ў жыцці[3]. Пытанне аб яцвягах і прусах на тэрыторыі Беларусі ў сярэднія вякі патрабуе далейшых усебаковых даследаванняў.

## 7. Дзяржаўны лад у землях-княствах

**Дзяржаўны лад у Полацкім княстве.** Этнічная супольнасць крывічоў-палачан стварыла тэрытарыяльную аснову дзяржавы — Полацкай зямлі і вызначыла сабой яе характар. Гістарычна першае дзяржаўнае ўтварэнне крывічоў-палачан уяўляла племяннoе "княжанне", у якім насельніцтва было звязана ўжо не кроўнароднаснымі, а суседскімі тэрытарыяльнымі адносінамі, што склаліся ў час рассялення славян сярод балтаў. Змешванне балтаў і славян у межах полацкага княжання садзейнічала іх зліццю.

Дзяржаўнасць аказвала ўплыў на развіццё агульнасці (супольнасці) людзей. У перыяд ранняга сярэднявечча дзяржава аб'ядноўвала прымусовымі вузамі адасобленыя племянныя супольнасці і садзейнічала іх змешванню і асіміляцыі. У сярэднявеччы ў выніку асіміляцыі розных этнічных утварэнняў фарміраваліся народнасці.

---

[1] *Штыхаў Г.В.* Насельніцтва зямель Беларусі ў IX—XIII стст. // З глыбі вякоў. Наш край. Гісторыка-культуралагічны зборнік. Мн., 1992. С. 28.

[2] Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 165.

[3] *Витязь С.П.* К проблеме древних прусов в этнической истории Беларуси // Наш радавод. 1996. № 7. С. 163—166.

Дзяржава — гэта разгалінаваная сістэма палітычнай улады, якая ажыццяўляецца ў краіне. Яна аб'ядноўвае ўсё насельніцтва ў адно тэрытарыяльнае цэлае. Але адносна адзіная ў XI ст. раннесярэднявечная дзяржава — Полацкае княства-зямля ў XII ст. распалася на асобныя княствы-воласці, якія аб'ядноўваліся ў межах Полацкай зямлі толькі слабым сюзерэнітэтам полацкага князя[1].

Полацк і яго воласць, названыя ў летапісе па Іпацьеўскім спісе пад 862 г., знаходзяцца каля вытокаў дзяржаўнасці на беларускіх землях. "Грады", сярод якіх названы Полацк у сувязі з падзеямі, што адбываліся ў IX ст., мелі не толькі ўмацаванні, за якімі хавалася насельніцтва ў час варожых нападаў, але былі цэнтрамі, дзе канцэнтравалася ўлада. У такіх пунктах ствараліся ўмовы для канцэнтрацыі таго прыбавачнага прадукту, барацьба за размеркаванне якога праходзіць праз усю гісторыю грамадства.

Напрадвесні сваёй гісторыі найбольш старажытныя гарады ўсходніх славян былі важнымі адміністрацыйна-фіскальнымі і ваеннымі цэнтрамі. Гарады і дзяржаўнасць ва ўсходніх славян узнікалі і развіваліся аднначасова і ва ўзаемнай сувязі. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца Полацк.

Менавіта ў такіх цэнтрах назапашваўся і затым пераразмяркоўваўся прыбавачны прадукт у выглядзе даніны, ваеннай здабычы, паступленняў ад суда, міжнароднага гандлю і інш.

Важная роля ў арганізацыі ўлады ў раннесярэднявечным горадзе і яго воласці належала князю. Князь у Полацкай зямлі быў неабходным прадстаўніком яе сацыяльна-палітычнай арганізацыі. Адсутнасць князя парушала нармальнае жыццё княства, рабіла яго небяспечным перад знешнім светам.

Першым гістарычна вядомым князем у Полацкай зямлі быў Рагвалод. Ён з'яўляўся зусім незалежным валадаром, што яскрава падкрэсліў летапісец. Праз працяглы час пасля забойства Рагвалода наўгародскім князем Уладзімірам Святаславічам у Полацку стаў княжыць унук Рагвалода Ізяслаў, бо ён як сын Рагнеды меў права на яе бацькаўшчыну, названую ў летапісе яе "отчиной" ("Воздвигни отчину ея, и дай ей с сыном своим"). У далейшым полацкія князі лічылі самі сябе Рагвалодавымі ўнукамі па жаночай лініі і бацькаўшчыну сваю вялі не ад падаравання Уладзіміра, тады ўжо кіеўскага князя, а па лініі спадчыны ад Рагвалода. Так была ўзноўлена мясцовая дынастыя полацкіх князёў Рагвалодавічаў. Полацкае княства існавала як самастойная дзяржава, у якой асноўным насельніцтвам была этнічная супольнасць крывічоў-палачан.

Знаходжанне Полацка ў складзе старажытнарускай дзяржавы было часовым, вельмі непрацяглым. Ды і сама Кіеўская Русь ніколі не была маналітнай дзяржавай. Шмат хто з гісторыкаў лічыць, што аб'яднанне асобных зямель у гэтай дзяржаве не мела пад сабой трывалых эканамічных падстаў і ўяўляла механічнае аб'яднанне тэрыторый пад уладай адной палітычнай сілы. Таму ў ёй акрэслілася тэндэнцыя да распаду ўжо ў другой палове XI ст. Вядома таксама слушнае параўнанне імперыі Рурыкавічаў з імперыяй Карла Вялікага, якая была кангламератам розных плямён і народаў, штучным і таму нетрывалым ваенна-адміністрацыйным аб'яднаннем, у якім адсутнічала агульная эканамічная база.

Пасля 1036 г., калі памёр чарнігаўскі і тмутараканскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч, уладу на землях усходніх славян захоўвалі толькі дзве княжацкія галіны: сын Уладзіміра — Яраслаў Мудры ў Кіеве і праўнук Рагвалода — Брачыслаў Ізяславіч у Полацку. У Ноўгарадзе сваёй княжацкай дынастыі не было ніколі. У той час, калі ўсе землі на тэрыторыі старажытнарускай дзяржавы пераходзілі да нашчадкаў Яраслава Мудрага, Полацк устойліва

[1] *Штыхаў Г.* Вытокі беларускай дзяржаўнасці // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1. С. 25—33.



Полацк у XII ст. На пярэднім плане пабудовы Бельчыцкага манастыра

знаходзіўся ў руках прадстаўнікоў мясцовага княжацкага роду. У XI ст. Полацкае княства дасягнула найбольшай магутнасці.

Княжацкі стол у Полацку, а значыць, дзяржаўная ўлада ў Полацкім княстве на працягу XI ст. пераходзілі да старэйшых у родзе сыноў памёршага князя. Саперніцтва паміж імі не існавала, бо нашчадкі ў полацкіх князёў тады былі адзінкавыя. Пасля Ізяслава полацкі стол заняў яго старэйшы сын Усяслаў Ізяславіч. Паколькі апошні памёр у маладым узросце без дзяцей, дык яму наследаваў брат Брачыслаў Ізяславіч (1003—1044)[1]. Пасля Брачыслава доўгі час княжыў адзіны яго сын Усяслаў. Пасля смерці Усяслава Чарадзея (1101) наступіў перыяд феадальнай раздробленасці. У першай палове XII ст. на тэрыторыі Полацкай зямлі ўжо існавалі як самастойныя Менскае, Ізяслаўскае княствы. Працэс драблення працягваўся і ўзнікаюць Друцкае, Віцебскае, Лагойскае і іншыя княствы. Прынцып размеркавання ўладанняў паміж князямі павінен быў змяніцца. У полацкай дынастыі князёў з'явілася некалькі ўплывовых княжацкіх сем'яў. Старэйшы прадстаўнік кожнай сям'і звычайна займаў галоўны цэнтр сваёй вотчыны. Малодшыя яго браты і дарослыя сыны атрымлівалі часовыя ўдзелы. Той горад, у якім скончыў сваё жыццё князь, лічыўся вотчынай яго сыноў. Іх удзелы вылучаліся ўжо толькі з тых гарадоў і валасцей, што ўваходзілі ў апошні ўдзел іх бацькі[2]. Полацк працягваў лічыцца галоўным ("старшым") горадам сярод іншых гарадоў паўночнай часткі Беларусі. Ён стаў аб'ектам жорсткай барацьбы паміж уладальнікамі трох удзелаў. Права на по-

[1] *Загорульский Э.М.* Генеология полоцких князей Изяславичей. Мн., 1994. С. 5.

[2] *Насевіч В.Л.* Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў XII—XVIII стагоддзяў. Мн., 1993. С. 6.

лацкі стол аспрэчвалі Рагвалод, князь друцкі, і Расціслаў, князь менскі, нарэшце ў Полацку замацаваўся сын князя віцебскага Васіля Усяслаў.

Што ж уяўляла сабой княжацкая ўлада, якія былі яе прэрагатывы ў Полацкай зямлі? Першым і важнейшым абавязкам князя былі арганізацыя войска і камандаванне ім. Гэты абавязак браў пачатак яшчэ з часоў ваеннай дэмакратыі. Князь павінен быў клапаціцца пра бяспеку і абарону Полацкай зямлі ад нападкаў знешняга ворага. Ён кіраваў знешняй палітыкай, зносінамі з іншымі князямі і дзяржавамі, мог аб'явіць вайну і заключыць мір. Другім абавязкам князя быў збор даніны і іншых пабораў з насельніцтва для ўтрымання ваеннай дружыннай арганізацыі і іншых дзяржаўных патрэб. Паводле паведамлення "Хронікі Лівоніі", лівы і латгалы плацілі даніну полацкаму князю і пастаўлялі дапаможнае войска[1].

Апорай княжацкай улады была дружына. Дружыннікі акружалі князёў, падзялялі ўсе іх інтарэсы. З імі князь раіўся па пытаннях арганізацыі паходаў, а таксама суда і адміністрацыйнага кіравання Полацкай дзяржавай. Дружына служыла князю і была яму асабіста адданая, знаходзілася пры князю на яго ўтрыманні. Калі князь пакідаў стол у адным горадзе і пераходзіў у іншы горад, дружына ішла ўслед за ім, што неаднаразова назіралася ў Полацкай зямлі. Дружыны князёў складваліся з груп узброеных людзей. На першым месцы была "старэйшая" дружына. Гэта — "баляры", "сільныя мужы", названыя нават у "Жыціі..." Ефрасінні Полацкай. Малодшая дружына — "дзецкія" — жыла пры двары князя. З яе выходзілі слугі князя, яго целаахоўнікі, малодшыя службовыя асобы. "Дзецкі" папярэдзіў полацкага князя ў 1158 г. аб падрыхтоўцы на яго замаху ("не езди княже вече ти") і параіў князю вярнуцца з паўдарогі ад Полацка назад у Бельчыцу, дзе размяшчаўся ўмацаваны княжацкі двор. Сярод дружыннікаў былі тыя, хто называўся "мужамі". Яны складалі асноўную колькасць княжацкіх дружыннікаў. Не выпадкова ў матэрыяльнай культуры Полацка і іншых гарадоў значнае месца займае зброя. Акрамя дружыны войска князя магло ўключаць наёмнікаў, якімі ў X—XI стст. былі атрады варагаў. Важнай часткай ваенных сіл горада было народнае апалчэнне, якое складалася з гараджан і называлася "полк". Полацкія князі ў XII — пачатку XIII ст. выкарыстоўвалі таксама дапаможныя атрады з неславянскага насельніцтва Усходняй Прыбалтыкі.

У распараджэнні князя знаходзілася ўпраўленне княствам. Ён назначаў цівуноў, мытнікаў, ключнікаў. З імем цівуноў звязаны паняцці аб судзе і няпраўдзе ("Тиунь неправду судит..."). Цівуны таксама выконвалі функцыі ў галіне фінансавай адміністрацыі, прызначаліся на волакі, дзе перавозіліся тавары з адной рэчкі на другую, што бачна з дагавору Смаленска, Полацка, Віцебска (1229) з Рыгай і Гоцкім берагам. У грамаце друцкага князя Васіля Міхайлавіча XIV ст. царкве Багародзіцы, пабудаванай у 1001 г., названы ключнік. Яму ішоў даход з мядовай даніны, якая затым была перададзена панамару[2]. Выконванне пэўных абавязкаў князь мог даручыць асобным прадстаўнікам сваёй дружыны. У крыніцы канца XIII ст. названы "дзецкі" ў Віцебску ў якасці адказнай асобы.

У Полацкай зямлі на працягу XII—XIII стст. дзейнічалі дзве галіны ўлады — улада князя і ўлада веча — сход палачан для вырашэння грамадскіх спраў. У асобныя перыяды гісторыі Полацка ўлада веча была вельмі значнай. На вечы ажыццяўляўся вышэйшы суд, кантралявалася дзейнасць князя, вырашаліся пытанні вайны і міру. Ад імя полацкага веча заключаліся дагаворы з Рыгай і іншымі гарадамі. Калі веча не падтрымлівала князя, ён вымушаны быў пакінуць горад, таму што веча мела сваю ўзброеную сілу —

[1]*Генрих Латвийский.* Хроника Ливонии. С. 248—249.
[2]Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі. Мн., 1998. С. 112.

апалчэнне гараджан. Групоўкі полацкага патрыцыяту, асабліва баярства, выкарыстоўваючы вечавыя сходы, мелі магчымасць выганяць непажаданых ім князёў. Веча істотна абмяжоўвала княжацкую ўладу. На месца выгнанага князя яно выбірала іншага прадстаўніка княжацкай дынастыі[1].

Выбранне князя патрабавала выканання пэўнай працэдуры (рытуала). Істотным яе элементам з'яўляўся дагавор, які змацоўваўся прысягай з двух бакоў — крыжацалаваннем. Пра змест дагавораў можна толькі меркаваць. Так, у 1158 г. палачане гавораць Рагвалоду: "Калі ты забудзеш на ўсё тое, што мы табе зрабілі (дрэннага) ... і крыж нам пацалуеш, то мы твае, а ты ёсць наш князь. Расціслава ж, схапіўшы, аддамо табе ў рукі, і што ты захочаш, тое і зробіш з ім. І Рагвалод прысягнуў (палачанам) на крыжы". Як бачна, князь павінен прымаць умовы дагавору, які выпрацоўваўся палачанамі. Выключнай асаблівасцю ажыццяўлення прынцыпу выбарнасці князя ў Полацку было тое, што гэты выбар быў абмежаваны вузкім колам прадстаўнікоў мясцовай полацкай княжацкай дынастыі — непасрэдных нашчадкаў Усяслава Брачыславіча. Чужародны князь не мог разлічваць на тое, каб утрымацца на полацкім стале, бо звычайна такі князь больш дбаў пра сваю дружыну, чым пра інтарэсы гараджан. На вечавых сходах адбывалася барацьба паміж групоўкамі, якія выступалі супраць князя ці, наадварот, падтрымлівалі яго. Гэта не паўстанні, а хваляванні, што былі выкліканы парушэннямі дагавору з боку князя, які ён заключаў з палачанамі. Веча магло прагнаць князя, які нечым правінаваціўся, напрыклад прыняў удзел у вайне, якую не здолеў выйграць, як гэта здарылася з полацкім князем Давыдам у 1127 г.

Полацкае веча вырашала пытанні вайны і міру і, здаралася, само практычна заключала яго. Паводле паведамлення Лаўрэнцьеўскага летапісу пад 1186 г., калі Давыд Расціславіч са Смаленска, а яго сын Мсціслаў з Ноўгарада ўварваліся з войскам у межы Полацкай зямлі, палачане абмеркавалі становішча на вечы. У выніку перагавораў, якія вялі прадстаўнікі веча "на сумежжы", пытанне было вырашана[2]. Веча кантралявала дзейнасць князя і здзяйсняла вышэйшы суд. Полацкі князь Рагвалод Барысавіч, пасля таго як пацярпеў паражэнне ў сутыкненні з войскам менскага князя Валадара Глебавіча ў 1161 г., не рызыкнуў вярнуцца ў Полацк, бо, верагодна, баяўся адказнасці перад вечам за гібель многіх палачан.

Істотныя змены ў становішчы княжацкай улады ў сувязі з актыўнай дзейнасцю веча мела вынікам змяненне месцазнаходжання князя. У сярэдзіне XII ст. рэзідэнцыя полацкіх князёў знаходзілася не ў дзядзінцы на Верхнім замку, а ў Бельчыцы — за 2 км ад горада. Верхні замак знаходзіўся ў распараджэнні епіскапа.

Епіскап у Полацку займаў вельмі высокае грамадскае палажэнне. У перыяд раздробленасці ён быў адзіным старэйшым прадстаўніком усёй Полацкай зямлі, бо князёў было шмат па розных полацкіх удзелах. Ад яго імя пісаліся дагаворы, якія заключаліся полацкім вечам, да іх прымацоўвалася яго пячатка. Прыкладам можа служыць грамата полацкага біскупа Якава ў Рыгу (каля 1300 г.)[3]. Словы гэтага дакумента "своими детми исправу дамь" пацвярджаюць важную ролю біскупа ў судзе. Полацкія біскупы адносіліся разам з князямі да вузкага кола асоб, што мелі віслыя пячаткі, якія прымацоўваліся да дакументаў.

У Полацку існавала купецкае аб'яднанне. Пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца паведамленне Іпацьеўскага летапісу пад 1159 г. аб "братчыне" ў Полацку. Братчына збіралася пры патранальнай старой Багародзіцкай цар-

[1]*Штыхов Г.В.* Древний Полоцк IX–XIII вв. С. 17.
[2]ПСРЛ. Т. 1. С. 403.
[3]Полоцкие грамоты XIII – начала XVI в. Вып. I. М., 1977. С. 37.

кве на Пятроў дзень — адно з буйных свят. На братчыне было частаванне, але гэта незвычайнае баляванне. На братчыне прысутнічалі ўплывовыя прадстаўнікі горада, з якімі князь мог весці перагаворы. Існаванне купецкіх аб'яднанняў сведчыць аб павелічэнні гарадскога гандлёва-рамесніцкага насельніцтва ў палітычным жыцці горада.

Наяўнасць у Полацку свабодных рамеснікаў у XII ст. пацвярджаюць даныя археалагічных раскопак, праведзеных на Вялікім пасадзе ў 1987—1988 гг. Незвычайная па памерах сядзіба XII — пачатку XIII ст. належала майстрам-ювелірам. На даследаванай вялікай сядзібе жылі і працавалі свабодныя гараджане, тыя, што называліся "вольныя мужы", якія прымалі актыўны ўдзел у вечавых сходах, дзе віравала жыццё буйнога сярэднявечнага горада[1].

На пасадзе ўсходнеславянскіх гарадоў існавала свая арганізацыя, якая нагадвала тэрытарыяльную абшчыну, але ў адрозненне ад сельскай гэта была гарадская абшчына, у якую ўваходзілі дзесятнікі, сотнікі, суд і іншыя элементы самакіравання. Магчыма, у гарадской абшчыне ў нейкай ступені рэгуляваліся пытанні рамеснай вытворчасці[2]. Пасады-абшчыны забудоўваліся галоўным чынам сядзібамі дробных вытворцаў. У выніку развіцця сацыяльнай дыферэнцыяцыі на пасадах з'явіліся сядзібы багатых людзей: прафесійных гандляроў, рамеснікаў, буйных землеўладальнікаў[3]. Такой сядзібай была вышэй названая сядзіба, раскапаная на Вялікім пасадзе ў Полацку.

З. Капыскі звярнуў увагу на асобныя месцы "Хронікі літоўскай і жамойцкай", створанай у XVI ст., і выявіў даныя аб грамадска-палітычным ладзе Полацка ў XII—XIII стст. У аповесці "Княжение Бориса в Полоцку, благочестивого князя" гаворыцца: "... полочаги... почали собѣ волно жити, а пана над собою не мѣли". Асаблівую цікавасць выклікае аповесць "О Полоцкой свободности, або Венеции", урывак з якой прыводзіцца ў перакладзе на сучасную беларускую мову: "Потым таксама (Мікгайла — асоба міфічная) суседнічаў і межаваў з палачанамі, якія ў той час самі гаспадарылі і ніякай вышэйшай улады над сабой не мелі, толькі 30 мужоў (старцаў) з асяроддзя іх грамадства на бягучыя справы назначаліся суддзі і сенатары, а часцей па сігналу вялікага звону, які пасярод горада вісеў, дзе ўсе збіраліся, там і аб справах сваіх, і аб патрэбах рэспублікі, і аб падуладных сваіх гаварылі, бо трымалі ў той час зямлю Рускую мяшчане (гараджане) самі полацкія і на некалькі дзесяткаў міль упраўляліся. У такой жа на той час вольнасці жылі пскавяне і наўгародцы вялікія, якія атрымалі яе з-за непаладак і нязгод, унутраных войнаў, забойстваў рускіх княжат, калі адзін другога з княстваў выганялі і забівалі... Гарады багацейшыя рускія — Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Полацк — без княжат пачалі вольна самі жыць і занялі княствы сваіх князёў..."[4]

З. Капыскі прыйшоў да высновы, што веча ў Полацку выбірала выканаўчы орган з 30 мужоў, старцаў. Гэты орган павінен быў весці бягучыя справы і выконваць судзебныя функцыі. Выканаўчы орган улады кіраваў не толькі ўнутранымі, але і знешнімі справамі Полацка[5].

Полацкая зямля была суб'ектам міжнародных адносін, самастойна заключала дагаворы з замежнымі дзяржавамі[6]. Расійскі гісторык А. Рукавішнікаў на аснове разгледжаных матэрыялаў прыйшоў да высновы, што ў пер-

---

[1]*Тарасаў С.В.* Новае ў археалогіі Полацка // Полоцкий летописец. Историко-литературный журнал. 1992. № 1. С. 11.

[2]*Штыхов Г.В.* Киев и города Полоцкой земли // Киев и западные земли Руси в IX—XIII вв. Мн., 1982. С 67.

[3]*Тимощук Б.А.* Восточные славяне: от общины к городам. М., 1995. С. 106, 110—116, 122.

[4]ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 20, 22.

[5]*Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1975. С. 74, 75.

[6]Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. М., 1977. С. 35—41.

шай палове XIII ст. Полацк "з'яўляўся самакіруючай рэспублікай з яскрава выражанымі рысамі арыстакратычнага кіравання"[1].

Аднак да 1216 г. у Полацку княжыў Уладзімір, які ў "Хроніцы Лівоніі" Генрыха Латвійскага названы "каралём полацкім" і паказаны як сюзерэн краіны. Полацкія князі былі не толькі дэ-факта даўнімі валадарамі ліваў у Прыбалтыцы. Гэта юрыдычна прызнавалі нават праціўнікі і сапернікі палачан у тыя часы — тэўтоны. У 1239 г. полацкі князь Брачыслаў — прадстаўнік полацкай княжацкай дынастыі Рагвалодавічаў — аддае сваю дачку замуж за князя наўгародскага Аляксандра Яраславіча (будучага Неўскага). У другой палове XIV ст. полацкім князем быў Андрэй, сын Альгерда і першай яго жонкі віцебскай князёўны Марыі. Гэта сведчыць аб тым, што княжацкая ўлада існавала ў Полацку доўгі час пасля XII ст.

Такім чынам, Полацкую зямлю ў XII—XIII стст. можна лічыць княствам з абмежаванай княжацкай уладай, якое было на шляху да ператварэння ў сярэднявечную рэспубліку, а потым карысталася значнай аўтаноміяй у складзе Вялікага княства Літоўскага[2].

**Асаблівасці дзяржаўнасці Тураўскай зямлі.** У сярэднявечны грамадства асэнсоўвала гісторыю і дзяржаўнасць генеалагічна, г. зн. як гісторыю княжацкага роду, што добра прасочваецца на прыкладзе Тураўскай зямлі. Тураўскае княства склалася на аснове "княжання" дрыгавічоў у паўднёвай частцы Беларусі, як гаварылася вышэй. У летапісе пад 980 г. паведамляецца, што калі Рагвалод прыйшоў з-за мора (Скандынавіі) і быў у Полацку зусім незалежным правіцелем, у гэты час Тур княжыў у Тураве. На тэрыторыі Беларусі ў другой палове X ст. існавалі адначасова дзве незалежныя дзяржавы з цэнтрамі ў Полацку і Тураве. Тураўскае княства заставалася такім і пры Святаполку Акаянным у 988—1015 гг. Святаполк абапіраўся на падтрымку свайго цесця — польскага караля князя Баляслава і вёў у Тураве незалежную палітыку.

Пазней, з сярэдзіны XI ст., Тураўскае княства таксама мела сваіх князёў. Двое з іх пераходзілі на кіеўскі трон. Затым Тураў трапіў у поўную залежнасць ад Кіева. Пры гэтым Тураўскае княства працягвала заставацца цэлай, непадзельнай тэрыторыяй[3].

У 1157 г. князь Юрый Яраславіч дамогся незалежнасці Турава і аднавіў на тураўскім троне мясцовую дынастыю, прадстаўніком якой ён сам з'яўляўся. Тураў зноў стаў самастойным княствам, незалежным ад кіеўскіх князёў, што было істотнай з'явай у гісторыі Беларусі.

Па якім прынцыпе перадаваўся княжацкі стол у Тураве?

Нагадаем, як было ў Кіеве. Тут спачатку стол перадаваўся па старшынству ("па старэйшынству") у родзе і стол атрымлівалі не старэйшыя сыны, а старэйшыя браты памёршага князя па формуле "во отца место". Пазней, калі князі ўжо ўмацаваліся кожны ў сваёй воласці, гэты прынцып старэйшынства пачаў замяняцца прынцыпам "вотчыны" і княжацкія сталы сталі пераходзіць да старэйшых сыноў князя. Аднак у XI—XII стст. адбывалася барацьба двух прынцыпаў і толькі ў XIII ст. вызначылася больш-менш канчатковая перамога прынцыпу "вотчыны".

Тураўскія князі паводле родных сувязяў мелі права перайсці на велікакняжацкі трон у Кіеве, калі для гэтага надыходзіла іх чарга як прадстаўнікоў княжацкага роду Рурыкавічаў. Адначасова Тураўскае княства працягвала падпарадкоўвацца "свайму" князю, які станавіўся вялікім князем кіеўскім. У Тураў назначаўся кіравацць княжацкі намеснік — "пасаднік".

---

[1]*Рукавишников А.В.* Об организации власти в Полоцке в конце XII — середине XIII в. // Вопросы истории. 1999. № 3. С. 119.

[2]Полоцк. Исторический очерк. Мн., 1987. С. 24—32.

[3]*Лысенко П.Ф.* Города Туровской земли. Мн., 1974. С. 21—31; *Лысенко П.Ф.* Туровская земля IX—XIII вв. Мн., 1999. С. 13—19.

Пасаднік працягваў дзейнічаць, калі князь зноў вяртаўся ў Тураў, як гэта было з князем Вячаславам і пасаднікам Жыраславам Іванкавічам. Знаходжанне ў горадзе адначасова князя і пасадніка — з'ява незвычайная для іншых гарадоў, акрамя Ноўгарада на Волхаве, які ў той час уяўляў сабой сярэднявечную рэспубліку.

Тэрмін "пасаднік" звязаны са словам "пасадзіць", што азначае: назначыць, выбраць, паставіць. У XI ст. з Кіева ў Ноўгарад вялікім князем назначаліся пасаднікі для кіравання горадам. Пазней у Ноўгарадзе фарміруецца пасадніцтва новага тыпу, калі пасаднікі здзяйснялі кіраванне органамі рэспубліканскай улады. Наўгародскі пасаднік стаў выбірацца на вечы з ліку баяр. Ён кантраляваў і накіроўваў дзейнасць князя, які быў побач у гэтым горадзе.

Пра выбарную пасаду пасадніка ў Тураве звестак няма. Магчыма, пасаднік тут знаходзіўся ў падпарадкаванні князя. Аб існаванні пасадніка ў Полацку звесткі наогул адсутнічаюць.

У Тураве склалася свая сістэма кіравання горадам і валасцю. Тут дзейнічала веча. Паводле паведамлення "Жыцця" Кірыла Тураўскага, ён стаў епіскапам па просьбе князя "и людий того города (Турова)"[1]. З гэтага вынікае, што гараджане ў Тураве мелі права голасу нават тады, калі вырашалася пытанне пра назначэнне епіскапа. Факт цікавы тым, што ў Полацк і іншыя гарады епіскап назначаўся кіеўскім мітрапалітам. Выключэннем з гэтага правіла быў Ноўгарад, там епіскап выбіраўся вечам, а затым яго фармальна пасвячаў мітрапаліт у Кіеве.

У Тураве існавала пасада тысяцкага. Тысяцкі ўзначальваў гарадское апалчэнне. Сярод тураўскіх воінаў у крыніцах названы маладыя дружыннікі — "отракі". Тураўскі тысяцкі Іванка ўдзельнічаў у паходзе 1127 г. на Полацкую зямлю, які арганізаваў кіеўскі князь Мсціслаў.

Тураўскі князь часта са сваёй дружынай знаходзіўся ў Кіеве. У такім выпадку ў Тураве галоўнай ваеннай сілай з'яўлялася апалчэнне на чале з тысяцкім. Звычайна ў такім апалчэнні налічвалася не менш тысячы ўзброеных гараджан.

Такім чынам, грамадскі лад у Тураўскім княстве меў свае асаблівасці. Яны заключаліся ў наяўнасці пасадніка, ролі веча, падпарадкаванні гарадскога ваеннага апалчэння тысяцкаму.

**Арганізацыя ўлады ў Берасці.** З пачатку свайго ўзнікнення Берасце з'яўлялася важным цэнтрам Сярэдняга Пабужжа. Гэта тэрыторыя была аб'яднана вакол свайго галоўнага горада — Берасця (Бярэсця, Брэста).

Берасце карысталася значнай самастойнасцю. Аб самастойных дзеяннях берасцян неаднаразова паведамляецца ў Іпацьеўскім летапісным зводзе. Калі ў 1229 г. пад горадам з'явіўся атрад літоўцаў, берасцяне сумесна з пінскім князем Уладзімірам разбілі яго. У 1280 г. (у летапісе — у 1282 г.) дружыны польскага князя Баляслава занялі побач з Берасцем 10 сёл. Жыхары горада на чале з ваяводам Цітам далі адпор прышэльцам і шмат узялі ў палон.

Звесткі пра існаванне пасады ваяводы ў Берасці надзвычай цікавыя. Інстытут ваяводства ва ўсходніх славян быў выбарны. Звычайна ваяводства "даручалася" блізкім да князя мужам. Аднак даных недастаткова, каб меркаваць аб суадносінах улады ваяводы і князя ў Берасці. Ёсць паведамленні летапісаў, што ў гэтым горадзе ў 1153 г. самастойна княжыў князь Уладзімір Андрэевіч, пазней — Уладзімір Мсціслfavіч. Але ў Берасці не ўтварылася свая дынастыя князёў. Вядома таксама, што горад часамі знаходзіўся пад пратэктаратам больш моцных суседзяў: спачатку Турава, затым Кіева і Уладзіміра-Валынскага. Да Берасця праяўлялі зацікаўленасць польскія князі[2].

[1]Кніга жыцій і хаджэнняў. Мн., 1994. С. 62.
[2]*Лысенко П.Ф.* Берестье. С. 12—23.

У гістарычных, этнічных і фізіка-геаграфічных адносінах Берасцейская зямля складала цэласную тэрыторыю, якая была прыродным працягам у заходнім напрамку турава-пінскага дрыгавіцкага Палесся. На поўначы яна злівалася ў адзіны масіў з Гродзеншчынай. Берасцейская зямля аддзялялася ад Валыні балотамі і лясамі па Верхняй Прыпяці і Мухаўцу. Этнічная мяжа паміж Падляшшам (на тэрыторыі Польшчы) і астатняй часткай Берасцейскай зямлі не існавала на працягу многіх стагоддзяў[1]. Берасцейская зямля мела адносіны да фарміравання беларускай народнасці і дзяржаўнасці ў межах тэрыторыі ўсходніх славян.

Звестак пра Берасце ў летапісах мала і яны надта кароткія. Між тым ёсць падставы сцвярджаць, што Берасце — адзін з сярэднявечных цэнтраў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у якім дзейнасць веча засведчана летапісамі. На гэту акалічнасць гісторыкі звычайна не звяртаюць належнай увагі.

У пачатку XIII ст. памёр вядомы валынскі князь Раман Мсціславіч. Гэта выкарыстаў польскі князь Лешка і пачаў часова распараджацца валынскімі валасцямі. У сувязі з гэтым у летапісе паведамляецца, што "прыехалі берасцяне" да Лешкі і прасілі "на княжанне" дзяцей Рамана. Лешка прымушаны быў выканаць просьбу і адпусціў малалетняга Васілька Раманавіча са словамі: "няхай валодае імі"[2].

Каго ж трэба разумець пад берасцянамі? Хто іх упаўнаважыў прасіць да сябе князем сына Рамана? Спецыялісты па гісторыі Кіеўскай Русі ўстанавілі, што ў падобных выпадках пад словамі "кіяне", "палачане", "чарнігаўцы" і г.д. трэба разумець дзейнасць веча[3]. І сапраўды можна сцвярджаць, што ў горадзе дзейнічала берасцейскае веча, і Лешка вымушаны быў лічыцца з яго сілай. У выніку берасцяне атрымалі таго князя, якога самі пажадалі, іншымі словамі, яны выбралі сабе князя.

Пад 1229 г. у Іпацьеўскім спісе зноў паведамляецца аб самастойных дзеяннях берасцян. Даніла і Васілька Раманавічы пайшлі на дапамогу Конраду ў Польшчу. Берасце выконвала ролю фарпоста ў абароне зямлі ад ваяўнічых яцвягаў. Нечакана пад горадам з'явіўся атрад літоўцаў. Берасцяне сумесна з князем пінскім Уладзімірам разграмілі яго.

Найбольш цікавымі і важнымі з'яўляюцца звесткі Іпацьеўскага спісу пад 1287—1288 гг. Татарскі хан Целябуга паслаў зваць для ўдзелу ў паходзе на палякаў усіх князёў валынскіх і задняпроўскіх. Пасля 10 дзён знаходжання ў Польшчы Целябуга з татарамі з'явіўся на Валыні. Валынскі князь Уладзімір, сын Васілька Раманавіча, цяжка захварэў. Ён завяшчаў пасля смерці сваю зямлю і гарады брату Мсціславу. Другі дваюрадны брат Уладзіміра Леў меў ужо тры княствы: Галіцкае, Перамышльскае і Бельзскае. У Льва быў сын Юрый, якому бацька раней аддаў Бельз, Чэрвень і Холм, а затым адабраў у яго гэтыя гарады і даў яму Драгічын і Мельнік. Пакрыўджаны Юрый звярнуўся да хворага дзядзькі Уладзіміра з просьбай даць яму Берасце, але атрымаў рашучую адмову. Берасця дамагаўся таксама бацька Юрыя князь Леў, аднак і яму не ўдалося выпрасіць горад у князя Уладзіміра.

Тады Юрый вырашыў дзейнічаць па-іншаму. Ён пачаў весці тайныя перагаворы з берасцянамі. Яны, па словах летапісца, яшчэ ў час хваробы Уладзіміра "ўчынілі крамолу" і пакляліся прызнаць сваім князем Юрыя. Як толькі памрэ Уладзімір, "мы твае і горад твой, а ты наш князь", — такім было абяцанне берасцян. Звяртае на сябе ўвагу не толькі сам выпадак, але і формула, у якой абвешчаны "рад" (дагавор). Менавіта так гаворыцца ў летапісах аб выбары кня-

[1]*Гринблат М.Я.* Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 78—79.
[2]ПСРЛ. Т. 2. С. 720, 721.
[3]*Тихомиров М.Н.* Древнерусские города. М., 1956. С. 211.

зёў вечам у Ноўгарадзе, Полацку і іншых вечавых гарадах. Не можа быць сумнення ў тым, што тут размова ідзе аб прадстаўніках берасцейскага веча.

Адразу пасля смерці дзядзькі дружына Юрыя з'явілася ў Берасці, Камянцы і Бельску. Сам Юрый "прыехаў у Берасце і пачаў княжыць там па савету бяздумных сваіх баяр маладых і крамольнікаў берасцян", — паведамляе летапісец. Князь Мсціслаў Васількавіч падумаў, што Юрый з'явіўся ў Берасці па загадзе свайго бацькі Льва і звярнуўся да апошняга з пагрозай, што калі гэта сапраўды так, дык ён пакліча татараў, каб пакараць свавольнікаў. Спалоханы Леў паабяцаў Мсціславу ўздзейнічаць на сына, каб той выехаў з Берасця. Леў паслаў ганца сказаць Юрыю: "Выходзь вон з горада, не губі зямлі, брат паслаў за татарамі; калі ж не пойдзеш, дык я сам буду дапамагаць брату і пазбаўляю цябе спадчыны". Юрыю нічога не заставалася рабіць, як пакінуць Берасце. Ён узяў з сабой галоўных "крамольнікаў", якіх пакляўся не выдаваць дзядзьку[1].

Каб лепш зразумець сутнасць гэтых падзей, трэба прыгадаць, што слова "веча" ў Старажытнай Русі мела некалькі значэнняў. Акрамя іншых выпадкаў, вечам называлі ўсякі сход незадаволеных гараджан супраць князя ці іншай якой-небудзь асобы. На такое веча глядзелі як на змову ці паўстанне. Не выпадкова прыдворныя летапісцы ў сваіх паведамленнях надавалі ім значэнне крамолы, хвалявання[2]. У пісьмовых крыніцах наўгародцы часта называюцца вечнікамі-крамольнікамі. Падобны выпадак меў месца і ў Берасці. У чым сапраўдная прычына крамолы берасцян, у летапісе не сказана. Не выключана, што ў горадзе адбывалася народнае хваляванне, якое выкарысталі ў сваіх мэтах Юрый і частка заможных гараджан.

Ва ўсялякім выпадку кару за "крамолу" панеслі ў першую чаргу простыя гараджане і жыхары навакольных вёсак. Мсціслаў пакараў гараджан тым, што прымусіў іх плаціць за ўтрыманне княжацкіх лоўчых, а навакольныя сяляне выплачвалі аброк натурай. Акрамя гэтага, князь загадаў запісаць паведамленне аб "крамоле" берасцян у летапіс. Як бачна, ёсць падставы адносіць летапіснае Берасце да ліку вечавых сярэднявечных гарадоў.

## 8. Барацьба з іншаземнымі захопнікамі

**Заваяванне германскімі феадаламі зямель заходніх славян і прусаў.** На ўзбярэжжы Балтыйскага мора ад р. Лабы (Эльбы) да Одры (Одэра) у раннім сярэднявеччы размяшчалася буйная група заходніх славян, якія аб'ядноўваліся ў племянныя саюзы — бодрычаў, люцічаў, лужыцкіх сербаў. У X ст. пачалося сістэматычнае заваяванне палабскіх славян германскімі феадаламі. Палабскія славяне мужна супраціўляліся, аднак германскія рыцары ў другой палове XII ст. захапілі іх землі. У 1170 г. на гэтых землях узнікла ў складзе Германскай імперыі Мекленбургскае княства, якое было непасрэдна падпарадкавана саксонскаму герцагу Генрыху Льву. На зямлі люцічаў амаль адначасова было заснавана маркграфства Брандэнбургскае на чале з Альбрэхтам Мядзведзем. Цэнтрам маркграфства стаў у XIII ст. Берлін (упершыню ўпамінаецца ў 1230 г.). Нямецкая каланізацыя прывяла да знішчэння і асіміляцыі палабскіх славян[3].

Жорсткі і ваяўнічы Генрых Леў праз дзесяць гадоў захапіў славянскае Памор'е (паміж Одэрам і Віслай), дзе жылі блізкія да палабскіх славян памаране і існавалі паморскія гарады Волін і Шчэцін. Памор'е было ператворана ў імперскае княства, памаране цярпелі асіміляцыю, аднак не страцілі

[1]ПСРЛ. Т. 2. С. 897—914.
[2]*Соловьев С.М.* История России с древнейших времен. М., 1960. Кн. 2. С. 202—214.
[3]История средних веков. / Под ред. С.Д.Сказкина и др. М., 1966. Т. 1. С. 355, 356.

нацыянальнай самабытнасці. Яны ўдзельнічалі ў этнагенезе польскага народа. Патомкі памаран — кашубы — жывуць цяпер у Польшчы.

Германскія феадалы ў пачатку XIII ст. па ініцыятыве рымскага папы Інакенція III пачалі пранікаць у Прусію з прычыны крыжовага паходу супраць язычнікаў прусаў. У 1226 г. мазавецкі князь Конрад, які вёў доўгую і безвыніковую барацьбу з прусамі, вельмі неабачліва запрасіў да сябе на дапамогу Тэўтонскі ордэн. Так стварыўся яшчэ адзін небяспечны ачаг наступлення супраць балтаў і славян. Ордэн пачаў заваёўваць тэрыторыю прусаў і праз паўстагоддзе захапіў яе[1]. Нейкая частка прусаў перасялілася на тэрыторыю Літвы і Беларусі, аб чым гаварылася вышэй.

Разгарнулася каланізацыя нямецкімі выхадцамі запусцелых польскіх зямель. У населеных пунктах на тэрыторыі Польшчы распаўсюджвалася нямецкае права.

У канцы XII ст. нямецкія правіцелі вырашылі стварыць другі ачаг наступлення — на Заходняй Дзвіне. Тут яны намерваліся захапіць прыбалтыйскія землі, што было небяспечна для Полацка.

**Апорныя пункты Полацка ў Ніжнім Падзвінні.** З Сярэдняга Падзвіння, дзе размяшчаліся гарады Полацк і Віцебск, крывічы-палачане праніклі па Заходняй Дзвіне і яе прытоках у іншыя часткі балцкага рэгіёна, дзе стваралі свае апорныя пункты. Прыкладам такога ўмацаванага паселішча можа служыць гарадішча Гарадзец VIII—XI стст. на р. Мнюта каля в. Дзіўная Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці. Археалагічныя раскопкі пацвердзілі знаходжанне тут умацаванага паселішча, росквіт якога прыпадае на X — першую палову XI ст.[2] Другі такі пункт быў заснаваны на беразе возера Дзерба каля в. Маскавічы, пры раскопках якога выяўлены шэраг унікальных знаходак, у тым ліку косці з малюнкамі і надпісамі[3]. Верагодна, адначасова з Гарадцом на поўнач ад яго сярод азёраў вырас Браслаў, а крыху пазней па ніжнім цячэнні Даўгавы ў асяроддзі латгалаў і селаў узніклі Кукенойс і Герцыке.

Гарадзішча старадаўняга Браслава — Замкавая гара — знаходзіцца ў цэнтры сучаснага горада на перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята. Пляцоўка гарадзішча плошчай 2 га абнесена магутным валам. Культурны пласт мае тры гарызонты. Паводле археалагічных даследаванняў, першыя пасяленцы з'явіліся на Замкавай гары (вышыня 14 м) у сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н.э. У IX — пачатку X ст. сюды праніклі крывічы і адбываўся працэс асіміляцыі абарыгеннага балцкага насельніцтва. Браслаў быў заснаваны ў канцы X ст. на месцы латгала-славянскага паселішча. Росквіт горада прыпадае на XI — першую палову XIII ст., калі Браслаў меў цесныя сувязі з Полацкам, Усходняй Прыбалтыкай і гарадамі Кіеўскай Русі. Недалёка ад гарадзішча размяшчаўся курганны могільнік XI—XII стст., які належаў балта-славянскаму насельніцтву.

Браслаў упершыню ўпамінаецца ў "Хроніцы Быхаўца", дзе гаворыцца, што ўладанні літоўскага князя "прасціраліся па мяжу латвійскую і па Завілейскі Браслаў і да самай ракі Дзвіны". Гэта хроніка пацвярджае, што Браслаў быў горадам Полацкага княства: "Князь вялікі Кернус і Гімбут, жадаючы пашырыць сваю краіну, сабралі сілы літоўскія і жамойцкія і пайшлі на Русь к Браславу і Полацку". У гэтай крыніцы не ўказваецца дата падзей. Паводле "Хронікі" Стрыйкоўскага, яны адносяцца да 1065 г. На думку многіх даследчыкаў, горад, магчыма, заснаваны полацкім князем Брачыславам Ізяславічам (1003—1044) як памежная крэпасць Полацкага княства і названы яго імем. Але, па меркаванні В. Жучкевіча, першапачатковая назва стара-

[1]*Пашуто В.Т.* Героическая борьба русского народа на независимость (XIII век). М., 1956. С. 144.

[2]*Штыхаў Г.В.* Гарадзішча Гарадзец на рацэ Мнюта // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 174.

[3]*Дучыц Л.У.* Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIV стст. С. 71.







Усходняя Прыбалтыка ў XII—XIII стст. і барацьба з крыжаносцамі

1 — межы ўсходнеславянскіх княстваў у XIII ст.; 2 — напрамак паходаў нямецкіх рыцараў; 3 — напрамак паходаў дацкіх і шведскіх феадалаў; 4 — замкі, пабудаваныя нямецкімі рыцарамі; 5 — адбіццё лета-літоўцамі і эстамі нападаў нямецкіх рыцараў; 6 — паходы полацкага князя Уладзіміра супраць нямецкіх рыцараў; 7 — паходы наўгародскіх князёў супраць захопнікаў; 8 — мясцы і гады бітваў з нямецкімі рыцарамі

жытнейшага паселішча магла быць утворана ад балцкага слова "браста" (брод), якое было ўспрынята славянамі, а затым пераасэнсавана.

На ўсходнім узбярэжжы Балтыйскага мора пражывалі старажытналатышскія плямёны: земгалы, куршы, латгалы. Земгалы пражывалі на паўднёвым беразе Рыжскага заліва, у басейне р. Ліелупе, куршы — на захад ад іх, у прыморскай паласе. Старажытналатышскія плямёны цесна сутыкаліся з крывічамі, з якімі існавалі сувязі са старажытных часоў. Крывічы-палачане пачалі пранікаць у ніжняе цячэнне Даўгавы ў другой палове 1-га тысячагоддзя н.э. Ва Усходняй Латвіі вядомыя могільнікі з доўгімі і падоўжанымі курганамі. На думку некаторых даследчыкаў, "гэтыя помнікі звычайна этнічна змешаныя, таму што тут жылі латгалы, фіна-угры, крывічы і нават наўгародскія славене"[1].

Кукенойс (Кокнесе, Кокенгузен) — адзін з фарпостаў Полацкага княства ва Усходняй Прыбалтыцы, размешчаны на правым беразе Даўгавы, за 246 км ад Полацка. Упершыню ўпамінаецца ў "Хроніцы Лівоніі" Генрыха Латвійскага пад 1205 г., а пад 1206 г. названы "рускім" горадам. Меў вельмі добрыя ўмацаванні: складаўся з замка (дзядзінца) плошчай 0,2 га, вакольнага горада (форбурга) і ўмацаванага пасада. Пры археалагічных раскопках у культурным пласце замка магутнасцю 7 м выяўлена 14 гарызонтаў чатырох этапаў яго зася-

[1] *Уртан В.* Связи населения Латвии со славянами во второй половине 1-го тысячелетия // Arheologija un etnografija VIII. Рига, 1968. С. 83.

лення. Самы ранні пласт са штрыхаванай керамікай і пабудовамі слупавой канструкцыі адносіцца да рубяжа нашай эры. У пластах V—IX стст. знойдзены рэшткі слупавых пабудоў з агнішчамі. Выяўлены фрагменты гладкасценных і шурпатых, паліваных глінянай рошчынай гаршкоў, якія характэрны для балтаў. З X да пачатку XIII ст. пляцоўка дзядзінца была шчыльна забудавана жытлом з глінабітнымі і каменнымі печамі. Знойдзена шмат прылад працы і прадметаў побыту гэтага часу. Звяртае на сябе ўвагу наяўнасць шкляных бранзалетаў — знаходак, характэрных для ўсходнеславянскіх гарадоў XII — першай паловы XIII ст. і оўручскіх праслачкаў. У пласце XI—XII стст. выяўлены дзве бронзавыя падвескі з выявай трызубца — родавага знака Рурыкавічаў, да якіх па бацькоўскай лініі належалі і полацкія князі.

У вакольным горадзе Кукенойса культурны пласт магутнасцю 6,5 м налічвае 11 гарызонтаў: шэсць верхніх адносяцца да перыяду існавання каменнага замка, пяць ніжніх — да XI—XIII стст. У іх выяўлены невялікія драўляныя жылыя пабудовы. Каля адной пабудовы заўважана прызба — характэрная дэталь жылля ўсходніх славян. Знойдзены прылады працы, прадметы хатняга ўжытку, зброя (наканечнікі стрэл і дзід), шпоры. У вакольным горадзе знаходзіліся прадстаўнікі, верагодна, малодшай дружыны. Сведчаннем сувязяў з Полацкам з'яўляецца свінцовая віслая пячатка, якая, магчыма, належала маці Ефрасінні (Еўфрасінні) Полацкай.

Такім чынам, Кукенойс узнік на месцы паселішча ранняга жалезнага веку. З другой паловы XI — пачатку XIII ст. ён належаў Полацкаму княству. Драўляны замак — рэзідэнцыя князя Вячкі — спалены ў 1208 г., хутка на яго месцы крыжакамі былі пабудаваны мураваныя ўмацаванні. Замак з'яўляўся фарпостам і цэнтрам феадальнага ўладання ў Ніжнім Падзвінні. Насельніцтва Кукенойса этнічна змешанае і складалася з мясцовых балтаў (латгалаў і селаў) і ўсходніх славян.

Герцыке (Герцык, Герсіке, Ерсіка) — старажытны горад, які размяшчаўся на правым беразе Заходняй Дзвіны, за 180 км ад Полацка. Гарадзішча авальнай формы (70x100 м), пасад (750x200м) знаходзіўся на поўнач ад яго. На гарадзішчы пры раскопках зафіксавана 10 будаўнічых гарызонтаў, найбольш ранні з іх адносіцца да X ст. У XI ст. былі пабудаваны земляныя ўмацаванні. Выяўлены рэшткі драўляных пабудоў з печамі, знойдзены рэчы, тыповыя для прыбалтыйскіх і славянскіх народаў, характэрныя таксама для гарадоў Полацкай зямлі. Пасад заселены ў XI—XII стст. Непадалёку знаходзіцца могільнік X—XII стст. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Жаночыя ўпрыгожанні ў большасці латгальскія. Знойдзены крыжыкі і некаторыя ўпрыгожанні, характэрныя для славян.

Такім чынам, паселішча Герцыке існавала з X ст. У другой палове XI — першай палове XIII ст. горад належаў Полацкаму княству як фарпост і цэнтр уладання ў Ніжнім Падзвінні. Насельніцтва складалася пераважна з латгалаў і славян. Горад упершыню ўпамінаецца ў "Хроніцы Лівоніі" пад 1203 г. як багатая княжацкая рэзідэнцыя з праваслаўнымі цэрквамі і як цэнтр удзела на чале з князем Усеваладам, падпарадкаванага Полацку.

На прыкладзе Кукенойса і Герцыке можна бачыць спробу княжацкай усходнеславянскай каланізацыі зямель у ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны[1]. Тут узніклі гарады са змешаным насельніцтвам, якія знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад Полацка. Вельмі магчыма, што ў Кукенойсе і Герцыке княжылі прадстаўнікі полацкай княжацкай дынастыі са сваімі дружынамі і знаходзіліся тут да з'яўлення нямецкіх рыцараў.

**Уварванне нямецкіх феадалаў ва Усходнюю Прыбалтыку.** Важнай крыніцай для вывучэння агрэсіі тэўтонаў з'яўляецца "Хроніка Лівоніі", аўтар якой — Генрых Латвійскі — быў удзельнікам апісаных падзей. Гэты

[1]*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). С. 62.

твор, ухваляючы "подзвігі" нямецкіх рыцараў, вызначаецца дэталёвым асвятленнем фактаў, дакладнасцю храналогіі, геаграфічных назваў, імёнаў. Трэба адзначыць, што, апіраючыся на "Хроніку Лівоніі" і на іншыя крыніцы, М.Ермаловіч падрабязна і грунтоўна асвятліў гісторыю ўварвання крыжакоў у Ніжняе Падзвінне і яго сумныя вынікі для Полацка[1].

Нямецкія святары, купцы і рыцары высадзіліся ў вусці Заходняй Дзвіны ў канцы XII ст. Захопніцкія намеры "пілігрымаў" пад выглядам распаўсюджання веры сярод мясцовага насельніцтва хутка сталі відавочнымі і выклікалі супраціўленне. Заваёўнікам дапамагала каталіцкая царква. Сумеснымі намаганнямі быў створаны царкоўна-рыцарскі ордэн Мечаносцаў.

Тэўтонскія рыцары разбілі атрады ліваў, захапілі зручную Земгальскую гавань. На яе месцы ў 1201 г. была пабудавана крэпасць Рыга. Гэты горад стаў цэнтрам нямецкага гандлю і дзейнасці манахаў-католікаў у Прыбалтыцы. Для далейшай экспансіі рыцары будавалі невялікія мураваныя крэпасці і такім чынам прасоўваліся ўверх па Заходняй Дзвіне на тэрыторыю латгалаў, пагражаючы Полацку. Палачане першымі з усходніх славян сутыкнуліся з крыжакамі.

Атрады з Полацка і іншых гарадоў дапамагалі насельніцтву тэрыторыі Латвіі і Эстоніі адбіваць напады тэўтонаў. З даўніх часоў лівы і латгалы плацілі даніну полацкім князям і пастаўлялі ім дапаможныя войскі. Уся тэрыторыя ўздоўж Заходняй Дзвіны была падначалена Полацку. Таму дружыны полацкага князя Уладзіміра летам 1203 г. асадзілі дзве нямецкія крэпасці Гольм і Іксkуль, але значнага поспеху не мелі. У гэтым жа годзе на Рыгу напаў князь Герцыке Усевалад сумесна з атрадам літоўцаў.

У 1205 г. рыцары сабралі вялікія сілы і накіраваліся далей на ўсход, пры гэтым яны разбуралі і знішчалі ў пажарах паселішчы фінамоўных плямён ліваў. Лівы жылі ў паўночнай і заходняй частках сучаснай Латвіі. Яны звярнуліся за дапамогай да полацкага князя Уладзіміра. У 1206 г. ён са сваім войскам зноў з'явіўся ў ніжнім цячэнні Даўгавы і аблажыў адбудаваны немцамі замак Гольм. Полацкі князь разаслаў ганцоў у розныя месцы і заклікаў да барацьбы ліваў і латгалаў. Аднак на заклік і дапамогу палачанам прыйшла толькі частка ліваў. Аблога працягвалася 11 дзён. Вось як апісаў гэта Генрых Латвійскі: "Русіны (так ён называў палачан) са свайго боку, не ведаючы прымянення балісты, але вопытныя ў стральбе з лука, біліся шмат дзён і паранілі многіх на валах. Яны сабралі вялікі касцёр з бярвенняў і намагаліся падпаліць умацаванні, але намаганні гэтыя былі безвыніковымі, а пры збіранні дроў многія з іх загінулі, параненыя балістарыямі. ... Зрабілі русіны і невялікую кідальную машыну, па ўзору тэўтонскіх, але не маючы вопыту кідаць камяні, паранілі многіх у сябе, трапляючы ў тыл"[2]. Узяць крэпасць полацкія дружыны не змаглі. Да захопнікаў ішло падмацаванне, аблогу Гольма прыйшлося спыніць. У гэты час самому Полацку існавала пагроза з боку літоўцаў.

Рыцары наблізіліся да горада Кукенойса. Тут княжыў Вячка (Вячаслаў), які, відаць, паходзіў з дынастыі полацкіх князёў і падпарадкоўваўся полацкаму князю Уладзіміру (магчыма, другое яго імя Валодша)[3]. З невялікай дружынай ён мужна адбіваўся ад захопнікаў, але не атрымаў своечасовай дапамогі ад полацкага князя. У 1208 г. Вячка вымушаны быў спаліць Кукенойскі замак і з дружынай у 200 чалавек пакінуць сваё княства. Пазней Вячка ўзначальваў ваенныя сілы на тэрыторыі эстаў у горадзе Юр'еве (цяпер Тарту) і загінуў у жорсткім баі з крыжакамі ў 1224 г.[4]

У 1209 г. рыцары абрабавалі і спалілі другі полацкі фарпост у нізоўях Заходняй Дзвіны — горад Герцыке. Паводле слоў Генрыха Латвійскага,

[1]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: полацкі і навагародскі перыяды. С. 266—288.

[2]*Генрих Латвийский.* Хроника Ливонии. С. 85, 102—103; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі VI—XV стст. Мн., 1998. С. 62—65.

[3]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь. С. 243.

[4]История Латвийской ССР. Рига, 1952. Т. 1. С. 98

тэўтонскае войска захапіла адзенне, срэбра і пурпур, шмат жывёлы, а з цэркваў (несумненна, праваслаўных) — званы, іконы, іншае ўбранства, грошы, многа дабра і ўсё гэта павезла з сабой.

У 1210 г. паміж рыжскім епіскапам Альбертам і полацкім князем Уладзімірам быў заключаны мірны дагавор. Паводле яго, Полацк захоўваў свае права на атрыманне даніны з ліваў. Праз два гады адбыліся новыя перагаворы паміж палачанамі і немцамі. Князь Уладзімір прапанаваў рыжскаму епіскапу адмовіцца ад хрышчэння ліваў. Інакш полацкі князь пагражаў спаліць усе замкі Лівоніі (назва ад слова "лівы"), а разам з імі і саму Рыгу. Аднак Уладзімір не змог дабіцца прыняцця сваіх патрабаванняў. Распачаць жа неадкладныя ваенныя дзеянні яму, верагодна, было не пад сілу. Перагаворы скончыліся пагадненнем, згодна якому полацкі князь вымушаны быў адмовіцца ад Ніжняга Падзвіння і ад даніны з насельніцтва, што было для Полацка цяжкай стратай. Дамовіліся толькі аб тым, што купцам будзе адкрыты свабодны шлях па Заходняй Дзвіне. Канонік Альберт умеў не толькі дальнабачна асэнсоўваць ваенную сітуацыю, але адначасова весці мірныя перагаворы[1], падпарадкоўваючы чужыя тэрыторыі ордэну.

Аднак рыцары парушылі дагавор і зноў напалі на Герцыке. Мясцовы князь Усевалад паклікаў на дапамогу літоўскае войска, якое нанесла страты нямецкім рыцарам. Некаторы час горад з часткай княства заставаўся ў руках Усевалада. Рыцары ўварваліся на землі эстаў, якія звярнуліся за дапамогай да полацкага князя Уладзіміра. У 1216 г. палачане сумесна з эстамі і літоўцамі рыхтаваліся да новага выступлення супраць рыцараў. Аднак у дзень адпраўлення з Полацка Уладзімір раптоўна памёр (відаць, быў атручаны падасланымі забойцамі) і паход не адбыўся.

Вялікае значэнне для абароны земель Беларусі ад нямецкіх рыцараў меў саюз Полацка, Віцебска і Смаленска. Дзеля гэтага ў першай чвэрці XIII ст. Полацк і Віцебск прызналі вярхоўную ўладу смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча, што садзейнічала згуртаванню сіл, якія процістаялі агрэсіі. Полацк і Віцебск умацоўвалі палітычныя сувязі з Наўгародскай зямлёй, аб чым сведчыць шлюб князя Аляксандра Яраславіча (Неўскага) з дачкой полацкага князя Брачыслава.

У бітве са шведскімі рыцарамі на р. Няве (1240) вызначыўся адвагай палачанін Якаў, які быў на службе пры двары Аляксандра. Аўтар "Жыція" Аляксандра Неўскага, сучаснік падзей, апавядае пра гераічныя ўчынкі шасці найбольш адважных воінаў, удзельнікаў "вялікай сечы". Сярод іх названы Якаў Палачанін. У жорсткай рукапашнай схватцы ён у засцерагальным баявым рыштунку, узброены толькі мячом, напаў на цэлы атрад захопнікаў. Якаў Палачанін праявіў выключную мужнасць: "Наехаў на полк з мячом і мужна біўся і пахваліў яго князь"[2].

Другая перамога Аляксандра Неўскага ў бітве на Чудскім возеры 5 красавіка 1242 г. над нямецкімі рыцарамі прыпыніла рух захопнікаў у старажытнарускія землі.

**Мангола-татарскае нашэсце і пагроза заняволення беларускіх земель.** У пачатку XIII ст. у стэпах Цэнтральнай Азіі склалася моцная Мангольская дзяржава. Пасля яе ўтварэння пачалася паласа мангольскіх заваяванняў, якія закранулі ўсе краіны Азіі і многія краіны Еўропы і пакінулі глыбокі і страшэнны след у іх сярэдневечнай гісторыі. Гэтых заваёўнікаў пабачылі на сваіх землях кітайцы і карэйцы, таджыкі і цюркі, афганцы і персы, народы Інданезіі і Закаўказзя, усходнія, заходнія і паўднёвыя славяне.

---

[1] *Сагановіч Г.* Полацк і нямецкая калонія на Дзвіне // Беларускі гістарычны агляд. Т. 5. Сш. 1(8). Чэрвень 1998. С. 25.

[2] "Изборник" (Сборник произведений литературы Древней Руси). М., 1969. С. 332—333.



Якаў Палачанін (з узнятым над галавой мячом), удзельнік Неўскай бітвы 1240 г. (мініяцюра XVI ст.)

Унук Чынгісхана Бату (па-славянску — Батый) у 1236 г. пачаў заваёўніцкі паход на захад. Зімой 1237—1238 гг. мангола-татары захапілі і разрабавалі гарады Разань, Каломну, Маскву і Уладзімір на Клязьме. У бітве на р. Сіці пацярпелі паражэнне галоўныя аб'яднаныя сілы старажытнарускіх князёў.

У 1238 г. мангола-татары аблажылі Таржок, дзе знаходзіўся наўгародскі гарнізон. Горад быў узяты і спалены. Захопнікі накіраваліся далей на поўнач у напрамку да Ноўгарада Вялікага. Аднак мангола-татары не дайшлі да Ноўгарада 100 вёрст, павярнулі назад і пайшлі ў стэпы.

Наўгародцы, верагодна, выслалі атрады воінаў насустрач ворагу. Вялікія лясы і непралазныя балоты, незвычайныя для стэпавікоў, засады і вясеннія паводкі, разлівы рэк, відаць, прымусілі Батыя адмовіцца ад паходу на Ноўгарад. У летапісе паведамляецца, што войска Батыя, вяртаючыся ад Ноўгарада, напала на невялікі горад Казельск, які не магло захапіць на працягу сямі тыдняў.

Мангола-татары спачатку накіраваліся да Смаленска, але потым абышлі яго. Паводле "Жыція" Меркурыя Смаленскага, наконт верагоднасці якога выказваюцца сумненні, напад захопнікаў на горад быў адбіты.

Наступнай зімой у 1239 г. вайна ўзнавілася з новай сілай. Захопнікі ўварваліся ў паўднёварускія землі. Пераправіўшыся праз Днепр, пасля аблогі, кровапралітнай бітвы яны ўзялі ў снежні 1240 г. Кіеў і разрабавалі яго. Затым мангола-татарскае войска накіравалася ў Галіцка-Валынскую зямлю, дзе былі ўзяты гарады Уладзімір-Валынскі і Галіч.

Насельніцтва Беларусі аказалася пад вялікай пагрозай мангола-татарскага заняволення. Жудасны смерч мог пракаціцца па беларускіх землях у

1239—1240 гг., але заваёўнікі павярнулі на поўдзень. Яны прайшлі па тэрыторыі Чарнігаўскай зямлі, у склад якой уваходзілі паўднёва-ўсходнія раёны сучаснай Беларусі. Напэўна, тады быў разбураны і спалены жорсткімі заваёўнікамі Гомель. Пры археалагічных раскопках устаноўлена, што ўсе драўляныя пабудовы ў вакольным горадзе і на дзядзінцы загінулі ў вялікім пажары, у тым ліку майстэрня па вырабе зброі. У памяшканнях знойдзены схаваныя каштоўныя рэчы, за якімі іх уласнікі ўжо ніколі не вярнуліся. Наяўнасць у слаях разбурэння абарончага вала крэпасці тыповых мангола-татарскіх стрэл-зрэзняў пераконвае, што горад быў узяты мангола-татарамі штурмам пасля адчайнага супраціўлення яго абаронцаў і зруйнаваны дашчэнту[1].

У Іпацьеўскім летапісе пад 1240 г. (фактычна гэта адбывалася вясной 1241 г.) пра галіцка-валынскіх князёў Данілу і Васільку паведамляецца: "Даніла тым часам прыбыў з братам да Берасця (Брэста) і не змаглі яны выйсці на поле, бо быў смурод ад вельмі вялікай колькасці забітых". Выказваюцца меркаванні, што каля Берасця адбыўся бой з мангола-татарамі, у ходзе якога загінула шмат воінаў. Але цяжка дапусціць, каб берасцейцы з умацаванага горада выйшлі ў адкрытае поле для бітвы з варожымі полчышчамі. Напэўна, справа выглядала інакш.

Вядома, што мангольскія военачальнікі практыкаваліся ў масавым знішчэнні здольных да супраціўлення груп насельніцтва. Пры аблозе горада літасць праяўлялася толькі ў выпадках безумоўнай здачы заваёўнікам. Калі ж горад пасмеў абараняцца, то пасля яго захопу жыхароў выганялі ў поле, каб зручна было рабаваць дамы і вывезці каштоўнасці. Затым усіх воінаў манголы забівалі, а рамеснікаў з сем'ямі, таксама як маладых жанчын і дзяўчат, забіралі ў рабства. Нешта падобнае, відаць, адбылося ў Берасці.

Пра татараў захавалася шмат народных паданняў. Паводле аднаго з іх, войска на чале з Койданам рухалася на Менск. На шляху заваёўнікаў знаходзіўся горад Крутагор'е. Тут быццам адбылася бітва, у якой мангольскі военачальнік загінуў і з гэтай нагоды горад перайменавалі ў Койданава (цяпер Дзяржынск). Але больш дакладных звестак аб гэтай падзеі няма. Выклікаюць сумненне некаторыя паведамленні аб бітвах з татарамі (Койданава, Магільна), змешчаныя ў беларуска-літоўскіх летапісах[2].

Большая частка тэрыторыі Беларусі не зведала мангола-татарскай навалы ў 1238—1241 гг. Гісторыкі тлумачаць гэта рознымі прычынамі. Адны звычайна гаварылі, што войска Батыя было моцна аслаблена барацьбой з паўночна-ўсходнімі рускімі княствамі. Аднак пад Кіеў заваёўнікі прывялі значна большае войска, чым яно было пад Разанню. Другія сцвярджаюць, што захопнікі не хацелі ісці ў беларускія лясы і балоты пасля ўкраінскіх прастораў, але маглі пасылаць на поўнач ад Прыпяці асобныя атрады. Існуюць і іншыя меркаванні[3]. Але прымальнага тлумачэння, чаму мангола-татары фактычна абмінулі асноўную тэрыторыю Беларусі, няма.

Ад г. Уладзіміра-Валынскага, дзе сканцэнтравалася вялікая колькасць мангола-татарскіх войскаў, яны меліся ісці дзвюма групоўкамі на Польшчу і Венгрыю адначасова.

У Польшчы захопнікі сустрэлі моцнае супраціўленне. Пасля жорсткай бітвы быў узяты Кракаў. Каля г. Легніцы польскае войска пацярпела паражэнне. Але мангольскія ваяводы не здолелі захапіць горад.

У 1241 г. мангольскае войска з цяжкімі баямі прайшло левабярэжную Венгрыю. Атрады мангола-татараў спустошылі землі Букавіны, Малдавіі,

[1]*Макушников О.А.* В поисках древнего Гомия. С. 54.
[2]Хроника Быховца. С. 40, 41.
[3]Беларуская мінуўшчына. 1993. № 3—4. С. 22.

Румыніі. Пацярпела Славакія, аднак гараджане сумелі адстаяць ад ворага Браціславу, Нітру і іншыя гарады. Працягваліся баі ў Чэхіі, куды мангола-татары адышлі з Польшчы. З ворагам змагаліся народы Харваціі, Босніі, Сербіі, Балгарыі.

Наступленне мангола-татараў, якое пачалося з Ніжняга Паволжа, захлынулася на Далмацінскім пабярэжжы каля граніц Італіі. Вялікія страты аслабілі мангола-татараў. Далейшае іх наступленне ў глыбіню Еўропы стала немагчымым і яны павярнулі назад у 1242 г. Факты сведчаць аб патрыятычным укладзе, які ўнеслі народы Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ў справу барацьбы з мангола-татарскім нашэсцем, у абарону еўрапейскай культуры.

Такім чынам, асноўная тэрыторыя Беларусі не трапіла пад мангола-татарскі пагром 1237—1241 гг. і беларускія землі пазбеглі ярма Залатой Арды ў сярэдзіне XIII ст. Але пагроза такога заняволення не знікла.

# ГЛАВА 3

# ЭКАНАМІЧНЫЯ ЎКЛАДЫ, ГРАМАДСКІ ЛАД, ГАСПАДАРКА Ў IX—XIII стст.

## 1. Эканамічныя ўклады — факты і меркаванні

У навуцы даўно ўжываецца тэрмін "эканамічны ўклад". Звычайна пад ім разумеюць галіну гаспадаркі (эканомікі), уласцівай грамадству на пэўным этапе яго існавання. Эканамічны (гаспадарчы) уклад уяўляе сабой тып адносін паміж людзьмі, які мае ў сваёй аснове тую ці іншую форму ўласнасці[1]. Сукупнасць эканамічных укладаў і суадносіны паміж імі характарызуюць грамадскі лад і ступень яго развіцця[2].

У чыстым выглядзе немагчыма вылучыць рабаўладальніцкі, феадальны ці капіталістычны лад як сістэму грамадства, таму што эканоміка кожнага грамадства амаль заўсёды шматукладная. Аднак можна гаварыць пра пэўную форму грамадскіх адносін, якая з'яўляецца пераважаючай, асноўнай. Эканамічныя ўклады ўплываюць на ўстоі грамадскага ладу, у якім больш прагрэсіўны ўклад можа стаць пануючым і ў значнай ступені вызначыць сутнасць самога ладу.

**Трансфармацыя родавай абшчыны ў суседскую.** Першабытнае грамадства прайшло некалькі працяглых перыядаў. Пры родавым ладзе прылады працы і зброя для палявання, розныя іншыя вырабы і прыручаная жывёла — усе багацці роду — знаходзіліся ў агульным карыстанні. Прадукты агульнай працы падзяляліся пароўну, а члены роду былі раўнапраўнымі людзьмі.

Надзвычай нізкі ўзровень вытворчых сіл абумовіў зусім простую пачатковую грамадскую арганізацыю — праабшчыну ці першабытны статак. Затым у познім палеаліце, мезаліце і неаліце існавала родавае грамадства. Роды аб'ядноўваліся ў плямёны. Асноўным вытворчым калектывам з'яўлялася ранняя родавая абшчына, якая складалася з некалькіх дзесяткаў чалавек. Людзі, якія ўваходзілі ў родавую абшчыну, былі звязаны сваёй роднасцю,

---

[1]Краткий экономический словарь. М., 1958. С. 384.

[2]Беларускі тэрмін "лад" (рускі "строй") азначае сістэму грамадскага парадку, яго ўладкаванне.

сваяцтвам і з'яўляліся блізкімі родзічамі. У родавай абшчыне існавала пачуццё згуртаванасці і ўзаемнай дапамогі. Сумесная праца асноўвалася на агульнай уласнасці на большасць сродкаў вядзення гаспадаркі. Такі тып адносін паміж людзьмі з'яўляецца першабытнаабшчынным ці родаплемянным укладам. Ён быў пануючым у грамадстве на працягу многіх тысячагоддзяў.

З узнікненнем земляробства зямля вакол паселішча належала ўсяму роду і гаспадарка вялася сумесна ўсімі яго членамі. Рэгламентаваць форму ўласнасці на зямлю і ўгоддзі ў родаплемяннойгаспадарцы не было неабходнасці. Усё вызначалася звычаем, агульнапрызнанымі пачаткамі. Дакладных меж племянных уладанняў не існавала. Род і племя ахоўвалі сваю тэрыторыю ад усялякага іншапляменніка.

У кожным племені карыстанне зямлёй вызначалася зробленай раней расчысткай, выкарыстаннем яе для палявання ці бортніцтва. На бортным дрэве патрабавалася зрабіць знак — прыкмету прыналежнасці яго каму-небудзь. Усе такія заімкі і знакі маглі падтрымлівацца толькі самімі супляменнікамі. Тэрыторыя паміж асобнымі родавымі паселішчамі складалася са свабоднай зямлі, якая з рознымі яе ўгоддзямі (лугі, выганы, вадаёмы) магла служыць для новых заімак — зямельных участкаў, што займаліся па праву першага валодання[1].

Важнай умовай фарміравання сельскай (суседскай) абшчыны было ўзнікненне гаспадаркі, якая вялася адной вялікай або малой сям'ёй, трансфармацыя родавай абшчыны ў новую сялянскую ячэйку і аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі. Разам з тым неабходнай перадумовай і прамым вынікам станаўлення сельскай абшчыны было з'яўленне і замацаванне ў звычаёвым праве паняцця прыватнай уласнасці на ўласную маёмасць, сельскагаспадарчы інвентар, жывёлу, прадукты земляробства. Асноўным напрамкам развіцця стаў пераход ад родавай уласнасці да ўласнасці больш дробных, магчыма, патранімічных калектываў, а потым прыватнасямейнай і індывідуальнай уласнасці.

Існуюць розныя меркаванні аб узроўні развіцця абшчыны ва ўсходніх славян. Адны даследчыкі гавораць аб наяўнасці ў другой палове 1-га тысячагоддзя н.э. суседскай (сялянскай) абшчыны, другія сцвярджаюць, што існавала родавая абшчына, трэція разглядаюць час VI—VIII стст. як пераходны ад родавай да суседскай абшчыны. 1-е тысячагоддзе н.э. было перыядам, калі ў славян у пераходных формах абшчыны перапляталіся розныя родавыя і суседскія сувязі. У працяглым і неадназначным працэсе важнае эканамічнае значэнне належала суседскай абшчыне і вялікай сям'і, у якіх на розных узроўнях ішло станаўленне прыватнаўласніцкіх пачаткаў пазнейшых класавых (саслоўных) грамадстваў[2].

У навуцы вядзецца пошук падыходаў, методык, крытэрыяў для вывучэння працэсаў пераходу славян ад родавай абшчыны да суседскай. Археолагі вылучылі тэзіс, што абшчына знайшла сваё адлюстраванне ў комплексе помнікаў — гняздзе паселішчаў. На аснове аналізу археалагічных даных вылучаюцца з пэўнай умоўнасцю тыпы ўсходнеславянскай абшчыны: вялікасямейная VI—VII стст., земляробчая (суседска-вялікасямейная) VIII—IX стст. і суседская X—XI стст.[3]

У вялікасямейнай абшчыне VI—VII стст., якая налічвала прыкладна 150—200 чалавек, спалучаліся калектыўная ўласнасць на зямлю і прыватная

---

[1]Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Мн., 1997. Т. 1. С. 27—28.

[2]*Бромлей Ю.В., Першиц А.И.* Энгельс и проблемы первобытной истории // Проблемы этнографии и антропологии в свете научного наследия Ф.Энгельса. М., 1972. С. 31.

[3]*Тимощук Б.А.* Восточнославянская община VI—X вв. н.э. М., 1990. С. 141.

на жытло і гаспадарчыя пабудовы. Гэта пераходны тып ад родавай да суседскай абшчыны. Яна складалася з вялікіх патрыярхальных сем'яў, якія сумесна апрацоўвалі зямлю і збіралі ўраджай, а затым размяркоўвалі яго па сем'ях. Этнолагі прапаноўваюць называць такую абшчыну суседска-родавай. Кожная патрыярхальная сям'я мела сваю калектыўную сядзібу з агульным дваром. Структура ўсходнеславянскага грамадства была тады прыстасавана для вядзенняляднай сістэмы земляробства[1].

Уяўленне аб існаванні вялікасямейнай абшчыны ў VI—VII стст. пацвярджаюць даследаванні на тэрыторыі Беларусі. Паводле назіранняў А. Мітрафанава, знікненне патрыярхальных пасёлкаў з вялікімі абшчыннымі дамамі і хуткае распаўсюджанне паселішчаў з невялікімі жылымі збудаваннямі, якія былі разлічаны на малую індывідуальную сям'ю, — пераканаўчае таму сведчанне. Верагодна, кожная малая сям'я, якая мела асобнае жытло, уваходзіла ў вялікую сямейную абшчыну, што вяла на калектыўных пачатках сваю гаспадарку[2].

Гнёзды славянскіх паселішчаў VIII—IX стст. археолагі вызначаюць як тэрытарыяльныя (суседскія) абшчыны і адзначаюць больш складаную іх структуру ў параўнанні з вялікасямейнай абшчынай VI—VII стст. Асноўнай гаспадарчай адзінкай заставалася вялікая патрыярхальная сям'я, нягледзячы на тое што ў VIII—IX стст. пачаўся працэс вылучэння малых сем'яў. Доўгі час вялікія і малыя сем'і суіснавалі, што пацвярджаецца данымі археалагічных даследаванняў і этналогіі (этнаграфіі).

Селішчы патрыярхальных сем'яў знаходзіліся на зямлі абшчыны на значнай адлегласці адно ад другога. Гэта тлумачыцца тым, што патрыярхальныя сем'і пачалі карыстацца новаўзаранымі ўчасткамі. Праходзіў працэс фарміравання адасобленай уласнасці сем'яў. Такія сем'і мелі права спадчыннасці ўчасткаў зямлі, якія апрацоўваліся і з часам ператвараліся ў іх уласнасць. Са з'яўленнем адасобленай уласнасці сярод патрыярхальных сем'яў вылучаліся найбольш уплывовыя і багатыя.

Гісторыкі абгрунтавана лічаць, што асновай грамадства ў пераддзяржаўны час з'яўляўся не род, а вялікая сям'я, і ў абшчыне складваліся суседскія адносіны. Земляробчай (суседска-вялікасямейнай) абшчыне VIII—IX стст. адпавядае тэрмін "верв", які неаднаразова выкарыстоўваецца ў старажытных пісьмовых крыніцах. Першапачаткова гэта назва магла адносіцца да адасобленай патрыярхальнай сям'і, затым так пачалі называць сялянскую абшчыну. У тэндэнцыях развіцця земляробчай абшчыны апошняй чвэрці X ст. усё больш выяўляліся пачаткі фарміравання індывідуальных сялянскіх гаспадарак[3].

Устойлівы прыбавачны прадукт пры меншай колькасці вытворцаў дазваляў атрымліваць больш высокі ўзровень агракультуры. Такі працэс, якім адзначаецца пераход да ўласна суседскай абшчыны, назіраўся ў канцы VIII — пачатку IX ст. "Верв", ці "мір", — гэта ўжо не патрыярхальная, а суседская абшчына, у якой паяўляюцца прыватная ўласнасць і індывідуальная гаспадарка. Такія абшчыны складаліся з асобных сем'яў — вялікіх і малых, генетычна звязаных паміж сабой, але стадыяльна розных, якія храналагічна зрэдку суіснавалі.

Эвалюцыя сельскай (суседскай) абшчыны ішла ў двух напрамках. Назіраўся працяглы працэс эканамічнай дыферэнцыяцыі абшчыннікаў, расла прыватная сялянская ўласнасць, а затым феадальная ўласнасць на зямлю,

---

[1]*Маретин Ю.В.* Опыт стадиально-генетической типологии общины // Проблемы аграрной истории. Мн., 1978. Ч. 1. С. 113.

[2]*Митрофанов А.Г.* Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Мн., 1978. С. 117.

[3]*Тимощук Б.А.* Восточнославянская община VI—X вв. н.э. С. 100, 103.

адбываліся захоп абшчыннай зямлі і падпарадкаванне свабодных абшчыннікаў дзяржаўнай уладзе. Гэтыя працэсы праходзілі адначасова і ўзаемна пераплятаўліся.

У X—XI стст. сяляне-земляробы, якія ўваходзілі ў склад абшчыны, вялі сваю індывідуальную гаспадарку і падпарадкоўваліся толькі дзяржаве пры выкананні павіннасцей. Ворыўная зямля абшчыны (верві) была ва ўладанні сялян і перадавалася па спадчыне. Абшчыне належала права карыстання ўгоддзямі (лясамі, вадаёмамі і інш.) і права агульнага ўласніка на ўсю зямлю. Верв, якая склалася на аснове земляробчай (суседска-вялікасямейнай) абшчыны, у многім паўтарала свой прататып, і ёй былі ўласцівыя таксама самакіраванне, кругавая парука, калектыўная адказнасць за злачынства на сваёй тэрыторыі і г.д.

Сем'і аб'ядноўваліся ў сельскія абшчыны, мелі сваёй сацыяльнай асновай калектыўную ўласнасць на зямлю. Апрацоўка зямлі праводзілася сіламі сям'і, якой належала атрыманая прадукцыя. Калектыўная ўласнасць ажыццяўлялася на раллю, поплавы, воды. Абшчына характарызавалася агульным уладаннем сродкамі вытворчасці.

Такім чынам, першым гаспадарчым укладам быў першабытнаабшчынны ці родаплемянны, заснаваны на агульнай (калектыўнай) уласнасці, які потым трансфармаваўся ў абшчынна-сялянскі ўклад.

**Вытокі рабаўладальніцкага ўкладу.** Падзел працы і павелічэнне яе вытворчасці, распаўсюджанне жывёлагадоўлі, земляробства, металічных прылад працы мелі ўжо ў бронзавым веку важны вынік. Чалавек як рабочая сіла быў у стане цяпер выраблясць не толькі неабходную для яго жыцця колькасць прадуктаў, але і нейкі лішак. Ваеннапалонных было нявыгадна забіваць, як рабілі раней. Іх прымушалі працаваць, ператваралі ў рабоў. Так, яшчэ ў родаплемянным грамадстве з'яўляецца патрыярхальнае рабства. Асноўнай яго крыніцай была вайна. Спачатку рабоў выкарыстоўвалі для патрэб усёй родавай абшчыны. Са з'яўленнем прыватнай уласнасці асобныя сем'і пачынаюць выкарыстоўваць працу рабоў для сваіх патрэб. Пакуль родаплемяннное грамадства канчаткова не распалася, ператварыць у раба свабоднага супляменніка было немагчыма. Таму рабоў было нямнога, а іх становішча не такім цяжкім, як пазней у эпоху класічнага рабаўладальніцкага грамадства.

Першапачаткова рабства па сваім характары было патрыярхальным. Абшчыннікі працавалі разам з рабамі, якія з'яўляліся памочнікамі ў складзе патрыярхальнай сям'і. Фактычны матэрыял пацвярджае, што патрыярхальнае рабства было ўсеагульна распаўсюджанай з'явай і прайшло шэраг этапаў, ад выпадковага і пажыццёвага да спадчыннага як вышэйшай стадыі ў сваім развіцці. Патрыярхальнае рабства засведчана ў народаў Еўропы, Азіі, Амерыкі, Афрыкі, Аўстраліі. Яно нараджалася на базе жывёлагадоўлі, земляробства, рыбалавецкіх і паляўнічых гаспадарак. Для зараджэння рабства была патрэбна не пэўная галіна гаспадаркі, а належны ўзровень яе развіцця. Першапачаткова занявольвалі жанчын і дзяцей, таму што воіны-мужчыны былі больш небяспечнымі. Перавага аддавалася тым рабам, якія выраслі ў няволі.

Пры разглядзе грамадскіх адносін у насельніцтва, якое жыло ў старажытнасці на розных кантынентах па прычыне нераўнамернасці гістарычнага развіцця, разлажэнне родавага ладу адбывалася не ўсюды з аднолькавай хуткасцю. У часы распаду родаплемяннога ладу, калі ўзнікла імкненне да захопу новых багаццяў і новых рабоў, сталі больш частымі ваенныя сутыкненні[1].

---

[1] *Редер Д.Г., Черкасова Е.А.* История древнего мира. М., 1979. Ч. 1. С. 71—78.

Візуальна гэта адлюстроўвалася ў тым, што з'яўляюцца гарадзішчы, умацаваныя равамі і валамі, якія будаваліся для абароны ў час нападзення. У сувязі з гэтым неабходна нагадаць, што ў Беларусі налічваецца некалькі сотняў гарадзішчаў ранняга жалезнага веку — нямых сведак сутычак і войнаў, якія адбываліся паміж асобнымі абшчынамі, родамі і плямёнамі, а значыць, маёмаснай няроўнасці ў тагачасным грамадстве.

Войны, у час якіх захопліваліся палонныя, былі сродкамі ўзбагачэння племяннай знаці, правадыроў родаў і плямён, якія са слуг грамадства ператвараліся ў паноў над ім. Найбольшая колькасць гарадзішчаў ранняга жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі выяўлена археолагамі ў Віцебскай, Гомельскай і Мінскай абласцях.

З улікам матэрыялаў археалагічных даследаванняў у Беларусі выказваецца погляд, што ў зарубінецкіх плямён з агульнай масы насельніцтва вылучылася ваенная знаць, якая мела рабоў. Відаць, рабства ў зарубінцаў, як і ў старажытных германцаў, насіла патрыярхальны характар і пры пахаванні гаспадара разам з ім змяшчалі ў магілу адну з яго рабынь-наложніц[1].

Такім быў пачатак з'яўлення рабаўладальніцкага ўкладу ў грамадстве, якое станавілася шматукладным, таму што акрамя абшчыннага ўкладу з'явіўся яшчэ іншы тып адносін паміж людзьмі. Рабаўладальніцкі ўклад характарызуецца прыватнай уласнасцю рабаўладальніка на сродкі вытворчасці і на асноўнага вытворцу матэрыяльных даброт — раба. Рабаўладальніцтва дасягнула асаблівага росквіту ў антычных дзяржавах — Грэцыі і Рыме.

**Сінтэзны і бяссінтэзны шляхі развіцця феадалізму.** У VI—IX стст. у некаторых краінах Заходняй Еўропы, асабліва ў франкаў, пачаўся працэс складвання новага феадальнага ўкладу і новай формы залежнасці. У X—XIII стст. ён атрымаў сваё лагічнае завяршэнне і ў грамадстве ўсталяваўся феадальны лад. Сфарміраваўся слой буйных землеўладальнікаў. Імі сталі каралі, герцагі, графы, бароны. Яны атрымалі юрыдычнае права на ўладанне зямлёй. Умацавалася іерархія, паслядоўнае размяшчэнне службовых чыноў ад ніжэйшых да вышэйшых у парадку іх падначалення.

Аснову феадальнай іерархіі складаў бенефіцый — зямельнае ўладанне, якое даваў кароль ці які-небудзь іншы буйны феадал у пажыццёвае карыстанне васалу разам з сялянамі на ўмовах выканання ваеннай службы. Паступова бенефіцый ператвараўся ў феод — землі, якія разам з сялянамі аддаваў у спадчыннае ўладанне сеньёр свайму васалу. Васал абавязаны быў за гэта несці ваенную ці адміністрацыйную службу.

Феадал — гэта ўладальнік феода (лена). Феадалізм — уклад, які заснаваны на ўмоўнай прыватнай уласнасці на зямлю разам з сялянамі. Для феадалізму характэрна прысваенне феадаламі працы сялян у форме зямельнай рэнты. Феадалізму ўласцівы тры яе формы: 1) адработачная рэнта, ці паншчына; 2) рэнта прадуктамі, ці аброк; 3) грашовая рэнта.

У Заходняй Еўропе склалася іерархічная структура феадальнай зямельнай уласнасці, характэрны васалітэт. Кожны феадал валодаў зямлёю (феодам, ленам), атрыманай ад другога феадала на пэўных умовах. Найважнейшай з іх было выкананне вайсковай службы, пераважна рыцарскай, г.зн. у поўным узбраенні і вярхом на кані. Такія пазямельныя адносіны суправаджаліся асабістай залежнасцю падапечнага феадала (васала) ад таго, хто яго апякаў (сеньёра). Так складвалася "феадальная іерархія" (кароль, герцагі і графы, бароны, рыцары). Сяляне не адносіліся да феадальнай іерархіі, але знаходзіліся ў яе аснове і за іх кошт жылі прадстаўнікі ўсёй іерархіі. У пісьмовых крыніцах тых часоў гаворыцца аб падзеле

[1]*Пьянков А.П.* Происхождение общественного и государственного строя Древней Руси. С. 51.

грамадства на тых, хто моліцца (святароў, манахаў), тых, хто ваюе (рыцараў), і тых, хто працуе (сялян)[1].

Утварэнне буйнога феадальнага землеўладання, з'яўленне залежных сялян у розных краінах мелі свае асаблівасці. У шэрагу абласцей Заходняй Еўропы феадалізм развіваўся ў выніку сінтэзу германскіх родаплемянных і познарымскіх рабаўладальніцкіх адносін. Гэта так званы сінтэзны шлях развіцця ранняга феадалізму. Ён быў характэрны для франкскага і іншых каралеўстваў. Германцы запазычвалі некаторыя дасягненні рымскай тэхнікі і агракультуры: двухполле і трохполле, добрае ўгнаенне глебы, стойлавае ўтрыманне жывёлы. У заваяваных краінах германцы са свайго боку аказвалі ўплыў на развіццё вытворчых сіл. За кошт германскіх абшчыннікаў, што сюды перасяліліся, значна вырас слой свабоднага сялянства і атрымала развіццё дробная вытворчасць, якая тады была прагрэсіўнай формай гаспадаркі.

Ад сінтэзнага шляху развіцця феадальных адносін адрозніваўся працэс феадалізацыі, які гісторыкі называюць бяссінтэзным і пры якім феадалізацыя ішла больш марудна[2]. Ён праходзіў у краінах, дзе ўзаемадзеянне з рымскім грамадствам было менш значным ці адсутнічала наогул (англасаксонскія каралеўствы і ўсе вобласці ўнутранай Германіі)[3]. Без усялякага ўзаемадзеяння з познарымскімі адносінамі адбывалася разлажэнне родавага ладу і станаўленне феадальных адносін у Скандынаўскіх краінах, а таксама ў краінах лясной паласы Усходняй Еўропы, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі.

Феадалізацыя сярэднявечнага грамадства была ў сваёй аснове заканамерным гістарычным працэсам узнікнення буйнога землеўладання і феадальнай залежнасці сялян, але развівалася яна ў асноўным двума шляхамі — сінтэзным і бяссінтэзным, прычым яны мелі свае рэгіянальныя асаблівасці ў кожнай краіне. Таму гісторыкі вылучаюць у Еўропе лакальныя мадэлі цывілізацыі (заходнееўрапейская, цэнтральнаеўрапейская, усходнееўрапейская) і рэгіёны з рознымі формамі і тэмпамі грамадскага развіцця[4].

Разлажэнне родаплемянных адносін і станаўленне феадалізму ва ўсходніх славян адбывалася без узаемадзеяння з познарымскімі адносінамі. Тут адбываўся бяссінтэзны, больш замаруджаны працэс зараджэння феадальных адносін, чым, напрыклад, у некаторых абласцях Заходняй Еўропы, дзе ён праходзіў прыкладна на тры стагоддзі раней.

**Меркаванні гісторыкаў.** У гістарыяграфіі ўсходніх славян у пасляваенныя гады ўсталяваўся шаблон, паводле якога сацыяльна-эканамічныя адносіны ў X—XIII стст. былі феадальнымі, а феадалізм як фармацыя (ступень гістарычнага развіцця) пачаўся ў Беларусі з IX ст. У "Гісторыі Беларускай ССР" (1954), прызначанай для шырокіх колаў грамадскасці, сцвярджалася, што яшчэ "да IX ст. феадальныя адносіны на Русі ўмацаваліся і сталі пануючымі". Пра раскол грамадства на антаганістычныя класы і фарміраванне феадальных адносін ва ўсходніх славян у IX ст. гаварылася ва ўсіх выданнях "Гісторыі БССР" (1962, 1972, 1977).

Аднак у работах В. Гарамыкінай сцвярджаецца, што ў Кіеўскай Русі, як і ў іншых краінах, спачатку існавала рабаўладальніцкая фармацыя, а затым у XI—XIII стст. яе змяніў феадалізм. Яна піша: "У старажытнарускім грамадстве афармляліся класы-саслоўі рабаўладальнікаў і рабоў, а не феадалаў і прыгонных сялян"[5]. Пецярбургскі гісторык І. Фраянаў разглядае даніну ў

[1] *Гуревич А.Я., Харитонович Д.Э.* История средних веков. М., 1995. С. 86—89.
[2] *Удальцова З.В.* Генезис и типология феодализма // Средние века. 1974. № 34. С. 14.
[3] История средних веков. М., 1966. Т. 1. С. 99, 107.
[4] *Риер Я.Г.* Очерки истории средневековых цивилизаций. Могилев, 1997. С. 7, 53.
[5] *Горемыкина В.И.* К проблеме истории докапиталистических обществ (на материале Древней Руси). С. 22, 31, 47, 76.



Двор гараджаніна з Мінска XII ст. (рэканструкцыя па археалагічных даных)

IX—XI стст. выключна ў якасці кантрыбуцыі, якую накладвалі кіеўскія князі на заваяваныя імі плямёны, і адхіляе меркаванне аб магчымых у ёй элементах феадальнай рэнты. На яго думку, невялікая вотчына грунтавалася ў асноўным на рабскай і паўсвабоднай працы і толькі пазней з'явіліся элементы феадальнай залежнасці. Васалітэт (княжацкі, баярскі) меў дафеадальны характар, паколькі ён быў пазбаўлены пазямельнай асновы. "У такім васалітэце няма і грана феадалізму", — канстатуе аўтар[1]. А. Дварнічэнка піша, што ў Верхнім Падняпроўі і Падзвінні ў Полацкай і Смаленскай землях феадалізм раней XIV—XV стст. наогул не склаўся. У цэнтр увагі пытання аб генезісе феадалізму ён ставіць лёс гарадской абшчыны[2]. Як бачна, той стэрэатып, які паўтараўся ў выданнях гісторыі СССР і гісторыі БССР, грунтоўна аспрэчваўся шэрагам гісторыкаў.

У Рускай Праўдзе як у кароткай, так і ў падрабязнай рэдакцыях гаворка ідзе пра чэлядзь і халопаў. Чэлядзь упамінаецца ў Менску і яго акрузе ў сувязі з падзеямі 1084 г., калі Уладзімір Манамах разбурыў горад і не пакінуў тут "ні чалядзіна, ні скаціны". У сучаснай гістарыяграфіі няма адзінства думкі наконт пытання аб чэлядзі і халопах. Найбольш распаўсюджана меркаванне, што чэлядзь і халопы ў X—XII стст. — гэта рабы. Чэлядзь фарміравалася з палонных, якіх захоплівалі ў час войнаў, а халопы — з мясцовага люду[3]. Напэўна, "чэлядзь" — тэрмін больш ранні, які некаторы час суіснаваў з новай назвай "халоп".

У падрабязнай рэдакцыі Рускай Праўды шэраг артыкулаў (110—121) прысвечаны становішчу халопаў. Яны прадугледжваюць тры крыніцы халопства: 1) дабрачынны пераход свабоднага чалавека ў рабства; 2) жаніцьба свабоднага на рабе; 3) халопства па цівунству ці па ключу, г.зн. уступленне на пасады, якія звычайна выконвалі халопы. На мяжы свабоднага чалавека і раба знаходзіліся закупы[4].

Буйнейшы расійскі гісторык В. Ключэўскі быў перакананы ў тым, што "эканамічны дабрабыт Кіеўскай Русі трымаўся на рабаўладанні нават у XII ст."[5]. Аднак асноўнай масай насельніцтва ва ўсходніх славян тады з'яўляліся свабодныя абшчыннікі — "людзі", як яны названы ў крыніцах. На працягу доўгага часу ў славян і балтаў існавала вольнае сялянства, былі значныя рэшткі родаплемяннога ладу. Разам з гэтым у IX—XI стст. пачаў развівацца працэс феадалізацыі.

---

[1] *Фроянов И.Я.* Киевская Русь. Очерки социально-политической истории. Л., 1980. С. 87.

[2] *Дворниченко А.Ю.* Эволюция городской общины и генезис феодализма на Руси // Вопросы истории. 1988. № 1. С. 73; *Ён жа.* Русские земли Великого княжества Литовского: Очерки истории общины, сословий, государственности. СПб., 1993.

[3] *Фроянов И.Я.* Киевская Русь. Очерки отечественной историографии. Л., 1990. С. 132.

[4] Памятники права Киевского государства X—XII вв. М., 1952. С. 119—120.

[5] *Ключевский В.О.* Сочинения. М., 1956. Т. 1. С. 274.

Такім чынам, ва ўсходніх славян у IX—XI стст. суіснавалі тры эканамічныя ўклады: абшчынна-сялянскі, рабаўладальніцкі і феадальны, г.зн. эканоміка і грамадскі лад былі шматукладнымі[1].

## 2. Генезіс феадальных адносін на беларускіх землях

Ва Усходняй Еўропе ў развіцці форм уласнасці на зямлю і фарміраванні розных катэгорый феадальна-залежнага насельніцтва вылучаюцца два этапы. Першы этап ахоплівае IX—XI стст. і характарызуецца пераважна дзяржаўнай формай маёмасці. Яна была вынікам абкладання свабодных абшчыннікаў суседніх зямель данінай, якая пазней ператваралася ў феадальную рэнту[2].

Першы этап генезісу феадальных адносін даследчыкі называюць "давотчынным" і на аснове шэрагу матэрыялаў падзяляюць дзяржаўную зямельную ўласнасць на княжацка-дзяржаўную і дзяржаўна-карпаратыўную[3]. У першым выпадку распараджальнікам дзяржаўнага зямельнага фонду быў князь, у другім — яго саўдзельнікамі ў гэтай справе з'яўляліся баяры. Першапачатковая сістэма збору даніны праз "палюддзе" ў сярэдзіне X ст. была заменена "павозам", г.зн. даніна дастаўлялася ў асобныя цэнтры — пагосты. Збіралі яе з асобных сялянскіх гаспадарак ("двара", "дыма", "рала"). Княжацкі суд абкладваў смердаў і даннікаў сістэмай штрафаў ("прадаж") у казну. Абшчыннікі-сяляне страчвалі магчымасць свабоднага карыстання даходамі са сваіх зямель, якія сталі вярхоўнай уласнасцю дзяржавы. Гэтыя землі разам з сялянамі маглі па загадзе князя перадавацца ў карыстанне прадстаўнікам вярхушкі грамадства.

Знаходкі княжацкіх віслых пячатак пры археалагічных раскопках, на думку даследчыкаў, указваюць на прыярытэт князя ў размеркаванні зямельнага фонду. Гэтыя пячаткі замацоўвалі пазямельныя дакументы. Пячатка Ізяслава Уладзіміравіча, князя полацкага, датаваная канцом X ст., сведчыць аб паўнамоцтвах полацкага князя ў сферы выканаўча-распарадчай дзейнасці з моманту аднаўлення ўлады дынастыі Рагвалодавічаў. Але адначасова з князем дзейнічаў дарадчы, відаць, у пэўнай ступені заканадаўчы орган — рада, якая складалася з "мужоў". Адказ полацкага князя Брачыслава скандынаўскім наёмнікам, што, перш чым вырашыць справу аб найме дружыны, ён павінен параіцца са сваімі мужамі, сведчыць аб наяўнасці такога дарадчага органа ў Полацкай дзяржаве. Менавіта мужы даюць князю грошы, а ён іх толькі траціць. Гэты факт пацвярджае, што ў Полацкай зямлі дзяржаўная ўласнасць мела форму дзяржаўна-карпаратыўнай. Пры такім становішчы ўсе даходы былі падкантрольнымі радзе, і дзяржаўны налог, даніна (рэнта) у значнай ступені з'яўляліся прадметам падзелу паміж членамі землеўласніцкай карпарацыі.

У X—XI стст. меў распаўсюджанне так званы "васалітэт без ленаў", калі вышэйшая знаць магла надзяляцца князем правам збору на сваю карысць даніны з той ці іншай тэрыторыі. Прадстаўнікі служылай знаці не былі землеўладальнікамі. Зямля з'яўлялася дзяржаўнай маёмасцю. Слушнай з'яўляецца думка, што баярства, якое вядзе свой пачатак з племяннной знаці,

---

[1]*Штыхаў Г.В.* Шматукладнае грамадства IX—XI стст. і пытанні перыядызацыі раннесярэдневяковай гісторыі Беларусі // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён. Мн., 1992. С. 41—53.

[2]История крестьянства в Европе. Эпоха феодализма. Т. I. Формирование феодально-зависимого крестьянства. М., 1985. С. 327.

[3]*Янин В.Л.* Новгородская феодальная вотчина. М., 1981. С. 273, 279.

магло мець уласныя зямельныя надзелы раней, чым іх атрымалі князі, якія ўзначалілі дзяржаву[1]. Верагодна, менавіта баярства, якое выйшла з племяннной знаці, запрасіла на княжацкі стол у Полацк намесніка кіеўскага князя Ізяслава і склала з ім "рад". Яно дало згоду і на выдзяленне зямель з абшчыннага фонду ў якасці асабістага ўладання полацкага княжацкага роду. Гэтыя землі разам з Ізяслаўлем, пабудаваным у Полацкай зямлі па загадзе Уладзіміра Святаславіча, сталі ядром будучага дамена полацкіх нашчадкаў Рагвалода. Такім чынам, можна лічыць, што ў Полацкай зямлі як дзяржаве ішло паралельнае развіццё княжацкага і баярскага землеўладання. Пачатак яму быў пакладзены з моманту аднаўлення дынастыі Рагвалодавічаў на полацкім прастоле.

З даменіяльных уладанняў полацкіх князёў ішло выдзяленне зямельных надзелаў царкве. Пад будаўніцтва гарадскіх храмаў магла выдзяляцца і дзяржаўная зямля. Гарадскія храмы як цэнтры хрысціянізацыі насельніцтва знаходзіліся на ўтрыманні дзяржавы за кошт "дзесяціны" ад даніны, суда і гандлю. Яны не маглі быць значнымі землеўладальнікамі не толькі ў раннім сярэднявеччы, але існавалі за кошт "дзесяціны" і ў больш позні час. Дакументы 1516 г. сведчаць аб тым, што віцебскія саборы Успення і архангела Міхаіла, таксама як і іншыя пяць храмаў, знаходзіліся на харчовым і грашовым утрыманні "гаспадарскіх" валасцей[2]. Аб царкоўным землеўладанні ў раннім сярэднявеччы магчыма гаварыць толькі з таго часу, калі побач з княжацкай "дзесяцінай" на ўтрыманне царкоўных устаноў (епіскапій) пачалі выдзяляцца зямельныя надзелы. Перш за ўсё гэта былі землі з асабістай маёмасці князёў. Так, жонка менскага князя Глеба Усяславіча ў 1158 г. падаравала Пячэрскаму манастыру пяць сёл з чэляддзю[3]. Першы зямельны надзел гэтаму манастыру непадалёк ад сяла Берастова ў 1061—1062 гг. падараваў дзед Анастасіі — князь Ізяслаў Яраславіч[4].

**Княжацкі дамен.** З XII ст. пачынаецца другі этап у генезісе феадалізму, калі існуюць такія формы землеўладання, як княжацкае (даменіяльнае), баярскае, царкоўнае. Даменамі даследчыкі лічаць асабістыя ўладанні князя, якія застаюцца за ім незалежна ад знаходжання на княжацкім прастоле і з'яўляюцца спадчыннымі[5]. На землях сучаснай Беларусі ў раннім сярэднявеччы знаходзіліся адначасова некалькі дзяржаўных структур рознага ўзроўню (Полацкая зямля, Тураўская воласць, частка Смаленскага княства). На поўнач ад Полацкай зямлі былі размешчаны Наўгародская, на поўдзень — Кіеўская, Чарнігаўская землі. Бліжэйшая акруга Кіева складала дамен кіеўскага княжацкага дому Рурыкавічаў — "Рускую зямлю", які ўтрымлівалі ў сваіх руках найбольш уплывовыя галіны гэтага роду ў выглядзе "частак" ці "прычасця"[6].

Княжацкія дамены Смаленскага княства і Наўгародскай зямлі пачалі ўтварацца таксама, калі ў гэтых дзяржаўных структурах акрэсліліся самастойныя дынастыі ці скляліся адпаведныя ўмовы. Рознастадыяльнасць развіцця дадзеных дзяржаўных структур адлюстравана ў храналагічных рамках утварэння княжацкага дамена. Кіеўскі дамен "Руская зямля" пачаў складвацца і набыў выразныя рысы ўжо ў X ст., дамен полацкіх князёў фар-

---

[1]*Ловмяньский Г.* О происхождении русского боярства // Восточная Европа в древности и средневековье. М., 1978. С. 95.

[2]Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. СПб., 1863. Т. I. С. 65.

[3]ПСРЛ. Т. 2. С. 492, 493.

[4]ПВЛ. Ч. 1. С. 106.

[5]*Алексеев Л.В.* Смоленская земля в IX—XIII вв. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980. С. 125.

[6]*Котляр Н.Ф.* Отражение в "Слове о полку Игореве" госструктуры Руси эпохи феодальной раздробленности // Древнейшие государства на территории СССР. М., 1985. С. 66—67.

міруецца з канца X — пачатку XI ст., у Смаленскім княстве ён бярэ пачатак у другой палове X ст., актыўна развіваецца пры Расціславе і яго нашчадках. Пра княжацкі дамен Наўгародчыны магчыма гаварыць з XII ст. і ён існаваў на працягу ўсяго перыяду незалежнасці Ноўгарада[1]. Нягледзячы на храналагічныя разбежкі ўтварэння княжацкага дамена ў асобных частках Усходняй Еўропы, такая форма феадальнага землеўладання мае аднолькавыя характэрныя рысы.

Як ужо адзначалася, князь, уступаючы ў правы валодання ці ўпраўлення дзяржаўнай адзінкай, заключаў "рад" з мясцовай знаццю, што вяла свой пачатак ад племяннога ладу. Наваколле племянных цэнтраў у выглядзе лепшых зямельных надзелаў было занята мясцовай знаццю. Таму князь мог уціснуцца паміж імі цераспалосна на невялікіх плошчах. У Ноўгарадзе княжацкай рэзідэнцыяй становіцца гарадзішча, дзе будуецца каменная царква Благавешчання. На супрацьлеглым баку Волхава ў княжацкі дамен уваходзіць той зямельны ўчастак, дзе ў 1119 г. закладзены княжацкі Юр'еў манастыр.

У Смаленскай зямлі княжацкая рэзідэнцыя размешчана на тэрыторыі сучаснага Смаленска і першапачаткова княжацкія ўладанні былі зусім невялікімі, аб чым, на думку Л. Аляксеева, сведчыць "Устав" Расціслава, князя смаленскага. Даследчык называе самымі аддаленымі часткамі княжацкага дамена ў цэнтры Смаленскага княства воласць Мірацічы, "уезды княжыя", г.зн. розныя ўгоддзі[2]. Да першаасновы княжацкага дамена ў Полацкай зямлі адносіцца рэзідэнцыя ў Ізяслаўлі (канец X ст.), дзядзінец пачатку XI ст. на Верхнім замку ў Полацку.

Да першапачатковых зямельных надзелаў полацкіх князёў магчыма аднесці таксама Бельчыцу (Бельчыцы) у бліжэйшай акрузе Полацка. Гэта мясцовасць размешчана на левым беразе Заходняй Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Бельчанкі. У XII ст. тут знаходзілася загарадная рэзідэнцыя полацкіх князёў, а таксама княжацкі манастыр з чатырма храмамі. Адзін з храмаў Бельчыцкага манастыра даследчыкі вылучаюць у якасці пахавальні полацкіх князёў[3]. Усе даследаваныя ў Бельчыцах пабудовы каменныя. Цяжка ўявіць, што толькі ў XII ст. полацкія князі змаглі атрымаць гэтыя землі ў асабістую маёмасць. Хутчэй за ўсё яны нейкі час выкарыстоўваліся княжацкай сям'ёй як сельскагаспадарчыя ўгоддзі ў непасрэднай блізкасці да горада.

У склад княжацкага дамена ў раннім сярэднявеччы ўваходзілі двары, гарады, сёлы, неўмацаваныя паселішчы — "места", лясы, ралля, азёры і інш. Яны маглі быць раскіданы па розных кутках дзяржавы, з'яўляліся асноўнай крыніцай даходаў на ўтрыманне князя і яго двара, а таксама фондам зямельных надзелаў васалаў.

Летапісы, а таксама "Слова пра паход Ігаравы" ўпамінаюць у дачыненні да полацкіх князёў тэрмін "жизнь" у сэнсе "маёмасць". У Іпацьеўскім летапісе пад 1159 г. гаворыцца, што ў Рагвалода Барысавіча "братья его веземше под ним волость его и жизнь его всю". А палачане раскайваюцца перад князем: "и жизнь твою всю разграбихом и твоея дружины". У "Жыцці..." найпадобнай Ефрасінні Полацкай названы "дамы" князёў і баяр (XII ст.). Пад Полацкам было паселішча, якое ў раннім сярэднявеччы вядома пад назвай "Сяльцо". Усе гэтыя кампаненты ўваходзілі ў склад дамена полацкіх князёў. "Жизнь Всеславля" (Чарадзея полацкага) згадваецца ў "Слове пра паход Ігаравы". Асабістая маёмасць — "жизнь" прадстаўнікоў княжацкага дому вядома на

[1]*Янин В.Л.* Новгородская феодальная вотчина. М., 1981. С. 242—243.

[2]*Алексеев Л.В.* Смоленская земля в IX—XIII вв. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии.С. 128.

[3]*Трусаў А.* Бельчыцкі манастыр // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1. С. 50.



Металічныя пласцінкі, якія нашываліся на адзенне, і фрагмент залатога пярсцёнка з раскопак дзядзінца ў Друцку (рубеж XII — XIII стст.)

Полаччыне ўжо ў XI ст. Крыніцы не раскрываюць сутнасці дадзенага тэрміна. Г. Штыхаў лічыць, што ў паняцце "жизнь" уваходзяць таксама сёлы і нівы. Пад домам ён разумее комплекс двара з пабудовамі і гаспадарчымі ўгоддзямі[1]. Як паказалі археалагічныя даследаванні, у Друцку двор князя размяшчаўся ў дзядзінцы[2]. У Полацку ў другой палове XII ст. быў пабудаваны каменны княжацкі церам, які знаходзіўся на Верхнім замку[3]. У Кіеве таксама вядомы "двор Брячиславль".

У княжацкі дамен уваходзілі гарады, пабудаваныя па загадзе князя. Цэнтры пэўных тэрытарыяльных акруг, што адносіліся да дамена, называліся па імені князя. У Полацкай зямлі вядомы гарады Браслаў (магчыма, пабудаваны Брачыславам), Барысаў (1102), пабудаваны князем Барысам.

Даследчыкі вылучаюць два этапы ў фарміраванні княжацкага дамена ў Смаленскай і Наўгародскай землях. Першы звязаны з уступленнем прадстаўніка княжацкага дому Рурыкавічаў ва ўпраўленне дзяржаўнай адзінкай і выдзяленнем яму для ўласнага карыстання часткі абшчынных земель. Другі этап адзначаны захопам і падпарадкаваннем князю зямель, на якія не распаўсюджвалася ўлада родаплемянной знаці, тэрыторыі, дзе кіраваў князь — прадстаўнік дзяржаўнай улады.

У Смаленскім княстве такімі землямі былі паўночныя тэрыторыі радзімічаў, якія адышлі да князя ў выніку паходаў Расціслава Мсціславіча (1127, 1142). На гэтых землях па княжацкім загадзе будуецца шэраг адміністрацыйных цэнтраў. Сярод іх на тэрыторыі Беларусі даследчыкі выдзяляюць Мсціслаўль, Ізяслаўль (?) (гарадзішча каля в. Горы) і інш.[4]

Пашырэнне дамена полацкіх князёў адбывалася такім жа чынам, як і на суседніх тэрыторыях. Па-першае, у дамен уваходзяць землі, аддаленыя ад цэнтра дзяржаўнай структуры, але густа заселеныя, размешчаныя на волаках (Браслаўская воласць, Лукомльская воласць). Па-другое, нягледзячы на аддаленасць ад цэнтра, яны зручна з ім злучаюцца воднымі шляхамі.

З усталяваннем даменіяльных княжацкіх уладанняў даходы князя падзяляюцца на дзве часткі: 1) даходы з валасцей выплачваюцца князю да таго часу, пакуль ён знаходзіцца на чале дзяржавы; 2) даходы з даменіяльных зямель пераходзяць да княжацкага роду назаўсёды[5].

---

[1] *Штыхаў Г.В.* Шматукладнае грамадства IX—XI стст. і пытанні перыядызацыі раннесярэдневяковай гісторыі Беларусі // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 46, 51.

[2] *Алексеев Л.В.* Полоцкая земля в IX—XIII вв. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. С. 155—157.

[3] *Раппопорт П.А., Шолохова Е.В.* Дворец в Полоцке // КСИА. Вып. 164. 1981. С. 91—99.

[4] *Метельский А.А.* Становление Посожских городов Смоленской земли // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1997. № 12. С. 181—186.

[5] *Новосельцев А.П., Пашуто В.Т., Черепнин Л.В.* Пути развития феодализма. М., 1972. С. 153—155.

Невядома, як падзяляліся даходы з даменіяльных уладанняў паміж асобнымі прадстаўнікамі княжацкай сям'і ў Полацкай зямлі. У Кіеўскай дзяржаве "Руская зямля" была замацавана ў выглядзе "частак" за некалькімі галінамі княжацкага роду. Гэта адбылося тады, калі ўжо набыло сілу вотчыннае права. Нездарма Іпацьеўскі летапіс пад 1142 г. паведамляе: "Посла Всеволод ис Киева на Вячьслава (князя Тураўскага) река седеши во Киевской волости, а мне достоить, а ты поиди в Переяславль отцину свою..." П. Лысенка слушна заўважыў, што Тураў, які не з'яўляўся "воласцю" Кіева, не мог належаць Ольгавічам[1]. Аднак, як бачна, яны хацелі ўзнавіць парушаную чаргу валодання валасцямі. Яшчэ Яраслаў аддаў Пераяслаў Усеваладу — дзеду Вячаслава. Тураў, пасля таго як быў страчаны Ізяславічамі, павінен быў перайсці да Святаславічаў, прадстаўніком якіх з'яўляўся Усевалад Ольгавіч — князь кіеўскі. У Смаленскім княстве з даменіяльных уладанняў у 1165 г. былі выдзелены Красн і Васілеў унуку Вячаслава смаленскага Раману. Магчыма, што ў Полацкай зямлі з даменіяльных уладанняў полацкага княжацкага дому рабіліся некаторыя вылучэнні асобным яго прадстаўнікам. Напрыклад, у другой палове XII ст. мог быць выдзелены Лагожск з воласцю.

**Баярская вотчына.** Баярства як саслоўная групоўка прайшло доўгі і марудны шлях аб'яднання прадстаўнікоў служылай эліты з родавай знаццю. Тэрмін "балярын" ці "баярын" зафіксаваны ў лексіцы старажытнаславянскай пісьменнасці XI ст. На матэрыялах Усходняй Еўропы прасочваецца яго ўжыванне ў якасці збіральнага тэрміна да XII ст. Гэта сведчыць аб адсутнасці рэальна існуючага ў старажытным грамадстве той пары адзінкавага паняцця "баярын" для вызначэння прадстаўніка асобнай сацыяльнай групоўкі. Толькі з пачатку XII ст. яно ўсё часцей з'яўляецца на старонках старажытных летапісаў, грамат, царкоўных статутаў. Даследчыкі лічаць, што ў першапачатковай форме тэрмін "боляре" меў значэнне літаратурнага (X—XI стст.) і толькі з XII ст. суадносіцца з канкрэтнай групоўкай грамадства[2]. Гаварыць аб баярах як групоўцы землеўладальнікаў магчыма толькі з моманту ўтварэння сацыяльна аднароднай часткі грамадства, абазначанай гэтым тэрмінам.

Сапраўды, у пазнейшай рэдакцыі Рускай Праўды (канец XI—XII ст.) сустракаюцца звесткі аб "баярскім цівуне", "баярскім радовічы", "баярскіх халопах", вымарачнай вотчыне[3]. Да маёмасці баяр адносілася таксама "жизнь", аб чым гаворыцца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1159 г. у дачыненні да дружыны друцкага князя Рагвалода Барысавіча. Вядомы таксама "село", "дом", што належалі баярам. Узнікненне менавіта ў XII ст. шэрагу невялікіх умацаваных "гарадкоў", вакол якіх існавалі адкрытыя паселішчы, дазваляе адносіць іх да баярскіх маёнткаў, якія кантралявалі пэўную акругу ці валодалі ёю. Сярод баярскіх родаў выдзяляліся найбольш старажытныя і заможныя. Сціплыя пісьмовыя звесткі не дазваляюць прасачыць развіццё гэтых родаў на тэрыторыі Беларусі.

Сярод тураўскіх баяр вядомы тысяцкі Іванка, які ўдзельнічаў у паходзе 1127 г. у Полацкую зямлю. У Іпацьеўскім летапісе пад 1146 г. названы баярын Жыраслаў Іванкавіч — пасаднік тураўскі, які потым стаў пасаднікам у Ноўгарадзе. У гэтым жа летапісе згадваецца і баярын Васіль Палачанін[4]. Аднак больш поўныя звесткі аб баярскіх родах адносяцца да канца XIV ст.

[1] *Лысенко П.Ф.* Города Туровской земли. С. 27.

[2] *Завадская С.В.* "Болярин" — "боярин" в древнерусских письменных источниках // Древнейшие государства на территории СССР. М., 1985. С. 89—94.

[3] Русская Правда Пространной редакции. Ст. 1, 14, 46, 66, 91.

[4] ПРСЛ. Т. 2. С. 325.

Асобнае месца сярод полацкіх баяр займаў род Корсакаў. Браты Фёдар і Вярціла ўпамінаюцца ў полацкіх граматах у 1385 г. Зямельны абшар на р. Дзісне на паўднёвым захадзе Полаччыны склаў галоўную вотчыну Корсакаў. На Меншчыне галіной гэтага роду былі Савічы (Совічы). У першай палове XVI ст. род Корсакаў уваходзіў у дзесятак найбагацейшых родаў Вялікага княства Літоўскага[1].

**Царкоўнае землеўладанне.** Яно набывае развіццё з XII ст. Як вядома, першыя храмы на тэрыторыі Беларусі былі ўзведзены ў імя св. Багародзіцы і названы ў крыніцах 1001 г. (Друцк), 1007 г. (Полацк). Яны непасрэдна могуць быць звязаны з узведзенай у Кіеве (989—996) мануменатльнай царквой св. Багародзіцы (Дзесяціннай), дзе знаходзілася мітраполія. Найстаражытнейшыя храмы былі ў асноўным драўлянымі (рэшткі царквы св. Багародзіцы выяўлены ў пласце XII ст. у Мсціславе). Існавалі царкоўныя ўстановы канца X—XI ст. за кошт дзесяціны, прынцып фарміравання якой упершыню быў вызначаны Уставам Уладзіміра Святаславіча на Дзесяцінную царкву ў Кіеве (995)[2]. З цягам часу да дзесяціны царкве пачынаюць дадавацца зямельныя ўгоддзі, іншыя княжацкія наданні з улікам значнасці царкоўнага аб'екта. Уяўленне пра іх дае дакумент па Друцкай царкве св. Багародзіцы (XIV ст.): "Да дал святеи Богородице село Моравьиничи и с людьми и со всеми пошлинами и с медовою данью и с селищи и с пожьнями, что ис того села заведають. А что ис тои дани пошлина шла ключнику, та пошлина понамарю, которыи служить у святыи Богородици. Да дал есмь ... ис своего села из Видиничь десятину ис жита"[3]. У XI—XII стст. у розных дзяржаўных структурах Усходняй Еўропы будуюцца каменныя храмы, усталёўваюцца епіскапіі (епархіі). У 50—60-х гадах XI ст. пабудаваны кафедральны Сафійскі сабор у Полацку, дзе знаходзілася рэзідэнцыя полацкіх епіскапаў. У 80-я гады XI ст. пачалося ўзвядзенне каменнага храма ў Менску. XII ст. датуюцца каменныя храмы Віцебска, Турава. Пабудова каменных храмаў звязана з развіццём удзельнай сістэмы, таксама як і з'яўленне шэрагу епіскапій (у тым ліку Тураўскай, Смаленскай), што падкрэслівала ўзмацненне ўлады асобных галін княжацкіх дынастый Кіеўскай і Полацкай дзяржаў.

Як сведчаць крыніцы, першапачатковыя зямельныя надзелы епархій былі невялікімі. Так, пры ўтварэнні Смаленскай епархіі яе зямельнае забеспячэнне складалася з двух сёл, зямлі "в Погановичах Мощиньской", некалькіх азёр і сенажацей. Усе гэтыя аб'екты не ўтваралі кампактнай тэрыторыі. Верагодна, што і зямельныя ўгоддзі Полацкай епархіі першапачаткова былі невялікімі. Калі ўлічваць, што ў Сяльцы пад Полацкам знаходзіўся храм-пахавальня полацкіх епіскапаў, то можна лічыць, што, магчыма, яно адышло ад епіскапіі з княжацкага дамена пры яе ўтварэнні. Важным момантам пры разглядзе пытання аб зямельных уладаннях епіскапій, а таксама асобных храмаў — сакральных цэнтраў удзелаў з'яўляецца наяўнасць у даравальных граматах імунітэту феадальнага землеўладання. Так, у грамаце Смаленскай епіскапіі (30-я гады XII ст.) гаворыцца аб перадачы ёй "прощенников... с медом, и с кунами, и с вирами, и с продажами", г.зн. з поўным падатковым і судовым імунітэтам. Перадачу судовых і падатковых правоў вотчынніка падкрэсліваюць запісы ў дакументах: "А по моем животе не надобе вьступатися ни моимь детемь, ни моим

[1] *Насевич В.Л.* Род Корсакаў — адзін са старажытных баярскіх родаў Полаччыны // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1992. С. 45—47.

[2] *Щапов Я.Н.* Княжеские уставы и церковь в Древней Руси XI—XIV вв. М., 1972. С. 121—126.

[3] *Рогов А.И., Покровский Н.Н.* Собрание рукописей академика М.Н. Тихомирова, переданное Сибирскому отделению АН СССР // Археографический ежегодник за 1965 год. М., 1966. С. 162.

тивуном, ни иному которому насилнику"[1]. Аналагічна магчыма расцэньваць словы полацкага епіскапа Іллі, калі ён у прысутнасці князёў Барыса і Георгія перадаў Сяльцо пад Полацкам Ефрасінні: "Се отдаваю Еуфросинии место Святого Спаса при вас, да по моем животе никтоже не посудит моего даниа"[2].

На тэрыторыі Беларусі добра вядомыя комплексы Спаса-Ефрасіннеўскага і Барысаглебскага (Бельчыцкага) манастыроў пад Полацкам. Актывізавалася царкоўнае будаўніцтва ў другой палове XII ст. у Тураўскай воласці. Яшчэ раней жонка Святаполка Ізяславіча заснавала ў Тураве жаночы Варварынскі манастыр. Узнікненне ў XII ст. значнай колькасці манастыроў сведчыць аб паспяховым развіцці царкоўнага землеўладання.

## 3. Сельская гаспадарка ў X—XIII стст.

**Земляробства.** Сельскагаспадарчая вытворчасць у сярэднія вякі з'яўлялася асноўнай рысай дзейнасці ўсходніх славян. Тады галоўнай галіной сельскай гаспадаркі было земляробства. Яно знаходзілася ў непасрэднай залежнасці ад прыродна-кліматычных умоў і традыцый, якія складваліся стагоддзямі.

Важным пытаннем пры вывучэнні земляробства пэўнай гістарычнай эпохі з'яўляецца даследаванне ўзроўню землеапрацоўчай тэхнікі. У сувязі з адсутнасцю пісьмовых крыніц па стане і развіццю сельскагаспадарчай вытворчасці сярод сельскага і гарадскога насельніцтва ў X—XIII стст. надзейнымі крыніцамі па вывучэнні тагачаснага земляробства і жывёлагадоўлі з'яўляюцца археалагічныя матэрыялы[3].

Ворныя прылады ў сярэднявеччы рабілі з дрэва. Металічнымі былі толькі асобныя іх часткі. На пасяленні каля в. Хатомель Столінскага раёна знойдзены два металічныя наральнікі і чарэсла ад ворнай прылады VIII—IX стст., якая з'яўляецца папярэднікам плуга. Падобныя наральнік і чарэсла, якое разразала пласт зямлі, выяўлены каля в. Дворыцкая Слабада Мінскага раёна з матэрыялам X—XI стст. Многія даследчыкі сцвярджаюць, што ўдасканаленая ворная прылада працы з'явілася спачатку на поўдні Беларусі.

Прымяняліся і больш простыя ворныя прылады без чарэсла. Аб гэтым сведчаць металічныя наральнікі XI—XIII стст., знойдзеныя на розных помніках (Брэст, Мазыр, Навагрудак, в. Збораў Рагачоўскага раёна). У Брэсце выяўлена дубовае прамаградзільнае рала XIII ст. У XI—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі выкарыстоўвалі два тыпы рал (беспалозныя і ралы з полазам), якія ўжываліся ў адпаведнасці ад віду і характару працы на працягу многіх стагоддзяў.

У сувязі з удасканаленнем земляробчых прылад у IX ст. на тэрыторыі Усходняй Еўропы з'явіўся прынцыпова новы больш дасканалы ў параўнанні з ралам від ворнай прылады — двухзубая драўляная саха з двума металічнымі сашнікамі. Яе паяўленне было значным крокам уперад у параўнанні з ралам. Саха больш прыстасаваная да ўмоў лясной паласы. У пачатку 2-га тысячагоддзя яна становіцца асноўнай ворнай прыладай. Сашнік X ст. знойдзены ў Лукомлі. Жалезныя сашнікі выяўлены пры раскопках у Лукомлі, Ваўкавыску, Гродне, Лагойску, Мінску, Оршы, Пінску, Чачэрску. Прымяненне сох было неабходнай умовай пры вядзенні папаравай сістэмы земля-

[1] *Рогов А.И., Покровский Н.Н.* Собрание рукописей академика М.Н. Тихомирова, переданное Сибирскому отделению АН СССР // Археографический ежегодник за 1965 год. М., 1966. С. 162.

[2] Кніга жыцій і хаджэнняў. С. 31

[3] *Коробушкина Т.Н.* Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Мн., 1979.





Ворыва сахой. Жалезныя наканечнікі (нарогі) ад сахі з раскопак Полацка і Пінска

робства. Саха не толькі добра рыхліла зямлю, але падразала карэнне пустазелля, што надзвычай важна пры вядзенні папаравай сістэмы земляробства.

У сярэднявеччы апрача ворных выкарыстоўваліся прылады ручной апрацоўкі глебы: драўляныя рыдлёўкі з металічнымі акоўкамі і металічныя матыгі.

Ураджай збіралі металічнымі сярпамі. У Мінску іх знойдзена 17 экзэмпляраў. Сярпы X—XIII стст. па памерах і форме з мэтай паляпшэння іх працоўных якасцей маюць даволі доўгае (25—30 см) лязо, часта з насечкамі па краі, набліжаюцца да прылад, якімі карысталіся на Беларусі нават у пачатку XX ст.

Зерне намалочвалі драўлянымі цапамі. Лён і каноплі апрацоўвалі на ільнамялках, часалі вялікімі драўлянымі грабянямі. На муку зерне малолі пры дапамозе каменных жорнаў дыяметрам да 30 см. Крупы выраблялiся ў ручных і нажных ступах. Драўляныя нажныя ступы XII—XIII стст. знойдзены ў Мінску і Брэсце.

У X—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі вырошчвалі амаль усе вядомыя ў наш час зернявыя культуры. Шырокае распаўсюджанне атрымала азімае жыта. Разам з тым вырошчвалі яравое жыта. На гарадзішчы каля в. Свіла-1 Глыбоцкага раёна на дне ямы IX ст. быў знойдзены гаршчок з азімым жытам. Батанічнае вывучэнне зерня дало магчымасць устанавіць, што яно вырошчвалася на стараворным полі. З XI ст. жыта становіцца вядучай зернявой культурай. Шырока вядомы быў ячмень. Зерне ячменю выяўлена ў пластах X—XI стст. на гарадзішчы ў вярхоўях Пцічы. Па колькасці ячмень займаў трэцяе месца пасля жыта азімага і пшаніцы. Радзей за іншыя культуры сустракаецца пры раскопках зерне аўса. Самая вялікая яго колькасць знойдзена ў Друцку ў пласце XI ст.

У X—XIII стст. паўсюдна вырошчвалі проса. Гэта старажытная культура была вядома на Беларусі яшчэ ў III—IV стст. да н.э. У XI—XIII стст. вытворчасць проса была пашырана паўсюдна. Пэўную вагу ў пасевах мелі бабовыя культуры. Зерне чачавіцы знойдзена ў Тураве, Ваўкавыску, Клецку. Рэдкай з'яўляецца знаходка агароднага бобу ў Мінску. З X—XIII стст. вядомы лён (Полацк, Тураў, Мінск, Пінск), каноплі (Брэст, Ваўкавыск, Мінск, Гродна).

Грэчка вядома на нашай тэрыторыі з XI ст. (Браслаў). У XII—XIII стст. яе вырошчвалі ў Гродне, Крычаве. Але колькасць знойдзенага на гэтых помніках яе зерня нязначная.

З агародных культур у гэтыя часы вядомы капуста, рэпа, цыбуля, буракі, агуркі. Аб садаводстве сведчаць знаходкі ў Полацку, Мінску, Гродне ў пластах XII—XIII стст. костачак вішні, слівы.

Вывучэнне знойдзенага разам з зернем культурных раслін пустазелля дае магчымасць меркаваць аб сістэмах земляробства, якія прымяняліся ў тыя часы. Устаноўлена, што асноўная колькасць культур была вырашчана

на стараворнай раллі, калі жыта сеялі на пару. У пачатку 2-га тысячагоддзя н.э. на тэрыторыі Беларусі існавала папаравая сістэма земляробства. Ворнае земляробства з прымяненнем папаравай сістэмы можна весці ў форме двухполля або трохполля. У XI—XIII стст. асноўнай сістэмай земляробства была папаравая сістэма з прымяненнем двухполля альбо трохполля.

Уводзілася папаравая сістэма земляробства паступова, таму разам з асноўнай сістэмай земляробства існавалі і пераходныя формы апрацоўкі і выкарыстання зямлі (лясны пералог, стракатае поле, калі яшчэ нё існавала правільнага чаргавання культур). Пэўную вагу мела лядная сістэма, асабліва пры павелічэнні новых ворных плошчаў. Спалучэнне папаравай сістэмы земляробства з іншымі формамі ў залежнасці ад неабходнасці і абставін сведчыць аб рацыянальным вядзенні гаспадаркі.

**Жывёлагадоўля**. Археалагічныя матэрыялы даюць магчымасць не толькі меркаваць аб складзе статку таго ці іншага населенага пункта ў часы сярэднявечча, але і вызначыць, якой жывёле насельніцтва аддавала перавагу, устанавіць суадносіны паміж відамі розных жывёл[1]. На пасяленнях ваеннага тыпу і феадальных замкаў у культурным пласце пераважаюць косці дзікіх жывёл. Вынік вывучэння касцей з гарадзішча і паселішча VIII—IX стст. каля в. Хотомель дае магчымасць упэўніцца, што тут аддавалі перавагу свойскай жывёле (буйны рагаты скот, конь, свіння). Той факт, што косці каня займаюць тут па колькасці другое месца пасля буйной рагатай жывёлы, тлумачыцца роллю гэтай жывёлы, якую яна адыгрывала ў жыцці дружыннага паселішча. Для яго жыхароў конь займаў яшчэ адно з вядучых месцаў сярод хатняга статку.

Палявалі на кабана, касулю, мядзведзя, лася, зубра. Удзельная вага касцей дзікай жывёлы складала 10,9% ад агульнай колькасці.

На паселішчы, размешчаным побач з гарадзішчам, жыло залежнае насельніцтва, якое павінна было забяспечыць у першую чаргу прадукцыяй жыхароў гарадзішча, таму яны разводзілі буйную рагатую жывёлу і свіней.

У гарадах пры раскопках у асноўным знойдзены косці свойскай жывёлы. Выключэнне складаюць толькі тыя гарады, якія ўзніклі як ваенныя крэпасці (Ваўкавыск, Гродна, Турыйск), дзе паляванне ў параўнанні з жывёлагадоўляй адыгрывала першарадную ролю. У сувязі з высокапрадукцыйнасцю свіней іх у той час разводзілі паўсюдна больш, чым іншых жывёл, не толькі ў гарадах (Мінску, Віцебску, Давыд-Гарадку, Клецку, Ваўкавыску), але і на ўмацаваных паселішчах (Маскавічы, Дрысвяты). У Мінску ў пластах XI—XIII стст. косці свойскай жывёлы складаюць 87%. На долю дзікай жывёлы прыходзіцца 12,9% ад агульнай колькасці. Часцей за ўсё тут палявалі на зубра, косці якога складаюць 3,1% ад агульнай колькасці касцей. За ім ідуць такія разнастайныя дзікія жывёлы, як барсук, касуля, мядзведзь, алень высакародны, воўк, лісіца, бабёр.

Вывучэнне касцей свойскай і дзікай жывёлы дае магчымасць даведацца аб тым, што ў эпоху X—XIII стст. склад статку быў тут даволі шырокі. У яго ўваходзілі ўсе вядомыя ў наш час жывёлы і менавіта яны складалі асноўны мясны рацыён насельніцтва. Выключэнне складаюць толькі тыя гарады, у якіх асноўны мясны прадукт атрымлівалі за кошт палявання (Гродна, Ваўкавыск, Турыйск). Мяса свойскай жывёлы для насельніцтва гэтых гарадоў адыгрывала другарадную ролю. Узніклі гэтыя гарады на заходніх межах усходняга славянства як ваенныя крэпасці і ўклад іх жыцця адрозніваўся ад жыцця насельніцтва іншых гарадоў.

---

[1]*Щеглова В.В.* К вопросу о животноводстве и охоте в Белоруссии в средние века // Древности Белоруссии. Мн., 1969. С. 406—426.

У X—XIII стст. насельніцтва тэрыторыі Беларусі апрача жывёлагадоўлі займалася і птушкагадоўляй. У Навагрудку знойдзены косці курэй, качак, гусей, палявалі на жураўлёў. У Ваўкавыску знойдзены косці гусей і качак, якія, паводле меркаванняў спецыялістаў, маглі быць як хатнімі, так і дзікімі. На іх думку, да хатніх відаў належаць толькі чатыры віды птушак, а да дзікіх — адзінаццаць. Сярод дзікіх пераважаюць асноўныя віды паляўнічай птушкі (глухар, белая курапатка, цецярук, па два віды гусей і качак, жораў, чорны бусел). Ёсць таксама косці арлоў-беркутаў, ястрабаў, якія хутчэй за ўсё выкарыстоўваліся ў якасці лоўчых птушак. Яны знойдзены на другім археалагічным помніку Ваўкавыска, на Шведскай гары, дзе косці дзікіх птушак у параўнанні з касцямі свойскай птушкі складаюць 70%. Гэта ў сваю чаргу з'яўляецца лішнім доказам таго, што тут займаліся паляваннем на дзікую птушку з выкарыстаннем лоўчых птушак. На іншых помніках косці дзікіх птушак сустракаюцца ў нязначнай колькасці. Асаблівай увагі заслугоўвае знойдзеная ў Ваўкавыску косць паўліна ў пласце XI—XII стст. Паўлін трапіў у Ваўкавыск здалёку і належаў заможнаму жыхару горада.

У Лукомлі ў пластах XI—XIII стст. выяўлены косці курыцы і шэрага гуся. Безумоўна, хатнюю птушку ў XI—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі разводзілі паўсюдна.

Аснову эканамічнага жыцця насельніцтва складалі земляробства і жывёлагадоўля, якая вырасла і магла развівацца толькі на падставе дасягнення значнага ўзроўню развіцця земляробства.

Паляваннем займаліся больш жыхары ваенных паселішчаў і феадальных замкаў.

Такім чынам, можна меркаваць, што к канцу 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н.э. у насельніцтва Беларусі існавала даволі развітая для таго часу сельская гаспадарка, у якой вядучая роля належала земляробству. На яго падставе склалася жывёлагадоўля з развядзеннем усіх вядомых у наш час відаў хатняй жывёлы. Пэўнае месца ў гаспадарцы, асабліва для некаторых населеных пунктаў, займала паляванне на буйную дзікую жывёлу. На больш дробную дзікую жывёлу і на птушак таксама палявалі паўсюдна.

**Промыслы.** Апрача сельскай гаспадаркі як сельскае, так і гарадское насельніцтва займалася промысламі. Самым распаўсюджаным відам промыслу з'яўлялася рыбалоўства. Як правіла, пасяленні, у тым ліку і гарады размяшчаліся па берагах рэк, у якіх вадзіліся многія віды рыбы. Пры раскопках трапляецца шмат лускі і касцей ад рыбы. Апрача таго, знаходзяць самыя розныя прылады, сярод якіх кручкі розных памераў і форм, блёсны з каляровых металаў, гліняныя і каменныя грузілы, паплаўкі з кары сасны і бярозы, рэшткі невада (Полацк), восці, пешні. Апошнія знойдзены ў Брэсце і Ваўкавыску. Па іх можна беспамылкова сцвярджаць аб зімовай лоўлі рыбы. Косці рыбы з раскопак Брэста з'яўляюцца сведкамі таго, што ў X—XI стст. у Бугу і Мухаўцы лавілі самоў, ляшчоў, ласося, акуня, шчупакоў, плотку, яршоў. У Ваўкавыску было вядома 12 прамысловых відаў рыбы (балтыйскі асяцёр, ласось, шчупак, плотка, галаўль, краснапёрка, жэрах, лінь, лешч, сом, судак, акунь). На гарадзішчы каля в. Маскавічы Браслаўскага раёна вызначаны наступныя віды рыбы: шчупак, лешч, сазан, карась, судак, вугор, ёрш, акунь, плотка. Вялікая колькасць знойдзеных касцей рыбы і такая колькасць відаў рыбы даюць падставу меркаваць аб тым, што лоўля рыбы дазваляла насельніцтву ў X—XIII стст. павялічыць колькасць высокакаларыйных мясных прадуктаў.

Насельніцтва займалася таксама зборам грыбоў, ягад, іншых дзікарослых пладоў лесу. Шкарлупіны лясных арэхаў часта сустракаюцца на археалагічных помніках. У Мінску ў пласце XII ст. знойдзены плады дзікай грушы.

Самымі распаўсюджанымі хатнімі промысламі былі прадзенне і ткацтва, без якіх наогул нельга ўявіць жыццё сярэднявечнага грамадства. Усюды пралі лён і шэрсць, з атрыманых нітак выраблялі тканіны. Доказам развітога ў тыя часы прадзіва з'яўляюцца знаходкі драўляных верацён на тых археалагічных помніках, дзе добра захавалася дрэва (Полацк, Віцебск, Мінск, Брэст, Пінск, Слуцк, Давыд-Гарадок, Слонім) і шыферных праслачкаў, якія сустракаюцца ў вялікай колькасці на кожным помніку гэтага часу. Аб ткацтве сведчаць знаходкі дэталяў ткацкіх станкоў (Полацк, Мінск, Віцебск, Гродна, Брэст), кавалкі тканін. У Брэсце гарызантальны ткацкі станок прадстаўлены пяццю дэталямі (падножкі, ніты, бярдо, чаўнок, цягі).



Нажная ступа XIII ст. з раскопак Берасцейскага гарадзішча (рэканструкцыя)

Значнае месца сярод промыслаў займала бортніцтва. Калі ўлічыць адсутнасць у тую пару цукру і ўсе спажыўныя якасці мёду, то значэнне гэтага промыслу цяжка перабольшыць. Бортніцтва давала не толькі мёд, але і другі вельмі патрэбны і каштоўны прадукт — воск. Абодва яны разам з футрам з'яўляліся для ўсходніх славян асноўным прадметам гандлю з Візантыяй і гарадамі Прычарнамор'я ў раннім сярэднявеччы. Сведчаннем заняткаў бортніцтвам з'яўляюцца знаходкі кавалкаў воску пры раскопках (Полацк, Мінск, Віцебск, Брэст). Зрэдку ў курганах знаходзяць металічныя нажы-мёдарэзкі, падобныя на сучасныя прылады гэтага тыпу.

Металургія ў тыя часы была звязана з горадам і вёскай. Жалезная руда здабывалася ў сельскай мясцовасці, таму сельскае насельніцтва было звязана з распрацоўкай, здабычай і дастаўкай у горад жалеза ў выглядзе таварных крыц. Пэўная частка жалезнай руды выкарыстоўвалася сельскімі кавалямі для вырабу прадметаў побыту, у тым ліку і прылад працы. Яны былі знаёмы не толькі з усімі працэсамі выплаўкі жалеза, але маглі прасцейшымі спосабамі атрымліваць сталь.

Самым распаўсюджаным рамяством у сельскай мясцовасці з'яўлялася ганчарства. Выраблялі пераважна пячныя гаршкі.

Сельскія ювеліры выраблялі шырока распаўсюджаныя ў тыя часы ўпрыгожанні з каляровых металаў (скроневыя кольцы, бранзалеты, пярсцёнкі).

## 4. Гарады

Вытокі старажытных гарадоў Усходняй Еўропы бяруць свой пачатак як гістарычная з'ява ў пераходным (ваенна-дэмакратычным) перыядзе развіцця ўсходнеславянскага грамадства. Менавіта ў гэты час фарміруюцца асноўныя перадумовы ўзнікнення саслоўна-класавага грамадства, функцыяніраванне якога немагчыма без палітычнай (раннедзяржаўнай) улады і цэн-

траў яе канцэнтрацыі. Таму фарміраванне дзяржаўнасці і зараджэнне сярэднявечных гарадоў — з'явы аднachасовыя і ўзаемаабумоўленыя ў сваіх генезісных формах.

**Шляхі ўзнікнення гарадоў.** Старажытнейшыя гарады на тэрыторыі Беларусі ўзнікалі ў найбольш развітых у эканамічным сэнсе рэгіёнах. Першаасновай гарадоў звычайна станавіліся славянскія паселішчы, якія з'яўляліся цэнтрамі сельскага асяроддзя (племяннымі, абшчыннымі) у другой палове 1-га тысячагоддзя. У розных частках тэрыторыі Беларусі пераход ад племянных княжанняў да раннедзяржаўных утварэнняў адбываўся не аднachасова. Так, калі на тэрыторыі Беларускага Падзвіння ўжо існавала раннедзяржаўнае ўтварэнне полацкіх крывічоў з цэнтрам у Полацку, то дрыгавічы яшчэ знаходзіліся ў стане племяннога княжання, а радзімічы, якія ўвайшлі ў X—XI стст. у іншыя раннедзяржаўныя ўтварэнні, так і не здолелі заснаваць самастойнае княства. У выніку славянскай каланізацыі Панямоння тут таксама склаліся перадумовы ўтварэння гарадоў.

Станаўленне гарадскіх форм жыцця на тэрыторыі Усходняй Еўропы не мела адзінай сацыялагічнай схемы. Умоўна сярод разнастайных працэсаў горадаўтварэння выдзелены тры асноўныя напрамкі: 1) гандлёва-рамесны; 2) абшчынна-феадальны; 3) феадальны (дзяржаўны)[1]. Усе гэтыя напрамкі акрэсліліся прыкладна ў адзін час, але мелі розныя ўмовы развіцця і адыгрывалі неаднолькавую ролю ў сацыяльна-эканамічнай гісторыі старажытнага горада.

Гандлёва-рамесны шлях утварэння гарадоў быў абумоўлены ў першую чаргу дзейнасцю ў другой палове 1-га тысячагоддзя транс'еўрапейскай гандлёва-эканамічнай супольнасці. У VIII—IX стст. да гэтай эканамічнай сістэмы, якой былі ахоплены землі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, далучаюцца Усходняя Еўропа і арабскі рэгіён. Наяўнасць у апошнім вялікай колькасці манетнага срэбра, якое стала ўсеагульным эквівалентам для ўсіх тэрыторый, што кантактавалі паміж сабой, адыграла рашаючую ролю ва ўздыме эканомікі гандлёвых фактарый. Тое, што Полацк раней за іншыя гарады на тэрыторыі Беларусі змог ператварыцца з племяннога цэнтра ў пратагорад (прагорад), можа тлумачыцца яго найбольш раннім далучэннем да паўночнаеўрапейскай супольнасці на гандлёвым шляху. Спалучэнне ўдалага размяшчэння на важным адрэзку гандлёвага міжнароднага шляху і функцый племяннога цэнтра спрыяла развіццю Полацка ў палітычных адносінах, трансфармацыі яго ў цэнтр раннедзяржаўнага ўтварэння — Полацкага княства. Такім чынам, ужо ў другой палове IX ст. Полацк пачынае набываць новую сацыяльную аснову тэрытарыяльна-палітычнага цэнтра, які аб'яднаў полацкіх крывічоў і дрыгавічоў. У X—XI стст. Полацкая дзяржава пашырае сваю тэрыторыю ў розных напрамках, умацоўвае свае рубяжы крэпасцямі, якія потым ператвараюцца ў гарады (Браслаў, Заслаўе) ці феадальныя сядзібы (Маскавічы, Дрысвяты, Рацюнкі, Пруднікі)[2].

Ва Усходняй Еўропе тым жа шляхам, што і Полацк, вылучыліся ў раннефеадальныя цэнтры Ноўгарад і Кіеў, спалучаючы эканамічную аснову цэнтра племяннога асяроддзя, тэрытарыяльнага і гандлёва-рамесніцкага развіцця ў русле шырокіх знешніх сувязяў.

Па-іншаму складваўся лёс паселішчаў, якія таксама пачалі сваё развіццё ў сістэме транс'еўрапейскай эканомікі і знешне мелі рысы прагорада. Такія паселішчы атрымалі назву адкрытых гандлёва-рамесных, таму што ў іх склад уваходзілі невялікае гарадзішча (відаць, гэта цэнтр невялікай абшчыны), вялікае неўмацаванае паселішча з курганным могільнікам, які разві-

[1]*Толочко П.П.* Древнерусский феодальный город. Киев, 1989. С. 233.
[2]*Дучыц Л.У.* Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIV стст. С. 87—89.

ваўся прапарцыянальна росту паселішча. Гэтыя паселішчы размяшчаліся на галоўных водных магістралях, што звязвалі паміж сабой аддаленыя рэгіёны (Ладага, Гнёздава, Шэставіцы і г.д.).

На тэрыторыі Беларусі да паселішчаў гэтага тыпу можна далучыць селішча ў в. Гарадзішча, размешчанае за 12 км на паўночны ўсход ад Пінска, на высокай тэрасе возера Гарадзішчанскага, якое злучаецца пратокай з р. Ясельдай. Яно мела плошчу каля 4 га. Да селішча прымыкае невялікае гарадзішча (плошча 0,59 га), на якім размяшчалася язычніцкае капішча. Датуецца паселішча канцом VIII — пачаткам XI ст. Гэты буйны гандлёва-рамесніцкі цэнтр Палесся, аб чым сведчаць археалагічныя знаходкі падчас раскопак, абслугоўваў у IX—X стст. Прыпяцка-Бугскі водны шлях[1]. Рэчышча р. Піны ў сярэднявеччы падзялялася ў яе нізоўях на два рукавы. Адзін з іх упадаў у р. Прыпяць, дзе ў XI ст. быў пабудаваны г. Пінск. Другі каля паселішча Гарадзішча ўпадаў у р. Ясельду. З вярхоўяў Ясельды волакам праз р. Рось можна было трапіць у басейн Нёмана. Такім чынам, магістраль Дняпро—Прыпяць—Ясельда—Нёман злучала землі Кіеўскага Падняпроўя і востраў Готланд.

Трэба адзначыць, што, відаць, у глыбіні тэрыторыі ўсходніх славян на волаках, якія звязвалі паміж сабой асобныя рачныя басейны, у густа заселеных масівах таксама ўзнікалі паселішчы гандлёва-рамесніцкага напрамку. Месцазнаходжанне такіх паселішчаў можна вылучыць па канцэнтрацыі манетных кладаў, курганных могільнікаў, выразным пахавальным інвентары. Можна ўпэўнена гаварыць, што адкрытыя гандлёва-рамесніцкія паселішчы мелі месца на Друцкім волаку, дзе выяўлены шэраг курганных могільнікаў паміж вёскамі Дроздава і Скавышкі і пры раскопках знойдзены гіркі-разнавагі і дэталі шаляў у пахаванні, а таксама вялікая колькасць разнастайных пацерак, упрыгожанняў са срэбра і інш. Гэты комплекс адносіцца да X—XI стст. Падобны комплекс VIII—XI стст. зафіксаваны і на Арэхаўскім волаку з Дняпра ў Заходнюю Дзвіну праз р. Лучосу. Магчыма, паселішча такога ж прызначэння мела месца ў заходне-паўночным рэгіёне Полацкага княства, дзе выяўлена восем скарбаў IX—X стст.

Характэрнай рысай усіх гэтых паселішчаў з'яўляецца тое, што пасля буйного росквіту ў X ст. яны прыпынілі сваё існаванне ў пачатку XI ст. Гэта сведчыць аб тым, што дадзены шлях утварэння гарадской структуры не меў перспектывы. Слушнай уяўляецца думка, што дадзеныя паселішчы сталі нежыццяздольнымі ў сувязі з фактарамі знешняга сацыяльна-эканамічнага развіцця[2]. Стабілізацыя дзяржаўных структур, усталяванне іх меж прывялі да парушэння былых сувязяў і фарміравання новых эканамічных зон. Таму нельга лічыць, што гандлёва-рамесная сфера была першай стадыяй у трансфармацыі гарадскіх форм жыцця ў раннім сярэднявеччы.

Абшчынна-феадальны і феадальны (дзяржаўны) шляхі ўтварэння гарадоў, эвалюцыя новых сацыяльных форм жыцця, якія вынікаюць з патрэбнасцей развіцця ўсходнеславянскага грамадства, прасочваюцца на беларускіх землях. На прыкладзе гарадоў з тэрыторыі Беларусі відавочна, што частка з іх утварылася на аснове племянных цэнтраў, якія ажыццяўлялі адміністрацыйна-гаспадарчае кіраванне пэўнымі тэрытарыяльнымі акругамі. Да такіх гарадоў можна аднесці Лукомль. Яго развіццю ў гарадскім напрамку спрыяла блізкасць да Друцкага волака, дзе, як ужо гаварылася, ствараліся ўмовы для гандлёва-рамеснай дзейнасці ў канцы 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя. Відаць, племянным цэнтрам дрыгавічоў быў Тураў, які ўзгадваецца ў летапісе пад 980 г. Ён працягваў сваё развіццё як цэнтр Тураўскага княства.

[1]Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1993. Ч. 1. С. 117—127.
[2]*Толочко П.П.* Древнерусский феодальный город. С. 164.

Шэраг гарадоў узнікае ў выніку цэнтралізатарскай палітыкі кіеўкіх князёў, якія падпарадкоўваюць дзяржаўнай уладзе тэрыторыі асобных плямён і племянных княжанняў. Рэформа Уладзіміра Святаславіча 988 г. па замене князёў мясцовых (племянных) на намеснікаў, прызначаных з Кіева, адкрывала новы этап у развіцці дзяржаўнасці і ўтварэнні гарадоў.

На тэрыторыі Тураўскага княства, якое знаходзілася з Кіеўскай дзяржавай у адносінах сюзерэнітэта-васалітэта, з'яўляюцца гарады — цэнтры валасцей, з якіх складваецца новае палітычнае ўтварэнне. У X—XI стст. ажыццяўляўся актыўны працэс пашырэння тэрыторый як ужо існуючых дзяржаўных утварэнняў (Полацкае, Кіеўскае, Наўгародскае княствы), так і тых, якія дасягнулі дзяржаўнага ўзроўню развіцця на аснове сфарміраваных раней племянных тэрыторый. У сувязі з гэтым шэраг славянскіх паселішчаў, якія з'яўляліся цэнтрамі сельскага асяроддзя, ператвараецца ў памежныя крэпасці. Шэраг старажытных гарадоў Беларусі сваёй асновай мелі славянскія неўмацаваныя паселішчы, якія згарэлі ў выніку ператварэння іх тэрыторыі ў ваенна-адміністрацыйныя адзінкі дзяржаўнай улады. Прыкладам могуць быць паселішча на Шведскай Гары ў Ваўкавыску, на гарадзішчы ў в. Турыйск, дзе былі ўзведзены абарончыя валы пасля знішчэння неўмацаваных славянскіх паселішчаў. Цікавасць уяўляе спалучэнне пагранічных аб'ектаў, якія з'яўляліся спачатку пагостамі — цэнтрамі кіравання акругамі і збірання рэгламентаванай даніны з іх насельніцтва. На ўскраіне Полацкай дзяржавы на левым беразе р. Свіслачы з другой паловы X ст. фіксуецца неўмацаванае паселішча — пагост, дзе збіралася даніна на карысць кіеўскага князя Святаслава Ігаравіча (знойдзены ў раскопках клеймы гэтага князя). Побач размяшчалася ядро будучай Менскай воласці з адміністрацыйным цэнтрам — паселішчам на р. Мене (Менцы), прытоку Пцічы. Калі ў канцы X ст. Уладзімір Святаславіч перадаў свайму сыну Ізяславу і жонцы Рагнедзе Полацкае княства, то побач з пагостам ужо на правым беразе р. Свіслачы ўзнікае крэпасць (Замэчак), якою адзначана памежжа Полацкага княства.

У процівагу Заслаўю (Ізяслаўлю) на р. Мене таксама ўзводзіцца абарончая крэпасць, якая з'яўляецца цэнтрам Менскай воласці. Развіццё палітычных адносін паміж кіеўскімі і полацкімі князямі прыводзіць да перадачы Полацкаму княству гарадоў Віцебска, Усвята. Прыкладна ў гэты час Полацкаму княству адыходзіць і Менская воласць[1]. Гарады Віцебск, Усвят узніклі ў выніку падпарадкавання дзяржаўнай уладзе племянных тэрыторый і ўвядзення тут тэрытарыяльна-адміністрацыйных адзінак у сярэдзіне — другой палове X ст. Гэтыя гарады размяшчаліся на важным шляху палітычных і гаспадарчых зносін паміж Кіевам і Ноўгарадам і былі вялікай спакусай для Полацкага княства.

Беларускія гарады Пасожжа ўзніклі пазней і не былі аб'яднаны ў адно палітычна-тэрытарыяльнае ўтварэнне. Найбольш раннім горадам Беларускага Падняпроўя і Пасожжа з'яўляецца Гомель (Гомій), які ўтварыўся на аснове племяннога цэнтра радзімічаў VIII — пачатку X ст. У X ст. ён ужо ўваходзіць у склад адміністрацыйных цэнтраў Чарнігаўскага княства, адлюстроўвае высокі ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця[2]. Гарады Пасожжа выраслі ў XI ст. з паселішчаў, якія ўзніклі пры асваенні славянамі гэтай тэрыторыі (Чачэрск, Прупой, Крычаў). У гэты час на аснове славянскага паселішча ўзнікае Магілёў на Дняпры. Недастатковая вывучанасць помніка не дазваляе зрабіць больш канкрэтныя высновы аб шляху яго станаўлення.

Гарады Пасожжа падзяліліся паміж Смаленскім і Чарнігаўскім княствамі. Прычым калі ў Ніжнім Пасожжы асноўным фактарам развіцця гарадоў

---

[1]*Заяц Ю.А.* Менская земля // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 4. С. 11—14.
[2]*Макушников О.А.* В поисках древнего Гомия. С. 51, 59—61.

быў сацыяльна-эканамічны, то ў Сярэднім Пасожжы прасочваецца значны адбітак дзейнасці княжацкай адміністрацыі Смаленскай зямлі[1].

Два гарады Беларускага Падняпроўя — Орша і Копысь — выконвалі тую ж ролю супрацьстаяння па баках мяжы, што і гарады Ізяслаўль і Менск (паселенне Менка). Копысь узнікла на аснове славянскага неўмацаванага паселішча ў XI ст., а ў канцы стагоддзя была памежнай крэпасцю Смаленскага княства. На процілеглым беразе Дняпра ў пачатку XII ст. таксама на аснове славянскага паселішча ўзводзіцца крэпасць Полацкага княства — Орша. Яе ўзвядзенне сведчыць, дакуль даходзіла мяжа Полацкага княства-зямлі ў гэты час на паўднёвым усходзе[2]. Пісьмовыя крыніцы больш позняга часу дазваляюць меркаваць, што паўднёва-ўсходні рубеж Віцебскага княства-зямлі, сфарміраванага ў складзе Полацкай дзяржавы, быў перасунуты далей на поўдзень, бо ў яго ўжо ўваходзілі Цяцерын і Магілёў.

У цеснай сувязі з пытаннем аб шляхах утварэння гарадоў стаіць пытанне аб "пераносе" гарадоў. Падчас археалагічнага вывучэння старажытных гарадоў назіраюцца з'явы перамяшчэння іх цэнтральнай часткі — дзядзінца і адпаведныя змены ў тапаграфічнай структуры горада. Яшчэ больш цікавай з'явай можна назваць узнікненне на некаторай адлегласці (да некалькіх кіламетраў) новага гарадскога ўтварэння, якое нібыта пераймае функцыі папярэдняга горада, ці пратагорада, а часам існуе з ім на працягу некаторага перыяду. У асобных выпадках да новага гарадскога ўтварэння пераходзіць назва папярэдняга. "Перанос" гарадоў некаторымі даследчыкамі ўспрымаецца як адзін са шляхоў бесперапыннага іх развіцця. Наяўнасць адначасовага суіснавання абодвух пунктаў дазволіла іншым даследчыкам убачыць у гэтым раздзяленне іх функцый, якое з цягам часу змяняецца канцэнтрацыяй гэтых функцый на адным больш жыццяздольным паселішчы[3].

Здаецца, што з'ява пераносу гарадоў альбо змянення ў іх тапаграфічнай структуры напрамую звязана з усім комплексам перамен не толькі ў сферы горадаўтварэння, але і ў сферы развіцця дзяржаўнасці. Вядома, што найбольш ранні горад Полацкага княства — Полацк на рубяжы X—XI стст. змяніў сваю тапаграфічную структуру. Яго цэнтр, які быў размешчаны на гарадзішчы, што выконвала ў папярэдні час ролю племяннога цэнтра, перамяшчаецца на тэрыторыю будучага Верхняга замка. У гэты час рэзка павялічваецца гарадская тэрыторыя, а ў сярэдзіне XI ст. на Верхнім замку ўзводзіцца Сафійскі сабор[4]. Прычыны гэтых перамен, відаць, звязаны з усталяваннем у Полацкім княстве самастойнай княжацкай дынастыі, уздымам яе аўтарытэту на палітычнай арэне. Гэтыя фактары садзейнічалі сацыяльна-эканамічнаму развіццю Полацка, знешне адлюстраванаму ў структурных пераменах і павелічэнні тэрыторыі. У канцы XI ст. адбываюцца змены ў тапаграфічнай структуры Заслаўя. Крэпасць, узведзеная як вотчына Ізяслава ў канцы X ст. (гарадзішча Замэчак), к канцу XI ст. страціла значэнне і функцыі гарадскога цэнтра пераходзяць да новага ўмацавання (пазней — тэрыторыя бастыённага замка). З гэтага часу горад паспяхова развіваецца па схеме планіроўкі, тыповай для старажытных гарадоў, пашырае сваю тэрыторыю[5]. Што паўплывала на такія перамены?

Ю. Заяц абгрунтаваў магчымасць выдзялення Менскага ўдзела да 1085 г. і пры гэтым зазначыў, што ва ўдзел выдзялялася тэрытарыяльная, ад-

---

[1]*Метельский А.А.* Города Белорусского Посожья в X—XIII вв.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн. 1992. С. 18.

[2]*Ляўко В.М.* Смаленска-Полацкае памежжа ў Верхнім Падняпроўі (па археалагічных і пісьмовых крыніцах) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1997. № 12. С. 172—180.

[3]*Толочко П.П.* Древнерусский феодальный город. С. 52—53.

[4]*Тарасаў С.В.* Полацк IX—XVII стст. Гісторыя і тапаграфія. С. 37.

[5]*Заяц Ю.А.* Заславль в эпоху феодализма. С. 202—204.




План сярэднявечнага Менска:
1 — пасадскія паселішчы XII — XIII стст.; 2 — павелічэнне тэрыторыі пасада ў XIV — XV стст.; 3 — валы; 4 — балота; 5 — вуліцы

міністрацыйна-эканамічная і ваенная адзінка зямлі, якая ўжо склалася[1]. Такое палажэнне магло датычыцца не толькі Менскага (Мінскага) удзела. Да канца XI ст. маглі ўтварыцца і іншыя ўдзелы ў складзе Полацкай зямлі, адным з якіх быў Заслаўскі. Перамены ў тапаграфічнай структуры горада могуць быць звязаны з тым, што ён ужо выступае ў якасці цэнтра самастойнага ўдзела. Ёсць, як адзначалася, выпадкі, калі ажыццяўляўся перанос горада на іншае месца. Дыскусійным з'яўляецца пытанне аб пераносе Менска з р. Мены на р. Свіслач. Мяркуюць, што першапачатковы Менск знаходзіўся ў вярхоўях Пцічы на р. Мене[2].

Пасля пераходу Менскай воласці ад кіеўскіх князёў да Полацкага княства мяжа апошняга прасунулася на поўдзень. Адной з прычын пераносу цэнтра воласці з р. Мены на р. Свіслач магло быць жаданне полацкай княжацкай улады падкрэсліць прыналежнасць гэтай воласці да новай дзяржавы. Але разам з гэтай маглі быць і іншыя прычыны, якія ў сукупнасці спрыялі такому пераносу.

Другім горадам па значэнні ў Тураўскім княстве быў Пінск. Размешчаны ў цэнтры тэрыторыі княства, ён не мог быць заснаваны як памежная крэпасць. Вялікія памеры дзядзінца і ранняе засяленне вакольнага горада не дазваляюць меркаваць аб вырастанні Пінска з феадальнай сядзібы. Хутчэй за ўсё гэта быў ваенна-адміністрацыйны цэнтр акругі (воласці) на тэрыторыі княства[3].

Раней гаварылася аб існаванні на адлегласці 12 км ад Пінска адкрытага гандлёва-рамеснага паселішча ў в. Гарадзішча. Яно спыняе сваё існаванне тады, калі Пінск становіцца цэнтрам акругі. Як бачна, працэсы дзяржаваўтварэння і ўзнікнення гарадоў ідуць побач.

[1]*Заяц Ю.А.* Менская зямля. С. 6—7.
[2]*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). С. 63—64, 81.
[3]*Лысенко П.Ф.* Города Туровской земли. С. 117.

**Структура і функцыі гарадоў.** З цягам часу ў выніку эвалюцыйнага развіцця склаліся асноўныя сацыяльна-тапаграфічныя структуры старажытных гарадоў Усходняй Еўропы і ў тым ліку на тэрыторыі Беларусі. Яны ўвасобіліся ў пасяленчай структуры, якая складалася з дзвюх частак: невялікага княжацка-баярскага дзядзінца і пасада. Найбольш буйныя гарады мелі вакольны горад, які займаў у горадабудаўнічай справе і сацыяльным аспекце прамежнае становішча паміж дзядзінцам і пасадам.

Галоўным стрыжнем росту і развіцця гарадоў у старажытным родаплемянным асяроддзі была крэпасць. Калі ўзводзілі крэпасць, насельніцтва акругі пакідала абжытыя мясціны і цягнулася пад яе сцены. Гэта спрыяла парушэнню старой пасяленчай асновы, пераарыентацыі часткі насельніцтва акругі з сельскагаспадарчай на рамесную вытворчасць. Паміж горадам і сельскай акругай усталёўваюцца новыя сацыяльна-эканамічныя адносіны, падмацаваныя новым тыпам адміністрацыйна-кіраўніцкіх адносін.

Старажытны горад паўстае ў якасці дыферэнцыраванага, сацыяльнага арганізма з разнастайнымі функцыямі, якія паступова ўскладняецца ў сваім развіцці. Ён меў устойлівыя тэндэнцыі росту памераў тэрыторыі і колькасці жыхароў.

Відаць, у аснове памераў горада і складанасці яго тапаграфічнай структуры ляжыць функцыянальная прызначанасць. Калі функцыі горада абмежаваны, накіраваны на забеспячэнне вузкіх патрэб (памежная крэпасць, цэнтр княжацкай вотчыны (дамена) і інш.), то ён не можа мець хуткага і разнастайнага развіцця. Вось чаму шэраг гарадоў ранняга сярэднявечча, якія выканалі на асобным этапе гістарычнага развіцця сваю ролю, страчвалі гарадскія рысы і ператвараліся ў феадальныя сядзібы ці нават вёскі. Прыкладам такіх "напаўгарадоў" могуць быць Горы (Смаленскі горад Ізяслаў), Лукомль і інш.

Іншыя спрыяльныя ўмовы дазволілі такім гарадам, як Навагрудак, Віцебск, вырасці з крэпасцей у цэнтры асобных зямель. Росту гарадоў спрыялі добрыя геаграфічныя ўмовы размяшчэння (на скрыжаванні гандлёвых шляхоў). Напрыклад, Берасце, Друцк, Ваўкавыск паспяхова развіваліся ў значнай ступені таму, што знаходзіліся ў адпаведных умовах.

Трэба зазначыць, што на працягу свайго існавання многія гарады страчвалі адны сацыяльна-вызначальныя рысы і набывалі іншыя. Гэтыя змены адбываліся разам з пераменамі ўмоў іх жыцця. Найбольш поўны пералік функцый, якія выконвалі старажытныя гарады, адносіцца да цэнтраў вялікіх тэрыторый (зямель) у складзе раннесярэднявечных дзяржаў: гандлёва-рамесныя, аграрныя, адміністрацыйна-фіскальныя, ваенна-абарончыя, культурныя, сакральныя.

**Крытэрыі вылучэння гарадоў і іх лакалізацыя.** Узнікненне гарадскога жыцця было пераломным момантам у развіцці грамадства. У перыяд ранняга сярэднявечча гарадское жыццё ўзнікала ў найбольш развітых і густанаселеных раёнах, у месцах перасячэння важных шляхоў зносін. Шэраг гарадоў атрымаў назву ад рэк, на якіх яны былі заснаваны: Полацк ад Палаты, Віцебск ад Віцьбы, Пінск ад Піны, Слуцк ад Случы, Друцк ад Друці, Чачэрск ад Чачоры і г.д.

Важнай крыніцай аб пачатковай гісторыі гарадоў з'яўляюцца старажытнарускія летапісы: "Аповесць аб мінулых часах", яе працяг па Лаўрэнцьеўскаму, Іпацьеўскаму спісам і інш. Пісьмовыя помнікі называюць на тэрыторыі Беларусі звыш 35 гарадоў: Полацк (862), Тураў (980), Віцебск (974, 1021), Заслаўе (каля 985), Друцк (1001, 1078), Берасце (1017, 1019), Копысь (1059, 1060), Браслаў (каля 1065), Менск (1067), Орша (1067), Лагойск (1078, 1127), Лукомль (1078), Пінск (1097), Барысаў (1102, 1127), Слуцк (1116), Навагрудак (па ўскосных даных — 1117, 1119, 1228, 1235), Гародня (1127), Клецк (1127),

Мсціслаў (1135), Гомель (1142), Рагачоў (1142), Брагін (1147), Мазыр (1155), Чачэрск (1159), Рэчыца (1213, 1214), Слонім (1252), Ваўкавыск (1252), Здзітаў (1252), Турыйск (1253), Капыль (1274), Камянец (1276), Кобрын (1287). Ва ўстаўной грамаце князя Расціслава Смаленскага каля 1136 г. згадваюцца Прупой (Слаўгарад) і Крэчут (Крычаў)[1].

Лакалізацыя пералічаных гарадоў ранняга сярэднявечча на тэрыторыі Беларусі зроблена падчас археалагічных даследаванняў. Удакладнены тэрмін іх існавання, высветлены ўмовы зараджэння, функцыянальнае развіццё. На аснове тыповых прыкмет распрацаваны крытэрыі вылучэння гарадскіх паселішчаў. Да іх у першую чаргу адносяцца згадка ў пісьмовай крыніцы пад уласнай назвай, лакалізацыя на мясцовасці па наяўнасці гарадскога культурнага пласта са спецыфічнымі знаходкамі, дзядзінца і пасада. У якасці іншых крытэрыяў могуць быць значныя памеры паселішча, размяшчэнне пасада па двух берагах ракі, выява культавых пабудоў, абарончых збудаванняў і г.д. Па лакалізацыі гарадоў на мясцовасці вялікую ролю адыгрываюць тапаніміка і гідраніміка[2].

Акрамя лакалізаваных гарадскіх паселішчаў ранняга сярэднявечча ёсць некалькі пунктаў, якія яшчэ не ідэнтыфікаваны з археалагічнымі аб'ектамі, выяўленымі ў месцах іх магчымага размяшчэння. Да іх адносіцца старажытны Стрэжаў, які даследчыкі суадносяць з сучасным г.п. Стрэшынам, а таксама Гарадзец, які, магчыма, размяшчаўся на р. Мнюце (правы прыток р. Дзісны). Гэтыя населеныя пункты маглі быць крэпасцямі ці раннесярэднявечнымі сядзібамі, калі трапілі на старонкі пісьмовых крыніц. Невядома месцазнаходжанне Галацічаска, Одрска, Некалачы ў Полацкай зямлі.

У Панямонні пакуль не лакалізаваным застаецца горад Свіслач, які ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1256 г.

У Тураўскай зямлі ўстаноўлена існаванне Давыд-Гарадка, што ўзнік на р. Гарынь на рубяжы XI—XII стст. Горад Межымосце названы ў летапісе пад 1170 г., яго атаясамляюць з археалагічным комплексам каля в. Юравічы Калінкавіцкага раёна[3]. Археолагамі выяўлены доказы, што Магілёў існаваў у XII ст. Існаванне Нясвіжа ў XIII ст. не знайшло адпаведнага пацвярджэння ні рэчавымі (археалагічнымі), ні пісьмовымі крыніцамі[4].

Сярэднявечныя гарады беларускіх зямель маюць шмат агульных рыс з паходжаннем і развіццём гарадоў IX—XIII стст. усяго ўсходняга славянства.

## 5. Гарадское рамяство і гандаль

Пісьмовыя крыніцы вельмі сціпла даводзяць нам звесткі пра заняткі гараджан у раннесярэднявечны перыяд. Выдатны матэрыял для асвятлення гэтага пытання дае археалогія. Вынікі раскопак пераканаўча сведчаць, што гаспадарчая дзейнасць у гарадах Беларусі X—XIII стст. мела комплексны характар, спалучала занятак рамяством, гандлем, промысламі. Асаблівы росквіт рамяства адбываўся ў XII—XIII стст.

**Рамяство.** Вядучая роля ў гарадскім рамястве належала кавальству, бо менавіта яно забяспечвала ўсімі неабходнымі прыладамі працы астатнія віды рамёстваў. Сыравінаю для кавальскай справы служыла крычнае жалеза, якое атрымлівалася шляхам варкі ў прымітыўных домніцах з балотнай руды, на якую багатыя азёры і берагі рэк Беларусі[5]. У выглядзе жалезістых ляпёшак —

[1]Нарысы гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Ч. 1. С. 87.
[2]*Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли. С. 21—24.
[3]Археалогія і нумізматыка Беларусі. С. 423.
[4]*Чарняўская Л., Чарняўскі І.* Нясвіж. З мінулага // ПГКБ. 1988. № 1. С. 21—24.
[5]*Гурин М.Ф.* Древнее железо Белорусского Поднепровья. Мн., 1982. С. 19—27.

крыц — гэта сыравіна паступала ў горад ад вясковых металургаў. Але вядомы выпадкі, калі жалеза варылі і непасрэдна ў гарадах. У Слуцку, напрыклад, знойдзена пабудова XIII ст., гаспадар якой яўна займаўся гэтым відам вытворчасці. Побач з ёю былі выяўлены велізарныя скапленні абпаленай гліны, сабраны шматлікія шлакі і каля двух дзесяткаў крыц. Гліняныя соплы ад сырадутных печаў, адходы металургіі жалеза зафіксаваны ў Полацку, Мінску, Віцебску, Заслаўі, Лагойску, Лукомлі. Відаць, у гарадах Беларусі XII—XIII стст. кавальская справа яшчэ перапляталася часам з металургічнай вытворчасцю.

Кавальства ў старажытных гарадах Беларусі знаходзілася на высокім узроўні. Старажытныя кавалі ведалі сакрэты атрымання сталі, маглі зварваць яе з жалезам, ужывалі загартоўку і цэментацыю вырабаў з чорнага металу, выкарыстоўвалі пайку па меднай аснове, пакрывалі вырабы каляровымі металамі[1]. З механічнай апрацоўкі шырока ўжываліся коўка, рэзка зубілам, насечка, абточка, шліфаванне і паліроўка.

Пра мясцовую кавальскую справу ў гарадах Беларусі сведчаць прылады працы кавалёў, знойдзеныя ў Брэсце, Мінску, Навагрудку, Полацку, Слуцку, і спецыяльныя для гэтага роду дзейнасці пабудовы — кузні. Рэшткі кузні XII ст. выяўлены ў Слуцку, кузня пачатку XIV ст. — у Брэсце. Рамесніцкі прамысловы і сельскагаспадарчы інструментарый, а таксама некаторыя рэчы хатняга ўжытку былі вынікам вытворчасці мясцовых кавалёў. Відаць, і частка ўзбраення таксама выраблялася на месцы. Сведка таму — выяўленая падчас раскопак у Гомелі майстэрня XII—XIII стст., у якой знойдзена засцерагальная зброя: кальчугі, пласціначныя панцыры і інш. Да вытворчасці слесараў у старажытных гарадах Беларусі адносіцца выраб замкоў і ключоў да іх. Менавіта пра гэта сведчаць нарыхтоўкі і дэталі гэтага віду рамесніцкай дзейнасці, выяўленай у слуцкай кузні XII ст. Варта адзначыць, што выраб замка патрабаваў ад рамесніка выкарыстання не менш як паўсотні розных аперацый, звязаных з апрацоўкай металу.

Адсутнасць сваіх радовішчаў каляровых металаў не замінала нашым продкам наладзіць вытворчасць ювелірных вырабаў; пра што сведчаць шматлікія знаходкі тыгляў і льячак, выяўленых амаль паўсюдна ва ўсіх гарадах Беларусі, а таксама ліцейныя формачкі, ювелірныя пінцэты і кавадлы, знойдзеныя падчас раскопак у Гродне, Ваўкавыску, Слуцку і інш.[2] Найбольш распаўсюджанымі былі вырабы з танных каляровых металаў: медзі, бронзы, латуні, волава, білона — нізкапробнага срэбра. Але часам сустракаюцца і залатыя рэчы, як гэта мела месца ў Брэсце, Гродне, Полацку, Мінску, Віцебску, Навагрудку, прычым у апошніх двух археалагічна даказана апрацоўка гэтага шляхетнага металу.

У Навагрудку даследаваны рэшткі багатага квартала — вялікіх будынкаў памерам да 100 м$^2$ з зашклёнымі вокнамі і фрэскамі на сценах XII ст. У кожным багатым доме выяўлены прадметы, якія паказваюць, што іх гаспадар меў дачыненне да ювелірнай справы. На падлозе, каля печаў і ў завале жытла знойдзены тыглі, ліцейныя формы, з незавершанай апрацоўкай металічныя рэчы і шмат адходаў, галоўным чынам аплаўленая бронза і бронзавыя пласціны. Матэрыялы паказваюць, што жыхары багатых дамоў былі золатакавалямі — апрацоўвалі золата. Тут размяшчаўся квартал "кузняцоў злату, срэбру і медзі". Можна меркаваць, што багаты квартал ювеліраў вакольнага горада мог быць своеасаблівай сярэднявечнай карпарацыяй накшталт цэха са сваім храмам і могільнікам[3].

---

[1]*Гурин М.Ф.* Кузнечное ремесло Полоцкой земли. IX—XIII вв. С. 91—95.
[2]Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. С. 151—155.
[3]*Гурэвіч Ф.Д.* Археалагічныя даследаванні Наваградка // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 1. С. 19.



Каменная форма для адліўкі прывесак з салярным арнаментам (Полацк, першая палова XIII ст.)

Некаторыя з ювелірных вырабаў уяўляюць сабой узоры высокага прафесіяналізму і мастацкай творчасці. Так, на маленькім кавалачку залатога вырабу, знойдзеным у Полацку, змяшчалася звыш дзесяці тонкіх залатых стужачак шырынёю 0,5 мм, прыпаяных рабром да паверхні, якія ўтвараюць арнаменты ў выглядзе крыжыкаў і кружочкаў, запоўненых рознакаляровай эмаллю. Сапраўдным шэдэўрам старажытнага прыкладнога мастацтва лічыцца і славуты крыж Ефрасінні Полацкай, выраблены майстрам Лазерам Богшам у XII ст.

Да ювелірнай вытворчасці па сваім значэнні блізка стаяла апрацоўка бурштыну, з якога выраблялі рознага роду ўпрыгожанні і рэчы культу. Падчас раскопак Брэста, Мінска, Полацка, Гродна, Навагрудка, Ваўкавыска, Віцебска, Слуцка сустрэты бурштынавыя пацеркі, падвескі, пярсцёнкі, нацельныя крыжыкі. Пра тое, што гэты від майстэрства быў мясцовым, сведчаць знаходкі неапрацаванага бурштыну ў Ваўкавыску, Навагрудку, Мінску, Віцебску. А ў Клецку ў пласце XI—XII стст. сабрана 3,5 кг гэтага сонечнага каменю, як яго называлі ў старажытнасці.

Найбольш жа распаўсюджаным відам рамесніцкай дзейнасці было ганчарства, якое забяспечвала штодзённы попыт насельніцтва ў выніках сваёй вытворчасці. Ганчары XI—XIII стст. выраблялі ў вялікай колькасці гаршкі, міскі, латкі. Гліняны посуд аздабляўся арнаментам у выглядзе хвалі, палосаў, насечак, зрэдку на днішчах ставіліся клеймы.

Была наладжана вытворчасць плінфы — старажытнай цэглы, плітак для падлогі мураваных храмаў[1]. Керамічныя пліткі разнастайнай канфігурацыі, пакрытыя паліваю жоўтага, зялёнага і карычневага колераў, сустрэты ў Гродне, Пінску, Віцебску, Клецку. У апошнім сустрэты і непаліваныя пліткі, паўфабрыкаты, што можа сведчыць на карысць мясцовай вытворчасці гэтых вырабаў у параўнальна невялікім горадзе.

Эпоха сярэднявечча — гэта "свет дрэва". Тады апрацоўка драўніны займала вядучае месца сярод рамёстваў. Дрэва было тым універсальным і да таго ж вельмі шырока распаўсюджаным матэрыялам, з якога ў пару сярэднявечча выраблялі амаль усё. Бандарны і сталовы посуд, дэталі простых механізмаў, транспартныя сродкі рабіліся з дрэва. Майстры ўжывалі ў апрацоўцы драўніны разьбу, дзяўбанне, такарную апрацоўку. Пра наяўнасць апошняй сведчаць знаходкі пры раскопках дэталяў такарнага станка, жалезных разцоў, выяўленых у гарадах Беларусі.

Да апрацоўкі дрэва блізкія па тэхналогіі вырабы з косці. У якасці сыравіны часта выкарыстоўваліся рог і трубчастыя косткі дзікіх жывёл. Гэта сыравіна ўтрымлівае менш касцявога тлушчу, чым косці свойскіх жывёл, што значна палягчала іх апрацоўку. Для размякчэння косці яе варылі ў шчолаку. Пасля апрацоўвалі з дапамогаю маленькіх касцярэзных ножыкаў, а таксама на такарным станку. З косці выраблялі грабяні, расчоскі, футаралы, шайбы для наборных ручак і тронкі нажоў, шашкі і шахматныя фігуры, маленькія нагрудныя абразкі. Некаторыя вырабы з косці,

[1]*Раппопорт П.А.* Строительное производство Древней Руси (X—XIII вв.). СПб., 1994. С. 47—51.

знойдзеныя ў гарадах Беларусі, адносяцца да твораў прыкладного мастацтва[1].



Раменікі-ганчары

У шырокім ужытку ў гарадах сярэднявечнай Беларусі была апрацоўка каменю. З каменных блокаў — квадратаў — узводзіліся храмы ў Віцебску і Навагрудку. Валун ці злёгку апрацаваны камень выкарыстоўваўся ў дойлідстве храмаў Полацка, Мінска, Гродна. Прычым у апошнім рознакаляровы камень ужыты як мазаічная аздоба ў муроўцы сцен Барысаглебскай царквы. Для гэтай мэты рознакаляровыя камяні шліфаваліся на некалькі граняў. Эфект ад такой апрацоўкі быў відавочным: грані гэтых камянёў гралі ўсёй вясёлкаю колераў[2].

Старажытныя каменячосы высякалі з валуноў мукамольныя жорны, з пясчаніку і сланцу выраблялі асялкі і тачыльныя кругі. Апошнія знойдзены ў Полацку, Мінску, Слуцку, Віцебску. З мяккага каменю рэзалі ювелірныя формачкі, крыжыкі, абразкі.

Вялікая патрэба была і ў апрацоўцы скуры. Таму натуральна, што гэты від рамесніцкай дзейнасці быў шырока распаўсюджаны ў сярэднявечных гарадах. Сляды гарбарнай і шавецкай вытворчасці маюцца амаль ва ўсіх старажытных гарадах, дзе праводзіліся раскопкі. У якасці сыравіны выкарыстоўваліся скуры буйной і дробнай рагатай жывёлы. Апрацоўка скуры была даволі працаёмкай. Скуру выскрабалі, вымочвалі, апрацоўвалі шчолакам, прамывалі, размякчалі ў кіслым растворы (рабілі так званае "квашэніе усніе"), дубілі ў адвары дубовай кары, прамазвалі тлушчам або дзёгцем. Часам сустракаюцца фрагменты скураных вырабаў, фарбаваныя ў чырвоны, зялёны і карычневы колеры. Відаць, у некаторых гарадах існавалі спецыялізаваныя паселішчы рамеснікаў гэтай справы, бо часам сустракаюцца гарадскія тапонімы з назваю "кажамяцкая слабада", як гэта мела месца, напрыклад, у Віцебску.

З мяккай, добра апрацаванай скуры рамеснікі шылі абутак: боты, чаравікі, пасталы (поршні, поршы). Апошнія былі найбольш распаўсюджаным відам абутку. Чаравікі ўпрыгожваліся разнастайным арнаментам з каляровых шарсцяных нітак[3]. У Віцебску, напрыклад, быў знойдзены верх ажурнага чаравіка з багата выразаным арнаментам, які кампазіцыйна нагадвае ўзоры традыцыйных беларускіх арнаментаў.

Са скуры выраблялі похвы для нажоў, кінжалаў, мячоў, футаралы для грабянёў, кашалькі для крэсіва і губы, мячы для гульні ў лапту і інш. На Верхнім замку Віцебска ў пласце XIII ст. выяўлены скураны мех дуды-валынкі. Пра наяўнасць такой музычнай прылады вядома было з пісьмовых крыніц XV ст. Віцебская знаходка паглыбляе час з'яўлення яе ў гарадах усходніх славян больш чым на тры стагоддзі.

Натуральна і тое, што для пашыву адзення былі неабходны прадзенне і ткацтва. Пра наяўнасць першага ў гарадах Беларусі яскрава сведчаць шмат-

---

[1] *Алексеев Л.В.* Художественные изделия косторезов из древних городов Белоруссии// СА. 1962. № 4. С. 197—210.

[2] *Трусов О.А.* Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв. Мн., 1988.

[3] *Тарасов С.В.* Технология и инструменты кожевенно-сапожного ремесла Полоцка и Минска (XI—XVIII вв.) // Памятники науки и техники 1987—1988. М., 1989. С. 164—174.



Скураны абутак XII—XIII стст. з Мінскага замчышча (бот, чаравік, поршань)

лікія знаходкі спецыяльных грузікаў на верацяно — праслачкаў, выразаных з ружовага сланцу, што дастаўляўся на Беларусь з Валыні. Часам у некаторых гарадах знаходзяць і самі верацёны. Ткацтва ажыццяўлялася на ткацкіх станках-кроснах. Дэталі кроснаў выяўлены падчас раскопак у Брэсце, Мінску, Віцебску, Полацку. У некаторых гарадах знойдзены і фрагменты тканін саржавага і палатнянага пераплячення. Некаторыя з іх маюць сляды афарбоўкі ў чырвоны і карычневы колеры.

З шарсцяных нітак касцянымі іголкамі плялі рукавіцы, шкарпэткі, верхнюю вопратку. Узоры гэтага строю знойдзены ў Брэсце, Полацку, Віцебску. Шырокі ўжытак знаходзіў і лямец, які ішоў на выраб вупражы, сёдлаў, шатроў, шапак. Цэлая шапка з лямцу накшталт беларускай магеркі выяўлена ў пласце XIII ст. у Брэсце.

**Гандаль.** Не ўсе патрэбы ў сыравіне, прадуктах харчавання і прадметах рамесніцкай вытворчасці маглі быць задаволены на месцы. Да таго ж у чымсьці на той час быў і лішак мясцовай прадукцыі, якую можна было прадаваць ці абмяняць. Шырокі гандлёвы абмен вёўся з паўднёварускімі гарадамі, найперш з Кіевам, куды амаль з паўсвету сцякаліся тавары іншаземных купцоў.

Вырабы паўднёварускай вытворчасці прадстаўлены знаходкамі шкляных бранзалетаў (хаця некаторая іх частка выраблялася і ў гарадах Беларусі — Полацку, Віцебску, Друцку), пацерак, пярсцёнкаў, посуду. З паўночнага Прычарнамор'я даходзілі на Беларусь амфары з віном і алеем. Вялікая колькасць гэтага посуду сабрана ў Навагрудку, ёсць ён у Мінску, Полацку, Віцебску, Брэсце і інш. З Каўказа сюды прывозілі самшыт, з якога выразалі грабяні. Адтуль жа паступаў і валошскі арэх. З Візантыі, Блізкага Усходу і Сярэдняй Азіі дастаўляўся шыкоўны шкляны посуд, распісаны эмаллю і золатам. Фаянсавы посуд прывозіўся з Персіі. З арабскага Усходу і Візантыі часам прывозілі і дарагія тканіны (павалокі). Фрагмент шыкоўнай шоўкавай вопраткі, вышытай залатымі ніткамі, знойдзены ў Мінску. Нават з далёкага Індыйскага акіяна траплялі на Беларусь рэчы. Гэта ракавінкі каўры, што ішлі на аздобу маністаў. Яны знойдзены ў Гродне, Полацку і Віцебску. Цікавая знаходка выяўлена ў Ваўкавыску — рэшткі касцей паўліна, знойдзеныя ў пласце XII ст. Радзімаю гэтых дзівосных істот з'яўляюцца астравы Цэйлон і Суматра. Несумненна, што такая рэдкая для нашых краёў птушка магла належаць вельмі заможным людзям — князю або знаці.

Магчыма, з Ноўгарада або з Прыбалтыкі ці праз Польшчу ў гарады Беларусі трапілі тавары заходнееўрапейскай вытворчасці. Так, у Навагрудку знойдзены бронзавы кубак XII ст., які паходзіць з Самбіі, і залаты пярсцёнак з лацінскім надпісам (XIII—XIV стст.). У Гродне сярод старажытнасцей Барысаглебскай царквы выяўлены бронзавы рукамыйнік-вадалей у выглядзе ўзброенага конніка (Ніжняя Саксонія, першая палова XIII ст.)[1]. У Ваўкавыску знойдзена наверша з косці маржа ў выглядзе галавы льва, які паглы-

[1] *Гуревич Ф.Д.* Древние города Белорусского Понеманья. С. 36.

нае чалавека (Паўднёвая Германія, другая палова XII ст.), у Мінску — абломак касцяной лыжачкі для прычасця ў выглядзе фігуркі святога з рогам (Францыя, XII ст.), зброя скандынаўскага паходжання (мячы, шлем) знойдзена ў некаторых гарадах Панямоння і ў Полацку.

У Візантыю і Заходнюю Еўропу гарады Беларусі пастаўлялі найперш дарагія футры (куніцы, собаля, ваверкі), мёд, воск, смалу, лён і вырабы з яго, зброю, замкі, разную косць, вырабы са срэбра, жывёлу і рабоў, захопленых у час войнаў, пра што іншым разам згадваюць пісьмовыя крыніцы. Каляровыя і высакародныя металы траплялі ў Беларусь толькі прывазным шляхам у выніку гандлёвага абмену. Пра добра наладжаны гандаль сведчаць знаходкі ў гарадах і ў некаторых пахаваннях ручных вагаў, бязменаў, гірак-разнаваг.

**Грашовае абарачэнне.** У IX—X стст. у грашовым абарачэнні на Беларусі былі арабскія срэбныя манеты — дырхемы[1]. Вялікі скарб такіх грошай вагой больш за 20 кг знойдзены каля Полацка. У XI ст. распаўсюджваюцца срэбраныя манеты — дэнарыі з Германіі, Англіі, Чэхіі, Угоршчыны, Францыі і Паўночнай Італіі. Зрэдку трапляюць на тэрыторыю Беларусі срэбраныя і залатыя грошы візантыйскага паходжання. У гэты ж час вядомыя ўжо і ўласна грошы ўсходнеславянскага паходжання, якія чаканіліся ў Кіеве, — срэбранікі і златнікі. На Беларусі знойдзена некалькі соцень срэбранікаў і дзесятак златнікаў.

У XII—XIII стст. на Беларусі быў "безманетны перыяд". Таму ў абарачэнні хадзілі плацежныя зліткі са срэбра. Гэта кіеўскія, вырабленыя ў форме падоўжанага ромба з адсечанымі вострымі вугламі (вага 140—165 г), наўгародскія — у выглядзе лодкападобнага бруска, вагою 200 г і літоўскія ці заходнерускія ў выглядзе палачкі вагою 100—110 г. У пісьмовых крыніцах гэтыя зліткі называюцца грыўняй, рублём, срэбрам літым, а палавінкі іх — паўцінаю. У Полацкім княстве мелася свая назва іх — "ізрой". У якасці дробных грошай маглі ўжывацца шыферныя праслачкі, алавяныя пломбы, футры дробных жывёл.

## 6. Сельская абшчына і вёска

**Развіццё сельскай абшчыны.** Як ужо гаварылася, на працягу VIII—IX стст. на змену буйным патрыярхальным абшчынам, якія абаранялі інтарэсы сваіх членаў у сутыкненнях з іншымі людзьмі і выконвалі ўнутраныя вытворчыя і адміністрацыйныя функцыі, прыходзіць новая грамадская форма — сельская (суседская) абшчына. Яна складалася ў асноўным з малых індывідуальных сем'яў. У пісьмовых крыніцах гэта абшчына называецца "пагостам", "мірам" альбо "верв'ю" (апошні тэрмін характэрны для паўднёвых тэрыторый усходніх славян). У абшчыну ўваходзілі не толькі тыя сем'і, што былі звязаны паміж сабою роднасцю, але і з іншых родаў. Такое спалучэнне стварылася ў выніку каланізацыі ўсходнеславянскімі плямёнамі тэрыторый, дзе сустракаліся носьбіты рознага этнасу, прадстаўнікі розных мікраплямён — родавых абшчын[2].

У пачатковы перыяд фарміравання феадалізму суседская абшчына заставалася найбольш масавай сацыяльнай структурай, адной з асноўных форм арганізацыі грамадства. Пад уплывам княжацкай улады і новага феадальнага ўкладу яе развіццё ў гэты час не было прамалінейным і бесперапынным. Фарміраванне і ўмацаванне дзяржаўных утварэнняў у IX—X стст.,

[1]*Рябцевич В.Н.* Нумизматика Беларуси. Мн., 1995. С. 115—122; *Галубовіч В.І.* Эканамічны стан, побыт і гандаль старажытнай Беларусі (IX—XIII стст.). Мн., 1997. С. 155—173.

[2]*Щапов Я.Н.* О функциях общины в Древней Руси // Общество и государство феодальной России. М., 1975. С. 15.

эксплуатацыя насельніцтва шляхам збору даніны, віраў (штрафаў) і іншымі сродкамі прывялі да ліквідацыі шэрагу першапачатковых функцый абшчыны. Разам з тым княжацкая ўлада надала абшчыне новыя абавязкі, якія ператваралі яе часткова ў орган дзяржаўнага кіравання. Сельская абшчына ўяўляла сабой тэрытарыяльнае аб'яднанне непасрэдных вытворцаў-земляробаў[1]. Гэта былі сяляне, якія яшчэ не трапілі ў прыватнаўласніцкую залежнасць і былі падпарадкаваны толькі дзяржаве. Абшчына несла адказнасць перад княжацкімі ўладамі за выкананне дзяржаўных павіннасцей і падаткаў. Ворная зямля знаходзілася ва ўладанні сялян-уласнікаў і перадавалася ў спадчыну. Абшчына атрымлівала права карыстання непадзеленымі землямі. Яна валодала самакіраваннем: выбірала свае органы кіравання, мела свой абшчынны суд. У ёй захавалася кругавая парука, кожны з яе членаў удзельнічаў у стварэнні грамадскага фонду і мог атрымаць ад абшчыны матэрыяльную дапамогу. З грамадскага фонду абшчына выплачвала так званую "дзікую віру", г.зн. калектыўна адказвала за розныя злачынствы на сваёй тэрыторыі[2]. Князь умешваўся ва ўнутраныя справы абшчыны толькі тады, калі дзейнасць яе членаў несла пагрозу яго ўладзе і ўласнасці. Паводле закона Рускай Праўды, калі абшчыннік забіў прадстаўніка княжацкай адміністрацыі (агнішчаніна), князь пазбаўляў абшчыну права сумеснай выплаты віры і ўскладваў выплату вялікай сумы (80 грыўняў) толькі на забойцу. У выпадку нявыплаты апошнім віры ён забіраўся з абшчыны і станавіўся княжацкім халопам (рабом).

У XI ст. у выніку ўзнікнення царкоўнай дзяржаўнай арганізацыі сельская абшчына пазбаўлялася сваіх функцый, звязаных з афармленнем сям'і і яе жыццём, сацыяльнымі канфліктамі, якія не пагражалі непасрэдна княжацкай уладзе. Да гэтых функцый, напрыклад, належалі пытанні заключэння і скасавання шлюбу, калі былі адхіленні ад прынятых норм: выкраданне нявесты, адмова жаніха ад шлюбу пасля заключэння дамовы, адмова мужа забяспечваць жонку без дастатковых падстаў для гэтага і інш.

Сельская абшчына паступова трапляла ў залежнасць ад феадалаў-вотчыннікаў. Яе члены з уласнікаў ператвараліся ў трымальнікаў зямлі, а сама абшчынная арганізацыя альбо разбуралася, альбо падпарадкоўвалася вотчыне, губляючы рэшткі сваіх функцый.

**Сельскія неўмацаваныя паселішчы.** Паселішчы адносяцца да найменш вывучанай катэгорыі ўсходнеславянскіх помнікаў. Звесткі пісьмовых крыніц пра іх вельмі бедныя, таму шмат якія пытанні гісторыі вёскі вырашаюцца з дапамогаю археалагічных крыніц. Даныя археалогіі дазваляюць высветліць тапаграфію і планіроўку сярэднявечнай вёскі, яе памеры і вонкавы выгляд, час існавання, канструкцыю жытла, а таксама вырашаць праблемы дэмаграфіі, рассялення, сацыяльнай гісторыі вёскі і інш.

Асноўным тыпам паселішча на землях Беларусі ў IX—XIII стст. была "весь", дзе жылі свабодныя сяляне-абшчыннікі. У пісьмовых крыніцах яна ўпамінаецца пераважна ў агульнай форме, як супрацьлегласць гарадам. Другім тыпам сельскіх паселішчаў, дзе першапачаткова жылі свабодныя сяляне, было "сяло". Пазней гэты тэрмін пачаў ужывацца ў адносінах да паселішчаў, што належалі свецкай і духоўнай знаці і засяляліся залежнымі ад іх людзьмі. Так, пад 1287 г. у летапісе гаворыцца, што цяжка хворы ўладзіміра-валынскі князь Уладзімір Васількавіч завяшчаў у выпадку сваёй смерці некалькі сёл і г. Кобрын "княгіні сваёй"[3]. Звычайна ў такіх месцах мелася сядзіба самога феадала ці яго сельскай адміністрацыі.

[1]*Тимощук Б.А.* Восточнославянская община в VI—X вв. М., 1990.
[2]Памятники права Киевского государства X—XII вв. М., 1952. С. 121.
[3]ПСРЛ. Т. 2. С. 903.

Верагодна, адно з паселішчаў такога тыпу было даследавана каля г. Чавусы Магілёўскай вобласці[1]. Яно размешчана на ўзвышаным участку левабярэжнай тэрасы р. Бася. На поўдні і поўначы тэрыторыя селішча абмежавана лажбінамі, на захадзе — уступам і абрывам тэрасы. Культурны пласт прасочваецца ўздоўж берага паласой 250x115 м, яго агульная плошча — 2,5 га. Да паўночнай мяжы селішча прылягае курганны могільнік, у якім налічвалася 130 насыпаў. Пры раскопках селішча выяўлены рэшткі, што засталіся ад наземных зрубавых жылых збудаванняў і слупавых пабудоў X—XVI стст., шмат керамічных вырабаў, шэраг рэчаў з чорнага і каляровых металаў, каменныя праслачкі для верацён, вырабы з косці і рога, шкляныя пацеркі і інш. Значная большасць знаходак датуецца XI ст., што паказвае час найбольшай інтэнсіўнасці жыцця на паселішчы.

Асноўнымі заняткамі насельніцтва тут былі ворнае земляробства і жывёлагадоўля. З калекцыі вызначаных касцей 73% належалі хатняй жывёле, у большасці — буйной рагатай. Сярод дзікіх жывёл пераважаюць косці лася. Даволі разнастайным было рамяство. Жыхары селішча займаліся кавальствам, ганчарствам, ювелірнай справай. Аб металургічнай вытворчасці сведчаць знаходкі шлакаў і кавалкі жалезных крыц.

На селішчы знойдзены таксама рэчы, не характэрныя для звычайных вяскоўцаў таго часу: фрагменты шыйнай грыўні, пласцінчатых бранзалетаў, амуніцыя прафесійных воінаў. Гэтыя знаходкі дазваляюць меркаваць, што на селішчы каля Чавус была сядзіба прадстаўніка княжацкай адміністрацыі ці дружынніка-землеўладальніка.

У жыцці сярэдневечнага Чавускага паселішча вылучаюцца некалькі этапаў. У X ст. яно існуе як звычайнае радзіміцкае паселішча ("весь"). У XI ст. тут пасяляецца прадстаўнік феадала, з чым звязана хутчэй за ўсё з'яўленне ў XII ст. перасяленцаў ("сяло"). На рубяжы XII—XIII стст. феадал ці яго прадстаўнік пакідае паселішча і пачынаецца перыяд яго заняпаду. Асабліва яскрава апошні прасочваецца ў XIV ст., а ў пачатку XVI ст. паселішча зусім знікае.

У пісьмовых крыніцах XII ст. з'яўляюцца паселішчы з назвай "слабада" (свабада). Найбольш верагодна, што яны ўяўлялі сабой месцы, дзе знаць пасяляла цалкам залежных ад сябе людзей, нярэдка якой-небудзь адной прафесіі (жалезаздабытчыкі, кавалі і г.д.). У адрозненне ад іншых паселішчаў, жыхары слабод пастаянна ці на пэўны тэрмін маглі быць вызвалены ад дзяржаўных павіннасцей.

Тэрыторыю сельскіх абшчын, а таксама іх цэнтральнае паселішча называлі тэрмінам "пагост". Упершыню ў летапісах такая назва ўжываецца ў сувязі са знакамітым паходам кіеўскай княгіні Вольгі на драўлян і на Ноўгарад у 40-х гадах X ст., дзе яна "устави... погости и дани". Адсюль вынікае, што пагост — гэта тэрытарыяльная адзінка, якая была створана князем для збору даніны і ажыццяўлення адміністрацыйнай улады. Аднак вядома, што князі пры арганізацыі пагостаў маглі выкарыстоўваць ужо існуючую структуру абшчынных паселішчаў і шмат якія пагосты ўзніклі на старой абшчыннай аснове. Пагост звычайна з'яўляўся найбольш буйным паселішчам у акрузе і мог быць умацаваным альбо адкрытым. Яго акружалі некалькі звычайных "весяў". Такія скапленні паселішчаў у літаратуры называюць "гнёздамі", а тып рассялення насельніцтва — скучана-гнездавым.

Магчыма, менавіта пагост вывучаўся археалагічнымі раскопкамі ў межах сучаснага Мінска пры будаўніцтве мікраараёна Малінаўка-1. Паселішча знаходзілася каля в. Дружба (былая Рылаўшчына) на тэрасе правага берага р. Ло-

[1]*Рыер Я.Г.* Вясковае паселішча ў г. Чавусы // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1994. № 3. С. 202—225.

шыца і займала плошчу каля 2,5 га. Вакол яго яшчэ ў пачатку XX ст. налічвалася некалькі курганных могільнікаў і асобных насыпаў. Раскопкамі даследавана 1120 $м^2$ плошчы помніка пры магутнасці культурнага пласта да 0,5 м.

Знойдзены рэшткі 29 наземных зрубавых жылых збудаванняў, гаспадарчыя і вытворчыя пабудовы X—XIII стст., адкуль паходзіць пераважная большасць старажытных рэчаў[1]. Дакладнае датаванне будынкаў дало магчымасць вылучаць у жыцці селішча пяць храналагічных перыядаў і прасачыць дынаміку яго развіцця. У першым перыядзе (X ст.) на даследаванай плошчы знаходзілася 9 жылых, 3 гаспадарчыя і 2 вытворчыя забудовы. У другім перыядзе (першая палова XI ст.) назіраецца павелічэнне колькасці пабудоў, прычым усе яны былі пабудаваны на свабодных участках, а дамы папярэдняга перыяду працягвалі існаванне. У трэцім перыядзе (другая палова XI ст.) працэс павелічэння паселішча працягваецца, але меншымі тэмпамі. На новых месцах пабудаваны толькі 3 жылыя пабудовы, астатнія — на старых месцах. На гэты час прыпадае максімальная колькаць жылля на даследаваным участку — 17 пабудоў. Аднак к пачатку XII ст. колькасць пабудоў паступова памяншаецца, а ў першай палове XII ст. падае да ўзроўню X ст. (9 пабудоў). У гэты час будаўніцтва на вольных участках спыняецца, аднаўляюцца толькі старыя пабудовы. Апошні храналагічны перыяд (другая палова XII ст. — першая палова XIII ст.) характарызуецца далейшым памяншэннем тэрыторыі паселішча. Колькасць дамоў у сярэдзіне XIII ст. скарацілася да 5, што складае 29,4% ад усёй колькасці ў перыяд яго найвышэйшага росквіту.

Як і на селішчы каля Чавус, асноўнымі заняткамі насельніцтва паселішча Дружба былі земляробства і жывёлагадоўля. Паводле вызначэння астэалагічных матэрыялаў, у апошнім дамінавалі буйная рагатая жывёла (52,3%) і каняводства (23,8%). Акрамя таго, знаходкі рэшткаў сырадутных печаў і шлакаў, тыгляў і вырабаў з каляровых металаў сведчаць пра развіццё на селішчы чорнай металургіі і ювелірнага рамяства. Ткацтва, прадзіва, апрацоўка дрэва, косці і рога існавалі тут у выглядзе хатніх промыслаў. Знаходкі вырабаў гарадскіх майстроў і імпартных рэчаў (амфары, крышталёвыя і сердалікавыя пацеркі) сведчаць пра тое, што жыхары селішча былі ўцягнуты ў эканамічныя зносіны з мясцовымі і далёкімі гандлёва-рамесніцкімі цэнтрамі.

Паказальна, што ўжо ў X ст. сярод жытла селішча вылучаюцца дзве пабудовы большых памераў, чым іншыя. У далейшым колькасць жылых збудаванняў адносна вялікіх памераў паступова павялічваецца. Менавіта тут былі знойдзены фрагменты цугляў, што сведчыць пра трыманнё іх гаспадарамі верхавых коней. Знаходкі на донцах посуду княжацкіх знакаў у выглядзе трызубцаў гавораць пра тое, што гэта, верагодна, былі прадстаўнікі княжацкай адміністрацыі.

Структура сельскага рассялення ў IX—XIII стст. развівалася пад моцным уплывам прыродна-геаграфічных умоў. Жыццёвыя патрэбы чалавека ў ежы, вадзе, спрыяльным клімаце, наяўнасці паліва і іншай сыравіны прымушалі яго выбіраць месцы для паселішчаў недалёка ад вады, на тэрасах рэк і азёр, незатапляльных у час паводкі ўзвышшах у поймах рэк, звычайна не вышэй за 10 м над узроўнем вады і не далей 100—150 м ад вадасцёкаў. Большасць селішчаў мела адносна невялікую плошчу — 0,1—3 га, але сустракаюцца і вельмі буйныя — да 10—20 га.

Канструкцыя жытла была розная. Асабліва гэта тычыцца IX — першай паловы X ст. На Палессі ў гэты час вядомы невялікія паўзямлянкі слупавой і каркасна-плятнёвай канструкцыі з глінянай купалападобнай печчу альбо з

---

[1] *Заяц Ю.А.* Паселішча X—XIII стст. каля в. Дружба (Рылаўшчына) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1994. № 3. С. 132—147.

печчу-каменкай (Скорбічы, Хотамель)[1]. На поўнач ад Прыпяці з'яўляюцца наземныя дамы зрубавай канструкцыі. Па сваіх памерах спачатку яны былі аднолькавымі з паўзямлянкамі. На працягу другой паловы X ст. на ўсёй тэрыторыі Беларусі паглыбленыя ў зямлю збудаванні канчаткова выціскаюцца наземнымі (Дружба, Чавусы, Франопаль, Гарадзішча, Грыўковічы). Пэўную ролю ў фарміраванні канструкцыі і інтэр'ера жытла адыгралі кліматычныя і геаграфічныя асаблівасці (наяўнасць будаўнічага матэрыялу, характар грунту і інш.).

Планіроўка і ў некаторай ступені памеры паселішчаў залежалі ад рэльефу мясцовасці. Пераважная большасць вёсак X—XII стст. на Беларусі мае бессістэмны і лінейны тып забудовы. Апошні ўжываўся пры будаўніцтве ўздоўж надпоймавых тэрас, схілаў яроў, высокіх карэнных берагоў рэк і азёр. Пабудовы на такіх селішчах выцягваліся пераважна ў адзін рад, але сустракаюцца і два рады. Пры бессістэмнай забудове ўжывалася некалькі варыянтаў планіроўкі: скучаная, калі дамы размяшчаліся побач адзін з адным, раскіданая, калі будынкі размяшчаліся паасобку, хаатычна, і гнездавая, калі на паселішчы існавала адначасова некалькі груп скучаных пабудоў з незабудаванымі ўчасткамі зямлі паміж імі.

Паселішчы IX—X стст. звычайна былі больш буйнымі, чым у пазнейшы час. Паводле вынікаў даследаванняў у Заходнім Палессі, іх плошча ў сярэднім складала каля 1 га, зрэдку дасягала 4—5 га. Асноўная колькасць селішчаў, што ўзніклі ў XI — першай палове XIII ст., займала тэрыторыю 0,4—0,7 га, але меліся і большыя — да 2 га. Памяншэнне плошчы звязана з пераходам большасці гаспадарак ад падсечнага земляробства, якое патрабавала працы вялікіх калектываў, да ворнага. У XII—XIV стст. насельніцтва Беларусі пераходзіць да трохпольнай сістэмы ў земляробстве, якая патрабавала больш уважлівых адносін да раллі (угнаенні, барацьба з пустазеллем). Паколькі плошча раллі была невялікай, гэтыя ўмовы абмяжоўвалі і памеры паселішчаў. Яны мелі магчымасць павялічвацца, пакуль паблізу былі неапрацаваныя ўчасткі зямлі. Такім чынам, прычыны росту колькасці паселішчаў, асваення насельніцтвам новых тэрыторый у XI—XIII стст. заключаюцца ў зрухах у гаспадарцы і ў змяненні дэмаграфіі.

На пачатковым этапе рассялення людзі толькі прыстасоўваліся да прыроднага асяроддзя, пазней пачалі ўздзейнічаць на яго. Пад уплывам гаспадарчай дзейнасці чалавека паступова змяншаюцца тэрыторыі, занятыя лесам. Спачатку яго парубка вялася ў сувязі з падсечна-агнявым земляробствам і тычылася перш за ўсё шыракалістых лясоў з далін рэк, дзе былі найбольш урадлівыя глебы. Пазней, па меры павелічэння колькасці паселішчаў і насельніцтва ў цэлым, вырубка робіцца на больш адлеглых участках, асвойваюцца раней не заселеныя даліны рэк з некранутымі старажытнымі пушчамі. З цягам часу павялічваецца шчыльнасць паселішчаў у "гнёздах" і плошча гэтых "гнёздаў". Шмат якія з іх злучаліся паміж сабой і ператвараліся ў больш буйныя агламерацыі. На Беларусі такая сітуацыя вывучана ў Магілёўскім Падняпроўі і ў Заходнім Палессі[2]. У канцы IX—X стст. на Магілёўшчыне ўзнікла 18% усіх вядомых вёсак, у XI—XIII стст. — больш за 72, у XIV—XV стст. — усяго 9%. З улікам таго што ўсе паселішчы IX—X стст. працягвалі існаваць і пазней, атрымліваецца, што ў XI—XIII стст. тут існавала больш за 90% усіх вядомых усходнеславянскіх вёсак. У XIV ст. іх засталося каля 96%. Аналагічная сітуацыя прасочваец-

---

[1]*Русанова И.П.* Славянские древности VI—IX вв. между Днепром и Западным Бугом. М., 1973.

[2]*Риер Я.Г.* Характер размещения сельского населения в Могилевском Поднепровье в X—XIII вв. // СА. 1982. № 4. С. 107—108.

ца ў Заходнім Палессі, дзе ў IX—X стст. узнікла 18% вядомых паселішчаў, у XI—XIII стст. — 70, у XIV—XV стст. — 12%.

Значную ролю ў сельскім рассяленні мелі ваганні клімату. У VIII ст. у Еўропе пачынаецца пацяпленне, якое доўжылася да канца XII — пачатку XIII ст. У той жа час паступова павялічвалася вільготнасць. У XIII—XIV стст. яна дасягнула сваёй найвышэйшай адзнакі, істотна павысіўся ўзровень грунтавых вод, што дазваляла больш эфектыўна выкарыстоўваць студні. Пік вільготнасці супаў з пачаткам перыяду пахаладання. З цягам часу надвор'е станавілася ўсё больш няўстойлівым, халодныя зімы і неспрыяльныя для сельскай гаспадаркі вясна і лета здараліся ўсё часцей, асабліва ў XV ст., пакуль у XV ст. не наступіў так званы "малы ледавіковы перыяд".

**Гарадзішчы-сховішчы і гарадзішчы-замкі.** Асобным тыпам сельскіх помнікаў X—XIII стст. з'яўляюцца гарадзішчы. Паводле функцыянальнага прызначэння яны падзяляюцца на некалькі груп. Сярод вядомых на сённяшні час большую частку складаюць так званыя гарадзішчы-сховішчы. Яны ўяўляюць сабой умацаванні, пабудаваныя членамі родавых абшчын для сваёй абароны ў выпадку небяспекі. Нярэдка абшчыннікі выкарыстоўвалі для гэтых мэт гарадзішчы, што ўзніклі яшчэ ў жалезным веку ці ў раннім сярэднявеччы.

Сховішчы не былі прыстасаваныя для доўгатэрміновага засялення: культурных напластаванняў на іх амаль няма, абарончыя збудаванні прымітыўныя, плошча ўмацаваных пляцовак вагаецца ў межах 0,06—0,3 га. Часта яны размяшчаліся на некаторым аддаленні ад селішчаў абшчыннікаў, але вядомы таксама гарадзішчы з адначасовымі селішчамі-спадарожнікамі. Сярод апошніх вылучаюцца помнікі з адносна насычаным знаходкамі культурным слоем.

Адно з такіх гарадзішчаў знаходзіцца каля в. Франопаль Брэсцкага раёна, на мысападобным выступе надпоймавай тэрасы р. Рыта. Яго пляцоўка ўмацавана кальцавым валам дыяметрам 30 м і вышынёй 1,5—2,5 м. Вакол гарадзішча, на краі тэрасы размешчана селішча плошчай каля 1 га. Раскопкамі даследавана 286 м$^2$ культурнага слою ўмацавання і 336 м$^2$ селішча. Практычна ўсе знаходкі на гарадзішчы паходзяць з выразнага пласта пажарышча. Яго таўшчыня на краі пляцоўкі дасягае 0,45—0,5 м, бліжэй да цэнтра слой робіцца танчэй (да 0,1 м) ці знікае зусім. Рэшткі пажарышча накрывае слой светла-шэрага пяску амаль без знаходак таўшчынёй да 0,7 м (каля вала). На мацерыку знойдзены сляды зрубавых клецяў, якія прылягалі да ўнутранага боку вала, рэшткі, магчыма, неглыбокай студні, пясчаныя сценкі якой замацаваны камянямі, а дно заслана падлогай з дубовых дошак. На падлозе захаваліся рэшткі зруба з 1—2 вянцоў, зробленага з такіх самых дошак. Па-за межамі клецяў, на мацерыку раскапаны таксама рэшткі прымітыўнага агнішча — абломкі абпаленых камянёў, попел, вялікая колькасць керамікі і камкі абпаленага зерня проса.

Частка буйных абломкаў керамічнага посуду, знойдзеных на гарадзішчы, была моцна дэфармавана пад уздзеяннем агню, працяглай ветравой эрозіі і дажджу. Шмат у якіх месцах меліся развалы гаршкоў і нават цэлы посуд з камякамі прасяной кашы. Акрамя керамікі найбольш распаўсюджаны прадметы ўзбраення: наканечнікі стрэл, коп'яў, сякеры, дэталі мячоў. Выяўлены таксама прылады працы (нажы, жорны, шыферныя праслачкі, сярпы), розныя бытавыя рэчы (замок, крэсівы, дэталі ад вёдзер), шкляныя пацеркі.

Характар культурных напластаванняў, асартымент знаходак на гарадзішчы і селішчы сведчаць пра тое, што ўзніклі яны не раней другой паловы X ст. і былі знішчаны ў выніку нападу варожай дружыны не пазней пачатку

XI ст. Трэба, аднак, адзначыць, што гарадзішчы-сховішчы з багатым культурным пластом, падобныя Франопалю, — вельмі рэдкая з'ява. На аналагічных помніках, даследаваных на Валыні (Украіна), знаходак амаль няма. У мірны час такія гарадзішчы выкарыстоўваліся насельніцтвам як культавы цэнтр і месца грамадскіх сходаў.

Да другой групы гарадзішчаў належаць умацаваныя двары знаці ці так званыя феадальныя замкі. Іх развіццё, як лічаць некаторыя даследчыкі, адлюстроўвае фарміраванне феадальнай знаці і яе распаўсюджанне сярод сельскага насельніцтва. Масавае з'яўленне замкаў на тэрыторыі Беларусі пачынаецца з XII ст. У XII—XIII стст. яны распаўсюджваюцца практычна па ўсіх землях усходніх славян.

Амаль заўсёды гарадзішчы-замкі акружаны селішчамі, іх месцазнаходжанне звязана з землеўладаннямі феадалаў[1]. Гарадзішчы гэтай групы розныя па сваіх памерах, канструкцыі і колькасці ўмацаванняў. Іх варыянтнасць залежала не толькі ад ландшафту тэрыторыі, дзе гарадзішчы былі пабудаваны, але таксама ад статуса феадала-гаспадара ў іерархіі мясцовай знаці, памераў яго зямель, колькасці залежных сялян і сабранага багацця. Таму сярод гарадзішчаў-замкаў сустракаюцца як магутныя ўмацаванні са складанай сістэмай равоў і валоў, так і адносна невялікія сядзібы, што належалі дробным землеўладальнікам. Большасць апошніх увогуле не будавала замкаў, а жыла на адкрытых паселішчах у сядзібах, агароджаных простым частаколам.

Звычайна феадальныя замкі мелі плошчу ад 0,1 да 0,5 га. За гэтыя межы выходзяць толькі асобныя помнікі. Земляныя валы гарадзішчаў мелі дадатковыя абарончыя збудаванні ў выглядзе драўляных сцен рознай канструкцыі, вежаў, уязной брамы. Калі замак быў пабудаваны ў цяжкадаступных месцах (высокае ўзвышша з крутымі схіламі і г.д.), драўляныя ўмацаванні ўзводзіліся па краі пляцоўкі.

Для феадальных замкаў не характэрна вулічная планіроўка, як у гарадах. Звычайна на іх невялікіх пляцоўках размяшчаліся 6—10 жылых і гаспадарчых пабудоў, астатнія канцэнтраваліся ўздоўж вала.

Асновай эканомікі замкаў з'яўлялася сельскагаспадарчая вытворчасць, аднак сярод іх асаблівых адзнак вылучаецца колькасная перавага костак дзікіх жывёлін над хатнімі. Гэта сведчыць пра значную ролю палявання ў жыцці ўладальнікаў замкаў і іх акружэння.

Археалагічна зафіксавана, што адной з вядучых галін гаспадаркі замкаў з'яўлялася ювелірнае рамяство, якое забяспечвала яго жыхароў упрыгожаннямі і іншымі вырабамі з каляровых металаў. Частка прадукцыі ювеліраў, безумоўна, рабілася таксама для продажу. Сярод іншых рамёстваў на гарадзішчах-замках вылучаюцца метала- і дрэваапрацоўка, ганчарства, ткацтва, кастарэзная справа. На некаторых гарадзішчах выяўлены сляды развіцця шкларобства.

Адным з найбольш яскравых прыкладаў замка феадала ў Беларусі з'яўляецца гарадзішча каля в. Вішчын Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Ён размешчаны на высокай правабярэжнай тэрасе Дняпра і займае плошчу 0,63 га. Умацаваны трыма паралельнымі паўкруглымі валамі і равамі вышынёй да 3 м. З боку ракі замак абараняў круты абрыў тэрасы[2].

Падчас раскопак вывучана значная плошча помніка. На вяршыні ўнутранага вала знойдзены рэшткі спаленай драўлянай сцяны — гарызантальна

---

[1]*Ваганова А.Н.* Древнерусский феодальный замок XI—XIII вв.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Вильнюс, 1985.

[2]*Загорульский Э.М.* Исследования Вищинского замка // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 86—90.

пакладзеныя бярвенні паміж кароткімі папярэчнымі сценкамі і 6 драўляных аднакамерных пабудоў. Апошнія размяшчаліся ўздоўж вала на адлегласці 10—15 м адзін ад другога. Выяўлены два зрубавыя жылыя дамы з драўлянымі падлогамі і разваламі печаў, майстэрня ювеліра і свіран.

Вішчынскі замак узнік у сярэдзіне XII ст. Матэрыялы раскопак даюць уяўленне пра гаспадарчае жыццё і быт яго жыхароў. Знаходкі абломкаў сашнікоў, матык, сярпоў, жорнаў, костак жывёлін сведчаць аб развіцці сельскай гаспадаркі і палявання. Інструменты для апрацоўкі металу і дрэва прадстаўлены сякерамі, гваздадзёрам, зубілам, свердламі, малатком, долатамі. Аднак найбольш поўна матэрыялы раскопак адлюстроўваюць ювелірную справу. На месцы былой майстэрні ювеліра знойдзены льячка, запоўненая бронзай, матрыцы для вырабу падвесак, бляшак, колтаў. Шмат свінцовых пласцін, якія, відаць, выкарыстоўваліся для вырабу эмаляў. Шэраг ювелірных вырабаў знойдзены па-за межамі майстэрні: бранзалеты, пярсцёнкі, бразготкі, крыжы-цельнікі, прывескі.

Падчас ракопак на валу сярод камянёў выяўлены манетна-рэчавы скарб рубяжа XII—XIII стст., у склад якога ўваходзілі высокамастацкія срэбраныя вырабы (колты, пласцінчаны і кручаны бранзалеты, крынападобныя прывескі, пацеркі, ланцужкі) і 18 плацёжных грыўняў розных тыпаў. Два колты і прывескі былі пазалочаныя. Скарб быў схаваны ў апошнія гадзіны існавання замка ў сярэдзіне XIII ст.

Лёс Вішчынскага замка падобны да іншых феадальных умацаваных сядзіб. На працягу XIII—XIV стст. у час ваенных і палітычных катаклізмаў большасць іх знікае. У жыцці грамадства ўмацоўваецца роля гарадоў, куды пераязджае значная частка феадальнай знаці.

## 7. Звычаёвае права, закон і суд

**Сведчанні звычаёвага права.** У старажытных грамадствах існавалі спосабы паводзін, якія былі звыклымі для іх членаў. Сукупнасць няпісаных правіл паводзін (звычаяў), якія склаліся ў грамадстве ў выніку іх выкарыстання на працягу доўгага часу і санкцыяніраваных дзяржавай, называецца звычаёвым правам. Найбольш характэрна звычаёвае права для раннесярэднявечнага грамадства.

Паводле паведамлення "Аповесці аб мінулых часах", асобныя этнічныя аб'яднанні ўсходніх славян "мелі бо звычаі свае, і законы бацькоў сваіх і паданні, кожны — свой нораў... Гэтага ж звычаю трымаліся крывічы і іншыя паганыя, што не ведаюць закону Божага, а самі сабе ўстанаўляюць закон"[1].

Даследчыкі адзначаюць тры характэрныя рысы звычаёвага права. Першая асаблівасць — гэта яго партыкулярызм (раз'яднанасць). У кожнай мясцовасці, старажытным княстве дзейнічала сваё мясцовае звычаёвае права. Другая рыса — традыцыяналізм, нязменнасць норм звычаёвага права, іх кансерватызм. Трэцяя рыса — дуалізм (дваістасць) гэтага права, які зыходзіў з фармальнай роўнасці свабодных людзей пры існаванні поўнага бяспраўя рабоў: халопаў, чэлядзі нявольнай[2].

Звычаёвае права папярэднічае закону. Звычай не мае санкцыі, зацвярджэння яго якой-небудзь заканадаўчай уладай. Звычаёвае права, як і ўсялякае права, змяняецца і развіваецца, але адносна звычаю ў адрозненне ад закона нельга назваць асобу ці асоб, ад якіх дадзены звычай пайшоў.

---

[1]Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.). Мн., 1998. С. 13.

[2]*Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 137, 138.

Найбольш старыя пісьмовыя помнікі ўсходніх славян захавалі некаторыя нормы звычаёвага права, якія ўзыходзяць яшчэ да родаплемяннога ладу. Яркае адлюстраванне яны знайшлі ў так званай кароткай рэдакцыі Рускай Праўды. Першы артыкул гэтай рэдакцыі гаворыць аб наяўнасці ў славян інстытута кроўнай помсты: "Калі чалавек заб'е чалавека, то помсціць брат за (забойства) брата, сын за бацьку ці дваюрадны брат, ці пляменнік з боку сястры".

Захаваліся іншыя сведчанні славянскага звычаёвага права, якія ўзыходзяць да глыбокай старажытнасці. Гэта прымяненне ў судовым працэсе такіх відаў "доказаў", як выпрабаванне вадой і распаленым жалезам (ардаліі), судовыя паядынкі і інш.

Нормамі няпісанага звычаёвага права доўгі час рэгуляваліся ўнутрысямейныя адносіны ў сялянскім побыце. Звычай вызначаў няпісаныя правілы паводзін і маралі, адносін да працы, зямлі, прыроды, маёмасці. Асновай сямейных узаемаадносін разам з кроўнароднаснымі і шлюбнымі сувязямі было права на спадчыну, якое рэгламентавалася звычаёвым сямейным правам. У кампетэнцыю сямейнага права ўваходзілі справы, якія датычылі сямейна-бытавых адносін, апекі старых і недарослых, заключэння шлюбу, усынаўлення і прыняцця ў сям'ю чужакоў, атрымання ў спадчыну і падзелу сямейнай маёмасці, становішча жанчыны, выхавання дзяцей, правоў і абавязкаў членаў сям'і і інш.[1]

Паводле звычаю, сям'ю (як вялікую, так і малую) узначальваў самы стары, але яшчэ здольны да спраў і працы мужчына — бацька. У выніку смерці бацькі ўсе правы сям'і перакладаліся на яго жонку — маці ці на дарослага старэйшага сына.

Згодна старажытнаславянскім звычаям, абшчына мела правы абароны свайго члена. Менавіта гэта вяло да права абшчыны суда над ім. У беларускіх землях найбольш старажытным быў суд "послухаў" (ведаючых людзей). Са з'яўленнем княжацкай улады абшчына захоўвала права суда над сваімі членамі ў тым выпадку, калі яна для гэтага плаціла князю гадавую віру[2].

Рэшткі старажытных форм народнага суда, што ўзыходзілі да язычніцкіх часоў, захоўваліся ў элементах звычаёвага народнага права, якое выкарыстоўвалася ў так званых копных сходах беларускага сялянства эпохі сярэднявечча, у практыцы "коп" ці копных сходаў выкарыстоўваліся нормы звычаёвага права, ці, як тады пісалі, "звыкласці старадаўняй", "звычаю" і інш.[3]

Звычаёвае права рэгулявала дзяржаўныя павіннасці насельніцтва. Так, павіннасць па абароне сваёй зямлі абавязаны былі выконваць усе мужчыны, здольныя насіць зброю. Наогул старажытнае звычаёвае права было вельмі разгалінаваным і рэгламентавала ўсе бакі чалавечых адносін: ад сямейных спраў да пагранічных спрэчак.

У кожным усходнеславянскім княстве-дзяржаве дзейнічала сваё мясцовае звычаёвае права. У старажытных помніках пісанага права асноўны змест складалі нормы, узятыя са звычаёвага права, а спачатку пісанае права толькі дапаўняла яго.

**Пісьмовае права XI—XII стст.** Славяне свае старажытныя законы называлі "праўдамі". На працягу XI ст. стварыўся першы варыянт пісьмовага ўсходнеславянскага права, які вядомы пад назвай "Руская Праўда". Яна

---

[1]*Владимирский-Буданов М.Ф.* Очерки по истории литовско-русского права. Киев, 1980. С. 50—56.

[2]*Голубовский П.В.* История Смоленской земли до начала XV столетия. Киев, 1895. С. 207—210.

[3]Труды IX Археологического съезда в Вильно в 1893 г. М., 1895. С. 242—260.

складалася на аснове старажытных славянскіх звычаяў, якія існавалі ўжо шмат стагоддзяў. У яе ўключаліся і новыя юрыдычныя нормы. Запіс юрыдычных норм павінен быў пачацца перш за ўсё ці ва ўмовах знешніх зносін, дзе "праўда" мясцовая сутыкалася з законам іншых краін, ці ў княжацкай гаспадарцы са зборшчыкамі штрафаў і даніны, якія ўвесь час ездзілі па ўсіх валасцях падуладных плямён і там судзілі і каралі ад імя свайго князя паводле яго законаў.

Цікавая звестка пра полацкага князя Усяслава змешчана ў "Слове пра паход Ігаравы". Вядомы гісторык М. Ціхаміраў прапанаваў інтэрпрэціраваць выраз "Усяслаў-князь людзям чыніў суды, радзіў князям гарады", што тут змешчаны, як сведчанне пра нейкія судовыя новаўвядзенні, якія здзяйсняў Усяслаў, калі знаходзіўся на велікакняжацкім стале ў Кіеве. Князь абяцаў непасрэдна кіраваць судаводствам, не аддаючы яго ў рукі сваіх цівуноў. Пры Усяславе гараджане маглі атрымаць гандлёвыя ільготы і вызваленне ад жорсткай княжацкай апекі[1]. У тыя гады стварaўся помнік сярэднявечнага права Кароткая Праўда. Нормы гэтага дакумента з'явіліся ў выніку заканатворчай дзейнасці княжацкай улады. Узнікненне гэтага помніка звязана з паўстаннямі смердаў і гараджан 1068—1071 гг. Не выключаны ўскосны ўдзел полацкага князя Усяслава ў складанні такога дакумента.

Руская Праўда як усялякі зборнік законаў звяртае ўвагу на крымінальныя справы (забойствы і крадзеж). У ёй гаворыцца аб шмат чым іншым: як падзяляць спадчыну, як адшукваць злодзеяў па іх слядах, колькі трэба плаціць працэнтаў за ўзятыя ў доўг грошы і г.д.[2]

Уяўленне аб помніках права, якія дзейнічалі ў беларускіх землях у XII ст., можна атрымаць з устаўных грамат смаленскага князя Расціслава. Гэтыя граматы (1136—1150) паказваюць далейшае развіццё норм старабеларускага права ў параўнанні з Рускай Праўдай. Граматы князя Расціслава Мсціслававіча і епіскапа Мануіла вызначаюць прававое становішча Смаленскай епархіі (епіскапіі). Граматы таксама ўтрымлівалі важныя даныя аб плацяжах, якія браліся княжацкай казной з насельніцтва[3]. Трэба нагадаць, што да Смаленскага княства тады належала ўсходняя частка сучаснай Магілёўскай вобласці з гарадамі Мсціславам, Крычавам, Слаўгарадам.

**"Праўда" (дагавор) 1229 г. і пытанне судаводства.** Каштоўным помнікам беларускага сярэднявечнага права з'яўляецца "Праўда" (дагавор) 1229 г. беларускіх гарадоў з Рыгай і Гоцкім берагам. У літаратуры ён вядомы пад назвай "Смаленская гандлёвая праўда". Гэты дагавор у нейкай ступені быў заснаваны на Рускай Праўдзе і асабліва на дагаворах Полацка з Рыгай 1210, 1212 гг.

Тэкст Смаленскай гандлёвай праўды 1229 г. утрымлівае паміж іншым нормы беларускага права, якія дзейнічалі ў Смаленску, Полацку, Віцебску ў пачатку XIII ст. Ён налічваў 37 артыкулаў. У апошнім артыкуле гаворыцца: "Та же правда буде Русину (в Ризе) и Немчию по Смоленьской волости и по Полотьскои и по Витебьскои"[4].

У "Праўдзе" ўстанаўліваецца штраф за забойства свабоднага чалавека і халопа (раба), прычым штраф за забойства халопа ў 10 разоў менш (1 грыўня срэбра).

Сацыяльны артыкул (№ 3) устанаўляе двайны штраф на забойства і знявечанне пасла ці іншых прадстаўнікоў пасольства. Ахова недатыкальнасці

---

[1]*Тихомиров М.Н.* Древняя Русь. М., 1975. С. 109, 110.

[2]*Юшков С.В.* История государства и права СССР. М., 1962. Ч. 1. С. 123, 124.

[3]*Щапов Я.Н.* Княжеские уставы и церковь в Древней Руси XI—XIV вв. М., 1972. С. 136—150.

[4]Смоленские грамоты XIII—XIV веков. М., 1963.

членаў пасольства сведчыць аб значным узроўні развіцця міжнародных адносін і дыпламатычнай практыкі беларускіх сярэднявечных княстваў.

"Праўда" 1229 г. забараняла незаконнае затрыманне (арышт) "русінамі" "немчынаў" і наадварот. Асобным артыкулам прадугледжвалася гарантыя дапамогі таму, хто пацярпеў бедства на вадзе.

Забаранялася прымяненне "ардалій" пры допыце і "паядынку" ў выпадку спрэчак, якія маглі ўзнікнуць паміж прадстаўнікамі дагаворных бакоў. Дагавор санкцыяніраваў расправу русінаў і нямецкіх купцоў з "тацямі", якія захоплены на месцы злачынства. Гэтым самым падкрэслівалася ахова праваў уласнасці.

У артыкуле 7 гаворыцца аб адказнасці гаспадара за даўгі халопа і аб маёмасці халопа ("задніца", "останок"). Прызнанне за рабамі права ўласнасці на маёмасць сведчыць аб новым поглядзе на рабства, якое змякчалася, а затым паступова знікала. Змякчэнне рабства бачна таксама на прыкладзе артыкула 12. Паводле яго, за згвалтаванне рабыні выплачваўся штраф (1 грыўня срэбра) "за сорам"[1]. Значыць, рабыня мела нейкую абарону, бо нанесеная ёй знявага каралася штрафам. Гэта зусім новая рыса, якая не была вядома Рускай Праўдзе.

"Праўда" 1229 г., тэкст якой утрымлівае элементы беларускай мовы[2], пацвярджае, што беларускае раннефеадальнае права шырока ўжывалася ў старабеларускіх землях і ў той жа час яно аказвала нейкі ўплыў на развіццё міжнароднага права гэтага часу.

Суд існаваў ужо ва ўмовах патрыярхальна-родавага ладу. Суд быў грамадскім. Ён ажыццяўляўся перад сходам свабодных людзей дадзенай абшчыны. Тады ўзнаўленне парушанага права было справай роду. Перажыткам гэтай з'явы доўгі час заставаўся інстытут кроўнай помсты.

Судаводства вялося сіламі саміх спрачальнікаў з удзелам абшчыны ці яе членаў, што таксама было перажыткам старажытнага самаўпраўства. Абшчына (верв) адказвала за злачынствы, зробленыя на яе тэрыторыі, у тых выпадках, калі яна не прымала ўдзелу ў выяўленні злачынца. Працэс "следа" быў у тым, што ісцец не звяртаўся да суда. Ён з дапамогай сваіх пасобнікаў арганізоўваў пагоню па слядах злодзея, які ўцёк.

Са з'яўленнем дзяржаўнай улады адказнасць за правапарушэнні ва ўсё большай ступені несла асоба, якая здзейсніла злачынства, а не абшчына. Суд станавіўся прэрагатывай князя і яго прадстаўнікоў. З судовай справы князь ці яго прадстаўнік атрымлівалі з вінаватага штрафы — "віры" за забойства і крадзеж. З цягам часу судовае разбірацельства ператварылася ў амаль паўсядзённы занятак князя.

Суд звычайна адбываўся на княжацкім двары. Але розныя заняткі, асабліва паходы, прымушалі князя пакідаць сваю рэзідэнцыю, свой двор. Таму ён назначаў сабе ў дапамогу цівуна, які быў абавязаны судзіць і караць у адсутнасць князя, часам нават і пры ім.

Ісцец і адказчык уступалі ў спрэчкі перад суддзёй. У выпадках зусім зразумелых спраў не патрабавалася якіх-небудзь новых доказаў, акрамя тых, якія прадстаўлены ісцом. Калі справа была няяснай ці заблытанай, даводзілася шукаць новыя доказы.

Здаралася, што доказы віны, якія прымяняліся ў судах усходніх славян у X—XII стст., зводзіліся да так званага "суда божага". У яго аснове было тыповае сярэднявечнае ўяўленне, што бажаство як вярхоўны суддзя апраўдвае правых і карае вінаватых. Таму практыкаваліся прысяганне (клятва), ардаліі, судовыя паядынкі. Паўсюдна ардаліі былі двух відаў:

---

[1] Памятники права феодально-раздробленной Руси XII—XV вв. М., 1953. С. 62.
[2] *Шакун Л.М.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1963. С. 105.



Палацкія воіны XIII ст.

выпрабаванне жалезам (агнём) і выпрабаванне вадой. Даказваючы сваю правату, чалавек павінен быў узяць у рукі кавалак распаленага жалеза. Па прыкметах апёка суддзі вызначалі правату ці вінаватасць абвінавачваемага. Выпрабаванне вадой зводзілася да своеасаблівага "спаборніцтва ў плаванні". Зразумела, той, хто ўтапіўся, справу прайграваў.

Судовы паядынак, ці "поле", уяўляў сабой вырашэнне спрэчнай справы перамогай ці паражэннем аднаго са спрачальнікаў, якія выступаюць у адзінаборства са зброяй у руках. Сэнс паядынку: бажаство не дапусціць перамогі вінаватага.

У Рускай Праўдзе паядынак "поле" невядомы. Упершыню ва ўсходнеславянскай крыніцы ён названы ў Смаленскай гандлёвай праўдзе 1229 г., дзе гаворыцца аб яго забароне ("Русину не звати Латина на поле бится у Руской земли; а Латинину не звати Русина на поле бится у Ризе и на Готском березе")[1].

Пры разглядзе грамадзянскіх і крымінальных спраў даказаць сваю праўду звычайна спрабаваў кожны бок. Аднак галоўную ролю ў доказах мелі паказанні сведкаў, прысяга (цалаванне крыжа), "боскі суд" — ардаліі[2].

Апошнім, заключным момантам судовага разбірацельства было вынясенне прыгавору. Але мала вынесці прыгавор — яго трэба было выканаць. У некаторых выпадках судовы прыгавор выконваўся асобамі, якія выйгралі справу: спрэчную рэч яе ўласнік сам адбіраў у вінаватага, помсту здзяйсняў сам ісцец і г.д. У іншых выпадках пастановы суда прыводзіліся ў выкананне прадстаўнікамі ўлады: отракамі, дзецкімі і інш.

У Іпацьеўскім летапісе пад 1160 г. (фактычна 1159 г.) змешчана звестка аб існаванні ў Менску такіх відаў зняволення, як "паруб" (турма), — пабудова тыпу склепа і "жалезы" (жалезныя ланцугі). У дадзеным выпадку яны былі ўжыты для прадстаўнікоў княжацкага роду. У Віцебску княжацкі дзецкі нямецкага купца "за шию оковал, и руки и ногы"[3].

Такім чынам, Руская Праўда дае магчымасць назіраць развіццё пачаткаў судаводства ў славян на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Смаленская гандлёвая праўда 1229 г., адзін з нямногіх дакументаў, які дайшоў да нас, дае ўяўленне аб беларускім крымінальным, грамадзянскім і судовым праве ў перыяд раздробленасці, калі існаваў шэраг самастойных беларускіх княстваў.

Права і суд, якія існавалі ў раннім сярэднявеччы на старабеларускіх землях, сталі асновай заканадаўчых працэсаў, што потым адбываліся ў Вялікім княстве Літоўскім у перыяд позняга сярэднявечча.

[1]Памятники права феодально-раздробленной Руси XII—XV вв. С. 61.
[2]*Вішнеўскі А.Ф., Саракавік І.А.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1997. С. 11.
[3]Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 77.

ГЛАВА 4

# КУЛЬТУРА. ВЫТОКІ БЕЛАРУСКАГА ЭТНАСУ

## 1. Язычніцтва: народныя святкаванні і абрады

**Язычніцкія вераванні.** Язычніцта (паганства) — умоўны тэрмін, які абазначае старажытныя вераванні і культы, што існавалі да пашырэння трох сусветных рэлігій: будызму, хрысціянства, ісламу. Назва паходзіць ад царкоўнаславянскага слова "языцы" (народы, чужаземцы). Тэрмін "паганства" ўтвораны ад лацінскага слова "паганус" (язычнік). Язычніцтва — надзвычай шматслойная і разгалінаваная рэлігія, якая ўключае ў сябе featureзнастадыяльныя рэлігійныя ўяўленні (анімізм, фетышызм, татэмізм і інш.) пэўных гістарычных эпох. На працягу многіх тысячагоддзяў язычніцтва зведала шматлікія змены, пераўтварэнні, больш познія напластаванні. Яно пачыналася ад культу продкаў і закончылася складаным і разгорнутым пантэонам багоў. Ва ўсходніх славян вярхоўным богам быў Пярун — бог грому і маланкі — адзін з найбольш старажытных багоў. Яго культ выводзіцца з часоў індаеўрапейскай супольнасці бронзавага веку. Сварог быў богам неба, а бог сонечнага святла Дажбог з'яўляўся яго сынам. Харс лічыўся богам Сонца, Волас (Велес) — богам жывёлагадоўлі, Стрыбог кіраваў вятрамі, якія наганялі дажджавыя хмары.

Летапісец гаворыць пра ўсходнеславянскія плямёны, што яны першапачаткова "не ведущие закона Божиа, но творяху сами себе закон", інакш былі язычнікамі. У старажытнага насельніцтва Беларусі доўга захоўваўся сямейна-родавы культ шанавання продкаў, звязаны з пахавальнымі звычаямі. Паводле этнаграфічных даных, у беларускіх сялян быў распаўсюджаны культ продкаў ("бацькоў"). Некалькі разоў у год адзначаліся памінальныя святы "Дзяды". Асабліва ўрачыста адзначалася свята восенню. Да яго старанна рыхтаваліся — чысцілі і мылі жыллё, рыхтавалі абрадавую ежу[1]. Перажыткам сямейна-родавага культу продкаў была вера ў дамавіка — нябачнага заступніка сям'і.

У славян мела распаўсюджанне язычніцкае ўяўленне аб "нячыстых нябожчыках", г.зн. тых, хто памёр ненатуральнай, гвалтоўнай ці заўчаснай смерцю. Лічылася, што небяспеку ўяўляе не дух ці душа нябожчыка, а ён сам. Нябожчыкі могуць уставаць з магіл і, валодаючы чарадзейнай сілай, нападаць на жывых людзей. Гэткія забабоны ляглі ў аснову апавядання ў "Аповесці аб мінулых часах" пра незвычайны цуд у Полацку. "У год 6600 (1092). Незвычайны цуд быў у Полацку. У наваджэнні д'ябальскім сярод начы быў тупат, стагнала апоўначы, гойсалі як людзі д'яблы па вуліцы. Калі хто-небудзь выходзіў з дому, жадаючы паглядзець, дык яго адразу нябачна паражалі д'яблы. І ад таго (людзі) паміралі, і не адважваліся яны выходзіць з дамоў. Затым жа пачалі (д'яблы) днём з'яўляцца на конях, але не бачна іх саміх, а (былі) бачны капыты коней і так паражалі яны людзей у Полацку і яго вобласці. Таму і гаварылі людзі: "Мерцвякі (навье) б'юць палачан". Гэта прыгода пачалася з (горада) Друцка". Тут Полацкая зямля прадстаўлена як краіна, якую мала закранулі хрысціянскія пропаведзі. Таму ў ёй і з'явіліся злыя духі. Верагодна, прычынай для апавядання з'явілася эпідэмія (мор)[2].

Існуе паданне, паводле якога ў старажытныя часы каля так званага Валовага возера, якое размяшчаецца ў двух кіламетрах на ўсход ад Полацкага га-

---

[1] *Токарев С.А.* Религия в истории народов мира. М., 1964. С. 181.

[2] *Штыхов Г.В.* Язычество и христианство в Полоцкой земле // Старожитності Русі—України. Київ, 1994. С. 216.

радзішча, знаходзілася капішча Перуна і Бабы-ягі. Гэта паданне доўга захоўвалася ў памяці старажылаў Полацка.

Добра вядома, што славяне да прыняцця хрысціянства пакланяліся абагаўлёнай імі прыродзе: гарам, камяням, крыніцам, азёрам, рэкам, кустам, дрэвам, гаям, а таксама звярам і птушкам, нарэшце агню, зоркам, месяцу і сонцу.

Месцы, дзе язычнікі ўшаноўвалі сваіх багоў, прыносілі ім ахвяры, называюцца свяцілішчамі або капішчамі. Наяўнасць свяцілішчаў у раннім сярэднявеччы на тэрыторыі Беларусі пацверджана археалагічнымі даследаваннямі. Размяшчаліся свяцілішчы на ўзвышшах, астравах, на берагах рэк і азёр, сярод балот.

Значнае месца ў паданнях і вераваннях беларусаў займаў камень, аб чым сведчаць шматлікія прыклады[1]. Камяням, якія размешчаны ў рэчышчы і ўяўлялі небяспеку пры плаванні на лодках, рабілі ахвярапрынашэнні. Так, на р. Віліі ёсць група камянёў, якія называюць "Прывітальня". Праязджаючы на лодках міма камянёў, людзі кідалі ў ваду хлеб з соллю і выкрыквалі: "Вітаю цябе хлебам-соллю, хлеб-соль прымі і мяне прапусці"[2]. Такі звычай вядомы і на Заходняй Дзвіне.

У старажытным Полацку нават сярод прадстаўнікоў княжацкай дынастыі пасля прыняцця хрысціянства шанаваліся язычніцкія вешчуны. "Аповесць аб мінулых часах" прыпісвае Усяславу Полацкаму нараджэнне ад чараўніцтва. Сучаснікі надзялялі Усяслава звышнатуральнымі якасцямі.

**Народны каляндар.** Святы і абрады здаўна прымяркоўваліся да пэўных каляндарных дат. Па сваім паходжанні і складзе яны з'яўляюцца полістадыяльнымі, таму ў іх прасочваюцца напластаванні розных эпох — ад самых архаічных да Новага часу. Сляды найстаражытнейшых культаў, якія звязаны з шанаваннем сонца, расліннасці, продкаў, захоўваліся ў перажытачным выглядзе ў шэрагу ўсходнеславянскіх абрадаў ажно да XX ст. Каляндарная абраднасць ва ўсходніх славян мела аграрна-магічны характар, таму што асноўнай яе функцыяй было забеспячэнне дабрабыту сялянскай сям'і, які залежаў у першую чаргу ад ураджаю.

У кожнага народа спрадвеку вёўся каляндар. З пакалення ў пакаленне ў ім перадаваліся веды, мудрасць, вопыт жыццёвых назіранняў. Такі каляндар мелі і продкі беларусаў. Абапіраючыся на бацькоўскія традыцыі і веру, людзі трымалі ў памяці шматлікія парады і забароны. Сяляне ведалі, калі можна было брацца за тую ці іншую працу, а калі, наадварот, адкласці яе, калі можна весяліцца, а калі ўстрымлівацца ад забаў.

Старажытныя славяне карысталіся язычніцкімі мерамі часу, у тым ліку і сонечна-месяцавым календаром. Земляробчыя святкаванні Новага года на старажытных беларускіх землях вядомы вясной, летам, восенню і зімой. Гэты дзень прыстасоўваўся звычайна да адпаведнага становішча свяціл на небе — сонца, месяца, асобных зорак. Такі дзень вызначалі "пасля поўні", як гаварылі ў народзе, у першы маладзік пасля веснавога раўнадзенства (20—21 сакавіка), летняга сонцастаяння (21—22 чэрвеня), асенняга раўнадзенства (22—23 верасня) і зімовага сонцастаяння (21—22 снежня).

Гісторыя змен у календары, асабліва тых, якія звязаны з перанясеннем святкавання Новага года, няпростая. З прыняццем хрысціянства славяне прынялі юліянскае летазлічэнне па візантыйскім ўзоры. Аднак Новы год пачыналі не з 1 верасня, як у Візантыі, і не з 1 студзеня, як у Рыме, а вясной — 1 сакавіка[3].

---

[1] *Ляўкоў Э.М.* Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мн., 1992. С. 65—84.
[2] *Мялешка М.* Камень у вераваннях і паданнях беларусаў. Мн., 1926. С. 162, 163.
[3] Беларускі народны каляндар/Аўтар-укладальнік Алесь Лозка. Мн., 1993. С. 9—10.



Абрад здабывання "жывога" агню (паводле даных этнаграфіі)

У беларускім народным календары адлюстраваліся светапогляд селяніна, яго глыбокае веданне прыроды і любоў да яе, цягавітасць да працы. Гэта адлюстравалася таксама ў назвах месяцаў календара. Для абазначэння другога месяца зімы (рускі "январь") у старабеларускай пісьменнасці выкарыстоўвалася назва "стычень". У гісторыі славян часам ён лічыўся і першым і пятым месяцам года[1].

Аднак у асноўным беларускія назвы месяцаў, якія за імі замацаваліся, адлюстроўваюць характэрныя асаблівасці сезонаў года. Беларуская назва "студзень" сведчыць пра яго характар: значыць, гэты месяц сцюдзёны, калі на зямлю прыходзяць халады. За студзень дзень павялічваецца на паўтары гадзіны.

Па народных прыкметах год падзялялі на дзве роўныя часткі: адна пачыналася з 1 студзеня, другая — з 1 ліпеня. Надыходзіла ўрачыстае зімовае святкаванне, якое на працягу двух тыдняў (з 7 па 19 студзеня) ахоплівае некалькі свят і вядома ў народзе як Каляды. Абрады, гульні, песні нярэдка з дня ў дзень паўтараліся на працягу ўсіх Каляд.

Люты — месяц зімы, калі яна была ў самай сіле. "Пытаецца люты, ці добра ногі абуты", — гаварыла народная прыказка.

Сакавік — беларуская назва першага месяца вясны — паходзіць ад слова "сок". У гэтую пару ён пачынае цячы з дрэў. Спраўлялася Масленіца — свята заканчэння зімы. Апошні дзень масленічнага тыдня, дзень сустрэчы вясны (Гуканне вясны).

Красавік — другі месяц вясны. Беларуская назва паходзіць ад слова "красаваць", бо тады з'яўляюцца першыя краскі — кветкі. У старажытнай літаратуры сустракаецца найменне "кветень". Спраўлялася старадаўняе свята Камаедзіца, калі заканчвалася спячка мядзведзя і ён выходзіў з бярлогі. Несумненна , свята бярэ пачатак ад язычніцкіх часоў і служыць пацвярджэннем, што ў дадзенай мясцовасці пакланяліся мядзведзю, каб задобрыць яго. На Камаедзіцу гатавалі і елі гарохавую кашу — так званыя камы (адсюль і назва). Вытокі свята звязаны са старажытнай формай рэлігіі — татэмізмам[2].

Вялікдзень (рус. Пасха) — вялікае гадавое веснавое свята, карані якога вядуць у глыбокую старажытнасць. Некалі ім адкрываўся новы каляндарны год. Пазней царква замацавала яго ў сваім "рухомым" велікодным календары.

Сучаснай літаратурнай назве месяца "май" адпавядае старабеларуская форма "травень", якая паходзіць ад слова "трава", бо ў гэтым месяцы зямля

[1]Беларускі народны каляндар. С. 23.
[2]*Ліцьвінка В.* Святы і абрады беларусаў. Мн., 1998. С. 57.

пакрываецца зеленню. У пачатку траўня адзначаецца даўняе земляробчае свята першага выгану кароў — Юрый (Ягорый, Георгій). Юрый — апякун жывёлы і земляробства (у хрысціянскі перыяд замяніў Ярылу). У дзень Радаўніцы на могілках памінаюць памерлых.

Праводзіўся абрад выезду ў поле Ярылы. У поле выпраўляўся на белым кані малады прыгожы хлопец у белай вопратцы. Дзяўчаты вадзілі вакол яго карагоды і спявалі абрадавыя песні.

Чэрвень — пачатак лета. Назва яго тлумачыцца з'яўленнем чарвякоў, а таксама чырвоным колерам, які набываюць некаторыя ягады менавіта ў гэтую пару. У месяцы самы доўгі дзень года — 22 чэрвеня (працягваецца больш за 17 гадзін) і самая кароткая ноч. Дзень летняга сонцастаяння продкі беларусаў здаўна адзначалі святам Купалля. У чэрвені асноўны занятак селяніна — нарыхтоўка сена. Людзі прыкмячалі: калі ў першы і другі дзень чэрвеня лье дождж — увесь месяц будзе сухі.

Назва месяца "ліпень" паходзіць ад слова "ліпа" — дрэва цвіце менавіта ў гэтую пару. Ліпень дорыць чалавеку спелыя лясныя і садовыя ягады, першыя грыбы. У ноч з 6 на 7 ліпеня (па новым стылі) святкавалася Купалле — вельмі старажытнае абрадавае свята сонца і агню, божастваў урадлівасці і росквіту зямлі. Яно пад рознымі назвамі вядома ўсім індаеўрапейскім народам. Свята прымяркоўвалася да летняга сонцастаяння. У паданнях расказвалася, што ў купальскую ноч расліны размаўляюць паміж сабой, дрэвы пераходзяць з месца на месца, а рэкі свецяцца прывідным святлом. Пашыранай на купальскім свяце была варажба. Дзяўчаты і хлопцы загадвалі, што чакае іх у будучым. Купальскія вераванні і легенды ў Беларусі адлюстроўвалі міфалагічны бок светапогляду старажытнага чалавека. Многія з іх сведчаць аб паэтычным успрыняцці ім свету.

Сучасная беларуская назва восьмага месяца года — жнівень, таксама як і старабеларуская "серпень", адлюстроўвае прыродныя асаблівасці пары. Дарэчы, назва "серпень" (ад слова "серп") захавалася ў украінцаў, чэхаў, палякаў. У многіх заходнееўрапейскіх мовах, а таксама ў рускай ужываецца назва месяца "август" (па імені рымскага імператара Аўгуста). У пачатку месяца заканчваецца ўборка азімых, затым убіраюцца пшаніца, ячмень, авёс і інш. Спраўлялася адно са свят хлеба — трэці Спас. У старажытнай Беларусі шмат дзе спраўлялі Дажынкі — свята канца жніва. Канец жніва і змена надвор'я адлюстраваны ў прыказках: "Трэці Спас хлеба прыпас", "Кожная хата ў жніўні багата".

Беларуская назва месяца "верасень" паходзіць ад слова "верас" — расліны, якая цвіце ў канцы лета і пачатку восені. 22 верасня сонца праходзіць праз пункт асенняга раўнадзенства, даўжыня дня і ночы становіцца аднолькавая. Настае так званае бабіна лета — пачатак жаночых сельскагаспадарчых работ. Пачыналіся сялянскія вяселлі, спяваліся песні. Адзначалася Узвіжанне (звіжанне) — свята "закрывання" зямлі на зіму. У назіранні над прыродай значная доля адводзілася птушкам, якія забіралі з сабой лета ("Узвіжанне лета замыкае, ключык шызая галачка за мора панесла").

Кастрычнік — дзесяты месяц года. Старaславянская яго назва "лістапад", у ўкраінцаў — "жовтень". Беларуская назва месяца паходзіць ад слова "кастрыца" (кастра): у гэты час сяляне часалі, трапалі лён і каноплі, з якіх ападала шмат кастры.

Асноўнае свята ў кастрычніку — Пакровы. Сяляне стараліся закончыць палявыя работы, падрыхтавацца да зімы. Пакровы заўсёды чакалі, бо тады было менш работы. Наступала пара асенніх вяселляў. У народзе казалі "Пакрова — дзеўка гатова. Пакрова прайшла — дзеўка замуж не пайшла".

Назва месяца "лістапад" тлумачыцца проста: канец ападання лісця з дрэў. У старажытнасці апошні месяц восені меў старабеларускую назву

"грудзень" (ад слова "груды" ў значэнні "замёрзлая зямля"). У пачатку лістапада адлятаюць апошнія чароды качак, дрэвы стаяць ужо без лісця. Вёска на нейкі час вызваляецца ад сельскагаспадарчых работ.

Дзяўчаты збіраліся на вячоркі, для чаго наймалі сабе хату на ўсю восень і зіму, да вясны ў якой-небудзь удавы або ў беднай сям'і. Усе пралі кудзелю і шчыра спявалі. Прыходзілі і хлопцы, каб паглядзець на дзяўчат, паслухаць іх спевы. На працягу зімы дзяўчаты наладжвалі тры-чатыры вечарыны, для чаго запрашалі музыкаў. Вячоркі былі распаўсюджаны ва ўсіх усходніх славян яшчэ з часоў ранняга сярэднявечча і амаль да нашага часу.

Апошні месяц каляндарнага года атрымаў назву "снежань" ад слова "снег". Старабеларускае яго найменне — "прасінець" у значэнні "прасвет у воблаках", старарускае — "студеный". У гэтым месяцы ёсць самы кароткі дзень года — 21 або 22 снежня (7—8 гадзін). У гэтую пару здаўна асноўная праца сялян пераходзіла ў хату. Доўгімі зімовымі вечарамі ў хаце гарэла лучына, звычайна ў асобным месцы на лучніку. Жанчыны браліся ткаць кросны. Мужчыны знаходзілі занятак, які быў звязаны з дробным рамяством.

У сялян з даўніх часоў быў добра развіты прагноз надвор'я, прадказанне надвор'я будучай вясны па зімовых прыкметах. Народныя веды замацоўваліся ў трапных прыказках і прымаўках: "Снежань зіму пачынае, а год канчае", "Мароз у снежні і снег вышэй хаты — будзе год тады багаты".

У апошнія дні года заканчваўся тэрмін службы ў гаспадара. Ён мусіў шукаць новых работнікаў. Слугі прасілі разлік і ішлі на святы.

Залежнасць жыцця і працы селяніна ад прыродных стыхій вымушала яго выконваць разнастайныя абрады, прымеркаваныя да пэўных падзей, строга рэгламентаваныя часам. Адпаведна чатыром парам года існавалі чатыры вялікія святы, вакол якіх групаваліся іншыя. У сваю чаргу асноўныя святы прыблізна накладваліся на астранамічныя перыяды, якія былі звязаны з сонцастаяннем ці раўнадзенствам. Увесь земляробчы каляндар трымаецца на цыклах: зімой — Каляды, вясной — Вялікдзень, летам — Купалле, некаторыя іншыя святы, восенню — Дзяды, Пакровы.

Такім чынам, беларускі народны каляндар з'яўляецца адной з форм духоўнага жыцця беларусаў. Доўгія стагоддзі паэтычная творчасць народа бытавала толькі ў вуснай форме, перадаючыся з пакалення ў пакаленне. Сістэма свят, абрадаў, гульняў, што замацаваны ў побыце і народнай творчасці беларусаў, была арыенцірам пры выкананні сельскагаспадарчых работ і адпачынкаў у гадавым, сезонным, месяцовым цыклах.

Хрысціянства аказвала значнае ўздзеянне на каляндарныя абрады. У абрадавыя заклінанні, песні ўвайшлі імёны Хрыста, Багародзіцы, іншых святых. Адбываўся складаны сплаў дахрысціянскіх і хрысціянскіх элементаў. Да XIX ст., калі абрады сталі прадметам навуковага даследавання, многія з іх былі моцна трансфармаваны, страчаны ці захаваліся як рудыменты. У шэрагу выпадкаў яны ўспрымаюцца як святочнае забаўленне, якое ўключыла новыя элементы гульні і песні.

**Абрадавая творчасць.** Старадаўнейшым пластом усходнеславянскай (старажытнарускай) культуры з'яўляецца вусная народная творчасць. Народная творчасць узнікла ў родаплемянным грамадстве.

Да старадаўніх відаў усходнеславянскага фальклору належыць каляндарна-абрадавая паэзія. Каляндарна-абрадавая творчасць цесна звязана з працай земляроба. Яна падзяляецца на зімовы, вясновы, летні і восеньскі цыклы. Найбольш цікавымі ў зімовым цыкле з'яўляюцца калядныя песні. Яны захавалі амаль да нашага часу сляды магічнай функцыі — садзейнічаць ураджаю і дабрабыту ў сялянскай гаспадарцы.

Прызначэннем калядных песень як часткі каляднага абраду ў старажытнасці было наблізіць надыход сонечнага цяпла (ад Каляд "сонца паварочваецца на лета") і забяспечыць багаты ўраджай у новым гаспадарчым годзе. Урадлівасць і багацце ў песнях падаюцца гіпербалізавана, а карціны прыроды набываюць часам касмічныя формы ("Ходзіць-паходзіць месяц па небу, кліча-пакліча зоры з сабою").

Асабліва багата прадстаўлена на беларускіх землях паэзія веснавога цыкла, цесна звязаная з абуджэннем прыроды, выхадам селяніна ў поле, выганам жывёлы.

Валачобныя песні — від веснавых песень, віншавальна-велічальныя творы, з якімі хадзілі валачобнікі. У старажытнасці валачобны абрад меў аграрна-магічны сэнс, пазней ён набыў характар вясёлай забавы. У такім выглядзе ён бытуе ў некаторых вёсках і зараз. У аснове гэтых міфалагічных уяўленняў ляжыць вера ў магічную моц слова, калі шчодрым зычаннем можна наблізіць чаканае, мару да рэчаіснасці. Валачобны гурт складаўся з запявалы, падпявальнікаў, музыкі (з музычным інструментам) і інш. Большасць валачобных песень звернута да гаспадара сядзібы — ратая і сейбіта, галоўнай постаці ў земляробстве. "Жыта яго ядрыстае. Ядрыстае каласістае. К адной мяжы нахілілася — свайму гаспадару пакланілася". Тыповымі былі прыпевы: "Вясна красна на дварэ!", "Зялёны сад вішнёвы!", "Хай так будзе". Яны перадавалі радасць, светлы настрой, якім прасякнуты ўсе песні.

Паэтычным хараством вылучаюцца купальскія песні, звязаныя з язычніцкім культам раслін і анімістычным светапоглядам старажытных людзей. У народнай купальскай паэзіі адлюстравалася радасць чалавека — сведкі найвышэйшага росквіту прыроды, зямнога плёну, яго імкненне кахаць, быць шчаслівым: "На Купала сонца гуляла", "Ой рана на Йвана" і г.д.

Беларуская каляндарна-абрадавая паэзія як цэласная і самакаштоўная з'ява традыцыйнай культуры мае сістэму жанраў: творчасць зімняга перыяду (піліпаўскія песні, калядныя, масленкі і інш.); веснавыя песні (гуканне вясны, вяснянкі, песні веснавых карагодаў, сёмушныя і інш.); песенны комплекс летняга перыяду (купальскія песні, пятроўкі, касецкія, жніўныя з абрадамі зажынак і дажынак); восеньскія песні (спасаўскія і кірмашовыя, ільняныя, канапляныя і інш.)[1].

З вельмі старажытных часоў сямейная абраднасць развівалася вакол трох галоўных момантаў у жыцці чалавека: нараджэння, уступлення ў шлюб і смерці. Ва ўсе часы людзям хацелася, каб будучы чалавек нарадзіўся здаровым, моцным, прыгожым, добрым, сумленным, разумным, таму ў старажытнасці звярталіся да магіі, імкнучыся запраграміраваць гэтыя якасці ў дзіцяці. Па народных павер'ях, вельмі многае залежала ад удзельнікаў абраду, асабліва ад бабкі-павітухі. Яна давала цяжарнай жанчыне рэкамендацыі, якіх норм паводзін прытрымлівацца ў такі адказны перыяд жыцця. Бабкай звычайна выбіралі вопытную пажылую знахарку, якая валодала прыёмамі аблягчэння родаў, ведала замовы, мела "лёгкую руку". Верагодна, пры родаплемянным ладзе гэта была старэйшая прадстаўніца роду. Яна прымала роды і рабіла найпрасцейшыя магічныя засцерагальныя дзеянні, каб уберагчы маці і дзіця ад уздзеяння злых сіл. Бабка рабіла рытуальнае купанне дзіцяці, першая прымала яго з рук хросных бацькоў пасля хрышчэння.

Праз некалькі дзён пасля нараджэння дзіцяці бацькі павінны былі выбіраць хросных. Пры родавым ладзе ўсе абавязкі хроснага выконваў брат маці, бо сваяцтва вялося па мацярынскай лініі і дзіця належала яе роду. Пры аб-

[1] *Ліс А.С.* Каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў (сістэма жанраў, эстэтычны аспект). Мн., 1998; *Крук І.І.* Следам за сонцам (беларускі народны каляндар). Мн., 1998.

меркаванні пытання аб шлюбе сваіх падапечных менавіта брат маці быў сватам жаніха і вёў перамовы з бацькамі нявесты. У "мацярынскага дзядзькі" з увядзеннем хрысціянства з'явіўся новы абавязак — ён стаў хросным бацькам пры прыняцці дзіцяці з лона царквы. Хросная маці выконвала тыя ж функцыі, што і хросны бацька[1].

Як каляндарныя, так і сямейныя абрады ўзніклі ў часы, калі славяне былі язычнікамі. Усе ўрачыстыя рытуалы тады былі накіраваны на ўміласціўленне багоў, засцераганне ад злых сіл, заклінанне прыроды.

Даследчыкі адзначаюць, што ў старадаўнасці нованароджанага да хрышчэння ніколі не спавівалі ў пялёнкі, а ўкручвалі ў ношаную кашулю бацькі ці маці. Такое дзеянне з'яўляецца водгаласам старажытнай традыцыі абрадавага ўсынаўлення. Формы абрадавага ўсынаўлення былі самымі разнастайнымі. Існаваў звычай класці дзіця на парог, месца, блізкае і прыемнае дамавіку, які ўвасабляў памерлага гаспадара — апекуна патрыярхальнай сям'і. Бацька павінен быў падняць і пацалаваць дзіця і тым самым прызнаць яго сваім. У дзень хрэсьбін у канцы абеду падавалі рытуальную "бабіну" кашу. Бывала, перш чым частаваць гасцей, бацьку нованароджанага прымушалі з'есці лыжку кашы, змешанай напалову з соллю. Гэты звычай лічаць водгаласам "кувады", вельмі старадаўняга перажытку часоў матрыярхату. Паколькі сваяцкасць (роднасць) вялася па мацярынскай лініі, бацька не меў правоў на дзіця. Аднак калі бацька адчуваў сябе дастаткова моцным, каб супрацьстаяць сваякам жонкі, яе братам, то для пацвярджэння правоў на дзіця бацька выконваў пэўныя сімвалічныя прыёмы, каб пацвердзіць яго сувязь з дзіцём. Адным з такіх прыёмаў лічаць "куваду" як разнавіднасць усынаўлення дзіцяці[2].

Славяне асабліва паважалі бога Воласа ці Вялеса. У яго кульце важнае значэнне мелі шэрсць ці валасы. У некаторых месцах Беларусі ў першы дзень жыцця немаўляці праводзіўся абрад пострыгу валасоў, што ўспрымалася як ахвярапрынашэнне богу. Але часцей гэты абрад праводзілі пазней, калі дзіцяці спаўняўся год і яго аддавалі пад апеку бога Воласа.

Уступленне ў шлюб лічылася надзвычай важнай падзеяй у жыцці маладых людзей. Шлюб паміж родзічамі забараняўся, бо лічыўся шкодным. У старажытныя часы зарадзіліся такія віды шлюбу, як "умыканне" (выкраданне) і купля-продаж нявесты. Малады мужчына адпраўляўся здабываць сабе жонку з іншага роду. Пазней гэты звычай быў заменены шлюбам па дамоўленасці, паводле якой за нявесту плаціўся выкуп. Пасланцы маладога (сваты) дамаўляліся з бацькам маладой аб шлюбе і памеры выкупу. Калі дасягалася згода, то праз некаторы час адбывалася вяселле.

У час вяселля маладую ўсаджвалі на звярыную шкуру. Гасцям раздавалі вясельны каравай. Абрадавае печыва сімвалізавала дабрабыт будучай сям'і, атаясамлівалася з маладымі, іх доляй і шчасцем. У старажытныя часы ў прыгатаванні караваю ўдзельнічалі ўсе члены родавай абшчыны, пазней — усе члены сельскай абшчыны. Каравай з'яўляецца абавязковым атрыбутам усіх этапаў вяселля. З вельмі даўніх часоў вяселле суправаджалася карагодам — відам мастацкай творчасці, у якім сінтэзаваліся танец, песня, гульнёвае драматызаванае дзеянне, часам у музычным суправаджэнні.

Пахаванне (хаўтуры) уяўляла цыкл сямейных звычаяў і абрадаў, якія былі звязаны з ушанаваннем памяці нябожчыка і праводзінамі яго ў апошні шлях. У традыцыйным абрадзе пахавання ў сярэднія вякі цесна перапляталіся язычніцкія і хрысціянскія элементы, у якіх выразна выявіўся культ продкаў. Усе этапы пахавання суправаджаліся галашэннямі, вядомымі з глыбо-

[1]Беларускія народныя абрады /Склад. Л.П.Касцюкавец. Мн., 1994. С. 88—89.
[2]Там жа. С. 92, 94.

кай старажытнасці. Яны грунтаваліся на веры ў бессмяротнасць душы, на ўяўленнях аб тым, што чалавек і пасля смерці можа дапамагаць ці шкодзіць жывым. Гэта былі імправізаваныя творы, у якіх гучалі смутак і гора, глыбокі жаль з выпадку смерці роднага ці блізкага чалавека. У галашэннях шырока ўжываліся пяшчотна-ласкавыя звароты, словы-эпітэты: "А мой раднюсенькі, а мой мілюсенькі", "А мая матулечка, шэрая зязюлечка! Навошта нас пакінула, горкіх сіротачак?". Цесна звязаная з жыццём і працай чалавека сямейна-абрадавая паэзія адлюстроўвала бытавыя і культурныя ўмовы яго існавання ў розныя гістарычныя эпохі.

## 2. Прынящце і распаўсюджанне хрысціянства

**Хрысціянізацыя беларускіх зямель.** Некаторыя гісторыкі выказваюць меркаванне, што "найбольш старажытным рэлігійным цэнтрам Полацкай зямлі быў не Полацк, а горад Ізяслаўль"[1]. Каля Ізяслаўля (сучаснае Заслаўе) быццам быў заснаваны найбольш старажытны манастыр у Полацкай зямлі. Прыкмет існавання манастыра ў Заслаўі пры шматгадовых археалагічных даследаваннях не знойдзена. Але, напэўна, Ізяслаўль на Свіслачы быў сапраўды заснаваны Уладзімірам Святаславічам у апошняй чвэрці X ст., як гаворыцца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе.

Выказваюцца думкі аб місіянерскай дзейнасці ў Полацкай зямлі скандынава Торвальда Вандроўніка, які вядомы па актыўным удзеле ў хрысціянізацыі Ісландыі ў канцы X ст. У "Сазе аб хрышчэнні" паведамляецца: "У тое лета, калі было прынята хрысціянства ў Ісландыі, ад нараджэння госпада нашага Ісуса Хрыста прайшло 1000 гадоў... Торвальд, сын Кадрана, і Стэўнір, сын Таргіля, сустрэліся пасля (смерці) конунга Алава. Яны накіраваліся ўдваіх па ўсяму свету і да самага Йорсалахейма (Палесціны), адтуль — да Міклагарда (Канстанцінопаля) і далей да Кёнугарда (Кіева), яшчэ далей (на ўсход) па Непру (Дняпру). Торвальд памёр у Русіі недалёка ад Палтэск'і (староскандынаўскае абазначэнне Полацка). Там ён пахаваны ў адной гары ў царкве Іаана Хрысціцеля, і называюць яны яго святым. Так гаворыць Бранд Вандроўнік: "Я прыйшоў туды, дзе Торвальду, сыну Кадрана, Хрыстос даў успакаенне; там ён пахаваны ў высокай гары ўверх па цячэнню Драўна (Дрёвна) у царкве Іаана". Стэўнір накіраваўся тады на поўнач у Данію ... так паведаміў Ары Стары".

Даследчыкі спрачаюцца наконт таго, што разумець пад тапонімам Драўна (Дрёвна) — гару ці раку. Калі гэта гара, дык яна магла знаходзіцца каля Полацка на беразе Дзвіны. Але калі рака, то мяркуюць, што ёй магла быць Друя ці іншы вадаём у сістэме Браслаўскіх азёраў[2]. Пытанне гэта застаецца нявырашаным і месца пахавання Торвальда дагэтуль не знойдзена. Між тым ёсць падставы меркаваць, што Торвальд нейкі час прапаведваў веру Хрыстову ў Полацкай зямлі, дзе існавала хрысціянская абшчына і была пабудавана царква, верагодна, спачатку драўляная. Тут Торвальд Вандроўнік памёр і, напэўна, быў пахаваны прыхаджанамі.

Мусіць, хрысціянства ў Полацку было прынята прадстаўнікамі вышэйшай знаці ўслед за афіцыйным увядзеннем яго ў Кіеве ў 988 г. Ізяслаў, сын Уладзіміра і Рагнеды, хутка пасля прыняцця новай веры пачаў княжыць у Полацку. Аб клопаце па распаўсюджванні тут хрысціянства ўскосна сведчыць характарыстыка Ізяслава, змешчаная ў познім Ніканаўскім летапісе,

---

[1] *Рапов О.М.* Русская церковь в IX — первой трети XII в. Принятие христианства. М., 1988. С. 375, 377.

[2] Древнерусские города в древнерусской письменности. Тексты, перевод, комментарии/ Сост. Г.В.Глазырина и Т.Н.Джаксон. М., 1987. С. 101—105.

дзе сказана, што князь "прилежаще прочитанию божественных писаний", г.зн. быў вельмі набожны.

У Цвярскі летапіс (таксама позні) трапіла цікавае паданне аб Рагнедзе-манахіні, якая быццам правяла апошнія гады свайго жыцця ў "манастыры" пад імем чарніцы Анастасіі. Але дзе ён мог размяшчацца, у летапісе не паведамляецца. Няма звестак, пісьмовых крыніц аб хрысціянстве ў Полацкай зямлі ў часы княжання Брачыслава (1003—1044).

Сведчаннем актыўных кантактаў полацкага князя Усяслава (1044—1101) з духавенствам служыць яго ўвага да шанавання кананізаваных у 1072 г. братоў дзеда — князёў Барыса і Глеба. Не выпадкова такія імёны былі дадзены таксама сынам Усяслава. Гэта праліваe святло на ступень хрысціянізацыі жыцця двара полацкага князя, а таксама на сувязь яго з царкоўным асяроддзем, якое з'явілася ў Кіеве ініцыятарам шанавання святых Барыса і Глеба. Шаванне гэтых святых хутка атрымала распаўсюджанне ў Полацкай зямлі, што відаць на прыкладзе помнікаў жывапісу ў Полацку (фрэскі святых Барыса і Глеба ў Барысаглебскім (Бельчыцкім) манастыры) і прыкладнога мастацтва (віслая пячатка з выявай св. Глеба з археалагічных раскопак Мінска, бронзавы абразок з раскопак Копысі і інш.).

У Полацку ў XII ст. існавала не менш 10 культавых манументальных збудаванняў, тры манастыры. Полацкая княжацкая сям'я цесна была звязана з Кіева-Пячэрскім манастырам. Добрыя адносіны манастыра з Полацкам склаліся яшчэ пры жыцці Усяслава, якога падтрымліваў манастыр у 1068 г.

Пісьмовыя крыніцы, даныя мовазнаўства і хрысціянскія рэаліі, знойдзеныя ва Усходняй Прыбалтыцы пры археалагічных даследаваннях, сведчаць аб пранікненні сюды хрысціянскай рэлігіі не пазней XII ст. У Кукенойсе жыў святар Сцяпан, давераная асоба полацкага князя[1]. Верагодна, у гэтым немалая роля належала полацкай Сафіі, пабудаванай у 50-я гады XI ст. Не выключана, што сабор займаўся місіянерскай дзейнасцю, распаўсюджваючы хрысціянскую веру сярод суседняга балцкага насельніцтва. Асобныя літоўскія князі прынялі праваслаўе.

Аднак вера ў Полацкай зямлі распаўсюджвалася павольна і павінна была вытрымаць барацьбу з язычніцтвам. Язычніцкія вешчуны ў Полацку былі ў пашане нават сярод прадстаўнікоў княжацкай дынастыі пасля афіцыйнага прыняцця хрысціянства. Летапіс прыпісвае Усяславу Полацкаму нараджэнне ад "вяшчунства". Сама Полацкая зямля ўяўлялася летапісцам і аўтару "Слова пра паход Ігаравы" краінай чараўнікоў.

Аб надта замаруджаным працэсе хрысціянізацыі ў сельскай мясцовасці сведчаць даныя раскопак курганных могільнікаў. У беларускіх землях пад уплывам хрысціянства ў канцы X ст. пачынаецца паступовая змена пахавальнага абраду. Побач з рытуальным спальваннем памерлага (крэмацыяй) з'явілася так званая інгумацыя, памерлага змяшчалі ў курган у выцягнутым палажэнні.

Да перамогі хрысціянскага светаразумення было яшчэ далёка. У пахавальных абрадах крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў і іншых плямён яшчэ доўга захоўваліся язычніцкія элементы: выпальванне глебы напярэдадні збудавання на ёй кургана, рытуальная ежа, якую змяшчалі ў курган, трызна, выцягнутае ўздоўж цела палажэнне рук (у хрысціянскіх пахаваннях рукі складзены на жываце).

Царква не столькі выдаляла язычніцтва з пахавальнага абраду, колькі прыстасоўвала яго да новага рытуалу. У канцы X — пачатку XI ст. з'явіліся пахаванні ў падкурганных ямах, змянялася палажэнне рук нябожчыка ад

[1] *Мугуревич Э.С.* Восточная Латвия и соседние земли в X—XIII вв. Рига, 1965. С. 71.

выцягнутага ўздоўж цела да складзенага на жываце, змяншаўся па колькасці пахавальны інвентар, пакуль ён зусім не знік у пачатку XIII ст.

У Тураве ўсталяванне хрысціянства суправаджалася крывавымі падзеямі. Відаць, не выпадкова тураўскае паданне апавядае аб каменных крыжах, якія прыплывалі ў горад па Прыпяці, калі вада ў рацэ была чырвонай ад крыві.

У мясцовых паданнях Турава нагадвалася імя пакутніка Дыянісія, які прапаведваў тут пасля Тура і быў забіты язычнікамі з суседняга паселішча,названымі міхнаўцамі — жыхарамі в. Міхнавічы (цяпер у Калінкавіцкім раёне). На думку беларускага вучонага А. Мельнікава, Дыянісій быў адным з хрысціян-місіянераў, якія пацярпелі ад язычнікаў[1].

Паводле паведамлення летапісу, пасля прыняцця хрысціянства ў Кіеве князь Уладзімір Святаславіч накіраваў у Тураўскую зямлю прыёмнага сына Святаполка ў якасці пасадніка, які абавязаны быў распаўсюджваць новую веру. Згодна паданню, якое дайшло да нас, сам князь Уладзімір заснаваў пад Пінскам Лешчынскі манастыр.

У старажытных летапісах няма паведамленняў пра тураўскіх епіскапаў X—XI стст., аднак ёсць звесткі ў іншых крыніцах пра епіскапа Рэйнберна. Тураўскі князь Святаполк узяў шлюб з дачкой польскага караля Баляслава. З ёй прыехаў калобжацкі епіскап Рэйнберн, які стаў распаўсюджваць каталіцызм. Уладзімір арыштаваў Святаполка, яго жонку і Рэйнберна, які хутка памёр у турме. У 1015 г. пасля смерці Уладзіміра княжыць у Кіеве пачынае Святаполк. У гэтым годзе адбылося забойства братоў князёў Барыса і Глеба, якія потым былі абвешчаны першымі ўсходнеславянскімі святымі, аб чым ужо гаварылася. У 1054 г. хрысціянская царква канчаткова падзялілася на каталіцкую і праваслаўную.

Жонка князя Святаслава Ізяславіча Варвара заснавала ў Тураве Варварынскі манастыр, у якім жыла з дзецьмі пасля смерці князя. Епіскапская рэзідэнцыя ў Тураве знаходзілася пры мужчынскім манастыры. У дзядзінцы Турава пры археалагічных раскопках выяўлены рэшткі мураванага сабора XII ст.

Такім чынам, вынікае, што распаўсюджанне хрысціянства ў старажытных землях Беларусі мела агульныя рысы з зацвярджэннем новай веры ў іншых землях усходніх славян. Яно было прынята спачатку вярхамі і паступова распаўсюджвалася сярод іншых пластоў грамадства.

**Двухверства**. Разглядаючы пытанне аб распаўсюджанні хрысціянства ва ўсходніх славян, гісторыкі ў мінулым, як і цяпер, выкарыстоўваюць тэрмін "двухверства". Яно праяўлялася ў тым, што частка людзей, пасля таго як прыняла хрысціянства, працягвала пакланяцца язычніцкім багам. З тым, што на Русі існавала двухверства, згаджаліся буйныя гісторыкі праваслаўнай царквы.

Аднак іншыя даследчыкі лічылі, што размова павінна ісці не пра ўстанаўленне дзвюх паралельных рэлігійных з'яў, а пра іх сінкрэтызацыю. На іх думку, праз некаторы час пасля пранікнення хрысціянства на Русь паміж хрысціянствам і даўно існуючым тут язычніцтвам устанавілася пэўнае адзінства, прычым гэта адзінства было "не толькі знешнім, у сэнсе паралельнага існавання двух пачаткаў, але і ўнутраным у сэнсе іх перапляцення і ўзаемапранікнення"[2].

На Русі хрысціянства само засвоіла шэраг язычніцкіх уяўленняў і абрадаў. Ва ўсходнеславянскай вёсцы, якая захоўвала ў сацыяльнай структуры шмат сапраўдных архаізмаў, на працягу стагоддзяў закансерваваліся старажытныя, рэліктавыя элементы.

---

[1] *Мельнікаў А.А.* Кірыл, епіскап Тураўскі. Жыццё, спадчына, светапогляд. Мн., 1997. С. 18.
[2] *Крывелев И.А.* История религий. М., 1975. Т. 1. С. 344, 345.

Царква вымушана была дапасоўваць нават свае святы і абрады да язычніцкага святочнага календара. Простыя людзі доўгі час заставаліся язычнікамі і язычніцкая па сваіх вытоках і аснове народная свядомасць выявілася ў вераваннях, звычаях, абрадах, вуснай народнай паэзіі.

Хрысціянства, якое сфарміравалася ў працэсе хрысціянізацыі ўсходніх славян і Кіеўскай Русі, не магло выцесніць нават з самасвядомасці людзей старажытныя язычніцкія вераванні. Таму элементы старажытнаславянскага складу жыцця і жывёлагадоўчага культу ўвайшлі ў хрысціянскі царкоўны каляндар.

У XI—XIII стст. працягвалі функцыяніраваць язычніцкія свяцілішчы. Гэту з'яву больш прымальна лічыць дваяверствам у славян[1].

**Унутраная структура царквы.** Царква ў перыяд сярэднявечча — гэта арганізацыя духавенства і веруючых, якая дзейнічае на аснове хрысціянскага веравучэння і культу. Для яе характэрны наяўнасць цэнтралізаванага кіравання на чале з іерархіяй духавенства і падзел прыналежных да царквы на прафесійных дзеячаў культу і радавых веруючых (у хрысціянстве — клір і міране).

На чале царквы на Русі стаяў мітрапаліт, які назначаўся канстанцінопальскім патрыярхам. Усходнеславянская царква была часткай візантыйскай грэка-праваслаўнай царквы.

Паводле правіл візантыйскай царквы, царкоўная структура павінна была адпавядаць структуры свецкай улады. Ужо ў канцы X — пачатку XI ст. ва Усходняй Еўропе пачалі ствараццa царкоўныя акругі — епархіі (епіскапіі). У XII ст. з утварэннем новых самастойных княстваў колькасць епархій павялічвалася. Усяго да сярэдзіны XIII ст. было 16 епархій, вялікіх па плошчы[2].

Важна высветліць, калі пачалі ствараццa епархіі на беларускіх землях. Гісторыкі праваслаўнай царквы на аснове ўскосных даных і параўнання звестак пісьмовых крыніц выказваюць меркаванні, што, напэўна, у 992 г. была створана Полацкая епархія[3].

У другой пісьмовай крыніцы непасрэдна гаворыцца пра заснаванне ў Тураве кафедры вялікім князем Уладзімірам у 1005 г. Дакумент уяўляе сабой своеасаблівую ўстаноўчую грамату Тураўскай епархіі, дадзенай на імя Уладзіміра з пералікам гарадоў, якія ўваходзілі ў гэту епархію. У грамаце названы першы епіскап Фама, сказана пра крыніцы матэрыяльнага забеспячэння, пералічана шмат гарадоў, сярод якіх Пінск, Навагрудак, Гародня, Берасце, Ваўкавыск, Слуцк, Копысь і інш.[4]

З утварэннем новых епархій (епіскапій) узмацняўся ўплыў мясцовых князёў на царкву, аслаблялася ўлада кіеўскага мітрапаліта, князі настойліва дамагаліся назначэння пажаданых ім кандытатаў на епіскапства ў сваіх землях і нярэдка мелі ў гэтым поспех. У Іпацьеўскім летапісе сустракаюцца паведамленні наступнага характару: мітрапаліт "постави Мину Полотьску" (1105), "поставиша епископа Козму" (1143). У 1183 г. мітрапаліт "посла" ў Полацк грэка Ніколу замест памерлага Дыянісія. Адсюль вынікае, што ў Полацк епіскап назначаўся кіеўскім мітрапалітам. Мяркуемая кандыдатура ўзгаднялася з полацкім князем, а затым, верагодна, павінна была быць ухвалена полацкім вечам.

У Тураве ў XII ст. былі праваслаўныя епіскапы грэк Ігнацій (1137), Іакім (пастаўлены ў 1144 г.), Кірыл (каля 1169 г.), Лаўрэнцій (названы ў летапісе пад 1182 г.)[5]. З іх найбольш вядомы Кірыл Тураўскі.

---

[1]*Тимощук Б.* Язычницькі святилища Галицькоі Русі // Медобори і духовна культура давніх, середньовічних слов'ян. Львів, 1998. С. 43.

[2]Церковь в истории России (IX в. — 1917 г.). М., 1967. С. 52.

[3]*Голубинский И.* История русской церкви. М., 1881. Т. 1. С. 334, 335.

[4]*Щапов Я.Н.* Туровские уставы XIV в. о десятине // Археографический ежегодник за 1964 г. М., 1965. С. 271.

[5]*Мельников А.А.* Путь непечален: Исторические свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992. С. 49, 50.

Усходнеславянская царква кіравалася канонамі (правіламі і пастановамі) візантыйскай царквы. Зборнік гэтых пастаноў, так званы Намаканон, які атрымаў назву "Кормчай кнігі", стаў асноўным статутам царкоўнага кіравання ва ўсходніх славян. Крыніцамі канонаў былі балгарскія і сербскія пераклады візантыйскага Намаканона.

Драбленне Кіеўскай Русі, якое пачалося ў другой палове XI ст., вызначала і драбленне царкоўнай арганізацыі. Епархіі ўсё больш адасабляліся ад мітраполіі. Культавае адзінства ўсходнеславянскай царквы захоўвалася. Але хрысціянскі культ пачаў набываць своеасаблівыя рысы ў розных месцах Усходняй Еўропы. Кіеўскі мітрапаліт заставаўся "першапрыстольнікам" сярод славянскіх архірэяў. Ён ставіў епіскапаў на кафедры, першапачаткова сам выбіраў кандыдатаў з грэкаў, якія прыязджалі на Русь, а зрэдку і са славянскіх манахаў. Пазней выбранне кандыдата стала правам мясцовай свецкай улады.

Епіскап быў у сваёй епархіі вышэйшым прадстаўніком царквы. Яму належала права пропаведзі і нагляду за казаннямі святароў. Ён меў права рыхтаваць усе богаслужэбныя акты, назначаць святароў. Епіскап быў галоўным начальнікам усіх царкоўных устаноў і ўсяго духавенства яго епархіі. Таксама ён меў права суда над царкоўнікамі па ўсіх грамадзянскіх і крымінальных справах і часткова права суда над вернікамі ("міранамі")[1].

Епіскапамі маглі быць толькі асобы, пастрыжаныя ў манахі. (Пры пострыгу на галаве выстрыгаўся крыж.) Ніжняй царкоўнай ячэйкай быў прыход, цэнтрам якога з'яўлялася царкоўная пабудова. Цэрквы будаваліся на сродкі епіскапаў, князёў ці іншых багатых людзей (баяр, купцоў).

Унутраная структура царквы, арганізацыя культу вызначаліся актамі княжацкай улады і саміх царкоўных улад. Важнейшае значэнне меў статут князя Уладзіміра. Ён утрымліваў найбольш істотныя пастановы: аб устанаўленні дзесяціны на карысць царквы (г.зн. аб адліку дзесятай часткі ад княжацкіх даней "з усіх гарадоў"), аб стварэнні царкоўнага суда па справах злачынстваў супраць веры і царквы, аб парушэннях царкоўнай дысцыпліны і абрадаў, аб мнагажонстве, аб скасаванні шлюбаў. Царкоўны суд разглядаў справы аб спадчыннасці.

Статут Уладзіміра Святаславіча ў XII ст. шырока распаўсюдзіўся сярод духавенства ва ўсіх землях усходніх славян. Яго ўплыў адчуваецца ў Смаленскім статуце сярэдзіны XII ст. Княжацкія статуты фіксавалі формы і памеры матэрыяльнага забеспячэння епархій. Такое забеспячэнне складвалася пачаткова з дзесяціны, прыбыткаў ад царкоўнага суда.

Княжацкія царкоўныя статуты маюць важнае значэнне для вывучэння грамадскага і дзяржаўнага ладу славян. Яны былі юрыдычнымі дакументамі, якія фіксавалі ўзаемаадносіны царкоўнай улады (у асобе епіскапа ці мітрапаліта) са свецкай уладай (у асобе князя).

Полацкія царкоўныя статуты да нас не дайшлі. У тым, што яны існавалі, нельга сумнявацца. У "Жыціі ..." Ефрасінні Полацкай гаворыцца, што яна, "положивши великое устроение обема манастырема" і даручыўшы абодва манастыры сваёй сястры Еўдакіі, накіравалася ў Іерусалім[2]. Ефрасіння "ўладжвала" манастыры, несумненна, з дапамогай нейкага статута.

Раннім узорам статута епіскапіі з'яўляецца Смаленскі статут, які выдаў каля 1136 г. князь Расціслаў Мсціславіч. Статут утрымліваў умовы запрашэння епіскапа на новую кафедру і адлюстроўваў у старажытных землях Беларусі становішча ва ўзаемаадносінах паміж царкоўнай і свецкай уладай, якое склалася да 30-х гадоў XII ст.[3]

---

[1]*Довнар-Запольский М.* Церковь и духавенство // Русская история в очерках и статьях. М., 1910. Т. 1. С. 346–349.

[2]Кніга жыцій і хаджэнняў. С. 37.

[3] *Щапов Я.Н.* Смоленский устав князя Ростислава Мстиславича // Археографический ежегодник за 1962 г. М., 1963. С. 37–47.

З узнікненнем епархіі князь перадаваў ёй перш за ўсё дзесяціну ад даніны, якую ён збіраў у розных формах. Статутная грамата смаленскага князя Расціслава 1136 г. замацоўвае за епіскапам два сялы з зямлёй, якая да іх адносілася. Аднак застаецца невядомым аб'ём імунітэту царквы адносна гэтых сёл. Поўны царкоўны імунітэт, фінансавы і судовы, распаўсюджваўся на асобную, звязаную з царквой катэгорыю людзей — "прошчанікаў"[1].

Феадальная рэнта, якая паступала ў выглядзе судовых падаткаў, падзялялася паміж князем і епіскапам, паколькі епіскапскі суд ажыццяўляў сямейнае і шлюбнае права, а княжацкі суд — усе астатнія галіны права. Царква мела разам з фінансавым тэрытарыяльным імунітэтам таксама яшчэ судовы галіновы, які не быў звязаны з пэўнай тэрыторыяй. Акрамя таго, царква распаўсюджвала сваю судовую ўладу не толькі на сямейна-шлюбныя, але і на крымінальныя справы. Гэта адбывалася ў тым выпадку, калі ўдзельнікамі крыміналу з'яўляліся "царкоўныя людзі" — члены царкоўнага прытча[2].

Царква аказвала вялікі ўплыў на грамадзянскае жыццё і побыт насельніцтва. Яна імкнулася выступаць у якасці гаранта пагадненняў паміж князямі, якія замацоўваюць гэтыя пагадненні "крыжовым цалаваннем", распаўсюджаным у Полацкім княстве. Царква прымала ўдзел у перагаворах розных узроўняў. Яе прадстаўнікі выконвалі ролю паслоў. У Ноўгарадзе галава царквы — архіепіскап — фактычна ўзначальваў наўгародскі ўрад.

У Полацку епіскап таксама займаў высокае грамадскае становішча. У перыяд феадальнай раздробленасці ён з'яўляўся як быццам адзіным прадстаўніком усёй Полацкай зямлі, бо князёў, як мы ведаем, было шмат па розных полацкіх удзелах. Епіскап удзельнічаў у вечавых сходах. Ад яго імя пісаліся дагаворы, якія заключаліся полацкім вечам, і да іх прывешвалася яго пячатка. Прыкладам можа быць грамата полацкага епіскапа Якава рыжскаму епіскапскаму намесніку і г. Рыга (каля 1300 г.). У грамаце Якаў гаворыць выключна аб мірскіх справах — адносна мірных адносін і гандлю хлебам. Словы дакумента "своими детми, исправу дамь" выразна ўказваюць на ўдзел і важную ролю епіскапа ў судзе[3]. Полацкія епіскапы належалі да вузкага кола асоб, якія карысталіся віслымі пячаткамі, што прывешваліся да дакументаў.

Складана гаварыць аб ролі полацкага епіскапа ў дзяржаўным кіраванні, паколькі колькасць дакументаў, якія дайшлі да нас, невялікая. Аднак няма падстаў лічыць гэту дзейнасць нязначнай[4]. Напэўна, полацкія епіскапы знаходзіліся ў меншай залежнасці ад мясцовых князёў, чым у іншых княствах усходніх славян, але, верагодна, яны не былі ў такой меры незалежнымі і моцнымі ўладыкамі, як наўгародскія епіскапы.

Духавенства падтрымлівала свецкую ўладу і клапацілася аб уласных царкоўных выгадах. Царква атрымлівала ад князёў дзесятую частку дзяржаўных даходаў і, акрамя таго, значныя зямельныя ўладанні. Царква адстойвала прагрэсіўную тады ідэю неабходнасці моцнай княжацкай улады. У сваю чаргу свецкія ўлады садзейнічалі царкве.

**Значэнне прыняцця хрысціянства.** Прыняцце хрысціянства ва ўсходніх славян, у тым ліку ў беларускіх землях, мела выключна важнае гістарычнае значэнне. Яно супала па часе з усталяваннем дзяржаўнасці ў беларускіх землях і, безумоўна, станоўча паўплывала на ход гэтага працэсу.

У адрозненне ад язычніцтва хрысціянская вера ў адзінага Бога Ісуса Хрыста адпавядала адзінаўладдзю князя ў дзяржаве, а значыць, духоўна асвячала гэту ўладу, а духавенства падтрымлівала яе і было ёй апорай. Хрысці-

[1]Памятники права феодально-раздробленной Руси XII—XV вв. С. 39.
[2]Древнерусское государство и его международное значение. М., 1965. С. 281.
[3]Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. / Сост. А.Л.Хорошкевич. М., 1977. С. 37, 38.
[4]Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. М., 1980. Т. 3. С. 124.



Полацкая Сафія XI ст.
(графічная рэканструкцыя)

янскае веравучэнне сцвярджала, што ўсякая ўлада ад Бога, а ўсё, што ад Бога, з'яўляецца свяшчэнным і нязменным.

У выніку прыняцця хрысціянства значна ўзрос аўтарытэт Полацкага і Тураўскага княстваў, а затым і Вялікага княства Літоўскага. З імі як з роўнымі пачалі лічыцца іншыя хрысціянскія дзяржавы.

У той жа час прыняцце хрысціянства па візантыйскай традыцыі значна ўскладніла адносіны з некаторымі краінамі Заходняй Еўропы і асабліва з рымскім папам. Гэтыя абставіны сталі найбольш адчувальнымі ў перыяд крыжацкай агрэсіі, якую духоўна асвячаў і падтрымліваў рымскі папа.

Прыняцце хрысціянства мела таксама значныя сацыяльна-эканамічныя вынікі для беларускіх зямель. Сувязі з хрысціянскімі краінамі, асабліва з Візантыяй, садзейнічалі развіццю рамяства і гандлю, у першую чаргу знешняга.

Шырокі размах атрымала царкоўнае будаўніцтва. Значна ўзрасла патрэба ў рамесніках, новых відах рамяства (выраб цэглы, абчэсванне каменю і інш.).

З распаўсюджваннем хрысціянства паступова фарміравалася саслоўе духавенства, якое склалі самыя адукаваныя і ўплывовыя людзі. Знаёмства з візантыйскай культурай з'явілася стымулам для развіцця адукацыі, літаратуры, мастацтва, архітэктуры. Пры цэрквах і манастырах адкрываліся школы, перапісваліся кнігі. У беларускіх землях разгарнулася каменнае будаўніцтва. Саборы, цэрквы і манастыры сталі самымі прыгожымі і велічнымі будынкамі. Убранства гэтых будынкаў далучала веруючых людзей да высокага мастацтва.

Паляпшаўся маральны стан грамадства. Хрысціянскія запаведзі садзейнічалі ўсталяванню добрых адносін паміж людзьмі. З прыняццем хрысціянства зніклі такія заганы язычніцтва, як ахвярапрынашэнне (у тым ліку людзей), мнагажонства, кроўная помста і інш.

Царква і духавенства аказалі ўплыў на ўсе сферы жыцця грамадства. Вынікі гэтага ўплыву былі самыя розныя. М. Доўнар-Запольскі, які прааналізаваў

шматлікія крыніцы, прыйшоў да высновы, што царква ва ўсходніх славян, валодаючы вялікімі правамі, велізарнымі матэрыяльнымі сродкамі ў XI—XIII стст., у справах палітычных даволі памяркоўна карысталася сваім уплывам і пераважна для падтрымання міру[1]. Пры гэтым можна адназначна сцвярджаць, што прыход на змену язычніцтву новай хрысціянскай рэлігіі быў гістарычна абумоўлены і ў цэлым садзейнічаў прагрэсіўнаму развіццю грамадства.

## 3. Манументальнае дойлідства

Распаўсюджанне хрысціянства на старажытнабеларускіх землях стала адным з вызначальных фактараў іх гісторыі ўвогуле і развіцця культуры ў прыватнасці. Менавіта з усталяваннем хрысціянства ў якасці афіцыйнай рэлігіі пачынаецца гісторыя манументальнага дойлідства Беларусі.

**Дойлідства Полацкай зямлі.** Першым мураваным храмам на тэрыторыі Беларусі быў Сафійскі сабор у Полацку. Саборы Сафіі прысвечаны "Прамудрасці Божай". Ва ўсім усходнехрысціянскім свеце такое імя апроч полацкай насілі святыні ў Канстанцінопалі, Салуні, Ахрыдзе, Кіеве, Ноўгарадзе. Фактам пабудовы Сафійскага сабора Полацк заяўляў аб сваім праве ўстаць нароўні з буйнейшымі цэнтрамі Усходняй Еўропы.

Ад старажытнай пабудовы ў Полацку захаваліся не толькі падмуркі, але і рэшткі сцен, месцамі на значную вышыню, якія былі ўключаны ў барочны сабор XVIII ст. У сваім першапачатковым выглядзе полацкая Сафія ўяўляла сабой пяцінефавы трохапсідны крыжова-купальны храм 26,4 м шырынёй, 31,5 м даўжынёй разам з апсідамі. Для параўнання нагадаем, што шырыня кіеўскай Сафіі 39,2 м, даўжыня — 34,25 м, наўгародскай Сафіі адпаведна — 39,35 м і 35,5 м[2].

Ва ўсходняй частцы цэнтральнага нефа ёсць дадатковае чляненне — віма, што сведчыць аб прыналежнасці помніка да складанага тыпу крыжова-купальнага храма, даволі распаўсюджанага ў Канстанцінопалі, а таксама ў некаторых візантыйскіх правінцыях у XI—XII стст. Над сяродкрыжжам сабора ўзвышаўся барабан галоўнага купала. Вакол яго размяшчаліся чатыры меншыя купалы. У пісьмовай крыніцы XIV ст. ідзе размова аб сямі "вярхах" полацкай Сафіі[3]. Пытанне аб часе ўзнікнення і месцы ў агульнай кампазіцыі двух дадатковых купалаў застаецца нявысветленым. Унутраны аб'ём храма быў падзелены 16 крыжовымі слупамі на пяць нефаў: шырокі цэнтральны і больш вузкія бакавыя. Тры невялікія васьміганныя слупы служылі дадатковымі апорамі для хораў, якія мелі П-падобную форму. Крайнія бакавыя і заходні праходы адкрываліся ў падкупальную прастору падвойнымі аркамі. На ўнутраных і фасадных сценах слупам адпавядалі плоскія лапаткі. Тры сярэднія нефы завяршаліся паўкруглымі апсідамі. Цэнтральная апсіда моцна вынесена ўперад.

Храм меў тры парталы з заходняга, паўночнага і паўднёвага бакоў. Да паўночна-заходняга кута храма прымыкала квадратная вежа-званіца. Пазней, у XII ст., была прыбудавана капліччка з прамавугольнай апсідай, прытвор каля паўднёвага партала, з усходу — пахавальня, а да апсідаў — контрфорсы. Храм пабудаваны ў змешанай тэхніцы з муроўкай са схаваным радам, калі адзін рад цэглы быў "утоплены", а прастора паміж верхнім і ніжнім радам запаўнялася вапнавай рошчынай. У выніку храм набываў паласатыя чырвона-белыя фасады. Неапрацаваныя валуны выходзілі радамі на паверхні сцен. Заходні,

---

[1] *Довнар-Запольский М.* Церковь и духовенство. С. 366.

[2] *Раппопорт П.А.* Русская архитектура X—XIII вв. Л., 1982. С. 11, 65, 93.

[3] *Тихомиров М.Н.* "Список русских городов дальних и ближних" // Исторические записки. 1952. № 40.



Спаская царква ў Полацку XII ст.
(рэканструкцыя)

паўночны і паўднёвы фасады падзелены лапаткамі адпаведна нефаваму чляненню архітэктурнага аб'ёму. Апсіды ўпрыгожаны тонкімі паўкалонкамі. Значную ролю ў дэкаратыўным афармленні ўсходняга боку сабора адыгрывалі рады двухуступістых ніш з паўцыркульным завяршэннем.

Пасля заканчэння будаўніцтва Сафійскага сабора ў 50-х гадах XI ст. манументальнае будаўніцтва ў Полацку ўзнаўляецца на мяжы XI—XII стст. Менавіта так датуюць некаторыя даследчыкі Вялікі храм Бельчыцкага манастыра пад Полацкам[1]. Іншыя схіляюцца да больш позняй даты — 20-я, а то і 30-я гады XII ст.[2] Гэта пабудова, вядомая па матэрыялах археалагічных раскопак, уяўляла сабой трохнефавы храм з шасцю слупамі і трыма прытворамі, змураваны з плінфы ў тэхніцы са схаваным радам. У Вялікім храме закладзена адна канструкцыйная дэталь, якая стала характэрнай рысай помнікаў старажытнага полацкага дойлідства да сярэдзіны XII ст. У ім купал быў размешчаны не па цэнтры плана, а перанесены на адно чляненне на захад.

Ускрытыя ў час раскопак храм-пахавальня Ефрасіннеўскага манастыра і царква на Ніжнім замку засведчылі яшчэ шэраг асаблівасцей: наяўнасць адной апсіды, дзве другія не выяўлены звонку і галерэю, якая на кутах храма мае пашырэнні, што значна ўплывала на аб'ёмна-прасторавае ўспрыняцце будынка. Да арыгінальных рыс трэба далучыць і вялікую колькасць пахаванняў у мураваных скляпах. Яны цалкам займалі ўсе галерэі. Знадворку храмы былі аформлены двухабломнымі лапаткамі. Археалагічнае даследаванне рэштак царквы на Ніжнім замку паказала нетрадыцыйны характар падмуркаў.

---

[1] *Хозеров И.М.* Белорусское и Смоленское зодчество XI—XIII вв. Мн., 1994. С. 71; *Воронин Н.Н.* Бельчицкие руины // Архитектурное наследство. М., 1956. Т. 6. С. 16.
[2] *Раппопорт П.А.* Древнерусская архитектура. СПб., 1993. С. 268.

Увасабленнем новага тыпу храма на ўсходнеславянскіх тэрыторыях з'яўляецца сусветна вядомая Спаская царква Ефрасіннеўскага манастыра, пабудаваная, паводле звестак пісьмовых крыніц, полацкім дойлідам Іаанам, манахам Барысаглебскага манастыра ў Бельчыцы па заказу св. Ефрасінні Полацкай. Да таго ж кола пабудоў належыць Барысаглебская царква Бельчыцкага манастыра[1]. Наваўвядзенне выявілася ў тым, што на базе ўжо традыцыйна выцягнутага ў плане будынка ствараецца вежападобная кампазіцыя з паступовым пераходам ад большага аб'ёму да меншага і завершаная купалам на спецыяльным п'едэстале. Закамары трох чляненняў (апрача заходняга) завяршаліся кілепадобнымі аркамі, яшчэ два рады такіх жа завостраных арак, але штораз меншых, прыступкамі ўздымаюцца да высокага барабана. Апрача таго, тут адзначаецца зусім нетрадыцыйнае размеркаванне апорных слупоў, а значыць, і характар чляненне паўночнага і паўднёвага фасадаў.

Неаднолькавай была вышыня сабора ў розных яго частках: алтарная частка і нартэкс былі значна ніжэйшымі за цэнтральны аб'ём храма. Усё гэта падкрэслівала вертыкальную скіраванасць і ўзмацняла дынаміку архітэктурных аб'ёмаў.

Асобнае месца ў шэрагу помнікаў старажытнага полацкага дойлідства займае храм-трыконх Бельчыцкага манастыра. Прасторны, моцна выцягнуты ў плане будынак меў тры вялікія паўкруглыя апсіды (конхі) — алтарную з усходу, па адной з поўначы і поўдня. Гэтыя бакавыя апсіды ў Балканскіх краінах называюцца "спеўніцамі". Унутры будынка пасярэдзіне размешчаны чатыры шырока расстаўленыя квадратныя слупы, якія, верагодна, служылі апорай купала.

На сённяшні дзень мы ведаем 13 помнікаў мураванага дойлідства XII ст. у Полацку, сярод якіх ёсць адна грамадзянская пабудова — княжацкі хорам, невялікі, квадратны ў плане мураваны будынак. Зберагліся толькі два старажытныя помнікі — Сафійскі сабор і Спаская царква Ефрасіннеўскага манастыра. Ёсць падставы меркаваць, што на правым беразе Палаты паміж Полацкім гарадзішчам і Спаскім манастыром існаваў манастыр Багародзіцы, заснаваны Ефрасінняй, у якім таксама знаходзілася мураваная царква. Прыкладна ў гэтым месцы, "на Ксаверыеўцы", у мінулым стагоддзі былі выяўлены старажытныя муроўкі. Л. Аляксееў, грунтуючыся на інфармацыі Лебедзеўскага летапісу, атаясамлівае помнік з царквой Юрыя[2].

Рысы полацкай архітэктуры ўвасоблены і ў Дабравешчанскай царкве Віцебска. Гэта і моцна выцягнутая форма плана, наяўнасць адной масіўнай апсіды. Незвычайнай тут з'яўляецца будаўнічая тэхніка: сцены храма змураваны з квадратаў часанага каменю, якія чаргуюцца з двума-трыма радамі плінфы. Лесвіца на хоры змяшчалася ў тоўшчы заходняга мура. Узровень першапачатковай падлогі на метр вышэй тагачаснай дзённай паверхні, а гэта азначае, што будынак меў высокі цокаль, што з'яўляецца рэдкім выпадкам у практыцы ўсходнеславянскай архітэктуры[3].

Уражанне даволі арыгінальнага храма пакідае раскапаная ў Мінску царква, будаўніцтва якой па нейкіх прычынах так і не было скончана. Добра захаваліся падмуркі, якія даюць магчымасць рэканструяваць план пабудовы. Гэта меўся быць невялікі трохапсідны храм з чатырма слупамі. Неабходна адзначыць, што своеасаблівымі рысамі яго былі незвычайная канструкцыя падмуркаў, якая ўключала драўляныя субструкцыі, абліцоўка ўнутраных сцен апрацаванымі квадратамі даламіту. Мінская царква не мае аналагаў сярод помнікаў на абшарах усходнеславянскіх зямель, але мае рысы раман-

[1]*Раппопорт П.А.* Русская архитектура X—XIII вв. С. 98.
[2]*Алексеев Л.В.* Полоцкая земля в IX—XIII вв. С. 212.
[3]*Каргер М.К.* Церковь Благовещения в Витебске // КСИА. 1978. № 155. С. 76.



Каложская (Барысаглебская) царква XII ст.
у Гродне (рэканструкцыя)

скай архітэктуры. На думку Э. Загарульскага, у яе збудаванні прымалі ўдзел польскія майстры[1].

**Помнікі дойлідства Панямоння**. Актыўнае манументальнае будаўніцтва вялося ў XII ст. у Панямонні. Амаль да непазнавальнасці была зменена ў пазнейшыя часы Барысаглебская царква ў Навагрудку. Архітэктурна-археалагічнае даследаванне помніка паказала яго сувязь з полацкай архітэктурнай школай. Мяркуюць, што ва ўзвядзенні асноўнага аб'ёму прымалі ўдзел майстры, якія будавалі віцебскую Дабравешчанскую царкву. На гэта ўказвае вялікае падабенства планаў разглядаемых помнікаў, а таксама характар муроўкі сцен, унутраная частка якіх забутоўвалася. Праўда, муроўка навагрудскай царквы не такая дасканалая. Галерэі ж пабудаваны полацкімі дойлідамі ў тэхніцы са схаваным радам.

Яркую старонку ў гісторыі мураванага дойлідства Беларусі ўпісала старажытная Гародня. Самым раннім помнікам культавай архітэктуры тут з'яўляецца Ніжняя царква, што была размешчана на дзядзінцы. Яе выявілі і даследавалі польскія археолагі. Датуецца пабудова 30-мі гадамі XII ст. Гэта шасціслупавы храм з адной апсідай. Купал абапіраўся на заходнія пары слупоў. Незвычайным было ўбранне знешніх фасадаў царквы. Проста ў цагляную муроўку ўстаўлены шліфаваныя камяні розных памераў і колераў, а вышэй з маёлікавых плітак (жоўтых, зялёных і карычневых) выкладзены арнаменты ў выглядзе крыжоў, разетак, ромбаў. У муроўку сцен уключана вялікая колькасць галаснікоў, якія адкрываліся ўнутр храма. У паўднёва-заходнім чляненні маецца вінтавая лесвіца, што вяла на хоры. Выдатна захавалася першапачатковая падлога Ніжняй царквы, што дало магчымасць зрабіць поўную яе графічную рэканструкцыю[2].

[1]*Загорульский Э.М.* Возникновение Минска. С. 201, 202.

[2]*Малевская М.В.* К реконструкции майоликового пола в Нижней церкви в Гродно // Культура Древней Руси. М., 1966. С. 146—151.

На вялікую вышыню захаваліся сцены Барысаглебскай (Каложскай) царквы. Яна роднасная вышэй апісанаму храму з той толькі розніцай, што мае тры апсіды і купал быў размешчаны паміж усходнімі парамі слупоў. Арыгінальная і сама форма апор (круглая). Захаванасць Каложскай царквы дае магчымасць вывучыць вельмі арыгінальную сістэму ўключэння ў муры сцен галаснікоў. Царква мела тры ўваходы, паміж пілястрамі размяшчаліся два ярусы акон з паўцыркульным завяршэннем праёмаў. Усе тры апсіды таксама мелі вялікія вокны. Сцены зроблены ў раўнаслойнай тэхніцы. На паўночным фасадзе цалкам захавалася сістэма паліхромнага аздаблення мура. Ад нізу па перыметры сцяны праходзяць рады валуноў featureзнага колеру, што выходзяць на паверхню абчасаным бокам. Памеры камянёў кожнага вышэйшага рада памяншаюцца. Потым яны саступаюць месца паліхромным маёлікавым пліткам квадратнай, трапецападобнай, круглай формы. З іх выкладзены ромбы, паўромбы, крыжы, разеткі. Усё гэта разам надае царкве надзвычай прыгожы, казачны выгляд. Цікавым помнікам можна назваць Прачысценскую царкву ў Гродне. Гэта храм з адной прамавугольнай апсідай. Яе план і рэшткі старажытнай маёлікавай падлогі можна сёння пабачыць на тэрыторыі Базыльянскага манастыра. Да таго ж кола помнікаў належыць таксама і недабудаваная царква ў Ваўкавыску, якая амаль цалкам паўтарае план Ніжняй гарадзенскай царквы.

Старажытная Гародня вядомая не толькі сваімі культавымі, але і грамадзянскімі пабудовамі XII ст.[1] Найлепш захаваўся княжацкі хорам на дзядзінцы. Змураваны ён у раўнаслойнай тэхніцы, аналагічнай той, што і храмы XII ст. З паўднёвага боку дзядзінца выяўлены разваліны старажытнай сцяны з плінфы на вапнавай рошчыне з цэмянкай, што праходзіла па грэбені старажытнага вала. Рэшткі такой жа сцяны выяўлены і ва ўсходняй частцы гарадзенскага дзядзінца. А. Трусаў лічыць, што сцяна мела абарончае прызначэнне.

Асобнае месца ў культавым дойлідстве Беларусі займае тураўская царква XII ст. — трохапсідны храм з шасцю слупамі. Арыгінальнай рысай яе з'яўляюцца мураваныя перагародкі перад алтаром, нартэкс аддзелены сценкамі, як у віцебскай і Барысаглебскай бельчыцкай цэрквах. У прынцыпе ж усе асноўныя характарыстыкі адпавядаюць традыцыям полацкай і гарадзенскай школ.

**Помнікі абарончага дойлідства XIII ст.** XIII ст. пакінула вельмі мала помнікаў мураванага дойлідства. Усе яны з'яўляюцца прыкладамі абарончай архітэктуры. Найбольш вядомы і добра захаваны — Белая вежа ў Камянцы. У Наваградку ў канцы XIII ст. была ўзведзена абарончая вежа, якая пазней уключана ў сістэму ўмацаванняў наваградскага замка. Будаўнічыя матэрыялы і тэхніка архітэктурных форм сведчаць аб рамана-гатычным вобліку помнікаў. Плінфа замяняецца вялікапамернай брусковай цэглай, сцены зроблены ў вендскай сістэме муроўкі, ускладняецца канструкцыя скляпенняў, яны становяцца нервюрнымі. Формы праёмаў акон і парталаў застаюцца паўкруглымі і спічастымі пры больш шырокім выкарыстанні апошніх. Паводле тых нешматлікіх вядомых помнікаў, ужо ў другой палове XIII ст. мураваная архітэктура Беларусі набывае цалкам раманскі, "заходні" выгляд і вонкава, і канструкцыйна.

Усяго на тэрыторыі Беларусі выяўлена і даследавана 25 мураваных помнікаў культавай і грамадзянскай архітэктуры XI—XIII стст.

**Архітэктурныя школы.** Многія аўтары традыцыйна разглядалі ўсе помнікі архітэктуры XI—XII стст. на тэрыторыі Беларусі як помнікі "древнерусского зодчества домонгольского периода", а школы — як яго мясцовыя варыянты. Наўгародскі і полацкі Сафійскія саборы трактаваліся выключна як спрошчаныя мадэлі галоўнага ўзору — Сафіі кіеўскай. На неправамернасць такога падыходу слушна ўказваў яшчэ М.Шчакаціхін, які пісаў, што "ў По-

[1]*Трусов О.А.* Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв. Мн., 1988. С. 28—29, 41.

лацку былі ўтвораны найболей выдатныя і арыгінальныя ўзоры свайго ўласнага і шмат у чым зусім асаблівага архітэктурнага стылю"[1].

Па сваім плане полацкая Сафія адносіцца да складанага тыпу крыжова-купальнага храма, на што ўказвае віма — дадатковае памяшканне, якое паглыбляла перспектыву ўнутранага аб'ёма. Такі тып плана зусім не характэрны для Кіева і звычайны для помнікаў XI—XII стст. Канстанцінопаля, Фесалонік і некаторых Балканскіх краін. Кіеўская Сафія ўяўляе сабой моцна расшыраны варыянт крыжова-купальнай сістэмы. Полацкая Сафія мае падоўжаны план. Пры гэтым сярэдняя апсіда надзвычай энергічна вынесена ўперад, што надае агульнаму плану пабудовы выцягнуты характар пры амаль квадратнай форме памяшкання (без уліку апсід). Вялікая колькасць купалаў кіеўскай Сафіі — арыгінальная з'ява ва ўсходнехрысціянскай архітэктуры, як і надзвычай складаная сістэма галерэй, што моцна ўскладняла архітэктурны воблік храма. Сафійскі сабор у Полацку не мае першапачаткова ніякіх прыбудоў, апрача вежы-званіцы. Адсутнаць галерэй надавала яснасць і цэласнасць архітэктурным формам храма. На працягу XII ст. у полацкім дойлідстве развіваліся ідэі, закладзеныя ў Сафійскім саборы.

Лічыцца, што арцель, якая пабудавала ў Полацку Сафійскі сабор, пасля выканання заказу пакінула горад. Наконт пытання аб часе ўзнаўлення манументальнага будаўніцтва і таго, якая арцель гэта рабіла ў Полацку, сярод даследчыкаў адзінага меркавання не існуе[2]. Незалежна ад даты і паходжання майстроў, якія сюды прыбылі, яны мусілі лічыцца з архітэктурнымі традыцыямі, увасобленымі ў Сафійскім саборы. У развіцці полацкай школы культавага дойлідства вылучаюцца два перыяды. Першы, адкрыты Вялікім храмам Бельчыцкага манастыра, доўжыўся прыкладна да сярэдзіны XII ст.

Апрача выцягнутасці плана, вімы, размяшчэння купала над заходнімі парамі слупоў помнікі гэтага часу характарызуюцца таксама з'яўленнем прытвораў і галерэй пры паўночных, паўднёвых і заходніх фасадах, пахаванняў у мураваных склепах, дамінаваннем цэнтральнай апсіды.

Яшчэ да сярэдзіны XII ст. у дойлідстве з'яўляюцца новыя рысы, якія сведчаць аб якасна новым этапе яго развіцця. Да ліку такіх рыс трэба аднесці памяншэнне памераў храмаў, узмацненне дынамікі, дамінаванне вертыкальнай кампазіцыі, вельмі звужаныя бакавыя нефы і інш.

Тэндэнцыя да стварэння дынамічнай кампазіцыі кампактнага невялікага храма вежавага тыпу была сутнасцю другога перыяду і паслядоўна ўвасобілася ў Спаскім саборы Ефрасіннеўскага манастыра[3]. Прычым цікава адзначыць, што новыя задачы дойліды вырашалі не кранаючы ўжо існуючых на той час архітэктурных традыцый Полаччыны. Полацкі храм вежавага тыпу засноўваецца на плане, які мае яшчэ больш выцягнутыя прапорцыі.

Імкненне ўзмацніць вертыкальную вось вежападобнай кампазіцыі выявілася ў высокім барабане невялікага дыяметра, унесенага да таго ж на спецыяльны п'едэстал, у кампаноўцы арак перакрыццяў прыступкамі, у спічастай форме арак закамар і бровак над вокнамі. Усе храмы новага перыяду аднаапсідныя, бакавыя алтарныя паўкружжы схаваныя ў тоўшчы муроў.

Арыгінальна выглядае на ўсходнеславянскіх абшарах чатырохслупавы храм з трыма апсідамі (трыконх) у Бельчыцы. Такі тып архітэктурнай кампазіцыі паходзіць з Афона, быў шырока распаўсюджаны на абшарах краін Балканскага рэгіёна на працягу некалькіх стагоддзяў. Надзвычай цікавым уяўляецца маленькая бесслупавая Пятніцкая царква з адной прамавуголь-

---

[1] *Шчакаціхін М.* Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1928. С. 115.

[2] *Алексеев Л.В.* Домонгольская архитектура Полоцкой земли в историческом осмыслении // Российская археология. 1996. № 2. С. 98.; *Булкин Вал.* У истоков полоцкой архитектурной школы // Час, помнікі, людзі: памяці рэпрэсіраваных археолагаў. Мн., 1993. С. 15.

[3] *Раппопорт П.Л.* Полоцкое зодчество XII века // СА. 1980. № 3. С. 142—161.

най апсідай. Па сваім плане яна ўвогуле нагадвае раннія хрысціянскія базілікі. Такога тыпу храмы распаўсюджаны былі ў некаторых краінах Балканскага рэгіёна.

Адрозніваецца ад суседніх зямель і будаўнічая тэхніка полацкіх храмаў. У той час, калі ў сумежных рэгіёнах цалкам пануе раўнаслойная муроўка, полацкія дойліды працягваюць карыстацца тэхнікай муравання са схаваным радам плінф, валуны, калі і прысутнічаюць, ужо не выходзяць на фасады. Своеасабліва выглядаюць мінскі і віцебскі храмы: у першым бутавыя сцены знутры абліцаваны каменнымі пліткамі, другі ўвогуле складзены з каменных блокаў, што чаргуюцца з некалькімі радамі плінфы.

Самабытная школа мураванага дойлідства склалася ў Гародні (да яе адносіцца і недабудаваны Ваўкавыскі храм). Адрозненні найбольш відавочныя ў будаўнічай тэхніцы храмаў. Яны зроблены раўнаслойнай муроўкай, у якую на знешніх фасадах уключаны зашліфаваныя з аднаго боку валуны і паліхромныя маёлікавыя пліткі і талеркі невялікага дыяметра, з якіх выкладзены ромбы, крыжы і разеткі[1]. Незвычайная таксама структура плана, вельмі сплошчаная форма апсіды, якая ў Прачысценскай царкве набывае нават прамавугольную форму. Яшчэ адна арыгінальная рыса гарадзенскіх помнікаў — вялікая колькасць галаснікоў, што на ўсіх узроўнях у пэўным парадку адкрываюцца ўнутр храма, выконваючы пры гэтым трайную функцыю: аблягчэнне будаўнічых канструкцый, паляпшэнне акустыкі, дадатковае дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера (Каложская царква).

Шэраг асаблівасцей помнікаў старабеларускага дойлідства сведчыць аб раманскіх уплывах. Яны прасочваюцца ў асобных элементах архітэктурнай канструкцыі, будаўнічай тэхніцы, дэкаратыўным аздабленні.

У XII ст. да Сафійскага сабора ў Полацку быў прыбудаваны цэлы комплекс капліц-пахавальняў, прычым насуперак таму, што было прынята ва ўсходнеславянскай архітэктуры, гэты комплекс цалкам прыкрыў сабой усходні бок храма. Але такая практыка была звычайнай у рамана-гатычным свеце. Тады ж да апсід Сафіі былі прыбудаваны контрфорсы — канструкцыйная дэталь выключна гатычнай архітэктуры. Раманскі ўплыў адчуваецца ў сімпатыях майстроў да такога будаўнічага матэрыялу, як камень. Калі ў мінскай і віцебскай Дабравешчанскай цэрквах апрацаваныя каменныя блокі проста ўключаны ў муроўкі, у помніках гарадзенскага тыпу валуны выступалі адпаліраванымі бакамі, упрыгожваючы фасады, то ў сценах полацкіх Барысаглебскай і Пятніцкай цэркваў заціркі рошчыны паміж радамі плінфы зроблены наўмысна няроўна, з прымяненнем драўлянага штампа, імітуючы камень. З заходнімі ўплывамі некаторыя даследчыкі звязваюць і галасніковую сістэму помнікаў гарадзенскай школы.

Агульнымі рысамі абедзвюх архітэктурных школ XI—XII стст. на тэрыторыі Беларусі былі наступныя: выцягнутасць планаў, аднаапсіднасць, лаканічнасць пластычнага архітэктурнага дэкору, беражлівае стаўленне да архітэктурнай плоскасці, шырокае ўжыванне колеру для аздаблення пабудоў, пэўны кансерватызм у развіцці будаўнічай тэхнікі, багатыя наборы маёлікавых падлог з плітак жоўтага, зялёнага і карычневага колеру самай разнастайнай формы, вялікая колькасць клеймаў і знакаў на старажытнай цэгле.

Такім чынам, мураванае дойлідства беларускіх зямель XII ст. развівалася ў рэчышчы архітэктурнага працэсу ўсяго ўсходнехрысціянскага свету і спалучала ў сабе шэраг арыгінальных асаблівасцей, што вылучалі яго сярод архітэктурных школ суседніх рэгіёнаў і выяўляліся ў сферы архітэктурных рашэнняў будаўнічай тэхнікі і дэкору.

---

[1] *Трусов О.А.* Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв. С. 80, 81.

## 4. Мастацтва

Мастацтва Беларусі IX—XIII стст. — з'ява надзвычай складаная, шматпланавая і неаднародная. Падмуркам, на якім адбывалася фарміраванне і высяляванне яго, былі найважнейшыя ў жыцці любой нацыі гістарычныя падзеі і з'явы. Згадаем некаторыя з іх, што, несумненна, уплывалі, а часта і вызначалі аблічча мастацкай культуры таго часу. Поліэтнічны склад насельніцтва, функцыяніраванне вялікага воднага шляху "з варагаў у грэкі", стварэнне дзяржаўнасці, узнікненне гарадоў, пачатак выцяснення племяннной свядомасці насельніцтва тэрытарыяльна-дзяржаўнай. Трэба таксама памятаць, што старажытнабеларускія землі тады не былі адасобленымі ад знешняга свету ў геаграфічных, этнічных, палітычных, сацыяльных, культурных адносінах. Нарэшце менавіта ў гэты перыяд пачынаецца наша летапісная гісторыя, распаўсюджваецца хрысціянства, якое становіцца дзяржаўнай рэлігіяй, нараджаецца прафесійнае мастацтва: літаратура, архітэктура, жывапіс, пластыка.

**Манументальны жывапіс.** Вышэй ужо адзначалася, што ў XII ст. у гарадах разгарнулася шырокае храмавае будаўніцтва. У Полацку сцены кожнай святыні знутры абавязкова ўпрыгожваліся фрэскамі. Роспісы захаваліся толькі на двух помніках: фрагментарна ў Сафійскім саборы і практычна цалкам у царкве Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Па астатніх роспісах крыніцамі ведаў з'яўляюцца архіўныя і літаратурныя звесткі, а таксама знойдзеныя ў выніку археалагічных раскопак фрагменты фрэсак. Манументальны жывапіс таго часу вывучалі М.Шчакаціхін, І.Хозераў, В.Церашчатава, А.Сяліцкі[1].

У Сафійскім саборы расчышчаны невялікія фрагменты фрэсак у цэнтральнай апсідзе, на сценах і слупах той нязначнай часткі, што засталася ад храма XI ст. Захаванасць сюжэтных кампазіцый кепская. У цэнтральнай апсідзе чытаецца "Эўхарыстыя", у паўднёва-ўсходняй частцы бачна фігура апостала, павернутага да апсіды. Цікавасць уяўляе раслінна-геаметрычны арнамент адкосу акна: цёмна-зялёныя парасткі, якія ўтвараюць сэрцападобныя фігуры, у абрамленні трохвугольнікаў карычневага колеру. Гэты матыў нагадвае і роспісы аконных адкосаў Барысаглебскай царквы Бельчыцкага манастыра. Знойдзеныя пры археалагічных даследаваннях фрагменты фрэсак Сафійскага сабора даюць уяўленне пра багатую і разнастайную палітру роспісаў, з мяккімі пераходамі ад яркіх і чыстых да цёмных і прыглушаных тонаў. Выкарыстаны карычнева-чырвоныя, блакітна-сінія, жоўта-зялёныя фарбы.

Відавочна, што роспісы зроблены ў візантыйскай манеры, часам нагадваюць мазаікі кіеўскай Сафіі. Мастацтвазнаўцы, якія вывучалі рэшткі фрэсак полацкага сабора, лічаць, што схема роспісу яго адрозніваецца ад схемы роспісу галоўнай святыні Кіева і ўсталёўвае канон, які, можна меркаваць, захоўваўся ва ўсіх наступных полацкіх храмах таго перыяду. Панэлі, паводле тагачаснай традыцыі, распісваліся пад мармур, адкосы акон і дзвярэй, а таксама некаторыя прасценкі запаўняліся арнаментальнымі кампазіцыямі. Евангельскі аповед пачынаўся ад партала па паўночнай сцяне, кульмінацыя прыпадала на цэнтральную апсіду, дзе размяшчалася галоўная кампазіцыя "Эўхарыстыя". Шматфігурныя сцэны перамяжаюцца з постацямі асобных святых, задаючы роспісам пэўны рытм.

Інфармацыя пра фрэскі храмаў Бельчыцкага манастыра захавалася толькі ў архіўных крыніцах. Рэшткі іх бачылі і апісалі ў 20-х гадах М.Шчакаціхін і І.Хозераў. Роспіс Пятніцкай царквы традыцыйна падзяляўся на тры рэгістры ці ярусы. У ніжнім прадстаўлены выявы святых і пакутнікаў. Другі рэгістр

[1]*Шчакаціхін М.* Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра // Наш край. 1925. № 1. С. 18—27; *Хозеров И.М.* Белорусское и Смоленское зодчество XI—XIII вв. Мн., 1994; *Церашчатава В.В.* Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVIII стст. Мн., 1986; *Селицкий А.А.* Живопись Полоцкой земли XI—XII вв. Мн., 1992. С. 4—15.

займаюць тэматычныя кампазіцыі. Па версе ішлі самыя вялікія і значныя кампазіцыі, якія ілюстравалі важнейшыя евангельскія сюжэты: "Раскрыжаванне", "Стрэчанне", "Аплакванне", "Зняцце з крыжа". Фонам мастаку часам служыў натуральны тынк. Фрэска "Стрэчанне" цікавая сваёй кампазіцыяй: фігуры размешчаны па адной лініі, над якой уздымаецца толькі галоўка маленькага Хрыста. Такім прыёмам пастаўлены патрэбны ідэйны акцэнт, падкрэслена значнасць менавіта гэтага персанажа. Трактаваная ўвогуле паводле візантыйскай схемы кампазіцыя сюжэта "Раскрыжаванне" ўсё ж мае вельмі своеасаблівыя рысы. Так, фігуры боскай Маці і апостала Іаана размешчаны па адзін бок ад крыжа, значна зменшаны і быццам аддалены ад гледача. Акцэнт зроблены на крыжы, у параўнанні з якім нават цела Хрыста здаецца зменшаным. Увесь драматызм моманту сканцэнтраваны ў твары Хрыста, які напісаны ў вельмі экспрэсіўнай манеры. У кожнага свой крыж, нясі яго цярпліва і пакорліва — такую ідэю перадае гэта фрэска.



Стрэчанне. Фрэска Пятніцкай царквы Бельчыцкага манастыра (першая палова XII ст.)

Апрача тэматычных кампазіцый даследчыкі апісваюць выявы святых Міколы, Барыса і Глеба, напісаных цалкам у адпаведнасці з візантыйскай іканаграфіяй. Выявы святых Барыса і Глеба — самыя раннія, таму маюць вялікае значэнне. Тут ужо ўвасабляецца кананічны тып выяў гэтых князёў: Барыс з невялікай бародкай, Глеб у выглядзе юнака. Абодва апранутыя ў хітоны і плашчы, зашпіленыя фібуламі. На галовах — шапкі, аздобленыя белым футрам. М.Шчакаціхін таксама апісаў "рэшткі некалькі незвычайнага для XII ст. расліннага арнаменту, пракладзенага чырвонай фарбай у выглядзе буйных кветак, віткоў і доўгіх сцёблаў асіметрычнага рысунка"[1].

Адметнай рысай фрэскавага жывапісу Барысаглебскай царквы з'яўляецца вялікая колькасць арнаментальных роспісаў. Адкосы кожнага акна мелі свой малюнак. Паўтараецца тут і матыў асіметрычнага арнаменту з чырвонымі кветкамі і доўгімі сцяблінамі. Манументальнасць, актыўная роля контуру, спалучэнне лінейнай трактоўкі з аб'ёмнай лепкай формы з'яўляюцца працягам візантыйскай манеры жывапісу. Дзякуючы гэтым рысам узнікаюць асацыяцыі з фрэскамі кіеўскай Сафіі. Аднак мастацтвазнаўцы звяртаюць увагу на істотныя адрозненні ў размяшчэнні кампазіцый і выяў святых, мацнейшай тэндэнцыі да манументальнасці вобразаў, вольнай манеры жывапісу. Пералічаныя асаблівасці збліжаюць бельчыцкія фрэскі з пазнейшымі роспісамі наўгародскай царквы Спаса-на-Нярэдзіцы. Матыў круглых зялёных лістоў, уплеценых у хвалю доўгага сцябла, зялёныя фоны некаторых фрэсак сведчаць пра характэрныя рысы балканскіх манументальных роспісаў, у прыватнасці балгарскіх.

[1] *Шчакаціхін М.* Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра. С. 24.



Фрагмент фрэскі XII ст.
Спаская царква ў Полацку

Багаты матэрыял даюць фрэскі храмаў Ефрасіннеўскага манастыра. Жывапіснае аздабленне цяпер не існуючага храма-пахавальні вядома толькі па знаходках археолагаў. Падкрэсленая графічнасць малюнка спалучаецца з тонкай пластычнай мадэліроўкай твараў, якая дасягаецца выключна колерам. Твары святых вылучаюцца ўнутранай сілай, глыбокім псіхалагізмам. Кожны вобраз індывідуальны, са сваім настроем і пачуццямі. Здзіўляе насычаная палітра, тонкія светлаценевыя пераходы.

Высокі мастацкі ўзровень дэманструюць фрэскі Спаскай царквы. Роспісы 40—50-х гадоў XII ст. яшчэ знаходзяцца ў працэсе раскрыцця і кансервацыі[1]. Час для іх грунтоўнага апісання і аналізу яшчэ не настаў. Тым не менш раскрытыя фрагменты дазваляюць скласці агульнае ўражанне аб жывапісным афармленні храма. Роспіс размешчаны ў тры рэгістры, кампаноўка свабодная, часам вельмі складаная, шматфігурныя сцэны чаргуюцца са шматлікімі выявамі асобных святых. На фоне полацкіх помнікаў царква Спаса вылучаецца тым, што кампазіцыі займаюць усе плоскасці: лапаткі, аркі, адкосы, прасценкі, не пакідаючы месца дэкаратыўным арнаментам.

У купале змешчана вялікая выява благаслаўляючага Спаса з кнігай у руцэ ў атачэнні евангелістаў на ветразях. Ніжні рэгістр цэнтральнай апсіды займае "свяцільскі чын" —12 франтальных постацей. Над імі — "Эўхарыстыя" з надзвычай дынамічнымі фігурамі апосталаў. Кампазіцыя выходзіць за межы апсіды на прасценкі. Гэта галоўны кампазіцыйны цэнтр, які падпарадкоўвае і арганізуе ўсе астатнія роспісы з іх асіметрычнасцю і даволі свабоднай кампаноўкай. На самым версе змешчана выява маці боскай Аранты. Значным эмацыянальным і ідэйным акцэнтам тут стала ўвядзенне шасцікрылых серафімаў, якія звязваюць два верхнія рэгістры роспісу апсіды.

Ніжні рэгістр паўночнай і паўднёвай сцен утвораны выявамі святых у малітоўных позах. Вобразы іх аскетычныя, адухоўленыя, падпарадкаваныя адзінаму парыву. Вышэй па сценах размешчаны адна- і шматфігурныя кампазіцыі. Адметнасцю ідэалагічнай праграмы роспісаў з'яўляецца ўвядзенне матыву ахвярнасці, паўторанаму некалькі разоў у біблейскіх сюжэтах, звязаных з Аўраамам, а таксама ў сцэнах ахвярапрынашэння і пакутаў святых.

Арыгінальны характар роспісу малельні Ефрасінні. На ўсходняй сцяне знаходзіцца адна з самых ранніх выяў Спаса. Твар напісаны хоць і ў плоскаснай, графічнай, але надзвычай экспрэсіўнай манеры, поўны ўнутранай дынамікі.

У роспісе Спаскай царквы бралі ўдзел некалькі выдатных майстроў, кожны са сваёй творчай манерай. Фрэскі дэманструюць умелае выкарыстанне ко-

---

[1]*Ракіцкі У.* Спасаўская царква пры староннім асвятленні // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998. С. 249—258.

леру ў перадачы эмацыянальнага фону кампазіцый і асобных святых. Ад светлых, мяккіх таноў інтэнсіўнасць нарастае, узмацняючы напружанне, якое дасягае кульмінацыі ў глыбокіх і трывожных сініх і гарачых малінава-чырвоных фарбах. Экспрэсія вобразаў спаскіх фрэсак асабліва выяўляецца пры дапамозе кантрастаў: чаргаванне асобных святых са шматфігурнымі кампазіцыямі, манументальныя, франтальна размешчаныя выявы побач са складанымі дынамічнымі ракурсамі; плоскасная і аб'ёмная манеры пісьма; статычныя постаці і надзвычай экспрэсіўныя твары з выразнымі, рэзка павернутымі вачыма. Святыя тут не сузіраюць спакойна з недасягальнай вышыні сваёй святасці, яны актыўныя ў веры, імкнуцца да дзеяння, яны тут, сярод нас, яны загадваюць, настойліва заклікаюць да вялікай працы дзеля веры, дзеля сваёй Айчыны. Менавіта такі, актыўны і непахісны, неўтаймаваны ў веры і ахвярнасці вобраз паўстае са старонак "Жыція..." самой святой Ефрасінні Полацкай.

У паўночным нефе Спаскай царквы выяўлена цікавае графіці са словамі: "... прьставися Козуминая письца иконьного". Мяркуюць, што так звалася жонка мясцовага багамаза Кузьмы, які, магчыма, прымаў удзел у роспісе царквы фрэскамі[1].

Архіўныя і археалагічныя крыніцы даюць невялікую інфармацыю пра фрэскі віцебскай Дабравешчанскай царквы, а таксама Барысаглебскай царквы і грамадзянскай пабудовы ў Навагрудку. Адметнасцю ў кампазіцыі і стылістыцы дэкору адрозніваецца афармленне інтэр'ера Каложскай царквы ў Гродне. Роспісы пакрывалі толькі алтарную частку і насілі вельмі арыгінальны характар. Паводле звестак другой паловы XIX ст., у цэнтры кампазіцыі апсіды быў размешчаны вялікі крыж карсунскай формы, над ім — выявы сонца і месяца, у правай частцы — сюжэт "Святая Троіца". У муроўку паўночнай і паўднёвай сцен храма былі ўстаўлены шматлікія галаснікі.

Такім чынам, вывучэнне манументальнага жывапісу XI—XII стст. Беларусі прыводзіць да высновы, што яго развіццё ішло ў рэчышчы візантыйскага стылю і паводле візантыйскіх канонаў. Можна казаць пра непасрэдныя ўплывы як канстанцінопальскай, так і правінцыйных школ. Даследчыкі адзначаюць таксама сляды раманскай стылістыкі. Аднак, натуральна, нават запрошаны мастак павінны быў улічваць мясцовыя мастацкія традыцыі, густы заказчыка, працуючы па нейкім канкрэтным узоры.

**Кніжная графіка.** З пачаткам кнігапісання нараджаецца такая галіна жывапіснага мастацтва, як кніжная графіка. Тагачасная кніга — не толькі крыніца ведаў, але і твор мастацтва каліграфіі, жывапісу, залатарства. Калі і дзе былі заснаваны скрыпторыі на тэрыторыі Беларусі, колькі іх было, якія кнігі выйшлі адтуль? Усе гэтыя пытанні не маюць адказу. З "Жыція ..." святой Ефрасінні вядома, што пад яе кіраўніцтвам перапісвалі кнігі ў Полацку. Усталяванне епіскапскай кафедры, асветніцкая дзейнасць Кірыла Тураўскага, наяўнасць Тураўскага евангелля з'яўляюцца ўскоснымі сведчаннямі існавання скрыпторыя ў Тураве.

Колькасць ўсходнеславянскіх кніг XI—XIII стст. увогуле невялікая, і ніводную з іх пакуль не ўдалося атаясаміць з нейкім канкрэтным скрыпторыем, таму ўсе рукапісныя кнігі гэтага перыяду з'яўляюцца агульнымі помнікамі пісьменства. Тым не менш спецыялісты з пэўнай доляй верагоднасці гавораць аб заходнерускім паходжанні некаторых з тых кніг. Жывапіснае аздабленне старажытных рукапісаў выяўлялася ў афармленні ініцыялаў, заставак і канцовак, у мініяцюрах. У адрозненне ад фрэсак умовы захоўвання кніжных мініяцюр былі значна лепшымі, а таму яны захавалі свежасць і чысціню сваіх фарбаў. Развіццё ілюмінацыі (мастацкага афармлення) кніг ішло

[1]*Тарасаў С.В.* З гісторыі полацкай эпіграфікі X—XV стст. // Кніжная культура Беларусі. Мн., 1991. С. 121—122.

па лініі ўскладнення, узбагачэння дэкаратыўнасці. У цэлым рукапісы XI—XII стст. аформлены ў візантыйскім стылі. У іх аздабленні выкарыстаны нескладаныя геаметрычныя, раслінныя і тэраталагічныя элементы. Яскравымі прыкладамі тут могуць паслужыць Тураўскае евангелле XI ст., а таксама Мсціслаўскае, Юр'еўскае, Архангельскае евангеллі XII ст.

Мастацкае аздабленне ранейшых рукапісаў даволі сціплае. Ілюмінацыя іх абмяжоўвалася ініцыяламі і застаўкамі. На падставе дэталёвага аналізу ілюмінацыі ўцалелай часткі Тураўскага евангелля ў кантэксце развіцця кніжнай справы ў XI ст. мастацтвазнаўца В.Пуцко прыйшоў да наступных высноў: Тураўскае евангелле створана, верагодна, каля 1050 г. рукой майстра з кола кіеўскага княжацкага скрыпторыя, магчыма, у самім Тураве. Даследчык адзначае, што ў рукапісе актыўна выкарыстаны балканскія кнігапісныя традыцыі, што дадзены помнік з'яўляецца матэрыяльным адлюстраваннем працэсу змены стылю ў афармленні кніг[1]. Найбліжэйшым па характары Тураўскаму евангеллю помнікам з'яўляецца Рэймскае евангелле. Спецыялісты не выключаюць яго "заходнерускае" паходжанне. На падобных прынцыпах грунтуецца і афармленне Супрасльскага евангелля X—XI стст., у якім да таго ж ёсць прыкметы ўплыву грэчаскіх і балгарскіх рукапісаў[2].

Своеасаблівым помнікам кніжнага мастацтва X—XI стст. з'яўляецца Трырскае евангелле, ці так званы Кодэкс Гертруды. Напісаны ён быў на лацінскай мове і ўпрыгожаны мініяцюрамі ў канцы X ст. па замове трырскага епіскапа Эгберта (977—993). Пазней рукапіс належаў польскай прынцэсе Гертрудзе, якая пасля шлюбу з князем Ізяславам прывезла евангелле з сабой. У 1075—1076 гг. рукапіс быў дапоўнены пяццю мініяцюрамі, персанажамі якіх былі сама Гертруда, яе сын Яраполк (у 1078—1086 гг. княжыў у Тураве) з жонкай і інш. Найбольш цікавыя мініяцюры "Апостал Пётр з групавым партрэтам сям'і Яраполка" і "Каранаванне Яраполка". Спецыялісты лічаць, што малюнкі выканалі два мастакі з рознымі мастацкімі манерамі. Асабліва індывідуалізаваны і дэталізаваны выявы свецкіх асоб. З вялікай стараннасцю і ўмельствам перададзены не толькі твары, але і адзенне Яраполка, Ірыны, Гертруды. Мініяцюры XI ст. дэманструюць сінтэз візантыйскіх і раманскіх традыцый, прычым апошнія пераважаюць. Некаторыя даследчыкі, у тым ліку В.Лазараў і В.Шматаў, схіляюцца да думкі аб "заходнерускім" паходжанні гэтай пазнейшай часткі помніка[3].

Да полацка-смаленскай або галіцка-валынскай школы даследчыкі адносяць Служэбнік Варлаама Хутынскага канца XII—XIII ст. з яго першакласнымі мініяцюрамі. Маляўнічасць, тонкі філігранны малюнак, пачуццё меры і стылю характарызуюць не толькі мініяцюры, але і шыкоўныя раслінныя застаўкі і ініцыялы. Блізкія па прынцыпах ілюмінацыі Універсітэцкае і Аршанскае евангеллі, якія, верагодна, належаць да полацка-смаленскай школы. Асабліва цікавыя мініяцюры Аршанскага евангелля з выявамі евангелістаў Матфея і Лукі. Уражваюць жывапісная лепка аб'ёмаў, адчуванне формы, складаныя дынамічныя ракурсы, агульны каларыт, вольная манера пісьма, выразнасць, індывідуальнасць і экспрэсіўнасць вобразаў відавочна збліжаюць гэтыя творы з фрэскамі царквы Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.

Такім чынам, кніжная справа на ўсходнеславянскіх абшарах развівалася ў рэчышчы візантыйскага мастацтва. Якой была мера арыентацыі на Візантыю мастакоў той ці іншай школы, вызначыць немагчыма з-за нешматлікасці помнікаў. Іншыя галіны мастацтва старажытных гарадоў на тэрыторыі

---

[1] *Пуцко В.* Ілюмінацыя Тураўскага евангелля XI ст. // Беларускі гістарычны агляд. Т. 5. Сшытак 1(8). 1998. С. 88—102.

[2] Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1. С. 92.

[3] Там жа. С. 90.



Схема роспісу галоўнай апсіды Спаскай царквы ў Полацку

Беларусі характарызуюцца ўзмацненнем раманскіх уплываў на іх стылістыку на працягу XII—XIII стст.

**Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.** Гэты від мастацкай творчасці вырастае з імкнення чалавека да эстэтызацыі свайго найбліжэйшага асяроддзя, з якім ён кантактаваў штодзённа і непасрэдна, і ўключае аздабленне звычайных рэчаў штодзённага ўжытку, якія задавальнялі чыста утылітарныя патрэбы. Тут пануе прымітыўная, найчасцей геаметрызаваная стылістыка, семантыка якой губляецца ў глыбіні тысячагоддзяў і звязана з магіяй і рытуаламі найстаражытнейшых вераванняў. Мастацкія рамёствы забяспечвалі патрэбы шырокіх дэмакратычных слаёў грамадства ў дэкаратыўных рэчах для ўпрыгожання касцюма, жытла, у масавых рэчах культавага прызначэння. Выявы ўключаюць геаметрычны арнамент, раслінныя кампазіцыі, фігуры птушак, жывёл, фантастычных істот і людзей. Інстытуты дзяржавы і царквы, эліту абслугоўвалі княжацкія майстэрні, тут працавалі самыя прывілеяваныя мастакі-рамеснікі. Яны выкарыстоўвалі дарагія і каштоўныя матэрыялы, сачылі за модай і валодалі не толькі вялікім прафесійным вопытам, але і высокім мастацкім густам і талентам.

Скупасць матэрыяльных і асабліва пісьмовых крыніц IX—XIII стст. не дазваляе ахарактарызаваць і ацаніць дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі таго часу ва ўсёй паўнаце. Матэрыялы археалагічных раскопак даюць уяўленне ў асноўным пра ўжытковае мастацтва сярэдніх слаёў вясковага і гарадскога насельніцтва.

Найкаштоўнейшы твор прыкладного мастацтва Беларусі таго перыяду — крыж Ефрасінні Полацкай. Гэта — сімвал, нацыянальная рэліквія. Не



Фрагмент крыжа Ефрасінні Полацкай 1161 г. (фота 1896 г.)

аднойчы ён прыцягваў увагу даследчыкаў XIX—XX стст. Найбольш падрабязна крыж апісаны Л. Аляксеевым[1].

Узвіжальны крыж зроблены ў Полацку майстрам залатаром Лазарам Богшам у 1161 г. па замове самой Ефрасінні, пра што сведчыць надпіс. У крыжы захоўваліся святыя рэліквіі, атрыманыя ігуменняй з Канстанцінопаля ад імператара Мануіла Комніна.

Крыж мае шасціканцовую форму. Яго даўжыня 51 см, шырыня ў верхняй папярочцы 14 см, у ніжняй — 21 см. Драўляная аснова (мяркуюць, што кіпарысавая) пакрыта асобнымі срэбранымі і залатымі пласцінкамі, прымацаванымі маленькімі цвічкамі. На парадным і адваротных баках размешчана па дзевяць прамавугольных і дзве фігурныя пласцінкі. У сяродкрыжжах прымацаваны два невялікія крыжы з праразным арнаментам: вышэй крыху выцягнуты чатырохканцовы, ніжэй — шасціканцовы.

Твор Лазара Богшы багата арнаментаваны. Галоўнае месца ў дэкаратыўнай сістэме адведзена каляровым эмалям. Выявы прадстаўляюць фігуры святых, якія ўтвараюць пашыраны дэісус. Увенчвае кампазіцыю Ісус Хрыстос. Маці Боская і Іаан Хрысціцель з узнятымі рукамі, звернутымі да сяродкрыжжа. Чатыры евангелісты таксама павернутыя да цэнтра крыжа. Далей ідуць архангелы Гаўрыіл і Міхаіл, а ўніз па ствале — выявы святых — апекуноў княжацкай сям'і — св. Ефрасіння Александрыйская і з крыжамі ў руках святыя Георгій і Сафія. Апрача эмаляў парадны бок крыжа аздаблялі восем вялікіх і столькі ж маленькіх каштоўных камянёў, а па перыметры яго ахоплівала нізка з перлаў.

На адваротным баку вобразы святых размешчаны ў наступным парадку: заснавальнікі праваслаўя Іаан Златавуст і Васіль Вялікі з евангеллямі ў руках, Грыгорый Багаслоў (пласціна страчана), на ніжняй перакладзіне крыжа — апосталы Пётр і Павел (выявы таксама не захаваліся), і па ствале крыжа эмалі са святымі Стэфанам, Панцеляймонам і Дзмітрыем.

Нягледзячы на невялікі памер эмаляў (даўжыня іх не перавышае трох сантыметраў), стараннасць і дэталёвасць прапрацоўкі асобных элементаў, мы не бачым скаванасці, схематычнасці ў перадачы вобразаў. Яны жывыя, кожны з іх індывідуальны. Асаблівую выразнасць і дынамізм надаюць лікам святых вочы — творчы прыём, характэрны для фрэсак Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. Усё гэта сведчыць пра тое, што апрача дасканалых тэхналагічных навыкаў майстар валодаў унікальным мастацкім дарам.

Крыж аздабляе таксама вялікая колькасць арнаментальных эмаляў. Тут ювелір адчувае сябе яшчэ больш вольным, яго густы і традыцыі найменш скаваныя рэлігійнымі канонамі. У мудрагелістых малюнках спалучаюцца візантыйскія і раманскія элементы, а пераважаюць раслінныя і геаметрычныя матывы, шырока распаўсюджаныя на срэбраных і бронзавых упрыгожаннях. У адрозненне ад пышных тэраталагічных і раслінных кампазіцый Кіеўшчыны,

[1]*Алексеев Л.В.* Лазарь Богша — мастер-ювелир XII века // СА. 1957. № 3. С. 224—244.

Уладзіміра, Суздаля і іншых тут яўна пераважаюць нескладаныя геаметрычныя матывы, вельмі характэрныя для ўжытковага мастацтва Беларусі праз усю гісторыю яго існавання: простыя разеткі, кружочкі, ромбы, кропкі. Крыж увасобіў у сабе раскошу і багацце, гармонію і пачуццё меры, паліхромію і стрыманасць, высокі прафесіяналізм элітарнага і прастату народнага мастацтва.

Даследчыкі канстатуюць, што творчасць полацкага ювеліра Лазара Богшы аказала моцны ўплыў на развіццё эмальернай справы не толькі на яго радзіме, але і ў суседніх землях, як і полацкага дойліда Іаана на развіццё культавай архітэктуры. Апякункай абодвух творцаў была св. Ефрасіння.

Сімвалічны лёс крыжа: зроблены ў Полацку, калысцы беларускай дзяржаўнасці, ён не раз вывозіўся захопнікамі падчас войнаў, але вяртаўся на бацькаўшчыну. Аднак пасля апошняй вайны не вярнуўся. Пошукі пакуль станоўчых вынікаў не далі[1].

Апрача Лазара Богшы на нашай зямлі працавала незлічонае мноства майстроў-ювеліраў. Ужо з Х ст. залатарства існавала ў Полацку, Віцебску, Лукомлі, Заслаўі, Клецку, а ў XII ст. яго сляды знойдзены практычна ва ўсіх гарадах і ўмацаваных паселішчах. Цікавейшы матэрыял атрымалі археолагі пры даследаванні рэшткаў ювелірных майстэрняў Х—XIII стст. (Полацк, Віцебск, Мінск, Навагрудак, Клецк і інш.).

Старажытнабеларускія залатары працавалі на прывазной сыравіне: волава, медзь, свінец, срэбра, золата, каштоўныя і напаўкаштоўныя камяні. Крыніцамі паступлення імпартных матэрыялаў былі краіны Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Археалагічныя знаходкі сведчаць аб дастаткова высокім узроўні майстэрства полацкіх майстроў. Фіксуюцца наступныя тэхналогіі: ліццё, коўка, штампоўка, цісненне, валачэнне, пляценне, зерань, скань, перагародчатая эмаль, гравіроўка, інкрустацыя металамі, шклом і каштоўнымі і напаўкаштоўнымі камянямі. Найбольш распаўсюджаным было ліццё. Гэтай тэхналогіяй валодалі і гарадскія і вясковыя майстры. Доказам таму з'яўляюцца шматлікія знаходкі керамічных тыгляў і ліцейных форм (Полацк, Гродна, Ваўкавыск, Мінск, Навагрудак, Тураў, Лукомль і інш.). На шпорах, нажах, розных накладках і іншых вырабах знаходзім такі тэхналагічны прыём, як інкрустацыя жалезных вырабаў арнаментаванымі бронзавымі пласцінамі. Нярэдка гатовыя жалезныя вырабы пакрывалі слоем каляровых металаў, найчасцей бронзай[2].

Вырабаў з золата знойдзена параўнальна мала. Тлумачыцца гэтам тым, што ў часы шматлікіх войнаў багацці краіны рабаваліся, рэчы з каштоўных металаў або вывозіліся (напрыклад, крыж Ефрасінні Полацкай), або ішлі на пераплаўку. Бадай што багацейшай у гэтым сэнсе была знаходка полацкага рэчавага скарбу, які складаўся з залатых фрагментаў дроту, бранзалетаў, кавалкаў грыўняў. Залатыя ювелірныя вырабы XII—XIII стст. знойдзены пры даследаванні шэрагу старажытных гарадоў: залаты бранзалет у Мінску, пацерка ў Лукомлі, бранзалет у Гродне, залатыя пярсцёнкі з устаўкамі з каштоўных камянёў і шкла ў Полацку і Гродне, трохпацеркавае вісочнае кольца ў Барысаве, залатыя вырабы вядомы таксама ў Віцебску, Навагрудку. Калекцыя разнастайных срэбраных вырабаў прадстаўлена вішчынскім скарбам, у які ўваходзяць пацеркі, падвескі, колты, расны. Срэбраных вырабаў знаходзіцца ўвогуле намнога больш: гэта разнастайныя падвескі, скроневыя кольцы з пацеркамі, пярсцёнкі, фібулы, завушніцы, ланцужкі і г.д. Падобныя знаходкі характэрны для ўсёй тэрыторыі Беларусі ў гарадах, на гарадзішчах, у пахаваннях таго часу.

Вырабы з золата і срэбра не такія шматлікія і вельмі дарагія, павінны былі задавальняць патрэбы вышэйшых слаёў насельніцтва і царквы. Значна шырэй былі распаўсюджаны вырабы з бронзы. Багацейшы і іх асартымент.

---

[1]Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны. Гісторыя крыжа святой Еўфрасінні Полацкай. Мн., 1998. С. 199.

[2]*Гурин М.Ф.* Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX—XIII вв. С. 64.

Рэчы хрысціянскага культу асабліва папулярнымі былі сярод гарадскога насельніцтва. На тэрыторыі сучаснай Беларусі вядомы шэраг свінцовых і бронзавых абразкоў даволі высокага мастацкага ўзроўню. На іх прадстаўлены Багародзіца, Барыс і Глеб і іншыя святыя. Некаторыя асаблівасці стылістыкі і іканаграфіі (індывідуалізацыя твараў, крыху скажоныя прапорцыі), да таго ж паўтораныя ў абразках з Турава, Мінска, Копысі, пячатцы з Полацка, даюць падставы меркаваць пра мясцовае паходжанне рэчаў. Адным з цікавейшых вырабаў гэтага тыпу з'яўляюцца крыжы-энкалпіёны. Яны вядомы па матэрыялах з Полацка, Друцка, Мінска, Маскавічаў, Турава, Брэста, Мсціслава, Навагрудка, Гродна і інш. Відавочна, большасць іх прывазныя, хоць даследчыкі дапускаюць магчымасць і мясцовай вытворчасці энкалпіёнаў. Тое ж можна сказаць і пра літыя бронзавыя абразкі. Цікава адзначыць, што некаторыя з іх выраблялiся па формах імпартных каменных абразкоў. Сярод гараджан і вясковых жыхароў вялікім попытам карысталіся нацельныя крыжыкі. Не ўсе даследчыкі звязваюць іх выключна з хрысціянствам.

Самы шырокі спектр асартыменту вырабаў з каляровых металаў складаюць дэталі адзення і ўпрыгожанні. Гэтыя рэчы карысталіся вялікай папулярнасцю як сярод гарадскога, так і вясковага насельніцтва. Скроневыя кольцы — тыповае жаночае ўпрыгожанне, якое з'яўляецца апрача іншага і этнавызначальнай прыкметай. На шыі насілі грыўні літыя або звітыя з тонкага дроту. У склад маністаў ўваходзілі разнастайныя пацеркі (зярнёныя, скручаныя з палоскі металу), прывескі (круглыя, трапецападобныя, рынападобная лунніцы, званочкі, канькі). У Полацку знойдзена прывеска ў выглядзе купца з мехам у руках. Папулярнымі былі дротавыя, кручаныя, плеценыя, пласцінчатыя, стужкавыя бранзалеты. Пярсцёнкі нярэдка выраблялiся з дроту (простыя ці плеценыя), шчытковыя звычайна мелі гравіраваны арнамент ці вочкі з каляровага шкла, бурштыну або каштоўных камянёў. Неад'емнымі элементамі касцюма былі фібулы, спражкі (ліраладобныя, прамавугольныя, трапецападобныя), кольцы, бляшкі.

З іншых рэчаў трэба адзначыць накладкі, тронкі для прылад. Геаметрычныя матывы пераважаюць у аздабленні замочкаў для кніг. Яны выяўлены ў Мінску, Друцку, Полацку. Непасрэдна для пісання выкарыстоўваліся спецыяльныя прылады — пісалы, у тым ліку бронзавыя.

Вытворчасць дэкаратыўнай керамікі ў разглядаемы перыяд звязана найперш з інтэнсіўным храмавым будаўніцтвам. У склад арцелі звычайна ўваходзіў майстра-плітачнік, які займаўся афармленнем падлогі. Керамічныя падлогі былі традыцыйнымі і абавязковымі ў XI ст. і асабліва ў XII ст. і аздаблялі не толькі мураваныя, але і драўляныя бажніцы. Маёлікавыя пліткі падлогі знойдзены пры даследаванні амаль усіх храмаў XI—XII стст. і асобна ў Полацку, Віцебску, Друцку, Мінску, Лагойску. У старажытным Гродне каляровыя пліткі аздаблялі і вонкавыя фасады пабудоў. Выдатным прыкладам выкарыстання дэкаратыўных магчымасцей керамікі ў архітэктуры сёння з'яўляецца Каложская царква XII ст. у Гродне. Прыкладна ў сярэдзіне XII ст. на тэрыторыі Беларусі складваецца своеасаблівая сістэма афармлення керамічных падлог, якая прыкметна вылучалася на фоне суседніх рэгіёнаў[1]. Падлога ўспрымалася ўся як адно цэлае — шыкоўны трохколеравы дыван. Такія падлогі выяўлены археолагамі пры даследаванні Ніжняй, Прачысценскай і Каложскай цэркваў у Гродне. Трэба адзначыць таксама, што асобныя формы плітак паўтараюцца ў розных беларускіх гарадах (Гродна—Пінск, Полацк—Гродна, Полацк—Пінск). Формы плітак з Гродна і Пінска маюць дакладныя аналогіі ў геаметрычных роспісах фрэсак Барысаглебскай царквы ў Смаленску.

[1] *Ганецкая І.У.* Маёліка на Беларусі ў XI—XVIII стст. Мн., 1995. С. 24—25.

Пліткавыя майстэрні далі імпульс для вытворчасці маёлікавага і паліванага посуду, побытавых рэчаў, дробнай пластыкі: гаршочкі, міскі, збаны, падсвечнікі, яйкі-пісанкі (Гомель, Брэст, Навагрудак). Надзвычай цікавым узорам дробнай пластыкі з'яўляецца вылепленая з гліны галава лася, пакрытая палівай, з Навагрудка.



Абразок "Канстанцін і Алена" з Полацка (XII ст.)

**Дробная пластыка.** З залатарствам цесна звязана мастацкая апрацоўка каменю. Найбольш цікавым відам каменнай пластыкі XII–XIII стст. з'яўляюцца абразкі. Іх выраблялі з бронзы, косці і каменю. Вядомыя сёння каменныя абразкі паходзяць з Полацка, Мінска, Навагрудка, Ваўкавыска, Віцебска. Асобнае месца займае шырокавядомы абразок з выявай святых Канстанціна і Алены з Полацка. Выраблены ён з тонкадысперснай гліны. Гліна настолькі моцна спрасавана, што візуальна не адрозніваецца ад каменю. Менавіта ў гэтым абразку ўвасобілася тое сутнаснае, што характарызуе мастацтва не толькі Полаччыны, але і Беларусі ўвогуле. Прычым гэтыя асаблівасці праглядаюцца і на шмат пазнейшых жывапісных абразах XVI, XVII і нават XVIII стст., у кніжных мініяцюрах старых беларускіх выданняў, драўлянай скульптуры. Абразок візантыйскі па сюжэце, раманскі па стылістыцы, мясцовы па каларыце, характарнасці і, вядома, па матэрыяле.

Даследчыкі не сумняваюцца ў факце існавання ўласнай вытворчасці каменных абразкоў на тэрыторыі Беларусі ў XI–XIII стст. На іх адлюстраваны святыя, характэрныя для мясцовых культаў: Мікола, Стэфан, Барбара, Кірыл Тураўскі. Стыль пластычны, пабудаваны на градацыі аб'ёмаў, фігуры характарызуюцца аб'ёмнасцю, фактурнасцю форм, разнастайнасцю мадэліроўкі[1]. Пэўныя дыспрапорцыі ў перадачы чалавечай фігуры, акруглы, дастаткова выразны рэльеф, тыпізаваныя і ў той жа час індывідуальныя рысы твару (прамы, пашыраны данізу нос, вялікія міндалепадобныя вочы з двайной акантоўкай павекаў), рукі святых часта ўзняты на ўзроўні жывата, грудзей, у жэсце благаслаўлення або трымаюць евангелле. Боская Маці звычайна паказваецца ў мафорыі, што абсалютна не ўласціва для ўсходнеславянскіх краін і сведчыць аб еўрапейскай традыцыі. На агульным фоне вылучаюцца абразкі з Ваўкавыска. Ад астатніх яны адрозніваюцца сваім плоскасным рэльефам, што сведчыць пра большы візантыйскі ўплыў на манеру ваўкавыскіх майстроў. Літаральна ва ўсіх рысах творчай манеры і прафесійных і народных мастакоў-каменярэзаў выразна чытаюцца сляды раманскай эстэтыкі, узмацняючыся на працягу XIII ст. па меры таго, як і само візантыйскае

[1] *Леонова А.* Мелкая пластика Белоруссии XII – начала XIII вв., ее стиль и тенденции развития // Славянские культуры и мировой культурный процесс. Мн., 1982. С. 33–35.




Шахматныя фігуры XII ст. з раскопак гарадоў:
1 — ферзь з Лукомля; 2 — пешка; 3 — ладдзя з Ваўкавыска (косць); 4 — ладдзя з Гродна (камень)

мастацтва пачынае трапляць пад уздзеянне рамана-гатычнай стылістыкі. Увогуле старажытнабеларуская школа пластыкі відавочна адрозніваецца ад усіх рэгіянальных школ на абшарах усходніх славян актыўнай асіміляцыяй, творчай адаптацыяй розных мастацкіх патокаў, але менавіта ў гэтай сферы мастацтва, як ні ў якой іншай, моцна адчуваецца ўздзеянне заходнееўрапейскай стылістыкі (паўночнага варыянта). Частка абразкоў зроблена па візантыйскіх і кіеўскіх узорах. Яскравым прыкладам з'яўляецца касцяная накладка ад куфра з Навагрудка, арнаментаваная разеткамі, упісанымі ў кругі.

Выдатнымі мастацкімі і тэхнічнымі навыкамі валодалі старажытныя кастарэзы. Надзвычай шырокі быў асартымент іх прадукцыі: гэта абразкі і іншыя рэчы хрысціянскага культу, да якіх адносяцца і разныя касцяныя лыжачкі для прычасця, і звычайныя побытавыя рэчы, што ўпрыгожваліся не менш старанна. Згадаем капавушкі з навершамі ў выглядзе фігур жывёл і людзей, перададзеных надзвычай прафесійна і рэалістычна, тронкі для нажоў, накладкі на лукі, похвы і іншыя рэчы, праколкі, грабяні, іголкі, іголькікі, гузікі, гральныя косці. Вельмі цікавымі знаходкамі твораў пластыкі XI—XIII стст. з'яўляюцца шахматныя фігуркі. Сам факт іх прысутнасці ў самых розных гарадах (Полацк, Мінск, гарадзішча на Менцы, Брэст, Слуцк, Лукомль, Гродна, Ваўкавыск, Друцк) гаворыць аб папулярнасці гэтай складанай усходняй гульні на тэрыторыі Беларусі ў разглядаемы перыяд. Выраблялі іх з косці і дрэва. Самыя раннія ўзоры паходзяць з гарадзішча на Менцы і датуюцца XI ст. Фігуркі людзей прадстаўляюць каралёў і пешку (барабаншчык з Ваўкавыска), старанна выразана ладдзя, знойдзеная ў Гродне. Невялікая частка шахмат уяўляе сабой абстрактныя геаметрызаваныя фігуры, звязаныя з усходнім уплывам. Але што вылучае старажытнабеларускую шахматную калекцыю сярод іншых усходнеславянскіх рэгіёнаў, дык гэта тое, што яна прадстаўляе найбольшую калекцыю рэалістычна трактаваных фігурак. Рэалістычныя твары і фігуры людзей, пільная ўвага да дробных дэталяў: прычоскі, касцюм, дакладнасць у перадачы рэчаў — усё гэта несумненна адпавядае заходнееўрапейскім узорам, але прамых аналогій не выяўлена[1]. З гэтага вынікае, што шахматы зроблены мясцовымі майстрамі, якія знаходзіліся пад моцным уплывам заходнееўрапейскай разбярскай традыцыі. Прасцейшымі вырабамі былі шашкі, якія прыйшлі да нас са Скандынавіі. Вядомы шашкі з каменю, бурштыну, шкла, гліны. Яны ўяўлялі сабой пляскатыя кружочкі з адтулінай у цэнтры, упрыгожаныя канцэнтрычнымі кругамі. Знойдзены ў Віцебску, Мсціславе ў слаях X і XIII стст.

Такім чынам, развіццё манументальнага жывапісу, кніжнай графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дробнай пластыкі старажытных зямель Беларусі ў XI—XIII стст. адбывалася ў рэчышчы візантыйскай традыцыі. Візантыя ў той час была найвялікшым цэнтрам сусветнай культуры. Уздзе-

[1]Археалогія і нумізматыка Беларусі. С. 652.

янне візантыйскага свету на культуру беларускіх зямель адбывалася праз дынастычныя і гандлёвыя кантакты, запрашэнне іншаземных майстроў. Актыўнымі пасрэднікамі ў перадачы візантыйскіх традыцый на беларускія землі былі Кіеў і балканскія правінцыі імперыі.

На фоне астатніх усходнеславянскіх зямель разгледжанае мастацтва вызначаецца творчым засваеннем шматлікіх рамана-гатычных рыс. Імпульсы заходнееўрапейскага паходжання паступалі на нашы землі шляхам дынастычных, гандлёвых сувязяў, перасялення майстроў, а таксама праз культурныя ўплывы краін Балканскага рэгіёна.

Аналіз матэрыялу прыводзіць да высновы, што ўсе рэгіёны Беларусі ў перыяд сярэднявечных княстваў XII — першай паловы XIII ст., нягледзячы на знаходжанне ў сферах розных палітычных уплываў, складалі даволі цэласны масіў, які вылучаецца своеасаблівасцю на фоне суседніх зямель. Сінтэз мясцовых эстэтычных традыцый і візантыйскіх, заходнееўрапейскіх, асабліва раманскіх канонаў вызначае характарыстыку мастацтва Беларусі IX—XIII стст. Але на розных этапах, у розных галінах мастацтва дзеянне і значнасць гэтых фактараў не былі аднолькавымі.

## 5. Пісьменства, літаратура, фальклор

**Рукапісныя кнігі.** Заслуга стварэння славянскай азбукі і пісьменнасці належыць братам Кірылу і Мяфодзію з Салуні (Грэцыя). Іх дзейнасць прыходзіцца на другую палову IX ст. Славяне па паходжанні, яны з'яўляліся візантыйскімі царкоўнымі і палітычнымі дзеячамі. Кірыла і Мяфодзій былі першымі перакладчыкамі рэлігійных кніг з грэчаскай на славянскую мову.

Як лічаць даследчыкі, спачатку была створана азбука, якую называюць "глаголіца". Яе літары мелі складанае графічнае напісанне. Затым з'явілася азбука "кірыліца", створаная на аснове глаголіцы. Яна мела 43 літары. Многія літары абазначалі лічбы. З перанясеннем славянскага пісьма ў Балгарыю яна становіцца краінай сярэднявечнай пісьменнасці і культуры. Пасля зацвярджэння на балгарскіх землях старажытнаславянская пісьменнасць пераходзіць з Балгарыі да ўсходніх славян[1]. На працягу доўгага часу літаратура Русі была па сутнасці працягам літаратуры старажытнабалгарскай. Балгарыя справядліва лічыцца калыскай славянскай пісьменнасці. Кірыліца ад старaславянскай пісьменнасці перайшла ў спадчыну старабеларускай, стараўкраінскай і старарускай пісьменнасці.

З грэчаскай мовы на старaславянскую перакладаліся царкоўныя кнігі. Самае ранняе (з тых, што захаваліся) Тураўскае евангелле створана ў XI ст., відаць, у Тураве. Па сваім складзе яно ўяўляе сабой так званы "апракос" — зборнік евангельскіх чытанняў на пэўны перыяд. Твор уяўляў сабой частку агульнага кодэксу, які быў перапісаны ў XI ст. Вялікія ініцыялы размаляваны чырвонай і сіняй фарбамі. Твор напісаны царкоўнаславянскай мовай. Тураўскае евангелле — адна з рэдкіх і дасканалых па сваім мастацкім узроўні кніг усходняга славянства[2].

У Полацку пры Сафійскім саборы існавала бібліятэка, у якой захоўваліся рукапісныя кнігі (загінула ў час Лівонскай вайны). Кнігі пісалі на пергаменце — спецыяльна выробленай тонкай скуры маладых жывёл. Рукапісы

---

[1] *Супрун А.Е.* Введение в славянскую филологию. Мн., 1989. С. 25—29; *Штыхаў Г.В.* Славянскае пісьменства ў Полацку // Матэрыялы Кірыла-Мяфодзіеўскіх навуковых чытанняў. Мн., 1998. С. 37—40.

[2] *Пуцко В.* Ілюмінацыя Тураўскага евангелля XI стагоддзя // Беларускі гістарычны агляд. Т. 5. Сш. 1(8). Чэрвень 1998. С. 98—102.

складалі ў сшыткі. Вокладкамі служылі дзве дошкі, а кніга мела выгляд скрынкі бальшых ці меншых памераў. Пераплёт каштоўных рукапісаў аздабляўся металічнымі ўпрыгожаннямі. На беларускія землі траплялі царкоўныя кнігі на старaславянскай мове, якія тут перапісваліся.

Да нас дайшлі тры старажытныя рукапісы XII—XIV стст. з сярэднявечнага Полацка. Гэтыя помнікі кніжнай культуры Беларусі эпохі сярэднявечча напісаны царкоўнаславянскай моваю на пергаменце. Больш старажытны рукапіс Полацкага евангелля створаны ў канцы XII ст. і належаў Траецкаму манастыру ў Полацку. Евангелле перапісана двума почыркамі ўставам у два слупкі на 172 лістах і аздоблена рознакаляровымі застаўкамі і кінаварнымі ініцыяламі. Захаваліся дзве застаўкі. Адна мае арнамент старавізантыйскага тыпу[1].

Аршанскае евангелле з'яўляецца поўным апракосам канца XII — пачатку XIII ст. Надзвычай прыгожы рукапіс аздоблены больш як 300 выкананымі ў "звярыным" стылі ініцыяламі, некалькімі застаўкамі і мініяцюрамі.

**Пісьменства па археалагічных помніках.** Пры навуковых даследаваннях былі знойдзены старажытныя надпісы, зробленыя на сценах пабудоў, іконках, крыжыках, пячатках і іншых прадметах. Найбольш характэрныя кірылаўскія надпісы.

Вельмі старажытным помнікам усходнеславянскай пісьменнасці з'яўляецца надпіс на полацкай пячатцы канца X ст. Вывучае пячаткі і гісторыю іх існавання сфрагістыка (назва ад грэчаскага слова "сфрагіс" — пячатка). У Візантыі былі распаўсюджаны так званыя віслыя пячаткі. Яны адціскаліся на пласцінках са свінцу, золата, срэбра ці воску і прывешваліся да дакументаў на шнурках.

У Ноўгарадзе Вялікім была знойдзена свінцовая віслая пячатка, якая належала полацкаму князю Ізяславу (памёр у 1001 г.). Відаць, полацкі князь накіраваў у Ноўгарад грамату, напісаную на пергаменце, да якой яна была прымацавана. На пячатцы княжацкі знак "трызубец" і надпіс "Изас/лав/ос", які кірылічнымі літарамі перадае грэчаскае гучанне імя Ізяслаў. У Ноўгарадзе знойдзена свінцовая пячатка Ефрасінні Полацкай з надпісам "Г/оспод/и помози рабе своей Ефросини нарецаемой".

У Тураве, Брэсце, Ваўкавыску выяўлены пячаткі з надпісамі тураўскага князя Ізяслава Яраславіча, пасля хрышчэння Дзмітрыя (з 1054 г. ён быў кіеўскім князем). Святы Дзмітрый Салунскі лічыўся заступнікам гэтага князя, таму выява святога і яго імя змешчаны на пячатцы. Свінцовыя віслыя пячаткі з надпісамі знойдзены ў Гомелі, Гродне, Віцебску, Пінску. На пячатцы Менскага замчышча змешчана выява св. Глеба ў высокай княжацкай шапцы. Ад віслых пячатак адрозніваюцца малымі памерамі старажытныя пломбы, кавалачкі свінцу з адбіткам пячаткі, якімі апламбоўваліся тыя ці іншыя прадметы. Шырока бытуе меркаванне, што пломбы прывешваліся да цюкоў з таварамі, якія вывозіліся на знешні рынак, што гарантавала іх захаванасць. На думку даследчыкаў, ва ўсходніх славян ужываліся "футравыя" грошы. Пломбы, што прывешваліся да вязкі футраў, надавалі ім значэнне грошай. Найбольш распаўсюджаныя пломбы "драгічынскага тыпу" ў вялікай колькасці выяўлены ў Драгічыне над Бугам. На тэрыторыі Беларусі такія пломбы знойдзены (больш за 20) у Віцебску, Тураве, Полацку, Брэсце. У Полацку ў пласце сярэдзіны XIII ст. знойдзена пломба з выявай святога Барыса ці Глеба, а на адваротным баку — расквітнеўшага крыжа. На пломбе з Віцебска захавалася імя "Пётр".

Надпіс XI ст. выяўлены ў полацкім Сафійскім саборы. На вялікім плоскім камяні ў падмурку выдрапаны імёны людзей, якія будавалі сабор: "Да-

[1]*Нікалаеў М.* Палата кнігапісная. Рукапісная кніга Беларусі ў X—XVIII стагоддзях Мн., 1993. С. 25.

Надпіс "полоцянина" на сцяне Сафійскага сабора ў Кіеве

выдь, Тоума, Микуола", а таксама "Петьрь, Воришь". Надпісы XII ст. ёсць на праслачках, амфарах. Яны даюць звесткі аб імёнах, лексіцы: "Бабино праслень" (Віцебск), "Ярополче вино" (Пінск), "Настасино праслен" (Пінск)[1].

У другім надпісе (графіці), надрапаным вострым прадметам на сцяне *Сафійскага сабора ў Кіеве,* — "*Воинегь писаль* Журяговиць полоцянинь" — вызначана месцажыхарства яе аўтара — Полацк. Асабліва цікавае тут напісанне слова "полоцянин" праз літару "ц", што сведчыць пра мясцовы дыялект, які існаваў у горадзе на Дзвіне.

Добра вядомыя помнікі эпіграфікі XII ст. у Беларусі — Барысавы камяні. На вялікіх валунах па загадзе полацкага князя Барыса (памёр у 1129 г.) былі выбіты крыжы і кароткія надпісы з яго імем. З яго ўзяў прыклад сын Рагвалод (у хрышчэнні Васіль). У 1171 г. ён загадаў высечы крыж і надпіс на велізарным камяні вышынёй у тры метры.

У Брэсце знойдзены грэбень з трывалага дрэва — самшыта, на якім паслядоўна размешчаны славянскія літары ад "а" да "л". Грэбень выконваў ролю "буквара" для навучання грамаце.

Выключным помнікам эпіграфікі выглядае доўгі надпіс на крыжы Ефрасінні Полацкай. У першай частцы надпісу гаворыцца, што ў 6669 (1161) г. Ефрасіння навечна падаравала крыж царкве Спаса. У другой частцы надпісу (малітва) запісаны праклён таму, хто знясе крыж са Спаскай царквы. На ніжняй пласціне адваротнага боку крыжа дробны надпіс з імем майстра Богшы (у хрышчэнні Лазара), які зрабіў гэты крыж на сродкі Ефрасінні[2].

Каштоўнымі эпіграфічнымі помнікамі з'яўляюцца графіці Спаскай царквы Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку. Найбольш цікавы запіс на сцяне паблізу алтара зроблены ў шырока распаўсюджаным жанры памінання, які дае падставу меркаваць аб працы ў Полацку мастака-багамаза Кузьмы[3].

У XI—XV стст. прыватныя лісты з паведамленнямі, даручэннямі, просьбамі адных асоб да другіх пісалі на бяросце. Берасцяныя граматы знойдзены пры раскопках гарадоў. Касцяной ці жалезнай палачкай-пісалам надрапвалі літары на тым баку бяросты, які прылягаў да дрэва.

Берасцяная грамата XI ст., якую напісаў Жыравіт, жыхар Полацка або Віцебска, знойдзена ў Вялікім Ноўгарадзе. Берасцяная грамата канца XIII ст. выяўлена ў Віцебску. Нейкі Сцяпан просіць Няжылу купіць яму "жыта за 6 грыўняў". На фрагменце берасцяной граматы пачатку XIII ст. з г. Мсціслава Магілёўскай вобласці гаворыцца пра пшаніцу на 4,5 грыўні. У тыя часы гэта была даволі вялікая грашовая сума. За яе можна было купіць дзевяць кабаноў або дзве каровы.

---

[1]Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. С. 172—173.

[2]Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны. Гісторыя крыжа Святой Еўфрасінні Полацкай. Мн., 1998. С. 177—179.

[3]*Тарасаў С.В.* З гісторыі полацкай эпіграфікі X—XV стст. // Кніжная культура Беларусі. Да 500-годдзя з дня нараджэння Ф.Скарыны. Мн., 1991. С. 121, 122.



Берасцяная грамата з Віцебска

Такім чынам, эпіграфіка пацвярджае, што пісьменнасць была распаўсюджана на беларускіх землях не толькі сярод прадстаўнікоў вышэйшага слоя насельніцтва, але і простых гараджан.

**"Полацкі летапіс" і звесткі В. Тацішчава.** У сваёй працы "Гісторыя Расійская" як у першай, так і ў другой яе рэдакцыях В. Тацішчаў пісаў аб "летописце Еропкина". Гаворка ідзе пра Полацкі летапіс, які належаў у пачатку XVIII ст. архітэктару Яропкіну, пакаранаму смерцю ў 1740 г. па справе Валынскага. Тацішчаў тройчы спасылаецца на гэту крыніцу. Неабходна ўлічваць перасцярогу даследчыкаў аб выкарыстанні "тацішчаўскіх звестак" строга крытычна. Аднак не даводзіцца сумнявацца, што Тацішчаў сапраўды трымаў у сваіх руках рукапіс, у якім шмат гаварылася пра Полацк і яго князёў. Затым рукапіс знік і яго далейшы лёс невядомы.

Паведамляючы аб падзеях у Полацку, гісторык пісаў у заўвагах, што "сие выписано из летописца Еропкина, который видно, что пополниван в Полацке, ибо в нем много о Полацких, Витебских и других литовских князях писано, токмо я не имел времени всего выписать, и потом его видеть не достал, слыша, что отдал списывать"[1].

Некаторыя з летапісаў, якімі карыстаўся Тацішчаў, не захаваліся і таму яго праца ў некаторых выпадках з'яўляецца крыніцай дадатковых звестак пра падзеі на тэрыторыі Беларусі. Тацішчавым вызначана дата паходу наўгародскага князя Уладзіміра Святаславіча на Полацк у 975—976 гг. (у летапісе — 980 г.). Паводле некаторых звестак, гэты паход быў выкліканы нападам Рагвалода на наўгародскія землі.

Тацішчаў цікава растлумачыў прычыну, па якой Усяслаў Полацкі ў 1068 г. пакінуў кіеўскае войска ў час паходу і вярнуўся ў Полацк. У "Гісторыі Расійскай" сцвярджаецца, што калі Усяслаў у якасці кіеўскага князя пачаў патрабаваць ад наўгародцаў даніну, яны адказалі яму: "Княже, мы есмя племени Ярославлю крест целовахом на его дети и внучати, а ты еси не от племяни Ярославля; и ко Полоцку дани отцы и дети не давали и тебе не хотим, а бери со своея волости". Ноўгарад, як і іншыя землі, бачыў у асобе Усяслава толькі полацкага князя і не прызнаваў за ім права быць вялікім князем кіеўскім, таму што ён належаў да іншай княжацкай дынастыі Рагвалодавічаў. Усяслаў сам гэта разумеў і не імкнуўся да кіеўскага прастола, на якім апынуўся выпадкова ў экстрэмальных умовах, і пры зручным моманце праз сем месяцаў ён вярнуўся ў Полацк.

Ёсць у Тацішчава памылковыя сцвярджэнні. Так, ён блытаў паміж сабой гарады, якія мелі назву "Новогородок" (у Верхнім Панямонні) і "Новгород" на Волхаве. Тацішчаў памыляўся, сцвярджаючы, што пад Ноўгарадам, пабудаваным у 1044 г. Яраславам Мудрым пасля паходу на Літву, трэба разумець Навагрудак. Сучасныя даследчыкі слушна лічаць, што размова ідзе аб узвядзенні

[1] *Татищев В.Н.* История Российская. Т. 3. С. 260—261 (примечание 597).

ўмацаванняў у Ноўгарадзе Вялікім. Зусім відавочная памылка Тацішчава, які сцвярджаў, што ў 1066 г. Усяслаў напаў не на Ноўгарад, а на Навагрудак.

В. Тацішчаў у сваёй асноўнай працы пад 1217 г. змясціў "Аповесць пра Святохну", узятую ім з Полацкага летапісу. Змест аповесці наступны. Полацкі князь Барыс Давыдавіч ажаніўся ў другі раз са Святохнай, дачкой памеранскага караля Казіміра. Яна прыняла праваслаўе, але скрытна працягвала захоўваць каталіцкія абрады. У Барыса быў ад Святохны сын Уладзімір (Войцех). Два другія яго сыны Васілька і Вячка паходзілі ад першай жонкі. Святохна ненавідзела пасынкаў і ўсяляк імкнулася пазбавіцца ад іх. Каб выдаліць іх з Полацка, Барыс даў ім ва ўдзел Дзвінскую воласць. Пры дапамозе Святохны ў Полацку ўсё больш і больш укараняліся іншаземцы-католікі ("памаране"). Супраць прышэльцаў вяла барацьбу група полацкіх баяр, якіх падтрымлівалі гараджане. Гэту барацьбу ўзначалілі тысяцкі Сімяон, пасаднік Воін і ключнік Дабрыня. У выніку каварных інтрыг Святохны іх забілі. Аднак хутка Святохна была выкрыта. Гараджане расправіліся з ненавісным яе акружэннем, а саму пасадзілі пад варту[1]. Адносна аўтэнтычнасці "Аповесці пра Святохну" выказваюцца розныя меркаванні. Верагодна, яна мае позняе паходжанне, аднак у аповесці прысутнічаюць пераасэнсаваныя моманты, якія адлюстроўвалі пэўныя падзеі больш ранняга часу.

**Полацк у "Слове пра паход Ігаравы".** Вяршыняй мастацкай сярэднявечнай літаратуры лічыцца вядомы ва ўсім свеце твор "Слова пра паход Ігаравы". У другой палове XII ст. адбыўся распад Старажытнай Русі на самастойныя княствы. Асноўнай думкай стваральніка "Слова..." з'яўляецца асуджэнне княжацкіх міжусобіц, якія аблягчалі напады стэпавых качэўнікаў — полаўцаў на Русь. Кожны з буйных князёў услаўляецца ў паэме як незалежны ў сваіх задумах і дзеяннях правіцель.

Урывак са "Слова..." пра міжусобіцы полацкіх князёў насычаны, як і ўвесь твор, паэтычнымі абагульненнямі і вобразамі. Тут ахоплены два перыяды гісторыі Полацкай зямлі: часы князя Усяслава Брачыславіча (сярэдзіна і другая палова XI ст.) і перыяд, калі ў ёй княжылі і не мірыліся паміж сабой і з іншымі князямі Русі яго ўнукі (XII ст.)[2].

Аўтар паэмы імкнуўся не столькі перадаць падзеі з жыцця князя Усяслава Полацкага, колькі стварыць яго вобраз. Рашучасць і энергія, з якой ён абараняў Полацкую зямлю, былі выключнымі. З паэтычным майстэрствам і вялікім смуткам апавядаў аўтар "Слова пра паход Ігаравы" аб бітве паміж войскам кіеўскіх князёў і дружынай полацкага князя (1067) у наступных радках:

"На Немизе снопы стелють головами,
молотять чепи харалужными,
на тоце животь кладуть
веють душу оть тела
Немизи кровави брезе
не бологомь бяхуть посеяни
посеяни костьми рускихь сыновь".

Як вынікае з гэтага твора, Усяслаў ішоў да Нямігі з Дудутак ("скачи влькомь до Немиги сь Дудутокь"). Выказваюцца розныя меркаванні пра месца іх знаходжання. Дудуткамі лічаць населены пункт каля Ноўгарада Вялікага, дзе быў вядомы манастыр, які называўся "на Дудутках". У "Слове пра паход Ігаравы" гаворка ідзе яшчэ пра полацкага князя Ізяслава Васількавіча, які гераічна загінуў у бітве з літоўскім атрадам. Аўтар папракае двух другіх полацкіх князёў, братоў Ізяслава, якія адсутнічалі на поле бітвы: "Не бысть ту брата Брячис-

---

[1]*Татищев В.Н.* История Российская. Т. 3. С. 201—204.
[2]Вечна жывое "Слова". Мн., 1989. С. 105.

лава, ни другаго — Всеволода". Гэта адно з нямногіх паведамленняў аб бітве полацкага князя супраць Літвы. Полацк і Літва часцей выступалі разам.

Па сваім змесце, мове і форме "Слова пра паход Ігаравы" — помнік, агульны для ўсіх усходніх славян. У ім змешчаны звесткі пра полацкіх князёў, з іх асабліва цікавыя пра Усяслава.

У тыя часы літаратура яшчэ не вылучылася ў асобны від мастацтва — яна ўключалася ў агульнае паняцце пісьменнасці. Жанры ў старажытнай літаратуры не былі дакладна размежаваны.

**Апавядальныя жанры фальклору.** Сярод апавядальных жанраў вуснай народнай творчасці багаццем і разнастайнасцю зместу вылучаюцца казкі. У казачным эпасе насельніцтва Беларусі ёсць чарадзейныя казкі пра асілкаў Іванку Прастачка, Івана Падвею, Івашку Мядзведжае Вушка, які нарадзіўся ад мядзведзя, Каці-гарошак (нарадзіўся ад гарохавага зерня), Кірылу Кажамяку, Іллю Мурамца. Яны валодаюць вялікай сілай, змагаюцца з антычалавечнымі істотамі (змеем і інш.), перамагаючы іх, выратоўваюць людзей. Іван Падвей, юнак-асілак, сын царскай дачкі, якая нарадзіла яго ад падвею (ветру). Валодае незвычайнай сілай, вялікім розумам і маладзецкай адвагай. Ён з'яўляецца падобным на быліннага героя-асілка. Асілак змагаецца са Змеем, Кашчам і інш.[1]

Беларускім казкам пра Іллю Мурамца ўласцівы сплаў былінных матываў з матывамі легенд і казак пра асілкаў. Ён змагаецца з Салаўём-разбойнікам і перамагае яго.

У X—XI стст. пачалі складвацца быліны кіеўскага цыкла пра абаронцаў Рускай зямлі асілкаў Іллю Мурамца, Дабрыню, князя Уладзіміра Краснае Сонейка і інш. Тэксты былін былі запісаны ў XVIII—XIX стст. ад народных выканаўцаў на Рускай Поўначы.

Гістарызм былін, як і гістарызм іншых фальклорных твораў, пазбаўлены канкрэтызацыі, дакладнага датавання, храналагічнай паслядоўнасці. Але некаторыя былінныя падзеі знайшлі адлюстраванне ў летапісах. Быліны бытавалі ў вузкім коле княжацкіх дружыннікаў і ў народнае асяроддзе трапілі значна пазней.

У некаторых усходнеславянскіх былінах даследчыкі адзначаюць гістарычны пласт, які лёг на старадаўняе ядро песні пра Волха, а адной з гістарычных асоб, звязаных з вобразам Волха, называюць Усяслава Полацкага. Былінны герой "Волх Усяславіч" у нейкай ступені адпавядае біяграфіі Усяслава Полацкага, што асабліва падкрэсліў расійскі даследчык Б. Рыбакоў. Быліна пра Волха пачынаецца з апавядання аб чарадзейным нараджэнні Волха Усяславіча ад князёўны і лютага змея. Вось як у быліне апісваецца нараджэння князя:

Па садзе, садзе зялёным
Хадзіла-гуляла маладая княгіня
Марфа Усяслаўна,
Яна з каменя скочыла на лютага змея —
Абвіўся той люты змей
Вакол чобата з зелен-саф'яну
Вакол панчошкі шаўковай,
Хобатам б'е па белым клубе.
А ў тую пару княгіня понас панесла,
А понас панесла і дзіця нарадзіла.
А і на небе ўзышоў светлы месяц,
А ў Кіеве нарадзіўся волат магутны,
Як бы малады Волх Усяславіч...

[1]Чарадзейныя казкі // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1987. Т. 5. С. 508; Іван Падвей // Эцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1985. Т. 2. С. 549.



"Барысаў камень" XII ст. у рэчышчы Заходняй Дзвіны

Тое, што месца нараджэння Усяслава ў быліне прыпісваецца Кіеву, з'яўляецца пазнейшай інтэрпрэтацыяй. Далей у быліне ёсць наступныя радкі:

Стаў сабе Волх ён дружыну прыбіраць:
Дружыну прыбіраў у тры гады,
Ён набіраў дружыну сабе сем тысяч,
Сам ён, Волх, у пятнаццаць гадоў
І ўся дружына яго па пятнаццаць гадоў.

Беларускі даследчык С. Тарасаў супаставіў Біблію, летапіс і быліну і прыйшоў да высновы, што Усяслаў Чарадзей нарадзіўся зімой 1028/29 г. І гэта, відавочна, адпавядае сапраўднасці. Наперадзе ў князя былі яшчэ 73 гады жыцця, напоўненага перамогамі і няўдачамі, узлётамі і падзеннямі[1].

Волх Усяславіч здольны абарочвацца шэрым воўкам. У час паходу з дружынай "дружына спіць, так Волх не спіць". Сокалам лятаў ён да сіняга мора, гнядым турам-залатыя рогі скакаў у паўднёвае царства, пераможанае ім не столькі сілай, колькі хітрасцю. У быліне ўхваляюцца лоўкасць і мудрасць яе галоўнага героя князя-пярэвараценя, вобраз якога знаходзіць адпаведнасць у князя-чараўніка старадаўніх летапісаў.

Да нас дайшло драматычнае паданне аб сватаўстве Уладзіміра да Рагнеды, якое было занесена ў летапісы. Мэта падання — растлумачыць, чаму з даўніх часоў, на працягу звыш стагоддзя "меч взимають Роговоложи внуки противу Ярославлим внуком", г.зн. ваююць паміж сабой полацкія і кіеўскія князі. У паданні гаворыцца аб сватаўстве Уладзіміра, тады наўгародскага князя, да полацкай князёўны Рагнеды. Сватаўство Уладзіміра, яго паход на Полацк, забойства полацкага князя Рагвалода, насілле над Рагнедай злучаны з паведамленнем летапісу аб вайне Уладзіміра са сваім братам па бацьку вялікім князем кіеўскім Яраполкам.

Адно паданне пад 980 г. змешчана ў "Аповесці аб мінулых часах" і яно аднолькавае ў Іпацьеўскім і Лаўрэнцьеўскім спісах. Але ў Лаўрэнцьеўскім спісе пасля кароткага паведамлення аб смерці полацкага князя Барыса Усяславіча ў 1128 г. (фактычна — 1129 г.) без усякай сувязі з папярэднімі паведамленнямі змешчаны расказ пра жаніцьбу Уладзіміра.

[1]*Тарасаў С.В.* Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. С. 17—18.

Аповед Лаўрэнцьеўскага летапісу мае сходныя месцы з радкамі "Аповесці аб мінулых часах". У некаторых выпадках назіраецца поўнае супадзенне тэкстаў. Аднак ёсць і адрозненне. Паданне 1128 г. значна паўней і жывей паведамлення "Аповесці...". Паводле падання 1128 г., Уладзімір быў яшчэ вельмі малады — "детску сущю". Кіруючая роля ў яго сватаўстве і ў паходзе на Полацк у адпаведнасці з фальклорнай традыцыяй належыць яго дзядзьку Дабрыню. У паданні падкрэсліваецца крыўда Уладзіміра зняважлівым водгукам Рагнеды. Паланіўшы полацкую сям'ю, Уладзімір згвалціў Рагнеду ў прысутнасці яе бацькоў. У "Аповесці аб мінулых часах" усе гэтыя месцы прапушчаны. Тут няма таксама сюжэта пра замах Рагнеды на Уладзіміра і ссылку яе з сынам Ізяславам у Ізяслаўль (сучаснае Заслаўе). Верагодна, аповед 1128 г. захоўвае першапачатковую версію. Запіс, змешчаны пад 980 г. у "Аповесці аб мінулых часах", — вынік перапрацоўкі пачатковага тэксту летапісцам. У аснове аповедаў ляжыць народнае паданне ці песня. У паведамленні Лаўрэнцьеўскага летапісу мацней адчуваецца народная традыцыя. У ім шмат прыкмет простай мовы, якая гучала да з'яўлення пісьмовых крыніц і захавалася ў помніках вуснага характару. Пісьмовы помнік не толькі выкарыстаў багаты фальклорны матэрыял, але ў значнай ступені ўспрыняў яго форму, моўныя традыцыі, паэтычны стыль.

Уводны сказ летапіснага апавядання 1128 г. "яко сказаша ведущии преж" сведчыць аб фальклорнай крыніцы. Пад "ведущими" звычайна разумеюцца зберагальнікі гераічных і гістарычных паданняў, а таксама спевакі і складальнікі песень.

Некаторыя даследчыкі называюць месцам узнікнення падання Ноўгарад ці Кіеў. Другія лічаць, што паданне аб жорсткіх адносінах Уладзіміра да Рагнеды-Гарыславы і аб тым, як хлопчык Ізяслаў з мячом у руках абараніў жыццё маці, склалася ў мясцовым полацкім асяроддзі[1], магчыма, нават у Мінску або Заслаўі[2].

Ёсць падставы сумнявацца ў дакладнасці паведамленняў некаторых крыніц, быццам сынам Рагнеды ад Уладзіміра акрамя Ізяслава быў Яраслаў і іншыя княжычы і князёўны (усяго чатыры сыны і дзве дачкі). Сенсацыйнай з'яўляецца думка, выказаная вучоным-медыявістам С. Анінскім, што "Ізяслаў, сын Рагнеды, не мог быць сынам Уладзіміра" і памылкова адносіць яго да дынастыі Рурыкавічаў[3]. Па загадзе Уладзіміра разам з Рагвалодам былі забіты два яго малалетнія сыны. У такой сітуацыі, паводле звычаёвага права, княжацкі род мог быць узноўлены праз князёўну, якая засталася ў жывых, што і адбылося ў Полацкай зямлі дзякуючы Рагнедзе Рагвалодаўне.

Існуе яшчэ адно паданне пра Рагнеду. Яно змешчана пад 988 г. у познім Цвярскім летапісе, варыянт ёсць у Густынскім спісе. У аповесці гаворыцца, што Уладзімір пасля прыняцця хрысціянства павінен быў растацца са сваімі былымі жонкамі і застацца з адной, якую ён узяў, будучы хрысціянінам.

Рагнедзе Уладзімір прапаноўваў выбраць мужам аднаго са сваіх вяльможаў. Адказ Рагнеды Уладзіміру гучыць таксама горда, як і ў мінулым: "быв царицею, не хачу раба быти земному цару, ни князю". Далей у летапісе гаворыцца, што яна прыняла манаства пад імем Анастасіі і пайшла ў манастыр. Гэты цікавы аповед, у якім праглядаюцца кніжныя выказванні і які змешчаны ў позніх летапісных зводах, у нейкіх сваіх частках — вынік выдумак саміх рускіх кніжнікаў. Але ён у характарыстыцы Рагнеды ўзгадняецца з вобразам полацкай князёўны і кіеўскай княгіні ў разгледжаных вышэй летапісных паданнях. Гэта дае падставу бачыць у ім водгукі была-

[1]*Рыбаков Б.А.* Древняя Русь. Сказания, былины, летописи. М., 1963. С. 64 (примечание 8).
[2]*Заяц Ю.А.* Заславль X—XVIII веков. С. 30.
[3]*Генрих Латвийский.* Хроника Ливонии. С. 250.

вання іншых паданняў, звязаных з Рагнедай і Уладзімірам. Ва ўсіх летапісных аповесцях Рагнеда паўстае гордай і непакорлівай, яе журботны лёс выклікае спачуванне.

Пра папулярнасць паданняў аб Рагнедзе на тэрыторыі Беларусі сведчаць назвы урочышчаў, якія звязваліся народнымі паданнямі з яе імем. Так, у наваколлі г. Заслаўя ўказваліся рэчкі Княгінька і Чарніца, якія быццам атрымалі назву ў гонар Рагнеды, існавала і возера Рогнедзь, якое потым высахла. Паводле мясцовых паданняў, засведчаных у Новы час, пастрыжэнне Рагнеды адбылося ў манастыры ў Ізяслаўлі (Заслаўе). Тут яна быццам памерла і пахавана на месцы манастыра. У Заслаўі гарадзішча Замэчак яшчэ да нядаўняга часу называлася "магілай Рагнеды"[1].

Пры шырокіх археалагічных даследаваннях у наш час рэшткаў манастыра і магілы Рагнеды не знойдзена. Можна меркаваць, што Ізяслаў забраў з сабой Рагнеду ў Полацк, дзе яна памерла ў 1000 г., а праз год памёр Ізяслаў.

Пра клопаты Ізяслава аб распаўсюджанні хрысціянскіх вераванняў і пісьменства сведчыць яго характарыстыка, змешчаная ў кампілятыўным Ніканаўскім летапісным зводзе XVI ст.: "Бысць же сей князь тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священический чин и иноческий, и прилежаще прочитанию божественных писаний и отвращался от суетных глумлений и слезен, и умилен, и долготерпелив". Ізяслаў сапраўды быў адукаваным чалавекам, што пацвярджае яго пячатка, знойдзеная ў Вялікім Ноўгарадзе.

## 6. Рэлігійна-асветніцкія дзеячы Беларусі

З прыняццем хрысціянства на нашай Бацькаўшчыне пачалася эпоха сапраўднага асветніцтва. Парываючы з язычніцтвам, людзі прымалі воднае хрышчэнне, будавалі храмы, вучыліся чытаць і пісаць. Да кніжнага навучання актыўна прыцягваліся дзеці. Летапісец паведамляе, што маці гэтых дзяцей плакалі аб іх як аб памерлых, таму што не ўсталяваліся ў веры[2]. Паступова грамадства асэнсоўвала неабходнасць асветы, адчуваючы на сабе дабратворны ўплыў духоўнай літаратуры. Следам за замежнымі філосафамі і святарамі постаці таленавітых летапісцаў і рэлігійных асветнікаў паўставалі з мясцовага насельніцтва. Побач з перапісчыкамі і распаўсюджвальнікамі кніг працавалі пісьменнікі. Імёны большасці асветнікаў не захаваліся ў народнай памяці і вялікая колькасць таленавітых твораў не дайшла да нас. Але нават тое нямногае, што збераглося, дапамагае скласці ўяўленне аб асілках думкі і духу той далёкай эпохі.

**Ефрасіння Полацкая.** Сярод жанчын-асветніц Ефрасіння (Еўфрасіння) Полацкая з'яўляецца найбольш яркай постаццю. Аднак жыццё і дзейнасць гэтай падзвіжніцы кніжнай справы на Беларусі, фундатаркі і педагога немагчыма апісаць грунтоўна з-за адсутнасці дакументальных крыніц. Пра яе жыццё і дабрачыннасць распавядае толькі адна аповесць: "Жыціе і смерць святой і блажэннай і найпадобнейшай Ефрасінні, ігуменні манастыра Святога Спаса і Найсвяцейшай Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку". Гэты агіяграфічны твор, часам перанасычаны "біяграфічнымі гіпотэзамі", значна большую ўвагу надае перадачы ўнутранага стану персанажа пры поўнай упэўненасці, што чалавек павінен быў паводзіць сябе толькі належным чынам. Таму на падставе "Жыція..." цяжка падаць рэальную біяграфію Ефрасінні.

[1]Россия. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб., 1905. С. 516—517.
[2]ПСРЛ. Т. 1. С. 118—119.

У дзяцінстве яна мела імя Прадслава і, як лічаць даследчыкі, паходзіла з княжацкага роду. Яе дзедам быў полацкі князь Усяслаў Брачыславіч, а бацькам — малодшы з сямі яго сыноў Святаслаў-Георгій. Бяздоказнай, хоць і прыгожай з'яўляецца гіпотэза, што маці паходзіла з сям'і, якая была ў сваяцтве з домам візантыйскіх імператараў Комнінаў. Год нараджэння Прадславы дакладна не ўстаноўлены, а прыблізна акрэсліваецца 1101—1105 гг. Пра дзяцінства Прадславы ў "Жыціі..." сказана вельмі мала, але паведамляецца, што "была дзяўчына вельмі здольная да кніжнай навукі, нават не дасягнуўшы яшчэ паўналецця, і было гэта плёнам малітвы. Так любіла вучэнне яна, што дзівіўся бацька яе з любові такой да навук. І па ўсіх гарадах разышлася слава пра яе мудрасць, і добрыя здольнасці да навук, і красу цялесную, бо была яна прыгожа надта абліччам"[1].

Прывабныя рысы, душэўная чысціня дзяўчыны рана выклікалі цікавасць да яе, і Прадславу сталі наведваць шматлікія сваты, каб парадніцца з вядомым полацкім княжацкім домам. Бацька Прадславы меў намер умацаваць сваё палітычнае становішча дынастычным шлюбам дачкі з сынам уплывовага князя, які вылучаўся сярод іншых сваім княжаннем і багаццем. Аднак Святаслава-Георгія чакала роспач: пад уздзеяннем духоўнай літаратуры дачка ўжо вырашыла прысвяціць сябе служэнню людзям і Хрысту. Яшчэ зусім маладая Прадслава разважала: "Што ж зрабілі нашы роды, якія былі да нас? Жаніліся і выходзілі замуж, і княжылі, але не вечна жылі; жыццё іх міма праляцела і загінула іх слава, быццам прах і горш за павуцінне. Затое жанчыны, якія жылі раней, і, узяўшы мужчынскую моц, пайшлі следам за сваім Жаніхом і целы свае аддалі на пакуты, і склалі галовы пад меч, а іншыя хоць і не схілілі шыі свае пад жалеза, але духоўным мячом адсеклі ад сябе плоцкія асалоды, аддаўшы цела свае на пост і надбанне і каленныя пакланенні, і зямельныя ляжанні, — тыя памятныя на зямлі, іх імёны напісаны на нябёсах, і яны там з анёламі Бога ўслаўляюць. А слава гэтая — пыл і попел, быццам дым разыходзіцца і нібы пара водная гіне". Аднойчы князёўна пакідае бацькоўскі палац і ідзе ў манастыр. Даведаўшыся пра гэта, бацька рваў на галаве валасы, а маці плакала, як па нябожчыцы. Ды і ігуменне манастыра родная цётка Ефрасінні, жонка Рамана Усяславіча, спрабавала адгаварыць Прадславу: "Яшчэ ж маладая ты векам, каб вынесці цяжар манаскага жыцця; як зможаш пакінуць княжанне і славу гэтага свету?!" Аднак не па гадах цвёрдая ў сваіх перакананнях Прадслава яшчэ больш настойвае на сваім рашэнні і нарэшце дабіваецца прыняцця ў манастыр, нарачоная цудоўным імем Ефрасіння (па-грэчаску — радасць).

Трэба адзначыць, што манастыры ў XI—XII стст. на землях Беларусі адыгрывалі важную ролю ў збіранні інтэлектуальнага патэнцыялу грамадства. Яны з'яўляліся цэнтрамі духоўнага жыцця. Тут падзвіжнікі спасцігалі навуку, набывалі мастацкі густ, а галоўнае, вучыліся хрысціянскай дабрачыннасці. Маладыя таленавітыя людзі маглі раскрыць свае здольнасці літаратара, мастака, кампазітара. Манахі не парывалі духоўных сувязяў са знешнім светам, а шчодра дзяліліся з насельніцтвам набытымі ў манастыры ведамі. Ефрасіння, каб служыць свайму народу, самаахвярна ўключылася ў вучэбны працэс і яшчэ больш руплівай стала, "збіраючы дабрачынныя думкі ў сэрцы сваім, як пчала мёд у соты".

Праз некаторы час, прыкладна каля 1120 г., Ефрасіння, адчуваючы пасіўнасць свайго служэння і схільная да большага падзвіжніцтва, атрымлівае дазвол епіскапа Іллі і засяляецца ў келлі, прыбудаванай да сцяны полацкага Сафійскага сабора. Пры саборнай бібліятэцы Ефрасіння пачала перапіс-

[1]Кніга жыцій і хаджэнняў. С. 43—44.

ваць кнігі, а грошы ад іх продажу аддавала бедным людзям. Можна лічыць, што была створана майстэрня-скрыпторый, дзе працавалі апантаныя высокай ідэяй людзі: перапісчыкі, пераплётчыкі, мініяцюрысты і іншыя, адным словам — майстры кніжнай справы, галоўным клопатам якіх былі не фінансавыя прыбыткі, а імкненне данесці да людскіх сэрцаў хрысціянскае слова. Верагодна, Ефрасіння не толькі займалася перапіскай кніг, але і сама пісала літаратурныя творы, якія не захаваліся. Існуе паданне, што яна мела дачыненне да стварэння летапісу Полацкага княства, які да нас не дайшоў.

У канцы 20-х гадоў XII ст. яна заснавала жаночы манастыр пры Спаскай царкве ў мястэчку Сяльцо непадалёку ад Полацка. Пры падтрымцы епіскапа, які ў прысутнасці сведак — Святаслава-Георгія і яго старэйшага брата Барыса Усяславіча — аддае Ефрасінні патрэбны ўчастак і прароцкі абвяшчае: "працай тваёй узвялічыцца гэтае месца". Манастыр святога Спаса хутка набыў шырокую вядомасць. Па просьбе Ефрасінні бацька адпусціў у манастыр яе малодшую сястру Градзіславу (у манастве Еўдакію) для навучання грамаце. Прыкладна ў 1129 г. у манастыр прыходзіць і стрыечная сястра Звеніслава (у манастве Еўпраксія), ахвяруючы яму залатыя рэчы і шматкаштоўныя рызы. Сваю вялікую справу Ефрасіння распачала не маючы нічога, акрамя хлеба і кніг, аднак неўзабаве ахвяраванні манастыру ўзраслі і гэта дало магчымасць пачаць будаўніцтва новай царквы святога Спаса. Работы ўзначаліў дойлід Іаан. Будаўніцтва прайшло ў сціслы тэрмін — усяго за 30 тыдняў. Царква з'яўляецца дасканалым узорам полацкай архітэктурнай школы. Асветніцтва спрыяла ўпрыгожванню храма унікальнымі фрэскавымі размалёўкамі. Пазней яна падаравала Спаскай царкве дарагі крыж, выкананы па асабістым заказе і эскізам Ефрасінні майстрам-ювелірам Лазарам Богшам у 1161 г., аб чым гаварылася вышэй. Гэты унікальны помнік беларускай матэрыяльнай культуры бясследна знік у 40-я гады XX ст., але дзякуючы падрабязным апісанням у 1992—1997 гг. ён быў аўтэнтычна адноўлены майстрам-эмальерам з Брэста Мікалаем Кузьмічом[1]. Разам з тым не спыняюцца пошукі арыгінала славутага крыжа.

Па ініцыятыве Ефрасінні каля 1150 г. непадалёку ад Полацка пачалося будаўніцтва царквы Багародзіцы, пры якой быў заснаваны мужчынскі манастыр. Для гэтай царквы Ефрасіння вырашыла набыць абраз Багародзіцы Адзігітрыі Эфескай, напісаны, як лічаць, евангелістам Лукой. З гэтай мэтай Ефрасіння пасылае свайго слугу Міхаіла з багатымі дарамі ў Канстанцінопаль да імператара Мануіла I Комніна і патрыярха Лукі Хрысоверга. Але для Полацка быў перададзены не арыгінал жаданага абраза, а копія Царградскага абраза Багародзіцы Адзігітрыі[2]. Аўтар "Жыція ...", не ведаючы пра дэталі, звязаныя з падарункам, распавядае, як пад аховай 700 воінаў рэліквія была дастаўлена з Эфеса ў Канстанцінопаль і ўрачыста перададзена Міхаілу, які прывёз яе ў Полацк. У 1239 г. у Таропцы пад гэтым абразом вянчаўся Аляксандр Неўскі з дачкою полацкага князя Брачыслава. Назад у Полацк абраз Багародзіцы ўжо не вярнуўся.

Разнастайная дзейнасць Ефрасінні ўражвае багаццем ініцыятыў і паслядоўнасцю іх рэалізацыі ў жыццё. Але найбольшую ўвагу асветніца надавала духоўнаму самаўдасканаленню і вучыла добраму і вечнаму сваіх слухачоў і вучняў. Кожны дзень яна павучала манашак цярплівасці і душэўнай чысціні, павазе да старэйшых, любові да тых, хто побач. Яна рыхтавала іх да магчымых у будучым жорсткіх выпрабаванняў у адвечнай барацьбе Дабра і Зла. "Вось я сабрала вас, нібы квактуха птушанятаў, пад крылы свае і на пашы, быццам авечак, каб вы пасвіліся ў запаведзях Божых. І я з вясёлым сэрцам

[1]Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны. Мн., 1998. С. 205—232.
[2]*Арлоў У.А.* Еўфрасіння Полацкая. Мн., 1992. С. 39.



Найпадобная Ефрасіння Полацкая

стараюся вучыць вас, бачачы плён вашай працы, і гэтакі дождж праліваю да вас вучэннем. А нівы вашы ў той жа меры стаяць, не ўзрастаючы, не ўзыходзячы ўгору". З палымянымі словамі Ефрасіння звярталася да людзей не толькі ў манастыры, але і за яго сценамі. Яна выступала з міратворчымі пропаведзямі перад усімі, хто імкнуўся паслухаць яе парады, знайсці дапамогу і заступніцтва. "Была яна памочніца пакрыўджаным, зажураным суцяшэннем, распранутым адзеннем, хворым наведваннем ці, проста кажучы, — для ўсіх была ўсім. Ефрасіння сэрца сваё ўспойвала Божаю мудрасцю. Ефрасіння — незвядальная кветка райскага саду; арол, што, лунаючы ў небе, праляцеў ад захаду да ўсходу, як прамень сонечны, прасвятліўшы зямлю Полацкую", — вось сціслая характарыстыка агіёграфа, якую ён занатаваў у "Жыціі..." хрысціянкі-асветніцы. "Яна не хацела бачыць, каб хто варагаваў: ні князь з князем, ні баярын з баярынам, ні з простых хто са сваім сябрам, але ўсіх жадала бачыць адзінадушнымі".

На схіле дзён Ефрасіння адважылася на духоўны ўчынак. У сярэдзіне зімы 1167 г. яна разам з малодшым братам Давыдам, стрыечнай сястрой Еўпраксіяй і іншымі спадарожнікамі накіравалася ў Святую зямлю[1]. Пасля непрацяглага наведання Канстанцінопаля Ефрасіння нарэшце дасягае мэты свайго падарожжа. Аслабелая жанчына цяжка захварэла і 23(24) мая 1167 г. памерла. У літаратуры смерць Ефрасінні датуецца 1173 г., што вымагае далейшых даследаванняў. Цела памерлай Давід і Еўпраксія з адпаведнымі ўшанаваннямі паклалі ў Феадосіевым манастыры непадалёку ад Іерусаліма. Пасля заваявання Палесціны Салах-ад-Дзінам у 1187 г. рэшткі цела (мошчы) Ефрасінні былі вывезены і змешчаны ў дальніх пячэрах Кіева-Пячэрскай лаўры. І толькі ў 1910 г. цела асветніцы вярнулася з трыумфам на радзіму ў Полацк.

Здаецца, звычайная жанчына-палачанка, а які яркі след пакінула ў гісторыі і памяці беларускага народа! Ефрасіння разумна распарадзілася сваім жыццём і поўнасцю аддала яго на служэнне Богу і людзям. У гэтай высакароднай жанчыне спалучаліся і палітычная дальнабачнасць, і невычарпальная душэўная энергія, супакаенне і пылкасць, і разважлівасць, і шчырая вера, але перш за ўсё — любоў.

Дзякуючы дзейнасці Ефрасінні полацкая Сафія стала важным цэнтрам духоўнай культуры Беларусі, а сабраная асветніцай бібліятэка дала магчымасць атрымаць добрую адукацыю многім пакаленням палачан і далучыцца да духоўных скарбаў чалавецтва.

**Кірыл Тураўскі.** Ён вылучаўся сярод асветнікаў-мужчын. Сваёй літаратурнай дзейнасцю заваяваў такі высокі аўтарытэт у сучаснікаў, што яго на-

[1] *Мельников А.А.* Путь непечален: Исторические свидетельства о святости Белой Руси. С. 35.

зывалі Златавустам XII ст. Кірыл (Кірыла) Тураўскі нарадзіўся каля 1130 г. у Тураве, у багатай сям'і, але з юнацкіх гадоў не меў прагі ні да багацця, ні да славы, а прагнуў ведаў. Асабліва імкнуўся Кірыл да глыбокага вывучэння біблейных кніг. З вялікай ахвотай ён вывучаў таксама грэчаскую мову, сусветную гісторыю, рыторыку. Але для больш глыбокага разумення духоўнай літаратуры патрэбна было ўвесь свой час прысвяціць навуцы, што ў XII ст. было рэальным толькі ў манастырскіх сценах. І Кірыл без вагання ідзе ў манастыр. Аўтар "Жыція ..." падкрэслівае, што юнак больш за іншых працаваў для Бога. Аднак, відаць, і ў манастыры было немагчыма цалкам аддаць сябе любімым заняткам з-за непазбежных спакус сярод людзей. Кірыл пакідае манастыр, каб, зачыніўшыся ў вежы (стаўпе), у адзіноце працягваць даследаванні Пісання і займацца самаўдасканаленнем[1].

Знаходжанне ў стаўпе фактычна не было самаізаляцыяй, як, напрыклад, у пячэрах. Чалавек фізічна і духоўна ўзвышаўся над штодзённай мітуснёй, яго ўчынкі і лад жыцця станавіліся бачнымі для людзей у наваколлі. Стоўп не столькі адрываў ад зямлі і набліжаў да неба, колькі з верхняга яруса адкрываў цудоўныя далягляды на краявіды Палесся, якія кранальі сэрца Кірыла і поўныя паэтыкі словы выліваліся на старонкі яго літаратурных твораў. Нібы з мінарэта, падзвіжнік нагадваў жыхарам Турава, што не адзіным хлебам жыве чалавек. Асветнік прапаведваў вышэйшую мудрасць, заклікаў людзей слухаць пропаведзі, знаходзіць час для малітвы.

У асобе асветніка вельмі прыцягальная і такая рыса характару, як тое, што ён не дамагаўся высокіх царкоўных пасад. Але аўтарытэт Кірыла быў настолькі вялікі, што ён "маленнем князя і людзей таго горада ўзведзены быў на епіскапскую пасаду і мітрапалітам пастаўлены быў епіскапам горада Турава"[2]. На пасадзе епіскапа (грэч. — наглядчык) Кірыл, як паведамляе агіёграф, умела кіруе епархіяй, клапоціцца аб царкоўным добраўпарадкаванні, наглядае за гарадскімі манастырамі, змагаецца з язычніцкімі перажыткамі і забабонамі. Пераканаы ў тым, што землякам значна больш цікавая такая літаратура, як Астраномія (астралогія), Заралік, Соннік, Валхоўнік, Зёльнік, Птушыныя чары, Каляднік, Грымотнік, Кніга Жэрабяў і іншыя, епіскап Кірыл заклікае прыхаджан чытаць у храме і дома Евангеллі, Дзеі Апостальскія, Кнігу Псалмаў і іншыя святыя кнігі, для разумення якіх патрэбна сэрца "негняўлівае, няп'янственнае, неганарыстае".

Кірыл прапаведуе аскетызм і папярэджвае, што хрысціяне павінны святкаваць не ў п'янстве з абжорствам, не з ігрышчамі, а мілуючы сірот і бедных, дапамагаючы слабым і нямоглым. Ён папярэджвае: "Гора будзе ўсім тым, хто не трымаўся кніжнай мудрасці і наказаў духоўных бацькоў; гора тым, хто пад гульні і скокі апіваўся вінам; гора будзе жалейнікам і гора тым, хто іх слухаў, бо што ўзвялічвае д'ябла — губіць усіх хрысціян". Епіскап просіць рэгулярна наведваць храм. Ён папракае землякоў, якія не жадаюць хадзіць у царкву: "Калі б я раздаваў у царкве медавуху альбо піва, — як жа хутка ішлі б вы сюды, апярэджваючы адзін аднаго; а я ж прамаўляю ў царкве слова Божае, лепшае за піва і медавуху".

Ёсць думка, што Кірыл надаваў вялікую ўвагу пабудове храмаў у Тураўскай епархіі. Магчыма, што па яго ініцыятыве быў пабудаваны і храм, які выяўлены падчас археалагічных раскопак на гарадзішчы ў 1962—1963 гг.[2]

Хоць звычайна епіскапы назначаюцца пажыццёва, але людская абыякавасць і магчымыя інтрыгі царкоўнікаў прывялі да таго, што Кірыл пакінуў пасаду задоўга да сваёй смерці. Цяжка вызначыць, у якім годзе Кірыл адмо-

[1]*Пономарев А.И.* Св. Кирилл, епископ Туровский и его поучения // Памятники древнерусской церковно-учительной литературы. Вып. 1. СПб., 1894. С. 96.

[2]*Каргёр М.К.* Новый памятник зодчества XII века в Турове // КСИА. 1965. Вып. 100.


Епіскап Кірыл Тураўскі

віўся ад пасады епіскапа і надалей заставаўся простым манахам. Вядома, што пры пастаўленні ігуменам Кіеўскай Лаўры Васілія ў 1182 г. прысутнічаў ужо пераемнік Кірыла на тураўскай кафедры — епіскап Лаўрэнцій. Некаторыя лічаць, што пасада тураўскага епіскапа стала вакантнай у сувязі са смерцю Кірыла. Аднак захаваліся два лісты да Васілія, з якім у Кірыла даволі доўга працягваліся добрыя адносіны. Калі будзе даказана аўтэнтычнасць лістоў, то належыць прызнаць, што Кірыл быў жывы нават у 1190-х гадах. Ён аддаліўся, верагодна, у Барысаглебскі манастыр і працягваў сваю літаратурную і асветніцкую дзейнасць.

Нельга не адзначыць пазіцыю Кірыла Тураўскага ў праве суздальскага ігумена Феодара — фаварыта князя Андрэя Багалюбскага. Князь меў намер заснаваць сваю мітраполію, бо не лічыў заганай умяшанне свецкай улады ў царкоўныя справы, нават у тыя, што былі ў юрысдыкцыі вярхоўнага духавенства. У 1155 і 1164 гг. ён разам з Феодарам устанаўлівае новыя святы, у 1158 г. праганяе з кафедры растоўскага епіскапа Нестара і ставіць на яго месца грэка Лявонція, але неўзабаве праганяе і таго. Вядома, што канстанцінопальскі патрыярх Лука абараняў епіскапа Лявонція і нават выказваў пагрозы адлучыць князя Андрэя і Феодара ад царквы. З 1162 г. у Паўночнай Русі фактычна адначасова былі два епіскапы: Лявонцій ва Уладзіміры і Нестар у Растове. Аднак Андрэй Багалюбскі пасылае ў Візантыю пасольства з прашэннем, каб паставіць ва Уладзімір мітрапаліта. Яго кандыдатура — Феодар — энергічны, адукаваны, але разам з тым славалюбны і дзёрзкі. Пазней ён падтрымаў і царкоўную смуту, што была звязана з дзейнасцю кіева-пячэрскага ігумена Палікарпа. Нягледзячы на тое што Феодар катэгарычна адмаўляўся развесціся з жонкай і стаць манахам, ён у 1168 г. паехаў у Канстанцінопаль і атрымаў пасаду растоўскага архіепіскапа. Хаця шлюб для епіскапаў быў забаронены Правілам 48 Трульскага Сабору, у Візантыі існавала практыка ўзвядзення на гэты сан і жанатых. Прытым трэба мець на ўвазе, што тытул "архіепіскап" быў двухсэнсоўным. У грэкаў меліся вышэйшыя і ніжэйшыя ў адносінах да мітрапаліта архіепіскапы. Ніжэйшыя часова падпарадкоўваліся патрыярху, мінуючы мітрапаліцкую інстанцыю, а некаторыя нават былі незалежнымі ад патрыяршай улады і з'яўляліся фактычна аўтакефальнымі. Феодар стаў лічыць сваю кафедру аўтакефальнай.

Зразумела, што яго адразу ж празвалі ерэтыкам Фядорцам, забаранілі дзейнасць як архіепіскапа, а мітрапаліт Канстанцін II аб'явіў анафему. Праклаў Фядорца і Кірыл Тураўскі. Шкада, што і Фядорац пачаў помсціць праціўнікам за зняважу. Ён зачыніў усе цэрквы ва Уладзіміры, і "не было звону і спеваў па ўсім горадзе". Але яшчэ горш, што ён здзекаваўся над людзьмі "головы порезывая и бороды, иным же очи выжигая и язык урезая, а иные распиная по стене и муча немилостиве". 8 мая 1169 г. яго арыштоўваюць і пры-

возяць у Кіеў на мітрапаліцкі суд. Феодара абвінавацілі ў адмаўленні манаства і пастоў, у знявазе святых угоднікаў і Багародзіцы. Верагодна, з абвінаваўчай прамоваю на саборы выступаў Кірыл Тураўскі. Пасля таго як Фядорца адлучылі ад царквы, ён трапіў пад суд князёў, якія імкнуліся адпомсціць князю Андрэю Багалюбскаму. Пакаранне яго фаварыта было жорсткім: прыгаварылі адрэзаць яму язык, як злодзею і ерэтыку, адсекчы правую руку і вырваць вочы за тое, што гаварыў злыя словы на Багародзіцу, і, нарэшце, адсеклі галаву. Напісаныя Фядорцам кнігі былі публічна спалены. Кірыл Тураўскі аказаўся сярод тых, хто вельмі рашуча распраўляўся з апанентамі і супернікамі і праклінаў іх, хоць праклёны забаронены Хрыстом.

Адносіны Кірыла Тураўскага да князя Андрэя Багалюбскага не заўсёды былі роўнымі. Іх знаёмства адбылося ў 1150 г., калі непрацяглы час Андрэй кіраваў Тураўскім княствам. Неадназначна асветнік успрымаў спробы Андрэя перанесці палітычны цэнтр Русі ва Уладзімір. Выступаючы за развіццё далейшых сувязяў з Візантыяй, Кірыл наўрад ці быў прыхільнікам незалежнасці рускай мітраполіі, а тым больш не хацеў ён падтрымаць фаварыта Андрэя — Феодара, пастаўленага не мітрапалітам, а ў абход яго — канстанцінопальскім патрыярхам. Напэўна, Кірылу імпанавала імкненне Андрэя падтрымліваць добрыя адносіны з Туравам, адводзячы яму важную ролю ў сваіх задумках. Магчыма, Кірыл у лістах асуджаў такія ўчынкі князя Андрэя, як выгнанне епіскапаў Нестара і Лявонція, спрабаваў пераканаць яго і Феодара ў неабходнасці манаства для епіскапа, крытыкаваў за славалюбства і неразумную палітыку, патуранне ерэтычнай дзейнасці свайго фаварыта.

Абвінавачванні Андрэя і Феодара таленавіта пададзены ў "Прытчы аб сляпым і кульгавым", якая з'яўляецца адным з самых бліскучых сатырычных памфлетаў часоў Кіеўскай Русі[1].

Кірыл Тураўскі як асоба і асветнік больш ярка паўстае перад намі ў сваіх творах, частка якіх дайшла да нас. Даследчыкі налічваюць больш за 60 (каля 68) літаратурных твораў розных жанраў, малітвы, словы і інш.[2] Несумненна, яны адносяцца да выдатных помнікаў літаратуры XII ст. беларускіх зямель. На працягу многіх вякоў яны чыталіся і перапісваліся, а са з'яўленнем кнігадрукавання неаднаразова публікаваліся. Яны і сёння не страцілі сваёй актуальнасці, таму што Кірыл Тураўскі — асветнік на ўсе вякі. Самае віднае месца займаюць малітвы, якіх вядома не менш 30. Аўтэнтычнымі прызнаюцца 20 "слоў"-пропаведзяў, прачытаных асветнікам у храме перад народам. Аднак не дайшлі да нас, хоць згадваюцца ў крыніцах, лісты да князя Андрэя Багалюбскага, трактаты з выкрываннем ерасі Фядорца, вялікі канон, некаторыя "словы" і "пахвалы" і іншыя творы.

Калі ўважліва прачытаць творы Кірыла Тураўскага, можна заўважыць, што яны пісаліся пад уплывам Біблії і візантыйскай культуры, хоць іх часам цяжка размежаваць. Аднак візантыйскі элемент прынёс з сабой не глыбокія ідэі і паэтычныя пачуцці, а аднабаковы погляд на чалавека і празаічную халоднасць да прыроды.

Сярод прадстаўнікоў візантыйскага красамоўства, пад уплывам якіх знаходзіўся Кірыл Тураўскі, называюць Іаана Златавуста і яго паслядоўнікаў, Прокла Канстанцінопальскага, Ціта Вострскага, Эпіфанія Кіпрскага, Яўлогія і Кірыла Александрыйскіх, Сімяона Лагафета і іншых выдатных дзеячаў ранняга хрысціянства. Але беларускі асветнік пераймаў ад іх не столькі слова, колькі літаратурныя прыёмы. Найбольш пашыраным у старажытных творах хрысціянскага мастацтва быў сімвалізм, а алегорыя стала адной з любімых форм. Кірыл Тураўскі з'яўляецца ў пэўным сэнсе слова

[1] *Лимонов Ю.А.* Владимиро-Суздальская Русь. Л., 1987. С. 60.
[2] *Мельнікаў А.А.* Кірыл, епіскап Тураўскі. Мн., 1997. С. 252—252.

прадстаўніком візантыйскага ўплыву на нашу раннехрысціянскую славеснасць[1]. Біблейскі ўплыў выяўляецца амаль ва ўсіх творах асветніка, але больш знешнім чынам, чым унутраным. Часта павучэнні складаюцца з простага пераказу евангельскіх тэкстаў з некаторымі дапаўненнямі і тлумачэннямі. Іншы раз тэксты зводзяцца ў адзін і звязваюцца ўласнымі словамі аўтара або ўзбагачаюцца звесткамі з іншых крыніц. Добрае веданне Свяшчэннага Пісання дазваляла з лёгкасцю выказваць думкі словамі, запазычанымі з розных месцаў Бібліі, і трапна падаваць чытачу або слухачу. Важна адзначыць, што Кірыл Тураўскі ўсведамляў перавагу Новага запавету над Старым, высока цаніў перспектыву жыватворнага вучэння Хрыста для чалавецтва; а гэта нават сёння некаторым законнікам бывае недаступным.

Вялікую ўвагу асветнік надаваў малітве. Некаторыя малітвы Кірыл запісваў і, такім чынам, мы можам даведацца, якія праблемы яго хвалявалі. Малітва – духоўная мова ўсіх людзей на Зямлі[2]. Большасць малітваў Кірыла Тураўскага звернута да Святой Тройцы. Пад уплывам візантыйскай і заходняй традыцыі некаторыя малітвы Кірыла звернуты да святых угоднікаў і біблейскіх персанажаў. Пропаведзі (гаміліі) Кірыла Тураўскага падзяляюць на два віды: урачыстыя і павучальныя (дыдактычныя). Першыя рыхталіся звычайна на вялікія святы. Асветнік разумеў, што для ўпрыгожання галоўных хрысціянскіх свят патрэбна слова вялікага настаўніка і мудрага "сказателя", а сябе прызнаваў "убогім словам і мутным розумам".

Трэба адзначыць, што Кірыл смела і адвольна, але заўсёды лагічна, уносіў у пропаведзь арыгінальныя звесткі, якіх няма ў кананічных Евангеллях, бо яны пададзены іншым чынам. Напрыклад, надпіс на крыжы, зроблены Пілатам, ён падаў: "Се есть Сын Божий и царь Израилев", хоць першай паловы надпісу не пацвярджае ні адзін з чатырох евангелістаў, ды і царом Іудзейскім быў названы Хрыстос.

Спасылаючыся на Матфея і Марка (у сучасным Сінадальным выданні Бібліі гэтага няма), Кірыл Тураўскі паведамляў, што жанчыны-міраносіцы ўпершыню прыйшлі да гроба ўжо ў суботу вечарам і не знайшлі цела Хрыстова. Няўжо наш асветнік карыстаўся ў XII ст. крыху іншымі тэкстамі Евангелляў? Хрысціяне перакананы, што Хрыстос уваскрэс на світанку першага дня тыдня, гэта значыць перад узыходам сонца ў нядзелю. Ёсць патрэба звярнуцца да Тураўскага Евангелля.

Вялікім гуманістам паўстае перад намі Кірыл Тураўскі, калі мы паглыбляемся ў словы "Аб паралізаваным". Ён укладвае ў вусны чалавека, што хварэў 38 гадоў, аповесць аб яго гаротным стане і невытлумачальнай абыякавасці людзей, якія знаходзіліся побач. Нават сваякі ад яго адвярнуліся, знаёмыя саромеліся яго. На працягу многіх гадоў ніхто не дапамог яму своечасова апусціцца ў купальню. Аднак як жорстка накінуліся на яго законнікі, калі бядак, аздароўлены Хрыстом, нёс сваю пасцель у суботні дзень! Яны рашуча патрабавалі, каб быў выдадзены на расправу Той, Хто парушыў суботу, дараваўшы імкненне да выздараўлення цяжка хвораму чалавеку. Сімпатыі асветніка цалкам на баку няшчасных. Ён параўноўвае купальню Віфезда з месцамі хрышчэння вернікаў, але падкрэслівае значную перавагу апошніх, таму што Дух Святы асвячае іх і дае ачышчэнне грахоў, здароўе целу і душы. "Калі хто сляпы розумам, або кульгавы бязвер'ем, або ахоплены адчаем беззаконня, ці расслаблены ерэтычным вучэннем – усіх вада хрышчэння робіць здаровымі. Аднак не толькі паралізаванаму, але і нам гаворыць Ісус: не грашы, каб не стала табе горай!".

---

[1] *Сухомлинов М.И.* О сочинениях Кирилла Туровского // Рукописи графа А.С.Уварова. СПб., 1858. Т. 2. С. IX.

[2] *Лабынцаў Ю.* "Напой росою благодати...". Мн., 1992. С. 6.

Ураджвае глыбіня філасофіі Кірыла Тураўскага. Асобныя яе элементы прасочваюцца ў кожным творы асветніка. Напрыклад, пачынаючы "Слова аб прамудрасці", якое абазначана як прытча чытача, з пытаннем: якой мудрасці мы шукаем? І сапраўды, калі б мудрамер спыніўся на самай высокай шкале, як у біблейскага цара Саламона, пабачыць і паслухаць якога імкнуліся "ўсе цары зямлі", гэта не гарантуе чалавеку духоўнага поспеху. Кірыл настойліва раіць шукаць лагоднасць, якая ёсць "маці мудрасці, і розуму, і добрай думкі, і ўсім добрым справам". Ён заклікае адкінуць гордасць, непакорнасць, паклёп, гнеў, варожасць, п'янства, непрыязныя гульні і ўсялякую злосць. Лагоднасць, пакорлівасць, добрыя справы павінны назапашвацца ў "душэўном доме" кожнага хрысціяніна, каб можна было гэтым багаццем падзяліцца з іншымі людзьмі.



Абразок з Ваўкавыска XII ст. (косць)

І дарэвалюцыйныя, і савецкія даследчыкі высока ацанілі творы Кірыла Тураўскага, яго асветніцкі подзвіг. Так, І. Яромін пісаў: "Гістарычная заслуга Кірыла Тураўскага перш за ўсё ў тым, што ўжо ў сярэдзіне XII стагоддзя ён... падняў старажытнарускае мастацкае слова на вышыню, недасягальную для яго папярэднікаў... Некаторыя прамовы Кірыла Тураўскага сіметрыяй сваіх састаўных частак, паэтычнай фразеалогіяй, рытмічным ладам нагадваюць вершы ў прозе. На іх ляжыць пячатка не толькі высокай літаратурнай культуры, не заўсёды звычайнай нават грэкам — настаўнікам Кірыла, — але і сапраўднага таленту"[1].

У літаратуры можна сустрэць меркаванне, што аўтарам "Слова пра паход Ігаравы" мог быць Кірыл Тураўскі. Але прасякнутае язычніцкімі матывамі "Слова пра паход Ігаравы" адрозніваецца ад твораў тураўляніна па тэматыцы, стылю, а галоўнае, па духу. Вялікі асветнік, вядомы царкоўны дзеяч, настаўнік маралі, змагар з перажыткамі язычніцтва наўрад ці ўзяўся б на схіле дзён напісаць прасякнутую язычніцкім пафасам паэму.

Тысячагадовы шлях, што прайшоў наш народ пасля прыняцця хрысціянства, адзначаны постацямі многіх мужных асветнікаў. Трэба прыкласці намаганні для збору звестак пра царкоўнага дзеяча Міну — выхаванца Кіева-Пячэрскага манастыра, якога 13 снежня 1105 г. рукапалажыў у сан епіскапа мітрапаліт Нікіфар І і пастаяіў на чале Полацкай епархіі. Стараннямі епіскапа Міны добраўпарадкоўваліся храмы і манастыры, выхоўваліся ў дабрачыннасці вернікі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што выхадцам з Беларусі (родам — русін, па іншых звестках — родам са Смаленска) быў Клімент Смаляціч, якога па прапанове вялікага князя кіеўскага Ізяслава Мсціславіча Сабор рускіх епіскапаў у 1147 г. паставіў мітрапалітам у Кіеве. На гэтай

[1]*Еремин И.П.* Литературное наследие Кирилла Туровского // Труды Отдела древнерусской литературы. М.; Л., 1957. Т. 13.

11 Зак. 2566

пасадзе ён знаходзіўся з перапынкамі да 1155 г. Клімент Смаляціч, "кніжнік і філосаф", якіх раней не было на Русі, з'яўляўся прыхільнікам незалежнасці ўсходнеславянскай праваслаўнай царквы ад Візантыі[1].

Пісьмовыя крыніцы і народныя паданні захавалі мала звестак аб дзейнасці полацкага епіскапа Дыянісія, хіратанія якога адбывалася ў перыяд 1156—1166 гг., вядома толькі, што ён благаславіў падарожжа Ефрасінні Полацкай у Палесціну.

**Епіскап Сімяон.** Нарадзіўся ў 20-я гады XIII ст., атрымаў добрую адукацыю і быў выхаваны дабрачынным хрысціянінам. Ён заснаваў Мікольскі манастыр пад Полацкам, на Лучне. Клопаты аб простых людзях, заступніцтва за пакрыўджаных, міласэрнасць да бедных, сірот і ўдоў прынеслі Сімяону павагу народа, сан епіскапа. Яго глыбокія пропаведзі, у якіх выкрываліся заганы мясцовай улады, стваралі канфліктныя сітуацыі. Дастаткова згадаць выпадак, калі на піры полацкі князь Канстанцін Бязрукі, намякаючы на амаральнае жыццё свайго падначаленага — цівуна, спрабаваў скампраментаваць епіскапа правакацыйным пытаннем: "Дзе будзе цівун на тым свеце?". Сімяон спакойна адказваў: "Тамсама, дзе і князь". Затым растлумачыў, што князь абавязаны і сам весці бездакорнае жыццё і мусіць клапаціцца аб маральным стане сваіх падданых, а не толькі пасміхвацца з іх злых учынкаў. Нежаданне падлізвацца да начальства прывяло да таго, што епіскап вымушаны быў пакінуць полацкую кафедру і пераехаў у Цвер. Літаратурны твор "Сімяона епіскапа Цвярскога наказ" сведчыць, што і на новым месцы асветнік праявіў сябе разумным, дабрачынным чалавекам, настаўнікам праведнасці.

Даследчыкі лічаць, што Сімяон быў аўтарытэтам у царкоўных справах. Зусім верагодна, што Уладзімірскі сабор 1274 г. па яго настойлівых прапановах прыняў рашэнне праводзіць строгі іспыт асоб перад іх пасвячэннем у духоўны сан, выкараняць карыслівасць пры іх пастаўленні. Гэта пастанова мае шмат агульнага з тэмамі пропаведзяў і маральнымі прынцыпамі асветніка Сімяона[2].

**Аўраамій Смаленскі.** У канцы XII — пачатку XIII ст. меў добрыя сувязі і карыстаўся вялікім аўтарытэтам насельніцтва зямель сучаснай Беларусі. Людзі прыходзілі да яго, каб паслухаць павучальныя словы і суцяшэнне ад скрухі. Сам ён пражыў цяжкае жыццё, пра што можна даведацца з "Жыція", напісанага каля 1240 г. яго вучнем Яфрэмам. Афанасій (так назвалі будучага асветніка ў дзяцінстве) быў доўгачаканым сынам: да гэтага маці нарадзіла 12 дачок. Рана пайшоў ён у манастыр, дзе праявіў вялікія здольнасці ў вучобе. Спачатку ігумен цешыўся яго поспехамі ў мудрым тлумачэнні Бібліі, а затым стаў зайздросціць, дакараць і ганьбіць. Услед за кіраўніком яго зневажалі і манахі, але Аўраамій пакорліва пераносіў папрокі, насмешкі, кпіны. Неўзабаве ён вымушаны быў перасяліцца ў бедны манастыр у Смаленску. Там яго асветніцкая дзейнасць карысталася папулярнасцю, таму што ён тлумачыў незразумелыя месцы Пісання проста і ясна. Праціўнікі выклікалі Аўраамія на дыспуты, каб даказаць яго слабасць у багаслоўі, але ён заўсёды выходзіў пераможцам. За "памылковае" тлумачэнне Бібліі Аўраамій пяць гадоў зневажаўся як ерэтык. Падбухтораны нядобразычліўцамі, натоўп стаў патрабаваць суда над ім. Сабраліся святары, ігумены, дзячкі, прыбыў і сам князь Мсціслаў Раманавіч для правядзення суда. Лука Прусін папярэдзіў народ аб непазбежнасці кары нябеснай за гэтае судзілішча, але да яго заклікаў аб раскаянні не захацелі нават прыслухацца. Епіскап смаленскі Ігнацій забараніў Аўраамію размаўляць з народам і адправіў у ссылку ў Селішчан-

[1]*Макарий.* История русской церкви. Кн. 2. М., 1995. С. 289.

[2]*Мельников А.А.* Путь непечален: Исторические свидетельства святости Белой Руси. С. 41—44.

скі манастыр. У тое лета Смаленшчыну спасцігла страшэнная засуха. Маленні епіскапа не прынеслі поспехаў, і толькі па малітве Аўраамія засмяглая зямля была паліта доўгачаканым дажджом. Пасля гэтага ён быў рэабілітаваны і прызначаны ігуменам Багародзіцкага манастыра[1].

Сярэднявечная літаратура часам паведамляе цікавыя звесткі аб нашых земляках, якія прайшлі цяжкім шляхам жыццёвых выпрабаванняў і атрымалі духоўную загартоўку, а затым прысвяцілі сваё далейшае жыццё асветніцкай дзейнасці. Выдатныя царкоўныя дзеячы, пісьменнікі, асветнікі сваімі думкамі, справамі, творамі рабілі жыццё людзей больш узнёслым, мэтанакіраваным і чалавечным.

## 7. Вытокі беларускага этнасу

**Генетычная пераемнасць насельніцтва.** "Мы прытрымліваемся той думкі, што ніякія перасяленні не маглі поўнасцю змяніць насельніцтва той ці іншай тэрыторыі, што пэўная частка яго захоўвалася і пасля змешвалася з прышлым. Гэта дае падставу лічыць у той ці іншай ступені продкамі беларусаў усе плямёны, якія жылі тут у даіндаеўрапейскі перыяд", — пісаў беларускі гісторык Мікола Ермаловіч[2]. І з гэтым цяжка спрачацца.

Сучаснымі антраполагамі даказана непасрэдная генетычная пераемнасць антрапалагічнага тыпу насельніцтва Беларусі на працягу як мінімум апошніх двух тысячагоддзяў. Вучоныя вобразна кажуць: "Гісторыя — гэта геаграфія ў часе, а геаграфія — гэта гісторыя ў прасторы". Адсюль вынікае, што любая, нават элементарная папуляцыя чалавека з'яўляецца прадуктам гісторыі этнасу, а значыць, і часткай яго сістэмы.

Папуляцыя (ад фр. "папуляцыён" — насельніцтва) уяўляе сабой сукупнасць асоб аднаго віду, якія насяляюць пэўную тэрыторыю і ў пэўнай ступені ізаляваныя ад іншых такіх жа сукупнасцей. Папуляцыя як элементарная адзінка эвалюцыйнага працэсу здольна доўга існаваць у часе і прасторы, самаўзнаўляцца і трансфармавацца ў выніку пераважнага памнажэння тых ці іншых груп, якія адрозніваюцца ў генетычных адносінах.

Картаграфаванне археолагамі старажытных помнікаў і знаходак сведчыць, што геаграфічны арэал старажытнабалцкіх паселішчаў ва Усходняй Еўропе папярэднічаў старабеларускаму насельніцтву на сучаснай тэрыторыі. Менавіта гэта прадвызначыла ўдзел балцкага субстрату (падасновы) у далейшым фарміраванні тутэйшых папуляцый, тапаніміцы, антрапалагічных рысах.

Сучасная навука, асабліва этнічная антрапалогія, валодае метадамі вызначэння ступені роднасці старажытных і сучасных народаў. Напрыклад, калі прыток іншаэтнічнага насельніцтва быў невялікі, то яго культура, як і расавы тып, можа паступова поўнасцю растварыцца ў аўтахтонным, карэнным насельніцтве. У кожным наступным пакаленні рысы карэннага насельніцтва будуць усё больш дамінаваць. Па гэтай прычыне распаўсюджанне на вялікай тэрыторыі пэўнага комплексу расавых прыкмет з'яўляецца пацвярджэннем старадаўнасці яго фарміравання. Аднак бывае і так, што больш высокі ўзровень усяго комплексу матэрыяльнай і духоўнай культуры прышэльцаў нават пры колькаснай перавазе карэннага насельніцтва паступова цалкам ім засвойваецца.

Антрапалагічныя рысы старажытных абарыгенаў у шэрагу пакаленняў захоўваюцца і нават могуць пераважаць, а этнавызначальныя рысы

[1]Старажытная беларуская літаратура: Зборнік. Мн., 1990. С. 66–74.
[2]*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь. Мн., 1990. С. 16.

прышэльцаў усё больш дамінуюць. Адбываецца змена этнічнай прыналежнасці нашчадкаў, фарміруецца новая этнічная супольнасць. Менавіта такі працэс адбываўся на тэрыторыі Беларусі пры рассяленні славян, якія асімілявалі папярэдняе балцкае насельніцтва[1]. Вучонымі распрацаваны спецыяльныя матэматычныя метады, якія дазваляюць паводле сукупнасці найбольш інфарматыўных расадыягнастычных рыс адрозніваць генетычныя процілегласці паміж параўнальнымі групамі і такім чынам вызначаць ступень іх біялагічнай роднасці, рэканструяваць радавод таго ці іншага народа.

Антраполагі паспрабавалі параўнаць па дадзенаму паказчыку групы беларусаў, літоўцаў, украінцаў Палесся, зборныя групы рускіх і палякаў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі. Устаноўлена, што да гіпатэтычнага продкавага пласта найбольш блізкія беларусы і літоўцы. Астатнія групы размеркаваліся на больш аддаленай адлегласці. Дадзены вынік пацвярджае меркаванне аб тым, што насельніцтва паўднёва-ўсходніх раёнаў Прыбалтыкі і асноўнай тэрыторыі Беларусі ў антрапалагічным плане адгалінавалася ад аднаго радаслоўнага дрэва.

Даследаванне генафонду насельніцтва Беларусі сведчыць аб бытаванні ў рэгіёне Беларусі блізкароднасных этнасаў. Устаноўлена адпаведнасць сучаснага генафонду беларусаў старажытнаму прабацькаўскаму. Вывучэнне матэрыялу па 12 асноўных генах паказала, што літоўскі этнас адрозніваецца ад беларускага на 2 гены, рускі — на 3, украінскі — на 4, польскі — на 6 генаў. Гэта яскрава пацвярджае значнасць архаічнай балцкай асновы беларускага этнасу.

Антраполагі выявілі ў слядах генетычнай памяці аб пройдзеным шляху найбольш старажытны антрапалагічны пласт папуляцыйных якасцей на тэрыторыі Беларусі і яе памежжах. Прасочаны плаўныя пераходы паміж папуляцыямі ў напрамку з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Агульнаеўрапейская тэндэнцыя зменлівасці антрапагенетычнай структуры з паўднёвага захаду на паўночны ўсход устойліва захоўвалася. Устаноўлена, што Беларусь, Усходняя Літва і Латвія, часткова Паўночна-Заходняя Украіна знаходзяцца ў агульнай антрапагенетычнай прасторы.

Антраполагі зрабілі важную выснову: "Такім чынам, шматгадовыя антрапагенетычныя і генагеаграфічныя даследаванні вясковага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі дазваляюць нам з вялікай упэўненасцю лічыць сучасных беларусаў прамымі нашчадкамі тутэйшага старажытнага насельніцтва. Фактычнае фарміраванне адаптыўнага тыпу хутчэй за ўсё адбывалася разам з эпахальнымі зменамі антрапалагічнага тыпу на працягу 100—150 пакаленняў, што доўжыць наша паходжанне ад палеаеўрапеоіднай расавай сукупнасці з часоў першанасельнікаў неаліту"[2]. Была даказана большая стабільнасць генафонду ў параўнанні з мовай і культурай. Аднак і назіранні за фальклорам, і палеаэтнаграфічныя крыніцы таксама дазваляюць меркаваць аб аўтахтоннай пераемнасці і глыбокай старажытнасці традыцыйнай беларускай культуры і побыту. Такім чынам, фактычна ў вельмі старажытныя часы складваліся перадумовы фарміравання беларусаў.

**Славянізацыя балтаў.** У другой палове 1-га тысячагоддзя н.э. на тэрыторыі Беларусі сярод балцкага насельніцтва рассяліліся славяне. Адбываліся працэсы, у выніку якіх узнікалі новыя этнічныя супольнасці. Археа-

[1]Проблемы современной антропологии. Мн., 1983. С. 56.

[2]*Мікуліч А.* Этнагенез беларусаў — погляд антраполага // ЛіМ. 1995. 2 чэрв.; *Ён жа.* Этнічкая гісторыя беларусаў паводле антрапалагічных даных // Беларускі гістарычны часопіс. 1999. № 2. С. 7—11; *Ён жа.* Геногеография сельского населения Белоруссии. Мн., 1989.

лагічныя даследаванні даюць магчымасць прасачыць гэтыя з'явы больш канкрэтна.

Пачынаючы з канца VII ст. адбывалася шырокае пранікненне славян у вобласці, дзе знаходзіліся балты. Першапачаткова балты і славяне жылі побач, аднак потым пачалі пастурова змешвацца паміж сабой, адбывалася славянізацыя дняпроўскага балтамоўнага насельніцтва. Уплыў балтаў прасочваецца на знешнім выглядзе шматлікіх груп крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў. Існуе шэраг даных, што іх антрапалагічны тып сфарміраваўся ў выніку змяшэння і своеасаблівага сімбіёзу славян з балтамі. Матэрыялы археалагічных даследаванняў, асабліва на тэрыторыі рассялення крывічоў-палачан у паўночнай частцы Беларусі, яскрава пацвердзілі такія назіранні[1].

Этнагенетычны працэс ранняга сярэднявечча на тэрыторыі Беларусі меў тры стадыі. Да першай адносяцца археалагічныя помнікі банцараўскай культуры і культуры доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі V—VII стст. У добра ўмацаваных гарадзішчах хавалася насельніцтва ў час ваеннай небяспекі і тут была арганізавана яго калектыўная абарона. Гарадзішчы-сховішчы з'яўляліся таксама рэлігійнымі цэнтрамі. Распаўсюджанымі былі неўмацаваныя паселішчы, якія можна разглядаць як пераходную форму ад родавай да сельскай абшчыны, дзе вялікія патрыярхальныя сем'і існавалі побач з адметна малымі сем'ямі.

Другая стадыя датуецца VIII—IX стст. і характарызуецца больш інтэнсіўным пранікненнем славян у асяроддзе мясцовых плямён.

Адносіны паміж славянамі і балтамі не былі адназначнымі. Мелі месца ваенныя сутыкненні, выцясненне аднаго этнасу другім. Кантакты славянскай, балцкай і суседняй фіна-угорскай культур доўга ажыццяўляліся ў межах вельмі шырокай паласы і працягласць іх была вялікай.

Асімілявалі не толькі славяне балтаў, але ў шэрагу выпадкаў славяне былі асіміляваны балтамі. У розных месцах гэтай тэрыторыі славянскія старажытнасці раней X ст. цяжка аддзяліць ад славяна-балцкіх. З узнікненнем пастаянных умацаваных пунктаў, непасрэдных папярэднікаў раннесярэднявечных гарадоў, славянізацыя насельніцтва на значнай частцы тэрыторыі Беларусі пастурова набліжалася да завяршэння.

Трэцяя стадыя адносіцца да X—XI стст., калі моцна павялічваецца колькасць усходнеславянскага (крывіцка-дрыгавіцкага) насельніцтва, славяне становяцца асноўным насельніцтвам краю. Рассяленне славян мела вялікае прагрэсіўнае значэнне для гістарычнага лёсу Беларусі. Яно садзейнічала знікненню існуючых да гэтага інстытутаў родаплемяннога ладу, паскарала развіццё шматукладнага грамадства.

У выніку славяна-балцкага сінтэзу ў IX—X стст. у Верхнім Падзвінні і Падняпроўі сфарміраваліся новыя ўсходнеславянскія этнічныя супольнасці (пранароднасці), якія названы ў пісьмовых крыніцах. У культуры і мове крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў перапляліся славянскія і балцкія элементы. Гэта былі якасна новыя прабеларускія ўтварэнні, у якіх пераважалі славянскія рысы і якія займалі своеасаблівае месца сярод іншых усходнеславянскіх этнасаў.

Матэрыяльная культура ўсходнеславянскага насельніцтва X—XII стст. Верхняга Падняпроўя, Падзвіння, Панямоння ўяўляе сінтэз розных па паходжанні этнічных кампанентаў. Тры пранароднасці — крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы — пастурова ўцягваліся ў працэс фарміравання беларускага народа.

У вывучэнні этнагенезу беларусаў вызначаецца некалькі этапаў. Па гэтай праблеме існуе шэраг канцэпцый — велікаруская, польская, крывіцкая,

[1] *Штыхаў Г.В.* Крывічы С. 94—96.




Тэрыторыя пачатковай Русі ў вузкім сэнсе
(1 — паводле А. Насонава; 2 — паводле Б. Рыбакова)

балцкая. Свае асаблівасці маюць погляды Я. Карскага, М. Доўнар-Запольскага, М. Грынблата, В. Сядова, М. Піліпенкі і іншых даследчыкаў[1].

Абагульненне вялікага матэрыялу археалагічных раскопак, даных гідранімікі, антрапалагічнай, этналагічнай і іншых навук прывяло да стварэння тэорыі субстратнага паходжання беларусаў. Сутнасць гэтай тэорыі заключаецца ў тым, што ў беларускім арэале славяне паступова асімілявалі балтаў, аднак у той жа час самі зазналі ўздзеянне лета-літоўскага этнічнага субстрату. Як даказвае маскоўскі даследчык В. Сядоў, адбывалася гэта на працягу доўгага часу ад рубяжа VII—VIII стст. да канца XIII ст.[2]

**Да праблемы старажытнарускай народнасці.** У гістарыяграфіі 50-х гадоў склаўся стэрэатып аб старажытнарускай народнасці. Паводле яго, у раннефеадальны перыяд усходнія славяне ўтварылі гэту адзіную этнічную супольнасць. Асноўным крытэрыем народнасці звычайна ўказвалася агульнасць тэрыторыі, гаспадарчага жыцця, мовы, матэрыяльнай і духоўнай культуры. Аб старажытнарускай народнасці дагэтуль пішуць як аб "этнічнай супольнасці новага тыпу"[3].

Аднак намнога раней гісторык В. Ключэўскі сцвярджаў: "Усюды Руская зямля, і нідзе, ні ў адным помніку не сустрэнем назвы рускі народ..." І яшчэ адно яго заключэнне: "Руская дзяржава ў IX—XI стст. не была дзяржавай рускага народа, таму што яшчэ не існавала гэтага народа"[4]. Вядома, што палянскае княжанне ў Сярэднім Падняпроўі стала ядром дзяржавы Кіеўскай Русі. У апошні раз назва "паляне" сустракаецца ў летапісах пад 944 г. Пасля яе змяніла назва "Русь". Яна паступова замацавалася за той часткай усходніх славян, якія жылі вакол гарадоў Кіева, Пераяслаўля, Чарнігава. Першапачаткова толькі гэта тэрыторыя называлася "Рускай зямлёй", і яна ўвайшла ў склад Кіеўскай дзяржавы ў якасці тэрытарыяльнага і палітычна пануючага ядра[5].

[1]Этнаграфія беларусаў. Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985. С. 18—40.
[2]*Седов В.В.* Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. С. 186.
[3]*Загарульскі Э.М.* Заходняя Русь IX—XIII стст. С. 218.
[4]*Ключевский В.О.* Соч. М., 1956. Т. 1. С. 163, 205.
[5]*Насонов А.Н.* "Русская земля" и образование территории Древнерусского государства. С. 25—26, 220.

Вядомы даследчык гісторыі ўсходніх славян П. Траццякоў сцвярджае, што тэрмін "старажытнаруская народнасць" з'яўляецца "кніжным", які прапанавалі гісторыкі. Вучоны лічыць, што гэта народнасць была супольнасцю вельмі адноснай: яшчэ доўгі час захоўваліся своеасаблівасці яе кампанентаў (акрамя славянскага лета-літоўскі і фіна-угорскі). Не толькі ў IX—X стст., але і ў XI—XII стст. Руссю, Рускай зямлёй называлася толькі невялікая вобласць у межах Сярэдняга Падняпроўя. Ён піша, што тэрмін "старажытнаруская народнасць" дае магчымасць не блытаць этнічнае аб'яднанне ўсходніх славян часоў Кіеўскай Русі з рускай народнасцю XIV—XVI стст.[1]

Тэрыторыя Беларусі была па-за межамі Русі ў так званым "вузкім значэнні". У першую чаргу гэта адносіцца да Полацкай зямлі. У Іпацьеўскім спісе пад 1140 г. летапісец тлумачыць, чаму вялікі князь кіеўскі Мсціслаў захапіў у 1129 г. пецярых полацкіх князёў і саслаў у Візантыю: полацкія князі "не слушахуть его (Мсціслава) коли е зовящет в Рускую землю в помощь". Мсціслаў заклікае полацкіх князёў з Падзвіння ў Рускую зямлю, каб абараніць яе ад набегаў полаўцаў, што тыя адмовіліся зрабіць, бо ў іх было шмат сваіх клопатаў.

Распаўсюджваўся стэрэатып разумення Рускай зямлі ў шырокім сэнсе як тэрыторыі ўсіх усходніх славян. Але летапісцы называюць на тэрыторыі Усходняй Еўропы 14—15 этнічных груповак, якія існавалі доўгі час. Так, драўляне фігуруюць да 1136 г., крывічы — да 1162 г., дрыгавічы — да 1149 г., радзімічы — да 1169 г. З гэтымі сведчаннямі добра ўзгадняюцца вынікі археалагічных даследаванняў. Паводле матэрыялаў раскопак курганоў, прасочваюцца этнаграфічныя адрозненні паміж асобнымі групоўкамі ўсходніх славян. У археалагічнай навуцы вядома, што кожная з іх мела характэрны набор жаночых упрыгожанняў у XI—XII стст. і ў першую чаргу своеасаблівыя скроневыя кольцы, якія насіліся каля скроняў.

Для вывучэння матэрыяльнай культуры ўсходніх славян значную цікавасць уяўляе касцюм, які ўключае адзенне, галаўныя ўборы, розныя ўпрыгожанні, абутак. Беларуская даследчыца Л. Дучыц вылучае тры комплексы касцюма крывічанак: з бранзалетападобнымі крывіцкімі скроневымі кольцамі, з пярсцёнкападобнымі скроневымі кольцамі, без скроневых кольцаў[2]. Першы комплекс упрыгожанняў больш блізкі да славянскага касцюма, другі — мае значную колькасць металічных упрыгожанняў, што ўласціва балтам (лета-літоўцам), трэці — наогул з многімі тыпова балцкімі ўпрыгожаннямі. Параўнальнае вывучэнне археалагічных і этнаграфічных матэрыялаў, асабліва з латгала-беларускага сумежжа, дазволіла Л. Дучыц зрабіць выснову аб тым, што ў этнаграфічным касцюме Віцебшчыны нават у XIX ст. прасочваліся латгальскія рэлікты. Крывічоў цяжэй, чым якое-небудзь іншае племяннoе аб'яднанне, "упісаць" у адзіную старажытнарускую народнасць. Некаторыя даследчыкі лічаць іх хутчэй усходнімі балтамі, чым славянамі: "Гэта былі балцкія плямёны, што пакінулі культуру доўгіх курганоў"[3].

Якія плямёны пасяліліся ў міжрэччы Нёмана і Буга і ў заходняй частцы Верхняга Панямоння (цяпер Брэсцкая і Гродзенская вобласці), у пісьмовых крыніцах не паведамляецца. У Пабужжы распаўсюджаны каменныя курганы, падобныя на пахаванні заходніх балтаў-яцвягаў. Узаемаадносіны прышлых славян з мясцовымі балтамі ў Панямонні былі даволі мірнымі[4]. Балцкія элементы ў пахавальным абрадзе курганоў у наваколлі Навагрудка сведчаць аб наяўнасці сярод усходнеславянскага насельніцтва рэгіёна асобных невялікіх груп балцкіх плямён, якія, адчуўшы на сабе моцнае ўздзеянне

---

[1] *Третьяков П.Н.* У истоков древнерусской народности.Л., 1970. С. 5, 9.

[2] *Дучыц Л.У.* Касцюм на тэрыторыі Беларусі ў XI—XII стст. (па археалагічных даных) як паказчык станаўлення этнасу // Беларусіка. Кн. 2. Мн., 1992. С. 94.

[3] *Загарульскі Э.М.* Заходняя Русь IX—XIII стст. С. 42

[4] *Зверуго Я.Г.* Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. С. 14—18, 198.

славянскага акружэння, са свайго боку, унеслі ў гэта асяроддзе элементы сваёй духоўнай і матэрыяльнай культуры.

На самай справе эканамічныя сувязі паміж землямі старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі былі слабымі. Моўныя, культурныя і іншыя этнічныя асаблівасці ўсходнеславянскіх груповак не паспелі сцерціся. У адзенні, упрыгожаннях, побыце, мове, вераваннях асобных галін усходніх славян захоўвалася шмат адрозненняў, што ішлі яшчэ ад племянных адметнасцей.

Такім чынам, спрэчна гаварыць аб агульнасці тэрыторыі старажытнарускай народнасці, якая супадала б з палітычнай агульнасцю ў граніцах старажытнарускай дзяржавы, што праіснавала да пачатку 30-х гадоў XII ст. і распалася на асобныя самастойныя княствы. Новыя археалагічныя даследаванні пацвердзілі выснову аб славяна-балцкім сінтэзе на тэрыторыі Беларусі ў раннім сярэднявеччы. Наяўнаць неславянскага элемента таксама прасочваецца ў рускай (велікарускай) і ўкраінскай народнасцей[1]. Лагічна сцвярджаць аб славянізацыі фіна-угорскіх груповак і ўкладзе фіна-уграў у фарміраванне рускага народа.

У 1996 г. на VI Міжнародным кангрэсе славянскай археалогіі, які праходзіў у Вялікім Ноўгарадзе, адбыўся "круглы стол", прысвечаны пытанню старажытнарускай народнасці. У адным з дакладаў была зроблена выснова: "Версія аб тым, што старажытнаруская народнасць не сфарміравалася канчаткова і распалася ў сувязі з распадам старажытнарускай дзяржавы, мае больш рэалій і праўдападобнасці, чым альтэрнатыва, заснаваная на міфічным уяўленні існавання адзінай народнасці, паколькі ўмоў для гэтага відавочна не хапала. Працэс узнікнення родexternalasных усходнеславянскіх народаў — беларускага, украінскага і рускага (велікарускага) — можна разглядаць без выкарыстання гэтага спрэчнага паняцця". Адначасова было зроблена заключэнне аб тэрмінах "Русь" і "Руская зямля". "Назва "Русь" першапачаткова азначала ядро Кіеўскай дзяржавы. У XII ст. Руская зямля — гэта назва дакладна не абазначанай тэрыторыі Сярэдняга Падняпроўя. У XIII—XIV стст. тэрмін "Русь" выкарыстоўваўся ўжо як збіральная назва зямель усходніх славян, насельніцтва якіх прызнавала праваслаўную веру безадносна іх размяшчэння. У той перыяд адбывалася фарміраванне трох усходнеславянскіх народнасцей"[2]. Гісторык і археолаг Ю. Драгун прыводзіць даныя аб тым, што адзіная старажытнаруская народнасць ва ўмовах тагачаснай рэчаіснасці не магла скласціся: "У XI— XIII стст. у славянскіх народаў Усходняй Еўропы не было агульнай матэрыяльнай ды духоўнай культуры"[3].

**Далейшыя этнічныя працэсы.** У выніку эканамічнага, сацыяльнага і дзяржаўнага развіцця Старажытнай Русі складваліся групы княстваў і зямель, што з'явіліся адной з перадумоў узнікнення беларускай, рускай і ўкраінскай народнасцей. Асобныя княствы былой Кіеўскай Русі паступова аб'ядноўваліся ў групы, якія былі папярэдніцамі будучых усходнеславянскіх народаў. У другой палове XII — пачатку XIII ст. унутры некаторых груп зямель зараджаліся эканамічныя і культурныя ўзаемасувязі[4].

Такія групы ўтваралі: 1) Наўгародская і Пскоўская землі; 2) Уладзіміра-Суздальская, Разанская, Усцюжская, Мурамская землі; 3) Кіеўская,

---

[1] *Токарев С.А.* Этнография народов СССР. Исторические основы быта и культуры. М., 1958. С. 29.

[2] *Штыхов Г.В.* Древнерусская народность: реалии и миф // Труды VI Международного конгресса славянской археологии. Т. 3. Этногенез и этнокультурные контакты славян. М., 1997. С. 376—385.

[3] Спадчына. 1999. № 1. С. 175.

[4] История культуры Древней Руси. М.;Л., 1948. Т. 1. С. 363.




Межы моўнага беларускага арэала паводле этнаграфічных даных

Чарнігаўская, Северская землі; 4) Галіцкая і Валынская землі; 5) Полацкая, Менская, Смаленская, Тураўская, Гродзенская, Наваградская і іншыя землі. Ва ўтварэнні падобных груп ужо прасочваецца вылучэнне велікарускай, украінскай і беларускай народнасцей[1].

Не выпадкова ў пачатку XIII ст. у Полацку, Віцебску, Смаленску пачыналі складвацца ўстойлівыя ўзаемныя гандлёвыя сувязі. Збліжэнне іх гандлёвых інтарэсаў адлюстравалася ў заключэнні дагавора з Рыгай. У "Хроніцы Лівоніі" гаворыцца аб заключэнні дагавора Полацка з немцамі ў 1210 г. пры ўдзеле Смаленска. Упершыню Заходняя Дзвіна была аб'яўлена свабоднай для плавання купцоў на ўсім працягу ў дагаворы 1212 г. Полацка з Рыгай.

Важнай крыніцай з'яўляецца дагавор (Смаленская гандлёвая праўда) Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г., які распаўсюджваўся таксама на Полацк і Віцебск. Ён стаў асновай для арганізацыі гандлю па Заходняй Дзвіне на працягу доўгага часу. Сумесныя ўмовы гандлю з нямецкімі гарадамі выпрацоўваліся на з'ездах ("снемах") прадстаўнікоў Смаленска, Полацка,

[1] *Черепнин Л.В.* Исторические условия формирования русской народности до конца XV в. // Вопросы формирования русской народности и нации. М.;Л., 1958. С. 72.

Віцебска. Усё гэта пацвярджае, што ў Полацкай і Смаленскай землях мелі месца кансалідацыйныя тэндэнцыі.

У помніках пісьменства, якія звязаны з Полацкам, побач з агульнымі ўсходнеславянскімі моўнымі асаблівасцямі паступова пачынаюць выяўляцца з'явы, якія сведчаць аб фарміраванні беларускай мовы. Гэта назіраецца ў Смаленскай грамаце 1229 г., шэрагу полацкіх грамат другой паловы XIII ст.

Удзел нашчадкаў смаленска-полацкіх крывічоў у фарміраванні беларускай народнасці ў якасці аднаго з кампанентаў пацвярджаюць акрамя археалогіі, даныя мовы, генетычна звязаныя з крывіцкімі племяннымі дыялектамі.

Існаванне Полацкай зямлі на чале з Полацкам, буйным эканамічным, палітычным і культурным цэнтрам заходніх зямель усходняга славянства, спрыяла зараджэнню гаспадарчай і культурнай супольнасці гэтых зямель і ўзнікненню ўмоў для фарміравання беларускай народнасці. Вакол Полацка і Смаленска ўзнік буйны мясцовы смаленска-полацкі дыялект, які адыграў значную ролю ў гэтым працэсе.

Даследчыкі ўдакладнілі гістарычную класіфікацыю смаленскага, полацкага, старажытнага наўгародскага, пскоўскага дыялектаў і прыйшлі да высновы, што іх адметныя рысы сфарміраваліся яшчэ да перасялення іх носьбітаў на новыя тэрыторыі[1].

У недалёкім мінулым дыялектная карта Беларусі складалася з двух масіваў: паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга, граніца паміж якімі перасякала тэрыторыю рэспублікі з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Яны таксама ахоплівалі частку суседніх тэрыторый Расіі і Украіны. У гістарычных адносінах гэтыя два дыялекты ў агульных рысах адпавядалі сярэднявечным супольнасцям: полацкім і смаленкім крывічам і радзімічам на поўначы і паўночным усходзе, дрыгавічам і насельніцтву Беларускага Панямоння на поўдні і паўднёвым захадзе Беларусі. У пэўную эпоху паўночная частка тэрыторыі паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы ў палітычных і эканамічных адносінах аказалася больш цесна звязанай з Полацкам, Віцебскам і Смаленскам, чым з Туравам і Пінскам. Гэта спрыяла ўтварэнню сярэднебеларускай гаворкі, якая з'явілася ў выніку ўзаемадзеяння двух асноўных дыялектаў[2]. Адзначаны працэс меў істотнае дачыненне да этнічнай кансалідацыі беларусаў.

Пры гэтым нельга не ўлічваць, што балцкі субстрат адыграў пэўную ролю ў фарміраванні этнічнай спецыфікі заходніх груп усходнеславянскага насельніцтва (крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў) IX—XIII стст., на аснове якіх складвалася беларуская народнасць[3].

---

[1]*Николаев С.Л.* Следы особенностей восточнославянских племенных диалектов. Кривичи // Балто-славянские исследования 1987. М., 1989. С. 187.

[2]Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1964. С. 401, 402.

[3]Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. С. 548.

# БІБЛІЯГРАФІЯ


*Алексеев Л. В.* Полоцкая земля: Очерки истории Северной Белоруссии в IX – XIII стст. М., 1966.

*Алексеев Л.В.* Смоленская земля в IX–XIII вв.: Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980.

*Алексеев Л. В.* Археология и краеведение Беларуси. XVI в. – 30-е годы XX в. Мн., 1996.

*Артеменко И.И.* Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967 (МИА. №148).

Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мн., 1997.

Археалогія Беларусі. Т. 2. Жалезны век. Мн., 1999.

Белорусская археология: Достижения археологов за годы советской власти. Мн., 1987.

*Воронин Н. Н.* Древнее Гродно // МИА. 1954. Вып. 41.

*Вяргей В. С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР. 1919 – 1941 гг. М., 1992.

Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1.

Гісторыя Беларусі. Кароткі нарыс. Ч. 1. Мн., 1993.

Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Першабытнаабшчынны лад на тэрыторыі Беларусі. Эпоха феадалізму. Мн., 1972.

*Гуревич Ф. Д.* Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962.

*Гуревич Ф. Д.* Древний Новогрудок: Посад – окольный город. Л., 1981.

*Гурин М. Ф.* Древнее железо Белорусского Поднепровья (I тысячелетие н.э.). М., 1982.

*Гурин М. Ф.* Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX – XIII вв. Мн., 1987.

*Гурина Н. Н.* Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР. Л., 1976.

Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI–XV стст.). Мн., 1998.

*Доўнар-Запольскі М. В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

*Дучыц Л. У.* Браслаўскае Паазер'е ў IX – XIV стст. Мн., 1991.

*Дучыц Л. У.* Касцюм жыхароў Беларусі X – XIII стст. Мн., 1995.

*Егорейченко А. А.* Древнейшие городища Белорусского Полесья (VII — VI вв. до н.э. – II в. н. э.). Мн., 1996.

*Ермаловіч Мікола.* Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

*Загарульскі Э. М.* Заходняя Русь. IX – XIII стст. Мн., 1998.

*Загорульский Э. М.* Возникновение Минска. Мн., 1982.

*Загорульский Э. М.* Археология Белоруссии. Мн, 1963.

*Загорульский Э. М.* Древняя история Белоруссии: Очерки этнической истории и материальной культуры (до IX в.). Мн., 1977.

*Заяц Ю. А.* Заславль в эпоху феодализма. Мн., 1995.

*Заяц Ю. А.* Оборонительные сооружения Менска XI – XIII вв. Мн., 1996.

*Зайкоўскі Э. М.* Першабытныя помнікі Паўночнай Беларусі. Мн., 1990.

*Зверуго Я. Г.* Древний Волковыск. Мн., 1975.

*Зверуго Я. Г.* Верхнее Понеманье в IX – XIII вв. Мн., 1989.

*Ігнатоўскі У. М.* Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1991.

*Исаенко В. Ф.* Археологическая карта Белоруссии. Вып.1. Памятники каменного века. Мн., 1968.

*Исаенко В. Ф.* Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Памятники бронзового века. Мн., 1976.

*Исаенко В. Ф.* Неолит Припятского Полесья. Мн., 1976.

*Калечиц Е. Г.* Первоначальное заселение территории Белоруссии. Мн., 1984.

*Калечиц Е. Г.* Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Мн., 1987.

*Каробушкіна Т. М.* Насельніцтва Беларускага Пабужжа X – XIII стст. Мн., 1999.

*Каханоўскі Г. А.* Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI – XIX стст. Мн., 1984.

*Квятковская А. В.* Ятвяжские могильники Беларуси XI – XVII вв. Вильнюс, 1998.

Кніга жыцій і хаджэнняў. Мн., 1994.

*Копытин В. Ф.* Памятники финального мезолита и неолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992.

*Коробушкина Т. Н.* Земледелие на территории Белоруссии в X – XIII вв. Мн., 1979.

*Коробушкина Т. Н.* Курганы Белорусского Побужья в X – XIII вв. Мн., 1993.

*Крывальцэвіч М. М.* Азярное-1 – паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесся. Мн., 1999.

*Ксензов В. П.* Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Мн., 1988.

*Кухаренко Ю. В.* Первобытные памятники на территории Полесья // САИ. 1962. Вып. Б1–18. М., 1962.

*Кухаренко Ю. В.* Могильник Брест-Тришин. М., 1980.

*Ластоўскі В.* Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910.

*Левко О. Н.* Витебск XIV – XVI вв. Мн., 1984.

*Левко О.Н.* Средневековая Орша и ее округа (историко-археалогический очерк). Орша, 1993.

*Лысенко П. Ф.* Города Туровской земли. Мн., 1974.

*Лысенко П. Ф.* Берестье. Мн., 1985.

*Лысенко П. Ф.* Дреговичи. Мн., 1991.

*Лысенко П. Ф.* Туровская земля. М., 1999.

*Макушников О. А.* В поисках древнего Гомия. Гомель, 1994.

*Медведев А. М.* Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тыс. до н. э. – 5 в. н. э.). Мн., 1996.

*Мельниковская О. Н.* Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967.

*Митрофанов А. Г.* Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. – VIII в. н.э.). Мн., 1978.

Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994.

Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Мн., 1970.

Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Мн., 1972

*Піваварчык С., Семянчук Г.* Археалогія Беларусі. Ч. 1. Ад палеаліту да ранняга сярэднявечча. Гродна, 1996.

*Поболь Л. Д.* Славянские древности Белоруссии (ранний этап зарубинецкой культуры). Мн., 1971.

*Поболь Л. Д.* Славянские древности Белоруссии (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры). Мн., 1973.

*Поболь Л. Д.* Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Мн., 1974.

*Поболь Л. Д.* Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Мн., 1983.

*Поликарпович К. М.* Палеолит Верхнего Поднепровья. Мн., 1968.
*Расадзін С. Я.* Землі амаль невядомыя. Будучая Беларусь паводле антычных манускрыптаў. Мн., 1996.
*Русанова И.П.* Славянские древности VI–IX вв между Днепром и Западным Бугом // САИ. 1973. Вып. Е1–25.
*Русанова И.П.* Славянские древности VI–VII вв. Культура пражского типа. М., 1976.
*Русов П. А.* Деревянные сооружения Менска XIII – XVII вв. Мн., 1992.
*Рыбаков Б.А.* Язычество древних славян. М., 1981.
*Рыер Я. Г.* Развіццё сярэдневяковай вёскі на тэрыторыі Беларусі і ў суседніх землях. Магілёў, 1990.
*Седов В. В.* Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970 (МИА. № 163).
*Седов В.* Восточные славяне в VI—XIII в. М., 1982.
*Тарасаў С. В.* Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. Мн., 1991.
*Тарасаў С. В.* Полацк IX – XVII стст. Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998.
*Ткачоў М. А., Трусаў А. А.* Старажытны Мсціслаў. Мн., 1992.
*Третьяков П. Н.* Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Л., 1966.
*Трусов О. А.* Памятники монументального зодчества Белоруссии XI – XVII вв. Мн., 1988.
*Фроянов И. Я., Дворниченко А. Ю.* Города-государства Древней Руси. Л., 1988.
*Хозеров И. М.* Белорусское и смоленское зодчество XI – XIII вв. Мн., 1994.
*Чарняўскі М. М.* Неаліт Беларускага Панямоння. Мн., 1979.
*Чарняўскі М. М., Кудрашоў В.Я., Ліпніцкая В.Л.* Старажытныя шахцёры на Русі. Мн., 1996.
*Шадыро В. И.* Ранний железный век Северной Белоруссии. Мн., 1985.
*Штыхаў Г. В.* Крывічы. Мн., 1992.
*Штыхаў Г. В.* Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі. Мн., 1999.
*Штыхов Г. В.* Археологическая карта Белоруссии. Вып.2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Мн., 1971.
*Штыхов Г. В.* Древний Полоцк IX – XIII вв. Мн., 1975.
*Штыхов Г. В.* Города Полоцкой земли IX – XIII вв. Мн., 1978.

# ХРАНАЛОГІЯ ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

**100 – 35 тысяч гадоў назад.** Першыя спробы пранікнення чалавека (неандэртальца) на тэрыторыю Беларусі.

**26 – 23 тысячы гадоў назад.** Існаванне познапалеалітычных паселішчаў (каля вёсак Юравічы і Бердыж Гомельскай вобл.) краманьёнцаў на паўднёвым усходзе Беларусі.

**12 – 10 тысяч гадоў назад.** Засяленне тэрыторыі Беларусі ў канцы ледавіковай эпохі плямёнамі паляўнічых і збіральнікаў.

**9 – 5-е тысячагоддзе да н.э.** Сярэднекаменная (мезалітычная) эпоха на тэрыторыі Беларусі, росквіт прысвойваючай гаспадаркі.

**5-е – пачатак 2-га тысячагоддзя да н.э.** Новакаменная (неалітычная) эпоха на тэрыторыі Беларусі, зараджэнне і распаўсюджанне земляробства і жывёлагадоўлі, пачатак фарміравання сучасных этнасаў.

**Пачатак 2-га тысячагоддзя – VIII / VII ст. да н.э.** Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі, распаўсюджанне старажытных металічных вырабаў, росквіт здабычы крэменю шахтавым спосабам.

**VIII/VII ст. да н.э. – V ст. н.э.** Жалезны век на тэрыторыі Беларусі, выцясненне крамянёвых прылад працы і зброі жалезнымі вырабамі, будаўніцтва ўмацаваных паселішчаў – гарадзішчаў, разлажэнне першабытнаабшчыннага ладу.

**VIII ст. да н.э. – IV/V ст. н.э.** На паўночным усходзе Беларусі жылі плямёны днепра-дзвінскай археалагічнай культуры.

**VII/VI ст. да н.э. – IV/V ст. н.э.** Паўночна-Заходнюю і Сярэднюю Беларусь засялялі плямёны культуры штрыхаванай керамікі.

**VII – III ст. да н.э.** Паўднёвую і часткова Цэнтральную Беларусь засялялі плямёны мілаградскай культуры.

**III ст. да н.э. – II ст. н.э.** Поўдзень Беларусі засялялі плямёны зарубінецкай культуры.

**II – IV стст.** Паўднёвы захад Беларусі займала гота-гепідскае насельніцтва вельбарскай культуры.

**II – V стст.** Паўднёвы ўсход Беларусі займалі плямёны кіеўскай культуры, якіх частка навукоўцаў лічыць старажытнаславянскімі.

**V – VIII стст.** Рассяленне ў Паўднёва-Заходняй Беларусі плямён раннеславянскай пражскай культуры

**V/VI – VIII стст.** Пераважную большасць тэрыторыі Беларусі засялялі плямёны банцараўскай і калочынскай культур.

**VIII – X стст.** Існаванне на тэрыторыі Беларусі ўсходнеславянскіх племянных аб'яднанняў – крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў.

**862 г.** Першыя летапісныя звесткі пра г. Полацк (Полотеск, Полотьск) і яго валасць. Пачатак дзяржаўнасці на беларускіх землях.

**907 г.** Удзел крывічоў і радзімічаў у паходзе кіеўскага князя Алега на Царград (Канстанцінопаль).

**980 г.** (па іншых звестках – 970 г.). Першае летапіснае паведамленне пра самастойныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі – Полацкую зямлю і Тураўскае княства.

**980 г.** (паводле "Аповесці аб мінулых часах"). Захоп Полацка наўгародскім князем Уладзімірам Святаславічам, забойства полацкага князя Рагвалода, паланенне Рагнеды.

**980 г.** Першыя летапісныя звесткі пра г. Тураў.
**983 г.** Першае ўпамінанне ў летапісах яцвягаў.
**984 г.** Паход кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча на радзімічаў. Бітва на р. Пяшчань.
**988 г.** Прыняцце хрысціянства ў Кіеве.
**988—1015 гг.** Княжанне ў Тураве Святаполка Уладзіміравіча.
**992 г.** Утварэнне епархіі ў Полацку.
**1000 г.** Смерць Рагнеды Рагвалодаўны, полацкай князёўны, кіеўскай княгіні, манашкі Анастасіі.
**1001 г.** Смерць полацкага князя Ізяслава. Пачатак барацьбы Полацкага княства з Кіевам.
**1003—1044 гг.** Княжанне ў Полацку Брачыслава Ізяславіча
**1009 г.** Першае ўпамінанне Літвы ў пісьмовых крыніцах.
**1017, 1019 гг.** Першыя летапісныя звесткі пра г. Берасце (Брэст).
**1021 г.** Паход полацкага князя Брачыслава Ізяславіча на Ноўгарад,
**1044—1101 гг.** Княжанне ў Полацку Усяслава Брачыславіча (Чарадзея).
**1054 г.** Канчатковы падзел хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную,
**1055—1060 гг.** Будаўніцтва ў Полацку Сафійскага сабора.
**1066 г.** Захоп полацкім князем Усяславам Брачыславічам Ноўгарада.
**1067 г.** Першыя летапісныя звесткі пра гарады Менск (Меньск, Менеск) і Оршу (Рьша).
**1067 г.** Бітва на р. Няміга паміж войскамі паўднёварускіх князёў Яраславічаў і полацкага князя Усяслава Брачыславіча.
**1068—1069 гг.** Княжанне ў Кіеве Усяслава Полацкага.
**1078 г.** Першыя звесткі ў пісьмовых крыніцах пра гарады Лагойск (Лагожск) і Лукомль (Лукамль) (Чашніцкі р-н).
**1078—1086 гг.** Княжанне ў Тураве Яраполка Ізяславіча.
**1097 г.** Першыя летапісныя звесткі пра г. Пінск (Пинеск).
**1100—1150 гг.** Вылучэнне Друцкага, Ізяслаўскага і Лагойскага (Лагожскага) удзельных княстваў з Полацкай зямлі.
**1100 – 1150 гг.** Заснаванне ў Бельчыцах (каля Полацка) Барысаглебскага манастыра.
**1101—1119 гг.** Княжанне ў Менску Глеба Усяславіча.
**1102 г.** Заснаванне г. Барысава (паводле вызначэння В.Тацішчава).
**Каля 1104 – 23 мая 1167 гг.** Жыццё і дзейнасць найпадобнай Ефрасінні Полацкай, ігуменні манастыра св. Спаса ў Полацку, асветніцы старажытных зямель Беларусі.
**1105 г.** Паход кааліцыі паўднёварускіх князёў на Менск.
**1116 г.** Першыя летапісныя звесткі пра г. Слуцк (Случеск).
**1127 г.** Паход кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча на Полацкую зямлю.
**1127 г.** Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гародню (Городень) і Клецк (Клеческ).
**Каля 1130—каля 1182 гг.** Жыццё і творчасць Кірыла Тураўкага, епіскапа, пісьменніка і прамоўцы—дзеяча ўсходнеславянскай культуры.
**1142 г.** Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гомель (Гомій) і Рагачоў.
**1147 г.** Першыя летапісныя звесткі пра г. Брагін (Брягін).
**Каля 1150 г.** Жыццё і дзейнасць Іаана (Івана), полацкага дойліда, выдатнага прадстаўніка полацкай архітэктурнай школы.
**1150—1160 гг.** Будаўніцтва ў Полацку Спаса-Ефрасіннеўскага храма мясцовым дойлідам Іаанам (заказчыца – Ефрасіння).
**1150—1200 гг.** Вылучэнне Віцебскага ўдзельнага княства з Полацкай зямлі.
**1150—1200 гг.** Вылучэнне Пінскага ўдзельнага княства з Тураўскага княства.
**1150—1200 гг.** Будаўніцтва ў Гародні Барысаглебскай (Каложскай) царквы.

